# БЫЦЬ НАТАТНІКАМ БОГА

Біблейскае апісанне хаосу лаканічнае і вычарпальнае: «А зямля была нябачная і пустая і цемра над безданню...» Як ні напружвай уяўленне — тае зямлі нябачнай не прымроіш. Бо немагчыма ўявіць пустату, не аплодненую Духам Божым. Першаакт тварэння доўжыўся шэсць дзён, але не закончыўся. Свет і па сёння дастворваецца і дарабляецца. Богам і тымі, каго Усявышні абярэ сабе ў памочнікі.

Паэту даручана працаваць з першаматэрыялам, які быў ад пачатку, — са словам. Са словам шматзначным і ўсеахопным: ягоны грэцкі першапродак Логас утрымлівае ў сабе ажно дваццаць сем паняткаў!

Словы — як алмазы з сотнямі граняў, кожная з якіх выпраменьвае сваё адценне святла. І якім пільнавокім трэба быць, каб падабраць грань да грані! Не памылішся — і ток паэзіі ажывіць паэтычны ружанец. Схібіш — і слоўны ланцужок бязладна забразгаціць; яго штучныя абдымкі не сагрэюць ні душы, ні запясця.

Бог і Паэт — сутворцы, дэміургі, якія з хаатычнага твораць уладкаванае. Абодва яны паводле прызвання — ворагі той цемры над безданню, якая неўявімая, бо імя ёй — Нішто.

Не дзіва, што Паэт раней ці пазней адчувае патрэбу перамовіцца з Богам, параіцца, як вучань з майстрам. Каб атрымаць падказку, пачуць ухвальнае слова, альбо — выслухаць нараканні. Бо хто яшчэ мае права на рэвізію Паэтавага даробку? Толькі Той, Хто распачаў работу.

Ці лёгкае яно — сумоўе Паэта з Богам? На гэтае пытанне існуе многа адказаў. Выберам адзін з іх, занатаваны Аляксандрам Пушкіным у апавяданні «Егіпецкія ночы». (Дарэчы, пушкіністы мяркуюць, што герой апавядання Імправізатар спісаны з Адама Міцкевіча, які сапраўды сваімі паэтычнымі імправізацыямі — засталіся сведчанні відавочцаў — уразіў шматлікія пецярбургскія салоны). Вось яно, пушкінскае апісанне: «І тут ён адчуў набліжэнне Бога... Твар ягоны страшэнна пабляднеў, ён затрымцеў, нібы ў ліхаманцы; вочы яго заблішчалі дзіўным агнём; ён прыўзняў рукою чорныя свае валасы, выцер хусцінкай высокі лоб, што пакрыўся кроплямі поту...»

Не верце тым, хто трактуе паэтычнае рамяство як гульню словаў. Ад гэтай «гульні» знемагаюць не раўнуючы як на лесапавале. Вытрымліваць падобнае могуць толькі моцныя духам. Слабых, як правіла, чакае трагічны фінал.

Па якой спецсувязі сумаўляецца Бог з Паэтам? Гэтага нам ведаць не дадзена. Гэта іхняя таямніца. Можна толькі здагадвацца, што перагаворваюцца яны беспасярэдне, і ніхто не можа падслухаць іхняй размовы. Бо хвалі прыёму-перадачы па тым бяздротавым тэлеграфе вядомыя толькі таму, хто гаворыць, і таму, хто слухае.

Рыгор Барадулін стварае свой паэтычны космас з настойлівасцю Усявышняга, які шэсць дзён не ведаў адпачынку і толькі на сёмы,

пусціўшы на белы свет чалавека, дазволіў сабе перавесці дух. Космас Барадуліна — гэта і біясфера, дзе ўсё жывое мае свой голас, і стратасфера, дзе дух займае ад галавакружнай вышыні. «Зямля — парушынка ў Госпаднім воку». Такое з птушынага палёту не ўбачыш. Тут патрэбныя іншыя вышыні і міжгалактычны маштаб.

У паэзіі Барадуліна ёсць усё. Гэта універсум, якому дасць рады хіба цэлы атрад акадэмікаў ад літаратуры. Чаго паэт шчасліва пазбегнуў, дык гэта бязбожжа. Ужо ў першай сваёй кнізе «Маладзік над стэпам» (1959) ён апісвае саляную шахту ў Польшчы, дзе пабачыў незвычайны, з солі, абраз Хрыста. І гэта ў час ваяўнічага атэізму, калі паторгаць Бога за бараду ў паэтаў лічылася ледзь не модай.

У адной царкоўна-славянскай рукапіснай кнізе 1076 года ўтрымліваўся наказ: «Глаголи Богу много, а человеку мало». Ледзь не тысячу гадоў прайшло, а названы прыярытэт застаецца ў сіле. Бога паэт слухае, да Бога і прамаўляе. Дыялог Барадуліна з Усявышнім працягваецца ўжо больш за паўстагоддзе. Назвамі зборнікаў паэт падкрэсліваў сваю далучанасць да высокай тэмы: «Адам і Ева», «Самота паломніцтва», «Евангелле ад Мамы», «Ксты», «Руны Перуновы»...

Архімеду, каб зрушыць шар зямны, патрабавалася кропка апоры. Паэт у сваёй планетарнай працы выкарыстоўвае рычаг метафізічны, які знайшоўся ў гаспадарцы Бога. Узважаныя на тым Божым бязмене рэчы набываюць іншую вагу. «Душа — адзіны храм, дзе Бог жыве. Саборы ды бажніцы — дамавіны». «Ізноў жывыя нада мной, Як думкі Госпада, аблокі». «Белую аблачынку вішні, Здаецца, выдыхнуў Усявышні».

На пачатку новага стагоддзя адначасова пісаліся «Ксты» і «Руны Перуновы». У Гефсіманскім садзе — паганскае капішча. І гэта не аксюмаран. Хрысціянства і язычніцтва ў нашым жыцці паядналіся, злучыліся, як кнот са свечкай. Нездарма Рыгор Барадулін саманазваўся кшчоным паганцам. Бо з гледзішча вечнасці істотныя і дахрысціянскі досвед чалавецтва, і вопыт, назапашаны за апошнія два тысячагоддзі. І марудны хронас паводле календара друідаў, і імклівы бег часу ад мяжы, пазначанай Anno Domini.

Своеасаблівым злучвом паміж двума стагоддзямі — XX і XXI — стала паэтава кніга «Ксты» (першае выданне выйшла ў 2005 годзе). Сучасны чытач любіць дакладныя словы. Таму, пакруціўшы і так, і гэтак малаўцямныя «Ксты», з палёгкай прычэпіць да яго прыстаўку тэ-. Тэ-ксты. Але і ў гэткім варыянце слова не адрачэцца ад сваёй боскай семантыкі і перакінецца ў тэа-ксты. Божыя ксты. Бо, як і логас, слова «ксты» шматзначнае. Гэта і крыжы, і складзеныя для хрышчэння пальцы, і сам хрост як абрад. А яшчэ так называецца вёска пад Полацкам, якому Барадулін вызначыў быць цемем Беларусі. Гэта значыць — цяміць, кеміць у тым, у чым другім цяжка разабрацца.

Дэміургавасць Барадуліна праяўляецца не толькі ў пераадоленні хаатычнага. Тут яму працуецца лягчэй, паколькі — на пару з Богам. Але на зямлі тысячы народаў, і кожны з іх прагне ўвагі Усявышняга. Як на ўсіх часу дабраць? І Бог даварае датвараць народы паэтам. У беларускай сітуацыі давяраў Багушэвічу. Давяраў Багдановічу. Цяпер даверыў

Барадуліну. Але пад беларускі компас хцівы сусед падклаў жалезную сякеру, і збіліся ўсе азімуты. Пакуль народ няспешна выходзіць са стану духоўнай анамаліі, паэт ужо засяродзіўся над сваім ганчарным кругам. Затрымка пакуль у адным: «Як асмялець папрасіць у Госпада гліну, Каб вылепіць з яе задуманую Айчыну?..»

Айчына Барадуліна — Мова. Тут ён паўнапраўны гаспадар. Чытаеш барадулінскую паэзію, і рука сама цягнецца да асадкі, каб выпісаць прыдуманыя паэтам словы. Дужасіл. Шчалугá. Хмарабровасць. Сонцакрылы жаўранак. Прыхмарваць страх. Небаўзносіцца хвалой...

Зайздрошчу тым лексікографам, якія калі-небудзь складуць слоўнік Рыгора Барадуліна. Яны спрычыняцца да свята мовы, якога раней мы не ведалі.

Шэкспір у сваіх творах ужыў 20 000 слоў. Леў Талстой у «Вайне і міры» — 19 000. А найпаўнейшыя слоўнікі-тэзаўрусы моваў з тысячагадовай пісьмовай традыцыяй налічваюць да паўмільёна словаў. Што й казаць, ашчадна абыходзіліся са словам англійскі і расійскі класікі. Рыгору Барадуліну не хапае беларускага сучаснага слоўніка з яго статысячнай слоўнай кагортай. У адной «Песні над песнямі Саламонавай», перастворанай ім па-беларуску, я налічыў 68 наватвораў, не зафіксаваных у айчынных словазборах!

Шкада, але менавіта гэты феномен Барадуліна адпалохвае перакладчыкаў. Уяўляю творчыя пакуты Веры Рыч, якая перастварала яго вершы па-англійску. Як раз-пораз кансультаваўся з паэтам Карлас Шэрман, спрабуючы перадаць па-іспанску ягоныя арыгінальныя вобразы. Як падшуквалі адпаведнікі барадулінскім неалагізмам балгарын Найдан Вылчаў ці варшаўскі беларус Чэслаў Сэнюх... Нізкі ім паклон. Але, пацікавіўшыся, як гучыць барадулінскі верш на даступных мне мовах — па-польску, па-расійску, па-ўкраінску — мушу з жалем канстатаваць: Барадулін не перакладны. На іншых мовах знікае чароўны барадулінскі гукапіс, прападаюць арыгінальныя рыфмы, блякнуць вобразы.

Кніга «Ксты» неўзабаве пасля свайго з'яўлення на свет была намінаваная на Нобелеўскую прэмію. І яна яе, магчыма, атрымала б. Пры адной умове — калі б шведскія акадэмікі чыталі па-беларуску...

Усё вышэйсказанае не азначае, што геній Барадуліна — з'ява выключна беларуская, якою не выпадае падзяліцца з усім астатнім чалавецтвам. Дзяліцца якраз неабходна. Бо радасць — не радасць, калі ты радуешся сам-насам на сваім хутары.

Дарэчы, сам Барадулін як перакладчык — яшчэ адзін феномен, які не мае аналагаў у беларускай літаратуры. Сядаючы за гэтыя нататкі, я адмыслова падлічыў — ён перакладаў з 37 (!) моваў. Што цікава, усе без выключэння паэты — і вечнанатхнёныя сярэднеазіяцкія акыны, і лужыцкія будзіцелі, і шматлікія братнія баяны і баснікі — з-пад пяра Барадуліна лёгка ставалі на крыло, шчодра апераныя часам падазрона не ўласцівымі ім метафарамі. Ніводнага паэта перакладчык не пакінуў у бязвобразных рызманах, апрануў, як мог.

Збеларушаны Барадуліным-перакладчыкам паэтычны абсяг велічэзны — ад летапіснага «Слова пра паход Ігаравы» да гуллівых латышскіх дайнаў. Адзін пералік паэтаў заняў бы пару старонак. Але адну акалічнасць не хацелася б пакінуць па-за ўвагай. З асаблівай прыхільнасцю Барадулін перакладае прадстаўнікоў пакрыўджаных народаў, з кім гісторыя абышлася дый працягвае абыходзіцца не дужа літасціва, — сербалужыцкіх, чачэнскіх, талышскіх паэтаў (талышы — народ, які жыве ў Азербайджане). «Няма народаў малых, бываюць малыя паэты». І ў гэтым таксама шчодрасць душы і грамадзянская пазіцыя Рыгора Барадуліна.

У егіпецкіх пірамідах пры саркафагах стаялі залатыя слязніцы — для слёз жалобы па памерлых фараонах.

Беларуская паэзія да нядаўняга часу нагадвала такую слязніцу — столькі ў ёй чулася песняў жальбы!.. Дух смерці Танатас гаспадарыў на нашых паэтычных курганах, дзьмуў у нашыя дудкі беларускія ды жалейкі. Дзякаваць Богу, тое мінулася, і мастацтва наша нарэшце дайшло да разумення: нацыя толькі тады жыццястойкая, калі ў яе эрас пераважае над танатасам. Што навідавоку ў паэзіі Рыгора Барадуліна. Яе вітаізм — зарука таго, што беларусы застануцца доўгажыхарамі на планеце Зямля.

Увогуле, я перакананы: Барадулін рана ці позна стане культурным брэндам Беларусі. Як зубр, дзякуючы славутай «Carmen de bisontis» Міколы Гусоўскага, стаў сімвалам беларускай сілы і велічы. Урэшце, у гэтым мне бачыцца і пэўная гістарычная справядлівасць. Калі на Месяц першымі высадзіліся амерыканцы, калі паперу вынайшлі кітайцы, калі электрычнасць адкрылі французы, калі табліцу хімічных элементаў прыдумалі расійцы... то чаму беларусы не могуць здзівіць свет найадметнейшым паэтычным геніем?! Яшчэ як могуць. Энергетыка барадулінскага верша здольная абудзіць старую анемічную Еўропу, закалыханую верлібрам. Зрэшты, Еўропа і сама спрасоння пацягнулася да сілабатанічнай паэзіі — да прыкладу, у Італіі ізноў уваходзяць у моду санеты ў духу Петраркі.

Гарманічнае жыццё народа немагчымае без сацыяльнага прызнання паэзіі. У вагонах пражскага метро на відным месцы развешаныя вершы Яраслава Сайфэрта. Па Вільні ездзяць тралейбусы з партрэтам Крысціёніса Данелайціса. У Варшаве паэтычныя фестывалі праходзяць у колішняй каралеўскай рэзідэнцыі ў Лазенках. Менску пакуль што няма чым пахваліцца. Беларускія паэты часцей выступаюць у дольных залах касцёлаў. Пайшлі ў падзямеллі, як першахрысціяне ў каменяломні.

У мудра-празорлівага Алеся Адамовіча ў дзённікавых запісах мне сустрэлася нечаканая думка: «Добра быць нататнікам Бога».

Паэзія Рыгора Барадуліна і ўяўляецца мне тым нататнікам, куды Усявышні час ад часу надыктоўвае народжаныя на нябёсах радкі.

*Міхась Скобла*

## ПЕРШЫ СНЕГ

У абшары навакольным
Над папарам, лугам, полем
Снег тчэ мяккі змрок.
Кожную сняжынку тую
Кружыць, туліць і цалуе
Весялун-вятрок.

Дрэвы ў футры і карункі —
Шчодрыя зімы дарункі
Ахінаюць стан.
Галавой кіўнуў гулліва
Вяз таполі сарамлівай,
Маладзейшым стаў.

І абрусам вышываным
Засцілаюцца паляны,
Далягляд і дол.
На вяселле зімкі жвавай
З дзедам грозным і ласкавым,
На багаты стол.

Дзесьці йдуць маладажоны
Сцежкай, пухам вылажонай,
Шчасныя ўдваіх.
Эх, як хараша, ўрачыста,
Як душы парывы чысты
Ў час хвілін такіх!

*1952*

* * *

Чуйна спіць ваколле.
Поўнач
Долы абняла.
Поўня лье з даёнкі поўнай
Малако святла...

*1954*

## ПАСТУХ

За дзень набегаецца да знямогі,
Як загізуе статак — упасі!
І ўвечары ісці не хочуць ногі,
Хоць іх бяры на плечы
Ды нясі.

Сынок маленькі конаўку затое
Аберуч ледзь падыме,
Ягамосць,
З шыпучай пенай вып’е сырадою,
Спытае ў маці:
— А ці вусы ёсць?

*1954*

## ЗЯЛЁНЫ МОХ

Уверсе высока-высока
Шумяць векавыя хвоі,
Пад снегам дол зледзянелы, —
Ды ўсё ж ён прабіцца змог:
Рукой яго возьмеш — азяблы,
А пахне зямлёй, вясною
І леташнім лісцем прэлым
Зялёны-зялёны мох.

Далёка струной парванай
Піньпінькне зрэдчас сініца,
Крумкач праплыве ўрачыста —

Зусім пад вясну ахрып.
Наводзіць жаўрук жалейку.
А моху скалеламу сніцца:
Прасунуўся раннем імжыстым
Упарта-лабаты грыб.

Маланка спрабуе арэхі.
Рассыпаным жарам — брусніцы.
На сонца вужы выпаўзаюць
Набраць на зіму цяпла.
На мяккіх ірховых лапах
Падкрадваецца лісіца,
Нервова падскоквае заяц,
Вавёрка сочыць з дупла...

А стане ваколле зялёнае —
Не ўспомняць,
Хто зяб зімою,
Шаптаў праз снягі пра лета
У хвояў узнёслых ля ног,
Зямлю ратаваў ад марозу...
З кашолкамі прыйдуць гурмою
І смела наступяць на гэты
Зялёны-зялёны мох...

*1955*

## НА АЗЯРЫНАХ

Палаюць вогнішчы азёр —
Ад іх агню смялей блакіту.
І вечар — электраманцёр
Нябеснага энергазбыту —
Уключыць зоры.
Будзе ноч
Асакавольтная
Цадзіцца.
І сэрца рушыць басанож,
Дзе пахне раніцай ігліца.

*1955*

* * *

Як захлынуўся ад радасці жаўранак,
Славячы сонца вясновага дня,
Як па куп'і на балотных выжарынах
Мякка хрумсціць пад нагою сушняк;

Як па-над ярам пад ветравым подыхам
Вольха сухая рыпіць і рыпіць,
Як адвячоркам над соннымі водамі
Кнігаўка ўсё не дапросіцца піць, —
Тры гады я не чуў.

Як засінелася возера чыстае,
Бо маладая красуня-вясна,
Каб падсініць хмар касынкі пушыстыя,
Сінькі ў ваду сыпанула спаўна;

Як палахлівым дзіцём устрывожаным
Хмель каля вольхі абвіўся вакол,
Як у бары, бы маленькія вожыкі,
Шышкі хваёвыя ўсыпалі дол, —
Тры гады я не бачыў.

Як над бруістаю шустраю рэчкаю
Пахнуць лілеі, аер і чарот,
І першацвет далікатны парэчкавы,
І чарназём той, што вывернуў крот, —
Тры гады не ўдыхаў.

Зноўку ступаю знаёмымі сцежкамі,
Босай нагой паўтараю сляды.
Кветкі мне ўслед пазіраюць з усмешкамі,
З тымі ж, з якімі глядзелі тады...

І крапіва маладая стрыкаецца,
Быццам пяшчотны, прыемны ўспамін.
Ем я капусту трыгубую зайцаву,
Гладжу змарожаны ліст журавін.

Ясны блакіт вам, прасторы зялёныя,
Хай жа над вамі з зары да зары
Радасна жаўранкі звоняць натхнёныя,
Сонца гарыць!

*1957*

## УЦЯКАЛА ЗІМА АД ВЯСНЫ

Уцякала зіма ад вясны
Па кустах вербалозаў рагатых,
Ёй каптан абадралі яны,
І на голлі матляецца вата.

Уцякала зіма ад вясны,
Уцякала па рэках, азёрах,
Лёд затрэскаў, закрэктаў, заныў,
Здрадзіў лёд —
                    і вада на прасторы.

Толькі звон крыгалому ачах —
Брод шукаюць бярозы-бяглянкі
І трымаюць на ніцых плячах,
Як дзяцей палахлівых,
                              буслянкі.

А вясна даганяла зіму:
Заяц скочыў у лужу блакіту,
Бо на хвост наступіла яму,
І пралескі распырскаў, раскідаў.

І ўцякала зіма ад вясны,
Пад нагамі ламачча затлела,
Парастрэсла па сцежках лясных
Снег апошні свой
                    з ландышаў белых.

Уцякала зіма ад вясны,
Уцякла…

*1958*

## БАЦЬКУ

Не выйшаў ты і ў гэты раз
Мяне спаткаць, паднесці рэчы...
Ля весніц толькі зноў твой вяз
Крануў галінамі за плечы.

Ты мне не падасі рукі,
Глядзіш удаль з-за шкла партрэта.
Ці бачыш, вырас сын які?
Скажы хоць слова для прывета.

А я... чакаў з усіх дарог
Цябе ў сорак чацвёртым... летам.
Калоны ні адной не мог
Я прапусціць з ахапкам кветак.

Хацелася пачуць: «Сынок...»
І крыкнуць радаснае: «Тата!»
Бацькоўскім быў мне кожны крок...
Усё ішлі, ішлі салдаты...

Каторы раз сыходзіў снег...
Дамоў вярталіся суседзі.
Я кожнаму насустрач бег
І чуў кароткае: «Прыедзе...»

Калі ж у крыўдзе мне сябры
Гразіліся падчас бацькамі,
Тады хацелася наўзрыд
Заплакаць шчырымі слязамі.

Не плакаў я — усім на злосць,
Бо ў хаце быў адзін — мужчына.
Не йшоў ты...
Маці маладосць
Глыбей заворвалі маршчыны.

І зараз — еду я здалёк,
Чакаю ўсё — зайду, а маці
Мне скажа: «Пазнаеш, сынок?
Вось наша ўся сямейка ў хаце...»

Паверыць цяжка мне таму,
Што больш не прыйдзеш ты дадому.
А шапку я заўжды здыму
Перад магілай невядомай...

*1958*

* * *

У верасня — свой, асаблівы пах:
Курыць сівец — плыве дымок гаркавы.
Зямлёю пахне бульба у капцах,
Антонаўкамі — зоры па начах
І туманы — ляжалаю атавай.

А гарбузы пралежалі бакі
І абвіліся павучынай пражай.
Здавалася — за хмарай хлапчукі
Разрэзалі гарбуз на два кускі
І ўночы Млечны Шлях
на семкі пражуць.

Радоўку адбываць гатоў заўжды.
Ступаеш золкай, колкаю расою —
Дымяцца ўсцяж зялёныя сляды.
Адбілася цялё ад чарады,
А пыса пахне цёплым сырадоем.

У верасня ёсць самы светлы дзень,
Заўсёды ён душу маю трывожыць,
Хоць зноў штаны кароткія надзень
І, гледзячы на свой цыбаты цень,
Пусціся басанож у падарожжа

У край, дзе раніцай салодкі сон,
Дзе ў сумцы агурок, аловак, сцёрка
(А вочы расцвілі, як сіні лён!),
Дзе пяцярнёй махае кожны клён —
Жадае зарабляць адны пяцёркі;

Дзе ў калідоры цяжка сцішыць бег,
Сядзець у класе гэткая нудота.
Ля вокан вераб'і лятуць з-пад стрэх.
І, як у кут паставілі за смех,
Ты дома ўсім паказваеш з ахвотай.

У верасня — свой, асаблівы пах:
Курыць сівец — плыве дымок гаркавы,
Зямлёю пахне бульба у капцах,

Антонаўкамі — зоры па начах
І туманы — ляжалаю атавай.

*1959*

## ТРЭБА ДОМА БЫВАЦЬ ЧАСЦЕЙ

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою не ачарсцвець,
Каб не страціць святое штосьці.

Не забыць, як падвялы аер
На памытай падлозе пахне.
Як у студню цыбаты асвер
Запускае руку да пахі.

Не забыць сцежкі той, што цябе
На дарогу выводзіла з дому,
Што у хаце там быў рубель
У цане і па курсу старому.

Не забыць, як марозам злым
Клямка пальцы пячэ балюча
І адкуль на стале тваім
Бохан свежага хлеба пахучы.

Помніць свой на іржышчы цень,
Не забыць, як завуць суседа,
Не забыць, як пяе пад дзень
За вясёлым сталом бяседа.

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою ты стаў чысцей
І не страціў святое штосьці.

*1960*

## ВЯСНОВАЯ ЗАМАЛЁЎКА НА БЕРАЗЕ ВАЎЧЭНСКАГА ВОЗЕРА

Возера стаіць, не зварухнецца,
Бо агеньчыкам надкручнай хаты
Аж да дна, нібы цвіком, прыбіта —
Каб не ссунулася анікуды.

Быццам купінка з сухой ігліцы,
Недаверлівы спяшае вожык,
Чмыхае лычком сваім кірпатым,
Нюхае — ці не прайшла палёўка?..

Драч на непадмазаных калёсах
Туманы сушыць вязе на тоні.
Кнігаўка (за дзень не дакрычала!),
Як з хвастом ушчэмленым, галосіць.

Пахнуць туманы аернай рыбай.
Точыцца з зямлі адталай мята...
От і ты зайшоўся ў шчырым спеве,
Добры вечар,
салавей знаёмы!

Ты ці помніш пра старога Іцку?
Ён жа ў вёску вёз у бочцы дзёгаць,
Чорт падскочыў,
з бочкі шпунт адторкнуў —
І закапаў на дарогу дзёгаць.

Гэта ж ты яму крычаў з бярозы,
Папярэджваў дзегцяра старога:
— Іцак, Іцак!
Дзёгаць выцек —
Кап, кап,
Ццюрр-руру!..

Выбеглі ў сяле суседзі нашы
З вёдрамі — Максіміха, Казліха,
Ну а ў Іцкі — ані кроплі дзёгцю.
Як жа мне шкада было старога.

Дзякуй за ўспамін табе, залётны!..

*1961*

## МАТЫЛЁК

Б’ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.

*Максім Багдановіч*

Лілею
млявы
плёс
люляе,
З-пад злежаных
аблок
здалёк
Ляціць, віхлясты і бялявы,
Пялёстак лёгкі —
матылёк.

Ён кліча у блакіт лілею,
Каб не любіла
больш
да слёз
Бліскучы ад лускі і глею,
Самлелы,
абмялелы
плёс,

Дзе лашчыць цёплай ласкай хваля
Лінёў — злянелых цельпукоў,
Паблісквае
няблізка
далеч,
Дзе ў іле
не злічыць малькоў,
Дзе глыб
угнеўлена шыпела,
Калі
на хвалі
лівень
лёг...
Засумавалы,
белы,
белы

Ляціць удалеч
матылёк...

*1961*

## ПАЛЯЦЬ БУЛЬБОЎНІК

Калі разыходзяцца
лета з восенню палюбоўна,
а бульбянішча на зіму
яшчэ не пераворана,
зграбаюць у кучы, паляць бульбоўнік.
Іскры лятуць і блякнуць
патухлымі зорамі.
Дым спачатку рвецца ўгару,
ды перадумвае неўзабаве, —
мабыць, лагчынай
прайсці захацелася.
Барана, што ляжыць дагары зубамі,
як вожык той,
абчаплялася
лісцем зжаўцелым.
Сланечнік галаву цяжкую
праз частакол прасунуў,
грэецца —
холад даймае патрошку.
Лятуць журавы над Ушачай
з курлыканнем сумным,
ляціць наўздагон ім
ціхае:
«Пуцём-дарожкай!»
На возе едзе мох баравы,
запалы лістам, ігліцай,
дым следам ідзе,
і конь галавою матляе стомлена.
З раніцы хмурыцца, хмарыцца,
пад вечар — імгліцца.
Журавель над студняй прыгнуўся —
нізка пад восеньскай столлю.
Я гэты ціхі дым
на смак

і навобмацак
ведаю,
яго я ні з чым не паблытаю,
любой парою,
дзе б ні быў, адусюль
па ім, як ганчак па следу,
дарогу дадому знайду, да матчынага парога.

*1961*

## ПАМЫТАЯ ПАДЛОГА

Толькі што памытая падлога
Пачынае пахнуць борам густа.
Зноў, здаецца, слухаеш падоўгу,
Як звіняць галін сасновых гуслі.

Млосна ад малін у расцяробах.
Дзяцел грукне ў цішыні чмялінай.
Выцірайце ногі.
Асцярожна!
Вы ступаеце па вершалінах!..

*1961*

* * *

Драч крычыць у густым тумане,
Быццам хто яго, дурня, рэжа.
Я прыслухаўся —
праз мяне
Прарасла Белавежа.
Аплялі мяне карані —
Працавітыя вязні зямныя.
Ты галіну адну крані —
Пушча ўся
ува мне заные.
Мне зязюлі не злічаць вякоў,
Дзяцел грукае — мне у грудзі.
А вятры, карагодам, вакол
Ходзяць-ходзяць

і сон мой будзяць.
Быстрай ластаўкай,
як стралой,
Ў мяне вырай далёкі стрэліць, —
Сонца
з песняй зялёнай, старой
Узніму на зялёных арэлях.
У крыніцах крутых завару
Хмель вясновы з зялёнай пенай.
Пад вірамі нямых завірух
Ува мне
навальніцы спеюць.

*1962*

* * *

Мохам зязюльчыным
ідуць маладзіцы,
губы засмяглыя
ў спелых суніцах —
на сонцы ягады
спакойна вымлелі.
Холадам ногі
рачулка вымыла.
Ляціць
над звонкімі баравінамі
песня
дзяўчынанькаю
нявіннаю:
— А я ў бару
Грыбы бяру,
Каля межы —
Сураежы!..

Ах, кладка зыбкая,
рачулка мелкая!
Адкуль жа вымкнула
усмешка смелая:

— Кавалішанька,
Мая вішанька,

Не кажы ты кавалю,
Што я цябе павалю.
— А хоць на мяжы
Палажы,
Толькі майму кавалю
Не кажы!

На мох паваляцца
на сцежцы вузкай,
думкі,
што саладзей за вусны...
Як тут гукаецца,
ды ўжо змяркаецца...
Туга удоўя дамоў вяртаецца.

*1962*

* * *

*Міколу Прашковічу*

«На Беларусі
Пчолы, як гусі», —
Прыгадваў зямляк
у выраі.
Зоры спелі,
зоры гаслі,
Мох зязюльчын
рос на вываратнях.
«Ем сырую зайчыну,
Ды люблю Айчыну!» —
Прысягаў паўстанец
нябёсам.
Дзверы
дню маладому
расчынены —
Расой ішла песня босая:
«Я здыму парчу,
Ножкі абвярчу...
Песню азяблую
Сагрэць хачу...»
Торкнецца ў крыгу
лыч карасіны,

Сонную роўнядзь успеніць.
Згару я
на вейцы тваёй
расінкай,
Беларусь —
мая мова
і песня.

*1962*

## ЛОДКІ

*Міхасю Стральцову*

Прыбіўшы да берага
чарот патрушчаны,
Засынае возера,
ад сіверу сіняе.
Стамлёна дыхаюць хвалі,
як грузчыкі, —
На плячах
гарачае сонца
насілі.
Нерастуюць ільдзінкі
халоднымі плоткамі,
Азябламу поўдню
ў хмарах не ўгрэцца.
З возера пад паветку
плывуць на калёсах лодкі,
Як даўна іх сёстры далёкія
«з вараг у грэкі».
Азалелую песню
зацягнулі вятры-музыкі.
А заплывалі ж лодкі
за далягляд невядомы.
Зараз плысці ім
па возеры нецярпення зыбкім
Ад берага ледаставу
да берага крыгалому...

*1963*

## МАЯ МОВА

Сцвярджаюць гісторыкі і мовазнаўцы,
Што паступова сціраюцца грані нацый
І, нібыта як перажытак,
аджыць павінна абавязкова
Мова маці маёй — беларуская мова,
Што мне, як імя ўласнае, блізкая і знаёмая,
Што па жылах маіх цячэ
і сонным Сажом і Нёманам.
Я чакаю часіну сябрыны людской,
Але не згаджуся, што родныя мовы луской
Былі на рыбіне чалавецтва,
Якая ў вечнасць плыве акіянам вечнасці.
Галеюць увосень гаі-касмачы,
Па вясне расціскаюць лісты
Свае кулачкі маладыя.
І калі нават мова мая замаўчыць,
То не зробіцца мёртвай латынню.
Словы, дзе кожны гук
Азяблай сінічкай ціньокае,
Не стануць тэрмінамі медыцынскімі.
Гэтыя словы
Павінны вывучыць будуць нанова,
Каб даведацца,
Як Русь мая, белая
Ад веснавое наквецi
І ад касцей няпрошанай набрыдзі,
Вольнай воляй сваёй даражыла,
Як з братамі і сёстрамі
Шчыра дружыла.
Калі мова мая
Уліецца ў агульны людскі акіян, —
Пацячэ ў ім, стрыманая,
Цёплым Гальфстрымам.
І будзе мне сэрца грэць
Кожным ашчаджаным словам,
Бо як жыта, спрадвечная
Беларуская мова!

*1963*

## РУМ

Асабіста мне падабаецца зборнік лірыкі — рум,
дзе пахнуць смалой і марозам радкі сасновыя.
Крумкач аблянелы для рыфмы кідае зычна лясное — «крум».
Паміж радкамі лясныя сны, як малыя, сноўдаюцца.

Паляўцы — тых вёсак, дзе лесу няма, жыхары —
да лесаўцоў абозам скрыпучым едуць на пастаянку.
У бары ад піл і сякер перагрэтых прыкурваюць кастры —
тут ствалы радкоў падганяюцца да класічнага ямба.

Перуноў крыгалому цярпліва чакаюць радкі.
Нарэшце ў слупкі плытоў збіваюць іх плытагоны.
Каб напісацца хутчэй на развінутым рулоне ракі,
адзін аднаго абганяючы, з падскокам імчацца з адхону.

І звонкія вершы плывуць па быстры на прастор.
Аб іх арыгінальнасці можаце ў мяне даведацца.
Для перайманні трэба не многа —
гумовыя боты і доўгі багор,
колькі трэба радкоў, падчапляй
і валачы ў часопіс ці ў выдавецтва, —
навяжуць плытоў...

*1963*

* * *

Яшчэ гетэры старажытнай Грэцыі,
З начнога промыслу прыйшоўшы ўранні,
Хацелі ціхай калыханкай грэцца,
Хоць трошкі хатняга хацелі раю.

О мацярынства мацярык нязнаны:
Як ні гукай — ніхто не адгукнецца.
Яго заўсёды адкрываюць занава,
Калі пад сэрцам нешта зварухнецца.

А ў сэрцы страх і слодыч тлеюць вугалем,
Усходзіцца пажар з малой іскрынкі.
У млоснасці саскі цяжэюць смуглыя,
Гатовыя пупышкамі раскрыцца.

І зацвілі пралескі вачанят,
Зазелянела лісце ручанят...

О мацярынства мацярык нязнаны.
Яго заўсёды адкрываюць занава.

*1963*

## ДЗЯТЛІНКА

*Уладзіміру Караткевічу*

Дасвецце займаецца ціхае.
На лістах раса халодае,
Узбегла на ўзмежак,
                                        задыхалася
Дзятлінка белагаловая —

Пляменніца дзятла белагрудага,
Унучка завеі ўскудлачанай.
Сукню, што зелянеецца рутаю,
З канюшынай купіла ў складчыну.

Ля дзяўчынанькі шчырэюць з раніцы
Чмялі —
                    сваты басавітыя.
Адвячоркам туман стараецца
Ногі ухутаць світкаю...

Навальніца прасторы вымые —
І дзятлінка зноўку клявае.
На чужыне асветліць сны мае
Сваёй галавой бяляваю.

Дзятлінка снежнарутая,
Як сляза па Радзіме,
                                        чыстая...
Таксама і Беларусь мая
На ўзмежках цвіла
                                        і выстаяла.

*1964*

## ІШЛА НАД ЦІХІМ ЛЕСАМ ПОЎНЯ...

Ішла над ціхім лесам поўня,
Расы чакалі верасы,
Пад вербамі ў нагрэтым чоўне
Дзяўчына мыла валасы.

Яшчэ худзенькімі рукамі
Вязала, мокрыя, вузлом,
Усмешка па вадзе блукала,
Хмурынкі возера вязло.

Прасілася у косы стрыжка,
Шаптала з берагам карма,
А косак не хапала крышку,
Каб дзве лілеі утрымаць.

Ледзь-ледзь хавалі зайздрасць хвалі,
Аж закіпалі у трысці,
Мяне і човен падмывалі
Далёка з юнай заплысці.

*1964*

## КАШУЛЯ ПАЎЛЮКА ТРУСА

Чырвоныя ружы,
Чорнае лісце...
Няўжо гэта праўда:
«Насіў калісьці...»?

Як туман на дасвецці, святлее кашуля, —
Здаецца, мурог з Паўлюком кашу я.
Расхрыстаныя, ступаем поплавам,
Нам фыркаюць ветры храпамі цёплымі...
……………………………………………..
Маці кужаль прала пры лучыне,
На расе маёвай палатно бяліла.
Паўлюка чакала,
Дні лічыла,
Сустракаць выходзіла ў даліну.

А пасліся ветры буйныя ў зялёнай,
Балаболкай рэха білася на шыях.
«Зазвіні, сыночак, жаўранкам залётным!»
Маці ўпрыхваткі касаваротку шыла.
……………………………………..
Песню родную гукала чарнабрыўка,
Па далёкім сумавала доме,
Адгукалася з дняпроўскага абрыву:
— Ой, не свяці, месячэньку,
Не свяці нікому...

І кашулю вышывала рупна
Чарнабрыўка ў інтэрнаце вечарамі.
І, як сонца,
Ёй заходзіла на рукі
Галава паэта кучаравая...

Чорнае лісце,
Чырвоныя ружы —
Крумкач жалобы
Над радасцю кружыць...

*1964*

## АДАМ І ЕВА

*

Пакуль далёка спіць залева
І сопкі песцяцца ў смузе,
Яны ўдваіх,
                    Адам і Ева,
Капаюць бульбу
                              у тайзе.
Конь пасвіцца,
                         бялее грыва
З перастаялае травы.
Спрадвечны сум апаў тужліва —
Лятуць у вырай журавы.
Услед махаюць крыллем кволым
Кусты, лімонніцы, чмялі.
Спрадвечных дрэў
                         спрадвечны кворум,

Спакой спрадвечны на зямлі.
На момант сэрца ён асіліць,
І здасца, што няма трывог,
Што з недалёкай Хірасімы
Не паскубуць вятры мурог,
А толькі ціхія павевы
Хвалююць ільмакі ў тузе.
Яны ўдваіх,
                    Адам і Ева,
Капаюць бульбу
                            у тайзе.

*

Сюды ў дажджы, ў мароз сіберны
Аратаі і кавалі
З-пад Вільні,
                       з Віцебскай губерні
Гадамі
           землякі брылі.
Над імі выраі ляцелі
Дамоў,
           да веснавых грамоў,
І хмаркі плавалі, як цені
Дымоў
           з астылых каміноў.
Ад роднага стала,
                            ад бульбы
Дарогі розныя вялі:
Адных — даўгі рубель і булкі
Завабілі на край зямлі.
Тых — залатая ліхаманка
Занесла ў непралазь пургі.
Не горача пад лахманамі
Было ад вогнішчаў тайгі.
Ну а каму сабалі пасвіць
Давер'е аказаў урад.
Лёс —
           конь натурлівы —
                                      да шчасця
Не вёз:
           быў час, як канакрад.

*

А раніцай туман над сопкай —
Густая пара над катлом:
Знаёма пахла
бульбай сопкай,
Сялом,
пакінутым жытлом.
Там на страсе пяе салома,
Як чарацінка ў крыгаход.
І песня родная, і слова
Былі раднейшыя штогод.
Вякі...
Прыморскія размахі...
Забыўся чорны хлеб,
але,
Як незабыўныя прысмакі,
Гасціла бульба на стале.
І зазімкам,
калі на тоні
Ішло дасвецце ў туманах,
Яна згрубелыя далоні
Кабетам халадзіла ў снах.
Хаціны,
што ў лясных паветах
Замёў каторы ліставей, —
На шчодрай далані планеты
Былі ад бульбінак драбней...

*

Не хвалімся часінай тою,
Калі яе —
усім на страх —
Палілі з прастатой святою,
Як ерэтычку,
на кастрах.
Ды ў прыску бульбу ўгледзеў продак,
Калі карчы зглыдаў агонь,
І, нібы ўзважваў самародак,
З далоні кідаў на далонь.

Яна —
не майце бульбу ўлегцы —
З усімі стравамі на «ты».
Гурок, каб з ёю поплеч легчы,
Дае нырца ў расол круты.
І смагне селядзец у лёку,
І ў лютай пары млее кроп.
Яна сюды прыйшла здалёку —
У баразне
па трыццаць коп...
Дыміся бульбай,
край маленства.
Яе стварала спакваля
Па вобразу і падабенству
Свайму
карміцелька-зямля.

*

Крычу на ўсё Прымор'е:
— Бульба!
Прымі паклон ад земляка.
Расці,
з гарачых снежак гурба,
Што маці сыпле з саганка.
Ні дождж,
ні град цябе не песціць,
Надзейны хлеб маёй зямлі.
Не грэбвалі табой і песняй —
З сабою землякі ўзялі.
А покуль недзе спіць залева,
Тайфун вятры ў мяхах вязе, —
Яны ўдваіх,
Адам і Ева,
Капаюць бульбу у тайзе.

*1965*

* * *

Ад
    «не трэба, не трэба»
Да
    «святло патушы»,
Як да сёмага неба,
Як да шчырай душы,
Як ад бліску маланкі
Да аблыжных грымот...
З верасовай палянкі
Хмеліць вераснем мёд.
Ліўнем стомленым стыну
На захмарнай градзе...
Прага
        смаглай пустыні,
Спёка
        спелых грудзей.
Толькі змроку густога
Захмялелы мурог,
Толькі
        светлая стома,
Толькі
        месячка рог...
Ціха досвітак глянуў, —
Стой,
      імгненне,
                замры!
Не спяшайся,
             бяглянка,
Мы адны на зямлі.
Можа, дзень пачакае,
Маладзік, пасвяці...
Ноч бывае такая
Толькі раз у жыцці...
Знелюбелы, нямілы
Дзень з-за мора ўстае.
Мне б вякоў не хапіла
Слухаць вочы твае...

*1965*

* * *

Калі б усе вятры Беларусі
Курган намяталі, —
Ён быў бы пылінкай
Ля падножжа захмарнай вяршыні
Славы Тваёй;

Калі б усе гаі Беларусі
Хацелі сцяжыны ўслаць,
Дзе ногі Твае ступалі, —
У іх бы лістоў не хапіла;

Калі б усе навальніцы плакалі, —
Іхнія слёзы
Былі б драбнюткай расінкай
На вейцы тугі па Табе,
Іван Дамінікавіч,
Дзядзька Янка,
Купала...

*1966*

## ВУШАЦКІ ПРЫЗІМАК

Возера
Сярпом маладога лядку
Дажынае апошнія травы.
Бярозы, надсмакаваныя туманом,
Шурпацяцца неўзнаку.
Човен,
Зачэплены за сук каравы,
Глыбіню ўхаладзелую чуе дном...

*1966*

* * *

Чаканы міг спакою.
І — паварот ключа.
Світае у пакоі
Ад смуглага пляча.

Трывожнага дыхання
Трывожны сухавей,
Трывожныя ў тумане
Пагляды ласкавей...

Прачнулася світанне —
Пакінулі пакой
Пачэснымі сватамі
І цішыня й спакой.

Прыцішаныя крокі.
І — паварот ключа.
Нырае ў сон таропка
Маладзічок пляча...

*1966*

* * *

Паказала гай малады
І не хочаш мне адгукацца.
Як па першапутку сляды,
Па паляне лісты акацый.
Па паляне ходзяць лісты,
Па паляне ступае трывога.
Мы ўтраіх —
восень,
я і ты.
Пачакае да заўтра дарога!

Неспакойны заход ачах.
Не ад вечара стала золка.
Зазвінелі ў тваіх вачах
Цені дрэў і нясмелая зорка.

Ці не блізкія ўчуў халады,
Што пачаў маладзік заікацца.

І дрыжаць над намі сляды
Ацалелых лістоў акацый.

Хай за Донам шумяць лясы.
Дзелім мы свой жаданы сорам.
...Пахлі вечарам валасы,
І падміргвалі грудзі зорам...

*1967*

* * *

> Мая Радзіма — гэта там,
> дзе праплываюць самыя
> прыгожыя аблокі.
>
> *Жуль Рэнар*

З-пад нахмураных броваў
даспелага жыта
палыхае блакіт азёр.
Край прыветлівы,
сэрцамі продкаў абжыты,
зноў спазніўся —
прымаю дакор.
Васільковы спакой.
Смутак верасу сіні.
Палыновая памяць тугі.
Без мяне на лугах мурагі пакасілі.
Без мяне стагавалі стагі.
Без мяне да Пятра
венікаў навязалі —
узялі зялёны аброк
з бяроз.
Адгуло,
адплыло маё лета вазамі —
звонкарэхае, я не збярог.
Партызанскага бору
распагоджаны вырыс.
Нізка дзікія гусі ляцяць.
Толькі дзіву даешся, —
калі гэта вырас
з камізэлькі сваёй бацян.

Засынае аер,
шлях курыцца далёкі.
Слонку хочацца клікнуць:
— Вуць-вуць!..
Нават страшна дыхнуць —
маладыя аблокі
над Ушаччынай ціха плывуць.

*1968*

* * *

Ад сівых гадоў,
ад дзядоў
Для мяне
ашчаджона спадчына:
Песні жніўнай
смутак удоў,
Мох зязюльчын,
гняздо курапатчына;

Сіні верас
і сіні дым,
Зоркі першай
драбнюткая мачына,
Яры хмель
над ярам крутым,
Галубіная мова матчына.

Не згублю яе
ў тлуме дарог,
Дзе маторам
вясёла грукочацца,
Боязна мне
ступаць на мурог —
Прытуліцца шчакою хочацца.

Хай мяне
блаславяць у нябыт,
Як свайго шалапутнага хрэсніка,
І яго Яснавокасць
блакіт,

І яе Ласкавасць
                     бярэзінка.

*1968*

* * *

Аплакалі вырай совы
Пад Полацкам,
Знаеш, Падуя,
Узлеску ў прыпол верасовы
Ліст пералжоўклы падае.

Раздолле туроваму рыку —
Над змоўклымі нетрамі плавае.
Чаўны благлаўляе ў Рыгу
Сафія залатаглавая.

Даверыцца снегу полаз,
Загурбяцца весяў весніцы, —
У світцы марознай Полацк
Вачыма сінімі весніцца.

Па граю першыя
Тужаць
Праталіны белабрысыя,
Ведаюць гнёзды птушкі,
І рыбы чуюць віры свае.

Да скону сэрца скарыла
Чароту гаворка картавая.
З выраю
Доктар Скарына,
Як драч, дадому вяртаецца...

*1969*

* * *

Радзіма,
Цябе не зламалі навалы.
Ты, гордая,
Моваю гневу назвала, —

Каб помніў чужак,
Каб нашчадак твой ведаў:
Дзядоўнік — татарнікам,
Шашаля —
шведам!..

*1969*

## СВЯТА ПЧАЛЫ

А ластаўкі белымі грудкамі
Высвечваюць рэчку да дна...
...А мне б да цябе пагрукацца...
...А ты ўжо даўно не адна...
Дарэмна я ахкаю, айкаю
У маладой журбе!
Русалка русявая,
Вайкаю
Не мне называць цябе.

...Пагоднела неба спрадвечнае,
Аглухлае ад грымот.
І, нібы бурштын,
Прасвечвала
Праменне іскрысты мёд.

Зялёны мурог —
Настольнікам.
Навошта нам з дубу сталы?
Ваколле на мёдзе настоена:
Сягоння свята пчалы!

Эстонія сонца выслала,
Каб раніца дзень пачала,
Шчырэла пчала прамыслая,
Са святам цябе, пчала!

Тваё незамужняе прозвішча
Забыўся я — так ляпей!
А мужняе — пад пагрозаю...
А слова — не верабей!

Туга двухвясёлкавай лодкаю
Плыве ў дзень,
Наўмысна малы.
Чаму ж ты з гаркотай салодкаю,
Шчымлівае
Свята пчалы?!

*1970*

* * *

Я загнаў цягнікі,
Яны ў стоме рэкі павыпівалі.
Сасмылелі ў аўтобусаў
Чорныя капыты.
Выраі нецярпення майго
Захлынуліся на крутым перавале,
Рэактыўныя птахі…

У якім жа выраі ты?..

*1970*

## РАНІШНІ ВЕРШ

Скрогат марознай раніцы.
Жудасна правадам.
Снегірамі —
Школьнікаў ранцы,
Вісельнікамі —
Сумачкі дам.

Шпілек
Нервовыя кропкі.
Замшы
Халёны спакой.
Цішу працялі крокі.
Сыплецца іней луской.

Позіркі бліснуць сінія,
Быццам з патайніка.

Машыны за ноч заінелі,
Як бровы адстаўніка.

Шыферным дахам —
Ватнік.
Трубы прарванай
Цвярдзее флюс.
На рэгуліроўшчыка
Глядзіць прыватнік,
Як на удава трус.

Рэгуліроўшчык
Носа не вешае.
Фігура,
Што й гаварыць!
Ультрасучаснаю галавешкаю
Жазло накіроўча гарыць.

Апрануты не па сезону
(Таму вось сядзі і дубей!),
Хоча пагрэцца
Каля неону
Апуджаны верабей.

Няма з марозам
У графіка блату.
Думка адна —
Не спазніцца б адно ж...

Дольку лімонную цыферблата
Рэжа стрэлкі секунднай нож...

*1970*

## СТАРЫ САД

Халодных сузор'яў
Позірк сляпы —
У веснавы карагод
Не збягуцца.

У сонным садзе
Трашчаць чарапы
Яблыкаў-самазагубцаў.

Ад зімавею
Хмурыны лахман
Не абароніць
Вырай картавы.

Прыслухайся,
Як белагубы туман
Фыркае на атаву...

*1971*

## ЛЕТА

Брывей сіло
Звяло дзяўчо.
Правей сяло,
Сяло Ваўчо...

Счубацеў хмель.
Сухмень аглух.
Хмялее чмель.
Чмялее луг...

*1972*

## СПЯКОТА

Гром перасмяглы
Нашча
Злуецца на дзень прапашчы:
Хмары
Зноў не ўзялі з азёр ясака.
З пабурэлай расколіны
Мядзведжай пашчы
Вырваўся вадаспад языка...

*1972*

## АДАМУ МІЦКЕВІЧУ

Litwo! Ojczyzno moja! ty jesteś jak zdrowie...
*Adam Mickiewicz*

Паэты нараджаюцца ў карчме,
Каб іх пасля
Аплаквалі саборы.
Выгнанніку
Не ў спіну вецер дзьме, —
Ён носіць край абражаны
З сабою.

Хмар вырай
Свіцязі слязу страсе,
Як пава з песні,
Што праз сад ляцела.
На саркафагу ружы
У расе
Паэту —
Не пыхлівасці злюцелай!

Маўчы, ўсыпальня каралёў...
Вякі
Прыціхлі
Над геральдыкай нямою.
Спытае нехта:
— Быў кароль які,
Калі пісаў паэт:
«Ojczyzno moja...»?

*1973*

* * *

У зажураным садзе
п’юць сінічкі гарбату.
Звоняць лыжачкі
ў ценькія сценкі шклянак.
Зноў адзін пакідаю
матчыну хату,

Ганак самотны,
            журботны ранак.
З утрапёным даверам
                    гляджу навакола:
Серп сагнуўся,
            ржавее пагбаная міска...
Надпіс прыгадваецца
                    на браме касцёла:
«Ціха, Бог блізка...»

*1973*

* * *

Тут яўна быў бы
                    трэцi лішні
І ўсемагутны Усявышні...

А шчодра я сябе растрачваў.
Была раллёю ўдзячнай ты.
І яхкалі
            ў крыві гарачай
Жадання прагныя харты.

Былі яны сабой заняты,
Асцерагаліся радзей —
Даверлівыя птушаняты
Тваіх спалоханых грудзей...

*1974*

* * *

Нам перадаць імкнецца час
Усе свае прыкметы,
Пакуль пад сонцам
Круціць нас
Ганчарны круг планеты.

*1974*

* * *

*Кайсыну Куліеву*

Няма народаў малых —
Бываюць малыя паэты.

Паэт — неспакою слых:
Ён чуе травінкі ўскалых
І грукат сэрца планеты.

Будзь сынам у шчасці й журбе,
Хай шчодрыцца сціплая праца,
Хай зайздрасць душу не шкрабе,
— Народу сплаці, што табе
Дазволіў паэтам назвацца!

Залётнага ветру павеў
Не ўхмарыць крамянага лета.
Скептыка выпалі, гнеў, —
Каб вывучыць мову схацеў
І думаў на мове паэта!

Паэтава ймя нездарма
Край носіць, паэтам апеты.
А песня не носіць ярма.

Народаў малых няма!
Бываюць малыя паэты...

***1974***

* * *

Перунамі жагнаныя абразы —
Перастылі азёры прадонна.
Выспу смутку майго
Ледзяняць маразы:
Маме ў зямлі сцюдзёна...

***1975***

* * *

Я некалі свет з прысве́ткам
Імкнуўся аб'ехаць,
А мама — дома, так быць павінна,
А мама, здавалася, вечнаю будзе.

Прахопліваюся цяпер з пры́светкам,
Каб мясціны выхадзіць пехаць,
Дзе маміны ногі помняць сцяжыны,
Дзе жаўранак сэрца
абрываецца ў перапудзе.

*1975*

* * *

Ластаўка —
Хата матчына,
Мне пад крыло страхі —
З д'яблам,
З анёлам у складчыну! —
Не надтачыць шляхі.

Зорамі не стлумачана:
Толькі — і больш нідзе! —
Ластаўка,
Хата матчына,
Добра ў тваім гняздзе.

Прэч злыбяда пашастае,
Хопіць святла начы, —
Ты аканіцай,
Ластаўка,
У сны мае свіргачы...

*1975*

## ПАПРАСІЛІСЯ ЛІЎНІ Ў ВЕРШ

Сонца спее
    жоўтай лотаццю,
        ад нецярпення
            пупышкі лопнулі.
Порстка раскручваюць
    дубкі над кручамі,
        у лагчынах ляшчынкі
            першыя лісцінкі.
Працуе таропка
    тэлеграф навальнічны:
        працяжнік — кропка.
Маланка!
Клічнік!

Чуеш, у Тураве,
    у Антопалі,
        громам устураныя,
            ліўні затопалі?!

Зірні, паслухай:
пад весялухай
    ад Обаля ў пантоплях
        патопамі
па-
    то-
        па-
    лі...

*1975*

* * *

Долі інакшай не трэба зямной,
Сэрца пагоднее ад суцяшэння:
Родная мова ступала за мной
Ад калыханкі
Да галашэння…

*1975*

* * *

Што параю-вы́раю,
Дзе шукаць вам броды,
Маладога выраю
здзіўленыя бровы?.

Лістаслед адсырае
Смутнаю парою...
Нада мною выраю
здзіўленыя бровы.

Ласку лета шчырую,
Неруш чабаровы
Нагадалі
Выраю
здзіўленыя бровы...

***1975***

* * *

Я стану, як стэп, салёны,
Нібы Ледавіты,
Шквальны,
Каб толькі пачуць:
— Шалёны!
Каб толькі пачуць:
— Ненармальны…
Растаю боязі льдзіны,
Садзьму
Недаверу барханы,
Каб толькі пачуць:
— Адзіны!
Каб толькі пачуць:
— Каханы...
Гатоў на любыя згубы,
Каб моўклі губы адчаю,
Абы не адчуць:
— Нялюбы...
Абы не пачуць:
— Звычайны...

***1976***

* * *

*Васілю Быкаву*

Мы на агонь глядзім
Пры вогнішчы рудым.
Як схімнік-нелюдзім,
Знікае ў небе дым.

Гарыць агонь-багач
І цемру й ціш ірве.
Цень жудасці,
Пабач, —
Ступае па траве.

Няйнакш
І прашчур наш,
Укленчыўшы агню,
Узняў свой позірк
Аж
Да зор
Упершыню.

Зглыдаў агонь датла
Галля рудую медзь.

І нам пасля святла
Страшней у змрок глядзець...

*1977*

## БЕЛАЯ ЯБЛЫНЯ ГРОМУ

Белая яблыня грому
Чорных садоў ліхалецця.
Яблык яе нікому
Не пажадаю на свеце.
Голая яблыня грому
Жахам жагнала прысмерк.
Пэўна, што д’яблу самому
Помніцца горкі прысмак.
Светлая яблыня грому
З салаўінае усяночнай.

Ласкавага яблыка стому
Я надкусіў аднойчы.
Ціхая яблыня грому,
Першага мілага гневу.
Позірку маладому
Праглася бачыць Еву.
Добрая яблыня грому,
Радасцю поўні наўколле!
Хай жа не будзе злому
Голлю твайму ніколі.
Белая яблыня грому,
Клопатам, гаманою
І на апошнюю строму
Светла ўзыдзі са мною.

***1977***

* * *

*Уладзіміру Някляеву*

Быў год,
Яшчэ з вайны галодны,
Стараўся кухар,
Мой сусед:
Ён скручваў пеўнікам галовы,
Клаў на калоду,
Клаў і сек.

Чакаў райрэстаран маўкліва.
А пеўні без галоў
Вакол
Яшчэ падскоквалі ў каліўі,
І кроў свістала з гарлякоў.

Наліпла на сякеру пер’е,
Кроў павыпальвала траву.
І ля суперніка супернік
Скакаў,
Згубіўшы галаву.

Туман зрабіўся саланейшы,
Ад перапуду сам не свой,

Дабег да ўзмежка
Мой сланечнік
Са скручанаю галавой...

*1977*

## СВЯТЛО
*Ушацкае паданне*

Яны сядзелі каля агню,
Кармілі галодны агонь ламаччам.
І сын раптоўна схапіў галаўню
І торкнуў, гарачую,
Ў вочы матчыны.

Усё было ў першабытным стане —
Агонь,
І людзі,
І ноч у сутане.

Агонь ні на што не зважаў,
Балюючы,
Ды стала светла аслеплай начы
Ад крыку матчынага балючага:
— Сыночак, рукі не апячы!..

*1978*

## ТУМАН ЯРАМ...

Спяваюць старыя Монічы,
Ласкава з песняй гамонячы,
То, як з надзейнай суседкаю,
Навіною дзеляцца рэдкаю,
То, як з жаданай нявесткаю,
Нашчацца, сумныя,
Радаснай весткаю.

А дзяўчына, як здаўна вядзецца,
упусціла залато вядзерца,
засмуціла казакова сэрца...

Зацвітае верасамі выдма —
            за туманам нічога не відна,
            за туманам, а ці за слязою?

Толькі песня ведае пра тое.

Ані слова не манячы,
Сонца молячы,
Слязу туманячы,
Співаюць Монічы.

І дасвецце само ў начы
Ключы
Забірае —
Сонца адпірае,
Што тамілася за барамі...

*1978*

* * *

Пад высветленымі дубамі
Салодкімі смягне губамі
Пасека —
                класіка.

Маладое сена
Расе на
Паспытак
Растрэсена —
                экспрэсія.

Дыхае Белавеж
Спакойна, як
                белы верш.

*1978*

## ЯШЧЭ АДНО ПРЫЗНАННЕ ПАЛЕССЮ

Неба,
Як чоўна варажскага днішча,
Трэба —
Прасмоліць імгла.
Зоры,
Як вершы Жэні Янішчыц[1], —
З суму і са святла.

Сум свой і ўцеху сумую,
Самую
Радасць адчуць хачу.
Зноў захварэў я табою,
Сумую,
Зноў ты ўвушшу і ўваччу.

Весняга смутку вугольчык,
Затлейся,
Полымем ахіні,
З громам прачніся,
Паліся,
Палессе,
Ліўнямі дабрыні.

Любіць — пакіне
Убарць ці Піна, —
Хай паварожыць май.
Хай крапіва,
Як зялёная кпіна,
Пройме душы адчай.

Хай храбусцяць жалудамі
Нявінна
Кормныя дабракі,
Тыя, што стануць
Дрыгвой квашаніны,
Чорныя вепрукі.

Мы цябе так асушаем,
Палессе,
Потым ва ўсіх нябёс
Пыл перасохлы прыбіць

Хоць увесь твой,
Пэўна, не хопіць слёз.

Хай твой бацян
Над апошнім балотам,
Ад асакі рудым,
Перажагнае
Спагадліва ўзлётам
Сум мой, як сырадым...

*1978*

* * *

Матчына песня,
Ты ў полі гарбела,
На маразах у чужыне гарбела,
У баразёнцы на міг спачывала, —
Болю не трэба было дабаўляць.
Рук ты не чула,
Але спачувала,
Што ў перапёлкі ножкі баляць…

*1979*

## ОДА ХОДЗІКАМ

Ідуць няспынна ў цішыні на ўлонні,
Сваю дакладна службу несучы.
На ходзіках даступны
Час няўлоўны:
Навобмацак пазнаеш уначы.

Вагу з гадамі траціць нават гіра,
Нагрузкаю грамадскаю — замок.
На знос працуе ўся сістэма шчыра,
Пытлюе час заведзены млынок.

Каля млына не бойся запыліцца,
Мука гадоў — сваячка сівізне.
Лучынка,
Каганец

І запальнічка
Сузорны цыферблат свянцілі ў сне.

А на дванаццаць зводзяць стрэлкі,
Быццам
Бяруць за крылы пеўня, каб скарэй
Звязаць і на базар —
Абы пазбыцца
Гарластага заступніка курэй.

Без стрэлак,
Як бяскрылыя стракозы,
Не хочуць здацца ходзікі бядзе.
Ланцуг казычуць колцы
І стракочуць,
Напамінаючы, што час ідзе!

Спяшаюць колцы сцежкай ланцужковай,
Сляды
Зноў паўтараючы свае.
Гады
Імчацца вучнямі са школы.
Зязюля вылятае, гнёзд не ўе...

*1979*

* * *

Загрузлі ў травах
Сноў грузавікі,
Што везлі ў дамавінах галашэнне.
А ў партызанскім краі павукі
Дагэтуль вяжуць сеткі,
Як мішэні.

*1980*

* * *

Гадзіннікавы майстра
навобмацак чуе час,
Праз павелічальнае шкло
хоча высачыць бег імклівы,
Каб хоць на міг запыніць імгненне.
А час праз пальцы цячэ і знікае.
Майстру падсвечвае,
павялічваючыся, лысіна.
У вакне Карадаг у застыглым спакоі.
Голы чэрап ягоны пасля ўтрапення
Абрастае паволі —
жо колькі стагоддзяў не злічыш.
Ластаўкі перад дажджом,
як аблудныя стрэлкі,
Не могуць знайсці свае цыферблаты,
Каб паказаць, колькі часу вечнасці.

*1980*

## ДРОВЫ

Сукаватыя, шчоглыя
У градах, у кастрах
Пацеюць смалою,
Як мёд у скрылях.
Летаюць,
Петраюць на сіврах,
Каб ласы агонь
Зімавеям на страх
Смактаў смаляныя
Соты з калоды,
Па-мядзведжаму жмурачыся
Ад асалоды.

*1980*

## МІКОЛУ ГУСОЎСКАМУ

Класічны крой лацінскай апранахі
Хацеў стрымаць славянскі ўзмах рукі.
Начэлі догмаў сонныя манахі,
І каркалі анафемы крукі.

І слухаў Рым нячутай пушчы пахі,
Туровы гром, алені бег ракі.
Ляцелі ў вырай з Белай Русі птахі,
І ў вырай вечнасці — тваё радкі.

Ты з год юначых меў талан на ловы,
Сіло латыні самі рвалі словы,
Ішлі ў Еўропу з годнасцю здалёк.
Каб дум раскутасць лёс не ўрок суровы,
Кужэльную кашулю роднай мовы
Ад забыцця замовіў васілёк.

*1980*

## ВОГНЕПАКЛОННІЦА

Спакой нізінаю цячэ,
Увечар сцежка ў руце-мяце.
А вогнішча гарыць яшчэ
Самаахвярнае, як маці…

*З радкоў памяці*

Мама мая хрысціянкай зжыла,
З богабаязнай душою, іконніцай.
Ды, вернападдадзеная святла,
Болей была яна
Вогнепаклонніцай.

Звідна карміла агонь з рукі,
Яму выбірала кавалкі ласыя —
Бяросту,
Крамяныя смалякі.
Ёй полымя пальцы лізала з ласкаю.

Пераважна звала агонь
Цяплом —

Гасіла цяпло,
Цяпельца разводзіла.
Назалеўшыся над бяззубым кублом,
Чакала цёплага снегу малодзіва.

Як гняўлівых суседзяў якіх,
На куццю
Перуна,
Маланню
Запрашала велічна.
І, ўдзячная за неспакой жыццю,
Ахвярна
Лучынкі скіпала вечарам.

Іскрынкі раздзьмухвала на далані,
Нібы ад мякіны адвейвала зерняты.
Штодня да агню,
Да гарачыні
Былі і падумкі і вочы звернуты.

Ад дыму ў чалесніка цьмела чало,
Печ
Небу ўздавала пашану ахвярную.
І полымя болю маму ўзяло —
Растала, як папялінка, за хмарамі.

Каб на сівярах не марозна было,
Каб збілася з ног снегавеяў конніца,
Пакінула мне на зямлі
Цяпло
Акуліна Андрэеўна —
Вогнепаклонніца...

*1980*

* * *

Мне дома цяжка заснуць,
Пакуль ува мне засынаюць
Неба, ад жаўранкаў ажаўранелае,
Што для мяне іх раней разбудзіла;
Нечапаныя вішні ў цвеце,
Якім нецярпіцца зірнуць у студню;

Дзьмухаўцы-жаўтароцікі,
Ад вугольчыкаў пчолаў пякучыя;
Рэчка, дзе плёхае пранікам плотка,
Мыючы дзецям сваім кашулі;
Луг, дзе трава раскашуецца,
Як маладая чупрына мая даўно;
Мятлік гарачы, які раскрывае крылы,
Правяраючы недаверліва, ці ягоныя;
Лугавіна, што ператрасае пярыны з зімы, —
Аж завейна ад цёплага пер'я кнігавак;
І, вядома ж, абавязковы бусел, —
Ён па традыцыі даўняй
Мусіць мой сон пераксціць,
Як некалі гэта рабіла мама,
А цяпер яе дома няма.
Я чакаю, пакуль яны ўсе заснуць,
А пасля іх прашу, заклінаю ласкай:
Сноў маіх не мінаць анідзе —
З імі ўсюдых я дома буду...

*1981*

## ТРЫПЦІХ

Трохкутнік
　　　　выраю
　　　　　　　высока.
Трыпутнік ласкаю прыціх.
Трывога зеўрыцца трохвока.
Век чалавечы,
Як трыпціх.

Світанне,
　　　　дзень
　　　　　　　і змрок вячэрні,
Іх, трох,
Навечна час упрог.
Трыпціх пасеянага зерня.
Трыпціх —
Дол,
　　аралля,
　　　　нарог.

Трыпціх крыжа,
Трыпціх жагнанняў,
Трыпціх расстайных
Трох дарог.
Трыпціх апошніх
Трох жаданняў.
Трыпціх —
калыска,
кут,
парог…

*1982*

## ПАХ ЗАБЫТАЙ РАНІЦЫ

Распушыўшы комінаў хвасты,
Па сумётах крадуцца нясмела
Хаты,
Як заспаныя каты, —
Смажаніна смачна засквірчэла…

*1982*

## БАРАВІНА

*Юрасю Свірку*

Не багатая
На літцецерукоў,
Бы Гомельшчына,
Ды касматая
На сябрукоў
Бягомельшчына.

Небу
Хочацца набыцца
У стольным Бегамлі —
Чапурыцца
Мілавіцамі
Ды Вегамі.

Горка
Звозіла

У гурбу
Санкі
Панчанкі.
Зорка
Позняя
Паэтаў позірк
Бачыла.

Лёс
То спешваў,
То ўздымаў
На горы роздуму,
Ды запомнілася
Першая
Народнаму.

Юрасёва
Маргавіца
Ціхамірная
Вераснёва
Маладзіцаю
Падміргвае.

Поле восенню
Ўцякае ў лес
Палёўкаю.
Як увосні,
Спеў Алесеў
Там галёкае.

Калі еду на радзіму,
Сум пагойдваючы,
Рады дыму
Ядлаўцоваму
Бягомельшчыны.

Баравіна,
Светлым ветрам
Перавітая,
На сяброў
І на паэтаў
Баравічная!

*1982*

* * *

Не ведаючы тэорыі вольных вершаў,
Не чуўшы нічога
Пра факт існавання авангардызму,
Мама
Лісты мне пісала верлібрам
Без знакаў прыпынку,
Без абавязковых вялікіх літар.
Падчас у радок
Прарываліся самі рыфмы,
Як вецер зімовы ў комін
Ці восеньскі той,
Што далічваў лісты на яблыні.
А рыфмы не вытыркаліся вельмі,
Яны перагукваліся па сутнасці:
«Мой сынок, каласок, васілёк,
Баравое зеллейка,
Мой каласутанька...»
І ў кожным радку
Столькі было зямлі і неба,
Лесу і мурагу
І столькі мне добрага напрарочана,
І кожны радок
Быў да сэрца прытулены,
Што Біблію слова матулінага
Берагу,
Каб не сурочылі!

*1982*

## З ВАЙНЫ

*Вечны абразок*

Пі горкую смела —
Вайна адгрымела.
Ный, скруха тупая,
На раны хапае
Чыгуначнага палатна.

Прыгруквалі колы:
— Да д-дна!

І чулі магнаты:
— Дукаты — дукаты!..
І чулі салдаты:
— Дахаты — дахаты!..

Круціліся колы,
Быў кожны вясёлы.
Вайна адсмылела
Чарговая,
А новая
Порах прыхоўвае...

*1982*

## ТОЛЬКІ АДНО

Мы ўсмак наеліся эрзацу
І наслужыліся панам,
На мове роднай
Агрызацца —
Адно,
Што засталося нам!

*1982*

## ЦЕНЬ КАТУЛА

Усіх астравоў і паўвостраваў свету
Жамчужынка, мой Сірміён[1], — хоць іх многа
Трымае Нептун і ў азёрах, і ў морах,
Як рады я шчасцю, што зноў цябе бачу...
Святкуй, Сірміён: гаспадар твой вярнуўся!
Зарагачыце ўсе, што ў доме ёсць, смехі!

*Гай Валерый Катул*

На водмель хваля ледзьве даплыве,
Далашчваючы слова «алеандры».
Гарлачыкі ў зыбучай мураве
Зашыліся ў зялёныя скафандры.

Гадзіннікі на вежах па чарзе
Неадначасна паўтараюць:
— Гарда...
Тут асмялелым ямбам балазе —
Іх па-зямляцку абміне пагарда...

Як ад рыбацкіх скураных затул,
Ад сонных тоняў мусіць пахнуць цінай.

Безабаронна роспачны Катул
Выходзіць на спатканне да адзінай,
Што застанецца вечнасцю пасля,
А напачатку Клодыяй завецца.
Мелодыяй зялёнага галля
Вятрам нагорным круціць разгавецца.
Туман выводзіць свой ініцыял,
Вірамі веры крута завіроны.

Рым пакараць ідзе правінцыял
З пакуль што невядомае Вероны.

Ён з Цэзарам памірыцца яшчэ,
Прызнаны,
Потым на вякі забыты.
Ды ад вякоў нікуды не ўцячэ,
Капрызнай славе здаўшы ўсе іспыты.

Як новай эры хворае дзіця,
Сябе самога хоча ўчуць, упіра.
Верона не дазволіць забыцця
І пра сябе напомніць
Праз Шэкспіра.

З Катулам
Першарадасць, і дакор,
І смутку пажаданая прычына.
Ягоны цень
Плыве з бліжэйшых гор,
Каб ацяніць Еўропу аблачынна.

*1983, возера Гарда*

## МАЛАДЗІЧКОМ

Спіць яшчэ хмурына дажджавая,
Што прамые да касцей зямлю.
Мне касаваротку дашывае
Мама,
Покуль я салодка сплю.

Сцежка выбегла за плот,
Чакае,
Каб са мной падацца бальшаком.
Прапануе вяз ля хаты з краю
Ахінуць зялёным башлыком...

З-за плячэй гадоў
Ён потым гляне,
Сум,
І не адступіцца, відаць.
Каб пасля падаць руку вяртанню,
Трэба развітанне прывітаць...

Лёг спакой на халадок атавы,
Выпусціў трывогу з рукаўцоў.
Маладзік прарэзаўся танклявы,
Быццам малады Міхась Стральцоў.

*1983*

## НАРЭШЦЕ

Маўчыць мудрэц — прыціх народ,
Маўчаць яго чарга.
Мудрэц адкрыў нарэшце рот,
І паўтарае ўвесь народ —
Мудрэц сказаў:
«Ага!»

*1983*

## ЛІСТ У ЗЯЛЁНУЮ ДУБРОВУ

*Кастусю Цвірку*

Даўно зайздрошчу, Кастусь, табе,
Бо нарадзіцца ў Зялёнай Дуброве,
Дзе столькі шолаху ў кожным слове,
Дзе рэха з зязюляю ў даўняй змове,
Не кожнаму доліць.
Дасюль скрабе
Вясёлая зайздрасць.
Табе лісты
Ідуць зялёныя з маладосці —
Дуброва піша
І кліча ў госці
На сцежкі ўсцешнасці і мілосці,
Дзе лесуны як сваты-браты.
Каля Джэты,
Залатой гары,
Абсмаленыя кустанайскай спякотай,
Мы працавалі.
І ты з пяшчотай
Прыгадваў,
Як шэпча крыніца ўпотай,
Як рукі раскідвае
Дуб стары.
Маўклівы бор
І гуклівы гай
Цябе прымаюць,
Бо ты з Дубровы,—
Нясе спагада кошык лазовы,
І раніца радасці ў перазовы
Ідзе, —
Забытую пагукай!
Ані засохнуць слоў карані,
Пакуль
Дуброва твая зелянее,
Што засланяеш ад пуставею,
Плячо падстаўляеш падлётку-надзеі.
Зялёнага лісту
Тваёй радні!

## ПАРТРЭТ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА Ў УНТАХ З ДВУМА САБАКАМІ

*Каралішчавічы, 1965 год*

Прысмірэлі дзве калматыя гурбіны на нагах,
Пабурэлі, як запыленыя фаліянты.
Брэху вольна ў прасторах,
Рэху мякка ў снягах,
Перасіплі вятры на таргах,
Перазяблі паляны...

Зюзя — як цёзка паганскага бога —
Мароз
Лічыць сваім
І вітае хвастом адпаведна.
У зборніках рыфму
Правярае на зуб усур’ёз.
А за сталом сам паэта —
Унты на нагах —
Усё, як сабака, ведае.

Зюзя смакуе цукеркі, выцягвае зубы з іх,
Як з гнёздаў штэпселі
некалі тэлефаністкі.
А ў паэта ў напамінальніцах запісных
Нумар тэлефона Музы[1] і адрас унізе.
Рэкс з паважнасцю царскай
Сняжынкі есць на ляту,
Аб шарпак апякае, як аб вуголле, лапы.
Так непасрэдна радуецца свайму ж хвасту,
Аж бялюткія хмаркі бягуць
З ягонай разяўленай ляпы.

Зюзя і Рэкс з недаверам
Абнюхваюць унты,
Калі іх з прагулянкі лясной
Прыводзіць вяльможны паэта.
Гэтаксама снег даганялі
калісьці браты,
А цяпер на нагах дзень пры дні
Шукаюць сюжэты.

Зноў паэта,
Наведаўшы сцішаныя лясы,
Над аблогай паперы
З ночы ў ноч уздымае паходні.
І ў азёрах вачэй
Пад сярпом схіляюцца каласы
І Хрыстос наважваецца
Прызямліцца ў Гародні...

*1984*

## ЖАРТ

Накрасаны адвечным пяром
Свой грукапіс
У хмаравецтва
Прыпёр пачатковец-гром,
Ды там, дзе каротка,
Ірвецца.
Хмарадактарша-імжаністка
Хмыркнула:
— Хворая ў нас машыністка,
А Ваш грамайскі граман наўрад
Перагрукаць згодзіцца град,
У яго не хапае рук
На перагрук...

*1984*

## ВЕДЫ

Малапісьменная
Паводле дадзеных глухіх анкет,
Мама смела
Ведала свет.
Дзіўлюся featureзнабаковасці ведаў
Маці —
Ведала, што да чаго
На небе,
У лузе,
У хаце.

Ведала тэалогію —
На памяць малітвы шаптала:
Абнясі, Божа, тынам
Ад зямлі да неба,
Сахрані мяне, Божа,
Адныні давеку.

Ведала астраномію —
Па зорках дарогу шукала,
Калі пад страхой нябеснай
Перапёлкаю начавала.

Ведала аграномію —
Што сеяць,
Калі і дзе.
Ведала магію светлую —
Як словам дапамагчы бядзе.

Была і ўрачом дзіцячым,
І цвёрдым на руку ветэрынарам —
Цялят прымала,
Карову гарэлкай грэла,
Сына — адварам.
Ведала замовы
Ад вока злога,
Ведала,
Як нешта зварыць з нічога.

Калі ў печы ўсё дагарала,
Кацёл дакарала:
Чорт бы на цябе гаварыў,
Каб ты варыў
Заўсягды,
Як на Дзяды!

Была філолагам
З выключным слыхам —
Умела дзяліцца радасцю кволаю,
Цвяліцца з ліхам.

Умела ладзіць з ялінай калючай,
Са спёкай, з золлю.
Словы лушчыла,
Як у прыпол фасолю:

Новае сітца,
Пакуль навісіцца,
А як навісіцца,
Дык і пад лаўкай наляжыцца.

Ведала міфалогію
Паганскае даўніны,
Старых святых, а ўсе яны,
Як і суседзі,
Малацілі і веялі
Зярняты спагады, надзеі,
Заклапочаныя, ды не хмурыя
Міколы ды Юр'і,
Варвары ды Аўдакеі.
Хоць да Міколы,
Ні зімы, ні лета ніколі.
Нішто, што Варвары
Начы ўварвалі.
Праўда, маме
Шмат чаго не ставала:
Спаць не магла да святла,
На шарэнніку ўставала.
П'янела ад лебяды, ад кропу.
Яшчэ заблытвала
Прагноз гараскопу:
Застаўшыся з вайны ўдавою,
І жаўранкам была,
І савою.

Калі і еменкай і семенкай —
Паранка,
Устанеш раней за жаўранка.
Не раскруціўшы турботаў сувоі,
І ўдзень паляціш бяссоннай савою.

Яшчэ не ўмела ў горы хіліцца,
Яшчэ не ўмела
Маці хваліцца.

Так і не спасцігла
Цяжкой навукі —
Стаяць рукі ў бокі,
Сядзець склаўшы рукі.

Пакуль рукі ёй не сашчапіла,
Пакуль адпачыць не ўзяла магіла.

Гэта і ў сшытку неба
Занатавана зорамі, —
Каб чытаў я да скону ў сораме,
Што не ведаю нічога без мамы,
Што без мамы
Я — непісьменны самы!

*1984*

## АДЛЕГА

Чакае хмуры комін перакуру.
Дымок хмурынкі
Чэзне за лясамі.
Нацягнутая снегавеем скура
З цвікамі ледзяшоў
З страхі звісае.

*1984*

## МАЎЧАННЕ ПЕРУНА

*Пімену Панчанку*

Хвалу ўздавала небу нашча
Здаўна
Лясная старана,
Некарчаваны слухаў прашчур
Маўчанне перуна.

Ад клопату адчуўшы продых,
Надзею ўсклаўшы на вясну,
Сырому дубу кленчыў продак,
Маліўся перуну.

Пярун праходзіў бураломам.
Ратай — звяздар і аграном —
На злыдняў слаў

Маланку з громам,
Бажыўся перуном.

А я на лусту аржаную
Шапчу:
— Кусціся, ярына!
Прыглухлай бояззю шаную
Маўчанне перуна.

Чалом б’ючы сваім асновам —
Ад курганоў да згаслых трун, —
Параіцца хачу са словам,
Пакуль маўчыць пярун.

Да сэнсу хочацца прабіцца,
Як арганаўту да руна.
Яна баіцца,
Навальніца,
Маўчання перуна.

*1985*

* * *

А самых самотных на свеце двое —
Чалавек на зямлі
І на небе Бог,
Ахінуўшыся даўнінай сівою,
Звінаюць і развінаюць сувоі
Зямных трывог,
Нябесных дарог.

А чалавек, ён не Бог,
Нябога,
Зямныя трывогі ягоныя ўсе.
Ён моліцца болей на поўны бохан
І, спадзяваючыся на Бога,
Сваёй гадоўлі авец пасе.

Свае дарогі нябесныя ў Бога,
Выбоістыя, як Млечны Шлях,
Самотнаму дома сядзець убога,
Пасе перуна,

Як быка рабога,
Што можа рогі ўсадзіць наўзмах.

У госці б схадзіць
Аднаму да другога,
Не выпадае, няма калі.
Чалавек без Бога не да парога,
Нялёгка з месца скрануць старога.
Вятры ўсе сцежкі пазамялі.
Адзін на небе,
Другі на зямлі,
Абодва маўчаць,
А над імі без шуму
Плывуць аблачыны іхняга суму...

*1985*

## АДВЕЧНАЯ ТЭМА

Калі архангельскія трубы
Апавясцяць пра Страшны суд,
Я, не збаяўшыся пакут,
Успомню,
Што шапталі губы,
Што, пэўна, быў табе я любы.

Калі тугі тугія лукі
Абрынуць стрэлаў горны град,
Сустрэць я стрэлы буду рад,
Успомню,
Што крычалі рукі,
І шчырасловы, і манюкі.

Калі заціхне гром прарочы,
Забытыя збудзіўшы дні,
Я не ўстрашуся цішыні,
Успомню,
Што маўчалі вочы,
Спавіўшы смутак па-жаночы.

Яны далёка,
Стрэлы, трубы.
А покуль ты са мной сама,

Мне часу ўспамінаць няма.
Смяюцца рукі,
Помняць губы.
Суціш хаду, мая зіма!

*1986*

## ЛЁС

Лёс прынёс мяне на базар
І, як пеўня,
Трымае пад пахай.
Хоча збыць свой тавар
Гандляр,
Просіць:
— Ты языком не лахай,
Каб не спудзіліся купцы.
Толькі ўбыткі адны з табою.
Не прадам цябе —
І капцы,
У канцы зарасцеш травою.

— Лёсе мой,
Пацярпі, прашу:
Не збаўляй цану,
Патаргуйся.
Не мяне,
Дык маю душу,
Можа, ў вырай паклічуць гусі,
І мяне ў халадах нябёс
Пад крыло сваё
Возьмуць хмары.
Ні купцоў, ні цаны,
Мой лёс,
Нам не мець
На зямным базары...

*1987*

## ПЕРШЫ СНЕГ

> Снег ніяк не ўпадзе. Адзін сняжок быў упаў, дык радыяцыя павялічылася ў 7 разоў. Лепш, каб ён не падаў пакуль...
>
> *З ліста Уладзіміра Верамейчыка ад 12 снежня 1986 года з Ведрыча*

Першы снег дырэктару школы
(Ёй аддаў 23 гады)
Не такі пяшчотны і кволы,
Не такі чаканы, вясёлы,
Як ён сеяўся заўсягды.
Падае першы снег на долы,
Белымі слязьмі на клады.

Вучні хочуць гуляць у снежкі,
Рэху горача ад уцех.
На дырэктарскіх дум узмежкі
Выпадаць сабраўся без спешкі
З неба маннай спадманнай снег.
Смутак зырыць з-пад кожнай стрэшкі,
Брэх якоча, смялее смех.

Мендзялееўская табліца
Зразумелай робіцца ўсім,
Першакласнік і выпускніца
Элементы ведаюць, сніцца
Сцяты атам, мірны зусім,
І прарока Іллі калясніца
Забаўкаю здаецца ім.

Прамянець,
Апраменіць,
Праменьчык —
Словы сэнс памянялі свой,
І шпурляе адчай каменьчык
У гарод з буянай травой.
Пазірае на снег Верамейчык
З пасняжэлаю галавой.

*1987*

## МАРК ШАГАЛ

Жыццё працякала —
І не стараўся
Залапіць гарбаты дах.
Губляў галаву
І не спяшаўся
Яе адшукаць.
Ягоны сусед Макар
Пасвіў цялят
Недзе ў Маркаўшчыне
Ці на Пескавацiку,
А ён пераганяў коз
З Елісейскіх палёў
На Млечны выган.
Козы былі з Віцебска,
Дзе дагэтуль
На глухаватай вуліцы
Чакае яго мураванка
І на падваконні
Гараць бальзамінкі
Зоркамі малалецтва
У цёплым космасе
Незабытай Бацькаўшчыны.

*1987*

## УСПОМНЕНАЕ ЦЯПЛО

З самім сабой,
З агнём у печы,
Пад вечар
Ціха пасядзець.
Даверыўшы спакою плечы,
Цікаўна печы ў рот глядзець.

Глядзець,
Як полымя глыдае
Сукі,
Паленне,
Кругляки,

Чуць,
Як за шыбай халадае,
Як б’юцца ў дзверы скразнякі.

Дрыжыць за сценкай
Куст рагаты.
Вярнуўшыся з далёкіх год,
Смяецца печ —
Апора хаты —
На ўвесь залатазубы рот.

І наплывае,
Наплывае
Забыты сон
Забытых дзён,
Вяртае
Памяць ветравая
Цябе да чэрствых баразён.

Крадзецца цішыня начная.
Апошні вугалёк датух.
Душу ласкава ахінае
Дух печы,
Продкаў вечны дух...

*1987*

## У АДКРЫТЫМ КОСМАСЕ

Мама,
Колькі жыла,
Выходзіла ў космас
Цемры, святла,
У космас адкрыты,
Дзе чакалі
Даёнкі, матыкі, карыты,
У космас
Лесу, гарода, саду,
У космас клопату
Пра пагоду, пра ўроду, расаду.
І сам-насам з Сусветам,
Як з тым суседам,
Гутарыла і зябла,

Калі штоначы,
Часам плачучы,
Часам стогнучы,
Не чуючы ні рук, ні спіны,
Вартавала дбала
Карміцельку-яблыньку,
Якая ўцалела з вайны.
Абкладзеная падаткамі,
Нібыта ападкамі,
І яшчэ гусцей,
Яблынька
Яблыкаў чакала восенню
З бояззю,
Як мама гасцей:
Ці ўсім стане
Пачаставацца?
Трывога чакання —
Таксама праца.
Мама, бывала,
Палахліва драмала
На голай зямлі.
І калі
Яблыньку нехта кранаў,
Яблыкі сыпаліся —
І маму будзілі.
А незабудкі,
Санлівыя непрабудкі,
Глядзелі ўранні з канаў
У наіўным здзіве,
Як пыхлівая, забыўлівая радня.
А маму да пэўнага дня
Бяссонным вартаўніком
Назіркам,
З вока на вока,
Крадком
Пільнаваў лёс,
З усмешкай гледзячы
На гладышы, на ручасцікі, на гарнушкі,
На цёрлы, цабэркі, кадкі,
У якіх і днявалі, і начавалі
Зоркі,
Што намерзліся ў небе да слёз.
І моцна,

Відаць па ўсім,
Бог спаў у садзе сваім,
Бо там нехта яблыні трос,
І густа сыпаліся
Знічкі-ападкі.
Ні разу маму не папрасіў
Стары
Прыгледзець і за ягоным садам.
Няйнакш там яблыні
Раслі галінамі дагары,
Таму на зямлю прасіліся
Зарападам...
Не ведаю, як для самога
Бога,
А для мамы
У космасе адкрытым
Бязважкага не было нічога.
Усё здабывалася
Потам, бяссоннем, спрытам,
Усё запрашалася
Ласкаю, угаворам, дакорам
У хлеў, у варыўню, ў кубло
З ляхі, з-пад страхі, з поля.
Усё цяжкое, важкое было,
Як доля...

*1987*

* * *

Для радасці мала прычыны,
Аж горбяцца вербы ніцыя.
Хаўтуры і сарачыны —
Сумная рэпетыцыя.

Для радаеці многа прычыны,
Аж рэха далёка завойкала.
Ад руні — зялёнай аўчыны —
Светла навокала.

*1987*

* * *

Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
Не разбудзіўшы напаміны,
Ссівеўшы на глухой сяўбе,
Стрываю ўсе абразы, кпіны.
Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
У харашбе,
У варажбе
Усю святую
Да хвіліны
Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
Чаму мне злосці не стае,
Каб рэзаць там,
Дзе ўкус змяіны,
Каго вініць?
Усе правіны —
Яны мае, мае, мае!

*1987*

## ПАЎДЗЁН НА ПОЎДНІ

Аблачынка язык высоўвае —
Так пякло анадоень.
Паўдзён:
У даёнкі лазовыя
Вінаград дояць.

*1987*

## ШТО ЁСЦЬ КАХАННЕ?

Што ёсць каханне?
Бессаромнасць,
Ці сціпласць,
Што не ўздыме воч,

Ці разгаўленне,
Ці скаромнасць,
Ці ў зорках дзень,
Ці ў сонцы ноч?
Ці вечны грэх,
Ці пакаянне,
Ці сум цяжкі,
Ці весялосць?
Пакуль не стоміцца
Пытанне
Пытаць,
Датуль каханне
Ёсць!

*1987*

## КАЛІ ЛАСКА

Калі ласка, акіян, цішэй!
Паскакаць планеце балазе
Дзеўчынёшкай на адной назе —
Выліць шумную ваду з вушэй…

*1987*

## ЧАМУ?

Колькі год, як аглухла вайна.
Цішыню не суроч. Памаўчы.
У карабля забыцця
Перапоўніўся жахамі трум.
Дык чаго ж у лясах беларускіх
Пасівелыя крумкачы
Аж дасюль па-нямецку
Пытаюць пра нешта:
— Warum?[1]

*1988*

## УЦЯКАЧ

Я некалі
Час абагнаць стараўся,
Потым уроплеч ісці прыхітраўся.
Адстаў.
Упарты час даганяць загараўся
І стаў.

Даўно мой час
Без мяне ідзе.
Не азірнецца назад
Нідзе.

*1988*

## БЕЛЫ САКАВІК

Лебедзі ў белай імгле
Глуха вяслуюць над морам.
Стома на кожным крыле.
Зорам прадзюбнуцца сорам.
Лебедзі ў белай імгле
Глуха вяслуюць над морам.
Юшыцца вея, але
Крышацца крыгі з дакорам.
Лебедзі ў белай імгле
Глуха вяслуюць над морам.

*1988*

## СУМ

Сум спачатку засяліў зямлю —
А пасля разбегліся дарогі.
Слова багавейнае *люблю*
Папрасіла ў неба дапамогі.

Адлучыў ад цемры светлыню,
Воды аддзяліў ад земнай цвердзі
Бог —

І ўзрадваўся,
І упершыню
Сум сябе запомніў сынам смерці.

Ходзіць сум за намі ўсе гады
Маладым апосталам адчаю,
Пазнае здалёк сляды бяды
І надзею хмура прывячае.

Бачыць неба наш дарэмны тлум,
Млечны Шлях зграбае па жарынцы.
Мы адыдзем —
Застанецца сум
На зямлі без нас
Па нас журыцца.

*1988*

## ВЯРТАННЕ «ПАНА ТАДЭВУША»

### I

Святло праз рэшата кратаў
У цэлю сеецца сеўма.
І на чарговым допыце
Паспалітае следства разгневаўшы,
Браніслаў Тарашкевіч[1] —
Пасол вяльможнага сейма —
На халопскую мову перакладае
«Пана Тадэвуша».

Дагасаюць сухотна
Турэмнага вечара барвы,
І ўпарта брыклівы довад
Прыводзіцца адвакатамі,
Што вязень, хоць беларус,
Не зусім такі барбар,
Бо Адама Міцкевіча
Перакладае за кратамі.

II

Верхнія нары.
З вылежаных цалёвак пасцель.
Што яшчэ трэба інтэлігенту?
«Пана Тадэвуша» Пятро Бітэль[2]
Перакладае на пергаменце
Мяхоў з-пад цэменту.

Кавалак волава —
Цяжкое сціло.
Чарніла трывалае —
З турэмнай бальніцы зялёнка.
Не працісне праз краты
Аерыстае крыло
З Вішнева бяссонная слонка,

Не скіне ворагу ўлады
На шчасце пяро.
Для школьніка Лёніка,
Роднага ў сібірскім прымусе,
Перакладае Міцкевіча
Яшчэ малады Пятро
І для адабранай у яго
Беларусі.

*1988*

## ПАЛАЧКА-СТУКАЛАЧКА

— Стук-стук, Коля!
Стук-стук, Міця!
— Дзеткі, у школе
Не шуміце!

Палачка-стукалачка —
Гульня дзіцячая.
Дарослыя глядзелі,
Дарослыя пабачылі,
Што гэта вельмі проста
Застукаць і суседа,
І дружбака,

Бо ў КДБ рука
Такая, што ні следу
Не будзе ад суседа,
Няцяжка дружбаку
Ў сырым заснуць пяску.

— Стук-стук, Мікола!
Круціцца кола.
— Стук-стук, Мікіта!
У крыві шэрая світа.
— Стук-стук, Васіль!
Заплакаў кавыль.
— Стук-стук, Марысіца!
Чэкіст не хрысціцца.

Чырвоны ад крыві,
Гарачы ад слёз
У камунізм ляці, паравоз,
Коламі стукачы!
Мільёнаў лёс
Застукалі стукачы.
Ляціць паравоз
Па касцях разлук
У плачах, лямантах, крыках.
Толькі чуваць на стыках:
Стук-стук, стук-стук, стук-стук…

*1988*

## МАЛІТВА НАСТУПНАСЦІ

Хай свеціцца імя Тваё,
Беларусь,
У стронцыі, цэзіі, ліціі!
Як і ва ўсе вякі,
Душу быць ласкавай змусь,
Дазволь слязам,
Ужо радыеактыўным,
Ліцца.

Хай свяціцца імя Тваё,
У палыновым вянку,
Гаратніца.
Хай цвіце твой дзядоўнік
Калючы, таму што безабаронны.
У цябе на слыху перагукваюцца
*Радыяцыя* і *Радаўніца*.
Чакаючы ў гнёзды буслоў,
Дагніваюць на ліпах бароны.

Хай свяціцца імя Тваё,
Маці Сумная!
Хмару радыеактыўную
Хусцінай ад Бога
Ты на самыя вочы насунула —
Не чуеш, не бачыш
Нічога.

*1988*

* * *

Лёс да кожнага прыходзіць босы,
Як Хрыстос,
Каб бядзілі кожнага турботы,
Як абуць свой лёс, у лапці, ў боты.
А яму не занасіць калёсы:
Боссю — каб нячутна! —
Ходзіць лёс.
Ты, нявольнік, вольны выбраць путы,
Пасталы змяніць на кірзачы,
Грукай збітым, як парог, абцасам.
Смелы і ў руцэ з кавалкам ласым,
Помні заўсягды пра лёс разуты,
Ногі босаму не адтапчы!

*1989*

* * *

Слоў не хочацца кідаць на ўзвей-
Вецер,
Як гаварыла мама.
Я туман прашу: не сівей,
Бо сівею з табой таксама.

Дня кароткага хітры зман
Непрыкметны ў сваім старанні.

Пасівею ўвесь,
Як туман,
І таксама растану ўранні.

*1989*

* * *

І свая ўзважанасць у глыжа,
Сарамлівасць — у апранахі.
І свая ў гэтым свеце мяжа,
Над якой апякуюцца страхі.

Страх рухавы і страх ляны,
Страх абразы і страх пашаны,
Страх нязгоды і страх віны
Пераблытаны, перамяшаны.

І свая прыгажосць у смаўжа,
І свая зграбнасць у чарапахі,
І свая немата у крыжа,
І свая міласэрнасць у плахі...

*1989*

* * *

Певень першы раз прапяяў,
Змрок параніўся злосцю дзідаў.
Ты спрыяў праяве з праяў,
Ты свайго Каліноўскага выдаў.

І другі раз голас падаў
Певень,
Золаку моцы стала.
Утаропіўся лёс-удаў,
Не ўбярог ты свайго Купалу.

Пракрычаў певень трэці раз,
Забалела святлу на ўсходзе:
Голас твой нематой захрас,
Ты адрокся ад мовы, Народзе.

Здзірванелі скрылі аралліі,
Разагнуўся загнуты полаз.
Ці ўваскрэснеш духам калі,
Ці прыпомніш,
Які быў твой голас?

*1989*

* * *

Звыкаюся слухаць глухую стому,
Смялей каляндар пачынае гартацца.
Здаецца, учора я выйшаў з дому,
А ўжо дадому пара вяртацца.

Мае трывогі, мае дарогі
Парастрасала, паразмывала,
Прымлелі рукі, прысталі ногі,
Хацеў багата, а маю мала.

Пусціў на вецер свае дукаты,
Набыў сумненне, набіў аскому.
Здаецца, учора я выйшаў з хаты,
А ўжо вяртацца пара дадому.

Туды, дадому, дзе лугавіна
Улетку цёплая, як палаці,
Дзе долу кланяецца дамавіна.
Там мама сустрэне ў вечнае хаце.

*1989*

## ВЯЛІЧКА

Бор — зялёная галава —
Перакуліўся ў возеры…

*1989*

## БРЫТВА

Брытва —
Ранішняя малітва.

Ты зараслага думкамі голіш
І Бога моліш,
Каб, зарослы за дзень, гаспадар
Вярнуўся дамоў на вячэру,
Каб ягонага не ўбачыць ашчэру.

Ты не бываеш ленаю,
Занесеная над венаю.

І дамавіна
Рупнасць тваю аценіць павінна.

У немасці сценаў
Дазваляеш багаславіцца.

Над сіняю пушчай
Венаў
Белая бліскавіца...

*1989*

* * *

У душы маёй цёмна,
Як у труне,
Дзе нябыт і развага
Закончылі спрэчку.
Мама нават і ў снах не ідзе да мяне,
Каб зацепліць спагадную свечку.

*1989*

## БУЛЬБЯНАЯ БАЛАДА

*Ігару Шклярэўскаму*

Гаспадыня стала,
Багіня,
Беларуска ружовашчокая.
Над катлом німб гарачы гіне,
Рупіць німбу расплыцца аблокамі.

Гэта з пары над бульбай
Хмары
Над планетай бульбападобнаю.
Непадробная ў неба на твары
І сляза, як бульбінка дробная.

З бульбай хрэсьбіны і Каляды,
І Дзяды з паганскаю кульбаю,
І адведкі, і тыя нарады,
Дзе прамоўцы трывалыя бульбаю.

У прысмакаў слабая спакуса.
Пахнуць бульбаю нашыя хронікі.
Маннай з неба кармі беларуса,
Ляжа спаць —
Сняцца клёцкі, дзяронікі.

Бульба з намі ідзе вякамі,
Бульба тоўчаная, цалкамі,
Бульба параная, бульба вараная,
І нішчымная, і закскваранaя.
Бульбай посцім і разгаўляемся,
З бульбы выгнанай пахмяляемся.

Мы на бульбу не наракалі,
Бульбу есці звыкаліся ўсякую
З селядцом, з грыбамі, з гуркамі,
З поліўкай, з кісялём, з верашчакаю,
З сырапеняю, з канцэнтратамі
І астатнім часам — з нітратамі!

Смачна елася з макам і з такам,
Ды, нітратамі перасычаная,
Развіталася бульба са смакам,

Як у злога суседа пазычаная.
Бульба годнасць губляе фамільную,
Бушлаватая робіцца мыльнаю.

Да ўсяго звыкаем памалу,
Аж не верым, што родам з Амерыкі
Бульба.
Думаем, ад крухмалу
Мы не гнемся, як і каўнерыкі!

Мы — бульбянікі,
Не абраза
Гэта фраза.
..............................
Апошняю кропкаю
У канцы жыццёвага сказа
Стане некалі бульба сопкая...

*1989*

* * *

Я ў свеце настолькі адзін,
Я ў свеце настолькі маленькі,
Што памяці сцёртай каленькі
Збіваю,
Паўзу ў напамін,

Каб Бог не забыўся мяне,
Ды я перад Богам маленькі,
Мае Ён не ўчуе маленні
І нават уніз не зірне.

Як спусціцца Бог на зямлю,
Дык я, перад небам маленькі,
Даткнуся да лёгкай кавенькі
І крыўды на попел спалю.

*1989*

* * *

Беларусы —
Славянскай сям'і ізгоі —
Па планеце паразбрыліся,
Папалілі свае караблі ўсе,
Як вяртацца назад?
Благое
На сябе нагаворваюць самі.
Абязмовілі —
Немтурамі
За чужымі лясамі, гарамі
Сум, як сена,
Вязуць вазамі.

А хапок таго сена
Хмарка
Возьме
Дый прынясе на Радзіму, —
І затужыцца пілігрыму,
І ўсміхнецца
У пекле Марка.

*1989*

## БЕЛАРУСЬ НА КРЫЖЫ

А стараліся дружна і свой і чужы
На здранцвелым, на востракутым
Небу роўную маці распяць на крыжы
І аддаць Беларусь пакутам.

У старэйшых хацелі хадзіць браты,
Выракаліся быць крывічамі.
І суседзі сціскалі ў злосці раты,
Усміхаліся толькі мячамі.

Войны ўсе, бойні ўсе, зрухі ўсе
Беларусь аддавалі катам.
Зноў касе зіхцець у крывавай расе,
Адкляпаў яе ўвішны атам.

Сваякі сатаны гандлявалі душой,
Беларусь распіналі вякамі,
Прабівалі далоні, што пахлі дзяжой,
Не цвікамі,
А мерцвякамі.

Усявышні,
Хоць крошак зор накрышы,
Разгавей беларусу вячэру.
Згінь, крумкач, не кружы,
Беларусь на крыжы
Уваскрэсне ў пакутах за веру.

Як не выдасць Бог,
Не з'ядуць вепрукі.
Толькі вернік надзеяй дужы.
Крошкі зор збяруць у Бога з рукі
Вырай —
Беларусаў душы.

Як там ні варажы,
Што там ні кажы,
Паздзіралі з храмаў крыжы
Вылучэнцы, выжлы, віжы.
І самой апраметнай заложнікі,
Цвеляць д'ябла сп'яна бязбожнікі:

І вяселле ў нас,
І ігрышча ў нас,
Хаваемся мы ў салому,
Няхай ішчуць нас.

І ў саломе, як зерне,
Знойдуць іх,
Бог сваіх,
Чорт сваіх...

*1990*

* * *

Ашчэрыцца паспееш, лёх,
Не размярзай, зямля сырая!
А недзе ўжо на небе
Бог
На свой гадзіннік пазірае.

Не мог, не змог, не дапамог...
Я пастаяў ля небакраю.
А недзе ўжо нервова
Бог
На свой гадзіннік пазірае.

На цень мой водцень смутку лёг.
Я адганяю злую зграю.
А недзе, мне здаецца,
Бог
На свой гадзіннік пазірае.

А мне б у торбу ўзяць пірог
І аж да веснавога граю
Ісці,
Каб стаць на свой парог,
Нібыта на прыступак раю,
Паспець,
Пакуль ласкавы Бог
На свой гадзіннік пазірае.

*1990*

## А ШТО Я ПАЖАДАЦЬ МАЮ?

Колькі вякоў у Кітаі
Кожны сабе жадае
Нарадзіцца і жыць ў Ханчжоу,
Харчавацца ў Гуанчжоу,
Ажаніцца ў Сучжоу,
Паміраць у Лючжоу.

Адпаведна ў Ханчжоу
Лагодна і плодна.
У Гуанчжоу

Не бедна і не галодна,
У Сучжоу дзяўчаты,
Як ветру павевы,
А ў Лючжоу багата
Камфорнага дрэва,
З дрэва камфорнага дамавіна
Доўга захоўваць цела павінна.

Паўтараю ў Кітаі,
Меркаваць бяруся,
Што я пажадаць маю
Сабе і сябру ў маёй Беларусі?

Нарадзіцца і жыць па-людску
У Слуцку,
Харчавацца ў Белавежы,
Дзе ежа свежа,
Ажаніцца ў Полацку,
Каб ад палачанкі
Аблізвацца, як ад мачанкі,
Было, —
Да чарнобыльскай эры
Так было пажадана.
І на вечны спачын —
Толькі б не рана! —
Адыходзіць
У зямельку, некалі шчыруюю,
Можа, паўсюль-такі —
Радыяцыя на вякі
Забальзаміруе.

*1990*

## ЯК У КАЗЦЫ

Казка робіцца явай сёння:
Бабка любая ў зоне,
Тупаць не захацеўшы пехаць,
Можа ў госці ехаць
На печы,
Можа ў космас ляцець
На печы,
Як на ракеце,

І гасцяваць у Сусвеце,
Покуль здароўе трывае.
Бо ад Перуна ў сакрэце
Паліць печку сваю
Радыеактыўнымі дрывамі.
А дзеці і ўнукі
Лахі пад пахі —
І папкі —
І абтрэслі рукі
Ад радыеактыўнай бабкі.
А бабка
Радыё слухае,
Як яно лье з паслугаю
На патэльні маны
Ялей,
Дзе пякуцца абяцанак бліны.
Бабка жыве, як у казцы:
Чым далей, тым страшней.
І яшчэ даплочваюць бабцы
Трыццаць такіх нявінных
Рублёў дамавінных...

*1990*

## ЛЯВОН БАРАЗНА

Лявон Баразна,
Як грыбы грыбнік,
Збіраў беларускія ўзоры, строі.
Цягнуў адзін, бо быў караннік,
Знаходак воз у добрым настроі.

Лявон Баразна
Маляваў старых,
Бо адчуваў, што ніколі
Старым не будзе, і кожны штрых
Жыў на палотнах ягоных
На волі.

Лявон Баразна
Піў чарку да дна
З паненкамі на закуску,

Рабіў дацямна,
Любіў давідна
Па-беларуску!

Захавала Лявонава баразна
След босы Скарынаў,
Крыўда ва ўсіх на Лявона
Адна,
Што рана
Сваю Беларусь пакінуў.

*1990*

## ЯБЛЫНЯ

*Сяргею Навумчыку*

На нажах скразнякоў азяблая,
Змоўклая ў крывавай расе,
Беларусь —
Адзічэлая яблыня,
Хто ні едзе — цябе трасе.

Карані твае лезуць з пекла ўсе,
Чужакі паламалі сукі.
У курадыме завязь спеклася,
Долу валяцца гарчакі.

Сад славяншчыны здрадай збэшчаны,
Што ні ствол — скалелы шкілет.
Ад Смаленшчыны аж да Брэстчыны
Цвет ляціць
На капытны след.

Болем
Карта кары палаплена.
Час тваіх не шкадуе меж.
Беларусь —
Незасохлая яблыня,
У атожылках ці адрасцеш?

*1990*

## MEA CULPA

Каб лёс
Не гнуў з мяне ду́гі,
Не выпусціў з мяне духí,
Матчынай хаты
Клапатлівыя духі
Пасвяць, як пастухі,
Гадоў маіх статак,
Што маўкліва радзее.
Калі б гадоў да ста так
Даў Бог на дастатак,
Тады б вятры-дабрадзеі
Дзьмулі б не дужа
І толькі ў спіну.
Ды сам свой папрок адкіну,
Сабе самому скажу я: дружа,
Дзякуй скажы і на тым,
Што маеш.
А што ты пусціў на дым,
Сам вінаваты,
Сам аблавухі.
Клапатлівыя духі
З матчынай хаты
Далі табе дні залатыя.
Яшчэ пячэцца ў прысаку бульба,
І ты паўтары за латынню:
Mea culpa, mea culpa,
Mea maxima culpa[1].

*1990*

## ВАРАЖУ НА ВЯЛІКАЙ КІТАЙСКАЙ СЦЯНЕ

На Вялікай кітайскай сцяне,
Ад самога сябе далёкі,
Ці забыла мяне,
Ці не?
Варажу —
Абрываю аблокі…

*1990*

## ПРАЦЯГ ВЯКОЎ

На белай кашулі чырвоны пісяг
Ад злосці падступнага меча.
Бел-чырвона-белы балючы сцяг
Склікае на сумнае веча.

На веча,
Дзе ў вечнасці мусім спытаць,
Ці нам заставацца народам,
Ці толькі аб’едкі надзеі спытаць
І моўкнуць, і глыбіцца ў одум.

Ці нам у агульным застоллі людзей
Паблізу ля покуці сесці.
Ці ціха чакаць, каб які дабрадзей
Наш хлеб не пярэчыў нам есці.

Узвіўся, як крык, на крыжацкіх касцях,
І погань кіруе ў прадонне.
Бел-чырвона-белы крывіцкі сцяг
У вечным памкненні Пагоні!

*1991*

* * *

Сухотныя крыгі.
Канае люты.
Варона сухар размочвае
У конскім следзе.

След непадкуты,
Як непадкутая доля воўчая.
А доля воўчая чэзне, менее
У прагнай дзяльбе.
І радзее зграя.
Адно вароны, як чорныя геніі,
Абсяг крыжуюць да небакраю.

*1991*

## ДВАЦЦАЦЬ ПЯТАГА САКАВІКА

Дваццаць пятага Сакавіка —
Годны дзень Беларускай Дзяржавы.
Веснаплынных вятроў талака
Пыл з кароны атрэсла іржавы.

Шматавалі нас досыць арлы
І з адной і з дзвюма галавамі.
Мы не з нейкай бязроднай імглы,
Нас вякі, як сваіх,
Гадавалі.

Мы — ратаі святла,
Крывічы,
Верхачы неўміручай Пагоні.
Маладзік сакалом на плячы,
Гартны меч у цвярдое далоні.

Лучыць нашыя мары рака
Бел-чырвона-белага сцяга.
Дваццаць пятага Сакавіка —
Наша свята,
Пароль
І прысяга!

*1991*

## ЯК ТРЫВАЕШ?

І як хапае ў Цябе дабрыні
І цярпення ўвогуле,
Каб у свае несканчоныя дні
Чуць столькі хлусні,
Бачыць гэтулькі погані,
Гэтулькі поскудзі?
Як Ты трываеш,
Госпадзі?

*1991*

* * *

Мамы не стала — не стала радзімы,
Дзе нарадзіўся старэць,
І падалася душа ў пілігрымы
З мараю маму сустрэць.

Доўга блукала,
Гукала дарэмна
Маму душа ў халадах,
А назбірала знявер'я бярэма
На перазяблых слядах.

Досвіткам бачыцца цень нелюдзімы
Голай душы на вятрах.
Мамы не стала — не стала радзімы.
Страх пасяліўся ў вірах.

*1991*

* * *

Гнеў мора
Моршчыць свой лоб Сакратаў,
На даляглядзе размыўшы
Нябесны тын,
І, як пасля допытаў
Вязень з-за кратаў,
Выплёўвае зубоў бурштын.

*1991*

## ПЕРАД ПОШЧАКАМ

Блакітна дрыжыць бліскавіцы кроіва.
Краявід сшываецца
З кволых штрышкоў.
Гітару вярбіны вясна настройвае —
Падкручвае белыя калкі каташкоў.

*1991*

## СЛУХАЮЧЫ МОРА
*Хваля-паэма*

*Леаніду Дранько-Майсюку*

Мора — чарупіна Бога,
якую ў гуморы Усявышні
прыкладвае да вуха, каб пачуць,
як гудзе трывога.

Мора — нервовыя шалі,
на якія духі глыбіняў
настрой надвор'я паклалі.

Мора — глыток акіяна,
яго акіян у маркоце
доўга трымае ў роце
нерассмакавана.

Як камень-лізун карова,
мора языком, ад пяску казытлівым,
бераг ліжа, жмурачыся белаброва.

Нябеснае мора, і мора зямное.
Глядзі ў адно, каб бачыць другое,
а кожнае з іх па-свойму жыве гаманою.

Салёна жартуе вясёлае слова:
гора маё, гора — хата, як мора,
а за вугол трэба вон хадзіць абавязкова.

У песні свацця ў п'яным гудзе
пусціла сікі на чаравікі,
прыгаворваючы: усё ў моры будзе.

Работы мора, а рабіць няма каму.
Зямля мора слёз праліла,
солі, як долі, наплакала.

Як на моры без вясла застацца —
аднаму, і толькі гора паўтарае, як мора,
адно — прыслухайся: пра-ца, пра-ца.

Мама мая маладая
у Задаброцці на камені, які рэчка Добрыца

гладка абгладзіла, бялізну прызімкам прала.
Яшчэ і цяпер яе маладзенькі голас там халадае:

А як пайду я на сіне мора
Платкі праць,
А як зойдуцца мае ручачкі,
Хоць ты плач.

І прыходзіў рыбак, што зваўся Іванам,
і ручкі грэў губамі гарачымі і цёплым жупанам.

Мора белае разлівалася гэтак, бывала,
што толькі комін з хваляў тырчэў,
а мору выстыламу было ўсё мала.

І па хвалях ішла ці плыла, як плотка,
у белым кажусе, у белай хусціне,
лёгкая на ўспаміне, Зімавея — крамяная цётка.

Мора рунявае ад ганка да далягляду
разлівалася і залівала, буяючы,
сцежкі стаптаныя і платы, як плыты, і грады.

І, аж шапталася з ветрам сукенка,
па хвалях ішла на галаве з вянком,
на плячы са збанком, дзе бярозавік смяг,
з вачыма затуманелымі Веснавея —
недаткнёнка-паненка.

Мора зялёнае па вершаліны высокія
разлівалася, і плылі ў ім гаі, і дубровы, і паплавы,
і ўзлескі перагукваліся канямі, сойкамі.

І, аж падалі цені ніца,
па хвалях жураўкай плыла з аблачынкай на галаве,
з перапёлкаю ў рукаве
Летавіня — рухавая маладзіца.

Мора бурштыновае ад ускоту і да закоту
разлівалася, загадвала млынарам загадку
(поўна печ перапеч, а пасярэдзіне кныш),
чакаючы асцюкаватага абмалоту.

І са жніва, як з гуляння,
па хвалях ступала са званочкам пад падалочкам,

з пацьмячком снапком ці з сынком Асянея —
мажная паня.

Мора — павелічальнае шкло, якое Ярыла
наводзіць зайцу на пяткі, і той
без аглядкі імчыцца ў кусты як сіла.
Ды неспадзеўкі дагоняць падпаленага папеўкі:

Ці бачылі, мальцы,
Баравога зайца,
Сам шэр, хвост бел,
Паджарыя... (у рыфму).

Мора — начоўкі, у якіх чалавецтва
купала міфы, легенды, паданні —
яшчэ галазадых сваіх немаўлятак.
І азёры мае — Чарсцьвяды, Вечалле, Чаравечча
таксама ад мора вядуць свой пачатак.

Мора — вясляр, што не ведае зморы,
вяслуе, вяслуе, вяслуе,
ды нікуды не вырвецца з цеснай каморы
і не наракае на долю злую.

Выдмы — застыглыя хвалі.
Хвалі — рухавыя, зменлівыя, як настрой, выдмы.
Аблокі несуцешнымі выдмамі сталі.
Мора, вядома, Бог усеўладны выдумаў.

З прадоння вырвацца марыць з часам
сцятая берагамі прастора.
Толькі цішыня са скрухаю сам-насам
слухае, як шумяць беспрытульныя думкі
мора.

*1991*

## ЗДАЕЦЦА...

З берага пачынаецца небасхіл,
З небам мора мжыста злілося.
Як Дубоўка пісаў,
Чуцен чаек сквіл.
Разлілося рознагалоссе.

І, здаецца, буру суцішыў Хрыстос,
Змусіў гнеў прарасці лясамі,
Рыбакам-цвёрдаверам зыначыў лёс:
Сталі душаў людскіх лаўцамі.

Гэта ў моры ці ў небе
Трымцяць сляды?
Днее снег чаечага пер’я.
І душа прагне трапіць у невады
Веры,
Вырваўшыся з нявер’я.

*1991*

* * *

Чалавек, як і дрэва,
Расце, карэніцца,
Галее паволі ствол,
Засыхаючы, ападаюць сукі
Знаёмых, родных, сваіх,
І толькі карані
Глыбей ідуць у зямлю,
Напамінаючы пра вечны дол.
І вершалінам памкненняў
Адно на зямлі застаецца —
Трымацца за неба...

*1992*

## ПАРЫЖСКАЕ ПАХМЕЛЛЕ

Насцярожанасць настаўляе каўнер.
Страх у турму ідзе без канвою.
На стале бутэлька шампанскага,
Як Апалінэр[1]
З забінтаванаю галавою…

*1992*

## ДЫК ЯК?

Спісяжваў нам спіны
Варшаўскі бізун,
Спасажваў з роднае хаты
Маскоўскі бот,
Узважваў наш лямант
Берлінскі штых.
Ды нас ад вятроў затуляў
Лясун,
Дрыжаў за нас на марозе
Чарот.
Мы з тых,
Хто на зорах калыша
Свой род.

Плечы горбілі нам
Абраз хатулі,
Гнеў свой насілі мы
У рэзгінах ды ў бярэмцах.
Мы былі, мы жылі
Пры паляках, расейцах,
Пры немцах.
Маўчалі ў кулак.

Дык як,
Адвіхурыўшыся ў завірусе,
Стаць нам
Гаспадарамі свае зямлі,
Беларусамі ў Беларусі?
Ці засвярбяць,
Ці хоць забаляць калі
Сціснутыя ў кулаку мазалі?

***1992***

## Я — АРЫЕЦ

Я — арыец,
Гэта значыць з аратаяў,
З суверэнных, ссівярэлых крывічоў,
На зямлі яны жылі не для харчоў,

З сёмым потам кнігу ворыва гарталі.
Фіміям ішоў смалісты ад карчоў.

І аралася, й радзіла ўсё ў арыйцаў,
На сяброў у іх ставала дабрыні,
Не прымалі хцівасць, Божа барані,
І ставала злосці хціўцам не скарыцца,
Перамогу пераймалі на кані.

Ды суседзі, што мядзведзі з перасыпу,
Ледзь ад зайздрасці не грызлі валуны.
Род крывіцкі ненавідзелі яны,
Ненавідзяць гэтак трутні ў цвеце ліпу.
Аратаяў спавядалі перуны.

Крывічы крывіць душой
Не мелі моды.
Ад плугоў, а не ад мечаў мазалі.
Дзякуй, продкі,
Што ў радню сваю ўзялі!
Я — арыец,
Прысягаў на вернасць роду,
Як нарог,
Маёй крывіцкай аралі.

*1992*

* * *

Як матылёк свой кокан цёмны,
Душа мая
Пакіне цела.
І сонечныя верацёны
Спрадуць сарочку,
Каб зіхцела!

Бо й нарадзілася, магчыма,
Душа ў сарочцы,
Раз паспела
Зжыць недаверлівае цела
І неба падтрымаць вачыма.

Зямное ўсё
Душы чужое.
Эклезіяст спяшаў зазначыць:
Усё вачыма лепей бачыць,
Чым цёмначы блукаць душою.

У руху ў несупынным коле
Душа адчуе
Подых Ойчы.
Зямлю наведае аднойчы,
Ды мной
Не будзе ўжо ніколі...

*1992*

## РЫГОР БЯРОЗКІН

З пасмаю дыму ад папяроскі,
Заламанай па-кавалерску за вухам,
Дыміўся кратэрам
Рыгор Бярозкін —
Кволы здароўем, дужы духам.

Турмы, лагеры, фронт, уцёкі
Прайшоў з усмешкай нялёгкай
Смела.
Ён чуў здалёку Паэзіі крокі,
Якая яшчэ і хадзіць не ўмела.

Сябры яго звалі вясёла
Рэбэ.
Настаўнік быў сам
Да навукі ахвочы.
Дасюль глядзяць мне ў душу,
Як неба,
Ягоныя вечныя, біблейскія вочы.

*1992*

## ДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Беларусы ўсіх краёў, яднайцеся!
Нас няшмат, а будзе менш яшчэ,
Як адступім, зломімся пад націскам,
Як ад нас рашучасць уцячэ.

Праз усе вякі нас толькі ціснулі
І хадзіць хацелі, як па тлі,
Нас душылі волгамі і віслամі,
Кожны тужыў зашмаргу пятлі.

Нас турылі з Бацькаўшчыны, з Дзедзіны,
Нам, панам крывіцкае зямлі,
Котласы, Чарнобылі адведзены,
Маем права мы на мазалі.

Нас палілі, катавалі, пратталі,
Малацілі нас, нібы кулі,
Каралі, забойцы, імператары
І бацькі працоўных мас,

Калі
Беларусь, як палатніну, кроілі
На мундзіры ды на каптаны,
Каб магілы з нашымі героямі
Уціскалі валуны маны.

Над святынямі пазруйнаванымі
Паклянемся дбаць пра карані.
Будзем Янкамі, а не Іванамі,
Што не ведаюць свае радні.

Працавалі мы на ўсе імперыі,
Папрацуем на сябе, браты.
Дык адродзімся душой і вераю.
З намі Бацька Бог
І Дух Святы!

*1992*

* * *

Язэп Драздовіч[1], —
Павятовы Мікеланджэла,
Знаёмы быў з Сатурнам і з Ярылам.
А доле
Па-скупечы доля ўсмешку важыла,
Не дазваляла развінуцца крылам.

І ён, адкопваючы замчышчы й паганішчы,
Вяртаў дамоў крывіцкі дух забраны.
Пусты булён
На посным вогнішчы таганячы,
Стаяў каля апостальскае брамы.

Ніжэліся пад мастаковымі паглядамі
У церамы Ўсяслававы парогі.
Драздовічавымі кілімамі пулятымі
Усланы ў беларускі дзень дарогі.

Рупліўка ластаўка вяшчуе дзень,
Гняздо ўючы,
І праллі лёсу натамляюць верацёны.
Язэп і хлеб
Перагукаліся Драздовічу.
Духоўны стаў
Ягоны хлеб надзённы.

*1993*

## І Ў ДУЖКАХ

А лес расце (яго карчуюць),
Угору йдзе (туга расце),
Гамоніць лес (яго не чуюць),
Маўчыць (прыволле глухаце).

Гусцее лес (чакае ляда),
Дужэе лес (не спіць пажар),
Лес хіліцца (сякера рада),
Ўсыхае лес (пілуй, трунар).

Цямнее лес (душа жывая),
Гайдае спеў (на злосць бядзе),
Лес-беларус (усё стрывае),
Маўчыць, як дол (а ствол гудзе!).

*1993*

## СЕРП І КІЙ

Загінае свой палец серп,
На давер выклікае калоссе.
Хоць калоссю трываць няўсцерп,
Ды ад страху яно галосіць.

Кій збівае свой востры нос
Аб карчэўе ды аб каменне.
Кій да павадыра дарос,
Каб дарога кружыла меней.

Не абразь іх і не знявеч,
Кожны быў спаконвеч
Самавукам.
І выпростваўся серп на меч,
Кій згінаўся,
Каб стацца лукам.

*1993*

## НАД ВОЗЕРАМ ЛЯ ГЛЫБАЧКІ

*Сяргею Законнікаву*

Настрой як стаў на дыбачкі,
Так і звякуе.
Над возерам ля Глыбачкі
Зязюля кукуе.

Лілейнай пупавінаю
Перапавіта скруха.
У імя Айца й Сына і
Святога Духа
Кукуй, вяшчуха.

Гукні на ўсё наўколлішча
Навіну такую,
Пад гэтым небам колькі йшчэ
Я пракукую?

Мне, куфру ўжо бязвекаму,
Не ў страхі страта.
Хоць некаму, хоць некаму
Наабяцай багата.

Ніхто й хвіліны —
Веру я —
Мне не пазычыць.

Табе ж ці лёгка,
Шэрая,
Паабяцаць, пазычыць?

*1993*

* * *

А свечкі ўсе васковаабавязаныя
І ўсе павінны ў воску адслужыць,
І ўсе адной суровай ніткай звязаныя,
Як доляй той,
Што з полымем дрыжыць.

Па крапіве, па лотаці, па блёкаце
Са старасветчыны ступае страх.
Самаасвечаны стаіць на покуці
Васковы посах у апошні шлях.

*1993*

## ДЫХАННЕ

Здаецца,
Рака сабе вены ўскрые.
Рыбацкае шчасце
Давязвае сетку.

Спакойна
Зношаныя старыя
Пра смерць гавораць,
Як пра суседку...

*1993*

## ХАДАКІ

Магільнік шэпча:
— Ідуць мерцвякі...
Глядзяць жабракі:
— Ідуць медзякі...
Смяюцца грубкі:
— Ідуць мерзлякі...
Скрыпяць вазы:
— Ідуць ездакі...
Зяхаюць харчэўні:
— Ідуць едакі...

Па-свойму ўсе хадакі —
Сваякі.
На кожнага ў іншага
Позірк такі.

*1993*

## ДАРОЖНАЯ ГРАМАТЫКА

Запамінае восень слова
Kalt[1].
Далёка йшчэ да белых падзяжоў.
Надледзянелы з раніцы асфальт
Прабіты пасашкамі капяжоў.

Абцас дакладны
Тут ступаў не раз,
Брук, як свайго, дапытваў:
— Was ist das?[2]

Калі са шпорай бот
Ляцеў на фэст,

Пыталіся прысады:
— Co to est?[3]

І каблучок,
Пацокваючы смела,
Вяз у асфальце спёкаю:
— В чём дело?[4]

Гамаш, з падэшваю
Працёрта-мяккаю,
Ашчэраны
Адно спрагае:
— Дзякую!

*1993*

* * *

Каля Гасподняй Дамавіны —
Укленчыць і апасці ніц,
Як ліст,
Што адляцець павінны
Пад блаславенне бліскавіц.

Пліта халодная, як розум,
Паразумеецца з душой.
Спакой абдасць такім марозам,
Што ў гэтым свеце ўспомніш той.

Чый Бог адзін за ўсіх хварэе?
Смяецца з нашых звадаў лёс.
Бо ў старасці мы ўсе —
Яўрэі,
Як малады Ісус Хрыстос.

*1993*

## ЕРУСАЛІМ

*Міхаілу А. Фарфелю*

Млечны Шлях, як радасны кілім,
Любяць развінуць нябёсы поначы,
Каб душа, йдучы ў Ерусалім,
Не блудзіла ў цемры,
Бога помнячы.

Колеры світання й палыну,
Колеры няспыннасці й нязменнасці
Апранаюць міг у даўніну,
Важаць час
Празрыстымі бязменамі.

Як на мулкіх зорах,
Горад лёг
На пагорках, дзе начуе раніца.
Блізка лог,
Дзе ўсіх збірацьме Бог
Судным днём,
Што ўсім апошнім станецца.

А вядуць не ўсе дарогі ў Рым,
У Ерусалім
Ідуць нястомнікі.
На магільніку, як дым, сівым,
Скалянелі камяні-паломнікі.

Тут да Бога блізка, як нідзе,
Аж чуваць,
Як Немінучасць дыхае.
З Вока яснага сляза ўпадзе —
Стане Бэтлеемам сэрца ціхае.

*1993*

## У ГЕФСІМАНСКІМ САДЗЕ

Каб дзе антонаўка, каб сапяжанка.
У Гефсіманскім садзе сталасць дрэў.
Смуга й зямля —

Як цёплая ляжанка,
Каб смутак плечы сцёртыя сагрэў.
На тое сад і гадаваў
Садоўнік,
Каб тут аземіў думку
Бог жывы,
Каб і паломнік —
Смутку паслядоўнік —
Пачуў літанне смяглае травы.

У Гефсіманскім наквець адшумела,
А ў садзе
Недзе каля Ціханят
Антонаўкі ды сапяжанкі смела
У кулачках трымаюць
Страх зярнят...

*1993*

## ТРЫПУТНІК

### I

Ерусалім — хаціна Саламона.
Страха накрыта
Сонечнай саломаю.
Акропленае праведнасці лона
Слязой,
Як з мора Мёртвага,
Салёнаю.

### II

Ад ускоту аж да закоту
Сонцу хапае сілы
Трымаць спякоту
І настрой свой прыўзняты,
Як бы цыбатацене паўдзён ні рос.
Ерусалімскія схілы —

Як тыя непад’ярэмныя асляняты.
І мроіцца ўяве нядрэмнае,
Што на неаб’езджаным недзе
У горад уедзе
Ісус Хрыстос.

III

Раскрыжаваныя рукі —
Нібы
Разнятыя для палёту крылы.
І голас архангельскае трубы
З крыніцы смагі нап’ецца сілы...

І ўбачыш такое ў сабе самім,
Што пабаішся пасвіць вачыма...
Аднойчы ўвайшоўшы ў Ерусалім,
Не зможаш
Выйсці з Ерусаліма...

*1993*

## МАНАСТЫР ЛАТРУН

Тут сам сябе саромеецца крок.
Халодных сцен халодная ахова.
Пятнаццаць год маўчаць
Далі зарок
Манахі,
Каб ачысцілася слова.

З манахамі маўчаць
Віна, бяда,
Трывога ды гарластыя навіны.
Гавораць моўчкі позіркі, хада.
Кранае цішу ўсмех
Ды ўсхліп нявінны.

І толькі манастырскае віно
Прыняць зарок не хоча
Надта хмуры.

Адно
За ўсіх смялей шуміць яно,
Вяшчуючы народзіны й хаўтуры.

*1993*

## І ДАГЭТУЛЬ...

Тут жыў рыбак Сымон.
І камяні
Як быццам і дагэтуль
Пахнуць цінай.
Было —
Чакалі сеткі глыбіні,
Аблокамі навісшы над хацінай.

І мора Галілейскае ўраджай
Не выпускала з хвалістых засекаў,
І рыбакі пачулі праз адчай:
— Я вас зраблю лаўцамі чалавекаў...

Назваў Сымона Пётрам Бог жывы,
Каб збыўся каменем Царквы Ягонай.
І, гаспадар гарачай галавы,
Апостал не спяшаўся
Стаць іконай.

Ён завагаўся, морам ідучы,
І пеўнеў крык пачуў,
Каб адрачыся.
І ў вернасці да скону кленучыся,
Ад брамы раю атрымаў ключы.

*1993*

## АДГАЛОССЕ

Трыкірый —
Тры свечкі святла
Айца, й Сына, й Духа Святога.
Тры полымі вера звяла
У полымя сэрца Бога.

Трысвечча.
Трохкутнік.
Трысцё.
Трысцен.
Трыадзінства.
Трыпутнік.
Спрадвечча.
Прадонне.
Жыццё.
І раскрыжаваны пакутнік.

*1992*

## СЛЕДАМ ЭКЛЕЗІЯСТА

* * *

Усё — пачатак тла і лоўля дзьмушак,
І млоснасць духу — ўсё лухта лухты.
Спадаюць дні, як ягады ў гарнушак,
І мы — як з дрэва існасці лісты.
Ёсць марны дол — карэе ў ім карэнне,
Ёсць неба мары — ў ім шумяць вярхі.
І кожны долю сам сваю сустрэне,
І знойдуць самі кожнага грахі.

Мука пакут прасеецца праз сітца
Ад халадоў знямоглай глухаты.
І ў вырай будзе зноў душа прасіцца.
Усё — лухта лухты. І ўсё з лухты.

* * *

Адпускай свой хлеб па ўдзячных водах,
Каб яго знайшлі па сплыве дзён.
Памятай бяды галодны подых.
Цешся, покуль жорны круціць млён.

Млён не любіць гнуцца, бо трывалы.
Сківіцы цяжкія ў камянёў.
Між таком і полем інтэрвалы,
Як правалы ў памяці агнёў.

Сніцца рунь праpосламу зярнятку.
На таку свой лоб не кволіць цэп.
Сноп засватаў ніву. І спачатку
Пачынае шлях нязводны хлеб.

* * *

Вокам спакойным пасі прыгажосць,
Доўга мірыся з абразаю.
Шчыра прымай весялосць, ягамосць, —
Срэбра за ўсе адказвае.

Срэбра пазычыла свету зямля,
Каб белацелае звычліва,
Браўшы пачатак свой ад мазаля,
Гнула, змушала, ўзвялічвала.

Срэбра пільнуе і сон твой, і скон,
І недаконччанай фразаю
Глушыць, і скрушыць, і радуе звон, —
Срэбра за ўсё адказвае.

* * *

Усё адбылося з праху,
І вернецца ў прах усё.
Усё падуладнае страху —
І меч, і серп, і кассё.

Нязменнае толькі тое,
Што Бог для Сябе стварыў.
І суджана сухастою
Карэннямі чуць абрыў.

Сваю не абыдзеш плаху,
Як вечна б ты жыць ні праг.
Усё адбылося з праху.
Дык значыць — нятленны прах.

* * *

Смерць бярэ мудраца й недарэку,
І нікога не вылучае,
І нікому чужога веку,
Як ліхвярка, не пазычае.

Не адрозніць зямля таксама,
Бедны розумам ці багаты.
Пазяхае спрасоння яма —
І хапае вечнае хаты.

Ды ў магілу не хочацца крозам —
Не па іх прасцяк-недашкрэба.
І наноў выбірае розум,
З кім яму пакутаваць трэба.

* * *

І стане нястрашны страх,
І пашы прыбудзе статку,
І прахам зробіцца прах,
Бо прахам ён быў спачатку.

Абух разаб’ецца ў пух,
Валун зарунее мохам,
Не будзе самотнець дух,
Часова дадзены Богам.

Прысняцца зярняты кулю,
І перадыхне знямога.
І вернецца прах у зямлю,
І вернецца дух да Бога.

* * *

Бог не скажа пра свой намер,
Чалавек свае думкі тоіць.
Што было, тое ёсць і цяпер,
І што будзе, было ўсё тое.

І вада лёд перажыве,
Неба — хмару, будзённасць — мару.

Закарціць у рыжай траве,
Як каню, пакачацца пажару.

Даланю навярэдзіць кассё.
І лаўца дагоніць здабыча.
І наноў паўторыцца ўсё.
І мінулае Бог пакліча.

* * *

Не прасі заставацца ўдачу,
Не малі затрымацца хвалю.
Сэрца мудрых — у доме плачу,
Неразумных — у доме балю.

Чалавек нараджаецца з плачу,
Хісткі дол з плачом пакідае.
Цешыцца маладосць: я трачу!
Старасць цішыцца: я — скупая...

Узляціць малітва высока.
Абначуе спагада ў храме.
Боль зямны знікне ў помірг вока,
Плач нябесны ўпадзе дажджамі.

*1992–1993*

# СЛЕДАМ ПРЫПАВЕСЦЯЎ САЛАМОНАВЫХ

* * *

Прыемна гусці ў канюшыне чмялю,
Касцу — зачынаць пракосы.
Прамудрасцю Бог заснаваў зямлю
І розумам сцвердзіў нябёсы.

Прамудрасць муруе, разьбярыць, жне.
За хмарамі розум блукае.
І перапёлкаю ў збажыне
Хаваецца вестка благая.

Да ісціны голай хоча дайсці
След нецярпення босы:
Зямля трымае нябёсы, а ці
Зямлю трымаюць нябёсы?

* * *

У вясну вадаспадам абрынуцца хоча раўчак.
Прагне рунь вымлець у непарушшы.
Чыстыя ўсе шляхі чалавека ў яго вачах,
Але Госпад узважвае душы.

А спакуса не спіць, і грузнее душа ад грахоў.
Знічкі мрояў падаюць з перапуду.
І шукае душа ад падступнай будзённасці схоў,
Верачы дабравокаму цуду.

На вагу заклапочаны Госпад душу пакладзе,
Ад людское знявагі цяжкую.
І які ёй вырак спадзе на Страшным судзе —
З ім душа на зямлі давякуе.

* * *

Сонцу кланяецца каравай.
Змрок не любіць самаадрачэння.
Ісціну купі й не прадавай
Розуму, прамудрасці й вучэння.

Ды не кожны ісціну купіць
Зможа, старгаваўшы ў дзень базарны,
З рэдкага купца вясёла кпіць
Будзе блазен, думкамі няхмарны.

Лес гадоў сплаўляюць асначы.
Быстрыня міргае вокам ласым.
Ісціну купляючы, сачы,
Каб тавар не падмянілі часам.

* * *

Ластаўка ласкаю гнёзды ўе.
Рэчка раіцца з берагамі.
Хто шануе вусны свае,
Той душу сваю зберагае.

У шырока разяўлены рот,
Як у комін вецер зімовы,
Улятае ўсялякі зброд,
Ад якога ўцякаюць словы.

Рызыка ныраe на дно
Без развагі ды без вагання.
Вусны можна будзіць адно
На малітву і на каханне.

* * *

Не глядзі, як віно чырванее,
Лепш адчуй, як ты сам счырванееў ад віна.
Галаву тваю возьме пад паху завея,
Белы хмель будзе сцежку шукаць давідна.

Чырванее віно за ўтуманены розум,
За расхрыстаны гнеў, за нахабісты крок.
Бо павінна віно заставацца цвярозым,
Каб смялейшае права было на папрок.

Клёк ваюе задзірыста з хмелем зацятым,
Ды ніколі не скончыцца гэта вайна.
Хмель прымаецца буднем, шануецца святам.
І віно ад віны, і віна ад віна.

* * *

Да багацця бяжыш, чалавеча,
І не думаеш ты, нябога,
Што цябе даганяе галеча,
А яна не пакіне нічога.

І ў яе зайздросныя вочы,
І ў яе хапучыя рукі.
Ёй таксама не спіцца ўночы,
І прайшла яна ўсе навукі,

Як дарыць лахманы на плечы,
Абдзіраць па-скупечы на ліпку.
Пачакай. Не ўцякай ад галечы —
Паскачы пад ейную скрыпку.

* * *

Лыжка драмаць не павінна ў дармовым супе.
Падабацца хадыку не мусіць слата.
Разам з зернем таўчы таўкачом у ступе
Дурня — не аддзеліцца ад яго лухта.

Бо дурных не аруць, не сеюць —
нараджаюцца самі,
Каб не сумна на свеце было мудрацам.
Як ні задзіраюцца сані насамі, —
Не зрабіцца ніколі коламі палазам.

А калі й лухта — гэта тая мякіна,
Што дамешваюць часам у праснакі?
Можа, усё ж памыляецца хітрая кпіна,
Дзівакоў залічваючы ў прасцякі?

* * *

Не мяняй свой куток на прастору чужую,
У прасторы чужой птушка гнёзды не ўе,
Пі ваду са свайго вадазбору і тую,
Што цячэ дамавіта са студні твае.

І прагоніць вада і засмагу, і стому,
І ў чужыне па краі бацькоўскім тугу.
Кожны яблык сваю захавае аскому.
Як нікому, падзякуй таму ланцугу,

Што трымае цябе верадам невыводным,
Прывязаўшы да родных мясцінаў душу.

І напоіць вада тваю рызыку й одум.
Перадасць таямніцу спарыш спарышу.

*1992–1993*

## СЛЕДАМ АПОСТАЛА ПАЎЛА

* * *

Не верце ні лёсткам, ні брэху,
Шануйце душу ў праваце.
І мёртвымі будзьце для грэху,
Жывымі — для Бога, ў Хрысце.

Нячыстыя думкі і цела
Рыхтуюць цямніцу душы.
Зняверцу распуста ўсыцела,
І горне, і шэпча: грашы!

Завершыць труна прастакута
Крывыя дарогі жыцця.
Душа да пакуты прыкута,
Заложніца веры — дзіця.

* * *

Дараг цень свой кожнаму дрэву,
Покуль ствол яго не струхнеў.
Упірлівасцю на дзень гневу
Сам сабе ты збіраеш гнеў.

І абрынецца гнеў Гасподні
Ля апошняй тваe вярсты.
Будзе страх, як убор існодні,
Палатнець на табе, як ты.

Загарыцца лісток барвяны
Недзе ля нахмураных хмар.
І за гнеў, табой назбіраны,
Атрымаеш, як сам ліхвяр.

* * *

Покуль пчол рупатлівых гуд не астыг,
Паўнавока смяяцца сотам.
Бог у непаслушэнстве замкнуў усіх,
Каб усіх памілаваць потым.

Паслушэнства ад подслуху неба йдзе.
Напачатку трэба самому
Пакіпець у бядзе, астыць у вадзе
І з чужыны прыбіцца дадому.

І на момант забыцца на вечны лёх,
І на мох над глухой плітою,
І пачуць, як душу адмыкае Бог,
Напаўняючы мілатою.

* * *

Хоць прысак у прыцемку не атух,
Халаднавата вуголлям галодным.
У незнаёмай мове моліцца дух,
Але застаецца розум халодным.

Халаднавата сэрцу ў мове чужой,
Нібыта ў неасвечаным храме,
Што поўніцца неабжытай імжой
І неўсвядомленымі дарамі.

Малітва на матчынай мове адна
Госпаду, зорам і ніцым лозам, —
Усім зразумела будзе да дна,
І ўсцешыць, і разварушыць розум.

* * *

Каму салодка і ў палыне,
За кім кульгае нуда старая.
Хто скупа сее — той скупа жне,
Хто шчодра сее — шчодра збірае.

Аддай усё, што ёсць у цябе:
Раллі — суботы, гоням — нядзелі.

Старайся раніцай у сяўбе,
Хай рунню рупнасць умаладзее.

Світанка певень свой цень здзяўбе,
Зляціць маркота зязюляй шэрай.
Паўторыць шчодрасць сама сябе,
І шчыры колас нальецца верай.

* * *

Не ўзірайся на свет варожа
На мяжы віднаты й імжы.
Хай жа зло цябе не пераможа,
Ты дабром яго перамажы.

Яд сцішаюць ядзейшым ядам,
Лом пускае трухлядзь на злом.
І нутро ўледзяніць паглядам
Зло, якое адолееш злом.

Роспач кружыць, як тая каня,
Што адводзіць страх ад гнязда.
Не баіцца дабро знікання.
Не мутнее ў крыніцы вада.

* * *

Не схаваць берагі асацэ.
Глухне храм без малебна.
Не можа вока сказаць руцэ:
— Ты мне не патрэбна.

На тое й вока, каб мерацьдаль,
Рука — каб рукацца.
Набягае калючай слязою жаль.
Мазалём плоціць праца.

Прызнае меліну глыбіня.
Сцюжай грэбуе спёка.
Ад парушыння, ад наслання
Даланя засланяе вока.

* * *

Пражэрліваму ашчэру
Свой голад не давярайце.
Збіраючыся на вячэру,
Адно аднаго чакайце.

Свой голад не ашукае
Галодная ваша вера,
Адно гамана людская
Расквокчацца, як цяцера.

У хатцы, а не ў палацы
Смялее жабрачая лера.
І можа апошняй стацца
Маўклівістая вячэра.

*1992–1993*

# НАШЧА

## ЗАХОДЗІЦЬ ЛЕТА

Туман наклаў сырое вета
На вецця перасохлы ўзмах,
І кроў зарэзанага лета
Распырскаў шарахлівы мак…

## СОКАТ

Адсырэў у аблоках ветах.
Уцякаюць ад навальніцы
Конікі на веласіпедах, —
Толькі часта сакочуць спіцы.

## БРАТЫ

Для хмар
Над дахам ці над вольхаю
Дождж і пажар
Шумяць аднолькава...

## ХВОРАСТ

Слава,
Быццам з хворасту агонь,
На якім і бульбу не зварыць, —
Хутка загарыцца і згарыць.
...Толькі прысак ападзе на скронь.

## ЗІМЕЕ...

Смуга не каецца ў сваёй правіне.
У суравея прападае пыха.
Счарнелыя вулканы кратавіння,
Прысыпаныя снегам,
Стынуць ціха...

## ЗАВУЛАК

Няма чым месту прыкрыць свой плех,
У засені ўзнікнуць бы нанаў.
На шалях ляжаць,
Як нязважаны грэх,
Сцюдзёныя пальцы бананаў.

## РАПТАМ...

Снегу гэтулькі шмат,
І да таго ён белы,
Што, як таму каню,
Захочацца раптам травы
Сырой, нявыспанай,
Такой — каб аж цуглі пазелянелі.

## ПАЧУЛАСЯ...

Мароз. Прытома. Беласцежжа.
Лянее люты ля мяжы.
І мне пачулася з разбежжа:
Сініцы точаць лемяшы...

*1993*

* * *

Што валун?
Толькі бокі вылежвае
У зліналым сваім каптане.

А зямля з-пад рыдлёўкі
Вясною
І абветранай баразною,
І магілай свежаю
Тхне.

І пасланніцай Усявышняга,
На грахоўнай зямлі святая,
Маладзенькая вішня
Першы раз зацвітае.

...Што магіла,
Што градка —
Адна ў іх апратка...

*1994*

## BONO SENSU

Не толькі грэцца ля цёплай грубы
Ды чаравата хварэць на пана,
Агні, і воды, й медныя трубы
Прайсці ў жыцці нам наканавана.

Агні гартуюць, халодзяць воды,
А трубы медныя лашчаць зманна.
Ля крупадзёрні чакаем лагоды,
Там, дзе дзярэцца нябесная манна.

Калі ж мы вернемся да гасподы,
Той самай,
Дзе ў печы гліняныя поды,
І вусны жвіровыя сціснe магіла,
Не запытаўшы нашае згоды,
Наноў разбудзіць агні й воды
Труба Гаўрыіла.

*1994*

## ПАШТОЎКА

Праз вякі будзе заўтрам
Чорнае ўчора.
Жыццё скранулася ў красавіку.
Не знікнуць нікуды ад гора
Ні няўклюдствам, ні спрытам.
Нікому не быць ад бяды
Ні ўбаку,
Ні збоку.
Бо жаху —
Бацьку жуды —
Няма ні ўседу, ні ўлогу.
Гарачым графітам
З чацвёртага блока
Што напісаць
І куды?

Толькі на неба.
Богу.

*1994*

## СКІБА ВОЛІ АРЖАНАЯ

Любіце хлеў
І заплывайце здорам,
Хто моліцца
На ўлежнасць ды на ўежнасць,
А тых,
Каго пячэ гаючы сорам,
Чакаюць
Воля, Роўнасць, Незалежнасць.

Хто любіць волю сэрцам апантаным,
Таму чужой няволі не бывае.
І лязгат кайданоў за акіянам
Такі ж сіберны,
Як і ў родным краі.

На вольнасць у Расіі позірк косы,
Ён косіць луг нязломнікаў Касцюшкі.

Шматуе беларускія нябёсы
Сувораву на ордэнскія стужкі.

Дух сыціць
Скіба волі аржаная.
У роўнасці нязменнае найменне.
Над нашай Незалежнасцю лунае
Касцюшкавага меча благаславенне.

*1994*

## СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЦАМ

Пакутнікаў хапала нацыі,
Змаганцаў не было каб густа.
Паўстанцы слуцкія!
Выгнанцамі
Акрыла вас жалобы хуста.

Як і ў часіны Каліноўскага,
Паўстала шляхта й аратаі.
Анёлы —
Воі войска боскага
Хацелі быць у вас братамі.

Вы не чакалі раю скорага,
Да чужакоў не мелі веры.
Вам з двух бакоў хапала ворага.
Вам адчынялі ў пекла дзверы.

Паўстанцы!
Вы ўвайшлі ў гісторыю,
Трывацьмеце ў ёй ныне й прысна.
Свая зямля была апораю.
У сведках Семежава й Вызна[1].

Палеглі вы,
Ды жыць працягвае
Гнеў, не затушаны гадамі.
Дасюль ваш спеў гучыць прысягаю:
— Мы выйдзем шчыльнымі радамі[2]...

*1994*

## БЕЛАРУСАМ У ВЫРАІ

З дому гналі нас маскоўшчыны сівяры
Пры цары,
Род наш звесці хацелі на ветах
Пры саветах.
Нам турму муравалі
Чырвоныя муляры
Ў радасных бальшавіцкіх дэкрэтах.

Кралі наша і бралі, што маглі,
Маскалі,
Смакавалі з пагардай прысмакі
Палякі.
У каго дык гу́лі
Ашалела гулі,
Мы з хаўтураў брылі, небаракі.

Мы сплаўляем вякі,
Аснaчы-крывічы,
Мы не знікнем на радасць чужынцам.
І завём,
З выраю думкамі летучы,
Млечны Шлях Беларускім Гасцінцам, —
Да яго не дацягнуцца каты,
Ім вяртаюцца душы дахаты...

*1994*

## НЯМА КЛАДАЧКІ...

Ну, вядома, што не забылася,
Не заелася хітрымі стравамі.
Зноў крывіцкае сэрца забілася
Ці ў Амерыцы, ці ў Аўстраліі.
Прыгадала снягі сыпучыя
І самое сябе засмучвае.

...Там на хрэсьбінах,
На запоінах
Ці завеі, ці йскрыпкі пілікаюць.
І ў лясах успамінаў замроеных

Цёпла выюць ваўкі ў Пілілаўку.
Ах, Калядачкі,
Бліны-ладачкі!..

Ды няма
Цераз мора кладачкі...

*1994*

## КАЛІНОВЕЦ

Як п’е гарэлку бедна басота,
Згадаўшы чуллівасці грэшны смак,
Спявае маркотна Зянон Пазьняк
Караткевічаву песню любімую.
Ажно засаромелася пяшчота:
І я самоту слязьмі не вымыю...

Здалося,
Ранішні Каліноўскі
Марыську прымроіў,
Адчуўшы скон.
Зянон —
Беларуссю саснёны сон,
Што зноў пачувае сябе
Дзяржаваю.
Хутчэй з плячэй
Чужыя абноскі,
Няколка йсці маладой атаваю.

Тварыў бы, думаў
Сабе ў асалоду
Паэта, мысліўца, мастак,
Аднак
Пазьняк —
Як той перазяблы грак —
Сагрэецца баразной узаранаю.
Пан Бог
Паслаў каліноўца народу
Вярнуць душу
І Айчыну забраную.

*1994*

## НА ДВОЙЧЫ СЁМЫМ НЕБЕ Ў АЛЕГА МАЦІЕВІЧА

Вока жмурыцца.
Душа піцуе.
Пасмы ўгору. Барада набок.
Толькі пэндзаль у руках гарцуе,
Як перастаялы жарабок.

Змрок
Па апраметнай цемры тужыць.
А вагар святла журбу хіне,
То раздзьмухвае,
То цішыць, тушыць
Фарбавы пажар на палатне.

Успамінам цесна,
І цяперака
Хочуць як даўжэй застацца там
З Елісейскіх поймаў мільянерка
І змяя пяшчоты з менскіх дам.

Таямніца прыцемку і зерня.
Цені на калінавых мастах.
Містыка. Містэрыя. Майстэрня.
Маці,
Маціевіч. Маг. Мастак.

***1994***

## ТРАЕЦКІЯ ДЗЯДЫ

*Марыі Андруковіч —*
*з падзякаю за аер*

У хаце дыхае аерам, маем.
Схаваўшы цень свой пад крысо,
Дзяды
Траецкія прыйшлі.
Мы іх прымаем,
Чым маем:
— Хоць спачніце ад хады!

Маўчаць Дзяды,
Маўчаць, як аблачыны,
Што мусілі праліцца цішынёй.
І прыцемкаў забытых
Пух качыны
Змятаецца нябеснай даланёй.

Траецкі дождж
Паволі любіць ліцца,
Чакаў,
Калі прыйшла пара касіць.
Стараецца дарэмна бліскавіца
Сама сябе за локаць укусіць...

*1994*

* * *

Дзякуй Госпаду за дазвол
Папрысутнічаць на бяседзе,
Дзе на ўсіх засцілаўся стол,
Дзе прыткнуўся я
Збоку недзе.

Дзякуй Госпаду за дазвол
Слова мовіць на той бяседзе,
Дзе стагнаў ад рогату дол,
Сум яшчэ не прасіўся ў суседзі.

Дзякуй Госпаду за дазвол
Затрымацца на той бяседзе,
Дзе трымаўся,
Як плот за кол,
Змрок за зорку ў капытным следзе.
Час усё скапыціў наўкол.
Свет цямнець навучыўся ў медзі.
І прыходзіць канец бяседзе.

Дзякуй Госпаду за дазвол!

*1994*

## АКРАЙЧЫК

Сп’янелы прыцемак хістаўся.
Хмыз ценяў
Трушчыў крык, як дзік.
І ад застолля дня застаўся
Акрайчык сонца —
Маладзік.

А там і дапілі, й даелі
Ўсё на пакацістым стале
Усе, наколькі духу мелі.
І падаліся прэч.
Але

Пакінулі, каб разгавецца,
Акрайчык
Цішыні начной
І хмарцы —
Збродлівай авечцы,
І туманам —
На сырадой...

*1994*

## БАГІНЯ

А мама багіняй была.
Куліна —
Багіня кухні.
Устаючы да святла,
Багоўнічала ля катла,
Каб з голаду мы не пухлі.

Мы — гэта я, певень, кот,
Карова, парсюк ды казкі.
Вітаючы сонца ўсход,
Мы дбалі пра свой жывот,
Чакалі ад мамы папаскі.

На кут дакульгваў услон,
У сенцах мерзлі кадушкі.
Булён быў слязьмі бялён.

На жар клаў далоні клён.
Грэў жарт ад пяра жарт-птушкі.

Працавітая, што вада,
Не ведала мама ні ўседу, ні ўлогу.
Хоць першы паспытак рабіла бяда,
Ды ўшацкай багіні кухні яда,
Я веру, прыйшлася б да смаку
Богу.

*1994*

## МУСІЦЬ!

Цар-звон,
Што голасу свайго не чуў ніколі,
І Цар-гармата,
Што ядра не праглынула,
Народ вялікі,
Што не меў маленькай волі,
Двор непрылюджаны,
Дзе ні кала, ні шула...

Хто марнай марай цараваць
Жыве,
Той мусіць мець цара
У галаве!

*1994*

## ХАЦЕННЕ

Я — Карфаген, разбураны табою,
Мне не падняцца ў неба з-пад руін.
Глухі палын
І прыцемны ўспамін
Не разбудзіць архангельскай трубою.

Яшчэ дасюль душа не верыць болю.
Вятры,
Вяртаючыся з пагасцін,
З сабою знеслі весніцы вясцін,
Дзе радасць разміналася з журбою.

Як белы свет,
Самотнею адзін,
Я — Карфаген, разбураны табою...

*1994*

## ШТО?

*Ілоне*

Абняла агонь несутрымны
Так Венера Мілоская —
Аж
Абязручыла,
І наўсцяж
Паплылі закаханыя гімны.

У часіну людскога прыбою
Кожны хоча быць на плыву.
Ніка страціла галаву,
Дажынаючы поле бою.

Льга, відаць,
Запытацца ў Бога,
Што вядзе жыццё па жыцці, —
Ці мілосць бязрукая,
Ці
Безгаловая перамога?

*1995*

## ЯРМО

Не літасцю
Вяжа снапы вязьмо.
Не ласкай
Гнецца кашэль з лучыны.
Жаданае толькі адно ярмо —
Ярмо Айчыны...

*1995*

## РАБІНАВАЯ НОЧ

…Пустка пушчы…
…Пастка пашчы…
…Малюнак маланак…
…Варыяцыя вар'яцтва…
…Муры мары…
…Страха страху…
…Крокі крыку…

***1995***

## REPETITIO EST MATER STUDIORUM

Не ведаю, пра што
Шэпчацца ў моры парусніку,
З чым трэба таіцца на мытнях
Дыпламатычным валізам.
А вушацкі салавей-запойнік
Паўтарае, каб не забыцца,
Слова незразумелае ў параcніку
*Сюррэалізм…*

***1995***

## БЕЛЫЯ СЛЁЗЫ

На нічыйных гарадскіх дварах,
Нібы сны ў разбураным Сезаме,
Па сваіх былых гаспадарах
Вішні плачуць
Белымі слязамі...

***1995***

## ШТРЫХІ
## ДА ПАРТРЭТА ГОДА

1

А сцяжынка смяецца,
Бяжыць за барок,
Лепей глянь, —
Гэта выпаўзень з краю
Ці Люцыпар згубіў
З чаравіка шнурок,
Ледзьве ўцёк ён
З зялёнага раю...

2

Аглушана лясная старана.
Спраўляюць баль
Вадзянікі
Ці чэрці?
Кардыяграму сэрца
Перуна
Маланкі чэрцяць...

3

Над полем
Хмарыцца пагроза.
Галосяць трунары-вятры.
Нібыта Жанна д’Арк,
Бяроза
Гарыць
На полымным кастры.

4

Марознаму настрою рад,
На даланях
Сняжынкі важу.

А рэактыўны шаўкапрад
З хмурынкі белай
Цягне пражу...

*1996*

## ПАЧУЕ САМОТУ…

*Міхасю Скоблу*

Маладым
Ад былых маладых
Пераходзіць законнае права
І на пышкі, й на шышкі,
Й на ўздых,
Што не ўсё ў гэтым свеце цікава.

Ад былых маладых
Маладым
Нельга адгарадзіцца лясамі.
Дроў наломяць
На полымя й дым,
Смалякі на распал
Знойдуць самі.

Маладых,
Будучых ды былых,
Сталакуе клопат дакосін.
І пачуе самоту слых,
І вясною прыкінецца восень…

*1996*

## КАПЛІЦА

Вада на тое й тоіцца, каб ліцца,
Рыпіць ля крушні скруха:
Сон не руш...
Узгадвае пра капішча капліца —
Начлег часовы пералётных душ.

Душы хутчэй бы з зорамі пыліцца,
Ды глухне шлях ад зманнай гаманы.
І keміць, як халодны грэх,
Капліца:
Цяжэйшы пыл нябесны ці зямны?..

Мычыць у небе зорная цяліца.
Цямнее крыж,
Як воран-чарнакрыл.
І крылаў дачакаецца капліца,
Каб паляцець і ёй за небасхіл...

*1996*

## КАТ ЦІ АХВЯРА

Забойца — толькі выканаўца волі,
Ды так і не дазнаецца чыёй.
Не даражыць жывой вадой — крывёй.
Чужая кроў не змые грэх ніколі.

Забойца — зброя гневу ці адплаты.
Ці зброя міласэрнасці, ці зла.
Ахвяра ці забойца вінаваты —
Не скажа голас змроку ні святла.

Кат ці ахвяра,
Хто бліжэйшы Богу,
Хто варты больш Ягонай мілаты?

Святла баяцца цёмныя краты.
Арлы да сонца ведаюць дарогу.

*1996*

## ПРАДАЙ!

У птаства час збіраць галлё,
У людства час збіраць каменне.
Час звіць гняздо, напхаць валлё,
Час не згубіць сваё найменне.

Маўчу. Прысадамі іду.
А над зялёнай гаманою,
Як наклікаючы бяду,
Варона вісне нада мною.
І чую я, сівы хадай,
І цямлю, што яна гарлае:
— Ты шапку мне, спадар, прадай!
Ужо яна табе малая.

Хай шапка носіцца яшчэ.
І я ў гасцях, і ты не дома.

І ўжо галінку валачэ
Варона знекуль пакрыёма…

*1996*

## ВЫЛУЧНА БЕЛАРУСКІ

*Рыгору Сітніцу*

Вылучна беларускі сапраўды
Ён, звычай,
Звечаны святымі святамі,
Каб са жніва
Пакінуць на Дзяды
Галодным птушкам
Каласкі з зярнятамі.

Каб памянулі й птушкі
Заадно
Высокіх продкаў,
Звонку звонка зябнучы.
Змяркання маразявае віно
Не хоча вылівацца ў
Прагнасць зяп начы.

Сухі дзядоўнік,
Як ахвярны дуб,
Бразджыць дуддзём,
Апанаваны шэранню.
І чуб дзядоўніку
Мароз даскуб.

А на Дзяды
І змрок куццёй вячэрае.

Запяўшы
Хмарай шэрае радно,
Нябесны Гаспадар
Сузор'і вешае.
Не птушкі прыляцелі пад вакно,
А душы прашчураў —
Вястункі вешчыя.

*1996*

## КАМУ НАЛЕЖАЦЬ АБЛОКІ?

Каму належаць аблокі?
Адкажа крыло сарокі,
Што пер'ем мяняцца смела
З аблокамі захацела.

Каму належаць аблокі?
Адкажа блакіт далёкі,
Што водзіць за рукі аблокі,
Як тых унукаў на ўрокі.

Каму належаць аблокі?
Адкажуць нячутныя крокі,
Што зябнуць у зорнай знямозе
Слядамі на Млечнай Дарозе.

Як неслухі, збеглыя з дому,
Аблокі належаць Нікому!

*1996*

## ЮНАК І...

Лірычны верш —
Юнак дзівоснай моцы й
Мужчына,
Што адчуў сваю бяду,
Касмічны сон

Усіх зямных эмоцый,
Табе на плаху
Галаву кладу.

І паўтараю за Петраркам шчыра,
Душою загавеўшы да Каляд:
«Мілосны верш!
Пясняр знямог, і ліра
Наладжана на самы сумны лад».

*1997*

## ПРА ШТО ДУМАЕ КАМЕНЬ

Неба кідае думкі не на абразу,
Ды ад жаху згарэць у зямной мітусні
Камянеюць нябесныя думкі адразу,
Перакідваючыся ў камяні.

І, задумаўшыся, не варухнуцца вякамі
Камяні —
Незразуметыя мысляры,
Іх маланкі гарачымі грэюць рукамі,
І напрошваецца туман у сябры.

Ім спакою стае, як лагоднага моху.
Толькі более іхняй маўклівай радні.
На зямлі, што як падчарка небава,
Могуць
Вольна думаць,
Бадай што, адны камяні...

*1997*

* * *

Плыве сукрыста дым-пілігрым.
І комін, як дурань,
У неба лезе.
У белабокім садзе старым
Сінічкі купаюцца ў снезе.

Вятрэц абдзьмухвае
Кожны ствол,
Чапляючыся за сукі барадою.
Злятае з белым пылам на дол
Кары рабацінне рудое.

А недзе сябе ўспамінае Рым,
Парыж раскашуецца ў
Млявай кунезе.

У белабокім садзе старым
Сінічкі купаюцца ў снезе…

***1997***

## ВАРАВА

Натоўп, гарачы на расправу,
На помач не падасць і кста,
Сцяною стане за Вараву
І падпіхне на крыж Хрыста.
Натоўпу боль чужы нясвежы,
Для цёмнай злосці мала джал.
Хацежы замінаюць межы.
Руйнуе ўсё аслеплы шал.

Чым болей глотак — болей права.
З грахамі доўга едзе воз.
У кожным з нас жыве Варава,
І рэдкім госцем —
Пан Хрыстос.

***1997***

## РУЖАНЕЦ

Лічыць вазы стагоддзяў
Зямны наш падворак.
А гэта ў нябёсах Звышні
Перабірае ружанец зорак.

***1997***

* * *

Спіць Дамініка[1].
І лялька
Просіцца з ложка далоў.
Ноч мае форму яйка,
Не прызнае вуглоў.

Ноч —
Тое яйка, з якога
Вылупіцца святло,
Зробіцца многа
З нічога,
Рэчку ўзгадуе вясло.

Дзедзіна песціць і грэе,
Туліць у ціхаце.
Спіць дамавік
І старэе,
Спіць Дамініка й
Расце.

*1997*

## ХАЦЯ Б…

Калі мая трывога спала,
Калі калоссе налілося
Тугой?
Сказаць я не бяруся.
Як нарадзіцца не прыпала,
Хаця б памерці давялося
У беларускай Беларусі…

*1997*

## ЧАС ВЫПАЎЗАННЯ ЗМЕЙ

Ведаюць час, калі
Выпаўзці з цемры варта,
Зябкія вугалі,
Страху сляпая варта.

Ведаюць, як і дзе
Выпусціць лепей джала.
Лютасць змяю вядзе,
Смеласці трэба мала.

Толькі абвіцца умей
Шчыра каля спажывы.
Час выпаўзання змей
Ціхі,
Таму й жахлівы.

*1998*

## КАБ ТОЛЬКІ...

*Сяргею Шапрану*

А нашае жыццё
З святла і змроку.
Перапялёса лёс
Пляце кашы.
Каб толькі ў змрок
Ступіць і ў неўзнароку
Змаглі забараніць
Сваёй душы.

А на святле,
Бязлітасным і шчырым,
У Бога ўсе мы,
Як на далані.
І рунню маладой,
І вечным жвірам
Жывуць не намі
Лічаныя дні...

# ЯСАЧКІ

*

Пачынаецца дарога з парога.
Якую ні выбірай —
Усе дарогі вядуць да Бога.

*

Мароз цвікі забівае без малатка.
Дарога санная грэецца ў лесе.
Змяняецца ўсмешка маладзіка.

*

Яшчэ шкадуе сон зярнят сяўніца.
А белую шкарлупіну зімы
Прадзюбнула ссінелая сініца.

*

У кожнага грахі свае,
Душа за цела не адказвае.
І нават вецер гнёзды ўе.

*

А на небе ані пыліны,
Чортаў профіль маладзіка
Над зялёным крыжам яліны.

*

Ніткай, трошкі таўсцейшай за гук,
Човен мой разам з возерам хоча
Прывязаць да хмурынкі павук.

*

Позна прыйшоў я сказаць «прабач».
За сасной, недалёка ад мамы,
Селіцца на магільніку свежы плач.

*

Вечар здзівіцца дойлідству выйшаў —
Забудавала Вушачу вясна
Белымі камяніцамі вішняў.

*

Гэта ўсцешыць і вока прароку:
Гронка бэзу, як грудка цнатлівая,
Вырываецца з кофтачкі змроку.

*

Ваўку прысніцца, што няма стральцоў.
Бяссонніца зажмурылася марна.
Ноч задзімае свечкі дзьмухаўцоў.

*

І старац зношаны, і маладзён,
Ніхто і не падумае, што, зрэшты,
Ён — саркафаг сваіх пражытых дзён.

*

У халадоў мяняецца аблічча.
Сама ў сябе хаваецца зіма,
Пакуль яе ручай не заказыча.

*

Я цяпер, як апошні колас.
З самых родных яшчэ засталіся
Бацька Бог ды ад мамы Голас.

*1996–1998*

## САЛЬЕРЫ

У творцы свой Сальеры персанальны,
Па сумяшчальніцтву таварыш, брат.
Каб думкі творцы не пазасыналі,
Заплечны брат размове шчырай рад.

Былі свае Сальеры ў Куляшова,
У Быкава —
Хоць імі гаць гаці —
Кішма кішаць.
Не пыльна і грашова,
Яны пры споведзі і пры куцці.

І слухаюць, і нюхаюць,
Спагадай
Падзеляцца,
Як лустай ад душы.
На злыдняў генія
Глядзяць з пагардай,
Адданыя Сальеры-спарышы.

Стараюцца пацець халодным потам,
Сыцеючы на дармавым аўсе.
І службу дружбай называюць потым,
Зрабіўшы мемуарамі дасье.

*1998*

* * *

Усіх пакаранняў
Не злічаць вякі.
І людзі не злічаць самі.
Дзе грэх, як пух,
Дзе, як камень цяжкі?
Дзе вязні з ціхімі галасамі?

П’яніць
Нявіннай віны віно.
Гняце немата
Стараны нелюдзімай.
Цяжэйшае ўсё ж
Пакаранне адно —
Пакаранне Радзімай…

*1998*

* * *

Спартанцы збіраліся на вайну,
Вастрылі мячы,
Прымервалі латы.
З усімі стаў у шарэнгу адну
Спартанец нягеглы,
Падслепаваты.
— Куды ты, нашто ты
Такі на вайне? —
Спытаўся нехта.
Нябога прызнаўся:
— Як іншай карысці няма —
Аб мяне
Варожы затупіцца меч,
Прынамсі…
І ў дні,
Калі душы падпальвае змрок,
Калі цяжарнее
Жахам калоссе, —

Прымаюць смерць
І паэт, і прарок,
Каб меней у ворага
Куль засталося!

*1998*

## БАЛАДА ЖВІРУ

Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей, маці, на каменю…

*З народнае песні*

Не вярнуўся сын з паходу —
Доля выпала цяжкая.
Маці ўсё яго чакае
І старэе год ад году.
Пост адчаю з прыпамінам
Прыхавана разгаўляе.
І са смуткам размаўляе,
Як з сваім апошнім сынам.

Неяк веснавой парою
Сын вярнуўся,
Бо прысніўся,
І сказаў, што ён жаніўся
З несваёй зямлёй сырою.

А былі вятры сватамі.
Шлюб давала вечарніца.
Наліла віна крыніца
Пад плакучымі кустамі.

Просіць сын у ціхай скрусе:
— Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей, маці, на каменю.
Я касіць пясок вярнуся...

І пасеяла, й туліла
Ад суроку, ад сухменю.
Палівала жвіру жменю —
З жвіру вырасла магіла.

Маці злую долю просіць
Не мінаць яе парога,
Хай і ёй
Пяску цяжкога
На магілу сын накосіць…

*1998*

## БУДЗЬМА!

Доля праедзе ў дрогкай карэце,
Следам пасцелецца дым.
Хай жа на гэтым
Сустрэнемся свеце
Перад сустрэчай на тым.

Зробіцца прыцемкамі дасвецце,
Ясень зялёны — сівым.
Будзьма на гэтым
Бяседзіцца свеце,
Каб не згубіцца на тым.

З хатаў і душ нашых
Вымецем смецце.
Хай будзе келіх як брат.
Лепей на гэтым
Пахмелімся свеце.
Той наліе нам наўрад.

*1998*

## ЖАДАННЕ

Нябыт абыякава ўсё праглыне.
Я цешыцца
Марнай надзеяй гатовы,
Што нехта захоча
Сказаць пра мяне:
Ён быў на паслугах
У матчынай мовы.

*1998*

## МЕСТАЧКОВЫ ЭЦЮД

Парнікі, лехі, соткі, срачэўні.
Трупякі непабітых дроў.
З-за курэй перабіліся пеўні.
І сабака шукае сяброў.

Як пячатка, дно паўлітроўкі.
Азалелы, галодны падзол.
І брыдзе з пацубэлкам вяроўкі,
Быццам з гальштукам модным,
Казёл...

*1998*

## ІСЦІМЕ...

*Айцу Аляксандру Надсану*

Ажно маладзеюць сцены старыя,
Лягчэе з адвечнай скрухай кулёк.
Трымае Сына
Дзева Марыя,
А ў Немаўляці ў руцэ —
Васілёк.

У ціхай свячыцы святая праца,
Што свенціць свет
Незямным святлом.
Святло разгарыцца,
Каб мог спрачацца
Наш дух вячысты
З вачыстым злом.

Полымнакрыла б’ецца трывога
Нікім не спалоханым матыльком.
Душа беларуская йсціме
Да Бога
З нябеснаю свечкаю —
З васільком.

*1998*

# ПСАЛЬМЫ ДАВІДАВЫ

* * *

> Я выйшаў насустрач чужынцу,
> і ён пракляў мяне ідаламі сваімі.
>
> ***Псальма 151:6***

Чужыя ідалы халодныя —
Аж сцюжаю душу скрабе.
Чужыя ідалы галодныя —
Усё ядуць як не ў сябе.

Чужыя ідалы ядвабныя,
Дзе ў вабнасці стаіўся яд.
Чужыя ідалы, як вапнаю,
Пабеляць здрадай шэры сад.

На гонях родных
Рунь рунейшая.
Свой страх тужэй ратугу ўе.
Хай у радне,
Таму й раднейшыя,
Бываюць ідалы свае...

* * *

> Вусны свае ўзносяць да неба, —
> а іхні язык па зямлі валачэцца.
>
> ***Псальма 72:9***

У вуснаў ёсць дамова з языком.
Пра гэта змоўчыць цішыня нямая.
Язык трымацца мусіць пад замком,
А неспасціжны ключ душа трымае.

Бо вусны — вусце думкі,
Што сама
На выйсце просіць у душы дазволу.
На думку кратаў і замкоў няма.
Бянтэжыць думка ерась і крамолу.

Душа — гняздоўе
Прыцемку й святла.
Хто ўзважыць,
Што ў душы пераважае.
Не раз палону тлен перажыла
Душа.
Яна й твая табе чужая.
Часовыя,
Не ведаем, калі
Душа пакіне нас,
Як думка высі.
Але язык не вінен па зямлі,
Як пуга пастухова, валачыся...

* * *

Ты паставіў зямлю на цвёрдых асновах... Безданню, як вопраткаю, накрыў Ты яе...

*Псальма 103:5–6*

Зімой завірухі ідуць у попрадкі,
Матаюць ніткі дажджу
Навальніцы,
Каб толькі ты
Не была без вопраткі,
Каб не згарэць табе
І не застудзіцца.
Якімі ткачамі бездань сатканая,
Пашыта краўцамі якімі?
Ахінала цябе ахінае з пашанаю,
Покуль трывогу час не пакіне.
Цябе —
Пылінку няіснасці кволую —
З далані свае не здзьмухне
Магута.
Бясконцасць цябе спавівала
Голую.
Вырасцеш —
Будзеш калісьці пачута.

* * *

> Хай у далоні пляскаюць рэкі...
>
> *Псальма 97:8*

На даланях у рэкаў
Няма віны,
Рэкі нічога нікому не вінны.
На даланях у рэкаў чаўны,
На даланях у чаўноў
Дамавіны.
Дамавіны ў далонях
Няволяць час,
У рэкаў з далоняў
Сплываюць аблокі.
З далоняў поймаў,
Адбыўшы папас,
Узлятае смутак глыбокі.

І калі ганец прынясе
Дасвеццю радасныя навіны,
У далоні пляскаць усе
Будуць
Не таму, што павінны.

* * *

> Няўжо не ўрымсцяцца беззаконнікі, якія народ мой ядуць, быццам хлеб?
>
> *Псальма 13:4*

Прыхадні разяваюць галодны рот,
Раскашуецца распуста й песта.
Як жытні хлеб,
Усе ядуць мой народ,
А ў дзяжы падыходзіць
Вясёлае цеста.

І з цеста пячэцца трывалы хлеб,
Якому на абрусах вельмавацца.

Снапы малоціць чужацкі цэп.
Хлеб спажывае халодная праца.

Ды чужакоў аднойчы змяце
Вецер цярпення маўклівы,
Бо дужы.
І ўзыдзе
Наш каравай на куце,
Асвеціць нашыя сасмяглыя душы.

* * *

Ненавіджу шаноўцаў марных
ідалаў...

*Псальма 30:7*

Шаноўцы марных ідалаў,
Яны
Шануюць больш сябе
Ды свой дастатак.
І гневу халастыя перуны
Абрынуць любяць
На астатні статак.
На тых,
Што не паспелі дапаўзці,
Каб з ідалавых жалабоў
Напіцца.
У масць лыч да лыча,
Поўсць да паўсці.
Хвалу ўздаюць
Лявіца ды правіца.
Растануць ідалы,
Як тая мга,
І зменяць хваласпеў на момант
Плачы.
І ўжо да новых ідалаў чарга
Цягнуцца будзе,
Быццам хвост сабачы.

* * *

…Яліны — пад гняздо буслам.

*Псальма 103:17*

Яліны —
Зялёныя скініі,
Прыстанак прысталых крокаў.
Нябёсы на стрэхі ім скінулі
Буслоў,
Як акрайкі аблокаў.

Сціха́ адхінаюцца клёкатам
І цішаю клямчацца дзверы.
Зямным і нябесным клопатам
Буслы
У ялін у даверы.

І позірку ўроіцца смелае:
Прыняўшы дасвецця палоны,
Стаіць,
Ад чакання здранцвелая,
Яліна —
Як бусел зялёны...

* * *

…З улоння дзянніцы падобнае
да расы Тваё нараджэнне.

*Псальма 109:3*

І за расу, і за слязу нічога
Чысцейшага няма.
Раса сама
Нагорнецца на вока Пана Бога,
Не разбурыўшы воблік абраза.
І на зямлі, далёкая ад бруду,
Раса зайздросціць
Зерню на сяўбе.
Падлеглая паўторанаму цуду,
Расінка
Сонца носіць у сабе.

Раса й краса
З нічога не ўзнікае.
Лёс крочыць пеша.
Воз сябе вязе.
І радасць,
Як рачулка гаваркая,
Смяецца і ў расінцы,
І ў слязе.

Вераадступніка чакае згуба.
Самапрысуд —
Як брытва ў два лязы.
Пяшчоціцца ў расінцы
Сонцу люба,
І ўтульна роспачы
На дне слязы.

* * *

Пройдзе над ім вецер, і няма яго,
і месца ягонае ўжо не пазнае яго.

*Псальма 102:16*

Век чалавечы —
Як снег на галінцы,
Дзень чалавечы —
Як помах крыла.
Толькі за зёлкай
Паспеў нахіліцца, —
Выпрастаць спіну
Труна памагла.

Кожнаму хочацца
Ліха аб’ехаць.
Лёс залагодзіць,
Чым нельга і льга.
Раніца хмар наахапчыць
На вехаць.
Пачырванее за вечар смуга.

Дол прыхарошыцца
Травамі гожа.
Сподзеў і страх —

Чалавеку свае.
Вецер дыхне — і няма,
І яго ўжо
Мейсца ягонае не пазнае.

* * *

> А тыя, што нас паланілі, песняў ад нас патрабавалі, а нашыя прыгнятальнікі — весялосці...
>
> *Псальма 136:3*

Заваёўнікам трэба песняў
Ад нас,
Прыгнятальнікам — весялосці.
Толькі песня, яна —
Не вясельны кутас,
Каб дрыжэць у застольнае млосці.

Песня вольная
Вольную мае душу,
Не пяецца ў няволі ніколі.
Прастагнаць заваёўнікам
Можа імшу,
Зачасаць на магіле ім колле.

Весялосць захлынецца ад смеху,
Калі
Прыгнятальнік навек захлынецца.
І ўздыхнецца з палёгкаю
Роднай зямлі, —
Аж ад радасці дол скаланецца.

* * *

> …Народ, якога я не ведаў, служыць мне.
>
> *Псальма 17:44*

Там,
Дзе панішчаны гаспадары,
Пасуцца выслужнікі табунамі.

Ім лёгка чужых
Называць панамі,
Аднолькава ім
Ці ў хляве, ці ў двары.

Ім роднага бацьку
Замяніць айчым,
Якога палюбяць
За скібку хлеба.
Па звычцы
Яшчэ патурбуе патрэба
Назвацца народам.
Але якім?

* * *

Чалавек падобны да дыхання...

*Псальма 143:4*

Бог уздыхнуў
Над стварэннем слабым.
Бог уздыхнуў —
І ўдыхнуў дыханне.
Дым, як туман,
І туман, як дым,
Папераблыталіся ў тое ранне.
Першая недзе звінела аброць.
Конь неаб'езджаны
Цешыўся з волі.
І, чалавека пакінуўшы долі,
Сумна
Падаўся ў неба Гасподзь...

*1997–1998*

# ПАЛЫНОВЫЯ САНЕТЫ

* * *

Магіла — прагавітае вакно,
З якога цемра з крыўдай пазірае.
І раіць адпачыць зямля сырая,
Дзе жаль намацвае ў прадонні дно.
Каго прымаць, магіле ўсё адно.
Яна — як сенцы ціхай хаты з краю,
Дзе свой адчай надзея дакарае,
Спавітая ў нябеснае радно.

Пакуль дарэмна даганяеш дні,
Самотная цябе чакае й цяміць,
Што немагчыма абмінуць яе,
Што сэнс жывы ў халоднай глыбіні,
Што над грудком нямым сівее памяць,
Што кожнаму свайго вакна стае.

* * *

Як гэты свет, як і сябе, хутчэй,
Прыдумаў кожны сам сваё каханне.
Адчуўшы шэпту цёмнае дыханне,
Бяссонніцу спакушаных вачэй.
Страх замятаецца завеяй вей.
Грахі замольвае замілаванне.
Бяжыць, сябе не помнячы, спатканне,
І нецярпенне цвеліць салавей.

У пагасціны запрашаюць высі.
І кожны жарсць, як у далонях жар,
Нясе, не баючыся апячыся,
Сябе растрачваючы без астатку.
Урэшце тужыць сцюжа, чахне сквар.
І можна зноў ашуквацца. Спачатку.

* * *

Сказаць мне слоў апошніх не змагла.
Я не пачуў, што гаварылі вочы.
А ў мамы позірк быў такі сірочы.
І шыбы сталі з матавага шкла.
І хату ўсю завалакла імгла.
І толькі чуўся ў садзе гвалт сарочы.
Прыйшлі, як і суседкі, тыя ночы,
З якімі доўга гутарку вяла.

Была хвароба прыжывалкай ціхай,
А не было каму падаць вады.
Быў вецер злы, агонь у печы з пыхай.
Смялела немач, немата панела.
Як некалі сустрэнемся, тады
Перапытаю, што сказаць хацела.

* * *

І ад сябе пацiху адстаю,
Памалу смешным сам сабе раблюся.
Яшчэ, як дол настылы, адтаю.
Мне маладую не дагнаць рую.
З самім сабой сагнацца не бяруся,
І, з зайздрасцю пулятай не ў хаўрусе,
Таймую неразборлівасць сваю.

Я адстаю, як адстае гадзіннік,
Мне цяжка быць самім сабой, былым.
Мой новы страх дрыжыць, як той асіннік.
Жарсць сватае маю світанак шэры.
Я ўжо цяпер, як беспрытульны дым,
Перад якім пазачынялі дзверы.

* * *

Мне сумна, як самотнаму ваўку.
І незабытна ўспамінаю тую,
Што не збылася на маім вяку.
Дзівосы толькі сняцца дзіваку.
Ён носіць торбу выгады пустую.

І сам сябе ратунак не ўратуе.
І трэба роўна йсці ў труну цвіку.

Падміргвае, як змоўца, таямніча
Агонь, пакліканы з былых вякоў.
І кліча й кліча слічнае аблічча.
Распальваю камін. З агнём жартую.
З тых дзён, што ўжо не вернуцца ніколі.
У смутка не бывае двайнікоў.
Самотніку не вырвацца з няволі.

* * *

У блізкім небе спавядаўся дым.
Гады, як недасушаныя дровы,
Гарэлі, каб мякчэў агонь суровы
І грэўся лёс пры вогнішчы рудым.
Мароз адно свой гонар цешыў тым,
Што зводзіліся цэлыя дубровы,
Каб чым было чарніць завеям бровы,
Раіцца іскрам — пчолам залатым.

Пусцеюць і дрывотні, і павеці,
Гамонку лісця ўспамінаюць пні.
Сцюдзёна ў хаце дзён, і зябка ў свеце.
І мулка ў берагах прысталай плыні,
І ўсё душа чакае цеплыні.
І прысак, як сумёт, паціху стыне.

* * *

Як цёплы дождж ідзе па ярыне,
Тады здаецца, што хмурынкай стала
І мае ў небе клопату нямала,
Прыслужваючы маладой вясне.
Калі імгла лашчыны ахіне,
Здаецца, стала раніцай і дбала
Зноў завіхаецца, як і бывала,
Пакуль Купалка дрэмле ў баразне.

І не хапае голасу зязюлі,
І не хапае коласу святла.

І вушы слова добрага не чулі.
Прыгаслі вочы, як і дні, таксама.
І гэты свет у спадчыну дала
І закацілася, як сонца, мама.

*1998*

## РАМАНС

Я Вас чакаў з вясны да сівізны,
Як вечны вязень раніцу чакае.
І Вы прыходзілі парою ў сны,
Далёкая, як зорка трапяткая.

Я Вас шукаў як не па ўсёй зямлі,
І ў кожнай маладой неразгаданай
Вы, ўзнёслая, былі і не былі,
Плылі ракой, разводдзем разгайданай.

Я Вас гукаў, і голас мой змаўкаў
Перад красой, не бачанай вякамі.
Ішоў за Вамі ценем, —
Цень знікаў,
І словы захаплення замаўкалі.

Я жыў чаканнем і цяпер жыву
Надзеяй, што сустрэну хоць зімою.
Хілю заснежаную галаву
І дзякую за веснавую мрою...

*1999*

## ПАЭМА

Мне цябе не стае
Тае...

*1999*

## АКРАМЯ...

І калі ў нас нічога не будзе,
Акрамя вады і агню,
Я напоўню пяшчотай грудзі,
Небасхіл да сябе прысланю.

І цябе да сябе прыхіну я,
Як галінку агонь малады.
Дождж тады
Да цябе прыраўную,
Што ступае ў твае сляды.

Мроя ў радасным перапудзе
Свой згадае забыты след.
І калі ў нас нічога не будзе,
Будзе ў нас як сусед
Сусвет...

*1999*

## ВЯРТАЮЧЫСЯ

Ішоў я, ішоў я
З паўначы з карчмы.
Знайшоў я, знайшоў я
Салаўя ў карчы...

*З вушацкае песні*

Пад досвітак вяртаюся з карчмы,
З карчмы жыцця,
Ні п’яны, ні цвярозы.
Яшчэ ў душы
Віюць гняздзечка крозы,
А ў галаве не цішацца грамы.

На панібрата піў са мною час.
Плыла вясёла чарачка, як хмарка.
І доля —
Захмялелая карчмарка —
Мне налівала ўкоптур і не раз.

Было,
Што зблізку бачыў салаўя,
Ды болей дзён
Пражыў пад крумкачамі.
Недасыпалі сны мае начамі,
Каб у карчме
На ўсё забыўся я...

*1999*

## БОСАЯ ЗОРКА

Зорка босая йшла па зямлі.
Я хацеў ёй купіць чаравічкі.
Толькі як згаварыцца,
Калі
У яе незямныя прывычкі?

Зорка босая йшла па расе,
І сляды яе не астывалі.
І вятры слугавалі красе.
Халады ад яе адставалі.

Зорка босая йшла нацянькі,
Бо спазніцца баялася дужа.
Дзе ступала, цвілі васількі,
Дзе стаяла, ўсміхалася ружа.

Зорка босая йшла ў тумане
Кладкай зыбкай над хітрай вадою,
Зорка босая йшла да мяне,
Каб аднойчы назвацца табою.

*1999*

* * *

І радзіма можа
Стаць чужынай,
Мачыхай,
Што пасынкаў сваіх
Любіць падбадзёрыць

Лютай кпінай,
Покуль іхны голас
Не заціх.

А вініць радзіму
Ці дарэчы?
Сядзе сум
У сэрца на куце.
Гэта на радзіме
Для сустрэчы
Ціха маці-й-мачыха
Цвіце.

І выгнанец
Хоча на радзіму,
Хоць счужэлую,
Але сваю.
Зябка ў сцюжу
Коміну без дыму.
Без гнязда
Самотна салаўю...

*1999*

## ПАШТОЎКА

Будуць часам ідалы раструшчаны.
Свет разумны стоміцца ад крыкаў.
Васільком у жыце Беларушчыны
Назаўсёды застанецца Быкаў!

*1999*

## ДУМАЮЦЬ…

Смяецца рэхам цішыня.
Рачулка журыцца прытокамі.
Маўчыць вірамі глыбіня.
Нябёсы думаюць аблокамі.

*1999*

* * *

Дзень пазыч жаўрукам,
Ноч аддай сваю совам.
Хай лянуецца доля,
Стараецца кат.
Затрымайся ў сабе
Ў гэтым свеце часовым,
Каб адчуць хоць на міг
Усявышні пагляд.

Не забудзься, што кожны
Твой крок на прыкмеце.
Множ дабро колькі моцы,
Не лічачы, множ.
Прышануй цішыню
Ў гэтым стомленым свеце,
Каб пачуць, як ступае
Гасподзь басанож.

З мора смутку свайго
Давярайся прылівам.
Будзе шлях твой з выгнання
Салодкім ад слёз.
Сам сябе пацярпі
Ў гэтым свеце цярплівым,
Каб у сэрцы тваім
Нарадзіўся Хрыстос.

*2000*

* * *

Памкненне да творчасці —
Быццам замах
На права, якое належыць Творцу.
Задумацца трэба зямному дазорцу,
Страсаючы з позірку зорны прах.
Пакутамі выкупіць
Трэба дазвол,
Ды не на спаборніцтва —
На пераймание,

Каб цешыцца
Льга было ў самаспадмане,
Што гэта тваё ўсё —
І неба, і дол.

*2000*

## А ЯК ЖЫВЕЦЦА...

*Алесю Камоцкаму*

А багатая душа не скупая
Ні на шчырасць,
Ні на неспакой.
І ніхто ў яе не запытае:
Як жывецца табе самой?

А багатая душа маладая,
Бо старэць ёй няма калі.
А багатая душа галадае —
Не пякуць ёй хлеб на зямлі.

І багатая,
А па-жабрацку
Ходзіць з торбай пустою адна,
Каб было куды зорам сабрацца.
Толькі торба не мае дна...

*2000*

## АНЁЛ, ЯКІ НА ЛЮТНІ ГРАЕ

Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае,
Калі забытыя сляды
Згадае сцежка маладая.

Калі гады, нібы дзяды,
На прызбу стомы сядуць з краю,
Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае.

Калі не позірку бяды,
А зноў душа паверыць раю,
Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае.

*2000*

## БЕЛАРУСЬ — ТЫ МОЙ СОН ВЕЛІКОДНЫ

Беларусь — ты мой сон велікодны,
Сон, што сніцца анёлам вясной.
Зрок і слых мой табою галодны,
Дух жыве мой табою адной.

Гэта ведае неба ды Мама, —
Без цябе не бывае мяне.
І душа жыць не можа без храма,
Цяжка ёй у чужой старане.

Адусюль да цябе я імкнуся
Быць у шчасці з табой і ў бядзе.
Чысцінёю тваёй прычашчуся,
Сорам твой на мяне хай падзе.

*2000*

## СПАГАДА

Кат звяртаўся да сваёй ахвяры,
На спагаду маючы надзею:
— Гэта я пакутую ад кары,
Я — ахвяра,
Вер мне, дабрадзею.

Потны, слізкі ад крывавай працы,
Болей сам, здаецца, дыхаў страхам.
І цікаўнасць дыхала на пляцы,
І сачыла за скупым узмахам.

Кат, відаць, спазняўся на вячэру.
Кат спяшаўся да сям'і, дадому.

І няшчасны папрасіў сякеру —
Галаву адсек сабе самому!

*2000*

## ЧАКАЕ ВЕРШНІКА...

Пад зялёнай бярэзінай
Белы конь
Адпачывае ад хамута і плуга.
Чарэмха цвіце.
Пахне раніцай з луга.
Зямля халодная,
Як нябожчыкава далонь.
Небасхілу
Б’ецца крыніца ў скронь.
Нервы ў травы напятыя туга.
Рачулка дрыжыць,
Як блакітная пуга.
Чакае вершніка
Белы конь...

*2000*

* * *

Я жыў, як мне дазволіў Бог,
І гэтак век свой дажываю.
У край бацькоў
З хвароб, з дарог
Вяртаўся,
Як да весніц раю.

Быў родным і няродным рай,
Быў ноччу дзень,
І вечар — раннем.
Ды Творцу я маліў:
Карай
Не развітаннем,
А вяртаннем.

Хоць лёс адвернецца спіной,
Яны не ў страх мне,
Страху крокі,
Пакуль жывыя нада мной,
Як думкі Госпада,
Аблокі…

*2001*

## ПАЛОМНІЦА

Паломніца зорка над імі ішла,
Вяла каралёў пакланіцца.
А зорка была з незямнога святла,
Як зерне з Гасподняй сяўніцы.

Яна ў Бэтлеем каралёў прывяла.
І ў яслях Дзіцятка ляжала.
Хвала суцішала дыханне вала.
Спакора каня падкавала.

Хацелі пакінуць сябе валуны.
І ў цемры не гнулася выя.
У яслях світаў нараджэнец зямны,
Над Сынам вачэла Марыя.

І скарбы паклалі Яму каралі —
І золата, й міру, й кадзіла.
І, ўкленчыўшы,
Іншай дарогай пайшлі.
Там іншая зорка хадзіла.

Укленчыць Дзіцятку прыйшлі пастухі,
Прапахлыя сонцам, вятрамі.
І ціха стаялі зямныя грахі.
І чуткі слязу выцiралі.

Лес цёмны людскі
Зарастаў і хлудзеў.
І зоркі ўзгараліся й гаслі.

Цярпліва спагадлівы Бацька
Глядзеў
На свет змаладзелы,
На яслі…

*2001*

## ПРОСЬБА

На ўсіх хапала сляпых цвікоў
І не хапіла відушчага жалю.
Апоплеч Хрыста
З абодвух бакоў
Двух разбойнікаў укрыжавалі.

І, лёсаўкі кідаючы,
Хутчэй
Вопратку падзялілі жаўнеры.
І аблачынка ў Хрыста з вачэй
Піла слязіны балючай веры.

І падавалі воцат Яму,
Каб смагу прагнаў,
І кпілі:
Усіх ратаваў Ён,
Тады чаму
Сябе ўратаваць
Не ў Ягонай сіле?

Адзін з разбойнікаў
І папрасіў Яго,
Дабываючы сваю прыжыццёвую кару:
— Як прыйдзеш да Гаспадарства Свайго,
Успомні мяне, Спадару.

І пачуў:
— Кажу табе сапраўды,
Сёння будзеш са Мной у раю.
Абыякава йшлі гады,
Гналі перад сабою людскую зграю.

Змяркаўся ціха ў разбойніка зрок.
Свае аблогі імгла займала.
Да пекла шлях —
З крумкачыны крок,
Да раю —
Жыцця зямнога замала…

*2001*

## СОРАК ГОД

І вадзіў сорак год Масей
Па пустэльні народ свой цярпліва.
І загадваў змроку: лысей,
Прыручыўшы за дзівам дзіва.

На чарэнь пустэльні расой
Ападала з нябёсаў манна.
Спавіваў вінаградная лазой
Смяглы прыпар тугу старанна.

Перапёлкі густой чарадой
На вячэру самі ляцелі.
І расло пад цяжкой ступой
Ад нясцерпнае стомы зелле.

І Масей у скале скупой
Посахам высякаў крыніцу.
Дым ахвярны, як той спакой,
Мусіў Богу прыемна віцца.

І ў Егіпет хацеў не раз
Знецярпелы народ вярнуцца.
Рабскія ланцугі якраз
Не даюць душы развінуцца.

І Масей сорак год блукаў,
Каб знявер'е ступіла кіпці,
Каб апошні ў пустэльні сканаў
Той, хто помніў рабства ў Егіпце.

*2001*

# ВЫРАТАВАННЕ

Старалася чутка ўперадзе бегчы.
Гром здзіўлены заікаўся на ўзгрыме.
Абнізіўся долу Сын Чалавечы,
Каб есці ды піці віно з усімі.

Адзін фарысей папрасіў з ім пад'есці.
Ісус і ўвайшоў у дом фарысея.
І ўзлёг Ён,
А чутка бегала дзесьці,
І вочы віны пакаянна раселі.

І ў дом фарысея грэшніцу чутка
Паслала з паўнюткай судзінай міра.
І, стаўшы ў нагах Ісуса ціхутка,
Як хмарка, слязьмі пралілася шчыра.

Малілі вочы.
Маўчалі словы.
Бязгрэшныя думкі святло выкрасалі.
Слязьмі яна мыла ногі Хрыстовы,
Выцірала ціхімі валасамі.

А мірам масціла, а цалавала
Яму ступакі ды крыўды глытала.
Глядзеў фарысей, але не ўтрывала
Здзіўленне ягонае й запытала:

«Ці ведаеш, хто да Цябе дакрануцца
Пасмеў?»
А Збаўца спытаў:
«Сымоне,
Ты даў хоць вады Мне,
Спамог разуцца?
Ці Я ў гасцях у цябе,
Ці ў палоне?..

Яна не шкадавала нічога,
Грахі свае на ланцугу трымала.
Хто многа любіў — даруецца многа,
Хто мала любіў — даруецца мала.

Яе ўратавала ейная вера», —
Сказаў Ісус.
І ў сэрцы з Ісусам
Пайшла.
І сталася ў свеце няшэра.
І неба рунела зорным абрусам.

*2001*

## КАЙНАСЦЬ

Ціхі Авель авечак пас,
Каін, брат яго, землязробіў.
Кожны Богу свой дар прыпас
І паклонам зямным аздобіў.

Бог прыняў ад Авеля дар,
Авеля прыхінуў,
А ў брата
Не прыняў дар Усеўладар.
Каін і запытаў вінавата:

— Мой чаму не прыняты дар?
Я прынёс, што зямля ўрадзіла.
— Калі чыніш дабро, дык твар, —
Бог сказаў, — не ўнурай панына.

Як не чыніш дабро, у дзвярох
Грэх ляжыць,
Да яго цябе цягне.
Каін крыўду змагчы не змог
І завяз у помслівай багне.

Цёплым полем браты ішлі,
І ляжаў там закляты камень.
Каін камень падняў з зямлі,
І забіў свайго брата Каін.

Бог пытае:
— Дзе брат твой знік?
— Я не ведаю, — Каін кажа. —
Хіба ж брату я вартаўнік?
Гэта ўжо не мая прапажа.

Бог сказаў:
— Чую голас крыві,
Што з зямлі да Мяне гукае.
Валацугай цяпер жыві
І выгнаннікам з небакраю.

І дасюль на месяцы ўсе
Бачаць цень чалавека гарбаты.
Гэта брата заплеччу нясе
Каін,
Богам навек пракляты.

Мусіць ён да сканчэння дзён,
Хілы раб свайго сэрца злога,
Несці братазабойчы праклён,
Бо прылашчыў крыўду на Бога.

*2001*

## IN MEMORIA

Над Беларуссю
Сонца марудна ўстае,
І спяшаецца за навалай навала.
Адам Міцкевіч паліць
Беларускія вершы свае,
Каб напісаў іх Янка Купала...

*2001*

## МАЦІ І ХЛЕБ

Вада з балота можа стаць святой.
Растуць спакойна дрэвы на іконы.
І пацалунак безграхоўны той,
Якім цалуем маці й хлеб надзённы.

*2001*

* * *

Як абжываўся наш крывіцкі прашчур?
З вясновых сноў падмурак змураваў.
Паабчасаў праменне да жывіцы.
Самшыў касмата воблакамі сцены.
Узняў з прыгорбленых вясёлак кроквы.
Дах бліскавіцамі нарашаціў.
Накрыў хаціну абніжэлым небам.
Абгарадзіў шырока двор ракою.
А рыбіна раку панесла ў мора.
А прашчур стог спакою накасіў.
Пад стогам вочы звёў, ды цесляра
Спаконнаклопатны ўстурыў занятак —
Стругаць нязломістых крывічанятак
Не толькі для свайго двара...

*2002*

* * *

Комін нудзьгуе без ціхага дыму.
Прыпечку сніцца спякотны прысак.
Кожны люляе сваю радзіму,
У кожнай радзімы
Свой пах і прысмак.

Пахне радзіма дарогай саннай,
Галосіць і жаліцца палазамі,
І застаецца вясёлай самай,
Заліўшыся ліўневымі слязамі.

Пацалуеш спіну ўдзірванелай магілы —
На вуснах прысмак самоты стыне.
І сыдуцца ўсе твае небасхілы
Мройліва, лёгкія на прыпаміне.

Сыдуцца,
Каб пакланіцца долу,
Які трымае твае нябёсы.

Радзіма дыхае ўслед анёлу,
Што ходзіць сцежкамі Кону
Босы.

*2002*

* * *

Крыж — спынены вятрак
І ўсмешка руху,
Бо толькі ў руху
Рух жыве і ўсім
Дае жыццё,
Адвеяўшы на дым
Мітрэнгаў нашых марных пацяруху.

Крыж — скачанелы птах
І ўзмах сумневу,
Які застыг, пачуўшы вышыню.
І рыжы жах
Сумеўся ўпершыню,
Не ведаючы, што параіць дрэву.

Крыж — гэта мы,
Што ўсё ўхапіць хацелі
І нецярпліва рукі развялі.
Але здранцвелі й ценямі ў быллі,
Дрыжэцьмем
Над сваёй глухой пасцеллю.

*2002*

* * *

Радзіма — дым ад вогнішча,
Якому
Дазволена ў Сусвеце падыміцца.
Яго кунежыць,
Прэч прагнаўшы стому,
Святая Мама —
Ў вечнай хаце жрыца.

Радзіма — смелая іскрынка жару,
Што грэе смутку ззяблыя далоні,
Каб даляглядзіцца шырэй абшару
І заставацца ў мройлівым палоне.

Радзіма — тая папялінка з прыску,
Што на чужыне залятае ў вока,
Каб як цяплей было свяціцца зблізку
Выгнанніцкай слязы
Сяўца й прарока.

Радзіма —
Дол і паднябессе тое,
Дзе ходзіць слова Бога пехатою.

*2002*

## УРОК БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ

Вымаўленне,
Як да нябёсаў маленне
Дубровы,
Адкрытае.
З адкрытай душой
Наш люд несуровы,
Мы злосць не трымаем
У пры́таі.

У пашане кожная
Літара выбуховая,
Яна адразу
Ад абразы
Сябе ахоўвае.
Радасці цесна ў шыбах —
Выбух!
Вірам глуха ў глыбах —
Выбух!

Поўнагалоссе,
Як тое паўнакалоссе
На ніве веры.
Гаспадары, прымайце дары,

Застоліцы ў гонар мілосці
Агалашайце,
Усіх запрашайце ў госці.
У нас шырокія дзверы!

Мы гакаем,
Як і прашчуры нашыя хакалі,
Калі ляды здрады
Бязлітасна карчавалі
І, небам зорным акрыўшыся,
Начавалі.

Каб чужымі ўрокамі
Душу нашую не ўрака́лі,
Беларускія словы высокія
Звіняць
Недасяжнымі жаўрукамі.

*2002*

## ТРЫМАЕМ…

Помста места.
Містыка мястэчка.
Весткі вёскі
З голасам сарокі.
Вейкі сонца.
Дамавіны вечка.
Зараніцы познія зарокі.
Гэты скарб
Пялегуем і тоім.
І сябе трымаем
Неспакоем…

*2002*

## ЗОРКІ НАШЫЯ

Зоркі нашыя ў небе без нас
Пазнаёміліся выпадкова.
Мы якраз на зямлі ў гэты час
Прашапталі спрадвечнае слова.

Зоркі нашыя ў небе без нас
Шчырасцю незямной пакляліся.
Мы якраз на зямлі ў гэты час
Зазірнулі ў прадонныя высі.

Зоркі нашыя ў небе без нас
Весці нас па зямлі захацелі.
Мы якраз на зямлі ў гэты час
Думалі аб патайным вяселлі.

Зоркі нашыя, толькі б не згас
Позірк ваш і ў начы, і ў блакіце!
І апошнюю сцежку для нас
Велікодным святлом асвяціце.

*2002*

## ПРАПАЖА

Похапкам паліць Пярун
Лучыну нервовую бліскавіцаў,
Каб у цемрачы адшукаць
Пярсцёнак,
Які прымяраў на мезінчык.
А той пакаціўся,
Круглы,
Як рэха,
У далёкае некуды.
Пярун толькі бачыць,
Як бліскаюць
Босыя пяткі дажджу...
А ён, зніцелы, худы,
Уцякае куды?
Што шукае?

*2002*

## СЛУХАЦЬ...

Цела твайго санцавітыя соты
Поўныя недагуканай пяшчоты.
Смягну над імі,
Як п’яны пчаляр.
Светла назад адганяць каляндар.
Смела вяртацца ў далёкія леты,
Каб запытаць сваю раніцу:
— Дзе ты?..
Слухаць,
Як вучыцца дыхаць пажар...

*2002*

## РУНЫ ПЕРУНОВЫ

Борць салодка сніць ласун Лясун.
Воўк напоўніцу на поўню вые.
На плячох наплыўных гор Пярун
Рупна крэсліць руны агнявыя.

Руны чуюць часу глыбіню.
Гэта імі прагнуць асланіцца
Задуменнасць цемры і агню,
Выгінаў і звіваў таямніца.

Полымя ўсміхнецца з-пад сушша,
Узгадаўшы даланю ратая.
Нашчая паганская душа
Вырак лёсу
Руніста чытае...

## СОНЦАКРОПКА

Спрасоння Пярун барадаты
Сваё нецярпенне цадзіў праз зубы.
Бліскавіцы, як стараннай школьніцы,
Захацелася запісаць хоць нешта
На чыстым лістку блакіту.

Але Віхор
Быў з раніцы не ў гуморы
І сыраватай хмурынкай
Беглыя накіды сцёр таропка.
І ад нервовага тэксту
Засталася ўпэўненая сонцакропка.
Да вечара.

*2002*

## ЧАКАЕ...

За мной цікавалі і грэх, і брэх.
Сяброў і дарог мне было ўсё мала.
Сябе даганяў я,
Спазняўся, бег.
А мама мяне чакала.

Мой сум саладзее,
Гарчэе смех.
Сяброў забірае дарога глухая.
Сябе не дагнаў я,
Прыстаў мой спех.
А мама мяне чакае...

*2003*

## САМ

Сам ворага свайго ствары,
Зляпі яго з калянай гліны.
Вазьмі яго сабе ў сябры
І да апошняе хвіліны
З ім шчыры будзь
І не хітры.

Мець ворага свайго лацвей.
І на самоце, і ў застоллі
Ён твой крумкач і салавей.
Цябе ён не прадасць ніколі,
Ты лагадней і суравей.

Сябры, вядома, да пары.
Наноў не выдумаеш порах.
Усе бабры сабе дабры.
Калі ты сам сабе не вораг —
Дык ворага свайго ствары!

*2003*

* * *

Самую сябе пашкадуе жуда.
Успомняць, нашто яны дадзены, ксты.
Свой голас чуць знадакучыць ляманту.
Праз даліну Праведнага суда
Нацягнены будуць два масты —
Адзін з жалеза,
Другі з пергаменту.

Накрэсляцца на пергаменце
Боскія сны,
Якімі дзяліўся Гасподзь з анёламі.
Жалезны мост выгарбяць перуны,
Каб здрадным слядам
Гарэць, як у полымі.

Памкнуцца на Храмавую гару наўпрост
Грэх — жалезным,
Пергаментным мостам — бязгрэшша.
І не вытрымае жалезны мост
І рэхам балючым рухне ў бязрэшша.

Пергаментны мост —
Вясёлцы радня,
Раскашуючыся ў аблочыстым дыме,
Трывацьме да новага Суднага дня
У Госпаднім лецішчы —
У Ерусаліме...

*2003*

* * *

Беларусь —
Як брыльянт у пярсцёнку Еўропы.
Жабраку не падасць Еўропа рукі.
А бязроднікі праз усе вякі
Да пярсцёнка цягнуцца
На перахопы...

*2003*

## ПРАШЭННЕ

Калі я адыду, пастаўце мне
Валун сівы і крыж на валуне.
Засведчыць крыж,
Што адышоў з імшой
Паганец кшчоны,
Уніят душой.

Крумкач, як чорны плач,
На валуне
Спачне і, значыць,
Памяне мяне.

І стрыж, як крыж здранцвелы,
Прамільгне,
Цень студзячы ў труне
На самым дне.

Калі я замаўчу, пастаўце мне
Валун сівы і крыж на валуне…

*2003*

## РОДНАЯ КАМЕНСКАЯ ВУЛІЦА

Па яшчэ ацалелым бруку са мною
Ступаюць маладыя правіны.
Маркоце хапае спакою,
Пустазеллю — зямлі.
Да нябыту паварочваюцца спіною

Хаты —
Звечарэлыя дамавіны
Душаў,
Якія тут аднойчы жылі...

*2003*

## ВЯРТАННЕ З ВУШАЧЫ 30 САКАВІКА 1985 ГОДА

Снег на адлегу чулы.
У нас яшчэ вясна не адагрэлася.
Едзем з тэлевізійнікамі.
Начэе грузна й сыравата.
Перазяблы туман,
Як, пэўна, бацька мой,
Некалі недзе тут партызанячы,
У маскхалаце белым амаль
Па белым амаль снезе йдзе...
У кулаку
У задумлівага й задымлівага
Міхася Стральцова
Акурак зоркі.

У зорак
І ў Міхася Стральцова
З небам размова...

*2003*

## НАБЕЛАРУШВАЕЦЦА...

Канкрэтныя беларусы ў зямлі.
На зямлі бадай што прыблізныя.
А тыя,
Што самавіта праблiснулі,
Здаецца, зусім не былі.

Яна беларуская,
Наша зямля,
Бо гэтулькі беларусаў забрала.

А ўсё ёй мала й мала:
Раней, цяпер і пасля
Нас —
Набеларушваецца ў запас.

*2003*

## ТРАДЫЦЫЙНАЕ

Плыт прыстаў у прымакі да мяжы,
І цяпер ён — плот.
Студня ў дрымотнай імжы
Пазяхае на повен рот.
Яна не паспела забыцца,
Што сястрою крыніцы была калісьці.
Вечарэе лагода.
Да мяцеліцы чорныя шчокі гарод
Грэе азяблымі вяснушкамі жаўталісця...

*2003*

## ЯК ВІР…

*Анатолю Сысу*

Паэт, як вір,
Ад хвалявання стыне,
На дне хаваючы халодны клёк.
З гародчыка расчульвання
Юргіня
Юрыць паэтаў юр,
Як неўзнарок.

Паэт, як вір,
Віруе ды шчыруе,
Перамывае родных словаў
Жвір,
З Пегаса збрую
Скідвае старую,
Бярэтку поўні
Збіўшы набакір.

Паэт, як вір,
Супернік неспакою,
Капрызны хрэснік
Шчырай Каляды.
З Сусвету,
Як з цяснюткага пакоя,
Ірвецца вымкнуцца.
Але куды?

*2004*

## ДОЎГА

Свежую дошку трымаць,
Як малога.
Думаць,
Што новая ляжа падлога.
Чуць шчабятанне ўнучкі,
Якая
Сябе вярцікруцяю называе.
Доўга збіраць яшчэ
Грошы на плату
За дошкі на безваконную хату…

*2004*

## КАБ САГРЭЦЦА…

Світанне і змярканне
Хмураць бровы.
Аб лоб нябёс
Пытанне хмарай трэцца,
Ці гэта людзі —
Маладыя дровы,
Якія вечнасць паліць,
Каб сагрэцца?

*2004*

## НЕЛЬГА…

Хрэснікі маланак утрапёных —
Думаюць захмарна валуны.
Згорбіліся спіны даўніны.
Першасэнс заблытаўся ў імёнах.

Зоры пазіраюць па-зямляцку,
Як на доле, зябкавата снам.
Ані валунам, ні перунам
Нельга ісціну застаць знянацку.

*2004*

## ПАРУШЫНКА

Зямля —
Парушынка ў Госпаднім воку.
І колькі трывацьме Гасподзь яе,
Не дадзена ведаць ані прароку,
Ні вячніне,
Якой трывання стае.
А мы парушынку варушым, нявечым,
Каб Збаўцу яшчэ непамысней было,
Каб пра сябе нагадаць хоць нечым,
Перш чым глыне нас немае тло.

І з недасяжнага нам далёку
Нябачнасць бачыць,
Як час бяжыць,
Як парушынка ў балючым воку
Дрыжыць…

*2004*

## НА ПЛЯЧЫ

Я з чорным катом на плячы,
Як прашчур мой
З сокалам лоўчым.

Так чорна наўкол —
Хоць крычы,
Нібыта даведаўся, зло ў чым.

Мірон сваю цягне курню —
Мурклівую песню без словаў.
І продак яго цішыню
Люляў так,
Вярнуўшыся з ловаў.

Яшчэ ратаваў заадно
І пеўня ад ласкі лісіцы.
А рыбка ныряла на дно,
Не думала ў лапы прасіцца.

Птушатнік, мышатнік, рыбак —
Занятак кашынага роду.
Хай іншы ўцякаў ад сабак,
Дык толькі пародзе не ў шкоду.

Я з чорным катом на плячы
Стаю на парозе змяркання.
Звыкаю да чорнай начы.
І цені здаюцца звяркамі.

*2004*

## ТРЫПЦІХ

*Памяці Васіля Быкава*

### I

Талент — гэта праклён
Паласатага д’ябла.
Намагаецца плён,
Каб душа не азябла.
Талент — гэта палон,
Не ўцякаюць з якога.
Б’ецца ў краты вакон
Маладзік крутарога.

Талент — гэта амбон,
Дзе хацела б вініцца
За бязмозгліцу дзён
Старасць — смерці двайніца.

Талент — ранішні сон,
І яго прачынацца
Не прыспешвае кон,
Покуль рупіцца праца...

## II

Людства —
Рэха светлай даўніны.
Літасць —
Стомленая лютасць змроку.
Цяжка чуцца ціхаму прароку
На гандлёвішчы глухой маны,
Хоць прарок
Даваў сабе зарок
Абыходзіць вір знявер'я бокам,
Цяжка
На зямлю сысці прарокам.
Грэх ступае следам
Крок у крок.

Людства —
Памяць маладой віны.
Літасць —
Спадкаемніца папроку.
І чуваць далёкаму далёку
Патаемнай кайнасці званы.

## III

Душою не крывілі крывічы,
Бо крэўнасць з небадолам адчувалі.
І валуны, спыніўшыся на ўзваллі,
Нікуды не спяшаліся ўцячы.
Пярун — вястун вясны

Аб валуны
Вайстрыў маланак вывістыя стрэлы.
Лясун, і аўдавелы й астарэлы,
Сніў сон,
Як восеньскі туман, ляны.
На ўскрайку вечнасці
Крывіцкі край
Абжыты быў паганскімі багамі.
І гурбы снегу белымі стагамі
Пагрэцца запрашалі зорны грай.

Прагаліны сарок
Зарокам зім
Ратаяў ратных гоняў прывячалі.
На гэты свет з’явіцца крывічамі
Нябёсы дазвалялі,
А не ўсім...

## ХТО ПОМНІЦЬ...

Страха — страфа
З паэмы роднай хаты,
Прысвечанай спагадлівым нябёсам.
Тваю журбу
Аслоніць цень крылаты,
І мроям закарціць
Сустрэцца з лёсам.
Паэму шумам
Вершалінаў поўніць
Спаміж радкамі
Баравая воўна.
І моліцца за ўсіх,
Хто хату помніць,
Страха,
Далоні склаўшы малітоўна...

*2004*

## НАШЧА

Туман пакут скроні часу выбеліў.
Кайнасць запозненая замаўчала.
Мама —
Мая небадарная Біблія,
Якая мяне да жыцця прыручала.

Грахоў неадольных
Прадонная яміна
Разяўлена, як галодная пашча.

Жыве ўва мне
Кожнае слова маміна.
Бібліі ўдзячны,
Малюся нашча...

*2004*

## ЯСЛІ

Каб зоркі чыстых мрояў не пагаслі,
Прагнаўшы сон журлівых аблачын,
Дае Ўсявышні нам
Душу, як яслі,
Каб нараджаўся ў іх
Нябесны сын.

Лёс
Цень памкненняў
Пасылае з долаў
У высі,
Каб сябе ён перарос.
Распазнавацьме галасы анёлаў
Душа, ў якой
Народзіцца Хрыстос...

*2004*

# РЫМСКІ ДЫПЦІХ

## УЗРУШЭННЕ

*Яну Паўлу II*

I

Укленчыць і прыпасці да рукі,
Якая свет мудрэць дабраслаўляе.
Адчуць, як ціхаміраццa вякі,
Як у душы зняможанай світае.

Прыняць ружанец з дарчае рукі —
Замроеныя пацеркі Сусвету.
Пачуць сустрэчы голас трапяткі,
Ўваскрэслы светла
Ў словах Запавету.

Сцяжынай з-пад ускрыленай рукі
Ісці, ані зважаючы на стому,
Да маладой нябеснае ракі,
Якая смутак і ўзнясе на строму.

Бо багавейна нагадалі ксты,
Што недасяжна блізкі Дух Святы.

*

Качае словы, быццам камяні,
А не таму, што падупаў гадамі.
Адзін ён чуе Голас вышыні
І думкі небакрылыя гайдае.

Ён бачыць нам нябачныя сляды.
Ён Голас слухае душою нашчай.
Уся зямля —
Суцэльныя клады,
А мы яе вялічым хатай нашай.

Ён нашыя адмольвае грахі
У Звышняга.

І воляй незямною
Зло хоча супыніць,
Ды люд глухі
І дзякуй не сказаў
Дагэтуль Ною.

Сагрэты сном сусветных завірух
У ім з’аблічваецца Вышні Дух.

*

Калодзежы святла,
Як нашы вочы,
Калодзежы зняверанага тла
Глядзяць у глыбіню
І па-сірочы
Чакаюць абяцанага святла.
Яна халодная,
Зямля сырая —
Надзейны схоў ад мітусні зямной,
У вечную ўсыпальню забірае
Труну душы,
Спавітую маной,
Спавітую наіўным спадзяваннем,
Што цень жывы
Свой цень перажыве.
Усе мы на зямлі самохаць вянем,
Зайздросцім вечна маладой траве.

Здаецца, нашы цені ўжо былі
У катакомбах — звілінах зямлі.

*

Крыж — вольны птах,
Застыглы на імгненне,
Каб пераняць разна́сцежанасць рук.
Цвікі напоўняць болем кожны рух.
Саломай пераломіцца праменне.

Паразумецца сподзеў і спакора
Паспеюць,
Быццам ядры спарыша.

І адляціць у немаведзь душа,
І захлыне мальбу людское гора.

І ў далеч павандруюць небасхілы,
І хмарамі прыкінуцца снягі,
І ад знячэўнай роспачы й тугі
У птаха ціха анямеюць крылы.

Каб забыццё не ведала мяжы,
Жагнаюць неба смутныя крыжы.

*

Сабе самому любіць сон прысніцца.
Не хочацца настрою быць старым.
Як воклічы,
Ўзляцелі камяніцы,
Нябёсы ў здзіве выдыхнулі:
— Рым!

Тут Вечнасць прыдрамала на хвіліну.
Ўсяму жывому трэба перадых.
Спакою цяжка вырвацца з нахлыну
Гадоў і парыванняў маладых.

Зялёным сном пазасыналі стоды,
І Тыбр прыручаны пазелянеў.
Наблізіцца да ранішняй лагоды
Не мае смеласці ўначэлы гнеў.

Ратунак нашых душ, як пілігрым,
Шляхамі выраяў імкнецца ў Рым.

*

Белакрылы анёл,
І анёл чарнакрылы.
Белакрылая чайка,
І чарнакрылы кажан.
Дні відушчым святлом
Маладзяць небасхілы.
Ночы змрокам сляпым
Смутак зводзяць у зман.

Ад святла аддзяліў
Усявышні цямрэчу,
Надзяліў мілатой
Нашых воч прамяні.
І спяшаецца час
З досвіткам на сустрэчу.
І хапае для зор
І для дум вышыні.

Белата з чарнатой
Узаемна жывыя.
Рэха збытлівых мрой
Б’ецца памяці ў скронь.
Завіруха рашучасці
Ўзрушана вые.
Чым чарнейшая ноч,
Тым зырчэйшы агонь.

Прагне ўсё, што расце,
Перш чым станецца тлом,
Як даўжэй быць аблашчаным
Ціхім святлом.

*

Памаўчаць са здарожаным смуткам разам
Ля ўсыпальні пакутніка Езафата,
Адчуваючы, што незавершаным сказам
Замаўкаць пачынае жыццёвае свята.

Так, жыццё — гэта свята
Здаровага цела
І душы несуцешнай дасконная праца.
Ты наважыўся жыць,
А жыццё праляцела,
Хоць запомніць сябе хочацца пастарацца.

Радасць мёртвая,
Толькі пакуты жывыя.
Вечнасць вечная
Толькі сваім нябытам.
Праплываюць высока аблокі сівыя —
Сны, саснёныя глыбіннадумным блакітам.

Толькі вера трываліць душу на пакуты.
Голас вернасці верыць,
Што будзе пачуты...

II

Высока ў небе слова — птушкам лёсу.
Глыбока ў моры слова — рыбам плёну.
Раздольна ў полі слова — ветру славы.
Прароча ў ночы слова — зоркам сноў.
Што не збылося, ўсё пераплялося.
А што збылося, шле хвалу палону,
Бо ў самаіснасці палон ласкавы.
Наноў пачнецца свет
Са Слова зноў.

*

І неўміручы памірае,
Каб уваскрэснуць.
Жыццядар
Яму пялегваць давярае
Ў далонях
Зорнай жарсці жар.

І покуль жар незадзіманы
Сузорыцца,
Жывы жыве.
Гарэць вякам Хрыстовы раны.
Студзіць іх
Сум здалёк плыве...

*

Крыж і якар
На сцяне ўсыпальні.
Прыляцелі душы на спачын.
Клопатаў зямных
Чаўны прысталі.
Толькі жалю жураўліны клін

У нябёсах змораных курлыча.
А ў настылай цішыні дарма
Немата забыты голас кліча,
Бо не чуе ўжо сябе сама.

А пад сонцам
З мудрымі вякамі
Ані нагаворацца вятры.
І крыжы пасталі ветракамі.
Развінаюць крылы якары.

І крыжы, і якары на волі
Па сваіх памкненнях сваякі.

І згінаюцца рукою долі
Ў дрэва росту ломкія сукі...

*

Канец такі ж небяспечны,
як і пачатак.

*Ян Павел II*

Пачатак нецярплівы, трапяткі,
Яму хутчэй адбыцца нецярпіцца.
Крыніца, каб знямозе даць напіцца,
Спяшаецца прабіцца праз пяскі.
У дзюбах чорны сум нясуць крукі.
Жывіць сасну не томіцца жывіца.
Завязвае развага вузялкі.
Дым думае, як пад аблокі ўзвіцца.

Канец спакойны, хочацца яму
Перахітрыць няўмольную куму
І ля цяпельца кайнасці пагрэцца.
Час пасвіць незлічоных дзён гурму.
Няспыннасць, пэўна, ведае, чаму
Канцу з пачаткам новым не сустрэцца.

*

Як ішоў малады Хрыстос,
На зямлі ўсё жывое не спала.
Не спяшаўся здзейсніцца лёс,
Гамана цішэла падтала.

Як на Млечным Шляху,
Сляды
На знямелым пяску гарэлі.
Адступаліся халады —
І зямныя грахі старэлі.

Дзе ступаў —
Там святло расло.
Дзе стаяў —
Смялела лагода.
Усміхацца вучылася зло.
Быць шчаслівай хацела нагода.

На зямлю сышоў назаўжды,
Каб наблізіць вечныя далі.

І святыя Хрыстовы сляды
Душы верніцкія захавалі.

*

Адразу з Горада Вечнага ў горад спаконны,
Дзе цягнуцца ў неба сумныя гмахі соснаў,
Да цябе прыйшоў я з паклонам,
Мама.
Ва ўсіх урачыстых бажніцах
Маліў Усявышняга,
Каб душы тваёй паслаў супакой.
...Ты несла мяне да ксяндза,
Гнанага бязбожнай уладай.
Касцёлам трывожным было
Вушацкае наша неба.
І пасланы лёсам святар
Святлом Святога Крыжа
Багаславіў мяне на дарогу ў Рым.
...І вярнуўся я з пілігрымкі,

Каб падзякаваць, Мама, табе
І вушацкаму роднаму небу.

Словы, якія пачуў я
Ад айца свяцейшага ў Рыме,
Перакажу табе
Пры сустрэчы...

*

Можа, з Беларусі гусі шэрыя
Рым уратавалі.
І таму так
На змярканні потайна вячэрае
Лустай поўні
Пілігрымскі смутак.

І нашчадкі тых гусей далёкія
Ў вырай рупяцца
Над нашым краем.
Думкі звечарэлымі аблокамі
Ўслед плывуць.
Анёлы трызняць раем.

Тут спакоем сена сноў растрэсена.
Кнігаўка
Над кнігай лёсу плача.
— Рым! —
Рыпіць расчулена бярэзіна.
Шэпча стрыманы чарот:
— Ву-ша-ча...

*Рым — Вушача,*
*Ліпень — жнівень 2004 г.*

* * *

Баяцца кветкі абразіць дол,
Далей уцякае настрой panылы,
Калі абнізіцца мусіць анёл,
Каб нам напомніць
Пра нашы крылы.

З якімі мы ў гэты свет прыйшлі,
Каб лётаць не толькі ў мроях,
Ды ўпарта мы прыраслі да зямлі
У хмарных сваіх настроях.

І крылы свае знебылі,
І вакол
Бяскрыла ляжаць небасхілы.

І лётае той,
Да каго анёл
Аднойчы прыйдзе
Прымерыць крылы…

*2005*

## РАСЦЕ...

Мох адначасова расце...
Быццам дратваю,
Прашываюць валёнкі
На верасовай вярсце.
Цішыню кратае
Пераджыванне слонкі.
Мох пад расою расце...
А пад туманом,
Як паганскі святар
Пад ра́саю,
Баравік у сваёй таўстаце
Перад сном
На ўвесь абшар
Думае пра нешта ласае.
Старэюць крумкачы, крукі.
Галасы слядоў

Глухнуць у мосе.
Радуюцца дзікі:
Хоць жалудоў
Наямося!
Па начах
Гусцее морак,
У вачах
У зорак
Дрыжыць зямля.
Згас
Бас
Чмяля
Ля
Камля...

*2005*

## НА БАЛЮЧЫМ ПРАХУ...

Кажуць, што дом, з вакна якога выкінулася Яўгенія Янішчыц, пабудаваны на могілках, дзе пахавана Марына Мнішак.

Тут не храм на крыві,
А гмах[1],
Марны гмах на балючым праху.
Па начах абражаны прах
Ціха жаліцца чуйнаму страху.
Цені душ у жыцця ў гасцях
П’юць і спяць,
Ядуць, блудадзеюць,
Нараджаюць на змоўклых касцях,
Прывідную надзею дзеляць.
Тут знайшла свой спачын зямны
Панна жарсці — Марына Мнішак[2].
Незямныя блукаюць сны,
Беспрытульна шукаюць зацішак.
І не спяць кайнасці перуны.
Град праклёну
Б’е ў плечы даху.
І, як вечкі тлумнай труны,

Адчыняюцца вокны ў гмаху.
Абыякавая, нямая
Немінучасць
Ахвяру прымае...

*2005*

## СМЕЛАЯ ПЯШЧОТА

Вянкі цыбулі, як вянкі санетаў,
Сплятала мама ў чэсць крутой зімы.
Не рассакрэчвалі сваіх сакрэтаў
Апошнія ахрыплыя грамы,
Як слёзы выкрасаць з вачэй планетаў,
Як з мройных хмар узводзіць церамы.
І смутны ветах ведаў сцежкі летаў,
Якімі йшлі начлежныя дымы.
Хоць пад страхой хапала ўсім гаркоты,
Дык каб не зглоцілі наш нож сухоты,
Яго кармілі вострым, як ён сам.
Цыбулі спелай залатыя соты
Не шкадавалі смелае пяшчоты
Ні стомленым, ні маладым слязам.

*2005*

## БЛАСЛАВЁНЫ СПАДМАН
*Вушацкае паданне*

Хрыста ўкрыжоўвалі,
І цыган
Прапанаваў і сваю паслугу.
І кінуў на дол
Неразлучную пугу,
І ўзяў цвікі для пякучых ран.

І вочы заплюшчыла цішыня.
Цыган прыставіў цвік
І з размаху
На даланю пасадзіў авадня

Замест цвіка —
Насуперак страху.

І абараніў хоць адну руку,
Хрыстову руку ад болю зямнога.
І валачомнаму жабраку
Не папрасілася ў Бога нічога.

І ў свет падаўся самотны цыган,
Непрытулены,
Як апостал, босы.
І гэта быў
Самы шчыры спадман,
Які на вякі блаславілі нябёсы.

*2005*

## ТРЫПЦІХ ЧЫРВОНАГА КАСЦЁЛА

*Айцу Уладыславу Завальнюку*

### I
### ЧЫРВОНЫ КАСЦЁЛ

З Чырвоным касцёлам на «ты»
Вятры,
Што лятуць з Бэтлеему.
І рупіць прачыстаму небу
Дзяліць з ім святло мілаты.

Гасподзь яго верніцы ў сон
Паслаў
Як абраз летуценны.
Імёны Сымона й Алены
Вяльмуе прарочысты кон.

Бажэе ў вяках небадол.
І душы жагнае трывога.
У цемначы тлуму людскога
Світае Чырвоны касцёл...

## II
## НЕ ЗГІНАЮЧЫСЯ...

Нарог нашай памяці
Мусіць араць
Аблогу зніклівасці
Ў высілках лютых.
Каб прывіднай радасці
Услед пазіраць,
Прыходзім у стомлены свет
У пакутах.

Ля зорак спагадлівых
Грэецца лёс,
Для душ нашых звіць
Намагаецца путы.
Крыжовы шлях,
Што пракладваў Хрыстос,
Нанова для кожнага
Значаць пакуты.

І кожны зможа
Сябе знайсці,
Мець спадзеў,
Што Госпадам будзе пачуты,
Калі ён здолее
Ў гэтым жыцці
Прайсці, не згінаючыся,
Праз пакуты...

## III
## НЯБЁСЫ ВЕРЫ

Нябёсы веры
Трымаюць свет.
Знявер’е горбіцца валунамі.
Зямныя дні,
Як вясновы цвет,
Спадаюць,
Каб паўтарыцца снамі.

Нябёсы веры
У вышыню
Кіруюць годна
Думкі й пагляды.
І зорным зернем
Поўніць сяўню
Світанню руплівому рады.

Вачэе мудрасць.
І слепне зло.
У хаце споведнай —
Насцеж дзверы.
І апранаюць душу ў святло —
Каб не азябла —
Нябёсы веры...

*2005*

## БЕРАСЦЕЙСКАЯ ВУНІЯ

Каб народ набожны не зняверыўся
Перад раздарожжам дзвюх дарог,
Вернасць з вернасцю
Сышліся ў Берасці
У адну, якую ўбачыў Бог.

І сышліся ціха два ў адно палі
Каласіцца вераю бацькоў.
Свечкі ў Рыме і ў Канстанцінопалі
Засвіталі ў позірках вякоў.

Кленчыць цень крыжа перад іконаю.
Горбяцца зняверу валуны.
І звіняць са дна душы свянцонае
Берасцейскай вуніі званы.

*2005*

## ДАРОГА ЯСНАЯ

У свеце жыў, нібыта ў пуні, я,
Не разумеючы нічога.
Але пралегла ў сэрцы вунія —
Дарога ясная да Бога.

І гэтаю дарогай шчыраю
Памкнуліся мае памкненні,
Як птушкі на радзіму з выраю,
Нібыта ў вырай летуценні.

Душа, як рыцарскімі латамі,
Затуленая ад заганаў, —
Святло ўзышло над уніятамі,
Калі Гасподзь на грэшных глянуў.

Жыццёвы дол усланы цернямі.
Усе пагляды ў неба ўзняты.
Пакорнікамі богавернымі
У свет прыходзяць уніяты.

*2005*

## УНІЯЦКАЕ СЭРЦА

*Айцу Андрусю Абламейку*

Уніяцкае сэрца люляе надзею,
Спавівае лагоду малітвай штодня.
Не саб'ецца з дарогі ў людскую завею,
Бо ў яго апякункай
Сама вышыня.

Уніяцкае сэрца ратуе з адчаю,
Ад спакусы адводзіць,
Як дым ад агню.
Ніцай цемры знявер'я святло пазычае,
Не зважае на зло, кволячы дабрыню.

Горкадумны палын засяляе аблогу,
Летуценна аблокі ідуць пехатой.

Уніяцкае сэрца заўдзячнае Богу,
Што Гасподзь яго поўніць Сваёй мілатой.

*2005*

## ЗДАРАЛАСЯ...

*Генадзю Бураўкіну*

А здаралася на Беларусі,
Малацілі сноп на абусе,
Блін пяклі на лязе сякеры,
Праснакі — ў рыдля на далані,
Толькі не выракаліся веры
Ды крывіцкай сваёй радні.
Косамі да цвярдых мазалёў
І мурог, і сівец касілі,
І няпрошаных бабылёў,
Бо чужой не кленчылі сіле.
Жарсць любіла каса-літоўка,
Што крамяная семнастоўка.
І панеў сабе ў Беларусі
Хлеб гасцям на бялёвым абрусе.

*2005*

## КРОПЛЯ

Неразгаданая кропля
Нашай Зямлі.
Крамяная кропля
Ўрачыстай зоркі.
Закаханая кропля
Журботнага вока.
Кропля мёду ў вуллі.
Кропля дажджавое гаворкі.
Кропля кропкі
Ў запавеце Прарока.
...Кропля жарсці

Зямносцю сваёй незямная
Жыццё зачынае.

*2005*

## ЖАЎРАНАК КАХАННЯ

Ашукаўшы злыя халады,
Ласкаю чаканага світання
Абнадзеіць сэрца назаўжды
Сонцакрылы жаўранак кахання.
Абляціць пажоўклы ліст журбы.
Колас шчырасці нальецца сілай.
Адляцець да зорнай варажбы
Лёс дазволіць роспачы абрыдлай.
Одум ціха ўкленчыць вышыні
Ў неабвечарэлым парыванні.
Слова дападзе да глыбіні.
Кожны дзень багатым святам стане.
Адгукнецца жаўранак кахання
Яснавітай далечы жадання...

*2005*

## КУДЫ ПАЛЯТУЦЬ?

На падваконні
У даччыным пакоі
Ляжыць нагруднічак
На вачах у ціхага лета.
Ці гэта
Дзве шкарлупкі яечак,
З якіх павылуплівалася
Цнатлівыя ластавачкі,
Як недаснёныя сны.
І куды палятуць яны —
У спякоту пяшчоты
Ці ў халады бяды?

*2005*

## СВЯТАМ СВЯНЦОНАЕ

Схілілася нада мной святое,
Святам свянцонае
Маміна слова.
Недзе над Вечаллем,
Над Палатою
Сонца ўзыходзіла светлагалова.

Потым
Душу агарнула журбою
Ды варажбою
Купалава слова,
І наказала застацца сабою,
Каб беларусам —
Абавязкова!

Каб не пакінула
Наская сіла,
Іскры красала
Старанна падкова.
Маміна слова
Мяне пераксціла,
Дабраславіла
Купалава слова.

*2005*

## ВЫСОКА

Ные высока самалёт,
Як зуб сцямнелага неба.
Ноч захварэла
Забытай хваробай —
Паветранаю трывогай.
Небу да шчакі прыкласці
Грэнландыю трэба.

А як чалавек
Баліць Богу?

*2005*

## УЛАДЗІМІР ВІШНЕЎСКІ

Мастак —
Ён вар'ят у законе,
У вус панавіты падзьме, —
І зробіцца мулка на троне,
І троху ўздыхнецца ў ярме.

Рукамі ягонымі жар бы
Загрэбсці хацелася тым,
Хто небу дасяжныя скарбы
Змяняў на акрэслены дым.

Ён з крэменя жарсць выкрасае,
І пырскае з іскры сляза.
Яму патурае краса і
Сыходзіць святло з абраза.

Мастак —
Ён рысак у загоне,
Падкуты пакутай вякоў.
Для заўтра зайздроснае сёння
Шчаслівых шкадуе падкоў.

*2005*

## ХАТНІК

З намі
Разам са снамі пераязджаў
З Верасовачкі, верасамі ўхутанай.
Падперазаўшыся конскімі путамі,
Босую галаву падстаўляў дажджам.

Асіраціліся ўсе без яго —
Рэчка Крывуха, Ваўчэнскае возера.
Млечны валун намагаўся да позняга
Зрушыць сябе са спакою свайго.

Хатніку цяжка абжыцца было,
Ела хлусня й мітусня местачковая.
Грэла сябе брукаванка падковамі.
З незнаёмай трывогай дрыжэла святло.

... І дагэтуль
Да новых начэй і раніц
Выкне пературбочаны хутаранец...

*2005*

## АДХІНУЦЬ НЕБАКРАЙ...

У каменяломнях мазгоў
Думка блукаць пачынае
Упоцемку без ліхтара.
А сцені паганскіх багоў
Даплываюць у заўтра чаўнамі,
Падахвочваючы штукара
Адхінуць небакрай.
Каб адчуць халадэчу спрадвечча
І глыбіню цішыні.
Толькі пякучы адчай
Звар'яцелай зоркі трапеча
Беспрабудна ў бяспамяцця
На далані...

*2005*

## НА ГАРАДСКІХ ХУТАРАХ

Нібыта з вайны —
Біты друз, каміны.
Дзічэюць сады.
Дзічэюць сабакі
І выюць на месяц.
Забылі яны
З гаспадарскай рукі прысмакі.

А горад кепліва
Наступ вядзе
На двары, на ціхія стрэхі.
Дарогу ўступаючы лебядзе,
Плечы ўгінаюць лехі.

Гаспадарамі пакінутыя
На гарадскіх хутарах,
Сабакі пільнуюць паганскі страх...

*2005*

## АДКАЖЫ

З пашанай ядуць нас,
Як хлеб аржаны,
Манерыстыя *господа*,
Кавалерыстыя *паны*.
А мы,
Зняверaныя спадары,
Не гаспадары
І ў сваім двары.

Ці гэта наканавана небам —
Быць некаму хлебам,
Каб жыццё не звялося.
Адкажы,
Лёсе...

*2005*

## АЛЬ-
## БОМНАЕ

Лістападзіць настрой
Драбязінка любая.
Мне цябе не хапае,
Як каню мурагу.
Не тужу, не ўсыхаю,
Не іржу, не ўздыхаю,
Не здыхаю,
Не ведаю сам,
Ці кахаю.
Ведаю —
Без цябе не магу!

*2005*

## НА ДНЕ ПРАДОННЯ

Каля глухіх зажураных вазоў,
Што запыліліся
На дне прадоння,
Ад першажаўранкаў да маразоў
Бяссонне ходзіць
З кайстраю рудою.

Вязе ўспамін на млын
Палын змалоць,
А на хаду заснуць
Спрабуюць колы.
Жыццё ёсць сон,
Які сасніў Гасподзь,
А нам яго распавялі
Анёлы...

*2005*

## ПЕРАЧЫТВАЮ…

Столь у мамінай хаце
У самотных сучках,
Як неба ў прыцьмелых зорках,
Яшчэ нада мной высока.
Столь, як паэму лесу,
Чытаць па габляваных радках
Не стамляецца вока.

З якіх баравін,
З узлескаў якіх радкі,
Каго запытаць
І якой парою,
Калі ты і сам падсочаны
На беразе высокай ракі,
І жывіцы ўжо не стае
І твайму настрою…

Перачытваю паэму паволі,
Бо не за гарамі той дзень,
Калі

Мой клопат
Згубіць свой след на зямлі.
І ў самай нізкай апошняй столі
Ані сучка ўжо не ўбачу болей…

*2006*

## УСЁ...

Таго не хапае,
Таго няма.
Жыццё праходзіць у мітушэнні.
А доля — скнара,
Яна дарма
Не пакладзе нічога ў кішэні.

І чалавек хапае, грабе,
І колькі ні ўхопіць —
Яму ўсё мала.
І цягне, як коўдру,
Туман на сябе,
І зорку пасе,
Каб яна не драмала.

Адно для трывогі
Багата прычын —
Не можа злічыць
Усіх сваіх сховін.
І ўрэшце на немінучы спачын
Адвозіць яго
Безвясельны човен...

*2006*

## РАБСТВА

> Той — раб пыхлівасці,
> той — стаў рабом народу,
> няўдзячлівага й ветранага зброду...
>
> *Амадыс Камен*

Хто першы з іх на белы свет
Прыйшоў — свабода ці няволя?
На цаліку чый першы след
Аднойчы ўбачыла спатоля?

Няволя з норавам крутым
Прываблівацъ давер'е ўмее.
Ды ўміг сплыве ружовы дым
І з чарнахмар'я зыркнуць змеі.

Свабода — кволае дзіця.
Усім кіруе перамога.
Жывыя ўсе рабы жыцця.
І кожны — раб сябе самога.

*2006*

## КАБ НЕ ЗЯБЛА…

Кожны крок на зямлі выпадковы.
Мройным зоркам
Зайздросціць жарства.
Ветрам нашы развеюцца словы.
З праху ціхая ўзыдзе трава.

Наадгон з вечарамі старэем.
Маладзее цярпліва труна.
Ці жывем,
Ці зямлю гэту грэем,
Каб не зябла ў Сусвеце яна?..

*2006*

## 28 ЧЭРВЕНЯ 2004 ГОДА

Гэта лёсам пасланая
Ласка Тварца,
За якую душа
Вечна кленчыць гатова.
Ў Вечным горадзе
З вуснаў святога айца,
Як з нябёсаў,
Пачуць беларускае слова.

Шмат забудзецца,
Счэзне, зніцее, міне.
А да скону запомніцца
Абавязкова —
Папа Рымскі
Дабраслаўляе мяне.
І ў Яго, як свая,
Беларуская мова.

*2006*

## MATER ARTIUM NECESSITAS

*Генадзю Мацуру*

Маці ўсіх мастацтваў — неабходнасць.
Неабходнасць рупіцца,
Каб жыць.
Неабходнасць змусіць верагоднасць
Да задумы плён прывараджыць.

Неабходнасць звыклае з’іначыць,
Прыкарміць святлом,
Як птушак, дні.
У падкове
Смех вясёлкі бачыць,
Чуць у слове
Крокі цішыні.

Сцежка да раскутасці крывая.
Лёс здаўна
Скупы ў сваёй дзяльбе.

Мастака па-над сабой трымае
Неабходнасць выказаць сябе...

*2006*

## АСТРОГ

Жыццё — адчынены астрог,
Але не выйсці нам з астрога.
Ідзём сюды з усіх дарог.
Ключы ад волі — ў Пана Бога...

*2006*

## ШЧЫРЭЮЦЬ...

Шчырэюць дзеткі,
Каб хутчэй бацькі
Збіраліся ў адвечную краіну.
А ўнукі —
Як апошнія цвікі,
Якімі забіваюць дамавіну...

*2006*

## СІВЕЕ...

У астарэлым маміным садзе
Без мамы зябка і горка.
Сцежку перамяла
Пялёсткавая завея.
На вачах
У замроенага адвячорка
Маладзюткі туман сівее...

*2006*

## ПРЫЗІМАК

Два апошнія яблыкі
На галодным суку
На дол у адчаі
Драўлянымі пазіраюць вачамі.
Кожны баіцца зваліцца.

Усё, як у садзе людскім, —
Хто за кім?

*2006*

## ЗАДАЖДЖЫЛА...

Бясхмарныя леты,
Дзе вы?
Гукае ўспаміны ганак.
Шуміць пшаніца залевы
Пад спевы сярпоў маланак.
Не хоча імжа густая
Скарыцца сонцавым стрэлам.
І раніцу певень вітае
Голасам адсырэлым...

*2006*

## ХАЛАДНЕЕ...

Паміраць сабірайся, а жыта сей, —
Крывічы спрадвеку казалі.
Гэты свет мне ўжо
Робіцца як музей
З экспанатамі ў кожнай зале.
З экспанатамі шчодрых страт,
З экспанатамі сквапных набыткаў.
Град прайшоўся
Па могілках град.
Зман
Туман сівавусы выткаў.

Долу годна ўкленчыўшы,
Вышыня
Давярае свой сон забаве.
Халаднее забытна
Музей штодня.
І зачыніцца неўзабаве...

*2006*

## ЯК ХРАМ…

Паэт будуе сам сябе, як храм
Ці як пахіленую халабуду.
У храме весялей адбыцца цуду,
У халабудзе вылежыцца хлам.

На твары, нібы бліскавічны, шрам
Заные, адчуваючы астуду.
Набожна ўкленчыўшы эцюду цуду,
Паэт будуе сам сябе, як храм.

А храм служыцьме долам і гарам,
Звон давярацьме гуду й перагуду.
У халабудзе кут адвёўшы цуду,
Паэт будуе сам сябе, як храм…

*2007*

## РЭГІСТРАЦЫЯ ШЛЮБУ З НЕБАМ

Па ўзлётным полі
Разгублена раз’язджае трап,
Як самаўпэўнены пастамент,
Што шукае свой збеглы помнік…
За спіной сядзення ўчахлёнага
Падносы на падмацунак нябесны,
Нібы злубянелыя запасныя крылы,
На якіх хіба што хутчэй
Даляцець да спякотнага пекла…

*2007*

## АДКАЗАЦЬ…

Перш чым тленам зрабіцца,
Гожа
Узалочвае дол лісцё.
Мабыць,
Толькі мёртвы і можа
Адказаць,
Што такое жыццё…

*2007*

## ВУСЦІШ

Самота ў вязніцы
І днюе й начуе.
І рэдкія зоркі,
Як кроплі расы.
І вязень
У цішы закрачанай
Чуе,
Як у яго растуць валасы…

*2007*

## ДАГАНЯЮЧЫ ВЯКІ

Заходняя Дзвіна
Даганяе вякі,
А па дарозе заходзіць
У Полацк,
Каб на распагоджаных хвалях
Палюляць Сафійку,
Што, як лілея,
Узбегла берагу на плячо
І затрымалася.
Сафійка ведае,
Што рака часу
Не забудзецца на яе
І не пакіне ў самоце…

*2007*

## ЛАЦВЕЙ

Намовіўшыся з самотай дазмоўку,
Благаючы роднае слова: «Не выдай»,
Будуе ў тайзе бесхацiннай дамоўку
Дубоўка —
Беларускі Авідый.

Лацвей
З тугою пабрацца ізгою.
У руху
Шархебель з сякерай-шчырухай.
Шуміць зімавейна
Суладна з тайгою
Паэтава барада завірухай.

А ўжо
Ля берага човен чакае.
Яшчэ не Харонаў.
Ду Фу з напамінаў
Адсюль недалёка
Жальбуе ў адчаі,
Што вецер
Страху чаратовую зрынуў…

*2007*

## КУЛІНА

Кожны мае свае Вушачы,
Хату
І двор,
пазарастаны маркоўнікам,
Дзе можна пасля дарогі,
Скінуўшы чаравікі
І потную шапку,
Адчуць халадок зямлі,
Пачуць шум лісця,
маркотны і памяркоўны.
Басаногж прастуеш да студні —
Жарства шурпатая
коле ступні.
Успамінам вядро ўсплывае,
Золкай лускою пырскаў
у твар страляе
Ланцуг,
на корбу наматваючыся.
Я даўно быў задумаў
Паэму пра рукі матчыны.
Ды так і не мог знайсці
Строгай сюжэтнай лініі.
Словы з радка вырываліся,
Выслізгваліся, як з рук ліні...
І рыфма — рыба —
Сагне вудзільна радка,
Сугуччаў кручок на дно
Пацягне матчынай мовы рака.
Затое
Якая радасць,

Калі плаўнікамі тугімі раптам
Залапоча рыфма
 на беразе белай паперы.
Баючыся ўступ зацягнуць празмерна,
Канкрэтна пачну з таго, што

*

Маці завуць Кулінай.
Я ўспамінаю, калі нам
Пад час блакады
Прыйшлося сядзець у лесе.
Я адышоўся ад маці
 і не застаўся ледзьве.
У вялікім лесе
 нас многа, малых, згубілася.
Кожны крычаў штосілы.
Лес паўтараў, нібы дражнячы,
Кароткае слова:
 — Мама!..
Крычалі многа, ды толку мала.
Тады я гукнуў:
 — Ку-лі-на!
І маці мне адгукнулася.
Цішыня неўзабаве
 ў Вушачу вярнулася.
Ды мне яшчэ доўга потым здавалася,
Калі жураўліны вырай
Збіраў на імшарыне журавіны,
Што жураўлянятка недзе засталася
І маму таксама гукае:
 — Ку-лі-на!..

*

І цяпер у Вушачы
Завуць мяне проста «Кулінін малец».
І гэтым ні росту майго,
 ні заслуг не маляць.
Са мной заўсёды вітаюцца ветліва.

І нават, што вершы пішу я,
многія ведаюць.
Наогул паэзіі тут не чытаюць —
Ані класічнай, ані навейшай,
Хоць, праўда, бывае, пытаюць:
— Ці многа плоцяць за вершы?..
Шафёр райсаюза аднойчы
У Вушачу вёз мяне з Полацка ноччу.
Позняй парою, вядома,
Добрыя сны сняцца аўтаінспекцыі.
Мы з шафёрам рашылі,
Што будзе не грэх пагрэцца.
Закусілі сухою воблаю.
Павесялелы шафёр расказваў:
— Па выпітай гарэлцы
Раён наш займае
першае месца ў вобласці.
Землякі мае выпіць могуць,
Але і не зломкі на працу.
Яны, партызаны пакутныя, былі
на «ты» з перамогай,
Пасля вайны не сагнуліся,
калі іх гора пратала.
А мы, маладое племя,
скончыўшы дзесяцігодку,
Сплываем, як верхаводка.
Спяшаемся ў горад
па работу, па адукацыю.
Пасля забываемся на пісьмы,
На словы мацярок адгукацца...
Мы справамі перагружаны,
Усё мы не можам
выбраць вольнай хвіліны,
Каб наведаць
Свае мясціны —
Глыбачкі, Жывалкі, Замошшы.
І, як мацерыкі забытыя,
Мацяркі
Нашы жывуць,
Забітыя
Самотай,
Работай,

Горам.
Адны залатыя дзеткі
іх забіраюць у горад,
Каб яны ўздыхнулі з палёгкай
І чорныя рукі крыху адмылі,
Мыючы ўнукам пялёнкі.
Іншыя мацярок успамінаюць,
Калі родных прымае зямля сырая.
Пасля нялёгкай
Сямейнай парады
На цэмент адпускаюць грошы
І потым бязмежна рады,
Што абышоўся нядорага помнік
І за такую цану
атрымаўся даволі харошы.
Убачыўшы гэтакі помнік,
умомант
Гаспадарнікаў я прыгадваю,
Што ад лесу пакінулі адны прагаліны
І, у дадатак спляжыўшы
гектараў пяток маладзенькага гаю,
З бярозак збіваюць словы
найпершай важнасці:
«Шануйце лес —
ён багацце нашага краю!»

*

Мы ганім у нашых бацькоў перажыткі,
А руні ячменнай
не адрознім ад жыта.
Вясну маладую з нас кожны хваліць,
Калі ідзе па сухім асфальце.
Нам дождж не трэба —
Нам досыць хлеба!
Мы хлеб будзем есці —
Хай сеюць яны,
Што не змаглі ў сталіцу забрацца.
Людзей мы знаем:
Блішчаць, як люстэрка, штаны —
Няйнакш, прадстаўнік разумовай працы.

*

Іншыя з нас па меры магчымасці
Бралі скупыя веды,
Праўда, стараліся болей
выбіцца у паэты.
А потым рэдакцыі бралі блакадай,
Аселі на крэслах і сёння рады.
Ды ўсё ж зрэдчас адчуваем патрэбу
Паплакаць, што нас адарвалі
ад роднай глебы,
Што хочацца ў родную вёску —
Прайсціся роснаю сцежкай.
Маленства босага адгалоскі
Там сэрца нам будуць цешыць.
За сябе мы такія гордыя,
Што перад спакусай трываем:
Пеша ідзём вечаровым горадам,
Хоць побач імчацца трамваі!
Мы ўпарта лезем на трыбуны,
Мы пратэстуем, патрабуем,
Мы клічам на пярэдні край —
Там, на пярэднім краі, — рай!..
Самім паехаць нам —
ды дзе там!
У першую чаргу нам дай
Кватэру з цёплым туалетам.
Мы й запявалы, мы й харысты,
Мы ўславім працу трактарыста,
Цялятніцы і пастуха,
Мы рыфмамі сячэм ззаўха:
Няхай даюць нам хлеб і мяса,
А мы ім — ямбаваны пафас!

*

Шкада, што да нас так позна
Прыходзіць суровай позвай
Сумленне, якое завецца
Словам кароткім —
«мама».

Мы, ведамі ўзброеныя,
асветленыя асветай,
Гэтае слова спрадвечнае
ўжываць пачынаем мала.
А нашы матулі сціплыя
Думаюць думкі ціхія.
Як і ў часы Скарыны,
Не забываюць за нас памаліцца,
Абнашчыцца ў пост скарынкай.
Калі ж нам нялёгка робіцца,
Калі мы зусім заблудзім, —
Мы сон нашай памяці будзім,
Выйсця шукаем,
Матку гукаем.
Заўжды я ў цяжкую часіну
Успамінаю блакаду,
Лес каля вёскі вушацкай Пліна,
І маму гукаю:
— Ку-лі-на!
Я ведаю —
адгукнецца...

*1962*

## БЛАКАДА

*Светлай памяці бацькі майго*
*Івана Рыгоравіча*

### Замест уступу

Бяссонніца.
Гэта позна ці рана?
Ад крыжавіны аконнай рамы
Адплыў маладзік
Членам Таварыства
Чырвонага Крыжа й Паўмесяца,
Якога
За няўплату членскіх узносаў
Выгналі.
Месіцца па нябесным выгане.

У тэлефоннай кабіне
На пупавіне шнура
Трубка вісіць, як эмбрыён.
Якраз пара
Пазваніць у лясны раён.
А куды? Хоць у туман!
Дык гэта ж тэлефон-аўтамат.
Вега так пазірае,
Хоць з Месяцам заручы.

Планета —
какетка старая —
Круціць арбіт абручы,
Каб сагрэцца.
У халадзільніка
Абрываецца сэрца.

Рабіна світае
Чырвоным грабянём,
Чакаю — закукарэкае...
Наіўнасць святая.
Што за недарэка я!
Гэта неба маленства
Занялося агнём...

Доўга ў схоўнях сэрца
блукала
І скаланула спакою дол
Слова глухое, як тол, —
БЛАКАДА.
Ад цішы — ад злой каргі —
Я ўцёк, мітусню пакінуў.
Усплываюць ад каменя ўспамінаў
З прадоння памяці
тры кругі.
Тры кругі блакады суровай,
Падпаленыя крывавай зарою.

...Цягнік гадоў у тунель забыцця,
Як трус у пашчу ўдава, нырае.
«Жалезку» ўзарваць
паспець бы хаця.
Выбух!
Пахне зямля сырая.

Ды вока ралля не радуе —
Зямля ўзарана снарадамі.
Прыйшла не з праскамі
вясна-красна.
Распалілася даясна
Нізкага неба скляпенне.
Першы круг захлынае —

## Блакада цярпення

Стогнуць калёсы.
Бежанцы сумныя.
Лес
Да заўчасных грымотаў прывык.
Рушылі ўсе,
Быццам новы сунецца
Ледавік.
Панура
Карова брыдзе пры возе.
Крумкае хрыплы крук.
Ціхай хвілінай
Б'ецца ў трывозе
Сэрца блакіту — жаўрук.

Адзін кірунак —
усе за «жалезку».
Калёсы з раненымі на ўзлеску.

Як надламаныя каласы,
Асыпаюцца раненых галасы:
— Мы ў лёху смерці,
Над намі прама
Жахлівым небам зашклёная
«Рама»[1].
Крыжы над намі,
Яшчэ жывымі.
Смерць
Ведае кожнага з нас па імю.

Над намі бомбы адгаласілі.
Мы ў кожнай кулі смерці прасілі.
Ды смерць марудзіць.
Мы ўстаць не ў сіле.

Нам болей не хлусіць
Нават зязюля.
Таварышы!
Просім апошнюю кулю.
Крыжастага неба
бачыць не можам.
Не пакідайце нас
кулям варожым...

На лузе стажар’е выбухаў стыне.
Чарнеюць пад неба стагі густыя.
Іржуць ашалела
здзічэлыя коні —
Не скублі гэткіх стагоў ніколі.
Ды ціхнуць крыкі ў імжы вечаровай.
Як некалі дома, мычаць каровы.
Пякучыя раны халодзіць кужаль.
Па гнёздах разбураных
кнігаўкі тужаць.

...Галінка расу за каўнер страсе.
Кажух туману акрыў лугавіны.
Як поўнач прыспіць трывогу,
Усе
Пайсці на прарыў павінны.
...Сурова палец ляжыць на курку.
Маўчыць цішыня у цяжкім неспакоі,
Нібыта заціснутая ў кулаку
«Лімонка» з вырванаю чакою.
Прайсці «жалезку»!
Прарвацца на захад!
...«Жалезка» сустрэла
Жалезам,
Жахам.
Дарма!
Не прыспала поўнач трывогу —
Вар’яцкую песню ціша запела.
На зябкім поплаве неба начнога
Цвітуць ракеты кветкамі з пекла.

Расталі ўмомант змроку сумёты.
Кажух туману з лугавін спаўзае.
Плачуць па дзецях
нямецкія кулямёты

Буйнакаліберны мі слязамі.
...Разведчыку развярнула жывот.
Пісталет да скроні:
— Не трэба, мама...
Не плач...
Выходзь з заклятых балот.
— Сынок...
                і мяне таксама...
На міг змаўчалі абое,
Але
Куля ў абойме,
Куля ў ствале...
...Назад падаліся
Жакеткі,
Клумкі,
Дзе хто —
                невядома.
Жудасна...
Тлумна...
...Патухлымі ад пакут
                                вачыма
Балюча ў неба глядзіць жанчына:
А ля яе
Казлянятка бляе,
Аж заходзіцца —
                        і не адыходзіцца.

...На свежым пяньку хлапчук малы
Сплакаўся — усхліпвае ледзьве.
Мурзаты ад дыму і ад смалы.
Шапка на вочы лезе.
У зайцавай шапцы,
Як зайчаня.
А маці не йдзе і не чуе.
Ціха.
Яе не стала яшчэ да дня.
За сына не хоча прызнаць зайчыха.
...Лес плакаў,
Стагнаў,
Галасіў да рання,
Як ідал паганскі,
                        ашчодран дарамі.

А тут яшчэ
Салавей стараецца —
У чорным алешніку цёхкае.
За хмару
Схавала раніца
Вока, крывёю зацёклае.

...Да вёскі лясной
Дацягнула знямога.
Уратаваў ад імжакі хлявок.
Каб скрыпнулі дзверы.
Нікога жывога.
Вяскоўцы ў лодкі —
і на астравок.
Вяртаецца вырай,
Кружыць тужліва,
Нязвыклай палохаецца глухаты.
Зубамі скрыгочуць
жорны без мліва.
Спакойна сабе памаўзуюць каты.
Што гэта
ўзяліся сарокі чаркаць?
Ці пастухі
згубілі цялят?
Бліщчастыя бляхі.
Крыжы.
Аўчаркі.
Астылае рулі
тупы пагляд.

Шнуром бікфордавым
schnell[2] зашыпела,
І ўдарыла раптам
рэзкае veg![3]
Страшна глядзець
на дзень белы,
Цяжкіх не ўзняць павек.
Злятае, падстрэлены,
Ліст зялёны.
Строчаць
Па астраўку.
Бярозай ссечанаю
Калона
Шуміць прыглушана па бальшаку.

Над азярынамі затуманенымі
матчыных вачэй
Малыя кігікаюць жаласна:
— Піць!..
Шнуром бікфордавым
schnell сіпіць.
Дарога ўзляцела б хутчэй!

...На падлозе салома злежыцца,
Прапахне голадам, тыфусам,
Бяздомным бежанцам
Блакада ў патыліцу дыхае.
Нішчымніца — злая дзядзіна,
З ёй ніяк не згаворышся.
Усё памяняна, прададзена.
На руках толькі дзеці хворыя.
Іх усмешкі вайна адпрэчыла.
Яны на скарынку чэрствую
Глядзяць вачыма старэчымі.
Сасмягла рачулку чэрпаюць.
За спіной — каміны абсмылелыя,
Беспрытульнасць — уперадзе.
Над галавой — груганы асмялелыя,
Ды ўсё яшчэ ў нешта верыцца.
Бяда не чакае, прыспешвае,
Прапячэ пясочак сляза скупая.
Маіх восем гадоў —
Галодныя бежанцы
І дагэтуль
У сны мае
Адступаюць.
...Зноў вёска над возерам —
Качаны.
Прыпынак, відаць, часовы.
Пілоткамі згубленымі —
Чаўны.
Чые галовы
аплакваюць совы?
Магільнік у вёсцы самой.
Штодня
Маўкліва нехта яму капае.
Труну не збіваюць.

Не трэба каня.
Жвір ссыпле з далоні
Лапата тупая.
Матуля ўтрапёная
Сыну малому
Крыж на магілку
вяжа з саломы.
...Даедзены ўсе прыпасы.
Маліннік.
Крушня старая.
Хлапчук, як мядзведзік ласы,
Маліну з куста абірае.
І голад забудзецца ўлетку —
Спакойна малінка паспела.
Ратуйся, малы! —
ўнепрыкметку
Змяя падпаўзці паспела.
Нашто ты ўрадзіла, маліна,
Салодкая, сакаўная!..
Матуля Бога маліла,
Лячыла як знала, —
Канае...
А заўтра ж усіх павінны
Пагнаць з гэтай вёскі рана.
Пакінуць хворага сына,
Не браць з сабой загадана.
Канае мурзаты мядзведзік,
Вясёлыя вочы тухнуць.
Паспела матуля ледзьве —
Знайшла старую шаптуху.
На сэрцы холад зімовы,
Старая
Шэпча
Замовы:
— Госпадзі, памілуй, баславі, Госпадзі.
На моры на Кіяні, на быстрым буяні
стаіць ліпавы куст; пад тым кустом
ляжыць бел камень, у белым камені
чорна руна, у чорнай руне змяя —
Шкарлупея, сястра Палагея, цётухна Аўхім'я.
А ты, змяя Шкарлупея, сястра Палагея, цётухна Аўхім'я,
змірай сваіх змей, а то буду прасіць Міхайла-архангела, —
ён цябе громам заб'ець, маланнёю спаліць,

буйным ветрам попел разнясець.
Узнімі сваіх змей сіпучых, лятучых,
паўзучых, земляных, вадзяных, навозных,
дзярновых, крышачных, бярновых,
падкалодных, карчавых, падмежных, падкаменных,
запечных, качарэжных.
Госпадзі, памілуй, баславі, Госпадзі.

Заснуў мядзведзік мурзаты.
Не спяць чарадзейныя словы.
Наведала хату свята —
Устаў раніцой здаровы.
«Стала Купалка бедаваць:
— А дзе ж мне ночку начаваць?..»
Невясёлае ты, Купалле.
Адкуль жа словы ўпалі,
Як слёзы на прысак гарачы?
Чую,
Як мама песню плача:
— Ноч сягоння кароткая самая.
Ветах мыецца ў ціхай вадзе.
Як краса,
Як раса, краса мая,
Пасячэцца іападзе.
Неба ясніцца, небу горача —
Не купальскія гэта агні.
Пахне жудасцю, пахне горыччу.
Вецер,
Чорныя хмары згані!
Я — Купалінька,
Я — самотная.
Крывянее чорны туман.
Мне нядзеляй не быць,
Быць суботаю.

Я — Купалінька,
Дзе ты, Іван?
А ласкава ж сышліся некалі
Рукі нашыя і вянкі.
І, здавалася, добрымі рэкамі
Плыць купальскім вянкам
Праз вякі.
Рукі я заламаю калінаю,
Дзень, як ветах, на сход ідзе.

Векаваць мне ўдавой Кулінаю,
Гора з кім падзялю
і дзе?
Не зарою неба падпалена.
У купальскіх красках дзірван.
Я гукаю цябе,
Я — Купалінька.
Хоць падай мне голас,
Іван...

...На горле спалоханага астраўка
Сціскаюцца пальцы аблавы.
Да поўні не дастае рука —
Ракетай падвеснай плавае.
Сядзі
Захлынайся ў іржавай вадзе
Ад твані, што звер калматы.
Глядзі,
Як аўчарка па следзе вядзе
Ашчэраныя аўтаматы.
Халодна змяя слізгане па шчацэ.
Але
Не выпусціць джала.
Халодная кропля
за шыю сцячэ.
Лось гляне,
Як госць нехаджалы.
Патронаў мала —
Чаргой у адказ
Шанцуе зрэдчас агрызацца.
Застаўся недатыкальны запас —
Густая капуста зайцава.

Пад вывернутым карчом —
Карчма.
Карчмаркаю — смерць кашчавая.
На баравіне —
Рады няма —
Раптоўна запахла шчаўем.
Што гэта была за трава,
Каго запытаць?
Журавоў на імшарыне?

Кругам ішла галава.
Маўчала гадзіна шарая.

...Вёска
Каля Валовай гары.
Валы тут даўно не рыкалі.
Ніводнай хаты,
хочаш — бяры
Ды жар заграбай
Сваімі рукамі...
Лёс зрэдку падміргвае,
Што ні кажы.
Забылі на момант «жалезку».
Рошчына
Падышла ў дзяжы —
Дзяжа ацалела на ўзлеску.
Хутка прышчыліся праснакі:
З пажарышча толькі патэльня.
І зноў наўпрасткі,
І зноў нацянькі.
Начы — і той
Не даверышся вельмі.
Хоць ты з лазы напляці лапцей,
Каб з чортам лазатым палаяцца.
На нервах іграюць,
Хоць звар'яцей,
Апрыклыя «балалайкі»[4].
Цецерукі такуюць да хрыпаты.
Ды выбухнула
Ціша ранняя.
Кашулю спатнелую — на бінты.
Медсястру параніла.
Каб не закрычаць,
Траву жуе
(Каторую раніцу — нашча).
Ды радасцю ўспыхваюць вочы яе:
— Самалёты!
Нарэшце нашы!..
Травы маладой перацяны жмут
Ляжыць у канаве...
— Брат мой лётчык...
Ён, мабыць, тут, —

Балюча гаворыць.
Канае...

...З-пад шапкі кудзеліцца чуб.
За бараною ідзе хлапчук.
Баранує патроху,
Баранує дарогу.
Зводдаль глядзяць зірката
Нямецкія аўтаматы.
Ступае буланы міма, міма,
Жвіру трывожны хруст...
Выбухне зараз
партызанская міна,
Вырасце чорны куст...
Памалу хлапчук ідзе
Па бядзе...

...Болей не да забаў —
Сумны абоз склыгоча.
У бяздомных сабак
Прыйшлося пазычыць вочы.
Скончыліся забавы,
Засталіся паслугачы.
Позна!
Цяпер зубамі
Скрыгачы ці не скрыгачы.
Баяліся партызан
І баравога звону.
Трэба вяртацца назад,
У партызанскую зону.
Паны афіцэры
З сабой не ўзялі каханак.
Як адчыніць забытыя дзверы,
Ступіць на бацькоўскі ганак?
Болей за маркі
Нічога не купіш.
А тут яшчэ чуюцца сваркі
З балотных купін:
— Кур-рва! кур-рва!
— Сама тта-ккая! сама тта-ккая!
Лес, дымам пракураны,
Рэхам ахрыплым ім патакае.

...Ці куля, ці дзяцел?
Стукнула тупа.
У лесе стаіць духата цяжкая.
У лесе яшчэ засталіся трупы.
Мама бацьку шукае.
Дзе ён ляжыць,
неабмыты, забыты?
Прыкрыць бы хоць косці
сырой зямлёю.
Казалі, ля возера, тут, нібыта,
Упаў, падкошаны куляй злою.
Дзе ён схаваны,
скажыце, паляны?
Маўчаць паляны,
маўчаць трывожна.
Прылеглі навек адпачыць партызаны.
І на Івана падобны кожны.
Не адгукнуцца ўжо болей самі.
На тым —
паддзёўка зусім не такая.
А гэты — з чорнымі валасамі.
Мама бацьку шукае.
Юнак парудзеў
(птушкі не закранулі),
А ногі ў вадзе да калень — набрынялі.
Хто скажа, дзе ён, яго матулі?
З дарогі ногі — абмыйце, хвалі!
Кляне балота і моліць Бога.
Аддай хоць косці, сквапная багна.
Раней не выносіла паху любога,
А тут —
паветра глытае прагна.
Нюхае, паветра патыхае смуродам,
Глядзіць, дзе сцежка глухая якая.
У лесе ўчадзелым нялёгкі одум.
Мама бацьку шукае...

Вядома, што ў бежанкі
Ні хлеба,
Ні мешанкі.
Нібы ў той бабылкі-бабулькі,
Якой надакучыла жыць,

Ані цыбулінкі,
Ані ў што ўкрышыць.
Двары вашы, удовы,
Мінае лёс.
Загон арэцца ў крывыя барозны.
Сын дзесяцігадовы
Мохам аброс,
Як пянёк бярозавы.
Сягоння зноў рана
Запяяла Улляна.
Запяяла Улляна —
Значыць, кепскія весці:
Сыну хочацца есці.
А пад снегам спяць паплавы.
І далёка — да крапівы.
Некалі голад —
                    нішчымніцы хрэснік —
Жартаваў на Белай Русі:
«Пяі песні,
Хоць трэсні,
Толькі есці не прасі...»
Ноччу плавае поўня,
Як сыр.
Не дастаць Улляне яе.
Каб не чулі, як плача сын,
Каб самой не заплакаць —
Пяе...

...Трымайся, рабро,
Хоць не соладка.
Гаварыць — серабро,
Маўчаць — золата.
Нязнай ляжыць,
А Знайка далёка бяжыць.
Потым будуць шукаць герояў
Чырвоныя следапыты,
Герояў,
Што за Радзіму стаялі гарою:
«Ніхто не забыты,
Нішто не забыта!»
Потым узыдуць грозныя танкі
На гранітныя п'едэсталы,

Знясуць і прапішуць астанкі
У брацкіх магілах стала.
Потым героі увойдуць у казкі
І ў прамовы ўрачыстых мітынгаў,
Салдаты бетонныя
здымуць бетонныя каскі
Над курганамі, слязьмі абмытымі.
Потым будуць
Ракеты, салюты, авацыі.
А покуль анкеты
Пытаюцца люта:
«Ці быў у акупацыі?»
Не грэюць паддзёўкі паношаныя —
Сагрэюць «курорты» паўночныя.
З асцярогаю партызан колішні
Глядзіць на малінавыя аколышкі.
Горш, чым ад выбухаў, ад нематы
Аглухнеш,
Крыкам здасца мычанне.
Мае нораў круты

## Блакада маўчання

Туга рэчкамі падперазаны
Курганы —
безыменныя ўзвышшы.
Тут маўчаць партызаны,
Што з блакады выйшлі.
Па варонках —
па свежых ранах
Гнала іх смерць,
смерць не драмала.
Іх, знясіленых, зацкаваных,
Толькі вера трымала,
Пагубляліся ўзводы, роты.
Хто куды
Разбрыліся барамі.
Не спускаліся самалёты,
Іх за лінію фронту не бралі.
Пераправы, цяжкія прарывы
Загацілі хлопцы сабою.

Палыну пасівелыя грывы
І цяпер
Вецер гладзіць з болем.

...Даўно стаў ветахам
Месяц мядовы.
Ды ён, і мядовы,
не быў салодкі.
У складчыну
горкую п'юць удовы.
Пеўні галовы
Кладуць на калодкі.
Вясну забралі
блакада, балоты.
Удовы
І ў дзень завейны пацелі.
Хапала спякоты,
Хапала слоты,
І толькі пяшчота
мінала пасцелі.
І верылі:
Прыйдзе чаканы,
адзіны.
Блакада-зайздросніца не адпускала.
Халодная коўдра,
Падушкі-ільдзіны.
Усмешка плыла ў забыццё ласкава.
Маток цыбулі —
ну чым не каралі?
Бывала,
І брыгадзірам гадзілі.
За трох касілі,
За двух аралі.
За плугам і ў плузе
сваё адхадзілі.
Бабіна лета
Прабудзе нядоўга.
П'юць,
як радоўку сваю адбываюць.
Старых бабылёў
ахмялелыя ўдовы

Раўніва
Адна ў адной адбіваюць.

...Сасна, падсочаная перуном,
Спрадвеку казалі людзі,
Не можа стаць бервяном —
Гусці ў навальніцу будзе.
Дзе знойдзеш сасну
Хоць адну
У партызанскім краі такую,
Што выстаяла вайну,
Легла звонка ў сцяну
І навальніцу не ўчуе?
Ад грому аглухлі бары,
Падсочвалі сосны снарады.
Тупіліся
Склюды і тапары
Па папялішчах пасля блакады.
Антэнам
Маланкі ўсе напавер
Даўно аддалі,
Каб з тропу не збіцца.
Ды ў кожнай хаце
Яшчэ і цяпер
Трывожна ў навальніцу.
Калі над Вушачай
лятуць журавы
І поўня спакойна барвее,
Запахне трывогаю
Мох баравы,
Жывіцай
заплачуць бярвенні.

...Па вясноваму цаліку
Партызанскай сцежкай патайнай
Сёння я прыйшоў
К Паліку[5]
З невясёлым сваім пытаннем:
— Ты,
Крывёю паліты
Палік,
Смуткам кожнае сэрца поўніш,

Хоць гадам сваім
Страціў лік,
Можа, бацьку майго прыпомніш?
Не адказвае мне Палік.
Недзе плача самотны кулік,
Як душа,
Што збавення просіць.
Засмучоная,
            змоўкла просінь...

На Палік
Адступалі яны —
Бацькавы дружбакі прыгадалі.
Пах трывожны адталай сасны.
Да цішыні прывыкаеш гадамі.
Успаміны не варушы,
Захлынае вясны бязмежжа.
Завіхаюцца мурашы —
Вавілонскую ўзводзяць вежу.
Раскашуецца мурава,
Быццам раіць
На ўсё забыцца.
Ды сумуе зямлянка-ўдава
У сваей парудзелай світцы.
І ляціць баравое ку-ку
Па зялёнаму Паліку.
— А мой Іваначка,
Набудзілася я цябе,
А цяпер
Цябе дуб караніць, —
Над магілаю
Б’ецца матка...
Адыходжу.
Мне ў сэрца звініць
Імя спаленай вёскі —
Звінятка...

...Зноў вяшчае прыёмнік,
Што і як за марамі,
А ў бальніцы раённай
Партызан памірае.
Быў на сцюжах, на слотах,
Толькі не на Каўказе.

Ён прымаў у балотах
Зледзянелыя гразі.

Мае нават даведку
З подпісам камандзіра,
Што хадзіў у разведку,
Быў адважны і шчыры.

Быў крыху на вышынях
У раённых маштабах —
Пахадзіў у старшынях,
Брыгадзірах, прарабах.

Еў і спаў як папала
І не думаў пра гэта.
Самагонкі хапала,
Не хапала асветы.

У гадах, а завочна
Людзі вучацца дзесьці.
Думаў — позна, навошта,
Хай стараюцца дзеці.

І медаль юбілейны
Атрымаў да бальніцы.
Ранак белы, завейны.
Толькі голас сініцы.

Як тады,
у блакаду,
У балоце заклятым
(Кулямётныя звады...
Ён з пустым аўтаматам...)

Як тады, у блакаду,
Сіні голас сініцы.
Сэрца...
І нішто не дасць рады;
Гэта ява
Ці сніцца?

Калі ўсё йдзе да ладу,
Ліха блізка пасецца.
Зноў сціскае блакада —

## Блакада сэрца

Узышлі палыны тугі —
Ты сваё ўзарала ляда.
Замыкаюцца тры кругі.
Што ты хочаш яшчэ,
                                        Блакада?
Патрабуеш яшчэ чаго?
У глухмені балотных кладак
Ты забрала бацьку майго,
Ты забрала мой смех,
                                        Блакада.
Хай на звод
Пойдзе люты род.
За матуль,
                    што жыццю не рады,
За калек,
За ўдоў,
За сірот
Праклінаю цябе,
Блакада.
Што ты ходзіш?
Шукаеш аброць
Ад каня,
                    што вазіў снарады?
Хоць
У сны мае не прыходзь,
Я прашу цябе!
Чуеш,
            Блакада?..

*1968*

# САМОТА ПАЛОМНІЦТВА
*Лера-паэма*

...иже мя милостивый Бог
с того языка на свет пустил.

*Ф. Скарына. Прадмова да Псалтыра*

## А

Толькі пакутніцкі лёс
Мае на памяць права!
Імем зямлі і нябёс
Дзейсніцца вечная справа,
Справа на ўсе вякі,
Што засталіся ў людства.
Поўняцца часу глякі
Жвірам прароцтва,
Люцтва,
Жвірам адчаю, тугі,
Жвірам смугі, самоты.
І на свае кругі
Вернуць пясчынку рашоты
Вечнасці.
І ланцугі
Любасці і пяшчоты
Злучаць два берагі,
І на свае лугі
Пчол павяртацьмуць соты

Рупнасці мудрых пчол,
Тых, што пылок пазнання
З іншапланетных чол
Будуць збіраць.
Старанне
Іхняе ўбачыць Бог.
І засвітае ў часе
Постаць, што за парог
Цемрачы выйшла, зраклася
Вечнае сумятні,
Вечнае забароны.

Тлен, ападзі, не крані
След ад ступні ягонай!
…………………………….
Фаўстаў нашчадак Францыск
Шэпча сваей Маргарыце[1].
Робіцца друкам ціск.
З'яўлены ў дрэварыце
Першы канкрэтны *твар*
У Бібліі, а не *воблік*.
Лекар асветай, друкар
Не з-за лятучых воблак —
З Полацка сын Лукаша,
Тога, што жыў з кірмаша,
Што давяраўся долі,
Тога, у каго з каша
Пнуўся вятох на волю,
Тога, у каго з каўша
Брага лілася доле,
Тога, што змог адзін
Торкнуць свае два грошы
У Кракаў ажно,
Каб сын
У доктарскай ахарошы
Лекаваў, колькі мог,
Душы людскога сабору.
Маладзічковы рог
Быў Лукашу за апору.

Б

У хаце смачна пахне пірагамі.
Званы Сафеі небу б'юць хвалу.
Развітваецца са шкурай і з рагамі,
Вядома што, не хочацца валу,
Ды шкура скора пойдзе
На пергамент,
Панура адвісеўшы на калу.

Ва ўласнай шкуры
Ўвесь астатні статак
Пасецца ля аціхлай Палаты.
Пергамент зберажэ нашчадкам
Статут,

Дзе беларускай мовы
Дух святы
Асвечаны Скарынавай рукою
І апладнёны Млечным Шляхам дум.
Паслухай, як рыкае за ракою
Сагнаны ў статак
Стогадовы сум.
.........................................
Ільсніцца футра пільсцю маразяна
У сховах палачаніна купца
Лукі Скарыны,
Каб на плечы пана
Свайго а ці з заморскага
Канца,
З прысветку свету легчы
Недзе ў Рызе,
Яна суседка —
Як падаць ракой Дзвіной,
Што ў туманах, нібыта ў рызе,
Да неба не павернецца спіной,
А дасць сваё найменне Дзвінаборгу
Ці Дзюнабургу.
Ад яе лукі
У свет плывуць чаўны.
Дай, Божа, торгу
Для вернага раба твайго Лукі!

В

Цягне маўклівасці як
Бочку — вадзе не праліцца.
Доўга гісторыя, як
Полацкая маладзіца,
Будзе высвечваць цень,
Панаскіпаўшы лучыны,
Каб асвяціўся дзень,
Дзень нараджэння Скарыны.
Каб атрымаць адказ
З вуснаў самой таямніцы,
Хоць бы акрэсліць час —
Сёмуха ці Грамніцы?
Пырнік і ўвесь асот
Блытанасці

Гаспадыня,
Нібы ўтравелы гарод,
Выпале, толькі б год
Хуткі быў на паміне.

Праўда, і дзень, і год
Сонечнага зацьмення
Полацак помніць,
Код
Гэта які ці знаменне:
Маладзічковы след
Сонечнае аблічча
Значыць.
Маўчыць партрэт,
Леты, магчыма, лічыць
Думнага спадара
У доктарскім годным берэце,
Нібыта кажа:
«Пара
Апавясціцца ў свеце.
Што яму дзень і год!
Сонца і тое, прарочы
Учуўшы ягоны прыход,
Ціха заплюшчыла вочы».
Гэта ішоў памачнік
Сонцу —
Удвох у змроку
Лепей.
А след не знік —
Бачыцца вечнаму зроку.

Год нараджэння?
Калі Русь адбялілася,
Белай
Стала.
Па ўсёй зямлі
Крыўская слава бегла.
Беляць палотны, каб
Кужаль кунежыў цела,
Каб аж да крохту скаб
Дух не здаваўся.
Бела
Доле й на небясі —
Снежна і Млечнашляха.

Большая Белай Русі
Наканавана плаха.

Гэта пад полаза віск,
Які патурбуе Еўропу,
Вызначыць пан Францыск
У Кракаве па гараскопу.
Гора з капу гараскоп
Вызначыць Беларусі?
Тых не палічыць коп
Гора
І неба, мусіць.
Будуць хаваць у капцы
Славу яе і слова
Хіжага гандлю купцы,
Радцы падступных ловаў.
Будзе шукаць траву
Ад забыцця народа
Уласнага ймя ў раву
Пражскім —
У садавода
Клопат такі стары
Будзе ў любой нагодзе.

У кіцелях «святары»
Аж праз чатыры стагоддзі
Вешаць пачнуць ярлык
Мніха і цемрашала,
Будзе халуйскі язык
Люцей ад змяінага джала.
Жывіцца вечнасць якраз
З часу, з яго даніны.
Мы, беларусы, раз
І назаўсёды павінны
Помніць — да дамавіны —
Час нараджэння нас —
Час нараджэння Скарыны.

## Г

О, як радасна мову рабіць
На багата стагоддзяў славутай!
Шкарлупіну зняваргі разбіць, —

І пасыплюцца звонкай валютай
З залатога арэха нябёс
Гукі гукаў,
Як тыя ядзерцы.
Мова тая, з якой ты ўзрос,
У цябе і ў Айчыны на сэрцы.

Сцвердзіць гэтая мова пасля
Горды Статут Вялікага княства.
Беларусаў святая зямля
Словы крылкія вышле, як птаства,
У Статут, нібыта ў вырай вякоў,
Каб вярталіся ў душы нашчадкаў.
У яе на паноў, мужыкоў
Хопіць, покуль гучыць яна,
Спадкаў!

Гэту мову і край у цяжбе
Цягнуць нашы суседзі да поту,
Нібы коўдру ўначы на сябе,
За вякі не спагнаўшы ахвоту.

Цягнуць так ад цямна да святла
Сваякі і суседзі ў зморы,
Аж свіціцца яна пачала —
І на дзірках, як лапікі, зоры.

А Францыск прымяраў, прыміраў
Словы,
Што з-пад Дзвіны, з-пад Вушачы,
Благаслаўляючы мову й міран,
Ратнікаў і ратаяў на ўдачы.

На якое стагоддзе пазней
У карчме з Чарнаручча дзяўчына
Кручаная, як тая ляйчына,
Запяе, памінаючы жней:
— Ой, мамачка, я прапала —
Любіць мяне хто папала,
І расейцы, і палякі,
І ўсякія пабасцякі...

Кутнік прышлы, прымака і зяць
З завядзёнкай асвечанай даўняй
Звыклі хлопскай, мужыцкаю зваць

*И наречьем великой державной*
Мову нашу, якая са дна
Дзіўнабоскай паганскай асновы,
Як крыніца забіла,
Яна
У світальнае цноце адна
Кожны гук ацаліла вясновы.

## Д

Святар для асланення склаўшы ксты,
Змаўкаў, і мова боскі храм дзівіла.
І Жыгімонт Стары[2] пісаў лісты
На мове нашае да Радзівіла.

І Кміта-Чарнабыльскі[3] каралю,
Магнатам і чыноўнікам дзяржавы
Лісты па-беларуску слаў,
Зямлю
Сваёй лічыў, не пазычаў ёй славы.

А потым праваслаўнікі з царквы,
Каб дзверы уніяцтва зняць з крукамі,
Прагналі мову, даўшы ёй правы
Араць, касіць,
Вадзіцца з жабракамі;
Яшчэ спяваць, паднёсшы каравай,
І думаць, статак гонячы на пашу.
*Северо-западным*
Назвалі край
І дыялектам людскай мову нашу.

І новай веры новым пастухам
Зусім не трэба ведаць мову краю.
На людскай мове спавядайся, хам!
І з мовaю сваёй не прыся ў храм,
Адна ёсць мова — лашчыць і карае!

## ДЖ

Кіруючыся набожным жаданнем і наважыўшыся надрукаваць і выдаць на рускай мове Святое

пісанне, прыбыў да масквіцян. Гэтыя кнігі былі публічна па загадзе князя спалены, таму што былі выдадзены падданым рымскай царквы і ў месцах, якія не падлягаюць яе ўладзе. Такая ўселена ў гэты народ непрыязнасць да лацінскага і рымскага імені...

*Інструкцыя, у адпаведнасці з якой каралеўскі пасол мусіць гаварыць з Рымскім Папам*

Баіцца ерасі Масква
У слове, што надрукавана
Самім антыхрыстам.
Царква
Ад конніка да каравана
Падазраваць павінна ўсіх,
Бо ў праваслаўнай права славы
Належыць ёй, а каб не ціх
Шал недаверу, ёсць рухавы
Чырвоны певень —
Пад страху
Пусці яго — і толькі попел
Маўчыць.
А пеўню б хоць крыху
Пакукарэкаць у Еўропе,
Бо асмялелі скразнякі!
І ўсе з Еўропы, ўсе з Заходу.
Масковія на ўсе замкі
Замкнёная, і ўсе дзякі
Блішчаць, як тыя медзякі,
На Русь наводзячы лагоду.

Ідзе здалёк культур сутык,
Каб дротам замяніць вярыгі.
А тут гусіцкі ерэтык
Надрукаваць святыя кнігі
Пасмеў уперад ад Масквы
У Вільні, ў скамянелай Празе.
Адвернецца ад галавы
Такой сякера
У абразе,
Бо ёй даводзіцца сячы

Куды цяжэйшыя галовы.
— Сачы, сачы! —
Не спяць сычы
І злой начы сляпыя совы.
Гром грымне, а пакуль яшчэ
Масковія —
Цямрэчы хутар.
З нярускім іменем цячэ
Рака.
І ў Вітэнбергу Лютэр[4]
Устрашыўся ерэтыка,
Збег у Таргау.
Пра Францыска
Легендаў пацячэ рака
Ля сціхлых старыц праўды блізка.
Пагоніць Лютэр слоў брую,
І, зайздрасць глушачы цяжкую,
Ён следам Біблію сваю
Перакладзе і надрукуе...
І ерась —
Толькі пыл і прах —
Ляціць з агню-ўсёжэрцы прыскам
Над сынам Полацка Францыскам.
...Друкар сустрэчы гэтай праг.

Пакуль што Фёдараў[5] расце,
Каб ехаць ерасі набрацца
Ў Скарынаў край,
Дзе ў дабраце
Усіх прымае шчыра праца.
.................................
Няхай жыве пажар да хмар!
Ва ўсе вякі, ва ўсе часіны
Над тленам тлену валадар
За ўсіх прымаць віны цяжар
Звык, чырванеючы,
Адзіны
Віноўца чорных спраў, распраў,
Зямное і нябеснай кары.
І Праметэй агонь украў
У Бога з марай пра пажары.
.................................

Няхай нязводны будзе мор,
Які бяжыць хутчэй за чутку!
Дзе думка з цёмнага закутку
Пасмела вылезці на двор,
Дзе непадкупнасці дакор
Не чысціць хлусу чаравікі,
Туды пашлі, Ўладыка, мор,
Мор слепатой усёвялікі.

Пажар лацвей ракой тушыць,
Як не ракой —
Затушаць морам.
Мор дужы ісціну глушыць.
Няхай усё дрыжыць пад морам!

Во! Мор ідзе — пяе жарства.
Пакуль ён спіць, нахабны сорам,
Крок люты слухае Масква.
Надыдзе і палёт да зор.
І зменіць мор чарговы мор...
..................................
Не па чэраве аперазь,
На чале аповязь роздуму.
Падымай свой позірк,
Ерась,
Смутак твой дарэмна рос, таму
Што з цябе бярэ пачатак
Рэчка ў неспакойным рэчышчы.
Ты — бяльмо старых сятчатак,
Што расце, сябе ж адпрэчыўшы.

На чале — святла аповязь.
Промень,
З цемрай сілай мерайся.
Пачынай сваю аповесць,
Ерась,
Прыраджэнка ерасі.

Хай гудзе душэўны верад,
Як пчаліны рой на верасе.
Ерась,
Смела мкніся ўперад.
Новы дзень —
Хаўруснік ерасі.

Аж хістаецца эпоха,
Зачыняюцца ашчэры ўсе.
Верачы ў нязрушнасць Бога,
У душы не бойся ерасі!

Крыл крамольніцкіх аперась
Птушанятам сніцца ў шэрасе.
Хай жыве святая ерась!
Свет глядзіць вачыма ерасі.

## ДЗ

Спяшаўся коннік,
Гонка конік бег.
Не даганялі беглага ці кнехта.
Гаштольду ў Вільню выслаў Кёнігсберг
Пісьмова крыўду герцага Альбрэхта[6].

Калі сышоў з высокага двара
Скарына,
Кліканы дамоў самотай,
Яўрэя-лекара і друкара
Ён ад Альбрэхта звёў
З сабою ўпотай.

Магістр апошні ордэна тэўтонаў
Пісаў, каб ваявода даў загад
Скарыну й ўцекачоў вярнуць назад,
Жадаючы Гаштольду[7] толькі плёнаў.

І ўказ свой каралеўскі Жыгімонт
Аддасць
І граматамі сцвердзіць згоду,
Азначыць прывілеі ўсе наконт
Скарыны —
Даць ва ўсім яму свабоду!

Больш за чатыры месяцы Францыск
Праседзіць вязнем у турме ў Пазнані.
І захаваецца судовы іск
І звестка з Прагі ўскосная пазная.
Папера захавае, колькі суд
Юхтовых, чымшавых,
Яшчэ й рысіных

Прысудзіць шкур Францыску.
Цуг пакут
Расцягнецца.
Віноўных і нявінных
Людзей —
Купцоў, магнатаў ды пісцоў —
З сабою ў вечны шлях узяў імёны.
Ані злічыць ганцоў
З усіх канцоў,
Што хочуць бачыць кожны след ягоны.
Змясціла свет Скарынава сляза,
Скарынаў воблік час зрабіў іконай.
Пылінкі звестак — прах і драбяза
На зорных строях велічы Ягонай.

Е

У Полацку ў траўні і ў марцы
На цвінтары і на таргу
Пра беднага Лазара старцы
Цягнулі даўжэзна тугу,
Пра землі, якія за морам,
Пра мукі Хрыстовы, пра Рым.
«Калі не пракормім — заморым
Душу сваю смуткам старым», —
Шаптала старцоўская сіла,
Нячыстай яна не была.
І лера наўсхліп галасіла,
Брыла ад сяла да сяла.

Язык дзервянеў у знямозе,
Нібы ў пастуха пугаўё,
Што бачылі вочы ў дарозе,
Гундосілі старцы сваё:
— Хлеў згарэў, хлеў згарэў,
А шулы асталіся.
Матка плачаць,
Бацька плачаць,
А дзетачкі скачуць...
Не дужы старцоўскі наедак,
Скупыя часцей працадні,
Сябе разжалобіўшы гэтак,
Як цягнецца, так і цягні!

— Ой, не так жа мы селі,
Як летась сядзелі.
Ой, не так жа нам далі,
Як летась давалі...
...........................
Самота, самота, самота —
Куды ад назолы ўцячы?
Сама ты прыходзіш, ахвота,
Пакінуць сумоту балота,
Вільготныя пыцкі, лычы,
І пеша, як тыя драчы,
Ад золака і да закота
У вырай падацца.

Лічы
Свае сцежкаводныя зоркі,
З табой лугавіны і ўзгоркі
Падзеляць па-брацку харчы.

Дарога твая ўпалынее,
Запыліцца месячка плех.
У Домны, а ці ў Паланеі
Цябе прычакае начлег.

У печы закладзена люшка.
Не з чаду цябе ўчадзіць,
Пачуеш праз сон, як пяюшка
Гарэзна на вушка дудзіць:
— Ой ты, мая Домна,
Прыйдзі ка мне цёмна,
Твая ступа, мой таўкач —
Будзем крупы абтаўкаць...

Ніяк не ўцячы ад самоты,
Сваю абхітрыўшы тугу,
Самота нагурбіць сумёты, —
І глухні, нібы ў берлагу.
.....................................
Няхай твой не стоміцца посах,
Далей ад самоты вядзе,
Паломнік,
У хмарах, на плёсах
Не знойдзеш спакою нідзе.

Палону пазнання палоннік
Сваёй спагадае бядзе.
Абраннік дарогі —
Паломнік
Сам-насам з самотай ідзе.
...................................
І помніць радзіну бяздомнік
І мову спагад і надзей,
Як вернік,
Самотны паломнік
У тлумным саборы людзей...

Ж

Пячэ народу кожнаму Бог
Нябачны бохан лёснага хлеба,
Каб перад тым,
Як падацца на неба,
Прывеціў хлебам народ
Свой парог.

У кмене зорак хлеб падавы,
Пячэцца ён на аеры веры,
Вякі перад ім расчыняюць дзверы, —
І гэтым хлебам народ жывы.

Як нават рухне нябесны склеп,
У райскіх шатах ці ў апраметнай
Быць кожны мусіць
З душой адметнай,
Пакуль з ім духу надзённы хлеб.

У беларусаў, у крывічоў
Хлеб духу зласаваны прыбышамі.
Мы ўжо сябе выракаемся самі,
Нібы рагацікі з-пад карчоў.

І нашыя вушы глушыць смяшок,
І нашыя душы праймае кпіна.
Ад бохана нам ацалела
Скарына,
Ад поўні вечнасці —
Веташок...

*1988*

## АБЛАЧЫНА-САМАБРАНКА
*Бяседа багоў*

I

У вушацкай хаце за спагадным сталом
Сяджу і дамавіка чакаю.
Ён, думаю, прыйдзе з клапотным чалом,
Вянчаным вянком з зялёнага маю.
Мяне здрыганула,
А гэта воўк
Ступіў на след мой у лесе недзе.
Таўкач куццю яшчэ не датоўк
І ў ступе з каргой пазахмар’ем едзе.

А вось і сам гаспадар
Дамавік
Ці з печы злез,
Ці выйшаў з запечка.
У белай даўгое кашулі ўзнік
Ці здаўся, уроіўся.
Бразнула вечка
У куфры, дзе густа колісь было,
А цяпер зрабілася рэдка.
Дык пасядзім.
Ці запалім святло,
Ці, можа, у прыцемках лепей, дзедка?

Варушыць пальцамі —
Боссю лацвей
Хадзіць да кумы ў адведкі.
Бай ідзе па сцяне,
Нясе сямёра лапцей
Для жонкі, для сябе, для дзяцей,
Ды не для дзедкі.
А ў дзедкі вочы і барада
Гараць агнявітым жарам.
І асалода ў іх, і жуда,
Ці, як сказалі б французы,
Шарм.
Без пеўня, без жару ў гаршку,
Без віна
Перасяляўся дзедка ў матчыну хату,

Бо бацькаву хату спаліла вайна,
І жару хапіла, як брагі свату.

Сталі ў кутах сівыя дзяды —
Прыцемкі-нелюдзімы.
Мне светла ад дзедкавай барады
І цёмна ў душы.
Сядзім мы
Маўчком з басаногім гаспадаром.
Усё ён помніць і ведае.
І доля мая недзе едзе вазком,
Кабылка ў яе, я думаю, гнедая.

Чакаем некага.
Ціха наўкол.
Сягоння якраз Каляда багатая.
І цягавіты трывалы стол
Прыпамінае, прыгадвае,
Колькі за ім пабыло, пасядзела,
Піло ды ела, гуло ды цішэла,
Зрабіўшы бела,
Гуляла смела.

Голас за гэтым сталом
Ніколі не ціх,
І зноў, як тады,
Таямніча,
Пачулася мне —
Мамін голас усіх
На Дзяды з пашанаю кліча:

— Мароз, мароз,
Перавядзі дух, спачні,
Хадзі да нас,
З бяроз дуг не гні,
Гарэлкі глыні,
Укусі кілбас.

— І ты, грамок,
Адамкні свой дамок,
На голы лес не грымі,
Папаску прымі!

— Усе, дзядочкі, хадзіце
І за сабою мёртвых вядзіце!

Вядома, стаіць на куце куцця,
Ячмень адпакутваў у ступе,
Пакуль ён крупамі стаў,
Да выцця
Завеям хочацца быць укупе.
І клёцкі з душамі
У гонар Дзядоў
Дымяцца бакамі крутымі.
І продкі прыходзяць
З забытых гадоў,
І душы іх грэюцца ў цёплым дыме.
І зварана некалькі клёцак даўгіх,
Завуцца сарокамі,
Рэдка
Ўгадаеш, не з’еўшы, у якое з іх
Замест душы —
Срэбраная манетка.
І каб не журыцца,
Варылі, бывала, жур.
Пасцілі шчыра на ўсе пасты.
І ўсмешка хавалася за каптур,
Вурчэлі, як тыя каты, калаўроты:

— Як кісель, дык кісель,
Дык і жур густы.
А каб тому кісялю чырвоныя боты,
Каб па вуліцах гуляць,
Красных дзевак забаўляць.

Ашчэрыўшы рот, як плот,
Усміхалася прасніца:
— Пост падняў кабыле хвост,
А там — Масленіца.
..................................................
Паплечнік дзедкі
Маўчыць, як нямтур,
Прыйшоў са свайго абходу —
Праверыў межы нябачны Чур,
Надземную ўсю гасподу.
На межах сваіх панасыпаў грудкі
І межы ўсе паабнёс частаколам.
— Чур! — толькі гукні.—
Вартаўнік тупаткі

Усхопіцца хлопцам вясёлым.
Не стаі чужы ля ягонай мяжы,
Капрызлівы нораў у Чура:
Віхор крутане,
Запусціць глыжы.
Ад Чуравага прыслепнеш прыжмуру.

II

Стол помніць, як пах духмяна пірог,
Як на ім рэзалі
Са свежаніны скварку.
Стол не змяталі ніколі на рог,
Каб не звесці на клін гаспадарку.
Не сядаў у шапцы за стол маладзён,
Каб не была глухою цешча.
Бохан не быў цемем уніз кладзён,
На покуце вешчавала Вешча.

На вуліцы гамана, хадня.
А ў хаце сталу ўспамінаецца на выгодзе.
Знянацку напружылася цішыня —
Нарадзіўся ў імгненне гэтае злодзя.
Зляцеў са стала на падлогу нож —
Спяшае мужчына, мне шэпча
Прыкмета.
Няхай заходзіць, яшчэ не ноч,
Напэўна ж, не прывядзе зло,
А пажадае, каб за сталом было
Няспіта, няз’ета.
Ступай жа смялей, хадзімец,
Здымай свой армяк-невідзімец.
Ты, можа, той,
Што прыкідваецца сіратой,
Сам з кокаць, барада з локаць,
Вусы па сажню, вочы па бобу,
Не бачыць ні дробу.
Ці з тых краёў
Цябе нос-павадыр прывёў,
Дзе стаіць дуб зялёны,
А пад дубам тым бык пячоны,
А ў яго баку нож тачоны.
…………………………..

Прыйшоў Пятрок,
Сарваў лісток
З календара.
Знайшлася махра —
Скруціў казіную ножку
І дыміць не патрошку.
Былы малады партызан,
Пасля будаўнік
Светлага заўтра не ў жарты
Піць усё, што гарыць, прывык
З поўнай шклянкі ці з добрай кварты.
Не перавяліся ў Вушачы асілкі.
Пятрок і ў Пскове і ў Дзісне
Выпрасіць у смаляное кабылкі
І мёрзлай сучцы ўцісне.
Пятрок — мая дарагая радня,
Бацькаў пляменнік.
Час не ўкінуў у нашую шчырасць лядня,
Не замёў сцежку згоды разладу венік.
І пасля казінае ножкі і кварты
Лагодзіцца Петраку.
І па-вушацку зноў я
Хачу пажадаць сваяку,
Каб даў яму Бог здароўя
У ручкі, у рожкі
І паміж ног трошкі.

III

Імгла смялець пачала.
Вакно азарыла ўспышка.
У цішыні са стала
Звалілася лыжка.
Мне шэпча на вуха
Прыкмета:
Спяшае кабета.
І ўмомант — не рыпнула нават брамка —
У хату ўплыла — а ўся са святла —
Аблачына-самабранка.

Брацца ўсё само пачало
Адкуль,

Невядома.
Нахмурыўшы чало,
Разаслаўшы саломы куль,
На палацях хоча разлегчыся стома.
Смех, задыхаўшыся, прыбег,
Бо гнаўся за смехам спех.
І некуды цемра са злосці сышла,
Сваю адчуваючы сілу, —
Час будзе, і ўсіх са святла
Забярэ ў магілу.

А ў застолле спаўзаюцца і злятаюцца,
Прыязджаюць, выходзяць з кутоў
Разнаякія і аднастайныя,
Не злічыць ног, хвастоў, капытоў.
Тут жа босыя, і абутыя,
І падкутыя, і раскутыя.
І тыя,
У каго замест плячэй шыя,
Замест ног рогі,
А замест рагоў ногі.
Кожная пачвара
Знойдзе сабе пару.
……………………
Крук,
Каб дужацца з тлом,
Пабываў на крайсветнай дзялянцы,
Прынёс пад кожным крылом
Па шклянцы
З вадой гаючай, з вадой жывучай —
Зачарэпнуў з крыніцы пад кручай.
Раны пазагаіў і ажывіў
З сівых вякоў
Суседзяў і сваякоў,
Сабраўшы ўсіх на бяседу,
Як на парадку.
Пазнаёмлю з імі
Не ўсімі
І не па парадку.

IV

Не маючы з транспартам клопату,
Заломваючы кругі,
Злятаюцца прыбышы, іншавяскоўцы,
Паслядоўнікамі Бабы-Югі,
Асядлаўшы
Лёткія талеркі і ходкія сподкі,
І як пушчы-дрымушчы кудлатыя,
З'яўляюцца сценямі прапрапродкі.
І ўспамінаюць часы пры цару Гароху,
Калі людзей было троху,
Калі ішлі
Скураныя рублі
І драўляныя капавікі.
І выпадак такі:

А было гэта ўсё,
Калі
Яшчэ сам Бог хадзіў па зямлі.
Як старац-сівец з торбаю ды кійком
Падышоў запытацца дарогу,
А баба,
Срачку маломy падцёршы блінком,
Рукою з блінком тым кіўнула Богу.
А ў паравіны тыя
І ў азіміне і ў ярыне
Каласы да самое зямлі
Цяжарылі сцёблы.
Усяго ў спарыне
Было ў той людской старане —
І чарка, і скварка,
І хлеб быў цёплы.
А як такое пабачыў Бог,
За сцябліну ўзяўся і знізу даверху
Каласы сашмаргнуў,
Апошні не змог,
Бо тут падняўся і лямант і вэрхал.
Загаласілі з усіх галасоў,
Прасілі Бога каты і сабакі
Пакінуць хоць колас,
І Бог сышоў
Да іх спагадай.
І ў знак падзякі

Каты і сабакі лізалі сляды,
Якія Госпад пакінуў.
А калены ў саломіне для людской чарады
Засталіся ў знак напамінаў,
Якім было і быць магло
У каласах сцябло,
Каб кайліва бачылі.
І кожны, хто лусту ў рот нясе,
Каб не забываўся,
Што жывема ўсе
На долі кашынае і сабачае.
……………………………………….
Во, ласка мякка прыскочыла з хлева,
Высмактаўшы надой,
І нашых кароў прывяла з сабой,
Усё рагатае малакаводнае дрэва:
Гілёню, Звяздоню, Лысоню,
Букетку, Гарбалыску, Лісіцу.
І вуж з-пад парога спрасоння
У хату пачаў прасіцца,
Напомніў, каб налілі сырадою
За тое,
Што гаспадара размінае з бядою.

Прысунуліся з дочкамі-зданькамі
Ціхія здані.
Гусі-лебедзі прыляцелі.
Ворах прайшоў па целе,
Як і некалі, ад распавядання.

А было:
У канцавую хатку
Унадзіўся начаваць панічок.
Чорны фрачок.
Нос, як смычок.
Галава з букатку.
І начлежыўся,
І вылежваўся.
Ды неяк надарылася —
З медзвядзём скамарох
Таксама абначаваў у хатцы.
І ледзь панічок пераступіў парог,
Мядзведзь і згроб яго ў абхапцы.
Позна было, не палілі лучыну,

І ў каганцы дагарэла сала.
Толькі й бачылі таго панічыну —
Як карова языком злізала.
Праз колькі часу
Цімашок, гаспадарскі сынок,
Гуляў у пяску.
Да яго панічок
Наблізіўся з-за вугла.
І запытаўся старожка:
— Цімошка, Цімошка,
А ці дома ваша кошка?
— Дома, дома.
І сямёра кацянятак прывяла.
(І мама яшчэ казала,
Што свіння ў нас на панічоў.)
І панічок даў драла,
Знік, як дымок з карчоў,
І болей не начаваў,
Бо ласку адное кошкі
Доўга яшчэ адчуваў.

V

На стале страў даволі —
І посныя, і скаромныя.
Песні цесна селі ў застолле —
І сарамлівыя, і бессаромныя.
Зачынае кума,
Ёй уседу няма:
— Расхадзіліся суставы
Каля печы, каля лавы,
Самы большы суставў
З тапарышча устаў.

Кум, зусім не тугадум,
Заглушае п’яны шум:
— Калыхала баба дзеда
У дубовым карыце.
Як ускочыў дзед на бабу,
Хацеў задавіці.

Усхадзіўся, ціхі стаў,
Ціхі стаў, вірлівы стаў:

— Упрысядкі прысядаў.
За касматую хватаў,
А за тую касматую
Тры дні сядзеў за хатаю.

Ад вясёлых жартаў Хвэлькі
Як не трэснуць з смеху бэлькі:
— Мамулечка, п’яна, п’яна,
Свярбіць мая абіз’яна,
Ой, пайду я к Тумашу,
Абіз’яну пачашу.

І хоць цераз дарогу хата,
У хроснай клопатаў багата:
— П’яна я, п’яна-п’яненька,
Агарнула ночка цямненька.
Дома ж па мне дзеткі бядуюць,
Дзе ж наша мамка начуець?

Замоўклі загады й законы,
Бяседнікі пасалавелі.
З павагай б’ючы паклоны
Сукрыстаму богу Хмелю:
— Самагоначку мы гонім,
Самагоначку мы п’ем.
Нам апараты разбіваюць,
А мы новыя куем.

## VI

А чорт у куце,
Унурыўшы плечы,
Шые ў духаце
Машну для скупечы.
Курцы дзядзькі
Свае капшукі
Развязалі памалу,
А загадка
Ужо загадала,
Што пад яйкамі гладка,
Чхае ад дыму,
Ды няма ёй сутрыму,
Пазіраючы на капшукі,

Загадвае нацянькі:
— Машоначка барання
Дае і звечара і зрання.
І загадвае зноўку,
І пытае салоўку:
— Салавей, салавей,
Што на свеце саладзей,
Ці гарэлка, ці мядок,
А ці ў дзеўкі перадок?
…………………………….
А вяселле шукала сарочку
У барку, ды ў ярку, ды ў вірочку.
А маладая клікала
Усю сям'ю на параду,
А была багатырка вялікая:
Для вераду мела спераду
Дзесяціну саду
І млын ззаду.
А пераборлівы будучы зяць —
Сала любіць, а на свінню не ўзагнаць.
І знайшло вяселле сарочку,
І ўроцы дачку вяселлеву не сурочылі.
Маладую з русявымі кудламі
Сваталі два магуты,
Адзін з іх свірнамі, кубламі,
Другі — галоўным уруччам славуты.
Той, што з добрым уруччам,
Лавіў імгненні,
І даланёю вадзіў па калене,
І таямнічым шэптам казаў:
«Я табе яшчэ не ўсё паказаў,
Палавіну матузом прывязаў».
І маладая наўздзіў выгодам
Вырашыла капрызна:
— Хлеб годам, грошы пераводам,
А ўручча у векаўшчызну.
І пайшла.
А як з маці развітвалася,
І палохалася, і дапытвалася:
— Мамулечка, у клець вядуць.
— Не плач, дачушка, той дадуць.
І хорам жадалася,
Каб малое кугакала

Заплакала
Кналеццю:
— Каціласся калясо з клеці,
Любіцеся харашо, дзеці.

VII

Просяцца злыдні
У хату на тры дні,
Ды гэта гэтакі невыводны род,
Як паселіцца ды развяселіцца,
Не выганіш і за год,
І за тры
Не вытурыш, як ні туры.
Трасца
У дарогу адна не падасца,
І калі ўжо ўваляцца ў двор,
Дык усе дванаццаць сясцёр,
Каб у гасцях набыцца:
Трасавіца, агнявіца, зябавіца,
Гнятавіца, кархавіца, глухавіца,
Ламавіца, пухлявіца, жаўтавіца,
Старгавіца, глядавіца, невідуха.
Не баяцца сёстры ніякога духа.

У лапці з куракамі абулася гразь
І сунецца на кут, дзе ўсё бліснь ды ясь.
Ды яе з падпеччыка мыш
Запытала нясмела:
— Гразь, гразь, чаму ты не гарыш?
— Я б гарэла, каб не была карэла.

А за граззю ўслед нявогляддзю кароста,
Яна не проста,
А панская хвароба —
Важная асоба.
Ад каросты не ўміраюць,
Толькі рукі не гуляюць.

Ды прыкапыцілі кабыліцы-небыліцы,
Уваліўся меч-самасеч —
Не далі насланню напірыцца.
Кулічок з кулачок палез у печ,

Даў злыдням, трасцам, гразі, каросце
Сыру санлівага
І хлеба драмлівага
І выкінуў сонных гідліва,
Аж забраджэлі іхнія косці.

## VIII

Каго дарогі блудлівыя прывялі,
Каго крывыя.
Нехта зайздросць перастраўляе ў валлі,
Нехта ад радасці вые.
……………………………..
Цмок і сынок яго прыцмок
Сасмягла локчуць бражку,
Ажно ў прыцмока лоб узмок,
Аж скінуў цмок сярмяжку.

У бацькі з сынам языкі,
Як вогненныя шылы.
Ад іх святло ва ўсе бакі
Разбеглася штосілы.

...Быў у суседа хатні цмок —
Бо праз кажух касматы
Лёс мужыка вітаў, —
Валок
Багацце цмок у хату.

Цмок з бедняка багатыра
Зрабіў
І ўзяў у казку.
Ды папрасіў гаспадара
Зрабіць такую ласку —

Яешню на страху насіць
Мужык той мусіў цмоку.
Насіў і жыў усмак,
Ды сыць
Яго ўзяла.
Аброку
Аднойчы не панёс мужык,
Дык ад яго багацця
Застаўся —

Рыфма кажа — пшык,
Як толькі цмок на хаце
Не ўбачыў ежы.

І дымок
У неба ўзбег высока.
Пусціў гасподу дымам цмок.
Мужык не ўбачыў цмока.

IX

Бліжэй да поўначы,
Як сяляне некалі на таргі,
Хату святлом нечуваным поўнячы,
Пачалі з’язджацца
Багі.

Рахманы ён, бо дужы,
Як шчыры беларус.
Адно не любіць сцюжы
Пярун-залатавус.

Усе багі — суседзі,
А ён — спадар, як Бог.
І летапісец недзе
Сцвярджаў:
«Пярун ёсць мног».

Ярыла ён і Юр’я,
І Жыжаль — ясны зрок,
Што ў хаце з-за каптур’я
Лучынкай турыць змрок.

Пярун зрубіў даміны
Са срэбраных бярвён.
Балюе імяніны
На Чысты чэцвер ён.

На гэты дзень глухая
Сава пачуе грук.
Дзяцей сваіх купае
Да ўсходу сонца
Крук.

Да ўсходу сонца мгліцца.
І на бягун-ручай
Дзяўчаты, маладзіцы
Бягуць падмаладзіцца,
Памыцца, змыць адчай.

І Перунова служка —
Буцян-гары-нага
Глядзіць,
Дзе лясне пужка,
Адтуль бяжыць імга.

Пражэрлівыя птахі —
Гарцуюць гарцукі,
Юраць вятры,
Бо жахі
Шануюць хіжакі.

Спыніўся дуб-вандроўнік.
Смяецца барана.
І лашчыцца дзядоўнік
Да дзеда Перуна.
...........................
Зюзя ў белым кажусе
Грукаецца пабайнёю,
Барадой даўгой трасе,
Бо завеі ўсёй гайнёю
Гналіся
І ў бараду
Уплюталіся ўледзянела,
Зюзю аж рука замлела
Іх выплютваць на хаду.

Зюзя ціха ходзіць —
Ён
Босы, як належыць богу.
З барады завеі вон
Выгнаў,
Як з глухога стогу.

Перуновае лазы
Помаху
Было б даволі.

А за Зюзем маразы
Уваліліся ў застолле:
Тут Прагун, Траскун, Скварун,
Пабягун, Цягун, Дрыгун,
Крахкатун, Звягун, Маўчун,
Казытун, Крутун, Шчыпун.

Покуль назавеш усіх,
Ад марозу зойме дых.

Зюзя сеў.
Крыса павець
Цёпла Цёцю ахінула:
— Ды не бойся ты ззюзець,
Грэе ўсіх мая затула.
Я ж не люты на двары,
Грэю пуннікаў у пуні,
Млынарам віру віры,
На палях бадзёру руні.
Адшукаць ва ўсей акрузе
Цяжка
Лепшага ад Зюзі!
............................
Дунай-жанчына Цёця —
Усё ў руках пяе.
Здалёк пазнаць яе,
Як паву па палёце,
Няцяжка.
У капоце
Рудое ходзіць Цёця,
Не ходзіць, а плыве,
Як рыба ў цёплым плёсе.
Вянок на галаве
Са спелага калосся.
Нясе ў руках плады,
Зямныя, сакаўныя.
І на зламанне шыі
Ад Цёці галады
Ўцякаюць хто куды.

У крывічанкі Цёці
Мілосць да крывічоў.

Ва ўсіх яна ў шаноце,
Як пані ў панічоў.

Усе крывічанкі-багіні
Крывіцкім багам удалад.
Бог сэрцам абвяне, абгіне,
Адчуўшы юрлівы пагляд.
…………………………..
Ляля дужа маладзенькая.
Пра яе прыход яшчэ
Праз снягі сініца ценькае,
Пад ільдом дунай цячэ.

Да яе ідзе з кавенькаю
Сон вачэй
З жабрачай жменькаю, —
Хай красой яго ўрачэ!

У вянку з вясновых красак
Карагодны кружыць круг.
Мроіць пра яе падпасак,
Згадкай грэецца пастух.

Ападаюць вісажарынкі.
Весялей расце трава.
Гэта ў гожай Лялі жаўранкі
Вылятаюць з рукава.

Юр’еў конь мяце хвастом
Сцежкі,
Дзе праходзіць Ляля.
Перад Пятром
Трэцім днём
Разгуляўся конь
І ў шале
Разбіў камень капытом.

X

А Жыцень —
Дзяцюк невысокі,
Паджары, падцяты,
У залётах зацяты,
Пускаецца лёгка ў скокі.

Малое дрэва ідзе спрадвек
Ці ў сук, ці ў булаву,
Гэтак і малы чалавек
Ці ў струк, ці ў галаву.
Гэта ж і пра бязмен
Загадку загадвае баламут:
— Сам худ,
А кутасы з пуд.

Ва ўсе свае тры вокі гала
Жыцень у жыце выглядае,
Дзе прыдрамала
Жняя маладая.
Ці прыдрамала,
Ці ўрачкавала,
Жыцень хапае,
Якая папала.
Ён за ёй са сваім рагачом,
Як з таўкачом,
Гоніцца, пакуль не дагоніць,
А дагнаўшы, не выпускае,
Пакуль не дагодзіць.
І засланяе вочы
На сорам жаночы
Погаласка людская.

Жыцень не дазваляе коласу
Цалаваць зямлю,
Азіміну сеюць —
Кожнае зерне ў раллю
Утоптвае сам.
Ківае пальцам пагрозліва гультаям,
Зернягубам і коласагубам
Ускудлачаным чубам
Махае
Ды падмахвае барадой яшчэ.
Маючы ўруучча на падоймішча,
З маладзіцаю ля каравая
Ходзіць у перапевы,
Ажно лістом чырванеюць дрэвы:
— Ой, не ўстою, ой, не ўлежу —
Упіраецца ў адзежу.
І таксама маладзіцы
Не ляжыцца, не сядзіцца:

— Ой, не ўлежу, не ўстою
За сваёю ліхою.

Суровы Жыцень
На пешчы такі не скупы,
Любіць усё рабіць у пару.
З поля нядбаліцы
Пераносіць снапы
Дбайнаму гаспадару.
А той, хто жонку любіць забывае,
Прыбытак мае,
Хоць мала дбае.
Ярыла налеццем хрэсьбіны ладзіць
І жытнічкаў
Па залацістых галоўках гладзіць.
Пасля жытняга хлеба —
Маладая патрэба.

### XI

Сабраліся спёкі і халады.
У хаце і Змітраўскія Дзяды.
Далёкі сваяк мой Зміцер
Хіцер —
Нос Белуну выцер,
А за гэта ад Белабога
Меў золата многа.
«Цёмна ў лесе без Белуна,
Хмарна ў сэрцы без Белабога,
Без Белабога не да парога», —
Крывічы паўтаралі здаўна.

Носіць белыя насавы́,
Вечна з посахам,
Белабароды.
Заблукаеш —
Праз шум баравы
Правядзе і пакажа броды.

Сочыць на жніве,
Каб у блот
Не пайшло аржаное калоссе.
Да жанцоў прыходзіць штогод.
Торба грошай вісіць на носе.

Просіць старац,
Каб нехта нос
Выцер, ды бедняка гукае.
Той, хто просьбу здаволіць,
Мае
Кучу грошы і шчасця воз.

Хай на покуць сядзе Бялун —
Падарожнікаў даўні спагадца,
Бацька плёну
І сонцаў шчырун.
Пацяплее ў мамінай хатцы.
…………………………
А Жыжаль Сварожыч
Над дымам варожыць,
Увесь у гарачай парчы.
Булавой галавешка на левым плячы.
У правіцы крэсіва ў Жыжаля,
Крэсівам ён выклікае Крэса,
Што завецца агнём
З барадою рыжаю.
Крамянец у лявіцы,
А ў крамянца
Галава баліць без канца
Ад трэсіва,
Ці, як кажуць цяпер, ад стрэса.

Не жмурачыся, Жыжаль сам
Курыць сабе фіміям,
Падкрэсліваючы, што без Жыжаля
Усе б не выжылі.
Не мелі б ні лыжкі жыжкі,
Ні густыша.
За ўсіх у Жыжаля
Гарыць душа.

Аднавокіх балотных малютак,
Што блукаюць ля скарбаў,
Загнаўшы да змроку ў хлявец,
Як тых авец,
Узгарэўся Жыжаль
Высветліць кожны закутак.

А Зніч —
Жыжалёў родны крывец —
Ведае з даўніны,
Бо пад хурымам казалі чуткі:
— Не так чорт страшны,
Як яго малюткі.

А дочкі Znічовы —
Запальчывыя знічкі —
Згараюць,
Шануючы Сварогавы звычкі.
……………………….
Радасць неба азарыла
Аж да глыбіні.
Едзе маладзік Ярыла
На крутым кані.

Конь Ярылаў белы-белы,
Як вясной сады.
Яравыя прагнуць стрэлы
Вырвацца з нуды.

Тужаць стрэлы яравыя
Ў цесным сайдаку.
Конь — віхурыстая выя —
Ўдзячны седаку.

Апранахі белай крылы
Б’юцца на вятрах.
У Ярылы досыць сілы
Змрок скрышыць у прах.

А чарнейшая чупрына
За крыло крука.
Любіць лашчыць ціхаплынна
Каласы рука.

З барадою залатою,
Доўгай, як зіма,
Ён прайсціся пехатою
Любіць нездарма.

Дзе Ярыла ступіць смела
Босаю ступой,

Жыта вырасце ўкусцела
На раллі скупой.

А куды свой самавіта
Позірк кіне — ўраз
Закрасуе дружна жыта
У пагодны час.

Пуга, звітая ў тры рэдзі,
Ззяе на святле,
Маладзік Ярыла едзе
Ў залатым сядле.

XII

У хаце туманіста-шэда.
У хаце вірыць гамана.
Але не ў бяседу бяседа
Лясная
Без лесуна.

Лясун-ласун
Па лесе брыдзе
З дзеразоваю плёткаю,
Ловіць пчалу ў верасовае барадзе,
Каб абсмактаць салодкую.
Боты з бяросты.
Нестарога ўзросту.
Ростам з лес,
Як і лес, багаты.
Лясун-хварсун,
Калі йдзе ў сваты
Да даўгалыгай лясішкі,
На каралі збірае шышкі.
Такія каралі
Калючыя, як вусы лесуна,
Даспадобы лясное кралі,
Іх ацаніць умее яна.

Лясун не вып’е ні цэбра віна,
Каб не пачаставаць мядзведзя.
Мядзведзь з відна і да цямна
Лесуновы харомы вартуе недзе.

А ў лесуна сваты
Абутыя ў боты з моху,
Кожны левы бот без пяты,
А ў ботах поўна гароху,
Каб не ацяляквалі ў дарозе,
Не доўга венік абтоптвалі на парозе.

І сваты ў хату лезуць,
Аб парог зады чэшуць,
Ілбамі вушак падпіраюць
І ў кацёл пазіраюць,
Ці тлуста капуста,
Ці вялік кацёл кашы,
Ці наядуцца сваты нашы?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І шум і гам заціх.
Як глянуць — з коміна
Прыехаў Вададых
Вярхом на соме на
Бяседу.
Вадзянік
Не можа без віна.

Азызлы твар.
Жывот
Не ў згодзе з дзягаю.
Засмяг прадонны рот,
Прапах бадзягаю.
Як наш сусед Трахім,
Прывык да грукату.
Ён мала есць зусім,
А п’е да ўсюкату.

Як гаспадар віроў
Жыве данінаю, —
Бярэ ад млынароў
Душу нявінную.

Ваду цягае ён
На тое кола,
Дзе
Млынар яго здавён
Трымаў не ў голадзе.

Увіты Вададых
Сцяблін супонямі.
Мо ён з прыроддзя тых,
Што дзеда помнілі.
Механік па млынах —
Век зжыў не балмаччу.
Пёр на крывых рагах
Сам чорт ад Галвіньша.

У споднiках рудых,
Бо йшоў балотамі,
Вясёлы Вададых
Плыве з залётамі, —
Русалка блізка,
Дык
Вядзе агледзіны.
Упіўся вадзянік.
Куцця не з’едзена.
……………………..
І не ваўкі яны, й не сабакі,
Бліжэй да ворагаў пастухоў,
Амаль рахманыя вышчаракі
Набеглі ў хату з усіх бакоў.

Зязюля вылецела знячэўку,
Да аднаго прыпала ваўка.
У зязюлю перакінула дзеўку
Благое вока чараўніка.

Княгіня стала ў сям’і птушынай
Зязюляй шэрай,
А князь-жаніх
Ваўком завыў
І з усёй дружынай,
Ужо з ваўчынай гайнёй,
Заціх.

А праляцела ўсе баравіны,
Ніхто адчаю не дапамог,
Там,
Дзе згубіла свае слязіны
Зязюля,
Вырас зязюльчын мох.

Ваўчыныя не ядуць прысмакі,
Не сырамясіцу, а праснакі.
Дзе плачуць шчырыя ваўкалакі,
Там з-пад карчэўя
Бягуць раўчукі.

Іх смутак грэе ўспамінам хата.
Ваўкі — халодныя сваякі.
Ваўчыных ягад спее багата,
Растуць ваўчыныя баравікі.

Нюхнуць бы не мядзведжай табакі —
Глынуць бы настоенай на траве.
Хінуцца да людзей ваўкалакі,
Бо людская душа ў іх жыве.

Ім хочацца,
Забытым, бяздомным,
Адчуць наноў чалавечы страх.
Ды ваўкалачыцца ў лесе цёмным
Іх доля.
Дадому травее шлях.

XIII

Сабраліся ўсе
За нашым сталом,
Што помніць маміны рукі.
Ахінула лагода маўклівым крылом
Да раніцы гукі і рухі.

Хто з паганскіх часін
Часаў пешака,
Хто на вятрах пёрся конна.
З усіх багоў
Аднаго сівака
Не відаць у застоллі —
Кона.
……………………………..
Недзе, дзе свету прысвéтак,
Дзе неба ідзе на схон,
Дзе ўдзень нараджаецца ветах,
Заснуў сабе
Волат Кон.

Ссівілі яго часіны,
Збялілі яго гады
Ад аблачыны чупрыны
Да туману барады.

Дрэў ні ў лясах,
Ні ў дубровах
Такіх не расло аддаўна,
Як у ягоных бровах
Любая валасіна.

У свеце ўсяму жывому
Ён даў неадменны закон
І права не даў нікому
Змяніць яго,
Выйсці за кон.

Калі б з-пад броваў-дрэваў
Зірнуў, прачнуўшыся, Кон
На свет, —
Свет увесь згарэў бы,
Бо Конаў намеснік —
Скон
За ўсімі пільна цікуе,
Свайму не верачы сну,
І кару выносіць такую,
Якая ў каго на кану.

І толькі любой парою,
Не збочваючы нідзе,
Канодумка —
Вечная мроя
У вырай душу вядзе.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Хай спіць валаціна Кон,
Пытаннем не патурбую,
Якую
Мне долю накрэсліў ён,
Добрую ці благую?

Са мной пабыць яшчэ
Папрашу,
Угавару долю
Не спяшацца заказваць імшу —
Не позна ніколі.

Бяглівага веку свайго веташок,
Як пустабрэх,
Не сцацкаю.
Хачу напіцца на пасашок
З крыніцы вушацкае.

Пакуль не прачнуўся
Кон-пільнавок,
Пакуль бяда сляпая,
Хай па-зямляцку
На след мой воўк
Яшчэ ступае...

P. S.

Вясёла вяселле гуляе Сам,
Як заўсёды,
Трыццатага сакавіка.
І я ў гэты дзень
У думках
Тэлеграму ў Вушачу дам —
Павіншую як сваяка.
І, хоць не п’ю ні глытка,
У думках
Да дна коўш асушу
З медавухаю маладою.
І з мамінай хаты Гаспадара
Папрашу
За маю душу
Не спрачацца з бядою.

Хай ва́да,
Як збузянелая вада,
На сухія лясы сплывае.
Пакуль за душой
Цікуе бяда, —
Душа жывая...

*1990*

## НА РАДЗІМЕ — УСЁ ПАЭЗІЯ…

Беларускае паэтычнае слова праз усю гісторыю правяралі на жывучасць, на вытрымку, на моц усе абставіны, якія не спрыялі яму, а імкнуліся знішчыць, закрэсліць, аддаць у цёмныя лёхі нябыту і забыцця. Але слова нашае журботна ўсміхалася, цярпела разам з Паўлюком Багрымам у салдатчыне; здушанае пятлёй, помніла пяшчоту ў развітальных радках Кастуся Каліноўскага; у астрозе ў сумным расчуленні прамаўляла: «Мой родны кут, як ты мне мілы...», каб хоць крыху скрасіць закратаваны побыт Якуба Коласа; ля сіняй бухты самотна радавалася, што Максім Багдановіч, хоць перад сконам, убачыў сваю першую кніжку — «Вянок». Вянок на купальскую вечніну ракі славяншчыны. Вянок на магілу, далёкую ад роднага васількавага краю.

На сыходзе самай жудаснай вайны, у 1944 годзе, у канцлагеры Флігегорт нараджалася беларускае паэтычнае слова ў нявольніку, перадаючыся па генетычным кодзе песеннай памяці. Гэта да жудасці сімвалічна, што будучы паэт нараджаецца ў канцлагеры, каб пасля праклясці вайну, каб пасля радавацца нядоўгаму жыццёваму свайму бытаванню, застацца жыць у беларускім слове.

Паэзія Уладзіміра Лісіцына падкрэслівае нязводнасць беларускай мовы, яе неабходнасць душы ўражлівай і зварушлівай, душы неачарсцвелай і па-вялікоднаму світальнай.

Даводзіцца толькі здзіўляцца, як помніў мову, як адчуваў слова паэт, які практычна мала жыў на Беларусі. Адчуваў гэтак глыбока і ўсебакова, што сам нават утвараў словы. І падчас цяжка разабрацца, дзе слова з Лёзненшчыны, а дзе слова, створанае самім паэтам.

Мне прыгадваецца паездка групы літаратараў родам з Віцебшчыны на нашу радзіму. Былі мы і ў Пагосцішчы. Ад хаты паэта засталося котлішча. Лісцінку бэзу ўзяў я сабе ў запісную кніжку, як запіску з вечнасці ад дарагога сябра. Была тады

ў сваёй апошняй паездцы і нашая таленавітая Еўдакія Лось[1]. Самотная стаяла над котлішчам. Прыгадвала, што ад іхняй хаты пасля вайны асталося. Цяпер, перабіраючы лісты ад Уладзіміра, часта прыгадваецца журботнае котлішча. І ўсплываюць радкі з пасмяротнага першага зборніка «Жураўлінае вясло»:

Завітаў бы я ў Пагосцішча,
У лясочку б пагасціў.
Я б да той рачулкі госцейкам,
Як да маці, зачасціў.

Як бы прадчуваючы сваю раннюю смерць, сваё расстанне з радзімай, паэт выводзіць сімвалічную этымалогію сваёй роднай па пашпарце вёскі:

Ой, Пагосцішча, Пагосцішча!
На пагосце узрасло...
Ці яшчэ за мною гоніцца
Жураўлінае вясло?!

Жураўлінае вясло вяртае з маёй памяці паэта і чалавека рэдкага таленту, адгуклівага, сарамяжлівага, вечна няўпэўненага ў сваіх вершах. Бранзавець у яго не было ні часу, ні жадання, ні нават малейшага намеру. Бо вядома, пакуль паэт сумняваецца, датуль ён жывы. Дазволю сабе прывесці колькі ўрыўкаў з лістоў, адрасаваных мне.

«Бяда ўся, напэўна, у тым, што я імкнуся, каб у мае вершы прыйшло жыццё. Ды, праклён, прыходзячы, яно застаецца гэтакім жа непадлеглым кіраванню. І як у паэце не мае патрэбы ўва мне. У адваротным выпадку яно распадаецца. Вобразы, якія мне ўдаецца падгледзець у прыродзе, падчас проста цудоўныя і не маюць патрэбы ў дапаўненні да іх — гэта ўжо гатовыя мікра-вершы.

«Маленькае чаяня вострыць аб неба крылы».
«Як інвалід, адну нагу ніяк не ссуне бусел».
«Зрэзаны капытамі сажалчын бераг».
«Буслова дзюба — чырвоны стоп-кран».
«Луг не скошаны — а выкатаны».
«Маці абграбае граблямі толькі што складзены стог».
«Забыты з восені на ўзвалку дзярбак».
«А гарбузовыя кветкі — галовы малых індычанят».
«Вялы пах ссечанай алешыны ў траве».
«Пасохлая цыбуля».

«Лісце агурэчнага націння — гусіны ланцуг».

«Рабацінне кропу» (дзіцячае).

«Качаны капусты, як лакатары, ловяць хвалі будучых дажджоў».

«Мак, пастаўлены выспяваць ля сценкі».

«Хлопчыкі восенню на бульбянішчы з клубін «запускаюць» у неба бульбяныя спадарожнікі».

«На радзіме — усё паэзія. Хочацца завязаць сабе вочы ў думках, бо ўсё роўна я не магу нічога выкарыстаць у вершах. Дык лепей не чапаць, не адкрываць. А без усяго гэтага я не прызнаю вершаў. Вось і тупік...»

І зноў сумненні, і зноў незадаволенасць сабой, сваімі радкамі:

«Мне жахліва прызнацца ў тым, як, відаць, і Вам паверыць, што я не пішу болей вершаў. Дакладней, яны не атрымліваюцца. А калі якія і просяцца да завяршэння, дык не так, як я хачу. Але тут ужо я не магу саступіць ні ў чым. А ўсё тое, што напісана ў Мінску, мяне толькі раздражняе сваёй слабасцю, недасканаласцю. Бо яно не што іншае, як шалёны стэнаграфічны запіс дадзеных на кароткае імгненне блізкіх шчымлівых гукаў, пахаў, напаўненняў і нюансаў. І ўсё гэта без апрацоўкі, як быццам ведаў і адчуваў, што гэта адпушчана ўсяго толькі на час. Зрабіць вершы з усяго гэтага немагчыма...»

Валодаючы пяром майстра, Уладзімір называў сябе пачаткоўцам, бо заўсёды з прыдарожнай беларускай сціпласцю памятаў, хто быў перад ім у нашай паэзіі:

«Калі ж, аднак... вершаў пакуль што і няма, то ёсць задумы, ёсць! Як і ў кожнага пачаткоўца, бо тым ён і цікавы. А праходзіць час — і нідзе яны не ўвасобяцца. Гэтага баюся і я. Бо пры маім узросце і разам з пятнаццацігадовымі стукацца ў адны дзверы... Друк мяне зусім не вабіць. Недзе на Лёзненшчыне ў райгазеце можна было б з палову змясціць. Усё роўна там, у тым краі, паэтаў не было і, відаць, не будзе...»

Дужа трэба любіць свой край, дужа трэба браць яго да сэрца, каб так катэгарычна заявіць. А Уладзімір Лісіцын быў чалавек тонкі, далікатны, інтэлігентны.

У нас была адна паездка на Ушаччыну, калі ўжо не магла прывеціць майго сябра, як іншых, бывала, мая мама. Былі мы каля мёрзлага пагорачка пад соснамі. Слухалі мы і халоднае дыханне Вечалля, роднага возера майго. Пасля Уладзімір напісаў верш, прысвечаны возеру. А ў лісце мне надзвычай прыемна і ўдзячна

чытаць: «Не толькі вонкавы ўшацкі краявід здзівіў, уразіў мяне. Нечым другім дыхаецца там, за Лепельшчынай...»

І зусім зразумелая мне туга Уладзіміра, яго адчай: «Божа! Як гэта мяне ўсё злуе! І чаму толькі не дасталася мне ў спадчыну хоць старая-перастарая з бярвення матчына хата? Вось бы дзе мне, напэўна, пісалася добра! Ды нічога няма. Каменя на камені. А як хочацца ў Беларусь!..»

Туга па Беларусі жывіла паэта, з Беларуссю гаварыў Уладзімір Лісіцын па-беларуску, стараючыся не забыць ніводнага слова, ніводнай інтанацыі. Таму такія беларускія вершы, такое беларускае бачанне свету, такая беларуская плынь лісіцынскага радка.

Трагічна пачыналася жыццё, трагічна і заўчасна перапынілася. Але затое жыццё паэзіі Уладзіміра Лісіцына працягваецца. Паэт жыў у беларускім слове, жыў беларускім словам, і беларускае слова запрасіла яго ў вечнасць сваю.

Па свеце раскіданы магілы нашых паэтаў, ахвярнікаў роднага слова. У Ялце магіла Максіма Багдановіча. У Кракаве магіла Алеся Гаруна. Толькі радкамі сваімі яны ў родным краі.

У спякотным Джанкоі магіла беларускага паэта Уладзіміра Лісіцына. На роднай Беларусі вершы ягоныя. Вершам трэба радзіма, радзіме патрэбныя вершы, у якіх яна жыве.

*1974*

## ПАРТРЭТ У ВЕРАСЕ ПЧАЛІНЫМ

Як багаты на баравыя гукі, раскуты на рытм радок, на палове сваёй інтанацыйна перапынены, гучаць два словы — Анатоль Вялюгін.

У словах гэтых — наступ хваль і стогн галубоў, выгін лугавіны і выган ля ўзлеску, выгук волі і стрыманасць болю, раскутасць Яго Шаленства Ціхага акіяна пачуцця, што б’ецца ў строму самоты і суму. І таму так натуральна, як роўны роўнаму, гаворыць паэт:

Ціха, мора!
Чаго ты шуміш?
Я і сам бушаваць умею.

Сапраўды, паэзія прызнанага майстра шуміць, бушуе, неспакоем бунтоўным ускалыхваючы ўсё новыя песні з віроў і жвірова-даланёвых прадонняў роднай мовы.

Анатоль Вялюгін — пачатак радка нашага акрыленага, уздужалага і памужнелага ў суровых выпрабаваннях беларускага верша. Радок гэты адгукліва-ўдзячна аддаецца ў сэрцах чытачоў яшчэ з перадваеннай, на трывогу ўкоснай, пары.

Анатоль Вялюгін — выгукнеш і чуеш, як мачталомны вецер спрабуе на трываласць ветразь у разгневаным блакіце. Ветразь веры, ветразь вернасці, ветразь вяртання. Веры ў роднае слова і ў народ, які праз стагоддзі пакут, змагання і абраз пранёс яго, каб народам застацца, самім сабой. Вернасць ідэалам, чысціню чыю ў ліхую часіну як воін абараняў паэт. Вяртання на сляды маленства, каб запытацца ў сябе: «...але, скажыце, дзе ж наладзіць паверку сваім гадам, як ні тут, на жытнёвым мацерыку маленства? На раздарожжы пад запаветнай сасной праверу, як жыў і жыву, што змог і што магу».

Анатоль Вялюгін — рэхам на шматлікіх мовах паўтараецца імя ўседлівага кніжніка і лёгкага на дарогу вандроўніка. Імя каваля, што ў кузні свайго кабінета, невыпадкова размешчанай па вуліцы Янкі Купалы і ў верасовых абсягах роднай Беларусі, гне і гартуе рыфмы і гукі, каб слова, падкутае вялюгінскім бездакорным умельствам, выкрасала «сіняе пламенне з белага камення». Не толькі падкуць слова, а злавіць яго, вольнае і яшчэ не прыручанае, каб свойскім зрабіць, у грыве ягонай палыновую вольнасць вятроў захаваўшы, і чужатабуннае асвойтаць, годнасць яго не абразіўшы:

Той хімік па прызванню,
Мудрэц і жыццялюб,
Хто ўмее мёд кахання
Цягнуць з дзявочых губ.[1]

Гэта наш зямляк Адам Міцкевіч па-беларуску чытае «Песню філарэтаў». Нашая мова класіку польскай літаратуры з маленства блізкая і родная, пра чысціню яе праславянскую ён захоплена прамаўляў на лекцыях у Парыжы!

Слава ў слове і слова ў славе. Амаль аднолькава гучаць два гэтыя паняцці. Але каб слова было ў славе, яно павінна быць забяспечана залатым запасам душы паэта, яно павінна быць неабходным, адзін раз і назаўсёды дакладна выказана. Слава вялюгінскага слова трывалая, бо ў слове ягоным і трываласць натуры паэта, і паўсядзённасць працы, заручанай з дапытлівым роздумам.

З незабытай Машканскай школы, у якой, дарэчы, вучыўся славуты лётчык Алесь Гаравец[2], прыйшла да Анатоля Вялюгіна бярозка, каб нагадаць пра вытокі і карані:

Снягі і зоры за вакном.
Заснулі ў хаце ўсе даўно.
Бярозка мёрзлая галлём
пагрэцца стукае ў вакно.

А ты плывеш у белы свет...
Гарачы, прагны бляск вачэй...
І найдалейшая з планет
сяла суседняга бліжэй!..

Прыйшла бярозка, каб спачатку стаць «Пісьмом часопісу «Бярозка», а потым песняй (музыку напісаў Ігар Лучанок), якую ўзяў з сабой у космас беларус Пятро Клімук, калі ў другі раз працаваў у Сусвеце. Яму «найдалейшая з планет» усміхалася, як з суседняй парты аднакласніца.

Слова былога франтавіка працуе разам з касманаўтам і рабочым, дапамагае закаханаму сказаць самае запаветнае, яно нясе варту на мяжы і ў салдацкім нарадзе. Паэтычна гучаць сухаватыя радкі з вайсковай газеты «Во славу Родины» (1981, 29 сак.):

«Сёння агітацыйная работа праходзіла незвычайна... Пільная змена варты ўважліва слухала камсгрупорга М. Землядуху. Ён чытаў. Чытаў вершы з невялікага зборніка Анатоля Вялюгіна «Сіні верас» і вершы Мусы Джаліля «Барбары» і «Ваўкі». Чытаў пра хлопчыка, які далёка ад роднай вёскі, што засталася пад фашысцкім ботам, сумуе па маці. Ён працуе на ўральскім заводзе па вытворчасці танкаў. І на адной з машын хлопчык піша: «Вярні маю родную вёску Суніцы!» І танк з баямі, нібыта замоўлены ад варожых снарадаў, ідзе па зямлі, вызваляючы гарады і сёлы. Сяржант А. Валошын стараўся пераказаць змест хрэстаматыйна-непаўторнай вялюгінскай балады, якую на адным з пісьменніцкіх пленумаў поўнасцю працытаваў у сваім палкім выступленні народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Але і сяржант, які напаследак выказаў упэўненасць, што пасля чытання вялюгінскіх вершаў дзень варты пройдзе з адзнакай «выдатна», закончыў допіс вершамі:

І хрысціцца бабка
На вежы, байніцы...
— Як вёска завецца?
— Сыночак, Суніцы...

Мара Маякоўскага, каб «да штыка прыраўнялі пяро», збылася ў часе вайны і ў мірны дзень на варце вернасці.

Нездарма тонкі знаўца паэзіі Рыгор Бярозкін зазначаў, што ў «Баладзе аб уральскім танку»: «...ёсць чарадзейства існага, тая натуральнасць простых рэчаў, простага радка і слова, чым так моцна ўзрушаюць «Хлопчык і лётчык» Купалы, «Гранада» Святлова[3], «Апошняя ноч» Багрыцкага[4]. Тут гісторыя гаворыць з намі даходлівай чалавечай мовай, голасам хлопчыка з беларускай вёскі Суніцы».

Анатоль Сцяпанаў сын Вялюгін. У словах гэтых і гісторыя недалёкая, і сённяшні дзень, з дасягненнямі і чаканнямі нашага прыгожага пісьменства, у прыватнасці, самага нервовага цэха — паэзіі.

Майстра майстры называлі і называюць па імені, па-сяброўску: Толя. Пятрусь Броўка — узнёсла і ласкава-таропка; Аркадзь Куляшоў — з хітрынкай, што на імгненне задумалася; Максім Танк — з упэўненай радасцю, гулка; Пімен Панчанка — з заклапочанай журбой, прачула. Як цяпер помніцца красавіцкае ранне, калі чытаў Аркадзь Куляшоў канчатковы варыянт «Хамуціуса» Анатолю Вялюгіну, а той, па-змоўніцку ўсміхнуўшыся, зазначыў: «На мне ўсе, як на сабаку, вершы правяраюць...»

Не магу забыцца і на першую сустрэчу з Анатолем Вялюгіным не ў рэдакцыі, не ў пакоі, а ў радасным яднанні з прыродай.

...Пасівелы валун па-старэчы грэе застылы бок. Хвалюецца агонь-вальнадумец.

Спорна зорацца іскры. Вечарэе ў ваколіцах Мінскага ўзвышша.

А валуноў тут багата. Як аселыя салдаты даўно забытых армій, засталіся яны векаваць яшчэ з часін нашэсця ледавіка.

Агонь з паганскай натурай — без ахвяры не можа. Анатоль Вялюгін падкідвае ламачча. У гэтую звечарэла-паганскую цішыню ўцёк ён ад рэдакцыйнай мітусні, ад тлуму розных паседжанняў...

Такой спелай парой хораша гутараць развага са сталасцю, крамянее радок, важкім кожнае слова робіцца.

...Усё лета сёлетняе галубам раскошна было ў высокім блакіце... А яны, заручаныя з вышынёй, яшчэ на роднай Сенненшчыне, дзе лугам сенна, нябёсам зорна, а баравому рэху паўторыста, — трапяткім крылом юначай трывогі паклікалі заядлага галубятніка ў захмар'е. А захмар'е нядоўга было спакойнае. Вайна паклікала ў авіяцыйную школу. Былі баі на Волзе. Пра той час радкі:

Не помню, як мяне на самалёце
вязлі ў шпіталь, далёка за Урал,
дзе на імшарах шэрых журавіны
цвітуць і спеюць позна, як і ў нас.
Я толькі ўбачыў стол аперацыйнай,
у вокнах — чарнапалую тайгу.
Спакой навокал... Гэтак бела-бела,
Нібы калыша воблака мяне...

Паэт уволю зазнаў жахі вайны і таму не хоча нагружаць імі чытача, ён знарок адцягвае ўвагу на журавіны, на чарнапалую тайгу, на белае воблака. Як сапраўдны мужчына, усе пакуты і ўсе невыносныя болі бярэ на сябе.

Воблака маленства нядоўга калыхала летуценні. Крылы апаліла вайна. Толькі песня, па-юнацку крылатая, памужнела. І паслы крылатай мары — галубы — жывуць у вершах і ў паэмах Апатоля Вялюгіна. Крылатая пошта звязвае яго з галубятнікамі ў многіх кутках не толькі Беларусі. Упершыню прывёў мяне, нядаўняга выпускніка універсітэта, Анатоль Вялюгін на світальны Юбілейны рынак і паказаў галубоў. Трэба было бачыць, як гарэлі вочы ў паэта, як рука далікатна і ўпэўнена трымала дзіўнавокае воблачка. Давяраў і мне патрымаць у руках галуба, нібы ўтрапёны верш. І супала так, што пасля дзесяць гадоў жыў я па суседстве з тым світальным вялюгінскім рынкам, толькі на ім пасля не было галубоў. Ці не з сабой забраў галубятнік? Толькі вершы Анатоля Вялюгіна прылятaлі да мяне галубамі, нявольнікамі вышыні.

...Дагарае агонь... Папялінкі сівяць скроні паэта. На валуне сядзіць, як вядун-чарадзей. На досвітку — на рыбу. Пакуль пойдуць грыбы, трэба адчуць у руцэ натугу вудаўя, трывожнае біццё рыбацкага шчасця. Пры гэтым згадвае паэт выслоўе Хемінгуэя: «Пры кожнай паклёўцы стронгі я адчуваю мускулатуру свету».

...Ідзем ляском. Ён пытаецца, як ехалася. Зазначае між іншым, што ў аўтобусе добра калыхаць верш. А якраз я толькі пачаў калыхаць свае першыя вершы і прыехаў да свайго настаўніка, да хроснага бацькі, каб паглядзеў ён, ці не забыўся я, нашчадак рыбакоў ушацкіх, як чарвяка на кручок запрашаюць, як туманом юшка пахне.

Лясок гусцее. Гусцее змрок. Недзе недалёка ляноціцца Мінскае мора. А мне шэпча бор над ушацкім возерам Вечаллем. Самі прыходзяць на памяць вялюгінскія радкі:

З усіх сабораў ёсць сабор,
дзе згодзен я маліцца:
У спелым леце, спелы бор,
звіняць тваe званіцы.

Толькі перад гэтым забягаўся я ў «Полымя», дзе ў карэктуры чытаў радкі «Спелага бору», што пахлі яшчэ свежай фарбай.

...На сене спіцца соладка. Ды сорамна нашчаднаму рыбаку праспаць досвітак, калі рыба бярэцца. Апошнім часам забрыў у нашыя газеты і часопісы немаведама адкуль выраз «ісці на рыбалку». А мне з малых гадоў гучыць наш — ісці на рыбу. Як у даўніну хадзілі на звера. Ісці на рыбу — значыць рыбы шмат і яна не дробная!

Непраспанае мора. Сонца яшчэ спіць. Анатолю Вялюгіну шанцуе, мне — не. Праўда, шанцаванне гэтае адноснае. На нашай Віцебшчыне пра такі ўлоў кажуць: ад ката абараніцца... Зацяты рыбак, выцягваючы чарговы ўлоў, падміргвае: «Стары... у лісці лілей, як голуб, лапоча...» Гэтае хітравата-вясёлае вока, гэты «стары» помню заўсягды пазней, калі што падабаецца Анатолю Вялюгіну, — калі вычытаў у некага цікавы верш, калі адкрыў маладога паэта, калі сам закончыў пільную работу, і яна самому яўна даспадобы.

Пазней, падпісваючы свайму настаўніку зборнік, што выйшаў у мяне ў Маскве, ужыў ягонае ўлюбёнае слоўца:

Лицом суров,
                    но мыслью светел,
Натурой бурной — Радзивилл,
Старик Велюгин нас заметил
И в Минск войти благословил.[5]

Гэта жарт на вясёлы час. А на самой справе...

Анатоль Вялюгін валодае да зайздрасці рэдкім у наш час сярод літаратараў дарам радавацца чужой удачы, чужой знаходцы, чужому поспеху болей, чым сваім. Відаць, не зусім дакладна азначэнне «чужы» ў дачыненні да такой адкрытай душы, як у Анатоля Вялюгіна. Лепей бадай што сказаць: сябравай удачы, сябраваму поспеху. Бо паэт надзіва багаты на сяброў!

Гэта хіба што пад сілу даследчыкам, аснашчаным электронна-вылічальнай тэхнікай, падлічыць, колькі заўважыў Анатоль Вялюгін, колькі падтрымаў талентаў, блаславіўшы на нялёгкую дарогу ў літаратуры!

«Полымя» — часопіс, што называецца, паважны, нават крыху акадэмічны, па сваім узросце, па сваім памеры, па абсягу і ахопу тэм. Але ў аддзел паэзіі, які з 1946 года з невялікімі перапынкамі ўзначальвае Анатоль Вялюгін, заўсёды ідуць маладыя, у «Полымі» завозна з паэзіяй. Ды па добрай традыцыі, якой вымагаюць перш за ўсё клопат аб роднай паэзіі, уважлівасць да новага імя, у аддзеле не запісваюць на чаргу, як некалі ў местачковым млыне. Пэўная чарговасць ёсць, улічваюцца розныя «але», ды ў першую чаргу — друкуецца лепшае, свежае, новае.

За вонкавай паважнасцю, самавітасцю прызнанага барда хаваюцца задзірыстасць і даверлівасць, апантанасць і чуласць сенненскага мальца, унука дзеда Цярэшкі Вялюгі. І за ўсім гэтым стаіць дасведчанасць, дапытлівасць, віртуозная лёгкасць у абыходжанні са словам.

Майстра паяднаў у сабе кнігу і зямлю, з яе летнікамі і снягамі, з яе разнатраўем і разнаптаствам. Пазвоніш амаль на досвітку, не спіць, працуе, ды не праміне запытацца: «Чаго рана ўстаў, ці малаціць сабраўся?» Малацьбітны — самы дарагі час у селяніна. Альбо раптам 23 верасня павіншуе з астранамічнай восенню.

Ён помніць даты, вершы, паэмы энцыклапедычна, грунтоўна. І па-дзіцячы шчыра любіць дарыць блакноты і аўтаручкі, каб добра пісалася, гальштукі самыя ўльтрасучасныя, — бо паэт малады не павінен адставаць ад часу нават вонкава.

Любіць дарыць рыфмы, радкі і строфы, каб верш маладзейшага ці аднагодка загучаў, крылы адчуў. І самы ўлюбёны, я казаў бы, сталы занятак Анатоля Вялюгіна быць хросным бацькам першых зборнікаў. Здзіўляе ўмельства, з якім спрактыкаваны віртуоз адбірае вершы, ставіць іх у кнізе так, каб не забівалі паўторамі адзін другога, каб не выглушалі, а каб падкрэслівалі, выцягвалі, што называецца, агульную думку. Нялёгкі клопат і даць кнізе імя. І калі перагледзець тэматычныя планы выдавецтва, то па аддзеле паэзіі вялікі працэнт будзе вялюгінскіх найменняў, тых найменняў, што ён даў новым кнігам аўтараў як маладога, так і сталага веку.

Недзе ў мяне захоўваецца фота Анатоля Вялюгіна, дзе надпіс кароткі: «Рыгору Барадуліну — у дзень хрэсьбін; рунець, красавацца, налівацца!» Гэта ён быў хросным бацькам зборніка: даваў яму не толькі імя[6].

Атрымалася так, што ўпершыню ў часопісах надрукаваўся я менавіта ў «Полымі». Помню на старонках рукапісу свайго вялюгінскія поўныя плюсы (там, дзе верш цалкам падабаўся яму) і, калі можна так сказаць, паўмінусы (дзе трэба было яшчэ такі

папацець, памеркаваць, памазгаваць). Быў у мяне верш пра цаліну, які пачынаўся радкамі: «Стэпавы ўчотчык — перакаці-поле», стаяў супроць яго паўмінус, два разы прыносіў, але ў «Полымі» ён свету так і не пабачыў. Пазней дайшло, на які паварот вобраза далікатна, але рашуча накіроўваў мяне настаўнік. У мяне перакаці-поле параўноўвалася з учотчыкам, а Анатолю Вялюгіну хацелася, каб верш быў пра землеўпарадчыка, пра першаадкрывальніка стэпавых гектараў, а не пра экзатычную расліну, якая даўно гуляе па старонках паэтычных кніг і падборак.

І праз колькі гадоў хочацца мне зноў вярнуцца да Мінскага мора, да той ранішняй лоўлі, да ваколіц Ганалеса. Надвячоркам пайшлі ў грыбы. Рыжымі хвастамі свяцілі лісічкі, і тут паэт-лесавік браў большы аброк з некалі лесу, у якім пачыналі праступаць рысы парку... І як з даўнім знаёмым сустрэўся я з вершам «Чайка над жытам». Многа хто адразу адгукнуўся на падзею, многа хто ўтапіў у Мінскім моры неапераныя рыфмы, а па-чалавечы пашанліва, па-сялянску прачула сказана было Вялюгіным, як ішло мора з лагчыны ў вёску:

У мяккай пасцелі
лягло ля сялібы.
Глядзі: пасінелі
пад стрэхамі шыбы!..
...Развешаны сеці
на шэрым паркане.
Прызначыш дасвеццем
з баркасам спатканне...

І гэта пра мутную роўнядзь вады, што некалі пашкадавала нам нават прыстойных яжгуроў.

У Анатоля Вялюгіна ёсць адметная рыса прымушаць чытача глядзець на рэчы ягонымі вачыма. Колькі б разоў ні быў я ў пасляліўневым веснавым лесе, ледзь угледжу бярозку, шапчу вялюгінскае: «У мокрым лесе светла ад бяроз...» Так, як і вачыма Сяргея Ясеніна, заўсягды гляджу на лясных давярлівак: «Берез изглоданные кости...» А як да фізічна балючага адчування сказана пра бабіна лета:

Белазорае бабіна лета
у гародчыку расцвіло.
Пчолы, ўпіўшыся ў зрэнкі кветак,
зноў адчулі зямлі цяпло.

З маленства блізкае слова «белазорае». Анатоль Вялюгін настолькі добра адчувае роднае слова, настолькі ведае законы яго развіцця, што падчас цяжка адрозніць: свежае гэта, яшчэ не зацяганае слова з найбагацейшай на слоўнікавы запас Віцебшчыны ці проста наватвор. Павялося так, што ў слоўніках перакладаецца «близорукий», як «блізарукі». А чуйны да слова Анатоль Вялюгін даўно ўжывае надзвычай дакладнае і каларытнае: ніцавокі, ніцы на вочы...

Яшчэ ў 1949 годзе пісаўся верш пра манцёра. Многія заківаюць галовамі: ясна, вытворчая тэматыка пачатку 50-х гадоў, калі паэзіі было гола... Але сам верш ужо сваім пачаткам прымусіць замаўчаць скептыкаў:

У выбоінах гразкай дарогі
утапіўся месяц сляпы.
Нібы рэўматычныя ногі,
гудуць і гудуць слупы.

Колькі часу мне на роднай Ушаччыне рэўматычнымі нагамі гулі слупы пасля таго, як на выклянчаныя ў маці грошы набыў я кнігу паэзіі Анатоля Вялюгіна «На подступах». І цяпер мне па-вялюгінску ў прастуджаным полі гудуць слупы.

А калі ўначы даводзілася вартаваць сад (садоў яшчэ было не багата: ад падаткаў рэштка старых ветэранаў была толькі што вызвалена, а маладая змена яшчэ не вырасла), той сад, які маладым чуў выццё бомбаў, — праз ноч гучалі мне вялюгінскія радкі:

Мёдам напоўнены конаўкі
і векавыя збаны.
Бамбардзіруюць антонаўкі
ў сонных садах буданы...

Глухія конаўкі, гулкія збаны перадаюць цішыню насцярожанай начы. Сонныя сады, буданы гукапісам сваім падкрэсліваюць росную крохкасць галін.

А калі давялося пабыць на Куршскай касе, хвалі халоднай Балтыкі як бы ўскалыхнулі радкі вялюгінскага «Рыбацкага могільніка»:

Чытаеш помнікі, здзіўлёны:
ну хоць бы надпіс быў адзін,

дзе строга значацца імёны
тваіх равеснікаў, мужчын!..

— Ах, там яны...— Бурліць раўніва
цяжкі, у белай шапцы, вал.
Не моўкне шум рыбацкай нівы.
Чакаючы,
маўчыць
прычал.

Нечаканы паварот думкі, веданне побыту суседзяў, і гэтыя, самі ўзніклыя гукі прыбою, які перадае ненавязліва падкрэсленае «ч» і графічны малюнак слупка, — усё стварае давер і ўражвае чытацкае ўяўленне.

Колькі разоў дапамагалі мне, няштатнаму кансультанту «Чырвонай змены», радкі Анатоля Вялюгіна, калі сам пачатковец адказваў пачаткоўцам на іхнія лісты з вершамі, раячы ім абавязкова чытаць Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанку, Анатоля Вялюгіна і іншых самабытных паэтаў. У тыя ружовыя гады *самабытны* гучала як сам па сабе з'яўлены на свет. Пазней зразумеў, якая школа і якая праца стаіць за гэтым азначэннем на канкрэтным прыкладзе Анатоля Вялюгіна.

Любіць майстра паўтараць верш рускага паэта Мікалая Ушакова, які паважаў талент Анатоля Вялюгіна, пра што сведчаць аўтографы на кнігах. А верш гэты нельга разрываць на радкі, страшна прапусціць у ім хоць адно слова:

Мир незакончен
н неточен, —
поставь его на пьедестал
и надавай ему пощечин,
чтоб он из глины
мыслью стал.

Са слоў радок, верш павінен стаць думкай — пра гэта клопат Анатоля Вялюгіна ў сваёй творчай працы, пра гэта клопат, калі гадуе ён змену ў паэзіі, сваіх вучняў. А іх у Анатоля Вялюгіна шмат. У нашым Саюзе пісьменнікаў пры нябедных штатах кансультантаў, памочнікаў і намеснікаў у большасці выпадкаў тым і займаюцца, што адсылаюць аўтара ў рэдакцыю.

Анатоль Вялюгін, відаць, адзін зрабіў, не баюся катэгарычнасці сцвярджэння, куды болей для маладых паэтаў, чым штатныя апекуны.

Рэдка прадстаўляючы ў афіцыйных дэлегацыях беларускую паэзію, Анатоль Вялюгін быў заўсёды паўнамоцным яе прадстаўніком ва ўсіх анталогіях, сам, дарэчы, найлепшы ўкладальнік анталогій нашай паэзіі і рэдактар анталогій паэзіі братэрства.

У яго высакародная, трэба сказаць, пяшчотная дружба з паэтамі розных рэспублік — з Міхаілам Дудзіным[7] і Міколам Нагнібедам[8], з Платонам Варанько[9] і Вадзімам Шэфнерам[10], з Якавым Ухсаем[11] і Якавым Хелемскім[12]. Моцныя рыцарскія повязі былі з Міхаілам Луконіным[13], песняром Волгі. Гэта — ад першага пасляваеннага зборнічка «Дни свиданий», на вокладцы якога накрэслена друкаванымі літарамі: «Родному спутнику в дальней дороге Анатолю Велюгину от друга его поэзии. С любовью Мих. Луконин».

Канстанцін Сіманаў успамінаў пра пісьмо Луконіна з Валгаграда: «Ён напісаў мне пра сваё абавязковае жаданне, каб адбыўся не толькі яго ўласны вечар, але і другі вечар паэзіі, у якім бы прынялі ўдзел усе, хто, як ён выказаўся, «захоча і зможа» прыехаць, і пералічыў тых, каго яму хацелася б убачыць там, у Валгаградзе, у дні свайго пяцідзесяцігоддзя. Пералік імёнаў, якія ён называў у гэтым сваім пісьме, дае ўяўленне пра кола яго сяброў-паэтаў і, шырэй кажучы, пра кола тых, чыю паэзію ён цаніў і, відаць, меў у той час падставу разлічваць на іх увагу і інтарэс да яго ўласнай паэзіі. Сярод тых, пра каго ён пісаў, што «добра, калі б яны змаглі прыехаць», ён называў Антакольскага, Шчыпачова, Пракоф'ева, Смелякова, Цыбіна, Львова, Нараўчатава, Роберта Раждзественскага, Рыму Казакову, Сяргея Арлова, Бэлу Ахмадуліну, Рэваза Маргіяні, Іосіфа Нанешвілі, Платона Варанько, Расула Гамзатава, Кайсына Куліева, Давіда Кугульцінава, Мустая Карыма, Анатоля Вялюгіна, Сільву Капуцікян, Хаміда Гуляма».

І праўда ж, шырокае, знакамітае кола песняроў братэрства.

Анатоль Вялюгін пераклаў паэмы Міхаіла Лермантава і Лесі Украінкі, дапамог загаварыць па-беларуску Эдуардасу Межэлайцісу[14] і Паблу Нэруду, Уладыславу Бранеўскаму[15] і Назыму Хікмету[16], Мікалаю Ціханаву і Юліяну Тувіму, Аляксандру Пракоф'еву[17] і Андрэю Малышку[18], Уладзіміру Сасюру[19] і Платону Варанько, шмат каму з паэтаў «добрых і розных».

Падамо яшчэ некалькі штрыхоў да партрэта ў верасе пчаліным.

Эпіграма, экспромт, пародыя — з імі заўсягды Анатоль Вялюгін не расстаецца. Яму на зуб баяцца патрапіць безнадзейна

ўбранзавелыя літаратурныя пыхліўцы і калегі, што часам хочуць спачыць на ўяўных лаўрах.

Нeяк прынёс Анатоль Вялюгін у выдавецтва «Мастацкая літаратура» рукапіс, пачаў гартаць і пра слізкую паперу машынапісу зазначыў, сам таго не заўважаючы, перакананы галубятнік і рыбак: «Як чаек, трымаеш у руцэ лісты — страшна, што разлятуцца...»

Каб лепей ведаць адданыя адносіны Анатоля Вялюгіна да паэзіі, трэба бачыць і чуць, як чытае ён вершы. Кожнае слова правяраецца на вагу — лішняга гуку не мусіць быць у адзін раз знойдзеным радку! У вачах чаканне нечаканага, радасць адкрыцця, заклапочанасць. Чытае вершы, разгойдвае кожны радок, акцэнтуе паэтычную думку...

Паэзія Анатоля Вялюгіна атрымала шырокае прызнанне на роднай зямлі і далёка за межамі рэспублікі. У адно паняцце зліліся два словы: «майстар» і «Вялюгін». Вялюгінская манера, вялюгінскі радок, вялюгінская рыфма, вялюгінская школа перакладу — гэта і літаратуразнаўчыя тэрміны, і паўсядзённая практыка нашай паэзіі.

Праз парк над Свіслаччу, як з касьбы, ідзе апоўдні ў рэдакцыю «Полымя» мажны, з пасівелымі скронямі, нібы неатухлым вогнішчам з белым прысакам, чалавек. Акуратна загорнуты ў газету пакуначак — паэзія наступнага нумара часопіса.

З ім абдымаюцца кіношнікі, бо па сцэнарыях ягоных пастаўлены двухсерыйны мастацкі тэлефільм «Рэха ў пушчы» і 40 дакументальных фільмаў. І сёлета па яго сцэнарыях здымаюцца два фільмы: мастацкі «Глядзіце на траву» (па матывах апавяданняў Янкі Брыля) і поўнаметражны дакументальны «Навальнічная далеч памяці», прысвечаны 40-годдзю вызвалення Беларусі.

З ім вітаюцца кампазітары, бо на вершы ягоныя пяюцца дзесяткі песняў з кінаэкранаў і ў сяброўскіх застоллях.

Яму шчыра ўсміхаюцца маладыя паэты, бо на ягоным творчым рахунку каля чатырох дзесяткаў кніг паэзіі, што выдаваліся ў Мінску і ў Маскве, у Ленінградзе, у Кіеве і ў Сафіі.

Анатоль Вялюгін — заслужаны дзеяч культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Адрас паэзіі Вялюгіна ведаюць усе, ад пачаткоўца да старога машыніста, у якога «далоні ўсё яшчэ ў метале».

Некалі мама мая напісала ліст з Вушачы, дзе была так удзячна паэту за фільм «Балада мужнасці і любові», а на канверце пазначыла: «Мінск, паэту Анатолю Вялюгіну». Ліст дайшоў хутчэй, чым цяпер з дадатковым індэксам.

Дарэчы, на фільме пра партызанскую рэспубліку, як называлі Вушаччыну нават тыя, каму тут неба з аўчынку здалося, — след спыніцца. Тут яскрава праявілася сіла таленту Анатоля Вялюгіна, таленту захапляць, апладняць думку сабрата па пяру. Даўні і шчыры сябра Беларусі вядомы балгарскі паэт, празаік, эсэіст Стэфан Паптонеў наведаў Вушаччыну, з якой быў знаёмы па творах Васіля Быкава і Петруся Броўкі. Расказы і ўспаміны Васіля Быкава, непасрэднае знаёмства з краем партызанскай славы натхнілі балгарскага паэта на паэму «Беларуская міфалогія». Адзін з самых уражлівых раздзелаў пачынаецца з дакладнага эпіграфа: «Фільм па сцэнарыю паэта Анатоля Вялюгіна «Балада мужнасці і любові» ў Вушацкім РДК паказалі нямецкай дэлегацыі...» І далей гаворыць паэма:

Недзе ў самай сярэдзіне фільма,
дзе ўсплыла жудасці дамавіна,
разрыдалася немка Вільма,
плачам выбухнула, як міна:
— Быць не можа! Няпраўда, няпраўда!..
Круцяцца дакументальныя кадры,
мы глядзім іх з немкаю Вільмай,
анямелыя, пільна...
Доле мёртвыя і жывыя — ўсе знявечаныя.
Доўгая яма крывёй падыходзіць не хоча.
Хлопчык просіцца з ямы, як з сярэднявечча:
— Дзядзька, чаму мне пяском засыпаеш вочы?..

Пасля таго як па тэлебачанні ў перадачы пра Вушаччыну прагучаў гэты раздзел, рэдакцыя атрымала шмат узрушаных пісем ад былых партызан, ад былых воінаў. А паэма «Беларуская міфалогія» атрымала другую прэмію на Усебалгарскім конкурсе.

Славуты партызанскі камбрыг Уладзімір Елісеевіч Лабанок у адной са сваіх кніг, расказваючы пра Варвару Архіпаўну Ардыновіч, якая падчас акупацыі ў Лепелі выратавала жыццё многім ваеннапалонным, пераслаўшы іх потым у партызаны, цалкам прыводзіць верш Анатоля Вялюгіна «Здаецца, зноў жыццё пачата…»:

Як даўні боль, як сон салдата —
сляды і лодка на пяску,
і матчына старая хата
у галубіным гарадку.

Бясстрашнаму народнаму помсніку запалі ў душу простыя і дакладныя, шчырыя і поўныя ласкі радкі. Яны нагадалі маленства, яны нагадалі мірныя дні, пра якія марылі ў лютых баях змаганцы за волю краю.

Ніколі не бачыў Анатоля Вялюгіна з традыцыйнай запісной кніжкай. Колькі памятаю, ён любіць слухаць суразмоўніка, умее падтрымаць і пачаць цікавую бяседу з пачаткоўцам і класікам, з энтээраўцам і селянінам. Бывала, прысутнічаеш пры гутарцы, хапаешся занатаваць нейкае слова, выраз, затрымаць на паперы нейкі штрых, а пройдзе час, і разважліва-задуменны паэт напомніць табе амаль даслоўна і размову, і падкрэсліць самае галоўнае, што прапусціў ты, стараючыся занатаваць.

Але ёсць у шанавальніка крамянага слова заўсёды вонкава ахайная і зручная запісная кніжачка — нешта паміж дзённікам і па колішняй журналісцкай памяці рэпарцёрскім блакнотам. Ляжыць гэты зграбненькі томік на пісьмовым стале і, здаецца, сам запаўняецца пачаткамі будучых вершаў, паэм, дасціпнымі выразамі, народнымі чатырохрадкоўямі і словамі, якіх не знойдзеш ні ў якім слоўніку. Дарэчы, да слоўнікаў у Анатоля Вялюгіна даўняя пашанлівая любоў.

Як таямнічы вядун, адгорне майстар цупкую кніжачку, дзе акуратны і няспешлівы почырк падкрэслівае і характар паэта, і падорыць — каму загаловак будучай кнігі, каму радок, каму слова, якое адразу верш прывабным зробіць.

Тут будуць занатаваны і страты насельніцтва Беларусі падчас усіх апошніх войнаў (дакладныя звесткі, якіх не знойдзеш ні ў адной энцыклапедыі), і частушкі з Віцебшчыны. Тут жа і «павітуха» набудзе найменне «бабкі пупарэзнай».

Штодзень праца над словам, шліфоўка слова, выверка кожнага гуку на слых.

У збіранні слоў, у пошуках у Анатоля Вялюгіна ёсць нешта ад рыбака і грыбніка. Любіць нерушы і знаходзіць іх!

Ці не таму так па-маладому ўражліва, па-майстэрску глыбінна-высвечана гучыць вялюгінскае слова, не ведаючы стомы гадоў, не паўтараючыся, не трацячы канкрэтнай першароднасці і мройлівай узнёсласці.

Зусім нядаўна набыў новае жыццё, стаўшы лучанкоўскай песняй, верш Анатоля Вялюгіна азябна-росны, світальна-чысты, цнатліва-даверлівы:

Ой, мурожна ды росна
ля быстрай вады.

Закасі мае вёсны,
касец маладь.

Перапёлцы жалосна,
і чуюць лугі:
— Закасі мае вёсны,
касец дарагі.

Я сцяблінкай гатова
упасці ў пракос,
каб ты сніў мае бровы
і полымя кос.

І калі на сустрэчы народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава са сваімі землякамі ў Вушацкім раённым Доме культуры Ігар Лучанок сам выконваў сваю новую песню, светла і хораша было ад спаткання паэзіі з музыкай.

А патрабавальны да свайго кожнага слова майстра штогод, штодзень пачынае нанова «свайго жыцця суровы чыставік».

Гэтае маё слова — не традыцыйная прадмова з датамі, цытатамі, навукова-абгрунтаванымі выкладкамі. Гэта партрэт у верасе пчаліным, у спелым леце майстэрства настаўніка, якому ўдзячны не я адзін.

Нарвежскі пісьменнік Марцін Наг прызнаваўся: «Пісаць — гэта спроба кожны раз аднолькавая, але кожны раз новыя перамовы з жыццём». Дык няхай жа не стамляецца ад перамоў з жыццём наш майстра, дыктуючы жыццю свае, акрыленыя паэтычнай думкай, умовы!

*1984*

## НЕ РАЗБІЦЬ, НЕ СПЫНІЦЬ, НЕ СТРЫМАЦЬ…

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі, —
У ёй нават мовы няма.
Збудзіўшысь ад грознай бяды,
Ўвесь поўны смяротнай жуды,
Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»
І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.

Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!

Так пісаў у 1913 годзе самы любімы беларускім народам паэт, даследчык, крытык, эсэіст, перакладчык, заснавальнік новай беларускай літаратуры Максім Багдановіч, чый стогадовы юбілей па рашэнні ЮНЕСКО адсвяткаваў свет.

Практычна ўсё сваё кароткае жыццё (нарадзіўся 9 снежня 1891 года ў Мінску, памёр 25 мая 1917-га ў Ялце) ён правёў па-за межамі роднай Беларусі.

Дом, дзе нарадзіўся паэт, згарэў пад час вайны. (На вайну, на нямецка-фашысцкіх захопнікаў спісалі мы ўсе знішчаныя самімі ж помнікі.) Заставаўся падмурак. Ды замест таго каб адрадзіць роднае гняздо паэта, вакол пабудавалі дамы для саўпартработнікаў і суворaўскае вучылішча. Сістэме і самое месца нараджэння вялікага паэта перашкаджала.

Лёс яму дазволіў адно кароткія сустрэчы з радзімай, дзе беларускае неба багаславіла немаўля на подзвіг для ўславы беларускага слова. Па ўспамінах сучаснікаў геній беларускага слова слабавата валодаў гутарковай мовай, Максім-кніжнік — як празвалі яго сябры — прасіў папраўляць ягонае вымаўленне.

Чаму пачаў я слова пра любімага паэта, настаўніка ўсіх наступных паэтаў нашых, з такога верша? Каб падкрэсліць, наколькі фанатычна любіў Максім Багдановіч усё беларускае, крывіцкае. Толькі апантаны ў сваёй любові да роднага народа паэт можа гэтак сказаць. Тут будзе дарэчы прыгадаць лермантаўскае «Бывай, нямытая Расія».

І заўважце, перш чым сказаць «цёмны, сляпы, быццам крот», перш чым дайсці ў самазнішчальнай любові амаль да нянавісці, да выкліку, будзіўшы плоць ад плоці яго, паэт піша з вялікіх літар — Беларускі Народ. Гэтым падкрэслівае яго дзяржаўнасць, яго старадаўнасць, яго спаконвечную веліч.

І яшчэ раз, чаму менавіта з верша «Народ, Беларускі Народ!» пачаў я казаць пра Максіма Багдановіча. А таму, што сітуацыя ў першае стагоддзе вячніны вялікага сына нацыі амаль тая ж, калі не горш. На беларусах на першых як на самых спакойных і талерантных савецкі рэжым правёў антычалавечыя доследы па дэнацыяналізацыі. Нас нават сам Мікіта Сяргеевіч[1] хваліў і ў прыклад іншым народам ставіў, што мы першыя выракаемся роднай мовы, робімся інтэрнацыяналістамі. Хаця слова гэтае пасля афганскае разні і ўжываць неяк непрыстойна, калі той, хто забівае людзей, сцірае народ з чала ягонай жа роднай зямлі,

называецца інтэрнацыяналістам, а забіваючы, выконвае «інтэрнацыянальны абавязак».

І ў не так далёкія часы ў нас уся крытыка ў адзін голас называла Максіма Багдановіча інтэрнацыяналістам. Так, паэт любіў Расію, бо ўсё ягонае свядомае жыццё прайшло ў Ніжнім Ноўгарадзе і ў Яраслаўлі. Максім Багдановіч ведаў рускую культуру і літаратуру першакрынічна-глыбінна. Ягоныя ацэнкі Пушкіна і Баратынскага[2], Лермантава і Адоеўскага[3], Чэхава і Брусава[4] не страцілі свайго значэння, бо выказваліся не сумятліва, а ў вечным вымярэнні. Максім Багдановіч з годнасцю глыбіннага беларускага інтэлігента спакойна канстатаваў: «...беларуская культура аніяк не з'яўляецца простым варыянтам культуры вялікарускай. Наадварот, у іх абліччы перад намі знаходзяцца два самастойныя культурныя комплексы, якія ад самага ж пачатку раслі і развіваліся незалежна адзін ад аднаго. Адрозніваючыся між сабою і па бытавых першаасновах, і па ўплывах, накіраваных звонку, і па падзеях далейшага гістарычнага жыцця, яны, натуральна, прыйшлі да далёка не тоесных канчатковых вынікаў».

Час нам вярнуць слову «нацыяналіст» ягонае дакладнае, першапачатковае значэнне, зняўшы з яго абразу азвярэлай прапаганды так званых марксістаў-ленінцаў. Прыхільнік марксізму мог ганаравіта называцца марксістам, а мілоснік нацыі, абаронца і ахоўца яе не меў права называцца нацыяналістам, ён мусіў быць абавязкова інтэрнацыяналістам. Хаця інтэрнацыяналізм — гэта не што іншае, як міжнацыяналізм. Ды для бальшавікоў не было нічога святога, святакрадства рухала іх да зіхоткіх вяршыняў камуністычнага міфу. І Максіма Багдановіча трэба называць вялікім нацыяналістам — ахоўцам беларускага нацыянальнага агменю.

Зноў вернемся да верша. На яго прыкладзе яшчэ раз пацвярджаецца, што ў класічным варыянце ў паэзіі і коска велізарнае значэнне мае (гэта ў мадэрновай паэзіі, дзе не патрабуецца ні думкі, ні пачуцця, дзе толькі паток альбо падцёк свядомасці, дастаткова валодаць машынапісам). Звярніце ўвагу, дзе стаіць коска: «Народ, Беларускі Народ!» Паэт адразу, з першага радка як бы ўступае ў палеміку з усімі нігілістамі, з усімі вялікадзяржаўнікамі, якія адмаўлялі беларусам у праве называцца народам, а Беларусь, якая мае сваю старажытную дзяржаўнасць і культуру, бачылі толькі як «Северо-Западный край».

Дамо слова Максіму Багдановічу і па гэтым пытанні: «Беларусы не ўбіралі ў сябе цэлага мора фінскіх элементаў і не паддаваліся ўздзеянню татаршчыны, як вялікарусы. У процілегласць

ім яны не парывалі з пачаткамі, выпрацаванымі ў папярэдні перыяд рускага жыцця, а развіваліся на старым карані. Увайшоўшы ў склад Вялікага княства Літоўскага, яны апынуліся ў становішчы болей культурнага ўзроўню, чымся літоўцы. Дзякуючы гэтаму ўсё дзяржаўнае жыццё Вялікага княства Літоўскага працякала ў беларускіх нацыянальных формах. Па-беларуску гаварылі вялікі князь і ўся знаць, па-беларуску вяліся дыпламатычныя зносіны з замежнымі дзяржавамі, па-беларуску пісаліся законы, граматы, акты, па-беларуску вёўся суд». І зноў-такі ўсё гэта надзённа і для сённяшняй Беларусі, якая аб’явіла, нарэшце, суверэнітэт. Беларускі дух, беларускую мову вывелі адусюль спачатку Расійская імперыя, якая моцна трымала ў сваіх жалезных абдымках Беларусь, а потым савецкая імперыя, што называлася Саюзам.

Тое, што напісаў Максім Багдановіч у 1916 годзе, гучыць як актуальнае жаданне, як сённяшні крык адчаю: «Закон 1 чэрвеня 1914 г. робіць мажлівым адкрытае існаванне школ з выкладаннем на беларускай мове. Такія школы ўжо з’яўляюцца. На чарзе — пытанне пра болей шырокую пастаноўку іх, пра падтрымку з боку земстваў і г. д.». А за ўсе гады саўулады толькі і чулася: «Русский язык — язык партии». А партыя, як ведаем, была адна, якая, па сутнасці, была дзяржавай у дзяржаве. Цяпер партапаратчыкі крыху прысмірэлі, рванулі ў камерцыю, а размовамі ды добрымі намерамі нацыянальную школу не вельмі і падтрымаеш.

Гэта марксісцка-ленінскай крытыкай былі ўведзены паняцці малой і вялікай радзімы. Малая радзіма — гэта ўскраіна, калонія, вялікая — метраполія. І тым самым прыніжалася значэнне нацыянальнага, роднага. Максім Багдановіч яшчэ тады, у 1916 годзе, пісаў пра тыя мінусы, «якія нясе з сабою выкладанне на вялікарускай мове... Пры навучанні па-вялікаруску з ужытку беларускага дзіцяці выкрэсліваецца маса своеасаблівых, чыста беларускіх слоў, вобразаў, зваротаў і, выходзіць, усе звязаныя з імі жывыя, ясныя і звычныя ўяўленні і перажыванні. Гэта — несумненнае збядненне дзіцячай псіхікі. <… > адхіляючы беларускую мову з школы, мы вядзём да растраты вынікаў велізарнай, шматвяковай духоўнай работы цэлага народа, збіваем думку дзіцяці са звычных псіхалагічных сцяжынак і груба ўрэзваем ягоны душэўны свет; уводзячы ж мову вялікарускую, мы ставім на ягоным шляху шэраг цяжкасцяў, засяляем ягоную псіхіку вобразамі ўмярцвелымі, незразумелымі і ў шмат якіх выпадках зусім бязглуздымі».

І цяпер, як у далёкія часіны, адчыняюцца беларускія класы, для якіх няма ні падручнікаў, ні выкладчыкаў. Усё на энтузіязме трымаецца.

Не застарэла і заўвага Максіма Багдановіча пра беларускасць нашае паэзіі: «Беларускіх вершаў у нас яшчэ не было — былі толькі вершы, пісаныя беларускай мовай». Шмат якія сённяшнія і ўчарашнія беларускія паэты нацыянальныя хіба што па нацыянальных кашулях з беларускім арнаментам, а арнамент гэты зацверджаны ў ідэалагічным аддзеле ЦК.

Здаецца, сёння пісаў Максім Багдановіч патрабаванне разам з Беларускім Народным фронтам пра «ўвядзенне беларускай мовы ў царкву і касцёл», а тады ішоў 1915 год.

Максім Багдановіч стварыў пярліну сапраўды беларускую па духу і па форме. Гэта — «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык». І для дзяцей, і для дарослых. А ў нас на працягу ўсяго без чвэрці векавога эксперыменту над людзьмі стваралася так званая піянерская паэзія, нібыта для дзяцей. Ні дзіцяня, ні дарослы па сваёй ахвоце не чытае гэтай лозунгавай рыфмаванай прадукцыі. Памятаю, як дачка недзе ў пятым класе прынесла своеасаблівы пратэст супроць гэтай піянерскай і акцябрацкай паэзіі: «Не стыдися, пьяница, носа своего, он ведь с красным знаменем цвета одного»[5]. Дзіцячая душа, а душа заўсёды дзіця, паўстае супроць усялякага фальшу і хлусні.

Багдановічаўская «нестрыножаная думка» рупілася аб «беларускай нацыянальнай душы».

Пра тое, што талент — паняцце нацыянальнае, кажа ўся творчасць вялікага паэта. Ён умеў чужое роднай мове слова так асвойчыць, зрабіць хатнім, так абеларусіць суседствам са спаконнымі беларускімі словамі, сагрэць яго шчырай беларускай душой, што слова сябе і сапраўды пачынала адчуваць беларускім. Раманс «Зорка Венера», які стаў любімым у моладзі не аднаго пакалення, адзін з прыкладаў такога прыручэння слоў. У нас маецца слова славянскага гучання: замест Венеры — Мілавіца. Але пастаўце ў радок Мілавіцу — знікне холад, адлегласць, вера, нервы, усё тое, што гучыць у неславянскім слове, ды воляю паэта яно стала родным у нашае мове. Атрымала грамадзянства ад Максіма Багдановіча.

Часцяком, бывала, асабліва ў Расіі, на вечарах паэзіі пыталіся ў беларускіх і ўкраінскіх паэтаў, а чаму не пішуць адразу па-руску, бо мовы ж роднасныя? На прыкладзе Максіма Багдановіча (і гэта бліскуча і грунтоўна даказаў наш выдатны пісьменнік Міхась Стральцоў[6]) бачым, як напісаныя Багдановічам ці перакла-

дзеныя ім жа па-руску вершы гучаць правільна з боку граматыкі, але сярэднявата, быццам зусім іншым паэтам пісаліся яны.

Максім Багдановіч быў першым еўрапейцам у новай беларускай літаратуры, які ўпрог сябе ў працу, каб за лічаныя гады, на якія быў скупы кон, дагнаць развітыя літаратуры свету, стаць упоравень з імі. Універсальны талент гарэў «жаданнем прышчапіць да беларускай пісьменнасці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда, памагчы атрымаць больш еўрапейскі выгляд». І дапамог. Акраверш, санет, трыялет, гекзаметр, пентаметр, рандо, тэрцына, актава, — усё і пералічыць цяжка, што вялікі паэт прышчапіў да беларускай паэзіі. Не самі памеры падышлі да беларускага слова. Нават па-руску, гуляючы словам лёгка і нязмушана, напісаў «Четверной акростих»:

Ах, как умеете Вы, Анна,
Не замечать, что я влюблён.
Но всё же шлю я Вам не стон,
А возглас радостный: осанна!

Чытаеш акраверш, а ў памяці гучаць радкі захаплення, прысвечаныя касцёлу святой Анны ў Вільні. Кажуць, што Напалеон жадаў бы гэты касцёл на далані перанесці ў Парыж, а паэт яго перанёс са старажытнай беларускай сталіцы на далані верша ў сэрцы чытачоў.

Каб залячыць у сэрцы раны,
Забыць пра долі цяжкі глум,
Прыйдзіце да касцёла Анны,
Там зікнуць сцені цяжкіх дум.
Як лёгка на гары, як красна
Узносіць вежы ён свае!
Іх зарыс стройны ў небе ясна
Ізломам дзіўным устае.

Гэта Максім Багдановіч прынёс у беларускую паэзію горад, гэта Максім Багдановіч прынёс у яе космас, гэта Максім Багдановіч убачыў і нам паказаў, як «у небе ціха зоркі расцвілі». І, напэўна, невыпадкова ён нарадзіўся пад знакам Стральца. У адным з сучасных гараскопаў гэтак, у прыватнасці, кажацца: «Страла часу, памкнёная праз падсвядомасць, ілюзію і астральны свет, да асягнення мэты. Знак Агню пад апякунствам Юпітэра». Толькі паэт, каму космас па-роднаму блізкі, мог напісаць:

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

Гэта фактычна першы беларускі верлібр. Ужо ў нашыя дні крытыкі ламалі дзіды вакол гэтага заморскага жанру. А Максім Багдановіч яшчэ ў 1915 годзе сказаў, што няма ні жанраў, ні памераў, якія б не магла засвоіць беларуская мова. Пра змест верша і казаць не даводзіцца. Ён вечны, як вечны сам Космас, чыю ўвагу хоча прыцягнуць паэт да клопатаў зямных.

У савецкі час да пісьменнікаў, якіх нельга было ўжо знішчыць фізічна, паколькі не дажылі да «светлых» дзён, якім нельга было наклеіць ярлык контррэвалюцыянера і антысаветчыка, прымаліся меры замоўчвання; і самы надзейны метад — ганаровая ссылка ў школьныя хрэстаматыі. Каб племя маладое і незнаёмае не дужа мілосціла сваёй увагаю. Але і гэтую ссылку вытрымаў паэт, здабыўшы сабе сапраўды ўсенародную любоў шанавальнікаў роднага слова. Здаецца, цікавай будзе і гэтакая дэталь, што забароненыя сталінска-кадэбісцкай цэнзурай аўтары ў сваім родным слове жылі і былі даступныя чытачу ў кнігах беларускага класіка. Гэта тычыцца, напрыклад, украінца Олеся[7].

Юбілей Максіма Багдановіча не проста чарговы, стогадовы. Гэта яшчэ адно стагоддзе нашая паэзія годна чулася ў свеце як раўнапраўная, як непаўторная.

Жыў і памёр паэт маладым. Малады і застаўся ў свядомасці беларускай. Вялікае гора народа, нацыі, што мала пражыў, але хай даруецца мне Панам Богам гэтае кашчунства, затое не паспеў абразіць вусны Паэзіі сваёй вершамі савецкага, сацрэалістычнага складу. Засталіся жыць вершы беларускага складу, вершы паэта еўрапейскай, сусветнай арыентацыі. Дый калі б і застаў жудасны Кастрычнік, які мы гэтулькі часу называлі адно вялікім,

дык пайшоў бы паэт па першае мабілізацыі саграваць сваім палымяным сэрцам вечную мерзлату аднаго з безлічы ГУЛАГаў. За адзін толькі «цвяток радзімы васілька». І гэтая любімая беларускім народам краска была занесена ў шэраг нацыяналістычных, хоць колькі сінее неба, столькі сінее і васілёк пад ім.

Анталагічным і народнай песняй стаўся верш «Слуцкія ткачыхі», дзе

І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

Бо Максім Багдановіч у «Апокрыфе» сцвярджаў: «...добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?»

Пайшоў бы па першае мабілізацыі за славутую «Пагоню», якую выключылі з усіх паэтычных кніг, што выходзілі знявечаныя ў «залаты век» сталінска-чэкісцкага сацрэалізму. Толькі ў конадзень стогадовага юбілею паэта наш старажытны герб Пагоня зноў вернуты ў правах, зноў стаў дзяржаўным у Рэспубліцы Беларусь.

У гэты «залаты век» лепшыя творы Янкі Купалы (дарэчы, і ён заўважыў талент Максіма-кніжніка), што былі хлебам духоўным нацыі, амаль не друкаваліся, а ў хрэстаматыях ды аднатомніках падаваліся чытачу вымушаныя аднадзёнкі вялікага паэта славянскага свету.

З папраўкамі, з заўвагамі на песімізм паэта змушаны былі літаратурныя камісары ўсё ж даваць у падручніках ды анталогіях сапраўдныя вершы сапраўднага паэта. І ў змрочныя часы (па інерцыі чытач сталага пакалення працягне — царызму) сталінізму Максім Багдановіч быў адзіным акном у Еўропу. На творах Максіма Багдановіча вучыліся роднае мове, мове крынічнай, чыстай, не заказёненай, не саветызаванай, вучыліся жыць, адчуваць сябе людзьмі думкі, людзьмі, далучанымі да агульначалавечае культуры.

Максім Багдановіч ратаваў нацыю, ратаваў мову на краі адчаю.

Максім Багдановіч сапраўды Богам дадзены нашай нацыі, народу беларускаму, дадзены навырост. Аднаго жыцця мала, каб дарасці да разумення Максіма Багдановіча, да разумення ягонай унікальнасці, ягонай велічы, ягонай глыбіннай прастаты.

Богам дадзены, каб людзьмі заставаліся, звяраючы свае думкі і памкненні з тым, хто з зорамі гаварыў як роўны з роўнымі. Богам дадзены, каб мы па-багдановічаўску любілі сваю святую зямлю, імя якой Беларусь, па-багдановічаўску баранілі Бацькаўшчыну сваю ад рознае набрыдзі, нарасці, навалачы. Богам дадзены, каб Бога свайго помнілі, каб Бога свайго шанавалі, каб чужым багам не маліліся, бо мы — беларусы, бо мы — крывічы.

Гэта Максім Багдановіч запрасіў беларускае, крывіцкае слова прапусціць праз душу сваю сусветную культуру, не разгубіўшыся, не згубіўшыся, не збедніўшыся.

Гэта Максім Багдановіч разварушыў беларускую думку, каб задумалася разам з усім дасведчаным светам над вечным ды імгненным, над сэнсам існавання і векавання.

Гэта Максім Багдановіч узняў беларускія вочы ў неба, разагнуў беларускую спіну, згарбелую на ворыве. Космасу пра беларуса расказаў.

Думка і пачуццё трываляцца верай. Максім Багдановіч прарочыста сказаў:

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца...

Гэтымі словамі накрэслены наш святарны бел-чырвона-белы сцяг. Паласа зары на белым палотнішчы туману. Зноў жа Богам падказаны наш сцяг, сцяг чысты, як сумленне Максіма Багдановіча, ахвярніка нацыі, пакутніка і прарока.

З глыбіні вякоў пачуў Максім Багдановіч вячысты пошчак Пагоні. Ёю мы дужыя. З ёй мы дужыя! І ў нашыя дні нацыянальнае абуджэнне ідзе пад знакам Пагоні, якую «не разбіць, не спыніць, не стрымаць» ніякай рэакцыі, ніякім цёмным сілам. І зусім не выпадковая цікавасць да паэзіі Максіма Багдановіча іншых народаў, іншых культур. Паэт ідзе ў свет, і свет прымае паэта.

У гісторыі сусветнае літаратуры ў Максіма Багдановіча сваё пачэснае месца паэта, які адраджаў беларускі нацыянальны дух, уздымаў беларускую думку на сусветныя вяршыні.

Праз усю гісторыю беларусам не дужа шанцавала з дзяржаўнасцю. Не надта грэе і сучасны папяровы суверэнітэт.

Нашымі прэзідэнтамі, міністрамі замежных спраў, паўпрэдамі нашымі праз усе вякі былі Францыск Скарына і Еўфрасіння Полацкая, Мікола Гусоўскі і Кастусь Каліноўскі, Янка Купала і Максім Багдановіч.

Адамаў сын, як сын першачалавека, што быў Пану Богу не чужы, смерцю нізрынуўшы смерць, застаўся жыць у вяках Беларусі.

Усё, як у Бібліі.

Жыве Беларусь!

*1991*

## О БЕЛАРУСЬ, МАЯ ШЫПШЫНА…

«Літасць» ленінска-сталінскага рэжыму прадугледжвала замену смяротнае кары на 25 гадоў зняволення. Уладзімір Дубоўка — зорка першае велічыні на небасхіле паэзіі 20-х гадоў, адгрукаў, як казалі некалі, ад званка да званка каля 27-мі гадоў, не па карце вывучаючы самыя глухія і самыя аддаленыя куткі «единой и неделимой» савецкай імперыі.

Любы паэт у большай ці меншай меры — прарок і ў першую чаргу свайго лёсу. А таленавіты — асабліва. Паэт можа і навешчаваць лёс. І малады Уладзімір Дубоўка з выклікам падкрэсліваў:

Калі кажа паэт, што прадвесне, —
дык пачне зелянець трава!

З першых вершаў сваіх, з паэм і эсэ вешчаваў паэт лепшы лёс роднай Беларусі, роднаму народу, роднай мове. Ён маліўся на Беларусь, хоць пасля Кастрычніцкага перавароту ўвесь здаровы сэнс быў перавернуты дагары нагамі і нават самога слова «малітва» бальшавікі баяліся як чорт ладану.

У песнях я — на Беларусь малюся,
Як моліцца ля возера трысцё.

3 траўня 1925 года, калі вясна маладзела, напісаў Уладзімір Дубоўка свой славуты верш, верш прарочы, верш-заклён:

О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш.
Пялёсткамі тваімі стану,
на дзіды сэрца накалю.
Тваіх вачэй — пад колер сталі —
праменне яснае люблю.

Ніколі пройме з дзікім ветрам
не развіваць дзявочых кос...

Падсвядома паэт па-свойму пераказваў вершы з неўміручае Кнігі, радкі з «Адкрыцця Іаана Багаслова»: «Трэці Анёл затрубіў, і ўпала з неба вялікая зорка, як светач палаючы, і ўпала на траціну рэк ды на крыніцы водаў. Імя гэтай зоркі палын; і трацiна водаў ператварылася ў палын, і многа людзей памерла ад тых водаў, бо прагорклі».

Наогул, палын — трава пагарэлішчаў і запусцення, трава адчаю і забыцця сама прарастала ў радках паэта. Яшчэ ў 1922 годзе напісалася:

І па сцежках і дарожках,
дзе трыпутнік і чарнобыль,
пройдуць босенькія ножкі
ўсе да долі, доля ж — воддаль...

А трыпутнік — трава раздарожжа, трава ростані, трава ўспаміну пра выгнанне. Пасля вяртання з сібірскае суровасці вока і сэрца паэта расчульваў верас:

Ты ляжыш у мяне на далоні,
найдрабнейшая з кветак.
Я пытаўся, пытаю сягоння:
чым ты вабіш нас гэтак?..
Як пабачу цябе, так і ўспомню
пералескі, палеткі,
дзе калісьці узяў на далонь я
ўпершыню твае кветкі.

Травы і зёлкі Беларусі варажбітна замаўлялі радкі паэта, хацелі адвесці бяду ад ягонага лёсу. Бо ён называў іх так, як называлі продкі, бо і яны адгукаюцца на мову зямлі, якая дае ім рост. Уладзімір Дубоўка ў душы захаваў і родную мову, і ўсё зялёнае роднага краю. Таму менавіта вершы пра самае запаветнае кранаюць чытача, а не змушаныя — пра сацыялістычную яву накшталт:

Прыйшлі рабочыя, сяляне —
змянілі ўсё да неспазнання:
такія хаты і прасторы,
што і не сніліся учора.

Хоць калі чытаць два першыя радкі не сур’ёзна, дык сапраўды ўсё змянілі, толькі ў які бок? Гэтаксама, калі чытаць з усмешкай радкі Якуба Коласа:

Кампазітар, меней фузу —
Тромкай, брат, пра кукурузу.

Тут усё выручае слова «тромкай».

А калі Уладзімір Дубоўка забываўся на зададзенасць, на аглядку (хай правільна мяне зразумеюць, што не хачу быць суддзёй і разумным заднім розумам, бо само жыццё паэта — гэта подзвіг, гэта сама беларуская жывучая мужнасць), пісаў пра свае Паставы без уліку сацыялістычных зменаў:

А колькі б дзе ні вандраваў,
хоць добра ўсюды і прыгожа, —
мяне цягнула да Пастаў,
хацелася пабыць ля Доўжа.

На пільнае вока Галоўліта разлічана «хоць добра ўсюды і прыгожа». Але ў вершы «На самой радзіме» ўсю эмацыянальную і сэнсавую нагрузку нясе слова «самой»:

Стаяў вось тут калісьці дом,
вайна каля яго хадзіла.
Сваім мячом, сваім агнём
яго пасекла і спаліла.
Бярозы дзве каля яго,
бярозы дзве над ім шумелі.
Не мог іх спапяліць агонь,
мячы дапамаглі не вельмі.
Сябровак прывітаў старых,
мяне сяброўкі прывіталі.
— Ваш гоман так і не заціх?
— Цябе не ўкалыхалі хвалі?

А хвалі жыццёвага акіяна такі палюлялі паэта, хвалі ўтрапёнага XX стагоддзя. За свае 75 гадоў (нарадзіўся Уладзімір Дубоўка 15 ліпеня 1900 года ў вёсцы Агароднікі былых Манькаўскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні) зведаў паэт усю гаркоту выгнання, усю лютасць той улады, якую ён, як і ўсе, хто прыйшоў у беларускую літаратуру ў 20-х гадах,

шчыра апяваў, славячы Кастрычнік, чакаючы «камуну свету», абяцаную бальшавікамі.

Адразу трэба зазначыць, што Уладзімір Дубоўка не бег навыперадкі з бальшынёй маладнякоўцаў ва ўслаўленні рэвалюцыі і яе самазваных багоў. Так у паэме «Там, дзе кіпарысы» (1925) ёсць самапакепліванне:

Дзяўчыне прысвяціў паэму?
Адразу скажуць: «Нешта ёсць!»
Правадыру якому: — «Пэўна,
падмазваецца ягамосць!»

5 мая 1925 года ўслед за вершам «О Беларусь, мая шыпшына...» паэт піша верш:

Часіна, ды з сокам рабіны,
качаеш мяне ў чарнабыллі.
На дзіды, на вострыя шыпшыннік
ці сэрца, ці дух мой узбілі.

Калышуцца скаргі і моўкнуць,
разносяцца разам пялёсткі.
Не хоча Ўладзімер Дубоўка
спяваць пад завучаны лёскат.

Пачаў — хай канчаюць другія,
шляхі — адшукаю сабе я.
Загіну — няхай і загіну,
мне гімнамі будуць завеі.

Накалоў сэрца на дзіды калючых дратоў ГУЛАГа, а вочы «пад колер сталі» былі ў чэкістаў і іхніх спадручных, якія з зэкаў выбіваліся ў начальнікі кандзеяў, у нарадчыкі ды ў сакратары начальнікаў лагпунктаў, у Сібіры хапіла гімнаў завеяў. Паэт, сам таго, пэўна, не думаючы, у вершах на пачатку творчага дый жыццёвага шляху прадбачыў свой лёс. Зноў-такі ў тым жа 1925 годзе прызнаваўся:

І нічога не ведаю больш белага,
чымростань нечаканая і снег.

І ростань была нечаканая і доўгая, і снягі былі да болю белыя далёка ад Беларусі. У тым жа 1925 годзе маналог Пярвушкі Шэршаня гучаў як маналог паэта, толькі праз пяць гадоў:

У чужой старане і сонца не там,
дзе на бацькаўшчыне, узыходзіць.
Ніколі вам душу не прадам,
не нагула я, не злодзей.

Як успомню — віецца рака
і кожны кусток знаёмы...
Вось, здаецца, трымаю ў руках
лісціну з маркотнага клёна.

Маркотны настрой прадчування бяды перадаўся і клёну, не залатому па традыцыі.

Перад самым прымусовым выраем у 1929 годзе ў нізцы «Крыху восені і жменька кляновых лістоў», якую паэт падзагаловіў: «Вершы з заўвагамі», ёсць спроба прыземіць паэтычнасць кляновых лістоў:

Які з кляновай пекнаты
Цудоўны будзе перагной.

І тут жа разгорнутая зноска:

Ці не пара ужо стварыць
нам таварыства для таго,
каб не раскідаваць дары,
што восень дорыць кожны год?
Прыблізна толькі падлічыць,
якая колькасць тых лістоў!
Зграбсці і крыху намачыць,
з іх будзе найвялікшы толк.
Такі шыкарны перагной,
а прападае задарма...
Лятуць лісты над галавой,
гаспадара на іх няма...

А мне прыгадваецца стракатая, пулятая восень у Амерыцы ў 1984 годзе. І кляновыя лісты ў вялізных, але лёгкіх цэлафанавых мяхах. Тады падумалася, што іранічны клопат паэта стаў справай за акіянам. Ізноў уцечка ідэй. Але гэта між іншым.

Уладзімір Дубоўка быў дадзены беларускай літаратуры, культуры на здзяйсненне вялікіх задум. Займішча ягонае дзейнасці было неабсяжнае. У прыватнасці, у 1928 годзе з'яўляецца дубоўкаўскі «Праект літар для згукаў "Дз" і "Дж"», у 1929 годзе

роздум «Лацінка ці кірыліца. Да праекту рэформы беларускага альфабэту». Паэт рупіцца: «Пара нам стварыць і сваю сістэму стэнаграфічную... У першую чаргу мы павінны скласці дасканалы гукавы альфабэт беларускае мовы...»

Трэба аддаць належнае нюху чэкістаў — ведалі, дзе сапраўдны талент, дзе патэнцыяльны геній нацыі, — вынішчалі самых лепшых, драбяза траплялася ў чорны нерат ленінска-сталінскіх апрычнікаў па інерцыі, для валу, для масавасці, каб уявіць, каго забралі ад нацыі, якога аратая на гонях беларускае культуры адарвалі ад працы ў самым пачатку баразны, варта толькі прывесці ўрывак з сухое біяграфічнае даведкі.

«Скончыў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю (1918), настаўнічаў у Тульскай вобласці (1918–1920), служыў у Чырвонай Арміі (1920–1921). Пасля дэмабілізацыі працаваў інспектарам Наркамасветы РСФСР і займаўся на творчым аддзяленні Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытута імя В. Брусава, які скончыў у 1924 г. Быў членам літаратурных аб’яднанняў «Маладняк», «Узвышша», першым рэдактарам часопіса «Беларускі піянер» (цяпер «Бярозка»). Працаваў рэдактарам беларускага тэксту «Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР» (1922–1925), адказным сакратаром пастпрэдства БССР пры ўрадзе СССР (1923–1924), выкладчыкам Камуністычнага універсітэта народаў Захаду (1924–1927), рэдактарам «Збору законаў і загадаў рабоча-сялянскага ўраду Саюза ССР» (1926–1930). У 1931–1957 гг. жыў і працаваў на розных работах у Кіраўскай вобласці, Чувашыі, Грузіі, Краснаярскім краі. Апошнія гады жыў у Маскве. Памёр 20.03.1976 г.» (Пісьменнікі Савецкай Беларусі. Мн., 1981).

Што і казаць, колькі сілы паклаў на ўмацаванне і функцыянаванне сістэмы, якая пазбавіла яго права на творчасць, адняла ў яго мову амаль на тры дзесяткі гадоў. Васіль Вітка, з кім Уладзімір Дубоўка пасля выгнання падтрымліваў блізка-сяброўскія сувязі, у прадмове да двухтомніка паэта, дзе майстра нечакана-трапяткога слова псаваў свае ранейшыя шэдэўры («О Беларусь, лясная ружа, зялёны ліст, чырвоны цвет! Да камунізма крокам мужным ты пракладаеш вечны след»), пісаў: «...за ўсе самыя цяжкія гады свайго жыцця не напісаў ні аднаго верша...» А малады паэт адчуваў, што не такі светлы свет, як ён падаваўся ў камуністычных маніфестах.

Людзі любяць душу прасаваць,
калі гэта душа чужая.

І праўду, бязлітасную праўду сваіх жа радкоў адчуў Уладзімір Дубоўка на сабе. І да слёз расчульвае кадэбісцка-галоўлітаўская фармулёўка: «жыў і працаваў», не раўнуючы як на мемарыяльных дошках дзеячам, верным рэжыму.

І хоць друкавалі і рэабілітавалі, дзякуй Богу, не пасмяротна, не мог паэт расказаць усю праўду пра апраметную савецкай мадэлі. І страх, і цэнзура не драмала. І тады вынайшаў ён спосаб, каб маленькія штрышкі засталіся — напісаў кніжку для дзяцей «Пялёсткі». Выйшла яна ў 1973 годзе. Ад першых малечых уражанняў да тых часін, калі «жыў і працаваў» не ў Беларусі. Успамінае пра майстра-мастака з маленства, а здаецца, сказаў ён пра сябе: «Быў ён выдатны майстар-мастак, толькі ўзяў на сябе непасільны цяжар: вызваліць хараство з-пад грубай абалонкі. І надарваўся ад такога непасільнага цяжару». Уладзіміру Дубоўку перашкодзілі, падарвалі сілы савецкай катаргай.

Гэта інтэлектуалу, інтэлігенту, у якога «дзед Тодар вывучыў латынь, свабодна чытаў Авідзія, Гарацыя, Вергілія, Апулея», паэта, які ствараў шэдэўры на роднай мове, вынаходзіў новыя формы верша і паэмы («І пурпуровых ветразяў узвівы...», «Штурмуйце будучыні аванпосты!»), дзе па-беларуску гаварылі Байран і Пушкін, які ведаў сусветную класіку і хацеў зрабіць яе зразумелай беларускай душы, бальшавікі «даверылі» працу ў тайзе. Вось толькі некалькі ўрыўкаў з апавяданняў.

«Жыў я на Далёкім Усходзе. Траляваў з тайгі бярвенне на тартак...»; «Па тэрміновай, неадкладнай справе ішоў я аднойчы ад сяла Шэшургі да сяла Міхайлаўскага на Вятчыне...»; «Неяк у 1939 годзе далі нам тэрміновае заданне: закласці ў Новым Бірабіджане штук дванаццаць фундаментаў пад васьмікватэрныя дамы...» (А ў гэты год армія, чырвоная не толькі ад колеру сцяга, вызваліла родныя мясціны Уладзіміра Дубоўкі, каб папоўніць ГУЛАГ новымі вязнямі.)

І геаграфія, і прафесіі паэта ў апавяданнях. «У 1947–1949 гадах жыў я ў Мінгрэліі, на Каўказе...»; «Ён — выдатны майстар-сталяр, а я — сталяр звычайны...»; «Стаў я на тралёўку. Трэба было траляваць — вывозіць на конях — бярвенне з тайгі, з сопак і падвозіць яго да вялізнага тартака, дзе гэтае бярвенне пастулова распілоўвалася на дошкі, цёс, на чыгуначныя шпалы...»; «На адной сядзібе мы з жонкаю выкарчавалі больш сотні пнёў...»; «— Што, дзядуля? (...) А куды вам наогул трэба? — О! Мне далёка, аж у Абаканскі раён...» А дзядулю было недзе каля пяцідзесяці, не болей. Такім, з хмурыністай барадой, падобным да прарока Майсея з карціны Юзафа Пучынскага[1], прыязджаў

ён у Мінск з Масквы, бо, казалі, не мог жыць у адным горадзе з тымі, яшчэ жывымі, таварышамі, якраз таварышамі, а не спадарамі, якія пісалі на яго даносы, сведчылі на лжэсудзе.

Ссівеў я ўвесь не праз гады,
Не ў ноч адну
Ўзяў сівізну,
Як хто з раптоўнае жуды...

Здабычай дадзены турме,
Пакуту цяжкую пранёс.
Я лёсам меў тых людцаў лёс,
Забраны ад якіх былі
Акрасы неба і зямлі.

Гэта радкі з «Шыльёнскага вязня» Дж.-Г. Байрана ў перакладзе Уладзіміра Дубоўкі. Перакладаючы Байрана, санеты Шэкспіра, паэт шукаў сродкаў, каб перадаць пакуты свае душы. Пераклады Дубоўкі — гэта своеасаблівая эзопаўская мова.

І невыпадкова вядомы на той час рускі скульптар Анікушын[2], убачыўшы на адной з маскоўскіх вуліц нашага славутага паэта і пакутніка, захацеў зрабіць скульптурны партрэт. Ён не ведаў, хто такі гэты сівабароды мудрэц, скульптара ўразіў позірк, несагнутая веліч.

У нейкай ступені, як і Максім Багдановіч, Уладзімір Дубоўка бальшыню жыцця правёў на чужыне. У аўтабіяграфічных нататках «Мой жыццяпіс» паэт сам адказвае на пытанні пра карані ягонай зацятай беларускасці: «Некаторыя дзівяцца: “Вы ніколі не вучыліся ў беларускіх школах, пражылі бадай усё жыццё за межамі Беларусі, а мову ведаеце”. Як жа яе не ведаць, калі яна родная! Як жа яе не любіць, калі яе стваралі на працягу вякоў твае продкі, гаварылі на ёй, перадалі табе ў спадчыну, як самы вялікі скарб свой...»

Цэлую бібліятэку народных казак апрацаваў і ў вершах пераказаў Уладзімір Дубоўка, адным з першых у новай беларускай літаратуры звярнуўшыся да першавытокаў народных. Паслухаем жа самога паэта:

«Замілаванне да народнае творчасці было ў мяне ад малых гадоў і ідзе са мной усё жыццё. Яе нельга не любіць. Хата, начлег, млын, да якога прыязджалі памольшчыкі з розных вёсак, — гэта былі наша школа, наша бібліятэка, наша радыё — уся наша пачатковая адукацыя. А песні... Ідуць са жніва, з поля маці, суседкі ды заспяваюць:

А пара дамоў, пара-а-а-а...
Ужо ўзышла вячэрняя зара-а-а-а...

І цяпер гучаць тыя песні мне...»

І малады паэт кляўся:

Адамантамі рассыплю Слова,
што прыняў у спадчыну ад маці.

Праз усе выпрабаванні пранёс Уладзімір Дубоўка любоў да свайго роднага, беларускага ад гуку матчынае мовы да птушкі і зёлкі.

«Прыгожых мясцін багата. Прыгожая, дарэчы, і далёкаўсходняя тайга, у якой мне давялося пабыць нямала. Якое там незлічонае багацце расліннага свету! Адна бяроза мае там аж шэсць гатункаў. Тым не менш супроць беларускае пушчы — яна бяднейшая, бяднейшая нават праз сваю маўклівасць. Нашы пушчы, лясы звіняць ад птушыных спеваў, а там тайга маўчыць. Дзе-нідзе стукне дзяцел, каўкне «папаўзень», падасць свой голас удод — і ўсё...»

Гэта нерастрачаная любоў і святая туга прадыктавалі шасцідзесяцігадоваму выгнанцу верш:

Сітнік стаў сцяной зялёнай
каля берагоў.
Сітнік мой стары знаёмы
з маладых гадоў.

Мы яго ў снапы вязалі,
кляліся на іх.
Плаваць ён вучыў на хвалях
нас усіх малых.

Ці ў віры дзе, ці на моры
ў навальнічны час —
ён нябачанай апорай
быў заўжды для нас.

Вось чаму з такой пашанай
зноў спаткаўся з ім,
хоць ля мора-акіяна
стаў плывец сівым...

На вірах жыцця трымала паэта незагойная любасць да ўсяго беларускага. Бо з першых сваіх хвілін дыхаў ён беларускасцю, купаўся ў ласкавых гуках душэўнай беларускай мовы. І ў маладога віртуоза песнеплынна ліўся верш, чараваў гукапісам:

Гэтыя палеткі, гэтыя разоры:
нельга... льга...

Толькі нашчадны беларус можа пачуць так словы. Тут і ласкавасць лета, і парыў ветру, і ўсмешкі зорак, і плёскат хваляў, і гогат гусей-лебедзяў. Максім Багдановіч нездарма «вучыў» Верлена беларускай мове, мілагукай і адгуклівай на шчырасць. Як цёплы сырадой у даёнку, б’ецца, глухнучы паступова, кожны гук у дубоўкаўскім маладым вершы. Паслухайма!

Ды выйду ж я... Такая ноч...
Ды гляну ж я...
Жыццё маё!
Хвілін такіх не меў даўно...
Прадонне шыза-цёмнае...

Пра мову Уладзіміра Дубоўкі, асабліва ранняга, трэба пісаць асобнае даследаванне. Крывіцка-карэнная, з балцкай падсветкай, яна ўвабрала ў сябе і сівярок, і спакойную спякоту, і азёрнасць. Мяне, напрыклад, сагрэла хатнім цяплом слова «кука». («Кукай груддзе крышыў на зямлі...») Кука — гэта такая пабаешка з карчаватым карэннем на канцы. Ёй у нас глушылі рыбу на возеры пад ільдом. Мама некалі вясёла ўспаміналa, як смяяліся з яе, калі яна, маладая нявестка, сказала: «Іван рыбы закукаваў». Асязальна зразумелыя і наватворы паэта, накшталт:

Каменьчык, што пачаў імчацца,
ўспаветраны тваёй рукой.

Пра хвалі да холаду канкрэтна сказана: «салёназлосныя вужакі».

Захаваў Уладзімір Дубоўка і вернасць старому нашаму правапісу. І мне прыемна ўспомніць, што я застаў яшчэ майстра. У лютым 1960 года атрымаў я аўтограф на зборніку «Выбраныя творы», выдадзеным за год перад гэтым. Пачынаецца надпіс: «Нашай надзеі, зьмене...» Прыводжу не таму, што словы пахвалы навырост дадзены, а таму, што ў «зьмене» мяккі знак захаваны.

Берагу я і фотаздымак, на якім напамін, як Уладзімір Дубоўка перадае мне свой том паэзіі.

Кінуўшыся ва ўспаміны, крыху ніякавата пачуваю сябе, калі ў 1964 годзе ўдзельнікам нарады маладых наведаўся я да Уладзіміра Дубоўкі ў ягоную маскоўскую кватэру ў Чаромушках. Малады, акрылены зменамі, што адбыліся ў грамадстве, упэўнены, што вяртання да старога не будзе, грунтоўна падпіты, нёс я несусвеціцу, крытыкаваў і старыя і новыя парадкі, сістэму. Смелы, як заяц. Шаноўны паэт неахвотна падтрымліваў мяне, па інерцыі баючыся правакацыі, як я разумею на сённяшні свой розум, бо што новага яму мог я сказаць, зялёны і ў творчасці, і ў палітыцы. Запомнілася мне, што гаспадар на выпадак падслухоўвання запінаў разеткі галёшамі. Спрабаваў пагасіць мой пал тым жа, што і смяліла мяне. Але бачачы, што і гарэлка мяне не тушыць, падарыў мне рэдкаснае выданне — двухтомнік Клюева[3].

Хадзіла легенда, што паэт прывёз з сабою сталярскі рыштунак. На магчымае будучае. Пазней пачытаў я адказ Дубоўкі, што трэба рабіць, калі гарыць душа. Гэта раіў паэт яшчэ ў 1923 годзе:

> А калі запалае ў душы пажар,
> трэба песняй гасіць і вершам.

А ў 1964 годзе «гасіў» мой пал томам Клюева.

Уладзіміра Дубоўку заўсёды цікавіла мінуўшчына, даўніна, паэзія далёкіх і блізкіх краёў. Праўда, ягоная эрудыцыя ў выгнанні падчас выкарыстоўвалася дужа ў заземленых стасунках. У «Пялёстках» ён апавядае, як з Масквы «Кніга — поштай» прыйшла брашура, дзе апісвалася ўменне саматужна рабіць каламазь. Палітычны ссыльны выратаваў раённае начальства.

Думка паэта сягала да прарадзімы культуры. Яшчэ ў зборніку «Трысцё» (1925) чытаем:

> Бабілён, Егіпет, Фінікія
> Ці не дыхалі тым самым паветрам?
> Бамбукі і лотасы ў гімнах маўклівых...
> Мы ў сасонніку ці пад паветкай.

У сасоннік, пад паветку прыводзіць паэт далёкія светы, асвойчвае іх.

Праз пераклады перадаваў паэт свой пратэст, свой адчай. Лёс вялікага кітайскага паэта Ду Фу[4] праз тысячагоддзі перагукваўся

з лёсам беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі. Загалоўкі вершаў кажуць пра гэта: «Вершы пра тое, як асенні вецер разбурыў трысніковую страху маёй хаціны», «Цвыркун». А перакладаючы верш «Пра тыгра», зразумела, каго меў на ўвазе беларускі паэт.

Жуду слабейшым тыгр прыносіць люты,
але і ён трапляе ўсё ж ткі ў клямар:
закручаны ўжо лапы ў моцных путах —
ён марна усчынае грозны лямант.

Пад ногі ляжа шкура нежывая,
шкляныя вочы не пабачаць свету.
З людзьмі, дарэчы, горшае бывае:
Няхай тыраны ведаюць пра гэта!

Жыццё і творчасць Уладзіміра Дубоўкі — балючая старонка ў кнізе гісторыі Беларусі, дзе ўціск і надзея, роспач і нясхібнасць, ржышча і рунь, малацьба і сяўба...

Беларусь у сэрцы пранёс Уладзімір Дубоўка праз здзекі, завірухі, пакуты. Дома нават цемра святлейшая, бо

Ноч наплакалі бярозы,
Нашумеў чарот.

Па-беларуску прачытае паэт «Слова пра паход Ігаравы»:

Чым Баянам быць дзе ў тумане, —
Ў Беларусі лепш быць зігзіцай...

Паэт верыў у вечнасць Беларусі, яе народа, яе мовы, і нязмушана запаветна гучаць радкі:

...вечнасці няўмольнае пяро
апошні верш мой на зямлі дапіша...

***1992***

## УНУЧКА ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ, альбо ЗЭК № 0-287

Гордая, няскораная, панавітая. Гэта Ларыса, дачка Антона, Геніюш. У жыцці, як і ў паэзіі, важна, чыім спадкаемцам, чыім спадчыннікам адчувае і лічыць сябе чалавек, творца. Геніюш адчувала сябе крывінкай крывіцкага роду, нашчадніцай вялікага Адраджэнца, што быў са слаўнага места Полацкага. У вершы «Бывай» у 1942 годзе паэтка пісала:

За прыязні даўняй адзнакі,
за кожнага нашага сына —
прымі сёння, Прага, падзяку
ад ўнучкі Францішка Скарыны!

Хочацца адразу патлумачыць, што сын тут не для рыфмы. Так і рупіць даць слова самой Геніюш: «У Літве, у Коўне, спыніўся Урад БНР у дваццатых гадох, які пасля запрасілі да сябе чэхі, адначасова прызначыўшы беларусам, як і іншым славянам, дзяржаўныя стыпендыі для студэнтаў. Беларусы высылалі нелегальна сваіх сыноў, пераважна абсальвентаў беларускай гімназіі, па навуку ў Прагу... У Вільні была Беларуская Школьная Рада, гдзе працавалі Тарашкевіч і Грыневіч[1], якія перспектыўным студэнтам давалі посвядку ад Школьнай Рады, якая была як пропуск у Чэхаславаччыну. Дзеячы благаслаўлялі моладзь на навуку й бралі ад кожнага забавязанне, што, атрымаўшы асвету, кожны беларус выдасць кніжку на роднай мове па спецыяльнасці й дасць за свой кошт вышэйшую асвету аднаму свайму суайчынніку».

У думках перакідваюся ў нашыя дні. У каго спытацца, хто нараіць, куды мае ехаць сучасны малады беларус, каб набыць адукацыю ў беларускасці? Кранаюць дэталі «Споведзі» паэткі. І колеры, і пахі даўніны захавала памяць: «Мяшок на вяровачцы праз плечы, у рагох дзве бульбіны, каб вяроўка не коўзала, даўгія боты, кашуля хатняя — у такім выглядзе трапіў мой муж у Еўропу».

Вершам помняцца мілыя драбязінкі сялянскага побыту, бо паэтка падкрэслівае, што яна сялянка.

Нехта быдла з дубовага поіць карыта,
ля драўлянае студні рыпіць журавель.
А ў вадзе адбіваецца неба блакітам
і палошчуць аблокі пушаную бель.

Трэба быць знаёмай з канём не па малюнках, каб пачуць і ўбачыць:

> ...конь заржаў у стайні,
> і раздувае храпаю авёс.

Бо і на схіле лёсу прыгадаецца: «...пашле мяне тата з вазамі канюшыны ў Ваўкавыск, іду за вазамі сабе ноччу, бо коням цяжка...»

Відаць, толькі чыстай душы дадзена адчуць, як «пралеска раскрылася ў жмені».

Гэта не кідзістая фраза, гэта выцерплена, выгаравана, выбалена: «...памяць не нябожчык і не ёй сатлець». Памяць не дазваляла нічога забыцца: «Амаль непрытомную завяла мяне надзорка ў пакой, гдзе раздзела дагала, шукаючы агнястрэльнай зброі ў складках цела, і так пасля кінула ў камеру, паказаўшы мне жалезную койку ў кутку. Я ўпала на калені, і ў душы маёй быў Бог, сын і боль...»

Як верш з Евангелля, Евангелля жаху, гучаць апошнія словы. Споведзь — гэта жыцце святой пакутніцы за беларускасць, за Беларусь — Ларысы Геніюш.

Пераходзячы ўсе кругі пекла ГУЛАГа, такую сабе самой склала анкету: «У градацыі савецкай я на найніжэйшай перакладзінцы: 1 — беларуска, 2 — паэтка непаслухмяная, 3 — «кулацкое отродье», 4 — зэк!!! 5 — хрысціянка, якая верыць і не баіцца! 6 — сын у Польшчы, 7 — сябры на цэлым свеце, 8 — смяротна вінаватая за тэстамент... Па ўсіх гэтых пунктах адзін жах. Хоць ты не жыві на свеце, а я яшчэ нейк жыву. Жыву й сама дзіўлюся гэтаму».

Тут усе пункты зразумелыя, можа, толькі трэба праясніць восьмы. У канцы 1937 года Геніюш з маленькім сынком Юркам[2] прыязджае ў Прагу. Знаёміцца з беларускім студэнцтвам, з членамі ўрада БНР. Прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі Васіль Захарка[3] пад час вайны, паміраючы, — бо і ў Празе яўна дапамагалі ягонай смерці сталінскія саколікі, — у тастаменце назначыў прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі Міколу Абрамчыка[4], Ларысу Геніюш — генеральным сакратаром БНР. Пазней, калі савецкія ўлады выкрадуць падданку Чэхаславакіі Ларысу Геніюш і выкажуць ёй такую пашану, што сам сталінскі халуй, крывавы Цанава[5] запатрабуе ў генеральнага сакратара архіў БНР, пачуе па-мужчынску цвёрды, па-беларуску горды адказ: «Без волі Божай волас мне з галавы не ўпадзе, і я вас не баюся».

У 70-я гады, калі ездзілі мы з Уладзімірам Караткевічам у Зэльву да апальнай паэткі, чуў я роспаведзь Ларысы Антонаўны і пра Васіля Захарку, і пра архіў БНР, і пра пячатку, якую перадаў ёй прэзідэнт, а яна яе пацалавала. Распавядала (толькі не ў хаце, бо там і сапраўды сцены вушы мелі), як ад'язджала з Мінска, як паляваў за ёй і сябрамі яе энкавэдыст. Але ўсё казалася паўшэптам, падтэкстам, з азіраннем. Не ўсё тады і ўспрымалася. Цяпер, калі прачытаў «Споведзь», якую Геніюш пісала з поўнай магчымасцю зноў наведаць «архіпелаг ГУЛАГ», зразумеў, што чуў частку нашае гісторыі з першых вуснаў. Прыкра, што ўжо ў нашыя дні выходзяць матэрыялы пра Ларысу Геніюш, дзе ёй навязваецца вітанне фюрэру; у адносінах да Васіля Захаркі прымяняецца марксісцка-ленінскі, каб не казаць іншы, метад зняваргі: слова «прэзідэнт» бярэцца ў двукоссе. Гэтак жа можа здарыцца пры наборы, што слова «даследчык» набяруць як «дасьетчык». А дасье амаль на ўсіх мае пэўная арганізацыя і публікацыі давярае толькі сваім людзям.

Не варта, скажам, укладаючы зборнік паэткі, уключаць у яго вершы, што пісаліся як пэўны імгненны водгук, і ў той жа час не ўключаць вершаў біблейскага характару (маю на ўвазе кнігу паэзіі «Белы сон», дзе яўна вылузваецца, напрыклад, верш «Уладзіміру Кавалёнку[6]» і інш.). Верш «Цішыня, я крыху ў задуменні…» мае ўнізе тлумачэнне: «VIII з'езду пісьменнікаў Беларусі, 1981». Верш лірычны, не традыцыйна-савецкі, што абавязкова з вітаннямі і клічнікамі.

На VIII з'ездзе пісьменнікаў апошні раз бачыў я Ларысу Геніюш. Праходзіла гэтае традыцыйна-алілуйнае мерапрыемства з абавязковым сядзеннем кіраўнікоў партыі і ўрада, прытым нехта з іх чытаў прывітанне, аддрукаванае на беларускай мове (хоць у ЦК не было ніводнае машынкі з беларускім шрыфтам), чытаў з такім вымаўленнем, што было бачна, як мучыцца гаварыць на гэтай непатрэбнай партыі мове. Праходзіў з'езд у Палацы прафсаюзаў. Нясмела зайшла Ларыса Антонаўна ў залу, шукаючы месца недзе ў апошніх радах. Я прапанаваў сесці побач. Адразу спыталася, ці не баюся, што яна можа мне папсаваць рэпутацыю, бо не дэлегатка з'езда, без савецкага грамадзянства. Мне было прыемна чуць ад яе не традыцыйнае «таварыш», а наскае, беларускае — «сябра». Сказала, што паслала мой зборнік вершаў туды, да сваіх сяброў. Тады гэтае «туды» яшчэ аддавала халадком. У перапынку збегаў я да адказнага сакратара СП (у тыя часіны гэтыя дзве літары азначалі Саюз пісьменнікаў, цяпер ужо — сумеснае прадпрыемства), якога пазней называлі

«кілбасным сакратаром», бо ў СП з’явіўся прадвеснік светлай будучыні — стол заказаў, дзе песнярам у адпаведнасці са становішчам выдавалі харчы. «Кілбасны сакратар» даў загад дзяўчаткам, якія вялі ўлік і ўсе фармальнасці прадпрыемства, выдаць паэтцы Ларысе Геніюш папку, дзе была ціснена памятка пра важную вяху ў развіцці роднае літаратуры, а ў папцы — ручка, блакноцік і справаздачна-накіроўчыя матэрыялы. Прынёс я гэты падарунак ад «дружнай» сям’і літаратараў і ўручыў Ларысе Антонаўне. Міхась Чарняўскі[7] сфатаграфаваў нас з Ларысай Геніюш, Дануту Бічэль-Загнетаву[8] і мяне.

Наогул, спадчына Ларысы Геніюш павінна быць выдадзена поўна і ашчадна. Да гэтае святой і неабходнай нашым душам справы мусяць прычыніцца людзі без ідэалагічных шораў, без жадання пакрасавацца на балючай памяці пакутніцы. Бо атрымлівалася так, што і пры яе жыцці кнігі выходзілі як бы без аўтаркі. Установа, якая апякала паэтку ўсё жыццё, якая мучыла яе фізічна і маральна, выдавала давераным і праверaным літаратурным кіраўнікам творы непаслухмянай неграмадзянкі савецкай імперыі, а тыя даручалі паэтам, што стаялі на падхватах, рэдагаваць і ўкладаць зборнік. Дзякуй Богу, што хоць грамадскім рэдактарам «Невадам з Нёмана» быў Уладзімір Караткевіч.

Але адыходжу, сам таго не заўважаючы, ад тэмы, ад тэмы паэзіі Ларысы Геніюш і ад таго ўражання, якое зрабіла на мяне «Споведзь» паэткі.

Долю бяру жаночай рукой,
нібы каня пад вуздэчку.

Жаночая рука гэтая больш мужнасці мае, чымся якія мужчынскія. Бо, падумалася, калі рэдкія ацалелыя нашы паэты вярнуліся з паўночных сталінскіх «дамоў творчасці», пакінуўшы ў саркафагах вечнае мерзлаты сваіх сяброў, навечна маладых (разумею, пад прымусам страху і напаміну, што адрасы ранейшыя іх могуць прыняць), пачалі славіць разам з вернымі памочнікамі партыі светлую будучыню, усё, што названа імем Леніна — ад лямпачкі да праспекта. У вытанчанай душы еўрапейскага духу паэткі хапіла мужнасці, бясстрашша, не прыняўшы ні падданства савецкага рэжыму, ні ягонай звярынай ідэалогіі, пісаць пра ўсё, пра што забаранялася нават думаць. Пісаць, каб будучыя «дасьетчыкі» не маглі беспакарана паклёпнічаць, ачарняць барацьбу лепшых людзей за самастойнасць, за незалежнасць еўрапейскай дзяржавы, імя якой Беларусь, а чало яе асланяе

бел-чырвона-белы сцяг, сцеражэ ад злых духаў Пагоня. А нашыя ацалелыя мужчыны пра свае пакуты ў савецкіх лагерах смерці, свае споведзі пачалі пісаць, калі стала можна, калі перастала забараняцца. Таму і такі давер, таму такое пачуццё віны і сораму перад змагаркай.

Ларыса Геніюш, толькі ўжо ў савецкім варыянце, паўтарыла лёс Тараса Шаўчэнкі. Ён некалі сказаў: «Украіна не мае сваіх пакутнікаў, дык я ім буду». Нашая пакутніца паўтарыла: «Няхай вернасць мая й любоў мая будуць дастойныя мукаў Тваіх некальківяковых, мая Беларусь! Галінка з Тваяго дрэва, пясчынка з палёў Тваіх, нясу Табе рэшткі жыцця майго й маё сэрца... І так нічога ў мяне няма, нават лісінай норкі, а ў перспектыве сэрца, распятае на заінелых дратох Поўначы за Беларусь... Няхай на маёй асобе спыняцца ўсе пакуты народа нашага».

Яшчэ вольная, яшчэ не гулагаўка, пісала паэтка ў 1943 годзе:

> Ёсць такое казачнае слова,
> вырванае з рэбраў: Беларусь.

Гэта як з рабра Адама Бог стварыў Еву. Казачнае слова не вырвалі з сэрца савецкія паслугачы смерці, ламаючы рэбры, спрабуючы зламаць бунтоўны дух паэткі.

Недарэмна адзін сябра казаў: «Што робіце, пані Ларыса, ды ўрэшце я вас ужо не шкадую, я шкадую бальшавікоў, што ім рабіць з вамі? Дзве магчымасці: альбо даць вам высокае становішча, альбо забіць адразу, — бедныя бальшавікі!»

«Бедныя» бальшавікі не забілі адразу, смакуючы кары і здзекі, забівалі паволі, планамерна, каб балючэй было, каб невыносней.

> Ліпне лом, і кайло пасівела.
> Пад сякерай скрыпіць мерзлата.
> І згінаюцца чорныя цені.
> Цені кіркай выдзёўбваюць такт.
> ………………………………….
> Не акажуцца тыя, пад шпаламі.
> з-пад зямлі не ўстае чалавек.
> Толькі боль, які закапалі мы,
> Уваскрэсне, асудзіць наш век.

Сістэма сталінскага сацыялізму ва ўсім трымалася планаў, іх выканання і абавязкова рапартнага перавыканання.

І ў нашых (увесь час савецкая прапагандысцкая малатарня па-гебельсаўску трашчала пра іхнія, фашысцкія, лагеры) лагерах смерці закон сацыялізму дзейнічаў. Страшней і люцей за Дантава «Пекла» жахаюць радкі:

Прывяжам бірку мы табе з фанеры
на твой вялікі палец наназе,
каб там Пятро, у рай адкрыўшы дзверы,
адразу бачыў, хто гэта брыдзе.

Гэта жанчынам, гэта паэтцы савецкі лад жыцця дазволіў працаваць па-стаханаўску. (Хоць цяпер вядома, што ўся брыгада Стаханава працавала на рэкорд, а сам ён болей у шахту не спусціўся, а толькі агітаваў і расказваў, як працаваць па-сталінску.) «Здавалася нам, што ад тых цяжэрных кувалдаў, калі дзвігаеш, варочаюцца кішкі ў жываце й абрываюцца ўсе селязёнкі... Бывала, кіркавалі па 14 гадзін у тундры без ніякага вогнішча ў найлюцейшы мароз... саграваемся слязьмі... альбо заганяюць нас у ваду, і так мы часамі па шыі ў ледзяной вадзе папіхаем наперад нагрувашчаны лес, кіламетрамі йдучы па вадзе».

Грэла малітва да Бога. На анучцы ўкраінскія манашкі вышылі абразок і тры заклінальныя літары БББ (Божа, барані Беларусь). Пра ўкраінскіх манашак з Львова ўспамінае паэтка: «Некалі будзе музей змагання й болю гэтай зямлі, і чалавецтва паклоніцца бабусям пабожным і мужным і «каранаваным» дзяўчатам... Гэта чэкісты ставілі ля сценаў дзяўчат і абстрэльвалі ім кароны вакол галавы. Ад гэтага сівелі, дурэлі, а ў адной «каранаванай» Вольгі так і засталася дзірачка на чале».

У лагерах грэлася слязамі, а потым у вершы прызнавалася:

Я з вамі гутару, сябры,
слязінаю скупою.

Скупая слязіна — не сталы эпітэт, проста ўжо слёз не ставала, а плакаць не любіла. Накалеўшыся, назалеўшыся на суравеях паўночных і людскіх, дома магла адчуць — «цяплеюць вятры».

Недзе на пачатку 80-х гадоў адзін узбекскі паэт з гонарам паведаміў мне сваё няўтойнае шчасце — Рашыдаў (для моладзі мушу ўдакладніць — першы сакратар ЦК Кампартыі Узбекістана, член Саюза пісьменнікаў, празаік, які выдаваўся і ў нас у перакладзе Паўла Кавалёва[9] па-беларуску), прачытаўшы ягоны твор, выклікаў па-бацькоўску да сябе і падарыў аўтаручку з за-

латым пяром. Партыя падарыла паэтцы Ларысе Геніюш кайло і лом і незлічоныя кіламетры чыстай паперы паўночных снягоў.

Цяпер — пра почыркі. Почырк — своеасаблівая кардыяграма душы паэта.

Купалаў. Нецярплівы, імпульсовы, як яшчэ не дакутыя на кавадле, гарачыя яшчэ падковы. Такое ўражанне, што кірыліца для рукі прарока — не спаконвечная. Так і думаецца, што пачынаў з лацініцы.

Коласаў. Самавіты, грунтоўна-разважлівы, гаспадарскі. Кожная літара выпісана да канца, па іх можна ў школе вучыцца пісаць. Цяжка ўявіць, як, напрыклад, выглядала б у яго лацінка.

Багдановічаў. Імпэтны, летуценны, небаўзлётны. Рука анёла нацыі, кніжніка і хутка, і ўпэўнена можа пісаць і кірыліцай, і лацініцай, перапісаць у арыгінале Верлена і ўрывак з летапісу крывіцкага.

Геніюшаўскі. Не ведаю далагернага, вольнага. Ведаю з тых аўтографаў, што маю, паслялагерны. Надрыўны, зрывісты, упэўнены. Рука пакутніцы трымала ручку пасля лома і кайла. Відаць, лацініца лепей бы слухалася спрацаваную на гаспадарцы руку, чымся кірыліца. Пісаць даводзілася замерзлымі пальцамі (так і назвала адзін са сваіх вершаў).

Некалі Мікола Хведаровіч[10] распавядаў, што ў полацкай перасыльнай турме ў чэкістаў быў у модзе і такі метад зняваґі — «зрабіць шакаладным». І прымяняўся ён найбольш да беларускай інтэлігенцыі, да ненавісных энкавэдыстам пісьменнікаў. Ахвяру ставілі ў яміну, якую запаўнялі разведзеным чалавечым калам, чакалі, пакуль дойдзе брыда да рота, па ніжнюю губу. Каб выцягнуць патрэбнае для пратакола прызнанне. Паэтцы Ларысе Геніюш даводзілася бачыць іншае: «Крывавыя рукі савецкіх гінеколагаў патрашаць без перарыву бедных жанчын... Працуючы сястрой-гаспадыняй больніцы, з жахам я глядзела на трупікі ў сметніку, у рэчцы Зальвянцы. Калі чысцілі ўборную, дык іхнія галоўкі затыкалі шланг і трэба было яго дадаткова чысціць... О мае ненароджаныя Купалы, можа, Багдановічы, а можа, і Кастусі... Засталіся зубры ў Белавежы, якіх, праўда, парасейску гутарыць не навучаць, яны не людзі». Па-цяперашняму кажучы, не ператворацца ў «русскомычащее стадо».

Паэтка разам з дзяўчатамі, выпрасіўшы нітак у не самай звераватай надзоркі, не «з пароды партыйных выдраў», вышывала хлопцам торбачкі на хлеб роднымі васількамі. Хлопцы працавалі найбліжэй да апраметнай, у шахтах. І багдановічаўскі васілёк быў хлебам духоўным. Лютую конніцу белых завеяў пераґа-

няла Пагоня, перамагала. Нёман у снах праганяў смагу, даваў сілу. Белавежскі зубр быў узорам вольнасці і нескаронасці. Да вобраза гэтага валадара пушчанскай паганскасці неаднаразова вярталася паэтка.

Вабяць хлеба смачнейшаю лустай:
— Станавецесь валамі, Зубры!
Халуём няхай будзе халуйства,
Мы зямлі свае гаспадары!

Дух паганства, дух першароднай самавітасці Ларысы Геніюш сягаў у нябёсы і меў трывалае апірышча на крывіцкай зямлі.

Мы, як дубы,
нас можна знішчыць громам,
але з зямлі нас роднай
не скрануць.

Улюбёнец сівога Перуна — дуб увасабляе сабой адданасць роднай зямлі, моц вернасці і ахоўнай любові да Бацькаўшчыны.

Зубр — сімвал Беларусі, яе вальналюбнасці і сілы непаказной, бо старадаўнасцю роду і цярплівасцю характару з беларусам сыходзіцца. Паэтку вобраз зубра яшчэ вабіць і тым галоўным, што сам за сябе можа пастаяць, што ён, так бы мовіць, асоба. І ў доказ таму прывяду колькі радкоў з верша «Зубр-адзінец»:

Каго палюбілі аднойчы багі,
сіла яго — адзінота.

Красуецца статак прыплодам цялят,
гульнямі ў травах пахучых.
А ў сэрцы адзінца інакшы загад —
быць рыкам адвечнае пушчы.

Каго палюбілі аднойчы багі,
са статкам той не сальецца.

Быць рыкам пушчы і не зліцца са статкам. Гэта не значыць паставіць сябе над усімі. Гэта значыць — клікаць марудлівых на свядомасць, ахвяраваць нармальным жыццём у імя барацьбы за Айчыну, за народ, каб, працягваючы купалаўскі заклік, «быць людзьмі, не толькі імі звацца».

Вобраз зубра-адзінца напаўняюць канкрэтнай чалавечай, змагарскай чыннасцю і словы «Споведзі»: «Мяне следавацель назваў са злосці адзіночкай у змаганні, мусіць, гэта была адзіная праўда, якую той нехрыст сказаў. Лёс мяне не акружаў сябрамі, з якімі лягчэй было нясці, нейкай сілай ускладзеную, ношу адказнасці за лёс свайго народу...» Заўважце, як следчага, яўна загартоўкі «а ля жалезны Фелікс», называе на першы погляд мякка для ката — нехрыст. Але колькі вякоў веры ў Хрыста стаіць за гэтым быццам бы нейтральным словам. Зразумела, што мае пакутніца пад нейкай сілай. Толькі Богам абраныя ідуць на барацьбу з нехрыстамі за сваю Бацькаўшчыну. Адчуванне такой абранасці, вера ў Бога давалі моц, не давалі зліцца са статкам.

А нявольнікам, галодным хацелася «бульбы, звычайнай паранай бульбы, якою на Беларусі кормяць свіней».

Як і некалі Тарас Шаўчэнка марыў пра садок вішнёвы каля хаты, марыла паэтка Ларыса Геніюш «быць пры сваіх дзецях, быць з мужам, мець сваю хатку, гдзе хлеба ўволю на стале і ціха, ціха, як у храме...». У «Споведзі» — услухайцеся! — сам сабой узнікае паэтычны радок з вечным, біблейскім гучаннем і па гукапісе, і па сэнсу, аж хочацца паўтарыць: «...дзе хлеба ўволю на стале і ціха, ціха, як у храме».

І з храма пераносілася Беларуска, менавіта з вялікай літары, Ларыса Геніюш на сапраўды грэшную, савецкую зямлю: «... а там, дзе была наша сяліба, стаіць толькі даўгі мураваны хлеў і некалькі дрэў, якіх яшчэ не паспелі выкарчаваць на апал сяляне. Калі бываю там, дык прашу: «Пакіньце яшчэ хоць гэтыя дрэвы...»

Самую драбніцу прасіла пакінуць Ларыса Геніюш (у дзявоцтве Міклашэвіч). Гэта ў фальварку Жлобаўцы нарадзілася яна 9 жніўня 1910 года, тут вучылася

Любіць зямлю сваю бязмерна,
Як толькі любяць жаўрукі.

Як гісторыя праз вякі не жадала даць Беларусі сталай дзяржаўнасці і сталых, не абскубаных суседзямі межаў, так і лёс не хацеў даць паэтцы сталага гнязда, бурыў усе гняздоўі, ганяў па свеце, кідаў з чужыны ў чужыну. То салавей эміграцыі, то савецкі зэк.

Крывёй напоўніліся поймы рэк,
Бурліць адчаем слёз людскіх разводдзе.

Гляджу на свет. Я — лагернік, я — зэк,
Засуджаны на мукаў чвэрцьстагоддзя.

Мяне драты, сабакі сцерагуць,
Дзікіх надзораў зграя нада мною,
І лоб штодня мой на прыцэл бяруць
Навучаныя забіваць канвоі.

За калючым дротам сама сабе гаворыць паэтка: «Я ўмею шапкі шыць і рукавіцы... А як там мой муж, мой сын, і ім, пэўна, холад... А ўся мая сям'я? Ад'язджаючы, я пакінула ўдома бацькоў абаіх, трох братоў, трох сястрычак. Гэта было ў канцы 37 года, я ехала ў Прагу да мужа. Яны не плакалі, а мне плач раздзіраў грудзі. Яны не паэты, гэта паэты ўсё чуюць наперад. Цяпер тата мой, мажны й харошы, арыштаваны ў 39-м годзе, забіты ў гродзенскай турме, мама памерла на высылцы ў Казахстане ў 1945 годзе. Каханы з братоў Расціслаў... з галавою, як залацісты сноп жыта, загінуў пад Берлінам 28 красавіка 1945 года. Маладзенькі Аркадзі, які разам з Аляксеем пайшоў з высылкі ў армію Андэрса, ляжыць у польскай братняй магіле ў Ларэта ля Рыма, маленькая Люся ў 1954 годзе загадкава памерла ў Вроцлаве, Аляксея велікадушна Англія прыгарнула, а Ксеня й Ніна выстаўленыя на ўсе правакацыі ў Польшчы, як і няшчасны мой сын... Муж зусім адзін у Варкуце...»

Гэтага маналога аднаго хапіла б на любую трагедыю ад антычнасці да нашых дзён. Вось яна, радасць уз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй. Уся Беларусь застагнала пад сталінскаэнкавэдысцкім ботам.

Маналог з-за калючага дроту, крык з апраметнай. Гэта вязень (дарэчы, мова нават не знайшла формы слова ў жаночым родзе) хацеў быць пачутым. Спадзяваўся, прынамсі. І гэты ж вязень маладзічком свайго жыцця думаў светла пра жыццё. «Падсведама і я думала аб мужу нейкім, але ён мусяў быць Беларус». І кранаюць сваім святым наівам словы пра тое, як матчына прыяцелька пані Ядвіга Зелянкевічыха хваліла маладую дзяўчыну: «Няма кавалера для панны Ларысы, толькі Пілсудскі!» І ласкава, але цвёрда пярэчыла панна Ларыса: «Гэта быў вялікі камплімент, у якім мілая пані Ядвіга абсалютна забывалася аб познім веку польскага маршала й думала толькі аб яго знатнасці. Для мяне нават ён не прыйшоў бы ва ўвагу, бо ж быў не беларус...» Праўда, апошнія газетныя звесткі выбіваюць гэты важкі аргумент. Нібыта Пілсудскі пад час аднаго з арыштаў царскімі ўладамі на допыце прызнаваў сябе беларусам. Знайшоўся сапраўдны шчыры

беларус Янка Геніюш[11], «пражскі студэнт і амаль ужо доктар!». І стала Ларыса Антонаўна Міклашэвіч Ларысай Геніюш, каб ёю і застацца ў нашай літаратуры, у нашай духоўнасці. «І так ішлі мы ў жыццё з ярым кляймом беларускасці на чале».

Загадка Багдановіча. Яе паспрабаваў адгадаць наш таленавіты Міхась Стральцоў. Ёсць і загадка Геніюш. Адкуль нязломнасць, адкуль утрапёная, апантаная, шалёная любоў да ўсяго беларускага? Нават пра маленькага хлопчыка кажа яна — Беларусянятка, абавязкова з вялікай літары. Тым самым, як падлётку, жадае яму размаху ў крылах і вышыні ў палётах.

Вядома ж, яна не была саветызаванай ні думкамі, ні словам і выстаяла супраць саветызацыі.

Вядома ж, мела характар, які не цярпеў ніякага прымусу, прыгнёту. Прынцып бярэзіны: чым ніжэй хочуць прыгнуць, тым мацней ударыць у адказ, тым імклівей у неба выпрастаецца.

Вядома ж, адчувала сябе ўнучкай Францішка Скарыны, аднадуміцай Еўфрасінні Полацкай і сястрой Кастуся Каліноўскага.

Можна доўга меркаваць, угадваць, але загадка Геніюш — гэта загадка беларускай паэзіі, менавіта беларускай, бо толькі ёй даводзіцца на ўціск адказваць выбухам.

Тэстаментныя вершы (згадайце Шаўчэнкаў «Запавет») найбольш глыбінна і падсвядома шчыра выяўляюць сутнасць паэта і паэзіі ягонай. І таму прыводжу поўнасцю праславянскабеларускі, па-паганску зямны верш Ларысы Геніюш:

За акном у сутонні
сонца нікне са стрэх.
Дождж мне вымыў далоні.
Шчокі выбеліў снег.

Ільняную кашулю
на мой змучаны стан
каб на ноч апранулі,
ды паслалі дыван,

ды паклалі на ўзлессі
у старым дзірване,
каб цягучыя песні
калыхалі мяне.

Некалі ў Празе адзін хлопец з арміі Балаховіча[12] пасля вайны прыняў савецкае падданства і прынёс анкеты Ларысе Геніюш. Яна адмовілася іх запаўняць. І тады хлопец сказаў: «Вы будзеце

вялікай па смерці». Словы гэтыя паэтка помніла і занатавала іх у «Споведзі».

З зубром-адзінцом хацела параўнацца змагарка. Але і самотнай кнігаўкай была яна. Адно гняздо ацаліў лёс — хату мужавых бацькоў. Яна была першай хатаю, куды прыйшла паэтка з бацькоўскай, яна стала і апошняй, адкуль Ларыса Геніюш пайшла на вечны спачын.

О, сям'я Генюшоў! Блаславёная хата,
ў твае сцены калісь мяне мілы прывёў.
Нат вайна захавала цябе, быццам святасць,
мілы роду парог, каб прыняў ты нас зноў...

Спачываюць палі, спіць зямля пад снягамі,
каб на ёй узрасці беларускай душы.
Усім сэрцам сваім я з мінуласцю, з вамі,
прадаўжаю ваш след на зямлі, Генюшы.

След на зямлі і ў сэрцах беларускіх прадаўжае подзвіг паэткі.

Дакорам гучаць словы святой пакутніцы зямлі Беларускай, у гэтым свеце — былога вязня сталінскіх катоўняў за нумарам 0-287: «...ні адзін народ так не здзекаваўся нада мною й над маёю сям'ёю, як беларускі... Ні адзін народ так не ўніжаў сваіх паэтаў, сваіх жанчын».

Адна супраць злыдняў бярозкай стаю,
Пот, не слёзы, мой твар залівае,
Я люблю цябе, край мой, як душу сваю.
Я знаю — за гэта ўміраюць.

На допыце следчаму, што енчыў ад бяссілля зламаць дух беларускай патрыёткі: «Павесіць яе на вуліцах Мінска!» — паэтка крычала: «Яшчэ не вырасла тая бяроза, на якой вы мяне будзеце вешаць, усіх нас вам не перавешаць!»

Памерла, каб пайсці ў неўміручасць, каб «памяць пакінуць, як ясны паром».

Паэтка Ларыса Геніюш казала: «Паэты не забіваюць, паэты не забываюць крывавага».

Дык хоць кайліва будзем памятаць гэта.

Будзьма памятаць паэтку і помнікамі.

Хоць гэта трэба было рабіць пры жыцці, напісаў я радкі, прысвечаныя Ларысе Геніюш.

З рук Вашых мужных
Сціло выбівалі.
Вам давяралі кайло душагубы.
Даў Вам з калючага дроту каралі,
З Вас пасміхаўся Край Ваш найлюбы.

Вы на радзіме былі сіратою.
Зонечна Вам было,
Сонечна катам.
Толькі ў нябёсах над лютай Інтою[13]
Бацькам быў Бог,
Маткай — Вера,
Гнеў — братам.

Птушка дакору, адчаю і жалю,
Вы цішыню распазнаеце ў гуле.
Нашай віны сцяжалелую шалю
Вы сваім лёгкім крылом
Зварухнулі.

*1992*

## ПАСТАЯЛЕЦ НЯБЁСАЎ

Марк Шагал, як і вялікія мастакі Адраджэння, паэт. Ён хацеў пакінуць слова, бо слова трывалейшае за палатно, няхай і вячнейшае ва ўспрыманні наступных пакаленняў палатно. Слова ідзе ў неба да Бога, бо само слова ад Бога. Відаць, і Гамер пісаў палотны ці разьбярыў, але вечнасць захавала ў памяці сваёй толькі гамераўскае слова.

І ў сваіх палотнах Марк Шагал ішоў ад слова. Гэта ж слова задоўга да жывапісу малявала, як хата ідзе, як чалавек губляе галаву, як дождж ідзе, як смяецца сонца. Слова ўсё можа. Бо карані слова ў сівым паганстве, язычніцтве. Паганства ж інтэрнацыянальнае па сутнасці сваёй, хіба ў канкрэтыцы рознае. Невыпадкова з'яўляецца певень на палотнах майстра, бо гэта птушка — служка бога агню, пажару. А пажар якраз і сваціў Марку Шагалу ў першыя хвіліны з'яўлення на свет. Сваціў сімвалічна, сваціў фатальна.

Ад слова і касмічнае бачанне Марка Шагала. Гэта маленства ўспамінае: «Галава ў мяне ўжо ціха лётае па пакоі. Столь — празрыстая. Аблокі і сінія хмары ўваходзяць у хату разам з пахам поля, канюшні, дарог».

Біблія, у аўры якой спасцігаў свет Марк Шагал, дыктавала яму вобразы, давала апратку слоў фантазіі мастака. Адсюль і анёльскія крылы: «Мае цёткі, Муся, Хая і Гуча! На анёльскіх крылах лёталі яны па базары — над кошыкамі ягад, вінаграду, груш...»

Адчуванне свайго роду ў вяках, у зямным космасе таксама ад Боскага слова. «А Пасха! ні маца, ні хрэн не хвалявалі мяне гэтак, як Агада і чырвонае ў поўных шклянках віно. Мне хацелася апаражніць усе шклянкі! Нельга, немагчыма. Віно ў бацькавай шклянцы часамі здавалася чырванейшым. Яно зіхцела цёмна-фіялетавым каралеўскім пурпурам, святлом усіх гета, наканаваных майму народу, ззяннем спякотнай пустэльні, пройдзенае ў гэтулькіх пакутах...»

Здаецца мне, што слова пасылаў Марк Шагал у перапыты, у выпыты і на зямлю, і на неба, а следам ішлі фарбы. Фэст фарбаў, фэст персанажаў. І слова слухалася мастака, слугавала яму. «На самой справе, такой розніцы — паветра ты выдыхаеш альбо слова», — прызнаваўся падданец слова і фарбы.

Ад будучых войнаў, ліхалеццяў, пажараў пасяляў абачліва сваіх людзей, коней, козачак мастак на небе. «Калі быў я яшчэ хлапчуком, мне ўвесь час здавалася, што нехта за намі гоніцца. Вось чаму персанажы мае сягнулі ў неба задоўга да касманаўтаў...»

Цяпер ведаем мы, што з космасу ўсё відаць на зямлі, да драбніц. А Марк Шагал яшчэ ў 1944 годзе пісаў: «Дзесяткі гадоў майго лунання ў нябёсах добра паказалі мне, што адбываецца на зямлі...»

Пастаялец нябёсаў Марк Шагал зноў паяднаў разлучаныя вякамі гук і колер, паяднаў двухкрыла, па-анёльску.

У сталым сваім вяку маэстра зазначыў: «Калі ж казаць пра жывапіс, дык я вельмі шмат раздумваў пра фарбу, якая завецца любоў».

Словам мацаваў, доўжыў жыццё фарбы, якой маляваў аблічча неўміручасці. Сваё аблічча.

І спадзяваўся: «...а мне будзе здавацца, што ўсе жыхары Віцебска і ваколляў глядзяць здалёк на тое, што я намаляваў за сваё жыццё».

І глядзіць свет і Сусвет, і пазнае сябе, і дзякуе вялікаму Марку Шагалу.

***1992***

# ТРЫПЦІХ

## АПОСТАЛ НАЦЫІ

Нашча трэба чытаць Васіля Быкава.

Нашча трэба думаць пра Васіля Быкава.

Нашча трэба хінуцца душой да святла слова ягонага.

Чытаць нашча, каб прычасціцца да бязлітаснае праўды, няўтульнай і мулкай, цвярозай і незалежнай, нішчымнай і раздзетай.

Думаць нашча, каб ачысціцца ад похапкавасці і мітусні, ад ліслівай хлусні і марнай мітрэнгі, ад нікчэмнага гневу і самазжэрнай зайздрасці.

Хінуцца нашча душой, каб святло слова існага прагнала смагу і дух угрунтавала смуткам Быкава, верай Быкава, нясхібнасцю Быкава.

Марны і наіўны занятак падбіраць эпітэты да Быкава. Два словы ўвабралі ў сябе ўсё, пра ўсё сказалі, усё акрэслілі. Словы гэтыя на ўсіх развітых мовах свету гучаць аднолькава шаноўна і ўдзячна: Васіль Быкаў. Гэта пароль сумлення і мужнасці, чуласці і рашучасці, гэта пароль нашае шматпакутнае Беларусі.

Цяжка прайсці агні і воды. І прайшоў іх Быкаў. Прайшоў цярпліва і нязбочна, прайшоў, не сагнуўшыся, не прынізіўшыся.

Але яшчэ найцяжэй прайсці медныя трубы. Талент на годнасць правяраецца і пазнаецца па тым, як ён нясе славу, як пераносіць, трывае яе.

Дык вось якраз славу нясе Быкаў лёгка і натуральна, як высокае неба аблокі, як упэўненая рака воды, як чалавек імя сваё.

Быкаў не раз казаў пра чорны хлеб праўды. І гэты хлеб быкаўскае прозы, быкаўскае эсэістыкі і публіцыстыкі, быкаўскае роздумнасці. Гэта самы трывалы хлеб. Ім сілкавацьмуцца мужныя і дужыя. Хлеб гэты без закальца абыякавасці і пыхлівасці, хлеб гэты неацеслівы ад фальшу і пустазвонства. Ён падыходзісты ў дзяжы беларускасці, ён укроісты на стале самаахвярнасці крывіцкага духу.

У Быкава няма пустых слоў, слоў на аздобу, на скорам. Творы ягоныя маюць магнетычнае поле прывабнасці, пасля іх на свет хочацца глядзець вачыма Быкава, да людзей ставіцца па-быкаўску.

Да здзіву арганічна спалучаецца ў Быкава канкрэтнае і абстрактнае, спадчыннае і набытнае, боскае і тляватае. Гэта ж трэба валодаць такою ўладаю, гэта ж трэба ўмець: узяць косці і так іх

абрасціць мясам, што косці гэтыя пойдуць. І зажыве чалавек. Пабагацее людства яшчэ на аднаго чалавека. Гэта — дар вялікі і непаўторны.

І яшчэ ў Быкава талент мужнасці. Хто з нас сёння можа сказаць, што ён, як той млынар, малоў і не запыліўся. (Пісьменнікі — млынары своеасаблівыя ўвогуле, бо мелюць, не сакрэт нікому, у асноўным языком. Нават ёсць у народзе прыказка пра языковае мліва.) А Васіль Быкаў, як і Уладзімір Караткевіч, быў і застаецца духоўным арыенцірам для ўсіх, хто хоча аблічча сваё, запыленае дарогамі ў так званае светлае заўтра, абмыць крынічнай вадой праўды, Беларушчыны, веры ў беларускае заўтра. Бо ён, як ніхто, — Беларус. Глыбінны і негаманкі, ранімы і разам з тым недаступны і непадступны, Васіль усё трымае ў сабе.

Як асоба Быкаў нараджаўся пад вялікім ціскам, — так утвараюцца горы, так утвараецца цвёрдая парода. Лёс не рассцілаў Быкаву самабраных абрусоў. Быкаву ніколі і нідзе не было роўнае, гладкае дарогі. Па жыццёвых лужынах, па ідэалагічных калдобінах ці, лепей бы сказаць — паміж воўчых ямаў ступала нага пісьменніка, а душа ягоная, думка ягоная паломнічала ў небе ісціны, у вышыні існасці. Сотні разоў лёс выпрабоўваў дапытніка на «разрыў». Вытрымаў, вытрываў, выявіўся.

І сёння, калі над ім паспрабавалі пахадзіць з махаламі крытыкі, якія раптам сталі відушчымі, Васілю Быкаву жывецца не гэтак ужо і лёгка. Бо ці было каму лёгка несці крыж сумлення? Аднаму.

Шмат каму ад высакарангавых чыноўнікаў да сваіх жа братоў-пісьменнікаў няўтульна ад таго, што піша Быкаў, што гаворыць Быкаў, што бароніць Быкаў. І каб пазнаць, чым, што называецца, дыхае чалавек, асабліва той, які сябе лічыць ці выказнікам думак народных, ці творцаю, маецца самы просты і дакладны метад: спытацца, як ставіцца да Быкава. Адразу зробіцца ясна, хто ён, што ён, за што ён.

З Васіля Быкава пачалася сучасная сталасць нашае літаратуры. З фальклорна-побытнае яна вырасла ў глыбінна-духоўную, у еўрапейскую літаратуру. Дарэчы, колькі размоў і парад, як нам увайсці ў еўрапейскую сям'ю, у Еўропу. Незразумела, адкуль гэта праблема, ад недалёкасці ці ад хітрасці. Геаграфічна і менталітэтна беларусы — еўрапейцы чыстае вады, ці чыстае пробы. І гаворка пра тое, як увайсці, нагадвае клопат чалавека, што стаіць у рацэ і пытаецца, як увайсці ў раку.

А ў літаратуру трэба ўваходзіць так, як Васіль Быкаў. Спакойна, але ўпэўнена, з пачуццём свае годнасці. Маштабнасць

мыслення і выключна беларуская адметнасць. Усё гэта і шмат чаго невытлумачна-няўлоўнага, што стварае яго аўру. Гэтым ён свой Еўропе, гэтым ён цікавы і загадкава-прывабны свету.

Васіль Быкаў — светлы апостал нацыі. Светлы, бо чысты ў думках сваіх, у памкненнях сваіх, у клопатах сваіх пра хлеб духоўны, пра Адраджэнне, пра трыванне на зямлі ўвогуле. У ім лепшыя рысы народа.

Бог, відаць, за грахі нашыя карае Беларусь, якую бальшавікі хацелі як хутчэй зрабіць бязбожніцай. Ці не зашмат кары на адну невялікую плошчаю зямлю — ленінска-сталінскі і гітлераўскі генацыд, Чарнобыль... Богу відней. Але час ад часу пасылае Усявышні Беларусі такіх людзей, як Скарына, Каліноўскі, Купала, Быкаў. Ім дазваляе гаварыць пра Беларусь, ад імя Беларусі, бо голас іхні шчыры.

Нарадзіўся Васіль Быкаў на зямлі Полацкае. А зямля гэтая — цемя нацыі. А менавіта ў цемя і меціць заўсёды вораг. І дагэтуль цікуюць ворагі за лепшым сынам крывічоў Васілём. Ён, калі казаць крыху падвышаным стылем, васілёк у жыце нацыі, які напамінае пра неба: адарві, чалавеча, вочы ад долу, у неба зірні — яно сіняе.

Быкаў адзін з першых, хто сказаў непажаданую савецкай імперыі праўду пра вайну.

Пра вайну ў бальшыні сваёй — пісалі тылавікі, штабісты, выпускнікі курсаў малодшых палітрукоў. Аднаму такому нашаму выпускніку пасведчанне падпісаў намеснік начальніка курсаў Брэжнеў, дык насіўся з ім шчасліўчык да канца дзён сваіх, выбіваючы адпаведныя рэгаліі. Пісаць пра вайну трэба было бадзёра, каб падабацца высокай установе. Быкаў прайшоў вайну не з карэспандэнцкім блакноцікам ці палітрукоўскай сумкай. З «саракапятак» у штрафную роту не кіравалі, бо гэта было страшней. Прамой наводкай страляць па танку — кожны раз спадзявацца на лёс: хто першы стрэліць, ці дасканалы танк, ці прымітыўная гарматка.

І калі, напрыклад, за маральны арыенцір пісьменнікі мелі то Паўліка Марозава, то Міная Шмырова[1], якога падкрэслена называлі Бацькам Мінаем, слова «бацька» пісалася з вялікае літары (бацька не заступіўся за дзяцей-заложнікаў), дык Быкаў арыентаваўся на агульначалавечую мараль, на запаветы Хрыста.

Быкаў першы, хто сказаў балюча і адкрыта пра бальшавіцкае злачынства — пра рассяляньванне. Вынішчалася тая сіла, якая трымала нацыю, карміла раты і сілкавала дух, каб пасля пралетарызацыі-люмпенізацыі стварыць «новую общность — советский народ».

Быкаў першы ў нас заступіўся за чалавека — ахвяру нечалавечага рэжыму. У творах, умоўна кажучы, ваеннай тэматыкі творца паказаў, як цяжка было заставацца чалавекам, як вайна давяршыла савецкі эксперымент над асобай, але разам з тым і нейкім чынам вярнула чалавека да самога сябе, такога, якім чалавек быў задуманы Богам, з босаю душой.

У творах, да прыкладу, такіх, як «Знак бяды», «У тумане», «Аблава», «Сцюжа», у самых апошніх па часе публікацыі апавяданнях Быкаў паказвае карані нашае галечы, матэрыяльнае і духоўнае, ачышчае беларускі характар ад мякіны ў негашанай вапне саветызацыі. Паказвае, які ён быў, які стаў, які мог быць наш беларускі характар, нашая беларуская душа.

Беларусь, беларускую літаратуру і культуру ведаюць у свеце па Васілю Быкаву.

Савецкая ўлада ў асобе яе езуіцейшых прадстаўнікоў і замацаваных за пісьменнікам сяброў выпрабавала ўсе сродкі, каб зламаць волю Быкава, каб зрабіць прыручана-хатнім небакрылага. Ішлі ў ход метады дазволеныя і недазволеныя. Усіх не пералічыць. Камсамольцы білі вокны (і сапраўды, як у яўрэйскім досціпе: калі б Бог жыў на зямлі, людзі выбілі б яму шыбы), ветэраны вайны і партыі пісалі даносы, публікавалі пратэсты, засыпалі бруднымі лістамі. У планы мерапрыемстваў ЦК КПБ (ад 18.10.1988 г.) уваходзіў і такі пункт за нумарам якраз 13: «Разработать систему общения с В. Быковым...» (Неяк у «Народнай газеце» з мэтай выпускання пары былі дадзены ацярускі з партыйнага архіва.)

Не дапамаглі ні правакацыі, ні пагрозы, ні высокія ўзнагароды, ні адказныя тытулы. На іншых дзейнічала, на Быкава не дзейнічала бальшавіцкая разлічаная ласка.

Тытул у Васіля Быкава адзін, і ён ад Бога — сумленны пісьменнік.

І да гэтага часу ратуе Васіль Быкаў ад беспрацоўя армію падслухачоў, вынюхачоў, паклёпнікаў, верных учарашняму дню. Недарэмна аднойчы сумна ўсміхнуўся апостал: «Чаму пра мінулае мала ведаем? Бо даносчыкаў мала было і яны былі непісьменныя...»

Але нельга ні прыпыніць, ні ачарніць апостала.

Апосталаў мала.

Апосталы нараджаюцца рэдка.

Нацыя датуль жывая, пакуль жывуць яе апосталы!

*1993*

# КОСМАС ВАСІЛЯ БЫКАВА

Космас Васіля Быкава. Ён сілкуе дух беларускае нацыі. Ён дазваляе зрабіць небасхіл нашага слова далёкім і глыбокім, неба слова нашага ўдумлівым і высокім, сцежкі слова нашага прыступнымі і роднымі.

Космас Васіля Быкава недасяжны і хатні. Дык дзе ж такі пачатак ягоны? З чаго ўтварыўся ён? Чым трывае, чым вабіць і палоніць нас, чым наступнікам стане?

Космас Васіля Быкава шчодра выдаткоўваецца самім стваральнікам. А космас ад гэтага не менее, не бяднее, не прыніжаецца.

Вёска на ўшацкай зямлі з брыклівым імем Бычкі дала свету і беларускаму чалавецтву (словазлучэнне пісьменніка ўжываю) чалавека, які ўвасобіў сабою сумленне і інтэлект Беларусі.

Можа, азёры і, у прыватнасці, адно з іх — Горадня, дзе яшчэ жылі дубы і не зусім сцерліся сляды паганскага капішча, хвалямі ды чаратамі нашапталі хлопчыку Базыльку пра таямніцы душы чалавечае, пра таямніцы роду людскога.

Можа, узгоркі, якія на ўшацкай зямлі часцей за ўсё завуцца гарамі, пасадзілі яго на плечы па звычаі бацькі і скіравалі позірк маладога задумёнца ў неба, якое пазней прызнае яго за свайго. (У саміх Бычках ёсць нават Штундаравы горы ў гонар нейкага бычкоўца.) А пасля былі Балканы і Альпы, Забайкалле і Каўказ, горы гора, горы лютасці. Іх дасюль адольвае Васіль Быкаў.

Можа, гэта алешнік, які сінеў ад холаду і грэў сабою грубку, ласкавеў ад вясковых салаўёў і казытаў шчымліва маладое сэрца, да матчынай шчырасці і ласкі дадаў чуласці, якой прырода дзеліцца не з кожным. І на чужыне ва ўспаміны і сны прыходзіў алешнік. Як зямляк, як свой. І калі салдат Быкаў на пачатку вайны мясіў гразь на Украіне, а наўкол, куды ні глянь, гола — дужа ж хацелася яму ўбачыць ушацкі алешнік.

Васіль Быкаў казаў неяк, што трэба глядзець, не як чалавек недзе далёка і высока выглядае, а як дома.

Якраз дома, на радзіме, найболей пазнаецца Васіль Быкаў ці, лепей сказаць, акрэсліваецца. Тут у галаву прыходзіць, вядома ж, далёкі вобраз, падабенства неадэкватнае, драбніца. У алешніку цёплай веснавой яшчэ маладой ноччу, калі толькі збіраюцца папуляцца, па-ўшацку кажучы, зоркі-вачапоркі, вожык, не адчуваючы нічыіх позіркаў і не чуючы блізкай небяспекі, на нейкі час расшпіліць свой калючы кажух. Вонкава спакойны, як алімпіец, Васіль Быкаў незаўважна для сябе не раз казаў: «Ува мне ўсё затрымцела».

Вайной і паслявайною, надоўга адарваны ад роднага кутка, Васіль Быкаў вяртаўся на зямлю ўшацкую ў сваіх творах. Недзе годзе ў 1984-м прыкладна так казаў пісьменнік: «Я мала пражыў на гэтай зямлі. Але дзе б я ні быў, са мной былі вобразы гэтага краю, гэта нейкая дарожка, ручаёк, дуб і, вядома, людзі. Заўсёды ў творчасці карыстаемся тым, што заклалі ў нас родныя мясціны, людзі». Родныя мясціны, блізкія людзі жывуць у быкаўскіх кнігах.

І ўшацкая мова слабей у рэчах як бы чыста ваенных і мацней там, дзе вайна і давайна сутыкаюцца, пачынае пачуваць сябе гаспадыняю.

Ісціна вядомая: няма мовы, няма пісьменніка. І ёсць у нашай і ў сусветнай літаратуры Васіль Быкаў, і ёсць мова Быкава, быкаўская мова. Гэта мусяць прызнаць і даследчыкі, і практыкі, якія засцянкова лічаць толькі сябе знаўцамі і заканадаўцамі. Быкаўская мова адметная. Яна акварэльная і эмацыянальная, канкрэтная і глыбінная. Творца адначасна і пан, і слуга мовы. Да прыкладу, быкаўскае слова пра балбатню камуністычных зазывалаў у чарговы рай — размазгоціна.

Без падсветкі ўшацкае мовы, думаецца, халадней бы гучаў голас пісьменніка, галасы герояў, бо яны так ці інакш з ушацкае зямлі. Сам аўтар прызнаваўся, што Сцепаніда — блізкая цётка, якую так і звалі. Зразумела, што гэта не дакладная копія.

Васіль Быкаў носіць у сабе сваю радзіму. І на адной сустрэчы з чытачамі на пытанне, як шмат часу ідзе на збор матэрыялу, адказаў: «Я не гістарычны пісьменнік. Увесь мой матэрыял у душы, у галаве. Прэса, успаміны, кніжкі ўздзейнічаюць. Спецвышукаў не раблю».

Васіль Быкаў помніць гукі і пахі роднае зямлі. І заўсёды, пачуўшы, што еду дамоў, пяшчотна наказвае: «Перадай паклон роднай зямельцы». Прывёз яму было яблык з мамінага саду, і ўспомніў ён, што дома казалі на гэты гатунак грапштына.

Прыходжу да Васіля. Гасцінная Ірына Міхайлаўна падае на стол разам з іншымі, невядома дзе здабытымі ці ашчаджонымі для гасцей, прысмакамі бульбу. Васіль Уладзіміравіч з пасвятлелай усмешкай, з непрыхаванаю радасцю тлумачыць, што гэта бульба з Бычкоў. Яшчэ той гатунак, які рос у маці. Брат Мікола не звёў гатунак.

Нарадзіўся Васіль Быкаў на Тройцу. Свята, калі зямля з небам гаворыць. З Богам у душы ідзе па жыцці народны пісьменнік. Распавядаў, што Усявышні бярог яго. Быў выпадак, калі пісталетам трос перад тварам воіна нейкі смершавец, пагражаючы

расстрэлам. Праз колькі гадзін гэтаму цівуну з пагонамі адарвала абедзве рукі.

І калі на дзевяці днях па Алесю Адамовічу Васіль прапанаваў устаць, пераксціцца і ў думках памаліцца за Алеся, бачыў, як ксціўся Васіль. Натуральна, бо з маленства гэта, стоена, урачыста, шчыра.

...Хрысцілі Васіля ў Кублічах. Яшчэ засталіся рэшткі царквы. Помніць прозвішча святара — Забэла. Помніць прычасце — салодкую маленькую лыжачку кагору. Затое з каўша паілі гаркатою бальшавікі. І дасюль не шкадуюць яду. Пра нешта смачнае помніцца толькі да калгасаў. А ў калгасе бульбы і той да новай не хапала. Травянікі ў рот не лезлі.

У Селішчах хадзілі ў касцёл, а перад касцёлам прадавалі дробную смажаную рыбку. Дужа яна тады смачная была!

У Кублічах сцягвалі крыжы. Пасля ўсё раскралі. З рыз увесь раён насіў цюбецейкі. Гэтакія ўшацкія мусульмане. З царкоўных фаліянтаў, дзе з вякоў у вякі прамаўляла славянская вязь, рабілі самалёцікі і пускалі.

Перад вайной у Кублічах камендантам заставы быў Гіль-Радзівонаў[2], супярэчліва-ахвярная фігура апошняй вайны. Васіль хадзіў у школу з ягоным сынам.

Ушацкая зямля абудзіла ў юнаку мастака. Перад самай вайной вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. На вайне алоўкам маляваў. У Вушачах на вуліцы, дзе стаіць наша хата, жыве Марыя Быкава, ураджэнка Бычкоў. Не адзін раз цёпла хвалілася яна, што ў школе яе партрэт маляваў Васіль Быкаў. Шкадуе, што малюнак не захавала.

Ушацкая зямля абудзіла ў душы юнака і гнеў. Супраць рэжыму. І гнеў гэты Васіль Быкаў не затушыў у сабе. Прыгадваецца, як у Нідзе пры размове з мастачкай, якая пабыла вегетарыянкай, а пасля зноў стала мясаежкай, беларускі класік са спакойным гумарам зазначыў: «Вегетарыянства, як сацыялізм, — крыху паспытаў, галоўнае, у час пакінуць».

У Нідзе надзвычай добра пачуваў сябе крыштальна сумленны пісьменнік. Якраз Літва вырывалася з мулкіх імперскіх абдымкаў. Не дакучалі журналісты і калегі. Тут жа некалі плённа працавалася другому майстру — Томасу Ману. Гэта ў Нідзе ў выдмах над затокаю ўбачыў Быкаў Зялёны промень. На ўдачу, на поспех дазваляе сябе ўбачыць Зялёны промень.

Яшчэ дзе-нідзе ўцалелі прысады, якімі наўпрасткі Васіль хадзіў у Вушачы. Як з туману праступаюць даваенныя Вушачы ў нядаўняе аповесці «Сцюжа». Зноў жа гэта не копія. Калі ехаць

у Вушачы з боку Полацка ці Мінска, праваруч таксама крыху засталося ад былога панскага маёнтка ў вёсцы Арэхаўка. Рэшткі прысадаў. Не да канца разбураны панскі маёнтак. І надзвычай гожае і, я сказаў бы, ручное, свойсклівае возера. Тут быў летам у піянерскім лагеры школьнік Кубліцкае сярэдняе школы Васіль Быкаў.

Мне пашанцавала колькі разоў з'ездзіць з Васілём Уладзіміравічам на радзіму. Вонкава той жа заклапочана-малагаваркі, крыху адчужаны ад самога сябе нават, бо бесперапынку працуе думка. Але невытлумачна адчувалася, што душою адыходзіць, не раўнуючы як намарожаныя пальцы ў цёплай вадзе. Дома і сон птушыны: праз кожную гадзіну прачынаецца.

Недзе ў 1982 годзе былі ў Бычках. Былі і на беразе возера Супонец — любімага возера Васілёвай маці. У лесе яшчэ заставаліся знакі ад былой мяжы. Маці, так здарылася пасля падзелу, была з Заходняй Беларусі. Хоць фактычна праз возера чаўном улетку ці нагамі зімою можна было трапіць на матчыну дзедзіну. Па-хатняму ўтульна звалася вёска Завулак. А маці была на прыкмеце ў чэкістаў-памежнікаў. З сумам распавядаў Васіль Уладзіміравіч пра невясёлы фінал рэвалюцыйна настроеных хлопцаў, камсамольцаў і капэзэбоўцаў, якія рваліся ў Савецкі Саюз.

Гутарыў славуты зямляк са старшынёю калгаса. Той скардзіўся на надвор'е. На неспрыяльныя кліматычныя ўмовы. Васіль Уладзіміравіч прапанаваў як бы сур'ёзна, што трэба ўвесці адказнага за надвор'е. Старшыня засумняваўся, бачце, ніхто б не пайшоў на гэтую пасаду. Цікава, што пры ўсім нігілізме, пры ўсіх устаноўках зверху ад бацькоў ідэалогіі, што інтэлігенцыя гнілая і лайдачная, старшыня задумаўся: «Відаць, напісаць добры твор цяжэй, чым узараць гектар зямлі ці надаіць літр малака?..»

Гэта на Віцебшчыне, казала неяк тэлежурналістка, жанчына з былых рэпрэсаваных выменьвае любыя кнігі Быкава на іншыя.

На шчасце, захаваліся клопатамі маці фотаздымкі. У 1935 годзе невялічкі 4-ты клас Бяляўскае пачатковае школы з настаўнікам С. Р. Троцкім. У першым шаражочку стаіць галагаловы, у паддзёўцы з даўгаватымі рукавамі хлопчык. Позірк прыжмурана-засяроджаны, сур'ёзны. Тут яшчэ незразумела, хто на каго сур'ёзней пазірае, школьнік на жыццё ці жыццё на школьніка. (Мне ўспамінаецца, як дарослыя з нас нязлосна кпілі: замест «школьнікі» гаварылі «шкоднікі». Не ўкладвалі ў слова палітычнага сэнсу.) А можа, жыццё адчувала, што гэты

школьнік па часе створыць свой космас. (Таму і задумаўся, аж крыху насупіўся.)

У 1938 годзе вучань Кубліцкае сярэдняе школы пазірае засамотнена. Кашуля ў палосачку, яўна мама пашыла, начы прыхапіўшы, як і мая некалі. Можа, пра гэтую кашулю распавядаў аднойчы Васіль. ...Да вайны прывозілі мануфактуру рэдка. Як свята якое. Давалі па тры метры пайшчыкам. Чэргі. Штаны, натуральна, у хлапчукоў драліся. Усе ў лапіках. Не паспявалі лапікі ставіць. На дарослы розум, і што з таго, а тады гэта дужа перажывалася. І трэба было ісці на вечар у школе. Кашулі няма. Маці пашыла з дзвюх шлякатых хусцінак у гарошынку. І адзін шлячок быў відаць, вытыркаўся. Як перажываў Васіль, хай бы гэты шлячок не відаць быў, думалі б, што не з хусцінак сшытая... Чуб, яшчэ непрывыклы да паслухмянасці грабянцу, зачэсаны набок, на прабор. Гэтак, як і цяпер.

У 1940 годзе ў Віцебску з сябрам С. Каліноўскім. У кажушках, у шапках. Аж чуецца ўшацкая народная песня пра жаніха, дзе ўпамінаецца «шапачка-баранкоўка». Ужо ў 90-я гады скажа Быкаў: «У Віцебск еду з двайным пачуццём. Успамінаецца і стары горад, які я люблю. А наяве зусім іншы, новы горад...» У Віцебску захаваўся будынак мастацкага вучылішча, дзе пачынаў свой шлях на мастака пісьменнік. Перадваенная нястача і вайна перапынілі шлях. Але калі ўзяцца падлічваць паездкі, наведванні Васіля Быкава, дык на Віцебск, на зямлю віцебскую, ушацка-полацкую, прыпадзе найболей. Карані жывуць у роднай глебе.

У Саюзе пісьменнікаў даўно неяк да чарговае даты Перамогі зрабілі стэнд, на якім пададзены фота ўдзельнікаў вайны. Па фотаздымку Быкава можна чытаць лёс вайны, лёс чалавека на вайне. І, напрыклад, болей важка за тамінныя даследаванні творчасці пісьменніка скажа фота, на якім малодшы лейтэнант Быкаў з салдатамі свайго падраздзялення на хвіліну запыніўся перад аб’ектывам летам 1944 года. Колькі тысяч кіламетраў жудаснага ворыва ляжыць за плячыма ў шараговага аратага вайны на фота ў Румыніі ў 1944 годзе, у Сафіі ў 1945-м.

1960 год. На прызбе сядзяць Васіль Уладзіміравіч з маці. Замілаванне і адчуванне ростані. Гэта тады сказаў ён напаўголаса, гледзячы на маці: «Ручкі, як у птушачкі лапкі...» Сфатаграфаваў Валянцін Ждановіч у вёсцы Ваўчо, што каля Вушач. Ганна Рыгораўна жыла тады ў дачкі Валянціны, у хаце зяця, майго аднакласніка Шуркі Шымука. Аж чуюцца мне ціхія словы: «Зжылася ўжо... Зямля тут роўная, не трэба на горы гэтыя ўзлязаць... А тут другі свет... І вяселле перабыло Колева, усё

было добра... Як я першы раз ішла замуж, было мне 23 гады... Ці здаровенек Міколка?..»

Колькі цеплыні і надзеі, радасці і смутку на сямейным фота 1966 года ў Бычках. Маці, бацька Уладзімір Хведаравіч, сястра, брат Мікола, братавая Антаніна.

На фотаздымках запыненыя імгненні, праз шыбіну, захуканую дыханнем хадакоў па дарозе лёсу, глядзіць на абрысы знаёмых і родных людзей той, хто яшчэ застаецца, хто ідзе дарогаю лёсу.

На бацькаўшчыне, у родных мясцінах, так і рупіць запытацца, што натхняла, што натхняе майстра, шчыруна, нават якія сны сняцца, якія на фронце сніліся!

Бог і душа. Вечнасць і міг. Герой і ягоны прататып.

Радзіма — што яна для чалавека значыць?

Зайшоў я сёлета да Васіля Уладзіміравіча і на сцяне ягонае вітальні ўбачыў абразкі. Мастак-жывапісец пачаў штурхаць пад локаць мастака слова. Пазнаю мясціны. Родная хата ў Бычках. Выгінаючыся і адхінаючыся, як кума з п’янай бяседы дамоў ідучы, раз’езджаная да жывога пяску дарога падымаецца ўгору да хаты цяжка. Можа, хоць каля ганка адпачне на хвілю. Абапал дарогі плот, таксама падымаецца ўгору, як бы стараючыся падтрымаць дарогу. Плот даўні, вушацкі, ці, дакладней, бычкоўскі. Стаўшы ўдвух, слупы на пconfigure перавяззі трымаюць жэрдзя. Далёкі правобраз прашчы. А побач абразок — возера Горадня. Здаецца, лес у зялёныя прыгаршчы набраў ціхай і густой ад бадзягі і бузы вады, каб памыць аблічча, а тут якраз на ваду гэтую апала светлая аблачына. Як у песні — гусі селі-палі на ваду. Пытаюся, ці даўно быў на Горадні, адказвае гаспадар гасціннага кутка, што толькі летась не быў, бо цяжка было з бензінам. А так штогод едзе на радзіму Васіль Быкаў. Казаў жа ён: «З гадамі болей цэнім добрую пагоду і лагоду душэўную...»

А яны там, дзе першым крокам сваім чалавек звярнуў на сябе ўвагу свету, дзе думка прабілася. Як крыніца... Вечнасць жыцця робіць трывалай думку. Думка спрабуе дапамагчы жыццю затрымацца ў вечнасці.

*1993*

## ЯК ВАСІЛЁК У ЖЫЦЕ БЕЛАРУШЧЫНЫ

Гэта шчасце і вялікая адказнасць — жыць у адзін час з Васілём Быкавым. Можа, нашая Беларусь, нашая нацыя, нашая

літаратура таму і выжылі, таму і трываюць ва ўмовах нязменнага ўціску, нязменнага жадання суседзяў нашых лічыць нашую зямлю сваёй спаконнай тэрыторыяй, нашую духоўную і матэрыяльную культуру таксама ж сваёй, што Усявышні ў самую цяжкую часіну пасылае на ўратаванне нам таленты такія, як Васіль Быкаў.

Васіль Быкаў прыйшоў у літаратуру нашую, у свядомасць нашую, калі, здавалася, усё нацыянальнае, усё людскае, усё беларускае было задаўлена жалезабетонам камуністычнай ідэалогіі, таталітарным рэжымам чырвонай імперыі. Прыйшоў і сказаў: «Жыве Беларусь! Думае Беларусь, мысліць Беларусь, мае сорам, мае сумленне!» І прыход Васіля Быкава заўважылі, голас сумлення Беларусі пачулі. Ва ўсім свеце.

Васіль Быкаў зірнуў у глыбокую студню душы ўсечалавечай, душы беларускае, каб на самым цёмным дне ўбачыць зоркі з неба духу. Зоркі ўдзень свецяцца на дне. Пісьменнік, чыё імя гісторыя запісала з новага радка, адпаведна з вялікай літары ў суровым сказе пісьменства нашага, з першых сваіх твораў і да сёння служыў і служыць праўдзе, і толькі праўдзе. Сама ягоная прысутнасць робіць няўтульным і мулкім жыццё і ўладатрымцаў, і літаратурных паслугачоў, кан’юнктуршчыкаў і нядаўніх апявалаў антычалавечай маралі камуністаў у законе. І няма чаго дзівіцца, што даследчыкаў творчасці вялікага творцы мала, а вось дасьетчыкаў багата.

Васіль Быкаў нябёсамі пасланы на грэшную зямлю нашую, каб несці крыж сумлення, а крыж гэты цяжкі, бо разлічаны на моцную натуру. І ўзышоў Васіль Быкаў на Галгофу за Беларусь, за людства, роднае яму, за ўсіх тых, што з ахвотаю ў далоні ягоныя праўдадарныя ўганялі цвікі абразы, цвікі паклёпаў, цвікі зайздрасці. Да нашых дзён уганяюць. Ды ўзляцеў дух лепшага сына Беларусі ў Слове шчырым, як сама праўда, у Слове чыстым, як думкі прарока, у Слове пакутным, як Маці-Беларусь.

І пакланіцца славутаму земляку дазволю сабе вершам, які называецца «За словам Быкава іду!».

Чытаю Быкава —
І зноў
Вяртаюся ў краіну сноў,
У старану маю лясную,
Якую,
Покуль я існую,

Люблю ў затуле туманоў,
Ёй плачу, бачу, ёй блазную.

Завецца ўшацкай старана,
Там Селішчы і Старына,
Бычкі, і Дольцы, і Гарані,
І Чарапоўшчына[3],
І ўранні
Лубее ў елкі карына,
І каня нікне ў дакаранні.

Ашчадны быкаўскі радок,
Як непрытомлены хадок,
Вядзе на топішча,
На ляды,
На Пасніцу, Дзяды, Каляды.
І рада, ўчуўшы халадок,
Душа, сабе не даўшы рады.

З раўка бярэ разгон рака,
З рыўка вітае ўзмах
Рука
Абнылае крыло самоты.
Пачуеш з даўніны само ты
Папрок шпака
І крок грака,
Напоўніш золлю смутку соты.

Узмежкам, палазнёй, лядком
За словам быкаўскім,
Радком,
Не ўзяўшы ў павадыркі стому,
Іду,
Вяртаюся дадому,
Што выціраў слязу крадком,
Не пахваліўшыся нікому.

Васіль Быкаў, як той васілёк у жыце Беларушчыны, робіць зямлю нашую бліжэйшай да неба, а неба слова беларускага вышэйшым.

*1994*

## НА ТАКУ МАЙГО ВЕКУ

Помніць сябе пачынаю пад галасы жніўнае песні. Хутар Верасовачка. Жнейкі жнуць. Песня тужлівая, здаецца, колецца неўсвядомленай яшчэ самотай, як іржэўе. У паланачках (маленькія начовачкі правейваць, палаць зерне) чарніцы ў малацэ. Сумна і смачна.

Заходзіць сонца. Мама кажа страшную казку. Адна жанчына задавіла свайго маленькага сынка. Ён прыйшоў да яе і прынёс гаршчэчак золата. Адыходзячы, сказаў, каб паслухала на захадзе сонца, як будуць мучыць яго. Слухаю таксама, калі заякоча гаротнік.

Пастухі навучылі благім словам. Бацька ўзяў з сабой у Вушачу. Мама апранула як лепей. Сама ж умела шыць. Бацька цяслярыў у райкамунгасе. Усе местачкоўцы і начальнікі бацькавы хваляць сынка. Мне хочацца дамоў. «Тата, пойдзем дамоў. Тата, пойдзем дамоў!» Не чуе. Тады я загнуў такога мацюка, пачутага ад пастухоў, што бацька хуценька павёў мяне на хутар. Сам сябе я называў Інькам.

Калі бацька прыходзіў з працы ці прыязджаў з руму, я любіў распеadmin разаць яго, каб з запазухі выпаў ці абаранак, ці акрайчык, што перадаў зайчык.

Недалёка ад нашага хутара жыў Максім. У яго была дачка Маня, на колькі гадоў старэйшая за мяне. Мне яна прыносіла суніцы, забаўляла мяне. Тады палюбіў я слова «гарнушак». І, каб укласці мяне спаць, маме даводзілася спяваць песню з адным словам — «Маня, Маня, Маня».

Стрыглі мяне за некалькі начэй, соннага. Бо не даваўся, заходзіўся ад плачу. І мама і бацька не спалі, каб зрабіць адзін стрыг.

На суседнім хутары жыла Казліха. Як цяпер разумею, відаць, Казлоўская. У Казліхі было двое сыноў — Янак і Франак. Неяк па-казачнаму гучала і найменне Казліхі, і імёны яе сыноў уражалі нейкай незразумеласцю. І калі я выкалупліваў «казлоў» з бульбіны, казаў: во Янак, а во Франак.

Пераезд у Вушачу помню дужа смутна. На кані паклажа і я. Быццам цыганы ехалі. Чамусьці цяжка было перавезці з хутара ката. Яго, як ваўка таго, у лес, у хмыз цягнула.

У Вушачы, нешта ўроілася мне, што сядзеў на бальшаку і еў кашу. Нейкая цётка папрасіла пакаштаваць, плакаў, не хацеў даць. Зверху мама дадала жалю розгай за скупасць.

Бацька мяне не біў. Толькі калі я пачынаў хадзіць на галаве, пытаўся: «А дзе мой чорненькі?» Гэта значыць раменьчык. І гэтага запытання хапала.

Дужа любіў хадзіць з бацькам у лазню, што стаяла над самай ракой. Бо пасля ішлі да Маймана. Бацька піў піва, мне купляў морс. Хоць вуліца, дзе стаяла нашая хата, была дужа блізка ад так званага цэнтра, усё роўна казалі: схадзіць у Вушачу. А ў Вушачы таксама ўсё было названа па-свойму. Схадзіць да Фурмана — сфатаграфавацца, схадзіць да Дысмана — купіць нейкіх лахарцікаў (так па-вушацку зваліся прысмакі), схадзіць да Маймана — ужо тлумачыў, значыць выпіць. Галоўная вуліца Вушачы была забудавана акуратнымі мураванкамі. Такія вуліцы захаваліся там-сям у мястэчках былой Заходняй Беларусі, у Балтыі. Ад іх веяла хатняй утульнасцю, спакоем, парадкам. Гэта пазней з'явіліся камунальныя, ці, як іх называлі, казённыя дамы, бо не свае. Халодныя.

У нас кватараваў нейкі «кручок». (Так называлі вушацкія ўсіх дробных начальнікаў і саўслужачых.) Ён піў чай з цукрам. Мне дужа хацелася гэтага салодкага лёду. Папрасіць не было смеласці, а ў «кручка» не было звычайнага такту пачаставаць мяне. Таму і не магу ніколі есці прысмакі, калі не магу пачаставаць імі малых.

У так званую фінскую вайну вымерз сад. Баяўся, што застануся без яблыкаў. Дужа смачны быў хлеб, бо ён стаў госцем на нашым стале. «Кручкам» разносілі пайкі, як у нас казалі, разноскі.

Жудасныя казкі расказваў дзед Стась Міклашэўскі. Захацеў чалавек закурыць, дастаў капшук з тытунём, развязаў, а з-за спіны рука кашчавая цягнецца таксама ў капшук. А гэта нябожчык. У Міклашэўскага было шэсць пальцаў на руцэ. Такіх людзей завуць шасцярнямі. Нам, малым, ён здаваўся чараўніком. І хацелася слухаць казкі, і страх браў.

Летнімі вечарамі ад Міклашэўскіх позна разыходзіліся госці. І мама з прасмішкай казала: «Ужо звіняць». Бо яны ўперамешку казалі то «прабачайце», то «ізвініці». Тады пачуў я ўпершыню «Бывайце здаровы», песню чыста народную, не абкалгашаную Русаком і не зробленую Любанам на капыл «сем сорак». У песні толькі начавалі ў зялёнай дуброве і казалі, што ласкі гаспадароў павек не забудуць.

У хаце насупраць нашай, цераз дарогу, жылі Латышы. На печы сядзеў дзед Хвядос у зрэбным споднім. Яго марылі голадам. І ён усё пытаўся: «Ці падаюць гэта цяпер жабракам?»

За Латышавай хатай было заліўное балотца. Нашае маленькае мора. Па ім плавалі на плыце, у траве вадзіліся качкі. З берага мы лавілі рукамі палонікаў — будучых жаб. Аднойчы я так захапіўся такім паляваннем, што шуснуў з галавой у нейкую яміну. Ды пад вадой пачуў, як Толік Апёнкаў (Апёнак быў зяцем у Латышаў) закрычаў: «Грышка ўтапіўся!» Неяк мае сябры мяне выцягнулі. Маме не прызнаўся.

У канцы балотца бацька майстраваў нешта накшталт застаўкі. Бегаў да яго. Бацька даваў мне капейкі, і я купляў нейкае ўзорчатае печыва. Пасля вайны я даведаўся, што гэта былі вафлі.

Пачыналася вайна. Савецкая ўлада ўцякала. Страшна было чуць, як некага недзе давілі. Па інерцыі крычалі ратунку: «Міліцыя!» Міліцыі і след прастыў. Безуладдзе. Вусціш.

Чуў, як пошаптам мама з бацькам казалі: у ляску пры дарозе на Арэхаўна расстрэльвалі палякаў. Мужчын, жанчын, старых, дзяцей. (Гэта рука дапамогі прасавечаных братоў паняволеным братам Заходняй Беларусі. Ачышчалі турмы сталінскія малойчыкі. Падрыхтоўвалі сваім духоўным паплечнікам.)

Пачатак вайны запомніўся так: добра падпітая Валянціна Апёнчыха («у красу» выпіла) спявала бестурботна: «Круціцца лётчык, б’ець пулямётчык, аля, аля, я...»

Наляцеў самалёт. Мы з бацькам беглі па жыце, жыта нават мяне не магло схаваць. Дабеглі да зямлянкі каля Міклашэўскіх. У гэтай зямлянцы Янка Міклашэўскі (малодшы сын Стася, старэйшы загінуў на фінскай) паказваў, бывала, малечы кіно. На сцяне запапона белая. Круціў за ручку нейкую прыладу, устаўляючы ў яе шкляныя квадрацікі, і на сцяне з’яўляліся людзі, коні, сабакі. Запомнілася баба са ступай. Усё чакаў, што яна падыме таўкач і пачне абтаўкаць крупы. (Гэта маё першае кіно, першае відэа.)

Партыйцы, уцякаючы, загадалі вывернуць у ямы ўчыненую рашчыну з хлебапякарні (каб ворагу не дастаўся хлеб!). Мястачкоўцы, хто чым мог, чарэпалі, насілі дамоў. Пяклі. Хлеб еўся смачна, хоць і на зубах хрумсцеў пясок. Пасля, калі гналі калону ваеннапалонных, кідалі і жанчыны і мы, дзеці, гэтыя праснакі, як тыя, што елі яўрэі, выходзячы з егіпецкага палону. Такім сухарам пясок быў нястрашны.

Яўрэям нашылі жоўтыя лапікі. Зганялі ў адно месца, агароджвалі дротам. (Пасля ў зімовы дзень зрабілі пажар і, заліваючы са шлангаў ледзяной вадой агонь, рабілі ледзянымі вязняў, як у куляшоўскай баладзе пра камсамольскі білет.) Забаранялася яўрэям хадзіць па Вушачы. Калі па ходніку ішоў немец, яўрэй

мусіў сысці на дарогу. Мама ішла са сваёй даўняй знаёмай. Тут патруль. Пытаецца ў яўрэйкі: «Юдэ?» Тая анямела. Мама кажа, што не. І хрысціцца. І за сябе і за сяброўку. Хмару пранесла.

Самым марозным днём расстрэльвалі вушацкіх і кубліцкіх яўрэяў. Як жывая хадзіла яма. Знайшоўся ж адзін местачковец, што думаў палатацца, знайсці золата. (Бо па традыцыйным уяўленні золата заўсёды ў яўрэяў. Калі чэкісты адбіралі золата ў яўрэяў у Вушачы перад вайной, дык і пальцы (і іншае) ушчамлялі ў дзверы, кармілі селядцом, апраналі ў кажухі, грубку напальвалі да яснаты, а вады не давалі.) І яшчэ жывы расстраляны ўхапіў яго смяротным учэпам за нагу. Роў той на ўсё мястэчка. У марозную ноч. Пад месячкам. Ява была жахлівейшая за самыя страшныя казкі. А да суседавай дачкі заляцаўся адзін з добраахвотнікаў. Неяк прыйшоў з цёмным, а на шапцы, на шынялі пырскі крыві і мазгоў...

Ашчадныя немцы арганізавалі краму па збыце яўрэйскага дабра, вархопкаў. Тут была і вопратка, узятая да расстрэлу і пад час расстрэлу, калі ахвярам загадвалі распранацца, як у лазні, у люты мароз, і набыць з хатаў. Гандлявалі былыя камсамольскія актывісткі. Шмат хто з яўрэяў перадаў на перахаванне што лепшае. Так дабро і асела ў чуллівых суседак.

У будынку, дзе пасля вайны было райфа, а потым ваенкамат, арганізавалі школу. Выдатнікам у нашым першым класе быў другагоднік Цяслаўскі, які зубамі выдзіраў цвікі і вылязаў на вуліцу праз комін. Дужа не любіў, калі цвялілі: цясла яечка знясла. Школа пратрывала нядоўга. Партызаны, у асноўным з акружэнцаў, якіх да таго часу пачалі арганізоўваць пакінутыя органамі райкомаўцы, зрабілі напад на сям'ю бургамістра. Забілі дачок, жонку, сам бургамістр страціў прытомнасць, таму і ацалеў. А дочкі былі, казалі, звязаны з другім партызанскім атрадам, як і быццам сам бургамістр. Але партызанская дысцыпліна і зладжанасць вядомыя. Тады аднаго партызана забілі. Паплечнікі не змаглі яго ўзяць з сабой, дык каб цяжэй было распазнаць хто, засыпалі твар тытунём. Кінуты партызан ляжаў пад мостам. Урокі нашыя спыніліся.

У Латышаў быў сын Шурка. Закончыў, здаецца, дзесяць класаў. Дужа добра маляваў. Пайшоў працаваць у камендатуру і дапамагаў партызанам, даваў звесткі, рабіў розныя пропускі, аўсвайсы. Немцы напалі на след. З лесу папярэдзілі і прапанавалі ісці ў партызаны. Бацькі запярэчылі. Шурку забралі. Так і не знайшоўся. А мне падабаўся Шурка. Ён мяне нават некалькі разоў павазіў на сапраўдным веласіпедзе. Уразіла, як напінала-

ся ветрам Шуркава кашуля. Хацелася такую ж. А яшчэ Шурка ў нашай хаце цалаваўся з Васільковай Любкай (у суседа Ярмоша было шэсць дачок, але ўсе звалі яго толькі па імю — Васілёк), а мне казалі ехаць на маім веласіпедзе ў другі пакой.

Немцы любілі дакладнасць. Гналі палонных і, колькі не далічыліся, столькі забралі ў Вушачы мужчын. Лагер быў у Лепелі. Вушацкія жанчыны, узяўшы апошняе з запасаў, ішлі па сваіх мужыкоў. Каля дроту стаялі лепельскія жанчыны з малымі дзецьмі на руках, з граблямі, косамі. Акружэнцы, якім у далёкую Расію не дайсці, жылі з рызыкі. Пільнавалі, калі адвернецца вартавы, тады хуценька выпіхвалі тутэйшага пад дрот. Жанчыны тут жа давалі яму на рукі дзіця, яшчэ якія граблі, і жонка, так бы мовіць, ішла са сваім гаспадаром некуды ў поле на працу. Выратоўцу-акружэнцу была ўзнагародай торбачка са скаромінай. Так бралі сваіх мужыкоў і проста чужых, ратавалі, здабывалі гаспадароў у сумныя хаты.

Немцы, як і камуністы, любілі наглядную агітацыю. Вушацкія паліцаі ў вёсцы Крыжы павыдзіралі вуллі. Жыхары паскардзіліся (у нас казалі пакрыўдзіліся) ва ўправу. У цэнтры Вушачы паставілі шыбеніцы і павесілі ўсіх паліцаяў на чале з Самуйлам. У абавязковым парадку зганялі ўсіх местачкоўцаў глядзець. Мне здалося, быццам пацукі падвешаны за хвасты ўніз галовамі. Рыпеў пад нагамі снег, рыпелі шыбеніцы.

Дзве цагляныя будыніны школы былі каля нашай хаты. Як і пад час рэвалюцыі, гнеў народны да ўсяго добрага, чаго ў саміх няма, праявіўся ў вайну: на школьным піяніна ігралі нагамі, выцягвалі, як кішкі ў вепрука, струны. З комінаў на кручкі вывуджвалі галчанятак. Усеагульнае азвярэнне. Усе сагнутыя і заціснутыя інстынкты выпрасталіся, вылезлі на паверхню.

Немцы абклалі з усіх бакоў школу штабялямі дроў, каб лес бараніў ад ляснога войска, якое ўжо пачало набіраць сілу. Закідваліся з Масквы чэкісты, палітработнікі.

Пачаліся налёты партызан на Вушачу. Колькі разоў сцены нашае хаты прашывалі кулі і з боку школы, і з боку лесу, які блізка падыходзіў да Вушачы, пачынаючыся алешнікам. І пасля вайны быў у нас металічны ложак з прабітай куляй ножкаю. На адной, так бы мовіць, скуры трывала ножка.

Партызаны перамаглі. Немцы і паліцаі адступілі ў Лепель. Там быў умацаваны гарнізон. Адзін паліцай паехаў сам, а жонка з дзецьмі (быў, здаецца, зусім маленькі ў люльцы) засталася ў Вушачы. Партызанскі начальнічак зайшоў у хату гэтага паліцая. Пазнаў сваю шафу. Расстраляў ва ўпор і маладзіцу і дзяцей.

Адзін хлопчык цудам уцалеў (яму куля навылёт прабіла рот), ушчапіўся ў падпечак і прасядзеў там усю ноч. Пад раніцу прыпоўз да суседа, у якога было шмат дачок. Чулыя людзі і хавалі малога, гаілі яго. Куля мала закранула язык. Наноў навучыўся гаварыць. Пасля вайны здалі ў дзіцячы дом. Класавая помста, замяшаная на любові да свайго барахла, справядлівая па-савецку. Пасля ў сына таго патрыёта (гуляў з гранатай) адарвала руку. Даведку пасля вайны і медаль атрымаў сын як юны мсціўца. З рэкамендацыямі партыі і КДБ юны мсціўца быў накіраваны ў інстытут міжнародных адносін у сталіцу імперыі. Ледзь не адзіны з вобласці. У закрытым інстытуце, які ў асноўным рыхтаваў кадэбісцкія кадры пад шыльдай дыпламатаў, вучылі мовам і ўменню піць. Апошняе гэтак хутка засвоіў, што за перастаранне быў адлічаны недзе з другога курса. І рэштку сваіх дзён прапіваў нават матчыну пенсію, магчымы так званы дыпламат з арыентацыяй на Лацінскую Амерыку. Помста нявіннай крыві, а кроў заўсёды нявінная, знойдзе праз гады, у яе крыўдлівая памяць.

З аэрадрома ў Вуле штодня налятаў самалёт і скідваў бомбы на Вушачу. Цэліў па царкве, бо, як пасля высветлілася, былі ў немцаў звесткі, што ў царкве збройная майстэрня. А ўся Вушача якраз хавалася ў царкве.

Мы пачалі капаць у гародзе зямлянку. Аднаго разу наляцела некалькі самалётаў. Я быў дома адзін. Ускочыў у зямлянку і слухаў, як нізка, быццам над самай галавой, гуў страх. Калі мама потым спытала, што я рабіў, адказаў: «Баяўся і маліўся Богу».

А першыя налёты нам, малым, былі не ў страхі. Нас ніяк не маглі загнаць пад масток цераз канаву. Летам там было суха. І выцягвалі мы галовы, як кураняты з кошыка, каб паглядзець на самалёт. Партызанскаму камбрыгу Лабанку[1] зрабілі ў двары Міклашэўскага, дзе ў хаце быў напачатку штаб, спецыяльную зямлянку. У дадатак каля зямлянкі ўмацавалі, як пад буслянку, кола, а на кола ўладкавалі процітанкавае ружжо. Гэта была партызанская зенітка. З яе думалі збіваць варожыя самалёты. Неяк наляцеў самалёт, мы, падшыванцы, пачалі з нашай самаробнай зброі страляць па ім. Выскачыў Лабанок і закрычаў на вартавога, навошта выяўляе сябе. Як быццам у самалёце можна было пачуць нашыя стрэлы з самаробак.

Нашая хата Лабанку падабалася яўна болей, чым нам. Нас — маму, бабулю Маланню і мяне, перасялілі да Васількоў, якім і самім было цесна. Бацька партызаніў недзе ў раёне Багародзіцка, брыгада іхняя трымала абарону па Дзвіне. Мама шыла партызанам маскхалаты. З парашутнага шоўку і бялізну

Лабанку. Мне цяпер зразумела, што ўсе былі маладыя, а тады здаваліся старымі. Дык для жарту Лабанку на крок прышывала банцік. У нас на шырынку казалі «крок». І пасля вайны самым вясёлым жартам было, калі на каманду: «Піянеры, крок раўняй!», мы папраўлялі свае «крачкі». Чуецца і цяпер, як казалі пра нейкую маладзіцу, што дужа любіла: «Ён паміраіць, а яна ў яго па краку качаіцца».

Старая Латышыха кухарыла Лабанку, бо да вайны працавала ледзь не галоўнай кухаркай у санаторыі «Баркоўшчына» (цяперашнія «Лясныя азёры»). Вядома ж, Латышыха ўмела рабіць марожанае. І пакуль гэтыя прысмакі траплялі на высокі стол, нам, малечы, удавалася паспытаць першымі. І пасля вайны атрымалі мы цукеркі ад Лабанка, калі выцягнулі з памянёнага вышэй балотца лабанкоўскі матацыкл, куды схавалі барана з гумовымі капытамі перад блакадай.

Зімы стаялі сняжыстыя. І нам было клопату капаць у снезе траншэі. Аскалёпак нейкага ваенізаванага верша даляцеў да мяне: «Сапёры пад снегам наводзяць шнуры». І ўяўлялася, як гэта яны з галавою пад снегам працуюць. І сам спрабаваў з галавой залезці пад снег. Доўга не выседжваў.

У штабе доўга дапытвалі палоннага палкоўніка. Нічога не сказаў, як ні білі. Тады на шыю накінулі пятлю і пацягнулі да Салатопкі (так звалася мясціна, дзе перад вайной тапілі сала, закопвалі палых коней, выкідвалі смецце рознае з зарбарака), дзе і застрэлілі ўжо і так нежывога. У бальшыні выпадкаў, калі расстрэльвалі, то казалі, што паслалі на Вялікую зямлю.

Гадавалі трусоў. Гэта і мясюга, і шапка з каўняром зімою. Смерць трусіная была імгненная. Бралі за заднія ногі і білі галавой аб вугал. І тропнуцца не паспяваў. А пра жывога трусіка быў узор дзіцячае паэзіі, мацнейшы за школьна-чытанкавыя і патрыятычна-піянерскія ўзоры:

Трусік, трусік,
Чарнавусік,
Падняў ножку,
Пукнуў трошку.

Дый пра ляснога, неасвойчанага ягонага брацiка адразу запамінаўся вершык:

Бегаў зайчык каля рэчкі,
пагубляў свае яечкі,
шараў, шараў — не знайшоў,
як заплакаў ды пайшоў.

Шкада было зайчыка. Радаваліся, што нашыя яечкі пры нас, што не пагублялі, бегаючы каля рэчкі. Бо ў дарослых мужчын быў грозны жарт: «Дзе мой нож, яйцы вон!» Пры гэтым дзядзька рабіў рух, што лезе ў кішэню па нож. Уцякалі дай Бог ногі! Баяліся за свае стручкі.

Не разумеў, чаму дарослыя, калі не звярталі ўвагу на нас, малечу, спявалі:

А па вуліцы мяцеліца мяцець,
А дзед бабу за пяцеліцу вядзець.

А калі нехта спахопліваўся, пачыналі замяняць слова, і гучала: «А дзед бабу за патыліцу вядзець». Мне было адно зразумела, што нязручна гэтак дзеду весці бабу.

Ніколькі не бянтэжыла загадка пра клубок нітак з уторкнутым прутком: «У куточку на пруточку вісяць Мэндэлевы яйцы».

Усе мы бегалі за хлеў і адразу маглі адгадаць і гэтакую загадку: «Дзед карчы драў, корч выдраў, кінуў, а дзюрку панёс». І загадка пра порткі лёгка адгадвалася: «Дзесяць брацціяў цягнуць невад на пердунову гару».

Каля нашае хаты везлі лён з калгасаў на льнозавод, што стаяў над самым глыбокім і найпрыгожым возерам Вечаллем. Возчыкі кідалі з рогатам пытаннем: «Малец, а ў вас маленькія е блюдца?» Не разумеў, чаму ім гэтак рогатна. Любілі пытацца ў нас старэйшыя: «Навошта ты ўкраў цыначкі?» — «Якія?» — «Што пад хвастом у свіначкі». «Навошта ты ўкраў тапары?» — «Якія?» — «Што любіўся без пары».

Іскрыста вучылі змалку мове на гуллівых скорагаворках: «Чые дзеці?» — «Янопавы».— «Хто Яноп?» — «Я — Яноп»; «Авечачка спіць з дачкой»; «Пад паветкай тры кані»; «Стог у яме, стог у яме».

Пазней, ужо ва універсітэце, пачуў я, што ёсць фалічны фальклор. А мне з першых гадоў, калі толькі пачаў разумець сэнс слоў, гэта ўсё было вушацкім гумарам, вушацкім досціпам, вушацкім характарам. І тое, што пазней назвалася дзіцячым фальклорам, было мне будзённа-абыходным, натуральным. Гэта з радыё гучала: «Піянеры Беларусі, гэй, у рад, гэй, у рад, гэй, у рад!» Пісаліся падобныя дзіцячыя песні паэтамі і кампазітарамі-падхватнікамі. Яны на падхваце стаялі каля ЦК камсамола. Дзівіла адно ў гэтай з дазволу сказаць песні, пры чым тут урад?

Адразу запаміналася:

Каза мая белая
Па гародзе бегала.

Аб’елася лебяды —
Сікі-брыкі да вады...

Самі прасіліся на язык розныя бязглуздзіцы, бо дужа ж прыставучымі былі:

Гэндар тата, зроб мне брата,
Толькі меншы за мяне.

Калі будзілі малога, смяшліва пыталіся: «Як спалася, ці суха ўсталася?» Альбо цвяліста падкідвалі, прыгаворваючы ў такт: «Гапачулі-гапачулі, усюкаліся, не пачулі». Само сабой гучала: «Грыгарэц без яец».

Стараўся ўявіць, калі казалі пра дужа далёкую радню, як гэта: пень гарэў, а воўк с... грэў...

І колькі ж ласкі было ў няхітрых калыханках-запыталках, накшталт:

Жыў-быў буцян
На высокіх нагах,
На шырокіх лугах
Ставіў пунь-прыпунькі,
Накашаваў сенца-сянца.
Будзе пачынаць знову, з канца?

Шкада было перапёлку, не цярпелася ёй параіць разам з песняй:

Перапёлка, ты не вій гняздзечка
Блізка ля дарожкі.
Пастушочкі каровак пагонюць,
Яечкі забёруць,
Канюшочкі на начлег паедуць,
Гняздзечка разбуруць.

Мова перадаецца разам з дыханнем матчыным, разам са спевам і плачом, разам з усім укладам, ладам жыцця. З гадамі ўцяміў, што аснова твора празаіка ці паэта ў сваёй, хатняй мове. Гэта не азначае, што толькі сваімі словамі трэба карыстацца. Проста, як той бурштын, след шліфаваць кожнае хатняе слова, каб здзіўляла яно ўсіх сваёй непаўторнай самабытнасцю. Шліфаваць, а не плавіць. Бо плаўлены бурштын блізкі да пластмасы. За гады савецкае ўлады мова бальшыні газет і радыё суцэльна пластмасавая. А душа прымае толькі ўсё натуральнае. І надзею

маю, што ўнучцы маёй Дамінічцы перадасца яшчэ ад мамы маёй праз мяне адчуванне мовы. Цяпер ужо кажа яна пра рагадатую казу, пра тое, як дзедзя брытвіцца, як цяжка (адкуль гэта?) маляваць ворага. Жартую: «Авечачка ты мая», а яна ў адказ: «А ты — авечк (пасля ўдакладняе), авек, казёл-барадзёл».

І ахвотна, яшчэ няўклюдна, скача Дамінічка пад словы, пад якія некалі скакала маладая Кулінка, мама мая:

Падыйшоў, падыйшоў
Казёл пад ваконца,
Ці прадуць, ці цягнуць
Дзеўкі валаконца?
А каторая прадзець,
Казёл танец павядзець,
Каторая не прадзець,
Казёл рогам забадзець.

Слова ідзе з вякоў у вякі. І словам вякі жывыя.

Дарослыя жанілі Цярэшку. Выбіралі дзеда і бабу. Станавіліся ў два шэрагі. Дзед лавіў бабу, баба ўцякала. Усё гэта пад песні вясёлыя, іскрыстыя. Незразумела было, што гэта збіраўся рабіць дзед, калі спяваў:

Пастаі, бабулька, ў кутку,
А я разганюся ды ўткну!

Ці што гэта прасіў дзед:

Дзед бабе чугай пашыў,
На начы сем раз прасіў.

Дарослыя жанілі Цярэшку сабе, мы — сабе. Толькі ў нас замест паравой ці катлянкі-самагонкі быў адгон. Прывыкалі. Бо партызаншчына без самагонкі, як вяселле без музыкі. Афіцыйна гналі для шпіталяў ці для залівання ў кожухі кулямётаў. На гэтыя мэты нешта сапраўды заставалася пасля камбрыгаў, камісараў і драбнейшых чыноў. Цякло па барадзе і ў рот трапляла і шаранговым партызанам. Апошнія гэты прадукт здабывалі самі як абаронцы.

Былі ў партызан і мастакі. Малявалі партрэты начальства, прыгожых маладзіц, батальныя сцэны а ля прымітыў і абавязкова плакаты ў духу Кукрыніксаў. Плакат падвешваўся да паветранага змея і пры спрыянні ветру скіроўваўся ў бок Лепеля. Вяршыняй

лічыўся такі: дужа жахлівы сухарукі Гітлер размахваецца молатам, і подпіс: «Размах рублёвы, а ўдар х...ы». Партызанская цэнзура дазваляла не ўжываць эўфемізмаў.

Пакуль не апранулі іх у вайсковую форму з-за лініі фронту, начальнікаў пазнавалі мы па шыкоўных кажухах ды па каляных валенцах. З селяніна як пачалі на пачатку саўулады драць скуру (камісары абавязкова ў скуранках!) ды стрыгчы воўну, так цягнулася і ў партызаншчыну. Вёска — безабаронная ўдава. І немцы і партызаны толькі бралі. Да сценкі ставілі то за спагаду адным, то другім. Вёска, як боб пры дарозе: то будаўніцтва светлага заўтра, то вайна. Светлае заўтра цягнулася адным цёмным днём, вайна ўслед вайне ішла...

Была ў партызан гармата. Стаяла на гары каля пажарнай. Стралялі ў бок Лепеля. Адзін раз, успамінаў потым Лабанок, снарад трапіў у рэстаран уночы. Закладалі снарад, а пасля цягнулі за вяроўку і адбягаліся за сцены пажарнай. Болей грукату, чым покату.

Шмат якія даваенныя ўстановы былі пад даглядам ветру. У былую рэдакцыю газеты «Прымежны калгаснік» (недалёка ішла мяжа з Польшчай, і назва газеты давала прыклад савецкага ладу жыцця) зазірнуў я аднойчы. Нікога. Пуста. Мароз ды я. Бачу вялізнае кола. І захацелася мне крутануць яго, як дурню стрэліць (стралялі мы колькі хацелі, было з чаго і было чым). Крутануў. Толькі іскры з вачэй, ды на лбе пачаў расці гузак з бацькаў кулак. Не ведаў, што гайка, якая трымала кола, была гэтакім жа, як я, цікаўнікам звінчана. Гэта было першае знаёмства з друкам, з прэсай і першым папярэджаннем, дзе чакаюць гузакі. Пасля вайны знаходзіў шрыфты з гэтай жа друкарні. Складаў сваё прозвішча, пераціскаў гумкай і, намазаўшы гэтакі набор чарнілам з буракоў, націскаў на паперыну. Першае з’яўленне свайго прозвішча ў друку.

Пад час налётаў з Вулы ўсё-такі адна бомба трапіла ў царкву. Панявечыла. Цэлы заставаўся касцёл (барацьба за царкву ў свой час была зацятаю, то да праваслаўных пераходзіла, то да католікаў, пакуль канчаткова перамаглі праваслаўныя вернікі), пабудаваны недзе ў 1915 годзе. Цынкавая бляха спатрэбілася на вёдры. Дый усё, што можна было адвінціць, ададраць, панесці, павезці, па ленінскаму лозунгу экспрапрыіравалі, лозунга гэтага, можа, і не чуўшы.

Перад касцёлам немцы пахавалі сваіх забітых. Цэлы бярозавы гай крыжоў бялеўся. Прыйшлі партызаны — крыжы зрэзалі. Пасля вайны трактарам утрамбоўвалі магілы. Але яшчэ доўга

летам, калі лажыўся туман, усё ж акрэсліваліся погарбы. Нарэшце зрабілі якраз на гэтым месцы танцпляцоўку. Бо побач ляжыць каталіцкі магільнік, куды хадзілі піць, прадаўжаць род чалавечы, пасядзець пад кустом з кавалкам савецкай прэсы, дзе павывернулі ўсе надтрунні, пакапалі-перакапалі магілы ў пошуках скарбаў і для следапыцкіх навыкаў. Хто меў большую сілу, пачаў выдзіраць квадратаваныя камякі з падмуроўкі касцёла. Юныя ленінцы вучыліся быць варашылаўскімі стралкамі — з рагатак выбівалі каляровыя шкельцы вітражоў. Прызнаюся, і мне хацелася зіхоткае шкельца, але не меў рагаткі. Мама сурова забараняла. Я такі нявінны, выходзіць, як гаспадыня з вёскі Новы Двор пад Мінскам, дзе на першым курсе універсітэта капалі бульбу. Яна мне скардзілася: «Суседзі — гады, пабілі камянямі маіх курэй. Я колькі ні мецілася ў іхніх, ні разу не пацэліла».

Пасля была «прыпяканка» і ледзь не пісталет. А напачатку вырашыў стрэліць прымітыўна. У калоду загнаў баявы патрон. Тут жа цвік. Цвік нагнуў галоўкай над капсулем. Адвярнуў галаву і абухом сякеры стукнуў. Стрэлу не пачуў. Тады нахінуўся і вострым кончыкам сякеры ўдарыў. Бухнула. І як бы асва ўпілася ў мой да гэтага роўны, ледзьве не кірпаты нос. Нос распух. Маме сказаў, што выцяўся аб бугаркаваты лёд. Бо калі скардзіўся, атрымліваў зверху, каб не лез абы-куды. І толькі гады праз два па вайне, калі нос пачаў загнойвацца, прызнаўся ўсё ж маме. Атрымаўшы рамяня, быў неяк адвезены ў Полацк у вайсковы шпіталь (гэта каля Сафійкі), дзе і дасталі з майго ўсюдысуйнага носа саржавелы ўжо вайстрачок. Маміна смуглата, маміны цёмныя вочы (бацька быў сінявокі, русявы) і самім мною пагорблены нос дазвалялі мне і на Каўказе і на Усходзе сыходзіць за свайго.

У вайну можна было ўзяць кавалак зямлі і нешта пасадзіць ці пасеяць. Бацька на перадавой партызанскага фронту. Бацькаў пляменнік, падлетак Пятрок, які партызаніў у Кавалеўшчыне ды ў Вушачы, заараў надзел. Суседу Апёнку не спадабалася, відаць, кінуў вока на гэты ўчастак. Ганяўся за мамай з пісталетам і крычаў: «Я гаспадар усёй Вушачы!» Ён, даваенны сувязіст (разам з мамай ганялі кароў на пасту, парабкавалі), быў пры штабе, пры начальстве. Прыйшоў на пабыўку бацька, ледзь мама адгаварыла яго не чапаць суседа. Размова магла скончыцца стральбой. Бацька ўсё не мог супакоіцца: «Я на перадавой, а ён тут каля бабскіх спадніц ваюе!»

Пачыналася блакада. Узялі з сабой што можна было панесці, карову за рогі і рушылі з усімі пад Лявонаўскую пушчу. На

драўляным мосце цераз рэчку ўспомнілі, што забыліся выпусціць з падпечка трусоў, вярнуліся, выпусцілі. Трусы перажылі блакаду, размножыліся, ад'еліся на здзічэлых гародах. Іх пасля лавіў і біў стары Латыш, хвалячы смачнае мяса. Мы давіліся посніцай.

Блакада не ведала літасці ні да кога. Партызаны адыходзілі, пакідалі ўсіх, і старых і малых. На вазах параненыя прасілі іх дастрэліць. Не было калі. Не чулі.

У лесе быў згубіўся. Крычаў-крычаў: «Мама!» — нікога. Закрычаў: «Куліна!» Мама знайшлася. З аўчаркамі выгналі нас у вёску Пліна. Стралялі па востраве, што на возеры. Пагналі назад у Вушачу.

Мост ужо быў пантонны. Даваенны, драўляны, партызаны, здаецца, паспелі знішчыць. І наколькі хацелася ў партызана папрасіць стрэліць з аўтамата, наколькі з замілаванай зайздрасцю глядзелі мы на дарослую цацку, настолькі ў веснавы дзень ледзянілі жахам аўтаматы ў немцаў. Сагналі ўсіх да бальніцы.

Мы яшчэ адтуль пайшлі паглядзець на сваю хату. На дварэ проста ў маладым садзе стаяла нешта накшталт самаходкі. Вокны былі пазапінаны прасцірадламі. Яшчэ цвіў бэз. Адна яблынька была вывернута, пахілілася. І сёння яшчэ, ужо старая, стаіць яна згорбленая ў маміным садзе.

З Вушачы пагналі нас у вёску Качаны. Пустыя хаты. Тыфус. Я захварэў. Мама баялася, што немцы агледзяць, могуць застрэліць для прафілактыкі, па-сучаснаму кажучы. З Качаноў вярнуліся ў Вушачу. Жылі за рэчкай, на тым баку, як у Вушачы кажуць. Зноў пераходзілі цераз пантонны мост. Дождж. Бліскучыя плашчы на немцах. Аўтаматы. Сабакі. Нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку, сцвярджалі старажытныя, мост адзін і той жа мы пераходзілі двойчы, мост пакут і страху, мост цераз раку жыцця і нябыту.

Па начах усё гучней і гучней чулася кананада. Яна блізілася. Да нас у лазню над рэчкай прыходзіў стары немец. Частаваў бутэрбродамі. Казаў, што хутка прыйдзе наша армія.

Аднойчы на шарэнніку, пасля густой страляніны, настала такая цішыня, што чуваць было, як трава пад расой гнецца. Імгненне. Гул матораў. Танкі. Чые? Усе суцішыліся, стаіліся. І тут раптам чуем: «Мать-перемать!» Нашы!

Прыйшлі на галавешкі. Адну з чатырох на ўсю нашую Каменскую вуліцу (бо вяла на Камена, а пасля яе былі перайменавалі ў Калініна) хату спалілі немцы пры адступленні. Звычайна палілі канцавую хату. Але, уцякаючы, партызаны не знялі антэну са штаба Лабанка, не прыбралі іншыя атрыбуты сувязі з парты-

занамі. Матацыкл у балотца схаваць паспелі. Помнілі адзін са сталінскіх тэзісаў: тэхніка вырашае ўсё.

Усеагульны парыў ахапіў местачкоўцаў. Цяпер ужо з былых нямецкіх устаноў (як некалі з яўрэйскіх хат) хоць што ды сцягнуць, схапіць, звалачы. Хоць стол, хоць крэсла, хоць шматок паперы. Пакуль улада не ўстанавілася. Забег і я ў былы будынак райфа (там колькі часу школа была, як ужо казаў), усё чыста забралі руплівыя гаспадары. Бачу, нешта блішчыць. Невялічкае. Металічнае. Схапіў і ходу, каб не адабралі. Дома, схаваўшыся надзейна, разглядзеў здабычу. Гэта было нешта, што рабіла дзве кругленькія дзірачкі. Дакладна кажучы, дзіракол. Я ім праколваў лісцінкі бэзу. Паперы не было, а бэзу хапала. Калі адужалая ўлада вяртала нарабаванае, дужа баяўся, што ў мяне могуць выявіць такую каштоўную рэч і загадаюць здаць.

Адыходзячы ў лес, кожны нешта закопваў у сябе на гародзе. Употай. З надзеяй вярнуцца. Мама закапала сваю карміцельку — швейную машынку, нешта з посуду, з адзежы, фотакарткі. Пасля вайны за машынку ў яшчэ некалектывізаванай вобласці (у вершы мне гэты радок цэнзура нязменна выкрэслівала) купіла маладую кароўку недзе ў Падсвіллі. Калі падрос, бацькаў касцюм перашыла на мяне. І цяпер з фотакартак (хадзілі да Фурмана) пазіраюць на мяне маладзенькія мама і бацька. Бацька ў касаваротцы, падперазаўшыся раменьчыкам (тым чорненькім, якім мне гразіўся, калі я дурэў), у доўгахалявых ботах, сядзіць на крэсле нага на нагу. Мама, паклаўшы бацьку руку на плячо, стаіць. Усё вытрымана ў стылі часу.

Я ніяк не мог знайсці свае патроны і зброю. Доўга і безвынікова, як пішуць у газетах, пароў я гарод усім, чым папала. Мой скарб ці ўзяў падземны гаспадар на ўзбраенне, ці нехта знайшоў.

На пагарэлішчы мама стаўляла хату. Як вялікую ласку зрабілі — дазволілі перанесці напалову зруб, напалову хаціну, складзеную з тэлеграфных слупоў. Памагаў імшыць і палонны немец. Вечарам пасля талакі смачна еў з намі бульбу, згатаваную на цяпельцы. І колькі жыла мама, усё дарабляла хату: то абмазвала трухлё глінаю, то паднаўляла падлогу па дошцы, то шалявала. Для ўдавы ўсё было дорага і недаступна. Прымаўка праўду кажа: хата рагата. Калі на чым і трымаецца зямля, дык на родных хатах.

У школу ісці яўна не хацелася. Навокал гэтулькі патронаў, снарадаў, мін. Снарад можна ўкінуць у вогнішча і, адбегшыся, чакаць, калі гахне. Самае бяскрыўднае — проста ў вогнішча

накідаць патронаў ды бегаць вакол вогнішча. Гэтакі карагод на праверку харобрасці. Яшчэ шмат гульняў было з патронамі. Ну хоць бы такая: у жароўню клаліся гарачыя вугалі і патроны. Круціш вакол свае галавы. Вуголле разгараецца, патроны пачынаюць страляць. Да цябе не падступіцца! А размініраванне мінаў. У раённай бальніцы была цэлая «палата мінёраў», дзе ляжалі падлеткі без рук, без ног, пакалечаныя, знявечаныя. Ды як можна спакойна сядзець на ўроках, калі гэтулькі забаў чакае. Прыйшоўшы дамоў са школы, ахвотна паказваў, як стаяў у куце за тое, што круціўся на ўроку.

Яшчэ быў адзін клопат. Нам, малечы, ці, дакладней сказаць, перарасткам, вайна і не думала сканчвацца. Увесь вольны час капалі акопы, траншэі. Хатнія заданні былі чыста ўмоўнымі. Ні падручнікаў, ні сшыткаў, ні чарніла, ні пёраў. Запамінаў я добра, варта было настаўніцы адзін раз прачытаць у класе. Сшыткі рабіліся з усяго, дзе толькі была папера хоць з малымі прабеламі: з абрыўкаў старых шпалер, з газет, іх зрэдчас можна было купіць на пошце. Пошта была самым галоўным цэнтрам асветы — прыходзілі нейкія кніжкі, алоўкі, пёры, газеты. Чарніла рабілася з буракоў, з кары вольхі ці крушыны. Карой жа фарбаваліся і шарачковыя штаны, і паддзёўкі, і нават кофты-вязанкі. Калі шанцавала здабыць пяро, з ручкай праблемы не было. Выстругаеш з дрэва і ці прывяжаш пяро, ці проста ўторкнеш у доўгі гэты шпунток.

Хоць настаўнікамі забаранялася, гулялі ў пёры, у шлёп, у ножычкі. Даводзілася наесціся зямлі, пакуль зубамі выцягнеш глыбока загнаны калочак пры гульні ў ножычкі. Выйграеш — цэлы набытак, ноч не спіш ад радасці. У шлёп прагуляў я цэлы кацялочак старадаўніх манет, і срэбных, і медных. Некалькі засталося. Унікальная была калекцыя, разумею цяпер.

І, накапаўшыся акопаў ды траншэяў, пайшоў я па загаду мамы ў цырульню, бо зарос, як гарод без гаспадыні. Цырульнік быў невялікага расточку. Яго да старасці іначай не звалі як Грышачка. І пайшоў, значыць, стрыгчыся Грышачка (так мяне ласкава звала мама) да Грышачкі. Правёў цырульнік адну баразну ў мяне на галаве і кажа, што болей стрыгчы не будзе, бо ў мяне не галава, а гарод, дзе можна капусту садзіць, а ў яго машынка адна і не збіраецца ён пясок стрыгчы. Ці перапалох у маіх вачах, ці, можа, магчымыя слёзы ўлагодзілі Грышачку — дастрыг, скрыгочучы зубамі машынкі.

Пазней мама купіла машынку і, зашчаміўшы маю галаву, стрыгла таксама пад цёзку — пад Катоўскага. А я так і не

прызнаўся маме, што зламаў машынку, залезшы з ёй на гару (у нас гарышча называлі гарой, а падполле — ямай). Спачатку баяўся, пасля сароме́ўся, а потым забыўся. А сорам не прайшоў.

Першую сваю настаўніцу не магу ўспомніць добрым словам, як гэта ні крыўдна. Крычала. Пускала ў ход рукі. Шукала па хатах, ці не пакралі ў яе кацялкі ды міскі, калі нас, некалькі сем'яў, жылі перад вызваленнем Вушачы на тым баку. А там была яе хата. Прыкра дасюль.

Затое прыйшла да нас другая — станістая, чарнавокая, з цяжкімі косамі Ефрасіння Міхайлаўна. Я быў закаханы ў яе. Стараўся з усяе сілы звярнуць на сябе ўвагу, аж падчас атрымлівалася адваротнае з майго старання — круціўся, парушаў дысцыпліну.

А муж маёй любімай настаўніцы быў пазней дырэктарам школы. Ад яго я ўпершыню пачуў літаратурна правільную, пявучую, сакавітую беларускую мову. Алесь Антонавіч Карабань. Ён і з трыбуны пад час прастольных савецкіх свят гаварыў па-беларуску. А ўсё начальства, малоцячы, як цяпер кажуць, на дземянцееўцы, думала, што гаворыць па-руску. Я толькі чакаў, калі аб'явяць: Алесь Антонавіч Карабань. Якраз Алесь. Дужа цёпла, дужа сардэчна гучала нават адно імя!

Баба Малання, маміна мама (маміну маму я зваў бабай, а бабіну маму — бабулькай, яна прыходзіла з Тураўлі ўся ў беленькім, з гасцінцамі, была уніяткай, малілася па-беларуску), з нічога пякла мне баранькаў, вавёрачак, зайчыкаў. Давала на дарогу ў школу. А я ўсім гэтым звярыным светам адкупляўся ад суседскага сабакі Баяна. Вялізны, з выгляду люты, за гэта Баян дазваляў мне садзіцца на яго верхам. У Баяна было адно хобі — даганяць і пераганяць любую машыну. Аднойчы з кузава грузавіка нехта пацэліў у Баяна гільзай з-пад снарада. Я не ведаў гэта. Адразу на свайго канька. Баян як хапіў мяне за руку і кусаў ад нізу да верху. Наогул, Баяну хапала. Апёнак як заядлы паляўнічы вучыў раённых «кручкоў» паляваць. І няўмелыя паляўнічыя, перш чым трапіць у качку, качыны шрот заганялі Баяну ў нос.

Гаспадары раёна не адчувалі ні разрухі, ні посніцы, ні бясхлебіцы. П'янкі ды гулянкі. Асабліва размах любіў начальнік раённага аддзела МДБ Калашнікаў. Драўляны будынак МДБ і ў спякотны дзень напамінаў пра кажух: хапалі, катавалі, знаходзілі ворагаў і шпіёнаў гэтулькі, колькі па планах трэба было. Як і сам бацька, бугаяваты сынок Калашнікава любіў дзяўчат. Нават настаўніц вадзіў на могільнік. Адмовіць ні бацьку, ні сыну ніхто не асмельваўся, бо Варкута ад нас не дужа і далёка.

З Полацка наязджаў зубны ўрач Лаўжаль. Ставіў зубы. І выраз: пакласці зубы на паліцу — рабіўся канкрэтным. Устаўныя можна было пакласці куды хочаш. Зубны ўрач спыняўся ў Апёнка. Пачыналіся такія застоллі (не як у показцы пра яўрэйскае вяселле: трэці дзень гуляе ўсё мястэчка, і Хаімку пасылаюць па другую пляшку), што мы ўтрох — Апёнкавы Генька і Толік і я — толькі і паспявалі ледзь не з даёнкай бегаць у магазін па сырэц. За працу мелі на «падушачкі». Іншых цукерак не было. У магазіне сядзела прадаўшчыца з раённым пасляваенным макіяжам (за што яе называлі жар-птушкай) і круціла патэфон. Ліліся саладжава-аптымістычныя песні. А тым часам падшыванцы кралі, што лёгка можна вынесці. У гэтай краме купіў я кніжку «Што такое добра і што такое дрэнна». Чыталася цяжка, няскладна. Пераклаў на беларускую мову Якімовіч[2].

З сырцом у мяне звязаны і другі ўспамін. Прыйшоў са школы. Гэта недзе класе ў другім. Зайшоўся да Міклашэўскіх. Там дзядзькі нешта будавалі, а значыць, пасля пілі. У нашым баку ніводзін зруб, ніводная падлога не можа рассохнуцца, бо як не пад кожнае бервяно, кожную дашчурку выпіта бутэлька да пачатку работы, у час работы і пасля работы. Звычай гэты да нашых дзён не парушаецца. Дзядзькі, значыць, убачылі даўганосага худзяка і далі паспытаць «вогненнай вады» (пра яе начытаўся потым у кнігах пра розных тубыльцаў). У партызаншчыну патроху іншы раз спрабаваў адгон. А тут далі мне болей чым паўлітровую медную кварту. Я адразу ўзяў, як гаворыцца, на лоб. Дзядзькі ацвеі разелі. Іду дамоў — хата стаіць на стропе страхі, ганак дагары, ложак дагары нагамі. Ледзь выжыў. Свет дагары нагамі не раз яшчэ здаваўся не толькі ад вогненнай вады.

Спагадлівыя дзядзькі суцяшалі мяне і з іншае нагоды. У нас руская мова выкладалася з другога класа. І класе ў трэцім-чацвёртым атрымаў я кол (добра гарод гарадзіць, жартавалі тады) па мове. Помню, дзядзькі запыталіся, што я не так напісаў. Сказаў: у слове «комсомолец» у першым складзе «а». Дзядзькі, закусваючы камсой (тады рыбы было і азярной і марской поўна), абурыліся, што настаўніца прыдзіраецца. «Камса — а, і камсамолец — а. Граматсеем вырасцеш!»

Ад слабых харчоў, ад холаду абклала галаву скуллём. Мама нечым мазала, нешта прыкладала. Самае страшнае, што ў школу трэба было ісці ў хусцінцы. Шапку наверх на вуліцы толькі надзяваў. Колькі папсаваў маме нерваў сваімі капрызамі, бо ўсё здавалася, што не па-мужчынску выглядаю. Асабліва як напаў лізун-месяц. Гэта калі хлопчыкі пачынаюць кавалерыцца, а дзяўчаткі дзеўчыцца.

І сапраўдным пеклам было хадзіць у лазню з жанчынамі. Як гарэў ад сораму, як закрываў аберуч сваё падрабяззе! У асноўным розга вяла мяне ў лазню. Забіваўся на самы верх на палок, у тумане пары хаваўся. І перамогай і шчасцем было, нарэшце, права хадзіць у лазню аднаму, але разам з мужчынамі. Хочаш, мыйся, хочаш, не мыйся — самастойнасць.

Мама дужа добра шыла. Прапаноўвалі ісці ў арцель. Не пайшла. Гаспадарка, хай і невялікая, патрабавала шмат увагі. Дый за сынам трэба было прыглядаць, каб ад рук не адбіўся, каб не навучыўся на сабак брахаць. А мяне цягнула на волю — іншыя ў школу не хадзілі, курылі, выколвалі сабе на руках і якары ды ўсё, на што фантазіі хапала, і, вядома ж, свае імёны. Мама пайшла працаваць прыбіральшчыцай у райспажыўсаюз (рай там быў начальству і спажыва таксама), а дома шыла. Заказаў было досыць ад раённай знаці (лепей бы яе не знаці!) дый ад бедных местачкоўцаў, бо магла і з чаго пашыць так, што ого, і з нічога нешта. Калі яна спала, пачынаю ўспамінаць і не прыпомню. Калі сонца спіць, ніхто не бачыў. Не для акрасы слова паўтарала: калі рупіць, тады і вочы лупіць. Да апошняга была мама рупніцай. Па-латышску rupnica — фабрыка, завод.

Чаму латышскую мову згадаў? Бацька мамін быў латыш. Рыжанін Галвіньш — механік па млынах. На млыне дзён маме хапала не гэтулькі мукі, колькі мукі. Зноў жа прыгаворвала: «На рукі хопіць мукі. Цягніце жылы, пакуль жывы».

І мне было відаць, што робіцца з чалавекам, калі яго возьме сыць. Раённая ўрачыха прынесла маме незвычайны заказ — са святарскае рызы пашыць хатні халат. Каб багіняй мужу здавацца. Адмовілася мама ад гэтакага заказу і ад вялікай платы. Затое колькі перамераў я дзявочых сукеначак. Працаваў манекенам у мамы. Паколькі фігура мая мала чым адрознівалася ад тых дзеўчынёшак, якім шыліся сукеначкі, мама прымярала на мяне. Вылупкі радаваліся абноўкам. Вылупкамі ў нас называлі малых модніц, якія са скуры лупіліся, каб апрануцца як непадобней, як мадней. І яшчэ на іх скура гарэць пачынала.

Мне балюча робіцца, калі бачу, як хутка шыюць на машынцы. Мама прабіла іголкай вялікі палец наскрозь. Цяжка выходзіла іголка з пазногця. Доўга ў нас была бацькава падушка, дзе на навалачцы мама выстрачыла машынкай: «Спакойнай ночы».

Калі ехаў вучыцца ва універсітэт, мама мне пашыла касаротку (як некалі бацьку). Зайшла загадчыца бібліятэкі і заўважыла, што ў горадзе не ў модзе такія кашулі. Мама толькі сказала: «Будзе галава, будуць і гарадскія кашулі». А ўсё-такі

нешта засталося, што не магу прайсці абыякава каля кашуляў у магазіне. Дзе б ні быў.

І ў партызаншчыну, і пасля вайны і ткалі і пралі. Хадзілі ў перагуды калаўрот з верацяном, старэчымі касцямі рыпелі кросны. Прадзіва мерылася на сцены: напрасці, ці аснаваць адну сцяну, дзве сцяны. Мне даводзілася працаваць матавілам. Зводзіш кулакі, адтапырваеш локці і на іх намотваеш ніткі рухам, нібыта кіруеш рулём веласіпеда. І не са слоўнікавых куфраў дастанымі мне чуюцца словы: цэўкі, панажы, набільніцы, бёрды, рукаятка. Яно калі малую гушкалі, прыпявалі:

Ай, цюк дык і цюк,
Лепей дзеўка, чым дзяцюк.
Дзеўка хату падмяцець,
Рукаятку напрадзець.

Калі ж хлопчыка падкідвалі ўгору, жадалі:

Вялік расці,
Дзевак басці!

Мне тады няўцям быў прыгавор: ні адзін бык карову не забоў, ні адзін мужык жонку не забіў; сраччына даражэй за матчына. Прагрэс, праўда, перайначыў шмат што ў векавых прыгаворах, прымаўках ды прыказках.

Мама асабліва часта пяяла песню пра горкую рабіну. І не разумеў я, што такое ліцяцюткі. «Ліцяцюткі, ліцяцюткі і два гусі, ой, каго люблю, каго люблю, не даждуся». Я наўмысна грубіў маме, каб не пяяла тужлівыя песні. Не хацеў падпускаць да сябе жаль і расчульванне. Бо мужчыну гэта не падыходзіць.

А мама чакала да канца дзён свайго Івана, бацьку майго. А некалі ж нязлосна цвялілася: «Гора маё гора, што муж Ягора, хоць бы дурны, ды Йванька». Пыталася ва ўсіх, ці бачылі, ці чулі, ці помняць партызана Івана Барадуліна? Адны казалі, што нібыта паранены сам сябе падарваў, другія, што загінуў у вёсцы Белае каля возера. Ні ліста ад жывога, ні пахавальнага ліста. А непахаванага чакаюць, пакуль жывуць. У рэдкія светлыя хвіліны пяяла мама ў дакор ліху:

А ў мяне гора многа,
Гору не паддамся,
Галовачку прычашу,
На вуліцы папляшу...

І скакала гора. А мама расчэсвала свае густыя чорныя да сіняты валасы на прабор. Як у цёмным ельніку са светлых бяроз прасека.

І ў рэдкія светлыя часіны, і ў даўгія чорныя звярталася мама да Бога са шчырай малітвай. Як стаў сябе помніць, заўсёды ксціўся, паўтараў за мамай «Ойча наш».

У хаце на куце жыў Бог. Іконка была ахінута ручніком, умаяна летам жывымі кветкамі, зімой папяровымі, а сэрцы ў папяровых былі з засушанага цьмяну (бессмяротніка).

З нічога мама вымышляла нешта смачнейшае на святы. Усе святы шанаваліся, святкаваліся. У нядзелю нічога не рэзалася, не секлася, не прыбівалася, не габлявалася, не шылася, не пралася.

Асабліва любіў я Каляды і Вялікадне, Вялічка. На Каляды сена на стале засцілалася настольнікам. Я чуў, што ў ясельках нарадзіўся Хрыстос. Хадзіў у хлеў глядзець, а ў яслях ляжала ласейшае сена карове. У каровы звычайна гэтай парой на слабенькіх ножках бегаў сынок-сысунок. А мне ўсмак было малодзіва, якое я неяк звязваў з маладзічком на небе.

Адразу ж пасля Каляд пачынаў я чакаць Вялічка. Відаць, мама некалі дала мне надзець блакітную кашулю. З нечым блакітным звязваецца ў мяне цёплае свята. У місе з вадой ляжыць чырвонае свянцонае яечка. Гэтай вадой трэба абмыць твар, вочы. Адбіўшы паклоны перад абразамі, прачытаўшы малітву, хрыстосуешся. На стале абавязкова свянцонка, сыр, масла, белая булка. Пасля біцца яечкамі.

Бацька дужа доўга выбіраў яечка, зубіў-стукаў аб зубы, правяраў на моц. Звычайна тое, за якое меней узялася фарба (фарбавалі ў шалупінні ад цыбулі), яечка было мацнейшае. Першы дзень біліся носікамі, на трэці — пухой (срачкай яечка). Бывала, што ў яйка налівалі смалы і такой біткай набівалі цэлыя кошыкі хітрыя хлопцы. Качалі яечкі на вуліцы.

У мяне быў свой інтэрас, каб не супалі праваслаўнае і каталіцкае Вялікадні. Бо калі мяне трэба было хрысціць — ішла культурная рэвалюцыя. Святарам падпальвалі бароды, трактарамі сцягвалі крыжы з храмаў, абразамі палілі печкі. Асабліва перажывала бабуля Малання, што ўнук расце нехрысцем. Праездам быў ксёндз. Вырашылі ахрысціць хоць у ксяндза. Маткай хроснай была Феліцыя Антонаўна Міклашэўская, хросным бацькам — Качан. Ягонае імя і па бацьку мама ніколі не казала мне.

Потым, калі прыязджаў праваслаўны святар, бабуля хацела, каб перахрысцілі. Мама не згадзілася. Так і святкаваў я два Вялікадні.

Вялічка звініць мне песнямі валачобнымі:

Валабочнічкі валачыліся,
Хрыстос васкрос, сын Божы.
Валачыліся, замачыліся,
Хрыстос васкрос, сын Божы...
Масці кладку,
Хрыстос, сын Божы ўваскрос,
Заві ў хатку,
Хрыстос, сын Божы ўваскрос.
Масці кладачку,
Заві ў хатачку.

Толькі не любіла мама ў валачобных просьбах грозьбаў:

Не дасі яец —
Аблупіш авец,
Не дасі сыра —
Паложыш сына.

Мама, што называецца, дыхала на мяне. Казала, бывала, як мяне маленькага (нарадзіўся дужа з малой вагой) клалі спаць у рог падушкі, пасля ў паланачкі. Але не дазваляла, каб пайшоў паверх папараці. Любіла, як душу, і калаціла, як ігрушу, калі тое зарабляў. І я рос мамнікам. У нас пра малога, які дужа гнаўся за маці, хвастом хадзіў за ёй, казалі — мамнік. Дужа хацеў вырасці, каб не быць кату па пяту, сабаку па с...у.

Усё ад маці. Недарэмна ж нават пры вызначэнні нацыянальнасці пры змешаных шлюбах (у нас добрае слова ёсць — мяшанец) кіраваліся нацыянальнасцю маці. Пазней, атрымліваючы «чырванаскурую пашпарціну», грамадзянін быў вольны на свой настрой выбраць нацыянальнасць. Заадно пры перапісе насельніцтва і родную мову. Нават тэрмін увёўся — дзве родныя мовы. Не раўнуючы як у вясёлай паскакушцы: «Ах, лапці мае, новыя аборкі, хачу дома заначую, хачу — у Хадоркі»). І пры фармальным запытанні адказ анкецёры-перапісчыкі мусілі запісваць простым алоўкам. Каб падцерці, каб трымаць раўнавагу прыросту рускага народа, рускай мовы.

Толькі з малаком маці перадаецца натуральная, родная мова. Парашковае малако — парашковая мова. Вера ў Бога ад матчынай душы, малітва — з вуснаў маці.

«Чалавек відаць зімой без кажушка, летам без кароўкі», — прыгаворвала мама. І карова была як сямейніца, яе шанавалі,

за ёй прыслужвалі, з ёй гаварылі. Калі ішла з пашы, глядзелі, ці выпаўнены бакі. Паўнейшым мусіў быць правы бок. Значыць, добра напасцілі.

І сапраўдную сялянскую карыду нагадваў статак, калі кароў забіраў гіз. Гізавалі амаль як газавалі пасляваенныя газагенератарныя трохтонкі, што па прынцыпу самавара працавалі на асінавых чурках. Прымаўка кажа: карову б'ець зык, а бабу — бабскі язык. Цэлыя соймы праводзіліся, калі ішлі маладзіцы ў поле даіць кароў, калі вярталіся з даёнкамі, павязанымі, як жнеі, белымі хусцінкамі, касынкамі, кавалкамі марлі. Языкатых баб называлі язычніцамі.

А і на самой справе жылі яшчэ язычніцкія, паганскія карані. Цэлы рытуал вяршыўся пры выгане каровы першы раз на пашу. Я памагаў маме шкрэблам вычэсваць нашую Лысоню. У падупалых, схудалых зусім за зіму кароў з хрыбціны вароны выскубвалі кузлакі поўсці сабе на гнёзды. Добрай гаспадыні гэта было не ў нос. Да ўсходу сонца мама брала з крыніцы ваду, ёю абмывалі карове рогі і вімя (у нас не казалі вымя), ваду лілі праз шклінку — ад уроцаў. Карове пяклі перапечку. На Юр'я на дзенніку ў варотах пасцілалі дзедаў пояс, клалі два яйкі, іконку. Карова, выходзячы з хлява, пераходзіла пояс. Давалі пастуху паднос — яйкі і сала. Я быў ашалеў, калі ўпершыню прачытаў Купалаву паганскую паэму «Яна і я». Ці Купала пісаў, як мама ўсё рабіла, ці мама рабіла ўсё так, прачытаўшы Янку Купалу, падумалася.

Было яшчэ адно свята, якога чакаў з надыходам халадоў. Яго можна назваць і святам першай скваркі, і святам чэрава.

Убоіны. Просім суседа. Мама зачыняе шчыльней дзверы, каб не чуць кароткага, але балючага віску. Толькі што занесла парсюку самага ласага. Некаторыя байцы пілі яшчэ гарачую кроў квартай. Смалілі саломай кулявой, смалілі перакладкамі ад сахі, з часам «адпявалі» парсюка паяльнай лямпай. Мылі цёплай вадой, скрэблі, бакі парсюка былі як шчокі ў дзядзькоў пасля галення.

Усё рабілася ўпотай. Бо селянін ці местачковец мусіў здаць свіную скуру на камісарскія скуранкі, з самога селяніна скуру ўжо даўно садралі.

А як тапіліся на патэльні першыя скваркі! Тапіліся на тлушч, не паспеўшы стаць рудаватымі.

Далей разраблялася тушка. Кумпякам хацелася павісець на гары, леганнё і печаннё ішло на вантрабянку, на якую прыдаваліся таўстыя кішкі. Тонкія кішкі ішлі на кілбасы ў лета, на крапа-

ныя кілбасы — іх напіхвалі праз металічную трубачку, крапалі, як казалі ў нас. Выразалася паляндрыца, падбрушша, ашыек. Рабіўся запас скароміны на год. Гадавалі, кармілі, чым маглі. Стараліся лепшым. Бо ведалі: кармі гаўном, заб'еш гальнём.

Свежыны трошкі неслі блізкім суседзям. Каб і яны разгавеліся.

Усё ішло ў толк. Выразалі посік, ім потым перад печчу мазалі боты. Малым было цікава надзьмуць пухір, укінуць у яго колькі гарошынак, высушыць, каб ён зрабіўся пергаментным. Цацка выдатная — хоць замест першамайскага шара на дэманстрацыю нясі. З касцей, калі аб'ядалі мяса, рабілі вурзгалкі. Перавязвалі суровай ніткай у колькі столак, на двух канцах петлі, каб удзяваць пальцы, — грай у ахвоту.

У першыя гады пасля вайны не хапала бульбы. Вясной перакопвалі гароды, каб знайсці леташнюю бульбу. Смачныя былі бліны-лапуны з гэтых паролікаў, ці рулёў.

Па лясах развялося ваўкоў, якія, паспытаўшы трупаў, кідаліся на людзей. Да іх прысталі па класава-воўчай лініі і нямецкія аўчаркі. Да таго ваўкі смела пачуваліся, што адзін падышоў пад вокны Апёнкавай хаты і завыў. Апёнак у споднiках выскачыў і ўлажыў ляснога нахабу. Доўга сохла на сцяне распятая цвікамі воўчая шкура, а ў Баяна, калі падыходзіў да сцяны, поўсць дыбам уставала.

Было цэлае нашэсце пацукоў. Былі выпадкі, што аб'ядалі нябожчыкам за ноч у хаце насы, вушы. І ў адзін дзень ішлі і ішлі праз Вушачу калонай, як на кастрычніцкую дэманстрацыю.

Мы малацілі з мамай ячмень у былым райкомаўскім гаражы. І нашая маладзенькая кошачка натуральна барукалася з пацуком. Ледзь перамагла. Толькі кошкі бяруць пацукоў, бо катам пацукі адгрызаюць тое, чым кот ад кошкі адрозніваецца і чым кошцы падабаецца.

А пасля ішла саранча. А потым, вядома ж, амерыканскія капіталісты закінулі ў савецкі гарод каларадскага жука. Уся пошасць нападала як на мокрае блохі.

У школе былі настаўнікі розныя. Адны ведалі тое, што выкладалі, другія не ведалі. Адных мы любілі, другіх не любілі. Нямецкую мову мы вывучалі з трэцяга класа. Першая настаўніца няйначай па начах сама вучыла літары лацінкі, бо слова Deutsch[3] чытала як деутш. Каб і хацеў, дык немагчыма смяшней выдумаць. Пры такіх ведах ужо ні ў які кантакт з патэнцыяльным ворагам не ўступіш. На шчасце, неўзабаве прыйшла Пелагея Філімонаўна Харчанка, якая ў свой час скончыла гімназію. Тут пачулі мы натуральную нямецкую мову. Я дужа любіў быць

любімчыкам Пелагеі Філімонаўны. Як не за ўвесь клас рабіў пераклады хатніх заданняў, а за мяне рабілі матэматыку, асабліва сусед па парце Змітрок Мілы. Ён і быў мілы сваёй сарамлівасцю, ружовашчокасцю, невялікім заіканнем. Дзякуючы Пелагеі Філімонаўне, пры паступленні ва універсітэт я адказваў не болей пяці хвілін і атрымаў пяцёрку і параду прадаўжаць вучыць нямецкую мову. Праўда, гледзячы, як хлопцы ў пакоі інтэрната пачынаюць чытаць англійскі алфавіт, перайшоў у англійскую групу. Выкладчыца папярэджвала, што не буду ведаць ні нямецкай, ні англійскай мовы. Так амаль і атрымалася. Цяпер сам з сябе пакепліваю, што вымаўленне ў мяне «белоксвардскае».

А ў школе пасля Пелагеі Філімонаўны была яшчэ адна настаўніца, якая не любіла нас і якую не любілі мы, называючы яе за вочы Трускай. Ёй асабліва не падабалася, што я адказваю па-беларуску і перакладаю з нямецкай на беларускую мову. Пасля ўжо вучні радаваліся, калі Труску з сабой у Віцебск, атрымаўшы павышэнне, забраў сакратар райкама Іваноў. Ужо тады мы разумелі, што не нямецкую мову вучыў з ёю партыйны начальнік.

Цікавая была сістэма перамяшчэння сакратароў райкамаў. Адзін гарэў на гарэлцы і на партдамах, другі на нечым падобным. Пераводзілі ў іншы раён, толькі не ў суседні, каб не адразу слава дагнала. Ход канём. Так да персанальнай пенсіі верны салдат партыі дабіваў з пяток раёнаў, а ў некралогу выглядаў цвёрдакаменным ленінцам.

Напрыклад, адзін чарговы сакратар Вушацкага райкама дужа ганяў усіх за п’янства і распусту. Але мястэчка невялікае. Падлічылі, колькі бутэлек за месяц здае жонка, у які лес на якое возера машына з нумарамі сакратара і адданніцамі партыі выязджала. На партканферэнцыі адбыўся скандал. Пракацілі. Перавялі ў іншы раён.

У Расіі раённы актыў у складзе партсакратароў, пракурора, камсамольчыкаў цікавей весяліліся. Любілі «сходить к Аннушке», гэта значыць піць каля магілы хрэстаматыйнай А. П. Керн. Пасля паўночы, каб яшчэ болей захарашэла, будзілі матухну, жонку святара тамтэйшай царквы, і прымушалі танцаваць на магіле натхняльніцы сонца рускай паэзіі.

Але нешта мяне пагнала ў непрыемныя ўспаміны. Лепей не думаць ні нанач, ні на дзень пра гэтых.

У мяне ж быў і духоўны настаўнік, беларус, цвёрды, як смаляк. Ён і на ўроках, і пасля ўрокаў гаварыў толькі па-беларуску, лічыў сапраўдным паэтам Максіма Багдановіча, раіў чытаць і

перачытваць, расказваў пра сваіх настаўнікаў — прафесараў Піятуховіча і Замоціна. У яго быў дзівосна прыгожы почырк, і мне хацелася пісаць літару «д», як ён, — угору дужкай. Хацелася, каб у мяне быў такі ж коўцік (кадык), такія ж валасы на руках, як у любімага настаўніка. Ён адзін, колькі яго сілы было, стрымліваў глухі націск усеагульнае русіфікацыі.

У нас яшчэ былі па ўсіх прадметах падручнікі на беларускай мове (у дзяцей саўпартслужачых ужо з'яўляліся рускамоўныя), а настаўніц прысылалі з Мінска ці з Магілёва, якія чырыкалі па-руску. Паступова вынішчалася ўсё беларускае.

Дырэктар, адстаўнік, тым толькі і займаўся, што са школьнай дробнакаліберкі страляў курэй, якія заскоквалі пачаставацца на школьны гарод. Над усім гэтым беспрасвеццем як бы ўзлятаў на сваіх мыліцах мой дарагі настаўнік Фадзей Францавіч Багдановіч.

Калі перавялі ў іншыя класы Фадзея Францавіча, многія плакалі. Да нас прыйшоў новы настаўнік, якога мы адразу празвалі «Цытата». Ён патрабаваў, каб ведалі цытаты. Бо ўжо вучні пачыналі адчуваць, што можна карыстацца дэмагогіяй. І калі выйшлі сталінскія «Вопросы языкознания...», дык у нас адна дзяўчына ўмудралася, адказваючы па хіміі, пачынаць са слоў: «У геніяльнай працы таварыша Сталіна...» У якога настаўніка магла рука падняцца на двойку? І толькі цытаты маглі перабіць агульную траскатню, паказаць, ці ведае вучань твор.

Новы настаўнік усяляк заахвочваў літаратурныя патугі вучняў. Я ўжо нешта рыфмаваў, нават быў рэдактарам сатырычнай насценнай газеты «Калючка», крытыкаваў свае недахопы ў іншых. Быў выпадак, калі беглі па лёдзе на ўроку фізкультуры, а я адставаў, абутак быў слізкі. Фізрук (дужа любіў падсаджваць дзеўчынёшак, у якіх ужо акругляліся грудкі, на турнік) прыгразіў, што працягне мяне ў «Калючцы», а я нахабна ўдакладніў, што з'яўляюся рэдактарам гэтай насценгазеты.

Наш новы настаўнік, Канстанцін Паўлавіч Баразна, наладзіў выпуск школьнага літаратурнага альманаха «Першыя крокі». Выкладчык малявання Палонскі, па мянушцы «Фока» («шкляное вока» — часам дадавалі мы), афармляў альманах, друкаваў. Таксама шукаў на машынцы няўмелымі пальцамі літары Алесь Лобкіс (некалі бацька Хведара Чэрні, пабачыўшы ў мяне машынку, сказаў надзвычай па-беларуску: друкачка). Мы з Алесем удвух былі першымі паэтамі вушацкай школы, чые вершы былі змешчаны ў «Першых кроках». У выпускным класе мы з Алесем надрукавалі аж у «Віцебскім рабочым» допіс за двума

падпісамі пра свята песні ў Вушачах. Абодва наважыліся паступаць ва універсітэт у Мінск. Нас вабіла журналістыка. Жывога журналіста з Віцебска — вушацкага мальца Генадзя Мялешку бачылі з фотаапаратам цераз плячо і аж з дзвюма бутэлькамі гарэлкі ў руках.

Аднакласнік Смаргун даў мне нумар «Звязды», дзе аб'яўляўся прыём ва універсітэт, даваліся ўмовы паступлення. І ў заяве сваёй напісаў я, каб дапусцілі мяне да ўступных экзаменаў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры, а калі не, дык хоць на аддзяленне журналістыкі. І духам не ведаў, што на аддзяленне журналістыкі быў самы высокі конкурс. З трыццаці пяці магчымых атрымаў я трыццаць чатыры балы. Чацвёрку па беларускай мове — па-свойму напісаў «на досвітку».

Мой першы літаратурны настаўнік, рэдактар «Першых крокаў» Канстанцін Паўлавіч Баразна, у 70-х гадах выдаў кніжку апавяданняў для дзяцей «У спяваючым бары».

Выкладчыца рускай мовы і літаратуры Марыя Майсееўна Цуран вучыла пісаць сачыненні. Праўда, празмерна фаршыравала нас Маякоўскім. Я ведаў на памяць грыбаедаўскае «Гора ад розуму». Пазычанай аўтаручкай пісаў на ўступных экзаменах якраз сачыненне па Маякоўскаму.

На вечарах самадзейнасці ў нашай школе ды ў раённым Доме культуры было модна ў чытальнікаў чытаць Маякоўскага, прыняўшы як мага пагрозную паставу, самым крыклівым голасам. Я таксама ўдзельнічаў у вечарах мастацкай самадзейнасці, чытаў спачатку байку свайго вырабу пра кухарку, якая крадзе прадукты, а ў выніку ў супе крупіна за крупінай ганяецца з дубінай. Чытаў Валасевічаву[4] байку «Хама», украінскага гумарыста Васкрэкасенкі «Каваль і смерць».

Калі вучыўся ў старэйшых класах, пенсію за бацьку (слёзы ў прамым і ў пераносным значэнні) не плацілі. Маміна зарплата была мізэрная. Правобраз сучаснага «дыпламата» рабіў сабе сам. Дзве дошчачкі аббіваліся кардонам ці якой парусінай.

Парусінавыя белыя тапачкі былі вяршыняй мроі (пра зялёныя шнуркі тады не гаварылі). Шчасліўчыкі перад танцамі чысцілі іх мокрым зубным парашком і вешалі на плот сохнуць. Начная раса, калі ішлі ў падводы (гэта значыць праводзілі залётак), з'ядала ўсю белату, усю ўраднасць.

З суседам, таксама бязбацькавічам, Васілём Янушкевічам хадзілі ў заработкі — рэзалі дровы ў школе, у райспажыўсаюзе. Перад дзесятым класам на зробленыя грошы справіў я сабе абновы — купіў кірзавыя боты і цёплую фуфайку (уніформу будаўнікоў камунізму ад Масквы да самых да ўскраін).

Васілёва маці Арына і мая мама Куліна сябравалі. І мы былі адпаведна Арынчык і Кулінчык. Паколькі на танцах акрамя абтоптвання ног сваім партнёршам мы нічога не ўмелі, з намі нашыя аднакласніцы-аднагодніцы не ішлі танцаваць. І, запяўшы вокны апошнімі запапонамі, каб, не дай Бог, у шчылінку хто з вуліцы не ўбачыў, вучылі нас танцаваць нашыя маці. Пачыналі з самых лёгкіх скокаў — «каробушка», падэспань, полечка, кракавяк, што называецца, пад язык. І дужа не падабалася нам, ужо амаль кавалерам, прыпевы накшталт: «Танцы, танцы, два засранцы, едэн пердзі, другі смердзі». А наогул у натуральнай гаворцы ў побыце моцнае слова стаяла з самым узвышаным і не было чыстаплюйства. Як вясёла і канкрэтна кажацца пра вечнае гаспадыніна некальства, вечны клопат: работа кішыць, буракі крышыць, у царкве звонюць і з поля гонюць; пакуль прыбралася, дзіця ўс…я, пакуль абцёрла, самой прыпёрла...

Лавіў я і кратоў. Прыбытку ад гэтага занятку было як з таго рака наедку. Трэба злавіць, садраць шкурку, распяць яе, высушыць, а на прыёмным пункце атрымаеш 1 рубель па тых цэнах, гэтулькі ж каштавала буханка хлеба. І гэта быў хлеб.

Карміла нас карова, а мы стараліся карміць яе. Гэтак і не навучыўся я добра касіць. Лацвей вучыцца на калгасных лугах, а калі трэба было па кузлачку, па касмыльку касіць дзе давядзецца, мама касіла сама, дрыжэла над кожнай травіной.

З мужчынскіх работ рабіў не ўсе. Не араў, бо каня не было, не сеяў, бо на 15-ці сотках не разгонішся. Асноўная, так сказаць, культура — бульба. Мне падабалася абганяць бульбу сахой. Рабіў і некаторыя жаноцкія работы, выбару не было. Пакуль мама паліла печы ў райспажыўсаюзе, мне трэба было начысціць кацёл бульбы. Да таго налаўчыўся, што чысціў танчэй і хутчэй за маму. Мог, не адрываючы нажа, абчысціць бульбіну, каб ацяробчына нідзе не парвалася. Як стружка з-пад гэбліка.

Адразу пасля вайны ў нас кватаравалі дзве сястры з Бычкоў — Аня і Маня. Калі да Мані прыходзіў кавалер, ці, як ушацкія казалі, сюбар, ахосал, я, робячы ўрокі, ставіў на стол люстэрка гэтак, што было відаць, як яны цалуюцца. Тады ў модзе былі бровы ў нітачку. Ажно шкада мне было дзяўчат, калі яны пінцэтам выдзіралі ўсё лішняе з броваў і хадзілі па хаце з чырвонымі апухлымі надброўямі.

Маня пад сакрэтам прасіла мяне паглядзець у лазні, ці ёсць у яе кавалера на азадку прышчыкі ці скулкі. Бо ён дайшоў у вайну да Германіі і мог падхапіць нейкую страшную хваробу. Хвароба гэтая, уяўлялася дзяўчыне, выступае на азадку. Калі

вырас, даведаўся, што якраз наадварот трэба было глядзець, выконваючы інтымную просьбу будучай маладухі.

Мяне самога хвалявала пытанне, адкуль дзеці, як гэта робіцца тое, пра што дарослыя кажуць ці шэптам, ці з дужа юрлівай усмешкаю. У партызаншчыну, калі жылі ў Васількоў, убачыў я ў адной з Васілішак з-за каптура імшысты кузлачок. Дужа ён мяне ўстрывожыў і расхваляваў. Незразумела. Смутна. З самай малодшай з Васілішак жаніў я Цярэшку, яе ў калядны вечар, прыйшоўшы са школы, упершыню пацалаваў. Ужо дзецюка, вучыла мяне цалавацца рыжанка Ілга, што прыязджала ў госці да Латышыхі. Старэйшай за мяне, ёй было яўна смешна, як бянтэжуся я і трачу галаву. Гэтак кошка гуляе з мышаняткам.

Кватараваў у нас і дырэктар базы Уладзімір Лаўрэнавіч Дунец. Былы партызан, франтавік. Быў жанаты. Жонка засталася ў Маскве. Ён вярнуўся на радзіму. База была побач, на гары каля пажарнай, кепска агароджаная, без асаблівай аховы. Амаль як пры недалёка абяцаным камунізме. З сабой Дунец прывёз патэфон ды колькі пласцінак. Заўсёды вечарам, прыйшоўшы з работы ўжо дужа вясёлым (і гэтак штодня), ставіў пласцінку, і мне аж уваччу цямнела ад адной і той жа песні «Белым снегам». Пасля ён узяў з Жывалакі за жонку маладую дзяўчыну Наташу. Цешча, каб пахваліць зяця, калі наведалася ў госці, казала на яго: «Сталінская галоўка». Такі камплімент гэтак вар'яваў зяця, што ён аж цверазеў ад злосці. І Сталіна цярпець не мог, і выказаць сваю нелюбоў да «бацькі народаў» не мог.

Цікава было раніцай назіраць за сямейным шчасцем. Мужу пасля абавязкова-чарговай (старшыні калгасаў прыязджалі штонебудзь здабыць і натуральна дзякуй свой налівалі ў шклянкі) замочкі хацелася паспаць, а маладой жонцы падурэць, пагуляць. Яна яго казытне то за пятку, то ўскудлаціць дужа не густы чуб, а ён, загадзя ўзяўшы папругу ў руку, адмахваецца, як конь хвастом ад аваднёў.

І была традыцыйная рэвізія і традыцыйная нястача. Пагрэліся памочнікі, а судзілі дырэктара. Калі прыйшлі апісваць набыць, нічога акрамя патэфона ды «Белым снегам» не было. Хацелі забраць патэфон, але мама не дала, ён жа прывёз, набыў гэтую музыку з першай жонкай.

І самае вясёлае, а дакладней, самае сумнае было тое, што і на суддзі, і на пракуроры, і на следчых, на іхніх жонках было шмат чаго на плячах і на галовах, узятага з базы і так і не аплочанага. А калі, бывала, і плацілі, ды хіба што, як дзеці гуляючы, смехам. Трэба, напрыклад, жонцы сакратара райкама ці пракурора футра.

Вясной на базу прывозілася пэўная колькасць размеркаваных футраў. І пачыналіся ўцэнкі, гэткія савецкія сэйлы. То гузік адрываўся, то падкладка адпорвалася. Выяўляліся дэфекты, якія лёгка папраўляліся пасля, а ўцэнкі рабіліся вялікія. Да зімы, калі трэба, каб «плечыкі адышлі ў начную імглу» ў дарагім зверы, футра каштавала капейкі.

Савецкае чынавенства жыло па сваіх законах ад міні-дзяржавы — раёна да Белакаменнай. Не дзіва, што напрыканцы так званай перабудовы дырэктар райспажыўсаюза паспеў купіць толькі тры машыны, «чырвоныя памешчыкі» з блізкіх калгасаў грохалі сабе ў Вушачы вычварна-пампезныя хароміны, як бы спаборнічаючы з катэджамі высокапастаўленых у раённых маштабах усё тых жа «кручкоў», якія выбілі сабе мільённыя пазыкі з самым нізкім працэнтам вяртання. Гэта ў нас самі сабе «кручкі» прадавалі трактары за 50 рублёў.

Асабліва ганарыліся сакратары райкама вушацкім Домам саветаў. Шматпавярховы. Чым вышэй начальнік, тым на вышэйшым паверсе кабінет. У двары аздобленая гранітам трыбуна (своеасаблівы раённы маўзалей), каб вітаць з яе дэманстрацыі працоўных мас. Абавязкова Ленін, які паказвае рукой сам не ведаючы куды. За змрочны колер сцен местачкоўцы яшчэ задоўга да рэгламентаванай галоснасці назвалі Дом саветаў гестапа. А месца для галоўнага будынка раёна выбраў сам Дземянцей[5], калі быў чаргова-зменным першым сакратаром. Аднойчы ішоў ён з паплечнікамі, расказваў неяк удзельнік гэтай гістарычнай падзеі, па даволі вялікім пляцы, дзе быў з давайны яшчэ вушацкі базар. Крыху з краю базару ляжаў вялікі валун, на валуне вялікая куча. І тады першы сакратар паказаў пальцам на валун з кучай і сказаў, што тут будзе Дом саветаў. Храм на...

Але вярнуся зноў у той час, які чым далей, тым бліжэй да сэрца і радасцю і смуткам, святлом і змрокам.

Мяне, як той патэфон дырэктара базы, накручвалі ў школе ідэямі блізкага камунізму. Мама ахаладжала мой камсамольскі запал (па-вушацку — палер). Ад піянераў я неяк выкруціўся, чырвонага гальштука не надзеў ні разу, бо і не было, і мама лічыла, што піянеры — бязбожнікі. Праўда, у пару развітога сацыялізму на розных урачыстасцях мне шчаслівыя піянеры гальштукі павязвалі. Яшчэ чаму я выкруціўся ад піянераў (каб не падумалі, што хачу паказацца дужа левым), быў пераросткам.

Камсамольцам быў, нават узносы збіраў у школе і пасля, калі працаваў у часопісе «Бярозка». Пры «Бярозцы», «Піянеры Беларусі», «Зорьке» і «Вясёлцы» была камсамольская арганізацыя.

Усе рэдакцыі размяшчаліся ў памяшканні ЦК ЛКСМБ. Узносы збіраў і, вядома, трацїў іх, а пасля закладаў сваімі грашыма. Ішоў на працу, зазірнуў у ГУМ, там модныя індыйскія туфлі на тоўстай каўчукавай падэшве (гэтакія толькі што купіў Анатоль Клышка). Хутчэй у рэдакцыю — там яшчэ трошкі пазычыў, і атрымалася ў мяне якраз патрэбных 200 рублёў. Званок. Здаць узносы. Кажу, што заўтра. Не! Узносы здаў, але пакуль зноў сабраў 200 рублёў, туфляў у магазіне ўжо не было. Я пакляўся, што распушчу камсамольскую арганізацыю, і ўрэшце свайго дамогся. Пасля мяне пярвічную арганізацыю аднавілі.

Дык пра ідэі камунізму. Мама часта казала, што, яшчэ калі яна была маладой дзяўчынай, чула пра камунізм. Пры камунізме будзе трактар зацягваць на ўсіх агульную коўдру. Маме дужа гідліва было ад адной думкі, што пад адной коўдрай давядзецца спаць з саплівым Ганульчыкам. І з усмешкай заключала: «І ты ў мяне ўжо амаль мужчына, а камунізму як няма, дык няма».

Тады яшчэ з насмешкай, як не з пагардай, ставіліся мястачкоўцы да тых, хто, пабыўшы недзе ў Расіі ці ў беларускім якім горадзе, стараўся «русіць». Нейкая з Васілішак, вярнуўшыся з Полацка, гаварыла: «...як аттэндуль і дасендуль». Думала, што па-руску.

Ляжалі на печы. У столі было шмат сучкоў. Кожны нагадваў то звера з казкі, то чалавека. Мама мне тлумачыла: «Ёсць руская мова і беларуская мова. Наша беларуская...»

Выйшла распараджэнне Берыі наконт нацыянальных моў. Я наіўна радаваўся, што цяпер усе загавораць па-беларуску, усе заявы, усе просьбы ва ўстановы можна будзе пісаць па-беларуску. З такімі думкамі бег да мамы. Яна ў канцы гарода садзіла капусту. Гладкі і круглы невялічкі камень абгортвала чыстай анучкай і клала на ляху — каб качаны ўрадзілі цвярдыя і гладкія. На маю радасць паглядзела, выслухаўшы мяне, сумнавата: «Ой, сынок, нялёгкія гэта справункі. Шкода мне цябе...»

Іншы раз здавалася, што ў нашую школу пасылаюць настаўнікаў, як на вайне ў штрафную роту. І прыехаў да нас выкладчык фізікі Хатэнка. Аж два універсітэцкія значкі на пакамечаным, некалі дарагім пінжаку. Ведаў усё, аж страшна рабілася. Дужа нам падабалася рабіць доследы з вадой пад ягоным кіраўніцтвам. І клас, і мы былі як пасля залевы. Калі хто не слухаў яго, Хатэнка спакойна падыходзіў і праводзіў сцёркай па валасах ад шыі ўгору. Гэта суцішала самых заядлых крутуноў-дуронікаў. Часта ўрокі фізікі праходзілі без настаўніка, ён спаў у стажку на школьным гародзе. Ён жа аднойчы выпіў спірт, у якім была заспіртавана медуза.

У гады мае падлеткавасці і пазней пытанне сексу (цяпер засулоцілі гэтае слова) заставалася цёмным, як і паходжанне чалавека наогул. Бо тлумачэннем малпізму яснасці не ўносілася. Не верылася, што хвост сам адваліўся.

Як каты марцавалі, як нараджаліся кацяняты, як цялілася карова, — было ўсё звыкла па сваёй зразумеласці. Шкада было свінню, калі яна гудзела, ці была «на панічоў», а гаспадыня награвала ледзь не даясна качаргу і прыкладала расчуленай паненцы да пэўнага месца, якое чамусьці пятлёй звалася.

Як вучыўся ў малодшых класах, інстынктыўна адчуваў нешта ненармальнае, калі казялок гадзіннікавага майстра Банцік скакаў на свінню Розу. Перад вокнамі нашае школы.

З непрыхаванай гідлівасцю дарослыя вымаўлялі слова «курая». Так вушацкія называлі гермафрадытаў.

На гарышчы амаль упоцемку чытаў нейкую брашурку, што рэкамендавала, як знаёміцца, калі можна цалавацца, калі разняволіць рукі і іншае, як што называецца ў мужчыны і жанчыны. Гэта быў нізкапробна-саматужны дапаможнік, які прызямляў цьмяна-завоблачныя памкненні, юрыў цнатлівы парыў, агаляў юр.

Расла цікаўнасць, расло неакрэсленае нецярпенне. Усё расло. І не дзіва, што недзе ў пятым класе мы, пераросткі, на задняй парце на ўроку фізікі адпаведна лінейкамі мералі свае агуростачкі. І тут кожнаму хацелася быць наперадзе. Да сорамнага смешна ўспамінаецца, што мы з суседам Сарокіным былі горда задаволеныя.

Праблемы, якія мы ў школе вырашалі жартам, выходзіць, хвалявалі сур'ёзна і вялікіх людзей. Чытаў пасля ў хемінгуэеўскім «Свяце, якое заўсёды з табою».

Вядомы ленінскі выраз «ідыятызм вясковага жыцця». Думаецца, што ідыятызм райцэнтраўскага жыцця не меншы, калі не большы.

Падпільнаваўшы ў алешніку суперніцу, жонка ваенкама надзяе ёй на галаву з модным «учасаннем» (так казалі на прычоску) вядро з гаўном.

Жонка адказнага райсаветчыка, даплыўшы на востравок тады яшчэ поўнай вушацкай рэчкі, б'е мужаву каханку туфелькай па шчоках, трымаючы туфельку за абцасік.

Суддзішыны індыкі сядзяць на помніку воіну, які традыцыйна-казённа схіліўся над двойчы перанесеным прахам загінуўшых.

Сынок аднаго «кручка», пасядзеўшы з усімі ў неадноўленым будынку былой школы (туды ўцякалі з урокаў «у партыза-

ны» — курыць), выцірае адкормлены задок падштанікамі, каб паказаць, што ён багаты.

Па святах мы, старшакласнікі, робім складчыну, купляем віно і танныя цукеркі на закусь. Сын суддзі прыносіць у складчыну самагонку.

Нават на могільніку капрызамі жонак і дзяцей раённыя «кручкі» клаліся на самым праходзе ледзь не ўпоперак увахода, каб і на тым свеце быць наперадзе.

Дзеткі раённай вярхушкі трымаліся асабняком. Нешта накшталт салона было ў дачок мясцовага фатографа Гіраўкі. Ні я, ні іншыя хлопцы з бедных сем'яў туды ходу не мелі, бо на раённай іерархічнай драбіне былі самыя першыя знізу. Мяне запрашалі і частавалі Серперы. Маці Якава і Барыса нават казала, каб не прыходзілі дамоў, пакуль мяне не прывядуць на імяніны, на іншыя святы. У Серпераў заўсёды было ўсё смачна і багата. Сябраваў я таксама з сынам вушацкага ваенкама Анатолем Емяльянавым. Бацька і маці Анатолевы — карэнныя сібіракі — былі шчырыя і гасцінныя. Анатоль так палюбіў беларускую мову (усё дзякуючы Фадзею Францавічу Багдановічу), што цяпер выкладае беларускую мову і літаратуру ў Віцебскім педінстытуце. Гэта ён сабраў, як ніхто дагэтуль, фальклор з усяе Вушаччыны. І як натуральна гучыць беларуская мова ў вуснах рускага Анатоля Емяльянава, як мякка, пяшчотна, трэба слухаць! Хіба трошкі мяккаватае «ч».

А бывала, мы з Анатолем пісалі адзін аднаму лісты малаком. Каб прачытаць гэтакі тайнапіс, след было спаліць паперыну і попелам пацерці. Пісалі мы так і дзяўчатам. Стараліся вершамі. Анатоль скарыў не адно сэрца, бо перапісваў санеты Шэкспіра, як потым я даведаўся. Вядома, з Шэкспірам спаборнічаць і ў галаву ніколі не прыходзіла.

Нейкія свае вершы паказаў я аднакласніку з Ваўча Крывёнку (мы з ім рэзалі дровы ў школе, бо ягоны дзядзька быў загадчыкам гаспадарчай часткі). Той зганіў бязлітасна. І мне дужа хацелася надрукаваць вершы, каб быў ён уражаны і прысаромлены. І яшчэ была мроя выдаць гумарыстычныя вершы, назваўшы зборнічак надта ж ужо «арыгінальна» — «Жалезная вяхотка».

Тады вяршыліся вялікія савецкія пераўтварэнні прыроды. І аднакласнік, сын вядомага каваля з «Пралетарыя», напісаў доўгі верш, які пачынаўся: «Была гара ля возера, прыйшлі сюды бульдозеры». Заканчваўся верш поўным трыумфам вялікіх здзяйсненняў: «...не стала ні гары, ні возера». Падсвядомасць прамаўляла ісціну.

Суседзі жылі кожны па-свойму: і сумна і вясёла. Калі ў Апёнка нарадзіўся трэці сын — Мікола, ён жыў яшчэ ў хаце цесця (старога Латыша саслалі ў Варкуту ці за тое, што дужа хваліў немцаў за парадак, ці таму, што рабіў немцам драўляных арлоў, бо быў дужа рукасты), і варта было любімаму сынку, якога ён зваў Драздок, стукнуцца аб падваконнік, тут жа хапаў сякеру і счэсваў палову падваконніка. Падаў Драздок на падлогу — расчулены бацька сек падлогу. Як паставіў сваю хату, нічога не счэсваў і не сек. Нічога не мог зрабіць, калі пад час паводкі вадзяны пацук схапіў Драздка за бот, пракусіў і сцягнуў з нагі.

Паводкі мы чакалі як бясплатнага кіно. Хата Васількоў стаяла каля самай канавы, праз якую быў масток, пад які мы хаваліся ад налётаў самалётаў. У паводку гнала ваду з боку Салатопкі. На вачах прыбывала і залівала хату, нярэдка па самыя вокны. Васіліха з дочкамі і з госцем якім пачыналі бегаць па лавах, а пасля скакаць праз акно. І тут штогод гучаў адзін і той жа палкі маналог з кляцьбёнамі ў адрас Мушы, — ён да вайны як інжынер па будаўніцтву выдзеліў Васількам гэты пляц.

Да Міклашэўскай прыходзілі пляменніца і пляменнікі з Пліна са сваёй самагонкай. У хаце было вясёла часцей.

У Латышыхі кватараваў кінамеханік Вікенцій Вікенцьевіч Вікенцьеў. Піў так, што перад пачаткам сеансу нехта выцягваў яго з бакоўкі, ліў на рэдкага даваеннага спецыяліста суды вады (суды — два вядры; ёсць нават каламбур, як дзед кажа: я сваёй бабе суццы вады ўкінуў), і тады пачыналася кіно. Спачатку кадры ідуць па падлозе, потым па сцяне, затым па столі, аж пакуль рука ў кінамеханіка не пацвярдзее.

Нязменна на дзвярах у кіназале стаяла Праннічыха. Трэба было мець і сілу і нервы. Хваля гледачоў магла змыць у любую хвіліну і дзверы, і кантралёра. Некаторыя хлопчыкі залязалі пад падлогу і начавалі, каб заўтра бясплатна глядзець ці яшчэ раз старое, ці новае кіно. Прыкмеціўшы такіх, грозная Праннічыха за вуха валакла на двор.

Неяк прыязджаю ў 60-я гады з Мінска. Чарговы югаслаўскі фільм пра вайну. Праннічыха ўсё яшчэ на сваім месцы, дзеліцца ўражаннямі ад фільма: «Першыя разы аж сэрца станавілася ад страху, але пасля нічога, прывыкла».

Пасля «Тарзана» на ўсіх дрэвах малыя крычалі, як герой фільма, дзеўчынёшак цвялілі Чытамі. У чарзе па білеты недзе перад чацвёртай серыяй мне падламілі рабрыну. Дагэтуль не выношу кінасерыялаў.

Браць штурмам білеты ў кіно, гэта яшчэ паўбяды. Самае страшнае было пасля вайны браць штурмам хлебны магазін.

Звечара займалася чарга. Ужо раніца. Усе хвалююцца. І крык: «Едзе!» Гэта хлебавоз. Першы этап — трапіць на ганак, але стаць гэтак, каб, адчыняючы магазін, не змялі цябе дзвярыма. А далей вытрываць, каб не сціснулі цябе на фармавы хлеб. Мужчыны не зважалі ні на жанок, ні на дзяцей. Як коні. Вырываешся з запаветнай буханкай як з лазні. І зноў цяжкі момант — данесці дамоў, не сашчыпаўшы па дарозе. Бо пахне гэтак, аж галава п'янаю робіцца. Трапляліся ў буханках і кавалкі вяроўкі, і нават пацукі запечаныя. Формы на хлебапякарні змазвалі аўтолам.

Не чуў я ніколі такога доўгага па вымаўленні слова, як санэпідэмстанцыя. Доўга ж яшчэ вушацкага вырабу кілбасу звалі «рудзёнкавай». Гэта Рудзёнак (у яго потым кватараваў Сяргей Законнікаў, калі працаваў у рэдакцыі) пусціў на кілбасу здохлага ласі.

Мама мне дужа хацела купіць гармонь. Бацька здорава іграў на цымбалах. Але на гармонь грошай не было.

Я хацеў дужа сабаку. Але самім не хапала чаго есці. Затое каты і кошкі ў нас не пераводзіліся. Калі здох любімы Мірон (на хутары быў Мірута), я схапіў апошнюю кофту бабулі Маланні і загарнуў у яе, каб не халодна было майму кату ў зямлі. Закапалі пад бацькавым вязам. Кошка Каця сядзела каля мяне, калі рыхтаваўся да экзаменаў выпускных і ва універсітэт. Мама казала, што доўга плакала па мне, чакала з Мінска.

Другая Каця не адыходзілася ад хворай мамы. Мама памерла. Каця засталася адна. Кацілася па чужых гарышчах. Прыязджаў у маміну хату, Каці не было. А ў 1979 годзе 10 чэрвеня прыехалі мы з Валяй на 70-годдзе мамы. Без мамы. Аднекуль, як з-пад зямлі, прыйшла Каця. Старая, бяззубая. Аж рэзала рот капронавай кішкой куплёнай кілбасы. У апошні раз прыйшла ў сваю хату на дзень нараджэння гаспадыні.

У касаваротцы мамінай работы з драўляным чамаданчыкам рушыў я ў Мінск. Чамаданчык мне пазычыла настаўніца гісторыі Ганна Мікалаеўна, свой, студэнцкі. Гэта быў квадратовы куфэрачак з вострымі кутамі. Вылязаю з перапоўненага аўтобуса (яго таксама браў боем) і ступаю на асфальт сталіцы, ручка выскоквае, куфэрак войстрым кутам б'е па назе нейкую важную даму. І Мінск вітае мяне ўсімі адпаведнымі словамі, пачынаючы з «деревенщина, вахлак» і ўжо не помню якімі канчаючы, вуснамі міс Сталіца.

Нідзе не чую беларускай мовы. Расійска-мінская трасянка ў лепшым выпадку. Здаю дакументы. У прыёмнай камісіі са мной гавораць па-руску, а я па-беларуску. Пачуў толькі, як

адзін з «прыймоўцаў» сказаў раптам: «Пашукай». А гэта, як потым пазнаў, былі якраз старшакурснікі з беларускага аддзялення. Адзін з іх — вядомы прафлідэр Будавей.

Я ашукаўся ў беларускасці Мінска і універсітэта, як мама некалі ў гарадскім снезе. Прыехала да нас у Мінск на вуліцу Бялінскага. Зіма была сняжыстая. Яна і вырашыла, як дома, натаіць снегу, каб мець чыстую ваду. Растаў снег — чорная буза ў тазе была.

Начаваць «паступантаў» размясцілі ў спартыўнай зале. І тут мне прыгадаліся «Нарысы бурсы». Самае бяскрыўднае, што рабілі соннаму, — веласіпед. Уторквалі паперу між пальцаў на руках і нагах і падпальвалі. Напіналі пад сонным крыж-накрыж вяроўкі, ставілі чайнік з вадой, потым з нейкага канца падпальвалі вяроўку.

На аддзяленне журналістыкі паступалі, дарэчы, з усіх канцоў Саюза. Асабліва разняволенасцю нораваў вызначаліся масквічы і адэсіты. Са знаёмых мне па прэсе паступалі Іван Сіпакоў (ён доўга пярэчыў супраць напісання яго як Янкі, бо Янкам, казаў, можа быць толькі Купала) ды Лук'янчык, які перад гэтым надрукаваўся аж у «Вожыку». Верш быў з моднай па тых мерках канцоўкай. Змест просты. Працуюць у калгасе яна і ён, яна прыцэпшчыцай, ён трактарыстам, хлопец закахаўся. І лірычнаму герою ў канцы празрыста-незразумела: «Я не знаю, пры прычэпе хто з нас, я альбо яна?» Перад сачыненнем раніцай аўтару верша было не зразумела, адкуль у ягонай кішэні ўзяліся дзявочыя трусікі (вярнуўся ўночы, як і належала прызнанаму ўжо журналісту, пад добрымі градусамі). Не зразумела было, чаму «двойка».

Здаў экзамены. Дома чакаў выкліку. Нешта затрымлівалася паперка, ад якой шмат чаго залежала. Ужо хацелі забрыць у салдаты. Мама першы і апошні раз у сваім жыцці пайшла ў райкам. Казала мне, што запомніліся доўгія дывановыя дарожкі да стала ўладатрымцы ўсяго раёна. Доўга не слухаючы, Іваноў сказаў: «Что же, пускай родине послужит. И без него хватает кому учиться». Свая дачка ў школу хадзіла ў пярсцёнках ды ў іншых бразготках і абавязкова ж скончыла школу з медалём. Неяк былы партызан і салдат, бацькаў пляменнік Пятрок, угаварыў камісію ў ваенкамаце, каб пачакалі. І ўрэшце выклік прыйшоў. Я — студэнт універсітэта!

Перад тым як даць нам права жыць у інтэрнаце (мне і тут няпроста было атрымаць гэтае права), нас накіравалі з нашымі вархопкамі ў так званую вашапрудку. Упершыню ехаў у трамваі. Цесна, няўтульна, дрогка, але суцяшала ісціна: лепей дрэнна

ехаць, чым добра ісці. На лазні і было напісана: «Лазня». Рэдкая шыльда на беларускай мове ў сталіцы Беларусі. На гарачыя камяні маладой печы максімалізму рэчаіснасць ліла халадзёнку з вялізнай меднай кварты ў лазні сацыялізму.

Сімпатычная, вытанчаная (тады я як сын цесляра бачыў — вытанчаная) Зося Грыц з Беласточчыны запыталася: «Для чего в тебе така чапка окронгла?» Пад агульны смех адказаў, што гэта паштовая. Бо ў Апёнка, што, як і да вайны, рабіў на пошце, купіў я форменную шапку. Слова «окронгла» не зразумеў. Пасля пры сябрах па пакоі хутка асвоіў польскую мову на аснове паэзіі накшталт: «На краковскей вежы дзед на бабе лежы, чтэры ногі в купе, а та пёнта...»

Старшакурснікі ў першыя ж дні знаёмілі з латынню: «Fortuna non penis — in manus non recepit[6]». Пыталіся, як па-ўкраінску сказаць: «Я не хачу есці мёду». Калі я старанна выпаліў адказ, сказалі дужа, як ім здавалася, дасціпна: «Ну дык з'іш гімно».

Пасылалі пазычыць чорнай ніткі ў студэнта Петакова. На гэтакія просьбы ён шпурляў у даверлівага ўсё, што было пад рукой. Бо Петакоў на нейкім экзамене казаў, што вобраз адмоўнага героя праходзіць праз увесь твор чорнай ніткай. У процівагу вобразу дадатнаму, які праходзіць чырвонай ніткай.

У скверыку універсітэцкім ужо славуты і грозны крытык Анатоль Клышка казаў: «Цягну артыкул у ЛіМ». І мне здавалася, што нешта важкае валачэ гэты камлюкаваты, быстры ў рухах ужо сталы студэнт, які вымаўляў нячутыя мной дагэтуль словы: «мамо», «тато», «вухо». Як з роўным трымаўся з Анатолем Клышкам і Кастусь Цвірка. У яго аж цэлая падборка вершаў была надрукавана ў часопісе «Беларусь». Былі там і радкі: «Выйшаў з горада горды, стаў за горадам я, недалёка ад горада вёска мая». Гэта пра сціранне граняў. Па часе нехта, здаецца, Віктар Шымук[7], перарабіў радкі ў адпаведнасці з рэальнасцю: «Недалёка ад горада вёска мая, і ў горад па хлеб кожны дзень езджу я».

Кастусь Цвірка, калі пісаў вершы, хадзіў па калідоры інтэрната, напаўголаса, як бы сам з сабой, гаварыў, рухам рукі падганяючы рытм. Засяроджаны. Адсутны. Учэпісты.

І быў першы выезд на бульбу ў калгас. Было смеху вяскоўцам з нашых гараджанак. З Алесем Булыкам[8] мы кватаравалі ў аднае гаспадыні. Спалі ў дашчаным скляпку, дзе на зіму клалі бульбу. Раніцай прачыналіся з заінелымі чубамі, бывала, што і галовы трошкі прымярзалі да цвярдых падушак. Я стараўся запісваць словы, выразы, прыказкі, прымаўкі. Гэта ж была Міншчына. Гаворка, адрозная ад нашай.

Першая нарада маладых. Першая для мяне. Шчасліўчыкаў сабралі ў Саюзе пісьменнікаў. Чакаем, павінен прыехаць Якуб Колас. Але нешта жывы сапраўдны класік бавіцца. Прыязджае. Не дужа здаровы. Яго садзяць, каб не было скразнякоў. Фатаграфуемся на памяць. На адным з групавых здымкаў тырчыць і мой нос недзе ў самым апошнім шэрагу. У каго ўжо тады хапала самаўпэўненай смеласці, стаў наперадзе. І сёння да гарачыні сорамна мне за свае тыя думкі пра сябе. Як гэта Якуб Колас позніцца? Мы ж усе сабраліся, мы ж чакаем усе аднаго. Мы не баімся ніякіх скразнякоў, а ён баіцца. Гэта гаварыла ўва мне маладая самазакаханасць, самапавага, якая пераходзіла ў нахабства, нявыхаванасць на мяжы з цемнатой. Ды, на жаль, гэтак было спрадвеку і гэтак будзе ў літаратурным жыцці.

У Доме творчасці ў Каралішчавічах нас вучылі, настаўлялі на дарогу сацыялістычнага рэалізму. З намі нават згадзіўся сфатаграфавацца Аркадзь Куляшоў, які тут працаваў, па-хатняму, па-свойску ў піжаме. Я тады ўсё думаў — што гэта за дзіўны касцюм?

Перад тым як нашыя творы разбіралі афіцыйныя свяцілы (у асноўным кансультанты пры Саюзе пісьменнікаў), мы самі чыталі адзін аднаму свае вершы, знаёміліся, прывыкалі да саміх сябе ў новых абставінах. Усіх цяпер і не злічыць. Неяк хутчэй за ўсё сышоўся я з універсітэцкімі паэтамі Генадзем Бураўкіным, Юрасём Свіркам. З Полацка прыехаў Анатоль Канапелька[9] ў штанах з непамерна шырокімі калашынамі. А я быў самым стылягам — штаны насіў з завузкімі калашынамі, якія купіла мама ў Вушачы. Яшчэ ў салдацкай форме хадзіў сур'ёзнатвары Уладзімір Паўлаў. Еўдакія Лось закахалася ў станістага, дужага, рослага Уладзіміра Верамейчыка і не хавала гэтага. Уладзімір прыехаў з Палесся і ўсё чытаў верш пра вёску Барбары, у якой ён збіраўся зрубіць сабе — у рыфму — хату ў бары. Усіх здзівіў сваёй адукаванасцю і разам з тым непасрэднасцю і шчырасцю Уладзімір Караткевіч. У яго на пінжаку рамбаваўся універсітэцкі значок.

Літаб'яднанне пры «Чырвонай змене» было тым асяродкам, які гуртаваў пачаткоўцаў. Тут вучыліся самі пісаць вершы і іншых вучылі. Літкансультантам пры «Чырвонцы» быў Іван Калеснік[10], ён жа фактычна і быў кіраўніком літаб'яднання. Гэта ад яго атрымаў я адказ, які падбадзёрыў мяне, зацэпліў нейкую іскрынку надзеі. На пасяджэнні аб'яднання прыходзілі і сталыя пісьменнікі. Так байкар Эдуард Валасевіч расказваў пра санет, Артур Вольскі[11] пра дзіцячыя вершы. Іван Калеснік чытаў як

узор падтэксту і амаль грамадзянскай смеласці радкі некага з рускіх паэтаў: «Она испорчена, но все ж сладка, как воробьем надклёванная вишня».

З кожнага пасяджэння літаб'яднання ў газеце змяшчалася справаздача з пераказам усіх выступленняў, з некаторымі вершамі абмеркаванца. Гэта было літаратурным лікбезам і працягам усё той культурнай рэвалюцыі, якая вучыла пісаць метадам сацыялістычнага рэалізму, альбо халоднай штампоўкі. Разлівалася і тое ж маладое віно ў старыя бутэлькі, толькі этыкеткі крышачку розніліся.

Распавядалі, як у прыпар нэпа ў аднаго крамара быў самы багаты выбар він. А ў суседзяў абмежаваны. Доўга не маглі кліенты зразумець, як гэта так, пакуль аднойчы нехта выпадкова не падслухаў. Прыходзіць пакупнік, крамар пытае, якое віно ён хоча. Той, напрыклад, адказвае, што кагор. Тады гаспадар адлучаецца ад прылаўка і нягучна патрабуе: «Сара, гіб мір этыкеткен кагор». І пакупнік шчасліва выходзіць з кагорам. Трэба партвейн, будзе і ён.

Доўга пасля школы снілася мне, што здаю экзамены па матэматыцы ці па хіміі, яшчэ даўжэй снілася мне пасля універсітэта ваенная кафедра, спецпадрыхтоўкай называлася, каб вораг не здагадаўся, што з нас рыхтуюць малодшы афіцэрскі састаў. Здавалася, што героі Гашака ажылі ў новых абліччах. Часцяком даводзілася выконваць ролю самога Швейка (надта ж любіў Уладзімір Караткевіч гэты вобраз). Так на занятках па тактыцы на пытанне, чаму нельга наступаць на лыжах, у прыціхлай аўдыторыі адказаў я палкоўніку Кузняцову, што калі наступаць з узвышанасці, можна, таго не жадаючы, заехаць у палон. За гэтакі адказ і за рогат аднакурснікаў атрымаў адпаведную адзнаку і быў накіраваны тлумачыць свае паводзіны генералу, загадчыку кафедры. Паўтарылася ўсё і тады, калі запытаўся ў палкоўніка на занятках па матчастцы, ці ў амерыканскіх навучальных установах нашую звышсакрэтную тэхніку вывучаюць? Бо са сваёй зброі мы вывучалі толькі трохлінейную вінтоўку ды гаўбіцу, а амерыканскую — найноўшую зброю. Трэба было адным дыхам сказаць, з чаго складаецца рыдлёўка. З уласна рыдлёўкі, ручкі рыдлёўкі і вінта, які мацуе ўласна рыдлёўку з ручкай. І вясёлыя здарэнні не хочацца ўспамінаць. І цяпер сумна робіцца.

Звыш года жыў я па-панску ў пакоі на трох з двума студэнтамі, якія пераваліся з нейкага расійскага універсітэта. Былі яны падданцамі Польшчы. Гэта вядомыя цяпер Алесь Барскі[12] (тады Баршчэўскі) ды Мікола Гайдук[13]. Яшчэ ў тыя гады пачуў я ад

іх праўду пра Катынь[14]. Пакольки жылі ўтрох, нярэдка і мікіцілі на трох. З канікулаў з-за мяжы прывозілі звычайна танны там спірытус віні. Разводзілі яго вішнёвым сокам, піўся гэтакі напой смачна, браў у свае абдымкі моцна. Баршчэўскі прывозіў нешта з адзявання і абування, што ў Польшчы ўжо ўстарэла, а ў нас толькі ўваходзіла ў моду. Збываў гэты імпарт і мне. Я вазіў Баршчэўскаму з Вушачы і сепаратары, і гужы, і хамуты — на ўмацаванне аднаасобніцкага сектара ў сельскай гаспадарцы з сацыялістычнага лагера. Баршчэўскі быў па-дасціпнаму з'едлівы і ўедлівы, усё даводзіў мяне, маўляў, што ў вас за гімны: то, Божа, цара здароў, то, Божа, Сталіна здароў. І на зайздрасць быў спрытны на залёты — польскі кавалер.

Аднойчы мы разыгралі Івана Калесніка, ён напісаў верш, які яму самому здаваўся вельмі смелым, бо заканчваўся так: «Што ні год — у жыцці паварот, а куды мы ідзём, невядома». У Палацы прафсаюзаў было нейкае зборышча, арганізаванае Саюзам пісьменнікаў. Знаёмлю Івана з Алесем і Міколам. Прашу прачытаць верш. Чытае. Паўза. Алесь і кажа, што трэба гэта перадаць для «Голасу Амерыкі», карэспандэнтам якога ён і ёсць. Іван адразу ж пачынае адмаўляцца ад аўтарства. Не адна шклянка спатрэбілася, каб патушыць паэтаў страх.

Наогул, хоць ужо і Сталін сканаў, страх перад органамі цёк па жылах у кожнага. Добра вячэралі ў рэстаране. Нешта бліснула. Каленік падскочыў да нейкага прыстойна апранутага чалавека, што сядзеў адзін за столікам, і закрычаў, чаму ён нас фатаграфуе?! На пратэст пільнага паэта наведвальнік рэстарана адказаў усмешкай, дадаўшы, што гэта бліснуў дугой трамвай.

На цаліну ехалі ў таварняках, ці, іначай, у быдлятніках. Выгодаў ніякіх. Дзяўчаты пакутавалі, калі трэба было схадзіць да ветру, прыспасаблялі нават нейкія халявы. Хлопцам было прасцей. У стэпе, як далёка ні адбягаліся адзін ад аднаго, схавацца не маглі, даводзілася еўрапеізавацца ў азіяцкіх абсягах.

Удзень спёка, уночы прымаразкі. Спалі на баронах, угнаных зубамі ў дол, на сенніках, напханых калючым асцюкастым сенам. Савецкія рамантыкі, мы каламбурылі, што спім на баронах, як бароны. Правільней было б сказаць, як бараны, дзе ў галаве атары стаялі вызваленыя універсітэцкі камсорг Бабосаў[15] і сакратар гаркама Яўменаў[16].

На цаліну мне мама прыслала сумную выразку з газеты пра смерць Якуба Коласа. Бо мы былі адрэзаны ад усяго свету, нічога не ведалі, нічога не чулі. Ні прэсы, ні радыё.

Уся наша праца пайшла кату пад хвост, як у прымаўцы. З буртоў курыўся дымок. Пшаніца гарэла. Без полымя. Увесь

услаўлены паэтамі і мной грэшным цалінны каравай быў сімвалічным. Добра, што нейкая частка зерня трапіла на бровары — хоць людзі прычасціліся чыстай, хлебнай.

Затое медаль мой за цалінныя вершы выручыў мяне на выпускных экзаменах на ўсё той жа нелюбімай ваеннай кафедры. Плаваў па ўсіх пытаннях. У давяршэнне, на просьбу паказаць нейкую дэталь у гаўбіцы, палез пад гаўбіцу і пачаў засяроджана шукаць тое, што ляжала ў мяне пад носам. Выратаваў мяне прадстаўнік акругі Міхаіл Маркавіч Ізмерлі. Ніколі ні перад гэтым, ні пасля не насіў я ніякіх знакаў заслугі, а на экзамен па ваеннай справе пачапіў срэбны медаль. Прадстаўнік акругі пацікавіўся, за што медаль, я адказаў з безнадзейным выглядам. Гэта і расчуліла палкоўніка, дзякуй яму, заступіўся.

Местачковая замкнёнасць, нават у нейкай ступені дзікаватасць і дзівакаватасць рабілі мне шмат душэўнага вераду. І невыпадкова з захапленнем і трапятаннем, не адпаведнымі ні часу, ні ўзросту, чытаў я «Пакуты юнага Вертэра».

Падабалася пляменніца аднаго ўжо тады амаль класіка. Адной думкі пабаяўся, што скажуць, бач, заляцаюся, каб у пісьменнікі прапхнуцца.

Салодка татахкала сэрца, калі бачыў аднакурсніцу Ганну. Верш пра ключ ад пакоя і ад сэрца прысвяціў ёй, толькі для рыфмы змяніў імя на Кацю («у інтэрнаце» і «Ганна» ніяк не рыфмаваліся), верш гэты даў у «Чырвонай змене» Уладзімір Мехаў[17] у 1954 годзе. Мой першы надрукаваны верш. Дужа падабаўся мне бацька Ганны, з ім аднойчы аж да канфузу начокаўся. Аднакурснік Жэня Клімаў (на першы курс прыехаў з партбілетам і з пераконаннем: дэмакратыяй трэба ўмела кіраваць) павёў як бы ў сваты. Пакуль я асалавела глядзеў на Ганну — майго сэрца панну, сват правяраў форму каленак у абранніцы.

Прыехаў на канікулы. У нас новая кіраўніца мастацкай самадзейнасці Марыя. Ёй пісаў вершы пра вішні спелыя, пра тое, як птушкі прарочылі світанне. Мама кіем разганяла нас. Сынку трэба вучыцца.

На згон зімы зайшоўся я да Барыса Серпера, земляка, сябра, студэнта юрфака. Ён кватараваў у яўрэяў на тады ледзь не цалкам драўлянай Рэспубліканскай вуліцы. Рыпнула бакоўка. Выйшла такой спякотнай чарнявасці дзяўчына, аж мне горача стала. Знаёмімся. Медэя яе імя. У дадатак да спёкі на мяне яшчэ і антычнасцю патыхнула. Барыс, як асалавелы ад смачнага кот, папрасіў звадзіць Медэю на танцы. Венгерка з Ужгарада прыехала высняць адносіны з мужам-спартсменам, які ўцёк

у Мінск. Барыс, значыць, даваў юрыдычную кансультацыю за асалодны ганарар.

Прыйшлі на філфак на танцы. Пара незразумелая. Яна — зыркая, вопытная, смелая, пазорыстая, і я — нязграбны, худы, у несамавітым касцюмчыку і нямодных чаравіках. Мінскія піжоны, якіх напапрыходзіла на танцы на дзявоцкі факультэт, знішчалі мяне позіркамі. Раз-другі станцаваў неяк з Медэяй, а пасля стаяў, а партнёршу маю аж разрывалі кавалеры. Але пасля кожнага танца Медэя вярталася да мяне ў дакор усім. Як Тарас Шаўчэнка ў фільме праз шэраг шпіцрутэнаў, ішоў я з танцаў з Медэяй праз позіркі самаўпэўненых спецыялістаў у галіне кахання. Прывёў да дому, дзе яна спынілася ў нейкае знаёмай. Па-рабоча-сялянску працягнуў руку. Медэя пацалавала мяне ў лоб. Прыйшоў у інтэрнат, а на лбе яшчэ дагараў след ад памады зыркай, як сама Медэя.

У інтэрнаце на Бабруйскай танцы. На вуліцы дождж. Бачу, у інтэрнат заходзіць рэдактар «Маладосці» і грукае кончыкам парасона ў дзверы на першым паверсе. Там жыла вядомая сваёй душэўнай шчодрасцю старшакурсніца. Адвярнуўся, каб не ставіць у няёмкае становішча вядомага празаіка. Хай сабе маладыя гады ўспомніць, думаў я. А можа, на сюжэт што знойдзе.

Гэтая ж студэнтка сядзела на каленях у нейкага афіцэра ў нашым скверыку. Ішлі мы з Генадзем Бураўкіным і адвярнуліся, каб не спудзіць шчаслівую хвіліну. А яна нам крычыць: «Прывітанне, хлопчыкі!»

Быць уцягнутым у грамадскае жыццё было шмат магчымасцяў. У тым ліку і сустрэчы розных дэлегацый, высокіх гасцей. Хто ішоў дэманстраваць усенародную радасць сустрэчы, вызваляўся ад наведвання лекцый на гэты дзень. Захацелася і мне сустрэць дэлегацыю польскага Сейма. На грузавіках павезлі за горад. Калі ішлі, у мяне зляцела галёша, стаў падымаць, а з гары на мяне машына, ледзь паспеў зваліцца ў канаву. Было слізка, у машыны былі слабыя тармазы. Болей ужо не хадзіў, не дэманстраваў. Пацягнула яшчэ раз паглядзець бліжэй на дарагога Мікіту Сяргеевіча, толькі памкнуўся пералезці цераз металічныя вароты з інтэрната, як міліцыянт загнаў назад.

Стыпендыі не хапала ўсё болей і болей з кожным годам. Утрох, Барыс Сачанка, Янка Сіпакоў і я, апрацоўвалі пісьмы ў «Вожыку», пісалі калючкі, фельетоны. Гэта нас падтрымліваў Сяргей Дзяргай. Самабытны паэт. Ранімая натура. Самотнік. Доўга насіўся на мне касцюм, зароблены ў вясёлай арцелі.

Замроены, загадкавы Міхась Стральцоў. На літаб’яднанні не хадзіў. Заўсёды некуды знікаў. Толькі пры сустрэчы асвятляў

сваёй мудра-замаркочанай усмешкай. Пісаў вершы, не мітусіўся іх некуды ўціснуць. Пачалі з'яўляцца апавяданні. І выходзіць першая кніжка незвычайнай прозы, асязальнай і няўлоўнай, пластычнай і глыбінна-духоўнай. Як маладзенькая восень, яшчэ празрыстая, але з першымі хмурынкамі, яшчэ радасная, але з лёгкімі цянінкамі смутку, яшчэ летуценная, але з упартымі зморшчынкамі роздуму на высокім чале. Пазней ва ўжытак літаратурнае крытыкі ўвайшло паняцце «стральцоўская проза». Сяброўства нашае да канца дзён Міхася нечым нагадвала ягоную ж прозу.

Добра было з Сымонам Блатуном[18] і вершы абмеркаваць, і чарку асушыць. Мы часта, наколькі дазвалялі магчымасці нашыя, хадзілі вячэраць у рэстаран «Вясёлка», гэта насупраць вакзала, у адным з дзвюх высокіх будынінаў так званых варот Мінска. Была ў нас любімая афіцыянтка Тася. Тася яўна была закаханая ў прыгажавітага Сымона. Муж Тасін то сядзеў за нешта, то выходзіў. І адзін з нашае кампаніі неяк пайшоў праводзіць Тасю дадому. Муж на той час сядзеў. І толькі ён вырашыў забыцца на ўсё, як Тася крыкнула жахлівае: «Муж!» Часовы намеснік мужа — у вакно, а ў садзе яго за калашыну сабака. Дабег да плота і сігануў цераз яго. Назаўтра паглядзеў на плот і сказаў, што і пад пісталетам бы зноў не пераскочыў. Сусветныя рэкорды і з перапуду можна рабіць.

Дык вось калі мы пасля выпускных экзаменаў пайшлі адзначаць важную падзею ў сваім жыцці да Тасі, грошы скончыліся раней, чым нашае жаданне падымаць тосты. На Сымоне была модная пулятая каўбойка. Тася прапанавала Сымону прадаць каўбойку. Якраз у чарговы раз вярнуўся муж. Хацелася вернай жонцы зрабіць падарунак свайму гаспадару. Сымон пад нашымі ўгаворамі згадзіўся. Пайшлі ў інтэрнат. Крыху падрамаўшы, Сымон раздумаў прадаваць каўбойку. Але да Тасі вячэраць мы яшчэ доўга хадзілі, і не толькі халасцякамі.

Доўга мы хадзілі ў інтэрнат начаваць да сяброў, якія яшчэ вучыліся ва універсітэце. І ўрэшце камендант безнадзейна махнуў рукой, калі ў пакоях на ложках бачыў выпускнікоў. Сваіх жытлаў не было, а на кватэрах ніякавата сябе адчувалі пасля студэнцкага застолля.

Пасля універсітэта я павіс паміж небам і зямлёй. У беларускіх часопісах і газетах былі месцы, але, як у анекдоце гаворыцца, у генералаў свае ўнукі. Выпадкова сустрэў мяне Уладзімір Мацвееў, які працаваў тады ў «Знамени юности», і пасватаў у газету «Советская Белоруссия» на пасаду літаратурнага кансультанта

аддзела культуры. У гэты час у самую сілу ўбіраўся новы культ Хрушчова. Прамовы на чатыры паласы як мінімум. «Свежым вокам» даручалі быць маладому нежанатаму літсупрацоўніку. Да раніцы чытаніна. Але ўжо дзьмулі новыя вятры. Неяк двое рабочых замянялі ў кабінеце партрэт нейкага былога члена Палітбюро на партрэт дарагога Мікіты Сяргеевіча. Адзін вешае, а другі заўважае, што не па цэнтры. Першы гучна: «Хрэн з ім. Што з яго — страляць?»

Мы ўсе верылі, што ўсё зменіцца. Кпілі са старэйшых, якія ў сваіх вершах ды паэмах Сталіна замянялі на Леніна ці на партыю. І ў гімне на словы Клімковіча замест «Сталін да шчасця вядзе нас ўпярод» (радок для лагапедаў) павяла партыя. Трохтомнік Крапівы адкрываўся вершам, які спявалі штодня па радыё, «Мы роднаму Сталіну ў песні любоў і падзяку прынеслі...» А далей ішлі байкі «Сука ў збане», «Калі ў краме ёсць нястача...». Давялося выдзіраць старонку і перадрукоўваць гатовы ліст. Калі акадэміка (здаецца, званне далі за тлумачэнне сталінскіх «Вопросов языкознания...») папрасілі ў каментарыях зняць абразлівыя характарыстыкі Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы ды іншых «клятых нацдэмаў», бо яны рэабілітаваныя, цвёрда адрэзаў: «Гэта яшчэ паглядзім». Як і ў свой час, калі Панамарэнка, сабраўшы верных памагатых партыі, паведаміў, што ёсць магчымасць двух пісьменнікаў вярнуць з ссылкі (гэтакая разнарадка была), той жа Крапіва, успаміналі потым удзельнікі збору, заключыў: «Як сядзелі, хай так і сядзяць». Панамарэнка змоўк. І ён не ўсё мог. І сам я адчуў пануры пагляд прыроднага сатырыка, калі з задніх крэслаў у Саюзе пісьменнікаў прапанаваў назваць праспект імем Янкі Купалы. І яшчэ болей уз’юшыў байкара, выкрыкнуўшы, што ведаю, каму браніруецца праспект (тады ўжо амаль гатовы былі назваць імем галоўнага кукурузавода). Партыя любіла час ад часу раіцца з народам і з працоўнай інтэлігенцыяй. І на гэты раз дазволілі пісьменнікам памеркаваць, як перайменаваць праспект імя Сталіна. А зрабілі, як і паэты ў сваіх вершах, памянялі Сталіна на Леніна. Быка на індыка.

Рэдактар «Советской Белоруссии» Здаравенін (думаецца, з тых беларускіх Здаравеняў, якія ў Расіі сталі Здаравенінымі) быў тым расіянінам, што любіў і паважаў усё беларускае. Пры агульным манкурцкім духу беларусаў, супрацоўнікаў рэдакцыі, Здаравенін казаў мне, каб я гаварыў па-беларуску, каб рыхтаваў штомесячна літаратурную старонку, дзе б змяшчаліся творы беларускіх аўтараў у перакладзе на рускую мову. Гэта Здаравенін сказаў слова ў абарону Пімена Панчанкі, калі яго ўкрыжоўвалі

ў ЦК за нізку вершаў, асабліва за «Прыстасаванцаў». А некаторыя раўніўцы неўміручых ідэй ледзь не расстрэлу патрабавалі. Той жа самы рэдактар «Калгаснай праўды», выхадзец з данскіх казакоў, перавёў газету, адрасаваную беларускаму сялянству, з моднай у той час двухмоўнай на аднамоўную, рускую. Хрушчову пасля выступлення ў Оперным тэатры ў Мінску па пытанні сельскай гаспадаркі паднеслі нумар газеты на рускай мове. Кажуць, пахваліў.

Гэтакім макарам у свой час рашучаму барацьбіту з Бахусам Лігачову (у Віцебскім абкаме доўга захапляліся, як барацьбіт асушыў дзве бутэлькі «Белавежскай» і хоць бы ў адным воку) паднеслі худзенькую «Рабочую смену», адрасаваную маладым беларускім рабочым, абавязкова ж на рускай мове. Ягор Кузьміч багаславіў выданне, і стаў часопіс «Парус» усесаюзным.

Ад імя здаравенінскай газеты ездзіў я ў Гродна да свайго земляка Васіля Быкава па апавяданне. Бачыў, як Васіль удзень ходзіць у рэдакцыю абласной газеты, а ўночы працуе. Брала разгон магутная рака, якая суровай праўдай пра вайну амыла берагі Еўропы і Азіі. Яна дапала сваёй чыстай плынню да акіяна сусветнай літаратуры. Ад ураджэнца вёскі Бычкі, што на Вушаччыне, чуў я тады, на пачатку 60-х, тое, пра што прывыкаюць не баяцца казаць сёння.

Студэнтам прынялі мяне ў Саюз пісьменнікаў. Запомніўся дзень таму, што атрымаў двойку па спецпадрыхтоўцы ў палкоўніка Кузняцова раніцай, а ў абед прынялі ў Саюз. Тады галасавалі адкрыта, як на калгасных сходах. Адзначаць гэтую падзею пайшлі з Юрыем Багушэвічам[19]. Ён працаваў у апараце Саюза памочнікам ці не Шамякіна. Адзначылі мы, значыцца, падзею як след, але дабаўляць яшчэ я пайшоў да Юрыя Канстанцінавіча. З працы вярнулася гаспадыня, яна ж Уладзіслава Юльянаўна Раманоўская, пляменніца Янкі Купалы. Адразу спытала, колькі ў мяне грошай, пералічыла, паклала ў шафку і сказала мне прыйсці заўтра. На дарогу на таксі (хоць ад плошчы Перамогі да інтэрната было блізка) мне нешта пакінула. Назаўтра павяла мяне ў атэлье пры Доме ўрада (Уладзіслава Юльянаўна працавала ў адной з устаноў у Доме ўрада), заказала мне касцюм і паліто. Усё было і дарагое, і моднае. Грошы я атрымаў тады ў выдавецтве за свой «Маладзік над стэпам».

З Юрыем Багушэвічам мы сябравалі вясёла. Усе ягоныя ўспаміны пра вайну зводзіліся да дэтэктыўных прыгод з жанчынамі, з праблемамі здабывання зялёнага змія. Сам быў прыгожы і прыгожых любіў. Яго таксама. Шкадую, што не меў магніта-

фона, бо маглі б Багушэвічавы прыгоды ў нечым супернічаць з мапасанаўскімі навеламі.

Шчаслівы я ад таго, што лёс звёў мяне з атожылкамі пявучага Купалавага дрэва. З Уладзіславай Юльянаўнай, з Ядзвігай Юльянаўнай, з Іванам Юльянавічам. Здарылася не адзін раз быць госцем у іхняй маці, сястры Янкі Купалы.

Янка Раманоўскі[20] вытанчанасцю аблічча нагадваў вялікага Купалу. Майстар псіхалагічнага партрэта мастак Янка Раманоўскі стварыў асабліва адухоўлены, асабліва беларускі вобраз Янкі Купалы. Праз усе гады глядзіць на мяне Іван Дамінікавіч работы Янкі Раманоўскага — дарагі падарунак майго старэйшага сябра. Гэта Янка Раманоўскі надаваў аблічча часопісу «Маладосць» як галоўны мастак. Гэта Янка Раманоўскі не выпускаў ні з рэдакцыі, ні са свае хаты маладых паэтаў, каб не пачаставаць шампанскім. Ласкава хмяліў бакал з рук пляменніка Янкі Купалы. І казаў наш Янка, як у яго аж балела рука трымаць сабаку, таму што не счыняліся дзверы ў Купалаву хату. Толькі ўсміхаўся, калі чытаў некаторых успаміншчыкаў (асабліва аднаго коласазнаўца), бо ведаў, хто бываў у гасціннай хаце. Ужо цяжка хворы прыйшоў паглядзець, як заканчваліся ўсе клопаты каля помніка Янку Купалу. Анатоль Анікейчык, узлезшы па прыстаўленай да бронзавай фігуры паэта драбіне, нешта дасканаліў у твары. Янка мне ціха шапнуў: «Вусы дзядзьку зрабіў, як у самога Анатоля. Дзядзька караценька падстрыгаў іх. Шляхетныя вусы былі ў дзядзькі». У вуснах Янкі Раманоўскага слова «дзядзька» мела два значэнні, два адценні: дзядзька, як называлі Купалу па беларускім звычаі, і дзядзька, як брат маці, асаблівае гучанне было ў гэтым слове. Мякка, родна звінела наша «дз».

Ядзвіга Юльянаўна абнікала ўсе куткі Саюза, шукаючы і знаходзячы унікальныя матэрыялы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Янкі Купалы. Яна была самым скупым захавальнікам фондаў, бо дрыжэла над кожным дзядзькавым радком, кожнай дзівам ацалелай ягонай рэччу. Гэта ж роднае, дарагое. У шматлікіх паездках па прапагандзе творчасці Янкі Купалы, па ўшанаванні ягонага імя пашанцавала мне быць з Ядзвігай Юльянаўнай. Панавітая, годная, стрыманая і апантаная, яна адчувала сваю далучанасць да славы Купалы, сваю крэўнасць з волатам славянскага свету. На пасаду дырэктара музея пасля незабыўнае цёткі Уладзі ставілі апекуны з ЦК праз Міністэрства культуры ўсіх, акрамя крэўнікаў паэта. Аднаго трэба было некуды збыць, другому дужа ж ужо спадабаўся кабінет, зроблены Агуновічам (такога ў жывога Купалы не было), а ён, то рэдактар часопіса, то

жалезны парторг Саюза пісьменнікаў, прывык да кабінета яшчэ з тых часін, калі пісаў кнігу партызанскіх успамінаў кіраўніку, якога нельга было абвінаваціць ні ў нацыяналізме, ні ў вялікадзяржаўным шавінізме: гаварыў адразу і па-беларуску і па-руску. Але ўсё роўна музей Янкі Купалы без Ядзвігі Юльянаўны нельга было ўявіць. І цяпер, калі нарэшце дырэктарам стала яе дачка, Ядзвіга Юльянаўна прыходзіць сюды не як былы супрацоўнік музея, а як да дзядзькі ў хату. Па-роднаму.

Ёсць карціна Паўлоўскага[21], дзе Янка Купала і Якуб Колас гуляюць у шахматы. Янка Раманоўскі неяк даваў каментарыі. Пачынаецца гульня. Якуб Колас спакойны, разважлівы, нетаропкі, робіць ход за ходам. Янка Купала парывісты, бачыць, што хутка мат. І тут жа пачынае: «Ведаеш, Якубе, сніўся мне сон, што памёр ты, а за труной ніводзін сабака не йдзе». Якуб Колас падкідвае дошку: «Шляхцюк!» У адказ: «Мужык!» І некалькі дзён маўчанне. Але ненадоўга. Звоніць нехта першы, зноў такая ж гульня. Зноў такі ж фінал. Жывыя людзі былі. Потым ужо кананізацыя і ікананізацыя пачаліся. Кожны сам па сабе роўнавялікі талентамі сваімі. А часта раней, сказаўшы — Янка Купала, тут жа трэба было дадаць і Якуб Колас. На ўзор бальшавіцкага Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс. Не дзіва, што ў часы застою хадзіў анекдот пра чукчу, які толькі на з’едзе партыі ў Маскве даведаўся: Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс не муж з жонкай, а чатыры зусім розныя чалавекі.

І Якубу Коласу пашанцавала на рупліўца. Даніла Канстанцінавіч[22] не толькі вонкава падобны да бацькі, але і працавітасцю, і мудрасцю. Гэта ён, як атлант, трымаў на сваіх плячах музей Якуба Коласа.

Працаваць у «Советской Белоруссии» давялося мне нядоўга. Мяхамі ішлі лісты з графаманскімі вершамі, нават раман з працягам ад аднаго аўтара з вар’яцкага дома. Культ Хрушчова мацнеў, як мароз на Каляды. Амаль у кожным вершы — пра яго, паэмы — пра яго, паэмы пра палёт у Амерыку (пра ляпанне чаравікам у ААН нічога не было). Адказваць трэба было асцярожна, бо прыводзіць як кепскія радкі цытату з дарагім імем нельга. Па завядзёнцы савецкае прэсы я толькі пісаў адказы, а падпісваў сваім прозвішчам загадчык аддзела. Прыдумаў я штамп-балванку і толькі ўверсе ставіў імя і імя па бацьку шаноўнага аўтара. Нешта накшталт: «Уважаемый товарищ (імя і імя па бацьку), очень приятно и радостно, что Вас волнуют величественные злободневные темы. Но Вы забываете об одном, самом главном в литературе, — величественные темы требуют

соответственного художественного воплощения. К большому сожалению, Вам пока этого достичь не удалось. Желаем успехов! С уважением зав. отделом культуры Г. Таран». Наколькі часта «тараніў» я адказамі непрабіваемых аўтараў, паказвае тое, што да сёння помню тэкст.

Прынёс вершы ў часопіс «Беларусь». Заходзіць у кабінет невысокі ростам, нецярплівы, нервовы, крыху грэбліва-пыхлівы, з быстрымі цёмна-маладымі вачыма, з амаль жаночымі рысамі твару мужчына. Знаёмімся. Усевалад Краўчанка[23]. Адразу сказаў, што яму трэба чалавек у рэдакцыю. І стаў я аж рэдактарам аддзела ў часопісе «Бярозка», вёў паэзію, прозу, спорт, шахматы, красворды, раздзел «Гэта ваша творчасць». Былі аўтары чыста дзіцячыя з піянерскім ухілам, прысылалі свае творы маладыя пісьменнікі, школьнікі. Яшчэ ў мае абавязкі ўваходзіла, так бы мовіць, браць дровы з-пад сякеры — прасіць у афіцыйных класікаў і кандыдатаў у класікі новыя творы, хоць бы ўрыўкі з іх. У абавязкова ленінскі красавіцкі нумар апавяданні пастаўляў Павел Ткачоў[24], амаль усе раздзелы свае паэмы «Вецер з Волгі» Вялюгін, паралельна даючы іх у «Полымі», дзе быў загадчыкам аддзела паэзіі. Хадзіў да Максіма Танка, Івана Шамякіна, Тараса Хадкевіча[25], — пералік можна працягваць.

Пятрусь Броўка прынёс паэму «Наш музей», дэмакратычна папрасіў пачытаць і сказаць сваю думку. Пачытаўшы і пападкрэсліваўшы густа другі экземпляр машынапісу, праз які час сваю думку пачаў казаць. Бачу, не падабаецца, як бы не мае часу слухаць, бо некуды спяшаецца. Не стаў далей паказваць на агрэхі. Ціха паправіў і толькі перадаваў старшыні Саюза пісьменнікаў карэктуры чытаць. На тым і паразумеліся.

Прыехаў з Буда-Кашалёўшчыны з вёскі Буда-Люшынская яшчэ худы і галодны Мікола Чарняўскі[26], сядзеў датуль, пакуль не сказаў, што вершы пойдуць. І пайшоў Мікола Чарняўскі ў дзіцячую літаратуру. Кажу пра ўвесь час мае працы ў «Бярозцы».

Пачынаў працаваць пры Краўчанку, скончыў пры іншым. Пра такіх, як Усевалад Краўчанка, звычайна кажуць — у крутой вадзе купаны. Загараўся, як куль саломы, і тут жа атухаў, бо натуры быў пяшчотнай, ранімай. Не давала яму, было відаць, спакою, што ў яго, галоўнага рэдактара, старэнькая дабітая машына, з клопату пра запчасткі да якой і пачынаўся працоўны дзень, а ў Міколы Гамолкі[27], намесніка галоўнага рэдактара, навюткая «Волга», яшчэ і сядзенні пакрыты магазінным цэлафанам. Гамолка тады грымеў як фантаст, гэта ў ягоным рамане амерыканскі мільянер палуднаваў халоднай свіной тушонкай,

падагрэць яе не меў часу — трэба было рабіць бізнес. Слова «бізнес» тады гучала як лаянка.

Пры Краўчанку якраз я жаніўся. Перад вяселлем знік на нейкі тыдзень, заняты празаічнымі клопатамі па падрыхтоўцы застолля. Выходжу з Валяй з рыбнага магазіна, што каля авіякасаў, глядзь — шэф, я за вугал. Крычыць: «Не хавайся, бачу цябе!» Падыходжу — кіпіць. Тлумачу, што жаніцца вырашыў, тут жа палагаднеў, сказаў, што прыйдзе на вяселле. І прыйшоў. Яшчэ і цяпер ёсць у нас прыгожая вазачка пад кветкі — падарунак Усевалада Краўчанкі.

Цікава было назіраць, як ён ехаў з пісьменніцкай дэлегацыяй у Югаславію. У майстэрні Саўміна ці ЦК пашылі ўсім аднолькавыя дарагія касцюмы і габардзінавыя плашчы. Пасля дзяліўся ўражаннямі ад паездкі і дзівіўся, як гэта на пляжы адпачыванцы адразу пазналі, што яны савецкія? Людзі ў шортах, ва ўсім лёгкім, а яны ў душных касцюмах і габардзінавых плашчах.

І цяжкую місію на мяне ўсклалі па службовай лініі — паехаць у Шацілкі (іх яшчэ тады не перасавецілі ў Светлагорск) да бацькоў і паведаміць, што сын загінуў у Парыжы. Трагічна. Загадкава. Дагэтуль. Усю дарогу думаў, з чаго пачаць, а бацькі ўжо ўсё ведалі з «варожых галасоў».

У функцыі супрацоўнікаў рэдакцыі ўваходзіла яшчэ прапаганда часопіса, дбанне пра тыраж. Мне была заказана вершаваная рэклама. Прапанаваў дзве. Адну на запалках:

Стой! Не прыпальвай папяроску.
Ты сыну выпісаў «Бярозку»?!

Другую на адваротным баку гарэлачнай і віннай этыкетак:

Цвярозы ты ці выпіўшы,
А наш часопіс выпішы!

Ніводная рэклама не пайшла ў чытацкія масы.

Другую рэкламу я зачытаў на камсамольскай нарадзе ў нейкім раёне. Сакратар райкама камсамола потым на з’ездзе камсамола абураўся, што супрацоўнікі піянерскага часопіса выступаюць з п’янымі лозунгамі перад актывам.

З рэкламай у мяне былі і такія стасункі. Яшчэ студэнтамі маладых паэтаў і мастакоў гаркам камсамола мабілізоўваў на выпуск БОКСа (Боевой орган комсомольской сатиры). Крытыкавалі ўсё тых жа няшчасных п’яніц. Але неяк выклікаў мяне ў гаркам нейкі Анкуда (адразу прасілася рыфма). Камсамоль-

скае даручэнне. Навінка. Сатырычная радыёгазета. Звесткі з ДСМ — дасміла (мілосцю ў гэтай абрэвіятуры і не пахла, азначала добраахвотнае садзейнічанне міліцыі). Зазначу, што ДСМ пакрыў сябе сумнай славай. Хапалі каго папала, абы трохі вясёлым здаўся, валаклі ў падвалы спецыяльнага абсталявання, дзе акрамя міліцыі трэніраваліся баксёры з фізкультурнага інстытута. Смяротныя вынікі спісвалі на «моцнае алкагольнае ап’яненне» ці на што іншае.

Для сатырычнай радыёгазеты мне далі незвычайны матэрыял. Я павінен быў крытыкаваць камсамолак лёгкіх паводзін, мякка кажучы. Гнеўна кляйміў я дачок камсамола, якія ступілі на сцежкі распусты. Называючы прозвішча, імя і імя па бацьку кожнай гераіні паасобку, указваў год нараджэння і дакладны адрас. Усе звесткі, якія даў мне Анкуда. Гнеўны мой тэкст і ўсе дадзеныя дыктар запісаў на радыё. Перад пачаткам сеансаў у асноўных кінатэатрах сталіцы пачаў круціцца ролік. Прыходжу па матэрыялы на другі выпуск, Анкуда змрочна дзякуе і кажа, што досыць. Яму як не вымову далі.

Як на цяперашні розум, дык і не ведаю, ці я ганьбаваў распусту, ці нявінным лёс ламаў.

Калі Генадзь Бураўкін працаваў на радыё, рабілі мы з ім перадачу «На калючай хвалі». Пісалі вершы, папеўкі, фельетоны. Высмейваючы стыляг, напісалі песню. Тэкст, помніцца, быў прыблізна такі:

Я па броду крочу ўдзень і ўночы
З чувіхаю
І цыгаркай яркай проста ў вочы
Ёй пыхкаю.
Чувіха клёвая хадзіла з Лёваю,
А сёння прашвырнулася са мной.
Як жа мне дарэчы мой старэча,
Мой папахан.
Хай працуюць продкі, будуць сродкі
На рэстаран.
Пад плёнку новую, двухсотрублёвую
Адколім мы законны танчык рок...

І з такім пачуццём акцёр выканаў усё гэта, што прыйшло на рэдкасць багата лістоў з просьбай паўтарыць «Песню стылягі». Болей нас не прасілі рабіць «Калючую хвалю».

Аж не хочацца называць прозвішча чарговага рэдактара «Бярозкі». Пры ім я доўга не пабыў. Любіў, каб яму даносілі,

і гэта ў калектыве з нейкіх пяці чалавек. Хоць ты сам на сябе данось, каб выслужыцца. Уся прапагандысцкая машына дужа насілася з ягоным вершам «Не завіце маю рэспубліку...»[28], у якім абыгрываліся Трусавы радкі: «...край балот, о край, калі ж ты станеш краем фабрык дымных і машын». Тады Мікола Лупсякоў[29], які прыкідваўся дзіваком, правяраў мяне, ці баюся я рэдактара. Паказаў, што не баюся. З буфета ЦК камсамола прынёс яму ў наш агульны пакой піва і нават яечню. А за сцяной сядзеў паэт-пафаснік, ён жа рэдактар «Бярозкі». Як ні крыўдна, але з гэтым паслушнікам партыі звязаны і сумны ўспамін.

Перапахаванне праху Янкі Купалы адбывалася ў сакрэтнасці ў духу сталіншчыны. Потайна з Масквы урну з прахам прывезлі ў музей паэта. Дзяжурылі адабраныя людзі і блізкія нябожчыка, калі так можна сказаць. Невялічкай купкай людзей было абмежавана жалобнае шэсце. Па званках з адпаведных устаноў. Вянкі ад заводаў, арганізацый было дадзена ўказанне на могілкі несці з пэўнымі інтэрваламі. Каб не было «большого стечения народа». Уся дзяржаўная машына баялася праху паэта. А раптам што выбухне. І якраз на час перапахавання рэдактар склікаў лятучку. Каб усе былі на месцы, пад наглядам. А потым ЦК давала яму прэмію імя Янкі Купалы. Дабіваўся. Хацеў. Дамогся. І яшчэ нядаўна Іван Шамякін скрушыўся, што ў вайну, калі хавалі Янку Купалу, забыліся паклапаціцца, каб захаваць для Саюза пісьменнікаў Беларусі месца дэпутата СССР. Было два, а засталося адно. У Саюзе пісьменнікаў было законам: старшыня — дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, член ЦК Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі, акадэмік і так да ўпору. Сакратарам належала меней атрымаць за пасаду, але абавязковыя Зборы твораў, выданне на мовах народаў СССР, у краінах сацыялізму аж да Кітая, манаграфіі пра жыццё і творчасць, напісаныя кандыдатамі і дактарамі навук у аддзяку за прыём іх у члены Саюза пісьменнікаў. Хоць слова «член» гучыць чужавата і двухсэнсова ў нашай мове, членамі называцца жаданцаў хапала. І хапае. У той час як сакратарам выдавалі Зборы твораў да кожнай круглай, паўкруглай і чвэрць круглай даты, двухтомнік Васіля Быкава ўпершыню выйшаў у ФРГ. Манаграфію пра яго творчасць Васіля Бурана[30] трымалі, нявечылі, разбіралі набор. І як на дзіцячую гульню глядзеў Уладзімір Караткевіч на дзейнасць кіраўнікоў саюза. Часта мы ў добрым настроі спявалі на матыў «Мы, цыганы, добры людзі»:

Кожны дзень мы п’ём «Зуброўку» за здароўе Пеці Броўкі.
За здароўе Броўкі Пеці мы прап’ём усё на свеце.

За здароўе Петруся вып’ю літр і вытруся.
За здароўе Куляшовай вып’ем толькі не дзяшовай,
За здароўе яе мужа вып’ем, братцы, але не дужа.
За здароўе М. Ткачова будзем піць мы хоць з начовак.
За здароўе Ткачова Колі не адмовімся ніколі.
За здароўе Кавалёва мы кірнём з чувіхай клёвай.
За здароўе Кавалёва Паўла мы закусім нават падлай.
За здароўе Фані Алер мы прап’ём і гэлд, і талент.
За здароўе Алер Фані мы ў Літфондзе ракам станем.

А камічнага было шмат. Узяць хоць бы закрытыя партыйныя сходы. Таямніца. На літр каньяку заклаўся я з Уладзіславам Нядзведскім[31], што праз паўгадзіны, не выходзячы з хаты, скажу яму падрабязнасці. А пасля папрасіў Генадзя Кляўко[32] адразу ж пазваніць мне, паабяцаўшы зноў жа каньяк. Аж каньяк не браў Нядзведскага, калі я казаў яму, дзе хто сядзеў, што казаў, да рэплік. Яшчэ весялей, што партыйцы не ведалі ўсіх, хто збіраўся на «тайныя вячэры». Прымацоўвалі да партарганізацыі адстаўнікоў, пенсіянераў, стукачоў, хоць апошніх было з галавой сярод сваіх жа «товарищей».

Без партыі, без яе мудрых планаў і ўказанняў і сонца ўзысці не адважвалася. Трэба выдаць кніжку — ішлі ў ЦК, трэба перавыдацца, атрымаць званне так званага чырвонага прафесара, не маючы чыну доктара навук, атрымаць на дзяцей кватэру, сабе пакінуўшы старую пад музей, — ціснуліся члены Саюза пісьменнікаў у ЦК. Калі паэт-пафаснік пасля дзіцячага часопіса «Бярозка» быў зноў жа тым самым ЦК кінуты дабіваць «Полымя», пасылаў на ўхвалу ў ЦК нават змест падрыхтаванага нумара, каб там заадно паглядзелі, у якім парадку пастаўлены аўтары, хто за кім. Сам рэдактар і ягоныя падхвоснікі напаўшапталі: «АТК». Самі сабой ганарыліся, што вынайшлі абрэвіятуру двухсэнсавую — і аддзел тэхнічнага кантролю, і сакратар ЦК Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін. Іван Шамякін цяпер пачаў друкаваць свае дзённікі ў «Полымі», і там аж стракаціць ад трох літар АТК. Пакладзісты натурай, у прынцыпе добразычлівы, Кузьмін, былы баявы лётчык, меў сімпатыі да пісьменнікаў. Абсыпаў цэкоўскімі шчадротамі вернападданых іванькаў-устанькаў, але і дапамагаў парушальніку ідэалагічнага спакою Алесю Адамовічу, бараніў наколькі мог апальнага Васіля Быкава. Здарылася, што і мне паспрыяў. На тэлебачанні загадам ад начальства з метраполіі забаранялася паказваць і даваць слова тым, у каго была барада. (Хоць з барадатым Фідэлем адносіны ў імперыі былі цёплыя.)

Было нейкае мерапрыемства. Тэлевізійнікі прапанавалі мне выступіць. Адмаўляюся, бо не хачу галіць бараду. Тады звярнуліся да Кузьміна за дазволам. З усмешкай дазволіў, заўважыўшы, што барада мая не такая ўжо і даўгая. Пасля КДБ па сіле страху ды ўлады ішло ЦК. Хоць, па сутнасці, кажучы словамі «лепшага, таленавіцейшага паэта савецкай эпохі», яны «близнецы-братья». Пішу гэтыя абрэвіятуры, а ў галаве стаіць загадка, якую мне нядаўна загадала Марыя Рыгораўна — крэўніца мая па бацькавай лініі: «Сядзіць Савасцей без скуры, без касцей». Гэта куча, што звычайна за хлявом была. Ад карніцка-ідэалагічных куч залежала, чым пахла ў паветры. Таму і стараліся самыя жвавыя трымаць нос па ветру.

Партапарату патрэбна была прыгожая легенда, і яе зрабілі не без дапамогі пісьменнікаў. Легендай гэтай быў Машэраў. Называлі, як і Хрушчова і Брэжнева, па імю і па бацьку Пётр Міронавіч, пашанлівае «наш дарагі» па рангу не належала, бо прызначалася толькі для крамлёўскіх правадыроў. Гэта пры Пятру Міронавічу Беларусь здавала два планы ў засекі імперыі, гэта пры Пятру Міронавічу фактычна ўсе школы пераведзены былі на мову «межнациональных сношений», арганізавана было паляванне на ведзьмаў нацыяналізму ў Акадэміі навук, гэта пры Пятру Міронавічу канчаткова вывелі з ужытку беларускую мову ва ўсіх установах, нават экскурсаводам забаранялася весці экскурсіі на беларускай мове. Можна доўга працягваць пералік «заслуг» Пятра Міронавіча перад нацыяй. Чаго толькі варта бязмозгла-планавае асушэнне балот, насаджэнне шкодных для здароўя людзей хімічных гігантаў у ацалелых яшчэ унікальных кутках прыроды, у гарадах, багатых на гістарычныя помнікі. Кажуць, што да канца дзён сваіх замінаў ягонаму пагляду ў светлую будучыню Чырвоны касцёл у Мінску, бо хацеў бачыць горад цалкам сацыялістычным. Любіў Пётр Міронавіч сустрэцца з пісьменнікамі, паездзіць па паказушных калгасах, паабедаць на Нарачы.

Але я і ўдзячны Машэраву, што дапамог мне надрукаваць у Маскве паэму «Блакада». У інтэрв'ю «Литгазете» ў пераліку твораў пра вайну ён назваў і маю «Блакаду». Нехта з памочнікаў паставіў у шэраг. Гэта і вырашыла лёс. У нашым Галоўліце выкраслілі непрыемныя пільнаму слыху радкі:

Не грэюць паддзёўкі паношаныя,
Сагрэюць «курорты» паўночныя.
З асцярогаю партызан колішні
Пазірае на малінавыя аколышкі.

Пакуль даходзіла да Галоўліта, старалася рэдактура. Не жартам на радыё казалі: калі ў тэксце ёсць кропка з коскай, можна кропку выразаць. Часам здымаючы адну нявінную літару, змянялі ўвесь сэнс. Так, помніцца, у «Полымі» пільны рэдактар аддзела паэзіі ў вершы пра Украіну закрэсліў толькі літару «к» і атрымалася замест «у краіне краіна» — «у краіне раіна», значыць тапошя.

Наравістую паэму «Смаргонская акадэмія» не пускалі нікуды каля дзесяці гадоў. І тэма далёкая ад палітыкі, а нешта ўгледзелі. Пачалося з таго, што рэдактар «Полымя», знаёмы мне па «Бярозцы», панёс куды трэба, потым паклаў у сейф (ганаруся, што цаніў), пакуль зусім не згубілася. Даў пачытаць Петрусю Броўку, хваліў за мову, за гучанне, але раіў пачакаць, пакуль не пакончым з капіталізмам.

Падтрымаў Пімен Панчанка, але толькі дзякуючы Варлену Бечыку[33] выйшла ў выдавецтве ў кнізе.

Не строю з сябе апальнага. Проста прыгадваецца, наколькі пільнай была савецкая цэнзура і як ёй дапамагалі свае браты-пісьменнікі. Добраахвотна. На грамадскіх пачатках, так бы мовіць. Ішла, як кепліва ў песні пяецца, вайна пасярод гаўна.

Ды, як гэта было і будзе ў жыцці, і ў Галоўліце працавалі нармальныя людзі. Хочацца ўдзячным словам успомніць Марыну Канстанцінаўну Высоцкую. Ужо без аўтара выходзіла кніга паэзіі «Быў. Ёсць. Буду». Уладзімір Караткевіч паспеў толькі вычытаць перадрук. А ў кнізе, што ні старонка, то ўпамінаецца Бог, то Беларусь узвялічана, то пра віно смачна пішацца. Прыйшла карэктура. Панёс да Марыны Канстанцінаўны. Падпісала. А былі ў яе непрыемнасці па службе. Прыходжу забіраць том Броўкі, усміхаецца: думала, хоць адпачну, бо ў Петруся Усцінавіча «крамолы» не можа быць, ды памыліліся. Праскочыла слова «лагер» (гэта ў аповесці «Пляма», дзе герой сядзеў зусім не за палітыку), а яго дазвалялася ўжываць толькі ў дачыненні да піянерскага лагера. Атрымала ад начальства заўвагу.

Мой зборнік чытаў адзін галаўлітчык. У вершы ўпамінаўся сябра і зямляк Якаў Абрамавіч Серпер. Запытальна пазірае. Кажу, што два інстытуты скончыў загадчык аптэкі і ехаць не збіраецца (у нашыя дні ўсё-такі паехаў), і напамінаю анекдот, як яўрэйскую праблему вырашылі ў адным афрыканскім племі — апошняга з'елі.

Былі ідэйныя ціўуны, але жыццё ішло, і быў Рыгор Бярозкін, крытык, тонкі дэгустатар паэзіі, быў Васіль Быкаў — сумленне нацыі, быў Уладзімір Караткевіч — празарлівы рамантык, не-

папраўна закаханы ў Беларусь. Жыццё было ў палоску (уначэлае і развіднелае), ужо, дзякуй Богу, не ў клетачку.

З Вушачы прыязджала мама. Выстойвала як паваенныя чэргі па малако і хоць які батон, бо ўнучка Ілона была маленькая і любімая. Не магла мама прывыкнуць, што вяршынкі называюцца «сливками», зліўкі ж — гэта зліванае малако без вяршка, які ва ўсіх казках любіць злізваць каток. На Бялінскага была мая першая кватэра, нада мной жыў Анатоль Клышка[34], як і належала крытыку. Багаты на дзяцей, яшчэ забраў да сябе ў хрушчоўскую двухпакаёўку маці і бацьку. І Анатолевы бацькі хадзілі з мамай у гэтыя чэргі. Часам з Анатолевым бацькам, панам Канстанцінам, бралі чарку ў мяне дома, я бегаў да яго спытацца якое-небудзь слова з шавецкай лексікі, пазычыць абцугі (пан Канстанцін называў іх обцэнгі).

Скачучы на мыліцах, як верабей, бываў у нас дома частым і жаданым госцем Хаім Мальцінскі[35], выдатны яўрэйскі паэт, апошні з магікан. Дайшоў да Берліна, страціў абедзве нагі, у баях заслужыў самыя высокія ордэны, савецкая ўлада аддзячыла — у ГУЛАГ. Калі кінулі ў турму — як яўрэй і бязногі месца атрымаў каля парашы.

З Алесем Траяноўскім[36] сустракалі і Вялікадне, і Каляды. Гэта ён забяспечваў мяне забароненай літаратурай гадоў нашага Адраджэння з Вільні.

Пахадзіўшы з Міхасём Стральцовым у парку Чалюскінцаў (яго часцей мінчукі карэнныя называлі Цялушкінцаў), вярталіся да мяне на Бялінскага пазваніць Уладзіміру Караткевічу, каб разам пасядзець. Тут мы вучылі Георгія Вылчава, крытыка, даследчыка беларускае літаратуры, прапагандыста ўсяго балгарскага, пяяць песню «Капаў-капаў крынічаньку». Усё ішло добра, толькі словы:

Ой, жаль, не памалу,
Любіў дзеўчыну змалу,
Любіў дый не ўзяў

Георгій пяяў:

Ой, жал не памалу.

Як да сябе дамоў ішлі Сымон Блатун, Іван Бурсаў[37], Яўген Шабан[38], Генадзь Кляўко, Уладзімір Нядзведскі, мастакі, кампазітары, акцёры. Калі выязджаў, суседзі, што жылі паверхам ніжэй, з палёгкай уздыхнулі — цішыні хацелася.

Здаралася і такое: стомленыя госці на чале з гаспадаром і ўдзень спяць на падлозе. Валя на працы. А малая Ілона ходзіць і пераступае цераз галовы, што цяпер сталі хрэстаматыйнымі.

Працаваў трохі ў часопісе «Беларусь». Рэдакцыйны калектыў на чале з рэдактарам імкнуўся зрабіць часопіс гэтакім, як «Огонёк» тых часоў (афіцыйным, сумным, жалезабетонным). Пішу «далібог», стыльрэдактар правіць далі-бог. Пытаюся: чаму? Адказвае, што так піша сам рэдактар. У апавяданні Піліпа Пестрака была фраза, дзе «шпакі клапаціліся на галінах». Стыльрэдактар паправіў — сноўдаліся па галінах. Рэдактар быў заняты сваімі гаспадарчымі клопатамі, супрацоўнікі дапамагалі. Калі быў на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, прывёз рэдактар амерыканскую бульбу. Пасадзіў на дачным участку. Сабраў нейкі ўраджай. У сваім часопісе даў фотаздымак гэтай бульбы з подпісам — «Вычварныя з'явы прыроды». Сын з сяброўкай паехаў начаваць на дачу і сасмажыў «з'яву» на закусь. Было, што часопіс абяцаў падпісчыкам насенне цуда-гуркоў. Не ведаю, як гуркі, а тыраж не рос.

У «Полымі» пры Паўле Кавалёве можна было працаваць. У аддзел паэзіі ён не ўмешваўся. Там упершыню даў я вершы Уладзіміра Лісіцына, Уладзіміра Някляева, Леаніда Дайнекі. Калі прысылаў падборку Аляксей Пысін, здаваў адразу ў нумар, нягледзячы на абавязковыя тады планы. Пазнаваў па канверце, па машынцы, яўна дабітай, у якой не было ні «ў» кароткага, ні нашага «і». Павел Кавалёў рупіўся пра тыраж, наладжваў сустрэчы супрацоўнікаў і аўтараў часопіса, пачынаючы са студэнцкай аўдыторыі, канчаючы міліцэйскай. У сваім уступным слове звычайна падкрэсліваў: «Ганаровымі членамі рэдкалегіі нашага часопіса былі Юліус Фучык, Іаганес Бехер...» У паездцы ў родны Кавалёву Магілёў, вядома, сустрэліся мы з Аляксеем Пысіным (высока цанілі паэта Рыгор Бярозкін і Міхась Стральцоў) і чарку ўзялі. Аляксей мне ўсё даводзіў, што лягчэй вымаўляць Мугілёў, чым Магілёў. І пасля на цвярозую галаву я так і не зразумеў чаму. Аляксей Пысін быў чысты, як ранішні промень, для сяброў і, як пярун, для партначальства. Пачынаў гаворку і канчаў: «Нашы дурні». Жонку ў Аляксея звалі Еўдакіяй. Верш з гэтым імем прысвечаны Лось. Усміхнуўся сваёй далёкай усмешкай і патлумачыў, што Еўдакія Якаўлеўна папрасіла прысвяціць гэты верш ёй.

У сваёй непасрэднасці Еўдакія Лось не мела роўных. Ішлі з нейкага прыёму, усю дарогу пыталася ў мяне, ці раджаць ёй, ці не. На прыёме ў польскім консульстве запрасіў Еўдакію на

танец гэдээраўскі консул. Танцавала і вырашала праблему. «Хачу яму нешта сказаць па-нямецку, а ўсе словы з галавы вылецелі, толькі помню «хэндэ хох». Казаць ці не казаць?..» — дзялілася потым са мной сваім клопатам.

Працаваў у выдавецтве «Беларусь», вёў зборнік Еўдакіі Лось «Вянцы зруба». Запрасіла неяк дамоў. Жыла недалёка ад выдавецтва па вуліцы Чарнышэўскага. На стале і піць і есці хапае. Кажу, што трэба яшчэ на працу пасля абеду. Гаспадыня як і не чуе, а ўдакладняе, што ўчора Сцяпан выпіў дзве бутэлькі дык і спаў цэлы дзень у бакоўцы. Любіла казаць усё ў вочы, была вострай на слова, не крыўдзілася на жарты і розныя эпіграмы. Гэта ёй напісаў я ў Душанбе экспромт: «Коль на дружбу повелось — ваш ишак, а наша Лось». Смяялася разам з усімі.

З «Полымя» пайшоў, перадаўшы праз некага заяву, як толькі з падтрымкай Кузьміна ЦК назначыла рэдактарам былога рэдактара «Бярозкі», ад якога я ўжо адзін раз уцёк. Пайшоў, так і не зразумеўшы, дзе ў паэмах Алеся Бажко агент Ватыкана, дзе кулак, дзе камуніст, ад імя якога вядзецца распавяданне. Пайшоў, так і не змогшы надрукаваць вершы Алеся Наўроцкага[39].

Дырэктар выдавецтва Матузаў, верны слуга і стаўленік партыі, хадзіў, ніколі не сагнуўшы спіны і ніколі не сагнуўшы лінію партыі. Нападхватак былі супрацоўнікі выпрабаваныя. Выконваўся асноўны прынцып дырэктара: «Нас ніколі не білі за тое, што мы выкінулі, б'юць за тое, што пакідаем». Матузаў неўзлюбіў быў гумарыста. Выклікаў вернага супрацоўніка і даў указанне: «Таварыш Татур[40], пакуль я тут, Чавускі[41] выдавацца не будзе, а вы яму тлумачце, што ўгодна, дзе ўгодна і колькі ўгодна». І слова сваё трымаў. І раскідваўся набор рамана Уладзіміра Караткевіча «Леаніды не вернуцца на Зямлю». Даўжэй, чым пісаўся, выдаваўся і караткевічаўскі раман «Каласы пад сярпом тваім». Былі і правераныя, надзейныя рэцэнзенты, і абмеркаванні, абы «тащить и не пущать».

Сумленныя высокаадукаваныя рэдактары, такія, як Уладзімір Дамашэвіч[42], Васіль Сёмуха[43], былі ў загоне. Ім не давяралі.

Выдавецкі лёс звёў мяне з Уладзімірам Міхайлавічам Шахаўцом[44], празаікам, паэтам, перакладчыкам, чалавекам унікальнай памяці і працаздольнасці. Гэта быў вол выдавецкай справы, які цягнуў любы воз аднолькава лёгка і бездакорна. Працаваць пад ягоным кіраўніцтвам было і павучальна, і прыемна. Любіў родную літаратуру, любіў аўтараў. І яго любілі.

Своеасаблівым відовішчам быў прыход кожнага аўтара ў выдавецтва. Само афармленне рукапісу. У Броўкі ў звышдабротных, спецыяльна зробленых папках з акуратнымі бе-

лымі завязачкамі. У Алеся Савіцкага[45] ў асаблівых папках, бо з ЦК. У Анатоля Вялюгіна надрукавана на лашчонай паперы. У Кастуся Кірэенкі[46] расклейка зроблена гумовым клеем, якім звычайна клеяць галёшы, — адпаведны пах. У Сцяпана Гаўрусёва[47] рукапіс неяк згрэблены ў газеціны, адзін шырокі жэст — і ўсё рассыпаецца па падлозе. Шахавец з аўтарам сабіраюць, потым рэдактар доўга не можа разабрацца, што да чаго, што за чым. Па-палеску надзвычай уважлівы да свае асобы быў Іван Мележ. Выдавецкія тэхрэды прывыклі прымушаць аўтараў то скарачаць тэкст, то дапісваць, каб падагнаць да пэўнага аб'ёму. І зусім слушна казаў Мележ, пярэчачы супраць такога прымусу, што пасля колькіх выданняў такім метадам і Леў Талстой не пазнаў бы сваіх твораў. Прыходжу ў выдавецтва, у нас дарагі госць — Іван Мележ. Кажу, што бачыў паштоўкі з партрэтамі Янкі Брыля і яго. У газетным кіёску Брылёвых ляжала тры, а Мележавых пяць. Не рад быў, што сказаў. Доўга мяне дапытваў Мележ, чаму гэта ягоных болей, няўжо горай раскупляюць? Любілі Мележа чытачы, а ён сябе яшчэ болей.

Аркадзь Куляшоў наогул рэдка з'яўляўся на людзях. Час ад часу хіба хадзіў у ЦК, каб вырашыць якую сваю праблему. Класік, нястомны працаўнік быў дамаседам. Звычайна рукапіс перадаваў праз шафёра ці праз каго іншага. Карэктуры яму вазілі. Было, што Прыходзька[48] паехаў забіраць карэктуру як рэдактар. Шчодры аўтар пачаставаў земляка да пэўнай нормы. Аддаючы карэктуру, прасіў толькі адно, каб па дарозе Прыходзька не дабаўляў. Завязе ў выдавецтва, тады можна.

Сапраўдным святам быў любы прыход у выдавецтва Уладзіміра Караткевіча. Збягаліся паслухаць ягоныя распавяданні, неадрэдагаваныя жарты, неверагодныя выдумкі, на якія ён быў спец неперасўзыдзены.

Мікола Ткачоў[49], а пасля Міхал Дубянецкі[50] годна і рупліва дырэктаравалі ў выдавецтве, стараючыся хоць як вырвацца з-пад нядрэмнага кантролю ЦК. А ў цыкуноў быў адладжаны метад кантролю і кіравання. У асноўным, гэта выклік «на ковёр», званок. Ні папер, ні подпісаў. (Казалі, што і крывавы кат Цанава нідзе свайго подпісу пад прысудамі не пакінуў.) Што дазваляе катам нячутна падкрадацца да мышыны? Адсутнасць паху. У катоў (тут само просіцца — і ў катаў) лапы не пахнуць.

На барацьбе з рознымі камітэтамі і ЦК (маскоўскім і мясцовым) і згарэў заўчасна Міхал Дубянецкі, адстойваючы праўду і беларускасць, адстойваючы, у прыватнасці, лепшых нашых пісьменнікаў, у першую чаргу Васіля Быкава. Даканала ўтрапёнца сеўручыста-паўлаўская зграя. І колькі ні ставіў я пытанне пра

выданне Збору твораў Уладзіміра Караткевіча, маючы падтрымку Міхала Дубянецкага, пры жыцці выдатнага пісьменніка гэтае пытанне было наіўным, бо зноў жа цэкоўскі Саўка[51] ладзіў дуду, сам на ёй і граючы.

І ўспамінаць усяго не хочацца.

Пра яшчэ адзін асяродак, дзе фармаваліся і густы, і адносіны, дзе ствараліся і творы, і чуткі, трэба было б напісаць пэўную -логію, уключыўшыся ў літаратурны забег трох празаікаў, чый дэвіз: хто мацней аглушыць магчымага чытача большай колькасцю раманаў. Бо ў нас жыве меркаванне, усё тоўстае — раман ці эпапея. Асяродак гэты — Каралішчавічы. Кузлачок лесу пад Мінскам. Былая паляўнічая дача адразу пасляваеннага старшыні Савета Міністраў БССР. Людзі жылі ў зямлянках, пад голым небам, а галава ўраду (які ўрад, такая і галава, звычайна) на машыне з уключанымі фарамі паляваў на зайцоў. Абаронцаў Краіны Саветаў не было на чым адвезці ў бальніцу ці ў апошні шлях. Домам творчасці назвалі паляўнічую дачу. Тут і пісалі, тут і гулялі (па лясных і па асфальтаваных дарожках і ў імправізаваных застоллях), тут, як і належала на фронце (няхай літаратурным), абзаводзіліся, бывала, паходнымі жонкамі. Усё як у людзей. Як у буслянцы, каля паважных літаратурных буслоў кватаравалі і літаратурныя вераб'і. Хто клякатаў, хто чырыкаў, час паказваў пасля.

Некаторыя, галёкаючы на ўвесь лес, трэніраваліся галёкаць на ўсю рэспубліку. І цяпер галёкаюць.

Некаторыя рэабілітаваныя шчыра распавядалі, як даводзілася распранацца дагала і даставаць качку, калі начальніцкі сабака не мог дастаць. Як насілі начальніку лагера мёд з борцяў, самі маючы некалькі борцяў.

Аднойчы кепска зрабілася Міколу Хведаровічу. З патухлымі вачыма сядзеў пад сасной. Прыгадваў жыццё. Між іншым, прыгадаў, як на яго сведчыў адзін дужа вядомы. У віну Хведаровічу ставіў, што Мікола, бачыш, наўмысна кепска перакладаў творы Пушкіна, каб прынізіць генія рускага народа. Сам гэты вядомы сапраўды добра перакладаў Пушкіна. Нават «Яўгенія Анегіна».

Сваё трыццацігоддзе спраўляў я ў Каралішчавічах. Хапіла пітва, бо мама прыехала з Мінска, доўга паблудзіўшы з няцямкім таксістам, і прывезла бражкі. Гэта была мая апошняя круглая дата з мамай.

Успамінаць можна шмат чаго. Але большае забылася, а меншае засталося.

Большая частка жыцця пражыта. Засталася меншая. А над малым дзіцем болей дрыжаць. Але як ні дрыжы, колькі Бог дасць яшчэ пражыць, столькі і пражывеш. Бог бацька.

Пішу гэтыя радкі ў мамінай хаце 30 жніўня. Здаецца, у гэты ж дзень у 1954 годзе ехаў я ў Мінск па веды. І даведаўся, што толькі дома я дома. А радасць мая — бо не дажыву да таго, калі засмуціць яна мяне, — Дамініка ў маміным садзе глядзіць праз каляровую шклінку і гукае:

— Бачу Ушачу! Бачу Ушачу!

На таку майго веку зярняты дзён былі добрыя. Самым чыстым зернем, самым адборным засталіся маміны словы. З іх хлеб для душы мае...

*1994*

## РОЗНЫЯ СЛЁЗЫ

Ва універсітэце была ваенная кафедра. Філолагі, вядома, вывучалі артылерыю. Хоць у бальшыны, відаць, па тэорыі імавернасці, засталіся ў памяці толькі дзве скрынкі. У адной белыя шары, у другой — чорныя. Яшчэ падабаліся нам каманды «Цэль бачу», «Дым. Запісаць!». Загадчык кафедры быў тыповы генерал. Герой за масавае фарсіраванне Дняпра. Спіскавы герой, калектыўны. Гэта ён пайшоў да прарэктара Павецьева з прапановай выключыць студэнта Барадуліна з універсітэта і здаць служыць у войска. Прарэктар запярэчыў генералу, што ён жа, студэнт гэны, філолаг, вершы піша. Якраз выйшаў першы зборнік універсітэцкіх паэтаў «Узлёт»[1]. Прарэктар вазьмі дый зачытай генералу колькі радкоў. Ад крыўды і абразы генерал заплакаў: «Я вам о деле говорю, а Вы мне какие-то стишки тычете...»

Але быў на кафедры палкоўнік Усціновіч. Ён яўна любіў філолагаў. У непраграмных гутарках называў паэтаў і празаікаў, пра якіх на філалагічным факультэце маўчалі. У прыватнасці, паўтараў часта палкоўнік, калі «плавалі» мы ў тэорыі і саматужнай вайсковай практыцы: «Раніца рыкае»[2]. І неяк цяплеў вачыма. Ваеншчына не выбіла з яго беларуса, які чытаў «нацдэмаў».

Пасля ўбачыў я аўтара зборніка «Раніца рыкае». Гэта быў пабеларуску інтэлігентны, шляхетны чалавек. Зажураны вачыма і душой, паэт болей нагадваў сельскага настаўніка, ціхагалосага, разважлівага, добрага.

Па традыцыі пасля пісьменніцкіх з’ездаў урад і партыя (хоць гэта было адно цэлае) давалі банкет. А ля фуршэт. Сталы

стаялі літарай П (пісьменнікі ж — спадручныя партыі). За перакладзінай літары П сядзела цэкоўскае начальства, сакратары Саюза пісьменнікаў, класікі жывыя. Хоць, калі перафразоўваць «агитатора и главаря» Маякоўскага, мы казалі «сакратары», а падразумявалі «класікі». Бо сакратары ў ЦК, сакратары ў Саюзе пісьменнікаў. Усё ў сістэме. Па канцах літары П стаялі ўсе астатнія члены, маладыя і тыя, што хацелі быць далей ад «бацькоўскіх» вачэй.

Язэп Пушча стаяў у самым канцы стала. Сумны, разгублены, як не ў сябе дома. І тады мы з Уладзіславам Нядзведскім, ужо трохі назбіраныя, падышлі да аднаго з пачынальнікаў беларускае савецкае паэзіі і паднялі тост за здароўе яго, наўмысна гучна, каб хоць суседзі пачулі. І Язэп Пушча разгубіўся. І заплакаў. Толькі не так, як генерал з ваеннай кафедры БДУ.

Розныя людзі. Розныя слёзы.

*1995*

## УСКРУЦІЎСЯ НІ СВЕТ НІ ЗАРА

Ускруціўся ні свет ні зара. Звычайна кажуць пра тых, каму не спіцца, хто не дае спаць іншым, спаць спакойна і мякка.

І Лявон Баразна ўскруціўся ні свет ні зара. Ён не даваў спаць усім, хто праспаў нацыянальную свядомасць, нацыянальную памяць, хто праспаў беларушчыну.

Ён быў мулкі ўсім тым, хто прамяняў сумленне беларуса на інтэрнацыянальную ўтульнасць, хто, як сабака перад пастухом, перадкаваў перад ахвосцем з метраполіі чырвонай імперыі.

Ён быў скразняком, які ўрываўся ў душныя ад пакоры і дабрабыту душы, які кудлаціў бальшавіцкае ўчасанне мазгоў пярэваратняў, ваўкалакаў.

Ён быў смаляком, які гарэў жарка, каб адтавалі заінелыя шыбіны абражаных надзей.

Ён вяртаў менавіта наскія, беларускія строі, бо не хацеў, каб хай сабе толькі назваю нацыянальныя калектывы мастацкае самадзейнасці і прафесіяналы насілі абноскі вялікадзяржаўніцкага крою. Любы чысты кавалачак паперы прыдаваўся на замалёўку арнаменту, убору, паставы. Бо і ў самой паставе праяўляецца дух натуры, нацыянальны гонар. Пра арнамент — касмічныя пасланні продкаў нашых — і казаць не даводзіцца.

Злавіць Лявона было цяжэй, чымся іншапланецяніна. Удзень і ўночы ў клопаце. Заказы. Касцюмы. Паездкі па зборы матэрыялу. Некалькі разоў пашчасціла мне пабыць у майстэрні

Лявона на Нямізе. Драўляная. На другім паверсе. Уся ў палотнах, падрамніках. Дазваляў сабе іншы раз расслабіцца — са слоікаў пілі і царкоўны кагор, і нешта мацнейшае. Дужа мне падабаўся падсвечнік з нейкага разрабаванага храма. І падарыць прасіў Лявона, і спробы рабіў украсці (хай даруе мне Бог), але Лявон быў пільны; і пасля колькіх слоікаў — не ведаю, ці першы спосаб, ці другі дапамог, — толькі падсвечнік гэты апынуўся ў маім пакоі.

У сваю чаргу яго забрала дачка Ілона, якая рабілася не па спадчыне філолагам, а мастачкаю.

Падсвечнік падсвечнікам. У ім гарэлі свечкі ў памяць Лявона. А ў майстэрні ўражвала мяне тады, у змрочныя гады наступу на ўсё нацыянальнае, беларускасць карцін Лявона Баразны. Гэта ягоная Марыська сядзела на пяньку ў лесе. Беларуская русалка. Гэта з палотнаў Лявона Баразны глядзелі на мяне беларусы і казалі, наказвалі: «Будзь беларусам! Дзе Беларусь, там — вячніна». Дарэчы, і Марыська ў Лявона была чыстай вады беларуска. Мама мая назвала яе па-сялянску пашанліва, па-гаспадарску любоўна — бульбінка. Як толькі Лявон вымаўляў «Марыська», мне адразу ішлі на памяць радкі верша Кастуся Каліноўскага. Бо калі добра ўгледзецца, Лявон быў нечым нават вонкава падобны да навальнічнага Кастуся.

Не дзіва, што цягнуліся адзін да аднаго Лявон Баразна і Уладзімір Караткевіч. І вясёлыя, і смешныя здарэнні былі. Недзе ў годзе ў 72-м Уладзімір Караткевіч быў запрошаны на хрэсьбіны дачкі Лявона на радзіму Марыські (дзявочае прозвішча яе ласкава-скоклівае — Тананушка) у вёску Збляны на Гродзеншчыне. Наогул, Уладзімір Караткевіч любіў быць хросным бацькам. Наколькі я ведаю, быў ім і ў латыша Еранімса Стулпанса[1], і ў Васіля Сёмухі. Адпаведна ўрадна апрануўшы нацыянальную вышыванку, хросны бацька вёў рэй. Але з хрэсьбінаў вярнуўся сумны. Пакусаў сабака. Бо хроснаму бацьку ў вышыванцы захацелася залезці ў будку да сабакі. Відаць, праверыць санітарныя ўмовы. Гаспадару будкі гэта яўна было не ў нос. І вось сумны сябра мой жаласным голасам кажа, што давядзецца рабіць сорак уколаў ад шаленства. І што самае страшнае — нельга піць сорак дзён. На што я запярэчыў, што сабака гаспадарскі здаровы. А што тычыцца забароны, то давай, кажу, у запісную кніжку-дзённік напішу табе на адпаведным дні гарантыю, што будзеш жыць. На тым і пагадзіліся. І яшчэ раз адзначылі народзіны дачушкі Лявона.

Памятаю, патроху пачалі бурыць услед за Нямігай раён Юбілейнага рынку. На ўзгорку стаяў асабнячок. Яго павінны былі зносіць. Лявону дужа спадабаўся куты хвартушок над ганкам. Выдатная кавальская праца. І грошы гаспадарам прапаноўвалі, і гарэлку. Не згадзіліся прадаць. Так недзе і прапала, як і балконнае ліццё з выявай коннікаў з будыніны Гарадскога тэатра па Рэвалюцыйнай, 28 (разам з будынінай). У абарону гэтага гістарычнага дома выступаў і Уладзімір Караткевіч.

Як самую дарагую памяць, берагу я тканы нацыянальны гальштук-жычку, што мне падараваў Лявон. У паездцы ў Францыю завязваў я яго ў самыя ўрачыстыя моманты. На вечар паэзіі, на прыём у пасольстве. І было ўсцешна, калі французы ў гадах прасілі дазволу бліжэй разгледзець незвычайны гальштук. І тлумачыў я, што гэта беларускі, што гэта ад нашага мастака Лявона Баразны.

Незадоўга да трагічнае смерці (фактычна, забілі тыя, каму быў косткай у горле няскораны беларускі нораў мастака) Лявон збіраўся з'ездзіць у Вушачу. Бо расказаў яму, што мяне вучыў настаўнік, празаік, былы партызан Канстанцін Баразна. Лявон вылічваў, вылічваў і вылічыў, што Канстанцін Паўлавіч не дужа і далёкая радня.

Канстанцін Баразна вучыў у школе беларускай мове і літаратуры.

Лявон Баразна вучыў сваёй творчасцю, сваім вятрыстым жыццём беларускасці.

Рэдкае гэта прозвішча — Баразна. Хлебаробнае, хлебароднае. Дарагое аратайнай душы.

Як і Скарына...

*1995*

## І КОСКІ З МЕСЦА НЕ ЗРУШУ!..

Дасье ні на кога не пісаў. На сяброў тым болей. Таму і ўспаміны не могуць быць датавана-дакладнымі. Дасьетчыкам лацно. Цэлыя кнігі атрымліваюцца.

Усё першае, ранейшае помніцца лепей, чымся пазнейшае. З апрамецця памяці знічкава прахопліваюцца дэталі, эпізоды, нейкія падзеі, нейкія здарэнні. Вясёлае чамусьці само пра сябе нагадвае болей настойліва, падчас нават, хочацца сказаць, нахабіста. Сумнае, бо яно ў перавазе сваёй душэўнае, інтымнае, звычайна саромеецца абазвацца. Пісаць пра сябра, успамінаць пра чалавека, які табе баліць, неяк боязна.

Уладзімір Караткевіч настолькі глыбока ўвайшоў у маю свядомасць, запоўніў мяне з маладых нашых гадоў, аж не верыцца, што рана ці позна ён не прыйдзе, не прыедзе, не пазвоніць, не напіша смяшлівай паштоўкі ці ўрачыста-кеплівага ліста.

Упершыню ўбачыў я здзіўленавокага, нязвыкла даверлівага, амаль па-малечы цыблакаватага і разам з тым мажнога хлопца, у якога нечакана спалучалася вяскова-мястэчкавая беларуская шчырасць з урбаністычнай еўрапейскай шырынёй і ўзважанасцю. Было гэта ўвосень 1954 года на традыцыйнае нарадзе маладых у Каралішчавічах. Першае ўражанне памыляецца рэдка. Такім і застаўся, такім і быў Уладзімір, Сямёнаў сын, — падлеткам, якому хочацца ведаць болей за ўсіх астатніх, таму і ведае, якому, між іншым, рупіць паказаць сваю глыбокую дасведчанасць, сваю касмічную шырыню, таму і паказвае сваю неабачлівую любоў да ўсіх, таму і любіць.

У Каралішчавічах у тую першую нашую сустрэчу далёка заходзілі мы па тады яшчэ ціхай дарозе. Уладзімір здзіўляў мяне і ашаламляў і развагамі, і задумамі. Глядзеў я на яго, як тубылец на касманаўта. І трэба быць шчырым, да апошніх дзён заставалася жыць ува мне гэтае пачуццё багавейнасці і здзіўлення. Сам Уладзімір ніколі, нічым, ніяк не падкрэсліваў ні перад кім сваёй перавагі, сваёй адметнасці. Яна сама выдавала яго, незвычайнасць Караткевічава. Любіў маштабнасць, любіў гіпербалу. Любіў размах. Потым, калі ўжо не стала крыштальна чыстага пастыра духоўнасці беларускай, калі адчынялі ў Оршы мемарыяльную дошку на вуліцы, якую перайменавалі ў гонар Уладзіміра Караткевіча, любімая сястра Наталля Сямёнаўна паказвала мясціну, дзе стаяла хата, у якой нарадзіўся новы звястун Адраджэння. Паказвала і крынічку, у якую бегаў маленькі Валодзечка мачаць ледзь не цэлую галаву даваеннага цукру. З малечых гадоў цягнула да шырыні жэста, да крыніцы. Метафарычна.

А ў тую першую нашую восень чытаў Уладзімір вершы і балады, якім суджана было стаць хрэстаматыйнымі, анталагічнымі. Пра адну баладу насмеліўся я заўважыць, што дужа нагадвае «Івікавых жураваў»[1]. Хацелася ж і мне паказаць, што нешта чытаў, нешта чуў. Чытаў Уладзімір, які настаўнічаў у роднай Оршы, і пераклады з Гайнэ.

І былі пазнейшыя Каралішчавічы, калі мы сядзелі ў лесе аж два месяцы. Уладзімір жыў у левай прыбудоўцы (калі стаць тварам да дома), а я ў правай. Пісаў, як заўсёды, шмат. Чытаў Біблію. Па тых часінах гэта было амаль выклікам не толькі кіруючай і накіроўчай, але і ўсяму грамадству. Пісьменніцкаму найбольш.

Бо пісаў жа адзін паэт: «Мая зямля, мая радзіма, чуў прыказку такую я: — Народ без партыі любімай, як гай вясной без салаўя». Цэлы дзень Уладзімір працаваў, а ўвечары збіраліся звычайна ў маім пакойчыку. Кухар, які хваліўся, што гатаваў некалі маршалу Жукаву, выразаў самыя любовыя кавалачкі мясюгі, смажыў, пасля клаў у дзве плыткія талеркі, а талеркі хаваў за халяву афіцэрскіх ботаў. Ішоў да нас на агеньчык. Гэтае закусі хапала пад дзве-тры пляшкі. Часта з ваеннымі ўспамінамі выступаў Юрый Багушэвіч: ...у Эльзы пантофлік гайдаецца на кончыку пальца нагі. ...Не хапіла спірту. ...У тайзе ён з дамай, яна яму галінкай адганяе камароў з таго месца, адкуль ногі растуць...

Паколькі Багушэвіч ночы праводзіў недзе на ацалелых хутарах дый днём рэдка сутыкаўся ў сваім вялікім — хоць ваўкоў ганяй — пакоі на першым паверсе, мы з Валодзем прывучылі сучку Джэры спаць на падушцы ў Багушэвіча. Пры гэтым накрывалі яе коўдрай.

Уладзімір хадзіў у унтах. Сабакі, чуючы дух сваіх братоў, на першых часінах брахалі на ногі добрага чалавека, які частаваў іх самым смачным. Пра любімых нашых сабак нават склалі былі вершык: «Сук Дазор і сучка Джэры жралі суп і сок з фужэра». Ці яшчэ такі, парадыруючы заклічную паэзію: «Гэй, да сонца, гэй, да зор, з намі Джэры і Дазор!» Каб пачаставаць сабак, пасля працы часцяком ехалі мы з Уладзімірам у «Мінск», у рэстаран, названы ў гонар сталіцы. Уладзімір заказваў абавязкова куранятка табака, каб костачкі завезці брахлівым любімцам. Здаралася, што швейцары не хацелі пускаць кліента ў унтах і ў шыкоўным світэры (Уладзімір падкрэсліваў, што вязалі яму світэры дамы сэрца). Усё ўладжвала невялікая, па-польску кажучы, лапуўка. Пасля вячэры ў таксі везлі сабакам костачкі.

Часцяком і ўдзень бегалі па трохі заснежанай грудзе ў недалёкі Апчак. У сельскім магазіне было тое, што нас вяло, як партыя да зіхоткіх вяршыняў. Там віселі і кажухі, ды я так і не сабраўся прыдбаць цёплую адзежынку. З малых гадоў памятаў мамін прыгавор: чалавек відаць летам без кароўкі, а зімой без кажушка.

Беглі мы ў Апчак пад прыдуманую амаль дзіцячую гаварынку. «Чак-чак-чак-чак, хлопцы чэшуць у Апчак. Іх чакае ў Апчаку сто чыкушак начаку». Бегаў з намі колькі разоў Пятро Васілеўскі[2], якога, казалі, любіў слухаць Твардоўскі. Але апошні раз разбіў лоб аб груду, а ў Каралішчавічах чакала жонка Галіна на сваёй чарговай «Волзе».

Некалькі паходаў ці марш-набегаў зрабіў з намі Аляксандр Дракахруст[3], высокі, станісты маёр, сябра Юрыя Багушэвіча па

Далёкім Усходзе. У Дракахруста Уладзімір дапытваўся, ці будзе страляць у людзей, калі паступіць загад. Бо аднекуль ведаў пра падзеі ў Новачаркаску. Гэта на Дракахруста паглядала Еўдакія Лось, і часта паўтаралі мы ў лесе: «Ах, немножко б красивей, ах, немножко б моложе, и попала бы я в Дракохрустово ложе». Любіў Уладзімір прыгаворваць: «Пан Чэсь сказаў панчосе: памераемся ў чосе». Тут, у лесе, Вячаслаў Адамчык распачынаў шматпрацяжныя раманы свае. Да гонару ягонага варта сказаць, што, ідучы навыперадкі па колькасці, не збіўся на прозу двух вялікаборцаў.

У Каралішчавічах падоўгу працаваў Аркадзь Куляшоў. Пры ім, мяркую, па абавязку службы на кінастудыі і на асноўнай быў і коласазнаўца. Апошняму было дадзена заданне канкрэтна ад дырэктара выдавецтва Матузава зарэзаць «Каласы пад сярпом тваім». Праўда, закрытую рэцэнзію напісаў памерам ледзь не з быкаўскую аповесць, але да пераразання жылаў твора не дайшоў. З імі па вечарах гуляла ў прэферанс маці Уладзіміра Надзея Васільеўна.

І пад час збірання нашага ў «Мінск» Уладзімір па-гаспадарску журботна паведаміў, што маці прайграла аж тры рублі. А паездка нашая ў Мінск і ў «Мінск» у два бакі з вячэраю і абавязковымі костачкамі сабакам каштавала куды болей.

Пра Надзею Васільеўну трэба пісаць асобную кнігу. Выпускніца гімназіі, прыроджана панавітая і тонкая ў веданні людзей, яна была рэхам, адгалоссем былое годнасці і велічы старадаўняга беларускага роду. Яна была нейкім чынам прататыпам інтэлектуальна-велічных натур у творах сына. Недзе ў 60-я гады Павел Кабзарэўскі[4] прывёз мне з Пецярбурга (тады Ленінграда) фотакартку свайго здымання Анны Ахматавай. Я быў уражаны, так бы мовіць, двайніковасцю. Шляхетнасць. Вялікасвецкасць. І вонкавае падабенства.

Надзея Васільеўна гаварыла ціха. І нават маўчанне яе было красамоўнае. Адным словам, магла ацаніць і ўцаніць, запрасіць і загадаць, вылучыць і паставіць на месца. Любога. Перад Надзеяй Васільеўнай і ў сталым узросце пачуваў сябе кожны дзіцем. Як перад маці.

З усмешкай распавядала, як Антон Алешка[5] прыйшоў да яе, каб дапамагла перакласці на французскую мову каманды паветранага бою. (Алешка пісаў пра вайну, пра лётчыкаў у згодзе з патрабаваннямі часу.) У Марыінскай гімназіі французскую мову вучылі зусім з іншым ухілам. Нармальна.

Любіла Надзея Васільеўна дарагія, тонкага густу рэчы, фамільныя рэліквіі. Гэта і сыну перадалося. Пра рэвалюцыю,

пра паслярэвалюцыйную мітусню казала з ноткамі ўсмешкі. Паказвала білет на права перайсці праз мост. Ён каштаваў звыш двух мільёнаў. «Эмансіпаваныя» дамы (папярэдніцы сённяшніх валютных) надзявалі гадзіннік на нагу. Гэта азначала, што плата пагадзінная. І нікому я гэтак не баяўся трапляцца на вочы дужа вясёлым, як Надзеі Васільеўне. Удвух з Уладзімірам пабойваліся мы і маладзейшага за нас Зянона Пазняка, які ганяў нас за злоўжыванне аквавіты, ці за ўжыванне зла. Тут да слова прыйшлося падзякаваць Зянону за фотаздымак, які ён зрабіў у мяне дома, калі перавыхоўваў нас з Уладзімірам. Гэта на здымку найадменнага майстэрства (талент Пазняка шматбаковы) мама мая трымае маленькую Ілонку. Вадзіў я сваю Ілонку да Уладзіміра, і чула мая маленькая дачушка добрыя словы на дарогу ў жыцці ад Надзеі Васільеўны, ад дзядзькі Валодзі, нават аўтографамі ў школе хвалілася.

Уладзімір любіў маці, ганарыўся ёю. Быў уважлівы і чулы, але без цялячасці, якой хварэлі мы пасля застолля. Было, што пілі ў нас дома. Адыходзячы ці, можа, дакладней сказаць, адплываючы, Уладзімір тоненькім голасам (не раўнуючы як той воўк з казкі, якому каваль адцягнуў язык на тоненькую лісціначку, на дрыготкую шапаціначку) папрасіў: «Ці няма ў вас маленькае мензурачкі. Я хачу маме шампанскага занесці».

А мяне зноў, як ваўка таго, цягне ў лес. У лес каралішчавіцкі. Гэта, калі мы з магілёўскае шашы, прыбіўшы млявeconst ногі па выбітай дарозе, уваходзілі ў значэлы галінашумны змрок з рэдкімі зоркамі недзе ўгары, Уладзімір паўтараў: «Уехаў у лес, як у кажух улез». У залежнасці ад наяўнасці ў нашых кішэнях, мы то пешака часалі, то ехалі. Калі чым. Запомніўся адзін эпізод нашае езданіны. Злавілі таксі. Запас пры нас. Настрой вясёлы. Уладзімір пачынае казаць пра свой радавод. Шмат што мне ўжо вядома па ранейшых прыгадках сябра. У салодкай дрымоце слухаю. Раптам Уладзімір паведамляе:

— Заснавальнік Дома Раманавых, Іван Кабыла, быў конюхам у майго дзеда...

Па інерцыі нясмела, а болей млява спрабую запярэчыць, што ў 1913 годзе адзначалася 300-годдзе Дома Раманавых. Колькі ж тады гадоў дзеду магло быць? Уладзімір, як і заўсёды, хутка загарэўся ў сваім гневе праз маю нязгоду:

— Ну, не дзед, а прадзед! А ты наогул гісторыю не ведаеш...

Пярэчыць супраць апошняга аргумента не было як. Я ж выпускнік БДУ імя У. І. Леніна, дзе на філфаку выкладалі толь-

кі гісторыю КПСС. Праўда, на семінарскіх занятках ледзь да інфаркту не давёў партдаму, калі запытаўся, які ўхіл лепшы, правы ці левы.

Болей Уладзімір ніколі пра Івана Кабылу не ўспамінаў. Затое ставіў я яго ў тупік пытаннем, дзе ён нарадзіўся. Пачынаў прыкладна так:

— Калі ўзяць ніжняе Падняпроўе і верхняе Падняпроўе, калі да паўстання Кастуся Каліноўскага, калі ўзяць Панямонне, Віленшчыну...

І калі я напамінаў Уладзіміру пра Оршу, ён адмахліва казаў, што гэта пашпартны запіс. Адчуваў сябе сынам усяе Беларусі, народжаным з-пад сэрца яе.

Далей у каралішчавіцкі лес, болей прыпамінаў. Рэйсавым аўтобусам, відаць, апошнім, даязджаем да памянёнай павароткі. Далей трэба пехатой. Цяжкавата. Цёмна. Ды нечакана нашую ціхую самоту разбудзіў трактар з прычэпам. Галасуем. Сядаем у жывое цуда часоў калектывізацыі. У нас дзве авоські чацвяртушак (Уладзімір, бывала, казаў «чвырка»), за дзве трактарыст ахвотна згадзіўся давезці да мастка, адкуль асфальтаваная дарожка вяла ў будынак Дома творчасці. Нам трактар, а трактарысту нас сам Гасподзь паслаў. Едзем. Пад’ехалі да самага мастка. Тут я прапаноўваю яшчэ за дзве чацвяртушкі, каб трактарыст аб’ехаў два разы вакол Дома творчасці. Трактарыст згадзіўся і за адну пляшачку, як называлі мы, няпоўнагадовую, аб’ехаць хоць пяць разоў. Тут варта растлумачыць, што ўся загваздка была ў тым нечуваным грукаце матора трактара. Дый было ўжо недзе пасля дванаццаці гадзін начы. Добра, што Уладзімір праявіў пільнасць — адгаварыў трактарыста і мяне ад крамолы парушыць спакой класікаў. У нас пуцёўка была на два месяцы. Выселілі б нас з трэскатам, не цішэйшым за трактар. Не сцярпелі б ні Куляшоў, ні коласазнаўца.

А масток гэны, можна смела сказаць, гістарычны. Уладзімір пісаў «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Была дамова з кінастудыяй, якая толькі называлася «Беларусьфільм», бо працавала на адходах, ці, дакладней, на отбросах маскоўскіх халтурмайстраў. Да Караткевіча прыехаў ягоны сябра Анатоль Забалоцкі. З сібірскіх беларусаў. Сяло, дзе нарадзіўся ён, затапілі, калі разлівалі так званае рукатворнае мора. Камуністы, выклікаўшы на сацыялістычнае спаборніцтва Усявышняга, недзе на шасцідзесяты год шайтанскае ўлады свет парадкавалі. Гэта Забалоцкі пасля рабіў фільм «Каліна чырвоная». А Караткевіча болей за ўсё ўразіў акрамя майстэрства аператара тым, што аб

галаву разбіваў бутэлькі з-пад «Савецкага шампанскага». Хто быў мацнейшы, ці савецкае, ці галава, мне Уладзімір ні разу не патлумачыў. Прыехаўшы да Караткевіча ўранні, не зусім упэўнена падаўся Забалоцкі недзе з паўдня. Назаўтра раніцой іду я з нашымі сабакамі. Дазор пачынае нюхаць і грэбці лапамі ў канаўцы каля самага мастка. Пачынаюць вызваляцца з-пад снегу паперы. Знаёмы почырк. Гэта Караткевіч даў Забалоцкаму сцэнарны план і накіды будучага рамана, каб завёз машыністцы перадрукаваць. Як і світэры, дамы сэрца рабілі Уладзіміру передрук. Нават перадрукоўвалі зборнікі тады забароненага Мікалая Гумілёва.

Гусі ўратавалі Рым. Ваўчыца сасіла Ромула і Рэма. Каралішчавіцкі сабака Дазор уратаваў славуты раман Уладзіміра Караткевіча. І павінен застацца ў гісторыі нашага прыўкраснага пісьменства. Напамінаю, звалі сабаку Дазор.

Дазор спаў у мяне ў пакоі. Уночы даводзілася ўставаць і выпускаць. Застудзіўся я, захварэў. І мяне лячыў Уладзімір. Зноў жа з Мінска прывёз каньяк і лімон. Дапамагло. Хутчэй за ўсё значэнне ў лекаванні мела доза. А наогул у маім пакоі стаяла нашае агульнае тое зелле, што робіць вяселле. Шмат хто забягаў перад сняданнем, бальшына заходзіла вечарам.

І яшчэ два месяцы быў я разам з Уладзімірам Караткевічам. І было гэта ва Уладзівастоку. А пачаўся наш вояж і проста, і вясёла. Сядзелі мы ўтрох у мяне на кватэры па вуліцы Бялінскага. Калі бутэлькі на стале можна было падстаўляць ветру, каб світаў, сумна пачалі разважаць, што хочацца паездзіць, свету пабачыць. Мне цюкнула ў галаву пазваніць генералу Аляксееву[6], які ўзначальваў ваенна-шэфскую камісію пры Саюзе пісьменнікаў. Генерал любіў літаратуру, сам пісаў прозу. Дужа стараўся выбіць як мага болей значкоў за культурнае шэфства над арміяй. Было гэтых значкоў, здаецца, тры ступені. І калі неяк уручалі гэтыя значкі, Іван Шамякін з крыўдай у голасе заўважыў, што не мае яшчэ такога значка. Праз колькі дзён меў. Цацкі сунімаюць слёзы не толькі ў немаўлятак.

І пазваніў я генералу Аляксееву, каб паслаў ён нас на стажыроўку ў якую-небудзь вайсковую газету. Нас — гэта Уладзіміра Караткевіча, Генадзя Кляўко і мяне. У добрым настроі мы прасіліся паслаць як можна далей. Генерал адказаў, што далей Уладзівастока паслаць не можа. Тэлефонная просьба да генерала была глыбокай восенню, амаль зазімкам 1964 года. Дні ішлі. Пра размову мы забыліся. Настала вясна. Уладзімір сабраўся ехаць да любімага дзядзькі ў Рагачоў, дзе, у асноўным, і пісаліся «Каласы пад сярпом тваім». Я навастрыўся да мамы ў Вушачу.

І тут прыходзяць позвы ў ваенкамат усім тром. Задобрыўшы добрай чаркай, паслалі на праведзіны ў ваенкамат Кляўко. Хай усё разведае і скажа, што нас няма. І калі наш пасланец з’явіўся ў ваенкамат (на ваеннай кафедры нашых выкладчыкаў прыводзіла ў шаленства слова «з’явіўся», — «является только Христос народу, — крычалі яны завучаны салдаціста-савецкі жарт, — а курсант должен докладывать: «Прибыл!»), там і аб’явілі, што камандзіруецца на Далёкі Усход, у горад Уладзівасток для стажыроўкі ў акруговай газеце. Тут жа дадалі, каб перадаў гэта Караткевічу і Барадуліну. А ў нашага выратоўцы было, як цяпер пішуць у дэтэктыўнай літаратуры, алібі, што нас няма ў Мінску, што мы хворыя і гэтак далей. Ды ў ваенкамаце амаль паўтарылі фразу з прыблатнёнага раманса: «Шутки морские — жестокие шутки».

І былі мы 1 жніўня 1965 года ва Уладзівастоку. Прылёт свой адзначалі ў рэстаране марвакзала. Ледзьве ўбіліся за нейкі столік сесці. З намі з Масквы ляцеў берагавы маёр Валерый Зайцаў, ён жа пісаў вершы пад псеўданімам Рында. Маёр і дапамог убіцца ў рэстаран. Якраз у гэтыя дні вярнулася кітабойная флатылія. І таму ўвесь Уладзівасток працаваў на прыём кітабойцаў, дапамагалі ўсе як маглі пазбавіцца маракам ад пуцінных грошай. Асабліва стараліся так званыя «нявесты». Самы шык — мужчынскія каляровыя безпамерныя шкарпэткі і газавая касыначка. Нявесты за газавую касыначку вечар сядзелі з маракамі ў рэстаране. Але атмасферу ўсеагульнага ўздыму ў рэстаране лепей за ўсё паказаў Уладзімір у пачатку сваёй «Чазеніі». Гэта быў першы твор, на які адгукнуліся мяхамі лістоў падзякі і захаплення з усіх куткоў Саюза. Дапамагла руская мова. Мы з Кляўко па-журналісцку стараліся нешта злавіць у запісныя кніжкі, вывучалі жыццё, а Караткевіч пад час нашых паездак па Прымор’і толькі не выпускаў з рота цыгарэту, абавязкова чытаў нейкую кніжку і як бы драмаў. А пасля мы ахнулі, што ён убачыў і як, галоўнае, убачыў. Праўда, шмат пісаў лістоў. Тросся над чыстай паперай і атрамантам да скупечага. На нейкі тыдзень з кайстраю за плячыма некуды знік. Вярнуўся, казаў пра Кедровую падзь, пра запаведнік. Нам прывёз у падарунак кедровых шышак. А пасля ўсім пра гэта распавёў у «Чазеніі». Як заўсёды, фантазія бушавала і тут вышэй за дзевяцібальны шторм. А некалі ж Крапіва параіў яму біць камяні на дарозе, а не займацца літаратурай.

У рэдакцыі газеты «Боевая вахта» было дужа няўтульна і нам, і з намі. Усе ў форме, ад апраткі да мыслення, а мы разгільдзяі ў цывільным, дый думкі не па статуце ў нас.

Мы з Кляўко стараліся пры любой нагодзе куды-небудзь збегчы. Уладзімір дысцыплінавана хадзіў на працу, выгароджваў нас перад начальствам, прыдумляў прычыны нашае адсутнасці. Праўда, быў пакрыўджаны, што нам па заканчэнні праходжання стажыроўкі далі па зорачцы на магчымыя пагоны, а яму — не. Бо казаў усё, пра што лепей было не казаць, бо казаў, што зрабіў і што зрабіць наважыўся. А гэта выклікала палітычны гнеў і звычайную салдафонскую зайздрасць. Ну як, напрыклад, мог трываць галоўны рэдактар, які вёз нас «представить» адміралу (сустрэча не адбылася, бо не ў форме нас нельга было прымаць, а нам у нашым становішчы належала толькі карабельная форма, не выходная), а Уладзімір, сур'ёзна заклапочаны, пытаўся ў яго, як бы гэта купіць вайсковы «газік», каб на ім ездзіць па Беларусі.

Тут дарэчы будзе ўспомніць, як мы прымяралі форму «б/у второй категории». Павялі нас трох на склады. Сталі падбіраць. З фуражкамі лёгкі клопат быў. А вось з кіцелямі — пакуты. Уладзіміру падышоў-такі кіцель з некалькіх прымерак. Мне шукалі даўжэй. А абмундзіроўка была сырая, зляжалая, практычна збуцвелая. Уся бяда была ў тым, што Караткевіч і я былі ў званні малодшых лейтэнантаў, Кляўко — лейтэнант, а жыватамі мы цягнулі як не да адміралаў (быў такі ў савецкім флоце камандуючы, які не ўлазіў у падводную лодку з-за чэрава). Лічы, уся служба складоў збеглася паглядзець на бясплатны канцэрт. І вось вымаклы ад натугі Кляўко ўспёр на сябе кіцель, зашпіліўся, уздыхнуў: «Ну нарэшце!» — і ўсе гузікі зрыкашэцілі долу. Танкашыі Караткевіч выглядаў у кіцелі, што падбіраўся на жываце, ну не раўнуючы як цяля ў валовым хамуце. Адразу ж пайшлі сфатаграфавацца. На фота зусім спакойна глядзеліся мы ў фуражках і кіцелях. Гэта калі ад'язджалі пасля двух месяцаў стажыроўкі, то кожны з нас мог захінуць крыссі недзе за спіной.

Няўтульна з намі было і ў інтэрнаце падводнікаў. У суседнім пакойчыку пасяліўся класічны адстаўнік аднекуль з Украіны. Паказваў характарыстыку з нейкага прадпрыемства, замусоленую, як салёны агурок пры закусцы, дзе казалася, што таварыш маральна ўстойлівы. Калі мы адыходзілі на службу, наш супакойнік заставаўся дома і цадзіў свае бутэлечкі, лежачы ў ложку. Аднаго разу прыходжу да сябе ў пакой, а адстаўніка распірае, як дуб ад раптоўнага веснавога соку, ад гневу праведнага. Не можа зразумець, як такога карэспандэнта, як Караткевіч, маглі ўзяць у ваенную газету. Заўтра ж ён пойдзе да камандуючага акругі. Пачаў далікатна выпытваць. Дапамог нават яму галаву

мыць — паліваў на рэшткі былой чупрыны з чайніка цёплую ваду. А выходзіць, што Уладзімір, пакуль нас не было, паспеў выкласці адстаўніку гісторыю нэнькі Украіны ў антымарксісцкай, антыбальшавіцкай трактоўцы, такой, як яна была і ёсць. Давялося акрамя дапамогі пры мыцці галавы здабываць недзе пляшку і няхітрую закусь. Ледзьве атушыў вулкан савецкага патрыятызму.

Баявых афіцэраў, якія жылі ў інтэрнаце, шакіраваў Уладзімір, калі раніцой, уключыўшы ледзяны душ, зычным густым голасам спяваў то італьянскія, то духоўныя песні, дзе гучалі словы «Бог, цвярдыня мая» і шмат кавалкаў з Бібліі (цяпер, калі чытаў Вечную Кнігу, успамінаў я спевы-цытаванні). Спевы былі сапраўдныя, а вось з ледзяным душам Уладзімір крыху хітрыў: стаяў збоку. Афіцэрам было ўжо ад аднаго ўпамінання Усявышняга зябка. А наогул з афіцэрамі жылі мы дружна. Як мелі чым, частаваліся. Звычайна ў сталоўцы на дэсерт давалі кампот па-флоцку. Прыходзіць неяк на абед нашая тройца. У афіцэраў, суседзяў па пакоі, свята — недзе расстараліся спірту. Ну і нам налілі ў «люміневыя» конаўкі. Мы з Уладзімірам развялі вадой, выпілі, смакуючы. Кляўко, як жох, удыхнуў паветра, уліў у горла спірт і нявогляддзю схапіў кубак з дэсертам. Сербануў і зароў на ўсю сталоўку падводнікаў. Партыйныя ды камсамольскія лідэры пачалі абурацца: вечна гэтыя цывільныя выкідваюць конікаў. А вінаваты быў не наш сябар, а змена ў традыцыйным меню — замест кампоту па-флоцку далі гарачы кісель. Плевачка не давала астыць напою, апетаму ў фальклоры. І выйшла, як тушэнне ляснога пажару — агонь агнём.

І дома, і ва Уладзівастоку, калі бывалі грошы на рэстаран, стараўся я заказваць салянку, каб абавязкова з маслінамі. Па традыцыі з яшчэ некранутай лыжкай міскі выкладваў я масліны ў міскі Уладзіміру і Генадзю. І пачыналася вясёлая размова. Кожны раз Уладзімір казаў, што са мной усё зразумела, маслінаў не прызнаю, бо радаводу простага, з сялян ці з рабочых, як пісаць загадвалі савецкія анкеты. Але хто ж усё-ткі быў панавіты ў Кляўковым родзе? Генадзь загадкава змоўчваў, старанна закусваючы. Даваў Уладзіміру палатунак на роздум, на яшчэ адзін напамінак пра сваю шляхетнасць. Мне, праўда, прызнаўся. У магазіне каля студэнцкага інтэрната былі толькі масліны. І давялося прывыкнуць закусваць маслінамі, мучыцца.

Праз Уладзіміра, а дакладней, праз сваю цікаўнасць засталіся мы неяк без вячэры. На дзікім пляжы пазнаёміўся Уладзімір з боскай прыгажосці, як часта казаў не раз, карэянкай. Уладзімір і

сапраўды быў у вадзе, як рыба. Мы толькі любаваліся з Генадзем, як грэлі яны і без таго цёплую ваду. Неадмыты ад салёнай вады Уладзімір, на зайздрасць нам, паведаміў, што карэянка прызначыла спатканне. Пад вечар і мы ўвязаліся за Уладзімірам, каб хоць здалёку паглядзець на ўсходнюю красу. А давялося ўбачыць заход сонца. Гэта таксама прыгожае відовішча, але яно не замяніла нам вячэры. Карэянка не прыйшла. Ішлі мы пешкі да інтэрната падводнікаў, бо не мелі на трамвай, а зайцамі ехаць гонар не дазваляў. Пасля і ў Мінску, і на рыжскім узмор'і ў добрым настроі мурлыкаў Уладзімір: «Купались две форели, и с ними был форел, форели постарели, форел не постарел».

Уладзівасток, наогул, здзіўляў, захапляў, ашарашваў, агарошваў. Што б ні збіраліся рабіць — ехаць, ісці, піць спірт ці «чорную хмару» (гарэлку ў 45 градусаў так празвалі за змрочную этыкетку), прыгаворвалі адно: «Вперед до Кенигсберга!» Гэта ва Уладзівастоку маленькая плача, а бацька грозіцца: «Не плач, бо аддам міліцыянеру». Малая тут жа пытаецца: «А дзе яна?» Міліцыянерамі ў форме былі звычайна жанчыны. Бо і п'яныя ў тумане кітабоі не будуць біцца з дамай. Выхаванне не дазволіць. Праўда, і міліцыянеры мужчыны там іншыя. Захацелася мне неяк апоўначы пакупацца на дзікім пляжы. Я ўжо на беразе мокры і цёпленькі, але набраўся нахабнасці папрасіць чалавека ў форме павартаваць мае штаны, бо яны ў мяне апошнія, ды яшчэ прапяяў яму вушацкую весялушку: «Ой, дзяўчаткі, Бог із вамі, здзену штаны, лягу з вамі, здзену штаны і сарочку, лягу з вамі на ўсю ночку». Згадзіўся папільнаваць, адно папярэдзіў, каб не бавіўся. Гэта ва Уладзівастоку на загад адчыніць працвярэзнікі сапраўды быў пакойчык з адчыненымі дзвярыма на два ложкі. Як не сямейны пакой. Туды заходзілі пахаладацца ў спёку здарожаныя, хто яшчэ сам мог ісці. Бо ў дні, калі вярталіся флатыліі, палову горада ні ў які працвярэзнік не ўтаўчэш. Гэта ва Уладзівастоку ідзе трамвай, на рэйках ляжыць стомлены гараджанін, трамвай спыняецца, выходзіць трамвайшчык і ездакі, асцярожна бяруць за рукі, за ногі соннага і нясуць на лавачку, каб выспаўся. А раніцай на тратуары ляжыць уладзівастоцкая «нявеста», а ад яе бяруць разгон цёплыя ручаінкі, дужа любімае слова ў нашай паэзіі 60-х гадоў. У кавярні «Льдинка» раніцай выбітыя шыбіны ў дзвярах замяняюць фанераю. Вечарам швейцар пад аховай міліцыянера прадае гарэлку па цане, якая яму падабаецца. А як рамантычна гучаць мянушкі забягайлавак: «Цешчын язык», «Там, дзе заканчваецца асфальт», «Шэрая кабыла», «Крываручка» (апошняя ў гонар прапаршчыка-ўкраінца).

Гэта ва Уладзівастоку Караткевіч пачуў, як пісалася партыйная характарыстыка афіцэру: «В пьянке замечен не был, но по утрам подозрительно много пил холодной воды». Часта пасля паўтараў раніцай у Мінску, смагла каўтаючы халодную, тады яшчэ нехлараваную ваду.

Доўга абяцалі ўзяць нас на баявыя караблі, якія стаяць поплеч, ці вобач з караблямі шостага амерыканскага флоту, але так і не ўзялі. Адзінае, што ўдалося нам, — трапіць на прыём да Чарнышова — партыйнага гаспадара краю, былога партызанскага кіраўніка ў Беларусі. З яго ласкі далі нам машыну, на якой мы і накруцілі некалькі тысяч кіламетраў па таежных дарогах, калі іх можна назваць дарогамі. Сапраўды, старцу вярста не круг. Цецюхе. Кавалерава. Чугуеўка. З намі ездзіў і дужа ж сімпатычны аператар з уладзівастоцкай тэлестудыі Віктар Пятровіч Кузняцоў, Герой Савецкага Саюза. І цяпер не разумею, як гэта мы пераходзілі па мокрай і круглястай жэрдачцы праз крутую таежную рачулку. Караткевіч яшчэ ўзяўся пераносіць «Конвас». Мы ўсе былі ў тумане, і ўсё было ў тумане. У Чугуеўцы выступалі ў рэдакцыі. Была і пазная вячэра. Уладзімір і тут па традыцыі закахаўся ў тубыльную журналістачку. Не абышлося без цалавання рончкі (падкрэсліваў гэтае слова рамантык), без укленчвання і абяцання шмат чаго.

А ўсё-такі, відаць, самай вясёлай была паездка нашая на паўвостраў Пуцяцін. У звечарэлым наўколлі нагадваў ён здалёку адзін з вобразаў Чурлёніса[7]. Ужо адно гэтае ўражвала Уладзіміра. Прыехалі, а дакладней, прыплылі, адразу ў гатэль. А там з нас толькі пасмяяліся. Сядзім разгубленыя. І тут нейкі кудлач нясе за клюшню, як за ручку ад штурвала, непамерна вялізнага краба. Уладзімір пасля, калі распавядаў каму, паказваў на сваю руку, а то і на дзве разам складзеныя, у залежнасці ад адпаведнага настрою. Ну, натуральна, ахнуў я ад здзіўлення, чым і здзівіў кудлача. Запытаўся, ці я крабаў не бачыў і адкуль тады, калі дзівіць мяне звычайны ягонаму воку краб. Разам пачалі адказваць, сказалі, што на стажыроўцы мы, што начаваць няма дзе, а назад ва Уладзівасток толькі праз дзень можна будзе трапіць. Расчулілі мы хлопца. І апынуліся на малым рыбалавецкім сейнеры, ці на МРС, бо абрэвіятуры даскакалі «от Москвы до самых до окраин», і зусім нармальным чыталася на картах пазнака «Морзверь».

Пераначавалі на сейнеры. Раніцай дапамагалі лавіць рыбу. Асабліва шмат лавілася мінтая. Белацелая, моцная рыба. Японцы з яе рабілі самыя вытанчаныя прысмакі, а ў краіне перамогшага

сацыялізму мінтай ішоў на муку ўгнаення. Але болей балюча ўражвала распавяданне пра тое, як з галоў маладых чаек варыцца суп. На сейнеры знайшлося чым закусіць і без галоў чаек. І ў самы разгон нашага зыбкага застолля прыплыў капітан з суседняга сейнера. Ён, выходзіць, бачыў нас па тэлевізары (быў такі грэх, хацелі зарабіць на якую бутэльку) і дужа ўзрадаваўся. Маці ягоная, калі памірала, наказвала: «Глядзі на Захад, там Беларусь, там твая радзіма». У пачастунак прывёз нам зямляк паўмісак крабаў, засмажаных у масле. Застолле набыло, як кажуць у спорце, другое дыханне.

Настрой застольцаў набываў штармавы характар. Ага, дык вы — пісьменнікі? І пачалося раскрыццё душ. Выходзіла, што меней як 10 гадоў ніхто з каманды не сядзеў. Адзін член экіпажа, ліючы слёзы расчулення, паўтараючы, што любіць капітана сейнера, усё ж прысягаў, што зарэжа яго. Памочнік капітана, плачучы цвярозымі слязьмі, прасіў у Караткевіча, каб напісаў маці пісьмо, бо сам памочнік ужо сёмы год збіраецца напісаць, але так і не сабраўся. Уладзімір слухаў уважліва і спагадліва, як умеў толькі ён, і абяцаў напісаць пісьмо і ўсё растлумачыць. Нехта даводзіў на поўным сур'ёзе, як цяжка трапіць у Еўропу. У далёкаўсходаўцаў усё, што за Уралам, Еўропа. Гэта ў нас дасюль спрэчкі, як нам увайсці ў Еўропу. Дык, значыць, двойчы спрабаваў пакутнік трапіць у Еўропу, на радзіму. Першы раз сеў у цягнік ва Уладзівастоку, узяў з сабой 200 тысяч (курс 1965 года), дзве скрынкі гарэлкі і тры скрынкі піва. Прачнуўся ў Хабараўску — ні рубля, ні бутэлькі. Пуста. Даў тэлеграму Пецьку і Ваньку — прыслалі грошы, вярнуўся «во Владик». Праз год зноў паспрабаваў на адпачынак з'ездзіць на радзіму. На гэты раз узяў 150 тысяч, скрынку гарэлкі і дзве скрынкі піва. І зноў усё паўтарылася, як і ў першы раз. З роспаччу ў голасе рыбак закончыў распавяданне: «Не, у Еўропу трапіць немагчыма...»

Мне запомнілася неба над галавой у збянтэжаных зорках, бо, загнаўшы мяне ў трум, рыбак-паэт чытаў мне свае вершы, прытым казаў, колькі разоў і дзе сядзеў ён, «срок тянул». Як зацугляны конь, касіўся я паглядам ды хваліў паэта.

Неўпрыцям нарастаў нейкі бунт. Пітво скончылася. І падаліся мы з Кляўком шукаць прадаўшчыцу. Знайшлі ў нейкім бараку. Упіралася. У ноч ісці не хацела. Угаварылі. Апошняе ратаванне было: у магазіне толькі віно. І на віно згадзіліся. Прынеслі на сейнер. Патушылі пажар, які ўжо займаўся. Караткевіч працаваў «зампалітам». Гэта быў рэдкі выпадак, калі пераканана беспартыйны вёў палітмасавае выхаванне. І калі вярнуліся ў інтэрнат,

доўга яшчэ нас гайдала ў сне, здавалася, начуем на сейнеры. З нашае навігацыі прывезлі мы шмат ракавак і пачалі іх чысціць на сувеніры. Уладзімір ужо ў Мінску любіў прыкласці ракаўку да вуха і слухаць, як мора шуміць. Дык, чысцячы ракаўкі, гэтым як бы мясам перакармілі любімца нашага, сібірскага катка Васька. Ледзь выжыў Васёк. Уладзімір марыў яго прывезці дадому, з запалам апісваў, як возяць катоў і сабак у свеце, што запяты ад нас жалезнай заслонай.

Дадому вярталіся мы да сумнага вясёла. Білеты бясплатныя. А на 12 сутак дарогі ў нас выйшла па рублю на душу. Гэта выявілася, калі раніцой прачнуліся ў вагоне. Уладзімір думаў, што дасць тэлеграму ў дарозе і на Байкале сустрэне калега па Вышэйшых літаратурных курсах, я вырашыў тэлеграфаваць дадому, каб на станцыі, дзе даўжэй стаіць цягнік, атрымаць прывітанне ад жонкі. Ды з добрых намераў нічога не атрымалася. Сама болей цягнік, бо лічыўся скоры, стаяў 15 хвілін. Гэта, можа, і вялікі час для вопытных рэзідэнтаў, а на наш разгон — нічога. З намі ў вагоне ехаў салдат на пабыўку ў Еўропу. Адной толькі чырвонай рыбы вёз як не мех, бо маці працавала дырэктаркай рэстарана «Уладзівасток». Перад ад’ездам з раніцы займалі мы чаргу па нейкія рыбныя гасцінцы. Хоць уладзівастокцы яшчэ помнілі, як на плошчах стаялі чаны з варанымі крабамі, як чорнай ікрой кітавалі вокны. Дужа добра трымала шыбы чорная ікра. І, як на тое ліха, за нашым вагонам быў вагон-рэстаран. Усе ішлі ў рэстаран і з рэстарана. А мы сядзелі і глядзелі. На прыпынках выбягалі купіць бульбы варанай ды калі-нікалі малака. Бабкі хітра намазвалі бульбу алеем ці маслам, і некалькі дзён таму зварaная на пагляд здавалася толькі адцэджанай і на патэльні падрумяненай. Ужо ў вагоне бачылі, што купілі, ды цягнік ішоў. І меў я ўсеагульнае ганьбаванне ад калектыву, бо на нейкай станцыйцы з’еў суп капеек за сорак. І цяпер і нялоўка, і смешнавата. А з суседняга купэ палкоўнік запасу ўсё цікавіўся, хто мы. Караткевічу карцела сказаць, што мы пісьменнікі. Ды з Кляўком забаранілі мы яму прызнавацца. Бедныя. Галодныя. Палкоўніку з таямнічай важнасцю растлумачыў я, што не маем права выдаваць ваенную тайну. Ён зразумеў ці зрабіў выгляд, што разумее. Адзіную раскошу маглі мы дазволіць сабе — карты. Гулялі ў дурня. І калі, змахляваўшы, далі Уладзіміру дурня з пагонамі, спадчынны арыстакрат не мог перанесці абразу. Некалькі дзён з намі не гаварыў. Яўна бачыў, што ашукалі.

Дарогі. Яны разводзяць і зводзяць, чужыняць і родняць. Дарогі з Уладзімірам Караткевічам роднілі, зводзілі. Дарогі

прыводзілі Уладзіміра на вушацкую зямлю, дзе помняць яго дасюль, дзе яго любяць і шануюць. Вушаччына дала Уладзіміру і спадарожніцу ў жыцці. Гэта з Валянцінай Браніславаўнай[8] часцяком бываў ён у навуковых экспедыцыях на зямлі Васіля Быкава. Бываў і па кіношных клопатах. І проста так, з-за любові да нашага краю. Вяртаюся з Ваўчэнскага возера. Мама кажа, што ў нас госці. Пад бэзавымі кустамі, вываліўшы самавітыя жываты з маек, спяць два віцязі. Уладзімір Караткевіч і Еранімс Стулпанс. Стаміліся, адолеўшы 200 кіламетраў пыльнай летняй дарогі ў дабітым аўтобусе, а яшчэ Уладзімір у аўтобусе прачытаў лекцыю на тэму беларускасці нейкім дзяўчаткам-ветрадуечкам. Маме было прыемна ўспомніць латышскія стравы і пачаставаць Еранімса, а Валодзечку (так ласкава называла любімца) клёцкамі з душамі.

У адзін з прыездаў Уладзіміра ў Вушачу была наладжана бяседа па-вушацку, высокі госць пачаў лавіць акунёў, як у нас кажуць. Тады мая крэўніца Марыя Рыгораўна папрасіла: «Дайце відэльцы, каб падперці вочы гэтаму пану». І хадзілі мы з гэным панам у грыбы. Мама дала нам з сабой славутай бражкі, якую мінскія цмакуны-смакуны прымалі за сухое віно, адпаведна бутэльцы, у якую ўліта была. Халадзілі мы яе ў Быковым ручаі, а потым згубіліся ў лесе каля Вечалля, толькі праспаўшыся на пасцелях імшаных, знайшлі адзін аднаго. Упадабаў Уладзімір мясціну, дзе некалі пасвіла кароў латышачка Кулінка, мясціну, якая завецца Андрэеўшчына. Як бы ў гонар дзеда майго Андрэя Галвіньша. А яшчэ болей упадабаў Уладзімір вушацкую рагатушку:

А лісіца і барсук
Любіліся цераз сук,
А маленькі барсучок
Цераз маленечкі сучок.

Уладзімір вымаўляў «цэраз» і расцягваў, смакуючы кожны гук, слова «маленечкі».

Дамовіліся неяк паехаць з Уладзімірам на Вялічка ў Вушачу. Ілона была яшчэ маленькая, за барсучка таго меншая. Да вакзала з вандзэлкамі і дачкой дабірацца грамадскім транспартам цяжкавата. Набіраю таксі — няма машын. Іду на хітрыкі, кажу, што ў мяне важны госць — славуты чэшскі пісьменнік. Падзейнічала. Прыходзіць таксі. Уладзімір пачынае гаварыць, мяшаючы беларускія і польскія словы. Я трымаюся адпаведна пачціва з дарагім госцем. А таксіст нешта ўхмыляецца. Уладзімір выйшаў

з машыны падыміць, тады таксіст нахінуўся да мяне і пытаецца: «Як сябе Валодзя адчувае? Я ж яго ўчора да пад’езда падвозіў, а да дзвярэй амаль даносіў...» А мой чэшскі класік, высмаліўшы папяросіну, падкрэслена панавіта сеў у машыну.

У Вушачу ў маміну хату завёз Уладзімір на захаванне на ўсялякі выпадак некалькі папак трэцяга ці чацвёртага экземпляру передруку «Каласоў пад сярпом тваім». Пасля ўсіх заварух і перабудоў хаты і сёння ёсць дзве папкі з праўкамі аўтара. А вандраванне рукапісу «Ладдзі Роспачы» мае як не дэтэктыўную гісторыю. Напісаў Караткевіч сваю найталенавіцейшую рэч. Чытаў і прысвяціў мне. Рукапіс мне падарыў. А паколькі «Ладдзя Роспачы» і не мела намеру прыставаць да берага сацыялістычнага рэалізму, дык не друкавалі нідзе. Васіль Сёмуха пераклаў на рускую мову. Даў «Неман». Праз нейкі час з’явілася надзея надрукаваць у арыгінале. Передрук недзе згубіўся. Рукапісу Уладзімір не мог дашукацца. І ўзнікла ў аўтара ідэя перакласці на беларускую мову сваю рэч з Сёмухавага перакладу. Ды выручыў выпадак. У Вушачы праглядаю паперы — рукапіс «Ладдзі Роспачы». Прывожу. Адзначаем падзею, што знайшлася прапажа. Назаўтра спахопліваецца шчаслівы аўтар, а дзе ж рукапіс? Зноў шукаем. І ўрэшце за газаваю плітою ў маёй кватэры на Рэспубліканскай знаходзіцца рукапіс. Нясём передрукоўваць у некалькіх экземплярах. Мне Уладзімір вяртае рукапіс, яшчэ раз падпісаўшы. Зусім нядаўна сказаў пра такія прыгоды «Ладдзі...» Васілю Сёмуху. Узрадаваўся болей, як Уладзімір Караткевіч, калі рукапіс аб’явіўся, бо аўтар пад гарачую руку ўпікаў перакладчыка, нібыта ён згубіў рукапіс, а пасля не сказаў яму пра знаходку. Сёмуху ўвесь час мучыла сумленне.

Шчасціла мне лётаць з Караткевічам у Латвію да Еранімса Стулпанса. У самалёце Уладзімір гэтак захапіўся маладой пасажыркай, што ўжо наважыўся падарыць ёй сваю паркераўскую ручку (а пісаў Караткевіч толькі самымі лепшымі ручкамі на самай лепшай паперы, бо пісаў, як свяшчэннадзейнічаў), ледзь адгаварыў, а прывабнай прыхільніцы таленту нястомнага аратага на гонях прыўкраснага беларускага пісьменства патлумачыў, што ручкай гэтай напісаны «Каласы пад сярпом тваім». З адведзін Латвіі Караткевіч напісаў выдатнае эсэ. Хоць зноў, здавалася, толькі смаліў папяросы ды цадзіў «Піва продкаў». На ўзбярэжжы ў захмялелым расчуленні дужа прыгожай латышцы пачаў тлумачыць, што перакладаю «Ветрык, вей!», а яна пажадала мне перакласці і драму «Залаты конь» і памахала рукой у такт з чайкамі.

На ўзбярэжжы раніцай заказалі мы па 150 каньяку і па шклянцы мінеральнае вады. Уладзімір бярэ шклянку з вадой, робіць глыток. І мяне чорт ускруціў. Кажу, што ўсё-такі ў радавітага шляхціца пралетарскія замашкі. Бо на ваду падумаў, што гарэлка, а на каньяк — піва. І наважыўся па-рабочаму, па-гегемонаўску гарэлку півам запіваць. Як падхапіўся мой сябар, як пачаў даказваць, што гэта я так прымаю каньяк за піва, а ён проста, каб горла не апячы, надпіў мінералкі, як арыстакрат. Давялося яшчэ паўтарыць заказ, альбо, як любіў прыгаворваць Караткевіч, заечую норму — сто пяцьдзесят і капусны ліст.

Не дужа каб часта наведваў я Маскву. Але даводзілася і на экскурсіях бываць. Толькі так ведаць гісторыю Масквы, яе славутыя мясціны ніхто не мог, як Караткевіч. Між іншым, ён паказаў, як ў марозны дзень шэрасам закрэсліваецца імя Сталіна на Маўзалеі.

У Маскву раіў мне падацца на Вышэйшыя літаратурныя курсы Уладзімір. Ухапіўся я за гэтую ідэю. Пасля універсітэта паслаў належныя паперы. Адказ прыйшоў неўзабаве. Адмовіць. А ўсё пасля Караткевіча. Энцыклапедычна адукаваны слухач Вышэйшых літаратурных курсаў Уладзімір Караткевіч літаральна да слёз даводзіў сваімі як бы наіўнымі пытаннямі выкладчыкаў. Спытае нешта. Выкладчык не ведае, абяцае заўтра адказаць, а заўтра ў Караткевіча новае пытанне. Не хочацца шмат казаць пра выкладчыкаў, хопіць аднаго, што, напрыклад, Леў Ашанін[9] меў званне прафесара. Былі, вядома, і сапраўдныя свяцілы. Але Караткевіч заганяў у казіны рог ашаністую прафесуру. І, як вынік, рэктар ВЛК (толькі дзвюх літар не стае — СМ) Лапцеў падпісаў загад не прымаць на вучобу асоб з філалагічнай адукацыяй — хопіць, адпакутавалі з разумнікам Уладзімірам Караткевічам! Мая заява якраз і падпала пад загад. Караткевіч раіў паступіць, і ён жа не дапусціў да вучобы, сам таго не ведаючы.

Ужо ў наш час распавядаў мне ў Туркменіі слухач ВЛК, як беларускі празаік, былы партызанскі радыст, выручыў увесь курс. Партызанскі радыст, значыць, выцягнуў пытанне не па ягоных сілах — «Медны коннік». Не доўга думаючы, звярнуўся з пытаннем да выдатнага пушкіназнаўцы прафесара Бондзі, бо ён, вядома, лепей ведае Пушкіна, чым сам сябе Пушкін ведаў. А пытанне было такое, ці здраджвала Наталі Пушкіну. І, зразумела, завёў прафесара. Той казаў і так, і не. А потым спахапіўся, зірнуў на гадзіннік, трэба чытаць лекцыі ў Маскоўскім універсітэце. Похапкам прапанаваў Бондзі здаць заліковыя кніжкі і сказаць, хто якую адзнаку хоча. Трохі адхіліўся, каб паказаць, якім

нежаданым слухачом быў Караткевіч для прафесуры ўзроўню Ашаніна, аўтара песні «А у нас во дворе».

Лёталі самалётам у Полацк на святкаванне юбілею Францыска Скарыны. Славутая Сафійка, як заўсёды, рэстаўравалася. Уладзімір мне выбраў з друзу некалькі штук плінфы, пры гэтым прачытаў бліскучую, бо маланкавую, лекцыю па гісторыі і Сафійкі, і Полацка. Ён мне іншы раз здаваўся сейфам, у якім захоўваюцца падзеі, факты, даты. На цяперашні час яго можна назваць і камп'ютэрам, у чыю памяць закладзена як не ўся гісторыя за шмат стагоддзяў. Ляцелі назад. Уладзімір сядзеў насупроць Еўдакіі Лось у цесненькім «кукурузніку». У галаву мне, дзе яшчэ шумеў і не вычхаўся юбілей славутага палачаніна, ускочылі радкі: «Вочы ў вочы, каленькі ў каленькі. Будзе ў Валодзі ад Дусі маленькі».

Трэба раненька ляцець у Віцебск. Юбілей старадаўняга места. Уладзімір застольнічаў за поўнач. Ідзём у самалёт. Праваднiца западозрыла, што пасажыр нецвярозы. Іду на выручку. Пытаюся, ці п'яны я, адказвае, што не. Ну а мы разам былі і разам ляцім, значыць, і сябра мой цвярозы. Махнула рукой. Паляцелі.

Караткевіч любіў вандраваць. Праўда, мог наталіць любоў сваю толькі ў межах Саюза. Удалося вырвацца ў Польшчу і ў Чэхаславаччыну. Чэхі (перакладаў Караткевіча шмат і таленавіта Вацлаў Жыдліцкі[10], у якога шмат каму з нашых членаў Саюза пісьменнікаў трэба было б павучыцца беларускай мове) выдалі шыкоўна і з густам раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Караткевіч паехаў атрымаць узнагароду выдавецтва «Альбатрос» за лепшы бестселер. І калі вярнуўся, вітаў я яго прыкладна так:

Мой лепшы друг,
Мой друг бестселер,
У поўнай сіле і красе,
Уставіў класікам прапелер —
Па адрасе ляціце ўсе!

Апрача «Званоў Віцебска» ў коласаўскім тэатры п'есы Уладзіміра Караткевіча не ставіліся. Да іх не дарасла рэжысура, а цэнзура перарасла іх. Затое як не ўсе тэатры акрамя Макаёнка, кананізаванага партыяй, ставілі гледзіва аднаго цэкоўскага драматурга. Ну, хай бы ставілі сабе, раз свярбела кіраўнікам тэатраў атрымаць падзяку з установы, што была насупраць Купалаўскага тэатра. Горай было тое, што ўсіх членаў Саюза пісьменнікаў ледзь не ў загаднай форме запрашалі на прагляд спектакляў па

п’есах таго, хто ў ЦК кіраваў культурай. Рабіліся культпаходы. Некалі Пестрак распавядаў, як у Лукішках палітвязняў абавязкова ганялі «на Троцкего» — на вывучэнне твораў Троцкага ў піку марксізму-ленінізму. Здаецца, у Рускі тэатр на антыалкагольную п’есу партдраматурга Караткевіч усё-такі не пайшоў. Але ў Купалаўскі тэатр на п’есу пра Францыска Скарыну прыйшоў. З-за цікаўнасці. Шкада, што не было магнітафона, — запісаць бы каментарыі знаўцы нашае гісторыі Уладзіміра Караткевіча. Таццяна Кузьмінічна, нязменны сакратар Саюза пісьменнікаў, як чулая нянька, толькі і прасіла: «Уладзімір Сямёнавіч! Валодзя! Не трэба». Безумоўна, гэтая як бы мізансцэна была цікавейшая і драматургічнейшая.

Караткевіч наогул ніколі не паказваў кукіш у кішэні. Яму нічога не значыла падысці да сакратара ЦК Кузьміна і прапанаваць яму пігулкі, якія адбіваюць пах алкаголю. Ні на якія кампрамісы ніколі не ішоў. У 60-я гады было гэта. Сядзім у мяне дома на вуліцы Бялінскага (Уладзімір заўсёды цытаваў абразлівае выказванне гэтага рускага крытыка пра свайго любімага Тараса Шаўчэнку) і традыцыйна бавім час за поўнай чаркай. Званок. Трэба падпісаць калектыўны ліст супраць беларускіх эмігрантаў, якія пахвалілі некалькі маладых савецкіх пісьменнікаў, у тым ліку і нас з Караткевічам. Не паспеў я і ацверазець, як супрацоўнік газеты «За вяртанне на Радзіму» ўжо стаяў на парозе з гатовым тэкстам[11] і подпісамі. Падпісаўся. Ды Уладзімір, пачуўшы пра такое, адразу зашыўся ў цёмную бакоўку, як тады звалі, у цешчын пакой, і сядзеў, пакуль завяртанец не выйшаў з хаты. Не толькі дурны прыклад заразлівы, добры яшчэ болей. Караткевічаў метад партызанскай вайны скарыстаў я, калі прадстаўнік той жа фірмы, з сімвалічным прозвішчам, якое стукае, прапанаваў мне падпісаць зноў жа калектыўны ліст, ужо супраць акадэміка Сахарава[12]. Трохі выпіўшы, корчыў я п’янага ў дамавіну, які нічога не разумее. Адсталі.

Застоллі ў наш час не былі суцэльнымі п’янкамі. Нездарма ж хадзіў райкамаўскі афарызм: «Выпіўка без тостаў — п’янка, з тостамі — культурна-масавае мерапрыемства». І культурна-масавых мерапрыемстваў было багата. І пітво багатае было. Зноў жа райкамаўскі афарызм: «Каньяк — любімы напітак пралетарыяту, які ён п’е вуснамі сваіх лепшых прадстаўнікоў». Як былі грошы, і мы на момант маглі сябе лічыць лепшымі прадстаўнікамі гегемона. І тады гучала задушэўная песня ў выкананні Караткевіча «Ой, п’е казак, п’е, ў яго грошы е» альбо «Ой, сабралася бедна басота».

У Нікіфаровіча[13] дзень нараджэння, ідзём утрох — Бурсаў, Караткевіч, я. Імяніннік жыве ў маленькай цеснай «хрушчоўцы». Мы з Бурсавым неяк адыходзім з гасцей, а Уладзіміра пакідаем начаваць. Назаўтра Нікіфаровіч кажа, каб болей гэтакіх сувеніраў яму не пакідалі. Праз дзень Караткевіч заяўляе рашуча: «Болей мяне ў такія госці не вадзі, там не даюць пахмяляцца». І ўсё вясёла, іскрыста, усмешліва.

У выдавецтве «Беларусь» выходзіць кніга Адама Міцкевіча, складзеная Адамам Мальдзісам, «Зямля навагрудская, краю мой родны», выдавецкім рэдактарам я. Караткевіч перакладае паэму «Мешка, князь Навагрудка». Зацягвае. Трэба хутчэй здаваць у набор кнігу. Нарэшце звоніць мне дамоў якраз у нядзелю: «Нясу пераклад паэмы. Чакай». Чакаю. Заходзіць з Валянцінай Бraніславаўнай. Лета. Цёпла. Уладзімір у льняной кароткарукавачцы, Валянціна ў льняной сукенцы. Гляджу, мой госць з пустымі рукамі. Пытаюся, а дзе ж рукапіс? Валянціна расхінае таксама льняную торбачку (іх тады называлі піжоніста — старцоўка), дастае лісты добрай паперы, а яны мокрыя. І на іх на ўсіх нічога няма, толькі сінія, здаецца, рагі. Што засталося, дык на першай старонцы два словы справа ўверсе — Адам Міцкевіч, а на апошняй злева ўнізе — Уладзімір Караткевіч. Калі падымаліся да мяне, Валянціна Браніславаўна не заўважыла, як гэная старцоўка мякка ляснулася аб бардзюр асфальтаванай дарожкі. Гэтага дотыку бутэльцы з гарэлкай хапіла.

Жартавалі, што з мора бутэльку, пакінутую нашчадкам, дасталі, але не ўтрымалі. Нават акавітая не пасмела змыць два зрыфмаваныя яе Вялікасцю паэзіяй прозвішчы.

У Доме акцёра мой невялікі вечар. Пасля традыцыйнае застолле.

У перапынку пад нізкім скляпеннем пастаўленым голасам Караткевіч спявае:

Багаты чалавек каня запражэ
Дый выедзе,
А бедны чалавек жонку пакладзе
Дый вылюбе.
Радуйся, сарока, радуйся, варона,
Радуйся і ты, верабей-цудатворца!

Саліст оперы Віктар Чарнабаеў аж рот адкрыў. Здорава да зайздрасці! А да ўсяго дом гэты стаяў на архіерэйскім падвор’і. У Доме акцёра шмат актрыс. Уладзімір глядзіць на адну вуз-

каклубую, якіх мы звычайна ласкава называлі пласкадоначкамі, і, нібыта між іншым, зазначае, што ў даўнія часы ў Беларусі лічылася, што ў прыстойнай маладзіцы азадачак мусіў быць не меней як на пятнаццаць кулакоў. І з сурёзным выглядам на рабрыне сталяніцы пачаў адмяраць — кулаком за кулак — патрэбны памер. А неяк іншым разам паведаміў Уладзімір адзін пункт з правілаў добрага тону нашага сярэднявечча: «Нудзіць на сярэдзіну стала ёсць непрыстойна».

Бывала, раніцай летуценна-маркотна казаў Караткевіч: «Галава, як дзікі стэп, такая ж бяскрайняя і такая ж дурная». Пад вечар, стомлены працай, бегатнёй, мітуснёй, мінорна як не шаптаў ён: «Я хачу легчы і ціха сканаць...»

Як дакладны факт падаваў жарт, што ў Літве пад час калектывізацыі самыя распаўсюджаныя прозвішчы былі Нежалайціс і Неўступайціс. А на ВЛК адзін літоўскі паэт даказваў, што і Даўгаўпілс — літоўскі горад, так даказваў, пакуль пад стол не асунуўся. Караткевіч напісаў яму:

Хотел дойти до Даугавпилса,
Но вместо этого допился.

На кінастудыі ставілі фільм па адной з аповесцяў Васіля Быкава. Уладзімір напісаў на паперчыне і прымацаваў на дзвярах кінагрупы:

Доведем мы Быкова
До стыда великого.

З кінастудыяй у Караткевіча былі такія ж стасункі, як і з беларускімі тэатрамі (беларускімі не па мове, а па шыльдах), хоць у дадатак да Вышэйшых літаратурных курсаў закончыў і Вышэйшыя сцэнарныя. Сцэнарыі ягоныя адхіляліся, а калі, да прыкладу, удалося прабіць ілбом мураваную сцяну савецкіх кіначыноўнікаў з фільмам «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», дык, зрабіўшы фільму абрад абразання, паклалі гатовую прадукцыю на паліцу. І калі перад апошнімі днямі Караткевіча пачалі здымаць «Чорны замак Альшанскі», ухітрыліся кінастудыя і рэжысёр не прымацаваць да карціны аўтара, што значыла б некалькі месяцаў плаціць аклад. А самы вялікі працаўнік, самы цягун, як у нас вушацкія казалі, быў самы бедны. Багаты быў Караткевіч толькі на даўгі. Даводзілася часта хадзіць у пазыкі да афіцыйнага драматурга, пра якога казалі, што ён пацее грашыма.

Караткевічава шчодрасць, Караткевічава гасціннасць, Караткевічава сябрыстасць сталі хрэстаматыйнымі. Але быў Караткевіч і скупы. Скупы на вобраз, на дэталь, на першаадкрыццё. Неяк распавядаў мне, што ў Маскве ў працвярэзніках ставяць на пятках нумар хімічным алоўкам. Я хапіў гэтую дэталь, дарэчы, са згоды сябра, і перанёс гэты нумар на качарэжку капусты ў вершы пра Камароўку. Пры адпаведным выпадку Уладзімір падкрэсліваў, што даў мне дэталь. Яшчэ ў мяне выходзіў зборнік вершаў у Маскве. Прыдумлялі загаловак. Уладзімір прапанаваў нешта накшталт «Дом под крыльями аиста». Бо ў хату, па народным павер'і, на страсе ў якой гняздзіцца бацян, ніколі не ўперыць пярун. Пасля кручення, перакручвання зборнік выйшаў пад назвай «Аист на крыше». Бярозкін адразу ж прачытаў «Аист на Грише». І сваю шматпакутную кнігу пра карані і вытокі беларушчыны назваў Караткевіч «Зямля пад белымі крыламі». Калі я пачаў пісаць вершы для маленькай сваёй Ілонкі, Уладзімір прапанаваў мне напісаць казку пра вераб'я і саву. Ды ўрэшце напісаў сам.

Калі Уладзімір жыў халасцяком, у яго і на стале, і пад сталом, і на падваконні стаялі бутэлькі з так званымі настойкамі. Настойваліся і перац, і кмен, і грушы, ледзь не гайкі. Сам сабе і гасцям любіў шчодры гаспадар варыць супешнік, як называў ён любое варыва. Раніцай ванна з «Бадусанам», потым спорная чарка, супешнік, кава па-турэцку, абавязкова з каймаком — з пенкаю. І ў беласнежнай кашулі за пісьмовы стол, дзе быў музейны парадак і акуратнасць. Не адрываючы рукі гэтак старонак 10–15 уборыстым, да смачнага акруглым почыркам на фінскай паперы, вядома ж, залатым пяром пісалася за першы прыскок новая аповесць, новае эсэ, рэцэнзія, а то і проста ліст. Варта адзначыць, што з Караткевічавай старонкі ад рукі выходзіла болей за дзве старонкі передруку.

Акуратнасць, дакладнасць, размах. Гэтыя рысы вабілі ў Караткевіча. Калі ён бараніў каго, дык абавязкова ад цэлай банды. Калі ішоў ад дзяўчыны, дык тут жа ўдакладняў, што сёння ўжо не ад першай. У нас нейкі час жыла маладая студэнтка, радня сябра майго сябра. Хто толькі ёй пры адыходзе з застолля не прызнаваўся ў каханні. Ілона празвала яе кошкай. Спакойна інтэлігентны Навум Кіслік[14] неяк назаўтра казаў: «Гэта ж трэба так узяць, што нейкую кошку цалаваў». Караткевіч пайшоў далей, ён папрасіў рукі і паабяцаў купіць дачу на Чорным моры і ў прыдачу (якраз у рыфму) дачу прэзідэнта Акадэміі навук Купрэвіча з атамным бамбасховішчам. Я, праўда, абразіў ягоныя

парыванні, заўважыўшы, што ў атамнае бамбасховішча добра і надзейна будзе хаваць пустыя бутэлькі. Хоць Караткевічу надзейней за ўсё трэба было хаваць рукапісы. Людзі старажытнейшай прафесіі, не ведаю толькі парадкавага нумара яе, імітавалі кражу ў кватэры пісьменніка, якраз Караткевіч адпачываў недзе на ўзбярэжжы цёплага мора. Укралі ордэн, пярсцёнак ды нейкую яшчэ драбязу. Пярсцёнак дык неўзабаве падкінулі. Яўна шукалі крамолу. А можа, і пераздымалі тое, што цікавіла. Самыя ўважлівыя чытачы. Удумлівыя. Прыдзірлівыя. Маўклівыя. Любіў жа Уладзімір паўтараць пачатак верша ўкраінскага паэта Яўгена Лецюка:

Я так не знаю сам сэбе,
Як знають хлопці з КДБ —
Мої біографы невтомны.

Прапала пры той кражы веку і вязаначка розных экспромтаў, якія пісаў я сябру то на сурвэтках, то на лістках. Уладзімір любіў пародыі, жарты. І чым зласнейшы, тым лепей яму падабаўся. Дужа абыгрывалася імя Фама. Бо (пра гэта добра напісана ў Мальдзіса) тэлефон Караткевіча блыталі з нейкай канторай, дзе працаваў нехта Фама Фаміч. Ведаючы гэта, бывала, набіраў я нумар кватэры Караткевіча і пытаўся, ці можна Фаму Фаміча. У трубку ляцеў крык абурэння: «Выкіньце гэты нумар з вашае запісной кніжкі, тут жыве і працуе Караткевіч, празаік, паэт...» Я, не даючы астыць Уладзіміру, дадаваў: «Драматург, эсэіст, сябра...» І яшчэ болей сярдзіта чулася: «Ах, дык гэта ты! Няма чаго рабіць. Хадзі, пахмялю, каб паразумнеў...» На Фаму Фаміча адгукаўся Караткевіч гэтаксама, як на Уладзіміра Сямёнавіча. І чытаў я яму:

На Беларусі ёсць Фама,
А больш пісьменнікаў няма.

У адказ чую: «На Беларусі шмат дзярма, але дзярмей за ўсіх Фама». Пасля доўгасядзення ў гасцінах з’явілася: «Мы сядзелі ў Фаміча доўга і цярпліва. Стала піва, як мача, і мача, як піва». Альбо: «У гарэлку ўткнуўшы лыч, задрамаў Фама Фаміч». Усё ўспрымалася на рогат. Караткевіч не насіўся з сваёй персонай як дурань са ступай. Ведаў сабе цану. Ведаў, што і тыя, у каго ёсць галава на плячах, ведаюць яму цану. Не гуляў у літаратуру, у генія, бо тварыў літаратуру, бо геніем быў. І калі ў адной паездцы з начлегам у стозе я запытаўся: «Наша моц і гордасць, што ж

твой лёс цяжкі — на каленях торбы, пад вачмі мяшкі?» — толькі засмяяўся тым смехам, якім смяюцца людзі, што любяць жыццё, людзі дужыя і глыбока мудрыя. Уладзімір Караткевіч казаў жыццю: любі мяне такога, які я ёсць, увесь, адкрыты, непрыхаваны. І жыццё любіла жыццялюба.

Талент Уладзіміра Караткевіча быў настолькі шматгранны, калі ўжыць штамп літаратурнай крытыкі, што можна сказаць — рэалізаваўся ён увобмаль. Пра ўсе жанры літаратуры і згадваць не трэба. А быў жа яшчэ Караткевіч і прыродна выдатным акцёрам, апавядальнікам, педагогам, спеваком. А мастак Караткевіч мог бы, відаць, спаборнічаць з пісьменнікам Караткевічам. Бездакорна валодаў лініяй, кампазіцыяй. Некалькімі штрыхамі мог перадаць характар, ці ўлюбёна-рамантычна, ці здзекліва-гратэскна. Пушкінскія накіды на палях рукапісаў выдадзены неаднаразова. Пара і нам пабагацець душой і выдаць малюнкі пяром, накіды, шаржы Уладзіміра Караткевіча. Скарбы гэтыя раскіданы па ўсёй Беларусі, па краінах былога Саюза, яны ў сяброў і прыхільнікаў вялікага пісьменніка. Маю колькі Караткевічавых замалёвак, шаржаў і я.

Загадка Уладзіміра Караткевіча — гэта загадка бурштыну. Колькі стагоддзяў жывіцы беларускага духу, беларускага клёку, беларускага слова трэба было згушчацца ў самы цёплы і самы светлы камень, каб пасля сагрэць стылыя руіны нашае гісторыі, каб асвятліць ноч нашага падняволення, які цяжар і ціск давялося вытрымаць жывіцы беларускай жывучасці, каб стаць самым лёгкім каменем, які хочацца на сэрцы насіць, бо ён гоіць душу. Мы маем наскі, беларускі бурштын. Ён з беларускай жывіцы, з беларускага сонца. Ён трымае ўсмешку нашага сонца. У нас свой духоўны бурштын — Уладзімір Караткевіч, талісманны камень крывіцкае душы.

Умеў Караткевіч сагрэць словам прыязні, словам спагады, словам падтрымкі. Умеў распагодзіць настрой усмешкай, жартам, некалючай кпінаю. У застоллі на нейкую хвіліну змаўкаў, засяроджваўся і падносіў даме яблык не разладу, а яблык-сюрпрыз. Лёгкі рух — і ў дзвюх руках у дамы былі дзве лілеі, бо разьбяром папрацаваў Уладзімір Сямёнавіч. Пра велікодныя пісанкі Уладзіміра варта было напісаць цэлае даследаванне — яно б адразу на кандыдацкую пацягнула! Распісваючы яйка, успамінаў, бывала, пра сваё настаўніцтва на Украіне. Гаспадар, у якога кватараваў малады настаўнік, узяўшы добрую чарку, выходзіў на вуліцу, глядзеў на сваю мазанку і заўсёды паўтараў адзін і той жа радок Тараса Шаўчэнкі: «Стоіць, мов писанка, хатына». Далей цытаваць не мог, бо тут жа заліваўся слязамі

расчулення. Чыста па-ўкраінску. І ўсіх, хто слухаў Уладзіміра, да слёз даводзіў анекдот пра ўкраінскую логіку. Трое. П’юць гарэлку з перцам. Як на губным гармоніку іграюць, цягаюць шматкі сала. Ідзе размова:

— Куме, а куме, дэ ты буў?

— В місце.

— А шчо ты там бачыў?

— Велізный-велізный залізный міст без водного цвяха.

— Без водного цвяха і трымаецься?

— Уявы собі, куме, трымаецься.

І тут, адцягнуўшы як далей сала, па-філасофску змрочна заключае трэці:

— Вось так і людына — жыве, жыве, та й вмрэ.

А сыплючы соль на яйка, усміхаўся і рэаліст і фантаст, як недзе ў Расіі ў рэстаране прачытаў просьбу: «Пальцами и яйцами в соль не лезть!»

Цікава, любіў Караткевіч эпіграмы падколістыя, злосныя, асабліва на сябе, а сам па сваёй выключна беларускай лагоднай натуры пісаў, я сказаў бы, сарамліва-мяккія накшталт: «Сцяпан Захарыч Гаўрусёў уцёк ад жонкі без трусёў».

Пытаюся, бывала, у сябра: «Каласы пад сярпом тваім», пад тваім жа цапом зярняты. Дзе ж працяг абяцаны? Чым, творца, рукі твае заняты?» Адказ годна-гарэзлівы — чаркай. Але гэта ішло на ўзроўні жарту. На справе ўсё было куды складаней. Увесь час Караткевіч збіраўся дапісаць свой раман. А што замінала, толькі сам аўтар ведаў. А тут яшчэ ў апошнія гады Валянціна Браніславаўна пераканала мужа, што якраз ён павінен напісаць беларускі дэтэктыў. Горы дэтэктыўнай і фантастычна-прыгодніцкай прадукцыі перачытаў Караткевіч і на рускай, і асабліва на польскай мовах. Ды ўсё-такі часцяком можна было застаць Уладзіміра за чытаннем на нейкай старонцы абгорнутых «Каласоў...». Каб злёгку падкалоць раманіста, здаралася, казаў, што дужа ж аўтару свой твор падабаецца — аж перачытвае, каб мець насалоду (любімае слова Караткевіча). Ды зразумела было, што зноў уваходзіў у свой твор, каб пайсці далей.

Шмат часу забіралі тэлеперадачы. Гэта Караткевіч вёў праграму з крамольнай на тыя часіны назваю «Спадчына». Пісаў эсэ. Гэта Караткевіч у піку нарысам пра даярак, пра партызанскіх камбрыгаў, пра іхнія рукі, ногі, сэрцы пісаў эсэ, ужо адным вызначэннем жанру гарнуў чытача да еўрапейскасці, ад якой нас, прыродных еўрапейцаў, «людзі, як са сталі» стараліся адвярнуць, абусходзіць, абазіяціць абавязкова.

У выдавецтве з дазволу ЦК і Камітэта па друку ствараўся альманах, дзе меліся літаратуры народаў СССР гучаць па-беларуску. Прапанаваў я, бо назначылі галоўным рэдактарам, назваць «Сябрына», — нельга, дужа беларускае слова і няма ў ім ідэалагічнага грунту. Назвалі «Братэрства». У першым нумары папрасіў я дарагога сябра напісаць эсэ пра Украіну. Згадзіўся. І калі прынёс Караткевіч эсэ пра Украіну, я зноў здзівіўся, як хутка, як прачула, як таленавіта было ўсё напісана. І зноў жа фантазія іграла, як тое сонейка на Вялікдзень. Былі ў эсэ і ўражанні ад цёплай яшчэ, сцюдзёнай паездкі ў Мсціслаў: «...паехаць у гэты дзень у Мсціслаў, дарогаю (пры трыццаці градусах марозу) трапіць у буран, калі снег ад зямлі да неба, блукаць, бо за метр ужо не відаць нічога, некалькі разоў думаць, што ўжо — канец (тым больш што праз нябачныя шчыліны ў машыну насейвае снег, а матор глухне, мабыць, у Беразіно заправілі бензінам з вадой), выбіцца ўрэшце на аўтакалону, што таксама засела, капаць, выцягваць і вылезці-такі ў дзве гадзіны ночы з дапамогай бульдозераў». І чаго там дзівіцца з класікі, дзе рэдкая птушка можа даляцець да сярэдзіны Дняпра!

Пасля абмену, які лёг на плечы Валянціны Браніславаўны, Караткевіч пасяліўся ў доме, сцены якога адразу прызначаліся пад мемарыяльныя шыльды, доме, які партыя падаравала сваім верным памочнікам пад бокам у ЦК. Я ўсё блытаў пад’езд, ды мне дапамагалі зарыентавацца на кожным паверсе прымацаваныя да радыятараў крэслы. Апошнія гады Надзеі Васільеўне стала цяжка падымацца. Дык Уладзімір і зрабіў для маці палёгку. Што тычыцца кватэры, дык яе пазнаваў адразу. Як алімпійскія колцы, значыліся на дзвярахямінкі ад малатка. Да Караткевіча прыехаў польскі пісьменнік. Адпаведна было застолле і скокі. Сусед, які жыў пад Караткевічам, чамусьці пачаў грукацца ў дзверы не кулаком, а малатком, патрабаваць творчае цішыні. А ў Уладзіміра было любімае слова пахвалы — малаток. І самі рыфмаваліся — творчы паток і малаток. А суседу пасля была нагода ўспамінаць, як спрыяў апальнаму класіку Уладзіміру Караткевічу.

Успомнілася пра суседзяў. Званю Караткевічу, дзякую за кніжку, за аўтограф Ілоне, за эсэ пра Скарыну ў красавіцкім нумары часопіса «Беларусь» за 1980 год, кажу, калі буду некалі пісаць пра сябра, напішу, што з гісторыяй быў як роўны, як з суседкай. А Уладзімір тут жа дадаў:

— У якой суседа няма.

Захаваўся лісток адрыўнога календара з выдавецкага стала, дзе выразна ашчадным почыркам Уладзіміра канстатавана: «Мы не дачакаліся Вас, Рыгор Іванавіч! Адыходзім у мяккіх тапачках. 3.8.80, г. Мінск». Подпісы: Ул. Караткевіч, Н. Кіслік. А ўнізе зноў жа рукой Уладзіміра: «Бес удалился, смердя» (Н. В. Гоголь)».

Фантазія Караткевіча рэалізавалася featuresнапраяўна. У побыце, у прыгодах, нават у лістах. Да прыкладу ў такім:

«Меню на Вялікдзень 18 красавіка 1982 г.

Фарбаванкі.
Студзіна з хрэнам.
Студзіна без хрэна.
Хрэн без студзіны.
Целенціна, шпігаваная часныком, для важнасці па-польску.
Огёркі хіньскі (або в'етнамскія, хто іх ведае).
Бульба вараная ala Караткевіч.
Бутэрброды з сырам гарачым.
Крывое мяса (па-простаму каўбаса).
Сала ala свіння.
Кансервы скумбрыя п'янага пасолу.
Грыбы-баравікі, над грыбамі палкаўнікі.
Масліны ala Арыстафан Папасатырас.
Зялёны гарошак па-заечаму (фірменнае Валі Барадулінай).
Лімон ala Кісламардзевіч.
Сыр хатні з радзімы Янкі Купалы.

Н а п і т к і

Тураўская Юбілейная Крываралаўка.
Жыватоўка з перцам.
Et cetera, et cetera.

Дарагі Рыгор! Дасылаю табе меню, якое хацеў забраць. Віншую з 1 Мая і жадаю тысячы год і дзвюх тысяч кніг. Будзь шчаслівы.

*Уладзімір.*

Дадатак да меню: «лыжка дзёгцю». Бо трэба, калі абяцаў, заходзіць да сяброў не толькі на Вялікдзень. Нават калі б у цябе стрыечны брат адышоў да Абрама прабацькі на піва — пазвані, папрасі жонку ці сябра. І не адгаворвацца, што меў на ўвазе 28 красавіка... 1983 года.

Справа, для якой ты быў патрэбен, — ляснулася. Цяпер пра яе і гаварыць не буду. Іншым можаш «званіць ужо з трамвая», але я ані разу, абяцаючы зайсці, не падвёў цябе».

Міжволі пачынаю задумвацца, а ці зямнога паходжання вялікі сябар мой Уладзімір, Валадзімер, Валадар, Волат? Ці не прыбыў ён з іншых, болей дасведчаных светаў? Бо не можа ў галаве, хай сабе й незвычайнага смяротнага, змесціцца гэтулькі ведаў, а ў сэрцы — гэтулькі любові да зямлі, якая сталася яму роднай, гэтулькі шаны да мовы, якую пераняў ад крывіцкага роду, які балеў яму. Незямным талентам, незямной працавітасцю, шчыраваннем надзяліў Звышні Уладзіміра.

А ў штодзённасці геніяльны летуценнік, нястомны дойлід замкаў беларускага духу, утрапёны суаўтар мінуўшчыны і будучыні быў зямны. Не цураўся ні чаркі, ні скваркі, ні лясной дарогі, ні начлегу ў стозе.

Ён цікавіўся ўсім, ён бачыў усё, радаваўся па-дзіцячы любой праяве жыцця, бо, цяпер разумею, адчуваў сваё кароткае гасцяванне на зямлі. І шурпатую жвірынку падымаў да зорак. І подзьмух ветрыку ўраганам рабіў. І дажджыну ў залеву ператвараў.

Ён умеў усё. Яго слухаліся незацугляныя думкі ягоныя ж.

Невыпадкова недзе на пачатку 80-х гадоў між іншым сказаў было: «Я не пісаў трох рэчаў: песень, дзіцячых вершаў і баек. Трох рэчаў не ўмею. Усё астатняе ўмею, пачынаючы ад опернага лібрэта і сканчаючы віншаваннямі-вершамі табе і сястры...»

Умеў усё, бо неверагодна шмат ведаў, бо надзелены быў волатаўскім талентам, празорлівасцю й прарочыстасцю. Умеў усё, бо любіў слова, мілаваў слова, чуў і адчуваў. Шанаваў слова ўзвышанае й вытанчанае, пялегваў і слова з паганскім першародствам, слова побытавае, аблачыстую паслаўку й смалістае выслоўе. (Багатаму чорт і ў кашу с...аць, а беднаму і ў поліўку с...ыць. Грыбоў — хоць с...акай еш. Што рабіць — узяцца за клубы і ў с...аку трубіць.)

А я чытаў сябру вушацкую цвялілачку з пастуха, якую з малалецтва помню:

Пастух трубіў —
Штаны згубіў.
Пастушка йшла,
Штаны знайшла:
Пастух, вярніся,
Штаны знайшліся!

Калі мяне заносіла, калі пачынаў гарачыцца, Уладзімір сваім па-лагоднаму з’едлівым голасам суцішаў: «Не фігуруйся, Грышачка!»

Упадабаў Уладзімір і мой наватвор — зайсці ў акіян па фатэрлінію (гэта калі мы на афіцэрскіх зборах купаліся ў Ціхім акіяне).

Адно не любіў афіцыёзу, пустой балбатні з ідэалагічным гарнірам.

Пленум Саюза пісьменнікаў па прозе. Даклад робіць Іван Чыгрынаў[15], па-савецку грунтоўна, па-чыгрынаўску самазамілавана. І ў амаль цішыні далікатны голас Уладзіміра Караткевіча:

— Балбоча, а я застуджаны. Мне галава баліць.

Гэта быў час пыжыкавых (для цэкоўцаў) шапак ды імпартных дублёнак (зноў жа для служак народа).

Барыс Сачанка ў сваіх палескіх логіях пісаў кшталту: «Салвэсь ніяк не мог узбіцца на карову». А вось Караткевіч так і не ўзбіўся на звычайны кажушок, які яму неабходны ў паездзінах. Пра пыжыкавую шапку й не думаў. Калі выпусцілі ў Чэхаславаччыну, прывёз колькі берэтаў (і мне адзін, самы модны, прэзентаваў) ды рудую тоўстай свіной скуры куртку. І потым, смакуючы піва, прыгаворваў: «Чэске півэчко любяць все...» Дома куфаль з півам стаяў на кардонным кружляку з выявай Швэйка. Гэта таксама прывёз з Прагі. Бо наогул любіў Гашака.

Піва Уладзімір любіў. Віно не дужа. Часам эпатажна напаўспяваў: «Я не буду пить вино, лучше буду есть г...но. Голова болеть не станет, а блевать мне всё равно».

І непрычасанае слова, і папеўка, каб уцвяліць самаробленых рафінаваных інтэлігентаў (як казаў Уладзімір, інцеляў), гэта было своеасаблівай крапасной сцяной, якая адгароджвала нястомнага творцу ад цікаўных разявакаў, ад марнатраўцаў часу, ад прыліпалаў

Хіба ў сне адпачывалі вочы працаўніка. Нядрэмнай была думка ягоная, несупынным пяро. Працаваў паўсюль, дзе было льга і нельга. І экспрамтаваў я сябру:

Ходят слухи, что Фома
От работы без ума.
Пишет много, как Дюма,
Но удел его — сума.

І сапраўды, увесь час галеча цікавала за геніем. Па спрадвечнай традыцыі, па завядзёнцы ці не саміх нябёсаў. Плата за талент дарагая — само жыццё і ўсе нягоды ягоныя, жыццёвыя.

У стасунку да Караткевіча выслоўе Шолама-Алейхема (грошы, як талент: ці яны ёсць, ці іх няма) тычылася з нацыянальнай беларускай папраўкай: як талент ёсць, дык грошай няма. Калі зрэдчас друкавалі, ганарараў не хапала, каб разлічыцца з машыністкамі. Выходзіла, што пісаў не для чытачоў, а для машыністак ды яшчэ для цэнзараў. Караткевіча цэнзары чыталі абавязкова пільна, лічы, як «Короткий курс ВКП (б)».

У будучага законнага класіка адносіны з тагачаснымі прыжыццёвымі класікамі, зацверджанымі ЦК, былі роўныя, бо Караткевіч ведаў сабе цану, хоць ніколі гэта не падкрэсліваў. Сваю грэблівасць да літаратурных халуёў глыбока хаваў, але не дазваляў ёй звыкнуцца з прыспешлівай гідотай, з падмызнікамі, з падхлебнікамі, з падхвоснікамі.

Уладзіміру заўсягды не хапала грошай, бо пісаў на гістарычныя тэмы, да якіх камуністычная ідэалогія ставілася грэбліва. Грошы, вядома, былі ў касавага драматурга Макаёнка, які ахвотна выручаў багатага толькі на творы Караткевіча. (Сам быў удзельнікам паходу да Макаёнка, калі Уладзімір вяртаў пазыку акуратна ў час.) Праўда, аднойчы пакрыўдзіўся бедны на багатага.

Караткевіч папрасіў пазычыць грошы раніцай, Макаёнак схадзіў у ашчадную касу ды зняў патрэбную суму. Пад вечар Уладзіміру не хапіла, зноў да Андрэя, а той запярэчыў:

— Не буду я хадзіць у касу два разы на дзень, як на службу.

Болей Уладзімір не звяртаўся да грашавітага камедыянта. А мне засталося толькі падбадзёрыць сябра экспромтам:

І паваліцца славы казённы тын,
І развеецца пыл
Грашавітай раскошы.
Макаёнак запомніцца
Толькі тым,
Што ў яго
Пазычаў Караткевіч грошы.

Цешылі мы сябе тагачаснымі выслоўямі: шчасце не ў грошах, а ў іхняй колькасці. Альбо: вып’еш з раніцы — цэлы дзень вольны. Хапала колькасці без мяккага знака, часу вольнага Уладзіміру не хапала. А пазычыць часу дазволена было толькі ў Звышняга. І Караткевіч пазычаў і вяртаў спраўна. І вярнуў з ліхвой.

Караткевіч шанаваў час, і час спрыяў свайму таленавітаму працаўніку. Мяноўна час, а не сучаснасць. І запомнілася, як

пажадаў афіцыянту ў рэстаране маскоўскага аэрапорта, калі мы ляцелі ва Уладзівасток: «Длинных Вам лет и долгой жизни!»

Філалагічнай размінкай была ў дасціпніка ахвота выдумаць прозвішча альбо ўжо знаёмае выкруціць, перайначыць. Казаў, што Прокша[16] гучыць яму як копша, а копша азначае магільны дух, дух з магільных капцоў. Слова «гіль» па-расійску — чепуха. І Уладзімір нязлосна ўтварыў ад яго адпаведнае прозвішча. Навуменка[17] чытаў як Неуменко, перамяшчаючы націск з аднаго «е» на другое.

На дух не выносіў Караткевіч афіцыёзнай савецкай паэзіі. Пярэчыў усяму псеўдапаэтычнаму нахлыну не выкрыкамі, не гарачагаловай палемікай (а такой і мейсца не было пры савецкім рэжыме), а з інтэлігентнай гідлівасцю як бы прыпавесцямі.

Часта паўтараў, як Кузьма Чорны аднаму паэту актуальшчыку трагічна паведаміў, што ў катоўнях сканаў антыфашыст, камуніст Цвібель Клопс. Пад вечар за бяседым сталом Кузьма Чорны паведаміў, а ўжо ўраніцы паэт панёс у «Звязду» гнеўны верш-пратэст, які пачынаўся радкамі:

Як многа слёз і гора перанёс
Наш дарагі таварыш Цвібель Клопс.

Уся соль тут была, так бы мовіць, у цыбулі. Цвібельклопс — мяса з цыбуляй, цыбульны клопс, яго якраз і еў «надзённы паэта».

Як ні зашпільвалі жыццё на ўсе гузікі сталінскага кіцеля, хрушчоўскай вышыванкі, як ні сціскалі горла брэжнеўскім гальштукам, жыццё жыло, разнявольвалася, смяялася, жартавала, кпіла.

Літоўскія сябры на Вышэйшых літаратурных курсах распавялі Уладзіміру пра вясёлы выпадак з літаратурнага жыцця. Праўда, весялосць гэная магла скончыцца жалобай.

Адразу пасля вайны Літва зноў далучана да савецкай імперыі. З’езд пісьменнікаў скончыў сваю каардынаваную работу. Рытуальны банкет. Парторг Саюза пісьменнікаў ці нехта з сакратароў ЦК агалошвае застоліцу:

— За здароўе таварыша Сталіна!

Паўза. Цішыня. І ў гэтай урачыста-змушанай цішыні дрыготкі голас старога крытыка, вядомага ў вольнай Літве, голас з самага канца застолля, з закутка:

— А я не магу выпіць за таварыша Сталіна.

Паўза даўжэе. Цішыня наліваецца свінцом. Збялелы да халоднага поту тасцёр, заікаючыся, пытаецца:

— А чаму Вы не можаце выпіць за таварыша Сталіна?

— Мне не налілі...

На памянёных Вышэйшых літаратурных курсах хадзіла быліца пра савецкую пашпартызацыю. Стары інтэлігентны яўрэй атрымлівае савецкі пашпарт. Камсамолістая пашпартыстачка падае яму «сярпасты, малаткасты». Разгарнуў, зірнуў ды пытаецца:

— А што гэта Вы мне напісалі ў графе нацыянальнасць — індзей?

Пашпартыстачка баявіта:

— У Вас жа так і напісана было — індзей.

— Ды не індзей, а іудзей.

— А што гэта такое — іудзей?

— Так яўрэяў называлі ў царскай Расіі.

— Усё зразумела, давайце Ваш пашпарт.

Хутка нешта чыркае й вяртае дакумент. Шчаслівы ўладальнік ужо дома паглядзеў у пашпарт, а там у славутай пятай графе (яўрэяў пры саветах называлі інвалідамі пятай графы) значыцца: індзейскі яўрэй. Яшчэ адну нацыянальнасць дадала пашпартыстка ў шматнацыянальную «сям'ю народаў», каб не перапісваць усё нанова.

Натуральна, што за Караткевічам хадзіла цэлая армія стукачоў, мастацтвазнаўцаў у цывільным. Натуральна, што Караткевіч гэта адчуваў і ведаў і адпаведна ненавідзеў запабежнікаў з канторы глыбокага бурэння (так шмат хто чытаў абрэвіятуру КГБ), як ненавідзеў здрайцаў і шпегаў, увесь ягоны панавіты род, і любіў распавядаць пацешную гісторыю, пачутую на Вышэйшых сцэнарных курсах.

Рэжысёр Юрый Пыр'еў атрымаў Сталінскую прэмію і быў запрошаны на прыём да «бацькі ўсіх народаў» (і не злічыць, колькі гэных «бацькаў» перажыў кожны народ). А касцюма годнага на высокі прыём у Пыр'ева няма. Выручыў адзін дужа шустры як бы прыяцель. Пашылі аб адзін дзень. Пыр'еў ідзе ў новых шатах у Крэмль ды заўважае, што зашмат людзей у гэткіх жа. Пачынаецца прыём. Дужа далёка ў застоллі сілуэціцца Сталін. Пераходзяць з аднае залы ў другую, аднолькавых касцюмаў усё более, яны бліжэй і бліжэй падступаюцца да Сталіна, Пыр'еў з імі. Апошняя зала. Адны аднолькавыя касцюмы. Пыр'еў чарэпае лыжкай ікру, ды тут нехта наступае яму на нагу і загадна

шэпча: «Шэф сказаў — на ікру не налягаць». Пыр’еву дайшло, у атэлье якога ведамства шылі яму абнову.

Калі нам здаралася заказаць на закусь ікру, Уладзімір, перш чым намазаць на лусцень колькі ікрынак, прыгаворваў: «Шэф сказаў — на ікру не налягаць!»

Кажучы прыканцыляранай мовай, у нашыя маладыя гады панавала атмасфера даверу і ўзаемапаразумення. Жарт і пакепліванне, каламбурнасць і эпіграмнасць жылі з намі, жылі ў нас.

Не было нечаканкай (Васіль Быкаў любіць гэтае слова) атрымаць канверт, у якім ляжала выразка з якога-небудзь польскага ці чэшскага часопіса, дзе вядомы кінаакцёр абдымае паненку. І подпіс змененым (вядома ж, караткевічаўскім) почыркам: «Фальклорных спраў майстра, згалі бараду!» Альбо прыходзіць у канверце паштоўка з рэпрадукцыяй карціны Лі Цы «Старшыня Мао Цзэдун на будаўніцтве Шысаньлінскага вадасховішча». Познатка: «Кітайская туш, 1958 г.». На карціне вялікі кормнік правай рукой абапёрся на шуфлепадобную рыдлёўку, а левай датыкаецца да вышыванага ручніка, які падаюць яму шчаслівыя будаўнікі светлага заўтра крамлёўскага ўзору. Некалькі ў кашулях і портках, рэшта ў майках і шортах, а самы дужы з паголенай галавой нясе на каромысле зямлю ў кашах. На адвароце паштоўкі зноў жа змененым почыркам: «Найвялікшаму беларускаму хунвэйбіну і маодзэдуністу Рыгору Барадуліну з вялікай падзякай ад яго кітайскіх паслядоўнікаў. Прыпадаем пад ногі твае, вялікі бахдыхан Нябеснай Імперыі нашай! Мао 1, Мао 2, Мао 3». Усе тры Мао ў слупок, а пасля кожнага яшчэ, думаю, незразумелыя й для кітайцаў іерогліфы.

У свой час калекцыянаваў я этыкеткі моцных напояў з аўтографамі. Адна мне асабліва дарагая. На, як бы сказаць, тытульным баку: «Сталічная» гарэлка, унізе: «Цана 2 руб. 95 кап. без кошту посуду». Чарнільнае кляймо: «Рэстаран «Нёман». На адвароце акуратна адклеенай этыкеткі знаёмым почыркам:

А за тым краем,
Як за тым раем,
Цяжка ўздыхаем
І плачам.
Яшчэ раз,
Яшчэ раз,
Яшчэ раз убачым.
Бойся, урад,
Бойся, кат,

Яшчэ раз убачым.
Яшчэ раз,
Яшчэ раз
Вернемся,
Убачым.

Уладзімір дужа шчымліва спяваў гэтую песню з часінаў паўстання Кастуся Каліноўскага, праўда, крыху з іншымі словамі:

Краю наш,
Раю наш,
Мы цябе не ўбачым.

У рэдакцыі Караткевіча болей веры, болей рашучасці, тут болей Караткевіча — нясхібнага рамантыка.

І я стараўся падбадзёрыць сябра экспромтам:

Фама і ў вус не дзьме —
Быць такімі ўсім бы, —
На зямлі ён у дзярме,
А ў бяссмерці з німбам!

І экспромт гэты спраўдзіўся.

На пяцідзесяцігадовы юбілей, да якога Уладзімір Караткевіч прыйшоў з незлічоным скарбам сваіх твораў, чытаў я вітальныя радкі:

Трымайся, агнец між ваўкоў.
Пакуль крывіцкі дух не вымер,
Не менш
Як пяцьдзесят вякоў
Ты будзеш княжыць,
Валадзімер.
Хай сніць масціты тыражы,
Цюкуе ў Зборы твораў
Скруху.
Твой плён не пыліць стэлажы.
Твор кожны твой,
Як думка, ў руху.
Хай аднадзёншчык гоніць вал,
І ў Зборы твораў ён бястомны.
Да неба ўзнёс ты свой квартал,

Высокай якасцю
Шматдомны.

Чаму такі ўпор быў на Зборы твораў? Таму што Уладзімір Караткевіч, беспартыйны беларус, які не апяваў ні завод, ні калгас, не мог быць пастаўлены ў выдавецкія планы хоць бы невялічкім Зборам твораў.

Заходжу да Уладзіміра. Ён збіраецца ехаць на поўдзень у Дом творчасці. У кучку скідвае металічныя рублі: бальшыня з выявай цёзкі — да юбілею прамоўцы з браневіка. Уладзімір цытуе загадачку з нейкага акцябрацкага маскоўскага часопіса:

Это что за большевик
Там залез на броневик?
Он простую кепку носит,
Букву «р» не произносит.

А юбілейныя рублі Уладзіміру патрэбныя былі не для будаўніцтва камунізму. У мінулы раз вынайшаў адменны плывец, як з мора сухім выходзіць. Калі Валянціна Браніславаўна не пускала ў бліжэйшыя шалманы, сын Дняпра пераплываў заліўчык і там маладзіў душу шклянкай-другой маладога віна. Юбілейныя і неюбілейныя металічныя рублі не размакалі ў кішэньцы плавак (кішэнькі ў мужчынскіх плаўках задуманыя былі для засцярогі). Заходзіў паэта ў мора зажураны, вяртаўся вясёлы.

Потым Васіль Быкаў узгадваў, як яны адпачывалі разам у Піцундзе. Уладзімір адкрыў паселішча, дзе была добрая чача. Хадзілі, частаваліся. Грошы скончыліся, Караткевіч паехаў раней. Неўзабаве на імя Быкава прыходзіць пасылачка з познаткай: «Асцярожна! Шкло!» Гэта Уладзімір прыслаў пляшку каньяку, пераводам паслаў тысячу рублёў.

Практычна ўсе кнігі, якія выходзілі ў майго сябра, маюцца ў мяне з ягонымі аўтографамі, і лірычнымі і іранічнымі. Адзін дазволю сабе працытаваць цалкам: «Грышачка ты мой, самы-самы... У дзень свайго пяцідзесяцігоддзя даю табе ў рукі гэты свой слабы дар. За Ушачы, за святую для нас памяць неацэннай тваёй Мамы, за Верасовачку і Завячэлле, і Задаброцце. За тое, што ёсць на Беларусі ты, друг мой шчыры. І падумаць толькі, што Мы маглі б не сустрэцца. Валасы дыбарам! Твой да канца Ул. Караткевіч. 26.XI.80 г.»

Уладзімір любіў маму маю, як і яна яго, любіў вушацкі край. За душу бярэ, як відушчая памяць сябра трымала ў сэрцы ўсе дарагія мне мясціны.

І аўтограф гэты на томе «З вякоў мінулых», які склалі «Паром на бурнай рацэ», «Сіняя-сіняя...», «Кніганошы», «Цыганскі кароль», «Сівая легенда», «Ладдзя Роспачы», «Дзікае паляванне караля Стаха». Усё стала хрэстаматыйнай класікай.

З першае старонкі гаворыць утрапёнасць і мудрасць, балючы ўспамін і прарочы наказ: «Пераспелае жыта плакала зярнятамі, а ў жыце стаялі шыбеніцы. І не ўстаў ніхто, і не сказаў людзям, што няможна рэзаць адзін аднаго, што свет вялікі і на кожнага хопіць ніў, што хлеб аднолькава смачны, на якой мове яго ні называй. Не мог сказаць...

Справа ішла больш чым пра хлеб. Справа ішла пра свабоду».

Перачытваю, і зноў гучыць голас, які стаўся мне родным і неабходным, спагадлівым і даверлівым, дакорлівым і празорлівым…

Дзякуй лёсу, што паслаў мне шмат сустрэч з Уладзімірам Караткевічам. Не пералічыць усіх мясцін, дзе даводзілася быць разам з сябрам, не ўспомніць усіх застолляў, дзе добра гулялася. Адно можна сказаць: дзе з'яўляўся Караткевіч, там усё жыло, там абуджаўся дух беларускі.

І цяпер настала пара сустрэч з неацэнным сябрам маім, сустрэч нетрадыцыйных. Хоць трэба адразу агаварыцца, што Караткевіч быў наватарам ад першага надрукаванага верша да слова на сваім пяцідзесяцігоддзі. Рыцар беларускасці ніколі не ганяўся за славай па прынцыпе пеўня — калі не дaганю, дык хоць сагрэюся. Гэта рабілі прыжыццёвыя класікі, аўтары рэгіянальных хронік, глыбакаплынных партыйных раманаў, бясконцых шматлогій. Слава, ачомаўшыся, сама даганяе Караткевіча. Вуліцы захацелі назвацца імем да шаленства таленавітага пісьменніка. Як на вокладках гаманлівых кніг, на дамах чытаю: «Уладзімір Караткевіч». І пакуль што на Віцебшчыне ўзыходзіць помнікамі любімы сын крывіцкае зямлі. Следам за сваім папярэднікам, духоўным настаўнікам Францыскам Скарынам. Маладой вясной стаў помнікам Уладзімір Караткевіч у Оршы. Тэма «Меднага конніка» вырашылася самім жыццём: не «дзядзя Косця», а радавіты, панавіты сын святой зямлі, дзе ўзышла слава Беларускага войска, Уладзімір увасобіў крывіцкі дух, накінуўшы на юначыя плечы бронзавую апранаху. Ды і ў бронзе не забранзавеў Караткевіч. Восенню 1993 года ў стольным Віцебску ладзьбавалі помнік Уладзіміру. Насупраць абавязковаму Уладзіміру Ільічу, які дагэтуль усё паказвае, куды ісці. Наш Уладзімір Сямёнаў сын вясёла задумаўся, маркотна ўсміхаецца.

У традыцыйным берэце. Толькі папяроскі не стае. Аднекуль з позніх гуляў, абмінаючы лужынкі, ступае, як у шаляпінскім футры, кот. І мяне рассмяшыў любімы анекдот Уладзіміра. П'яны ляжыць на ранішнім тратуары. Аднекуль выходзіць кот на мяккіх лапах, як клубок туману. І яшчэ неацверазелы жрэц Бахуса пакутліва просіць: «Падла, не тупай!»

І з бронзавым сябрам ёсць пра што пагаварыць, лёгка пажартаваць, ёсць пра што ўспомніць.

Ну, хоць бы пра дзядзькоў і цётак, якіх ва Уладзіміра было амаль столькі ж, колькі буйных гарадоў на абшарах былое царскае, а пасля савецкае імперыі. У залежнасці ад абставін і характару прыгадваў: яны то ўдзельнічалі ў рэвалюцыі, то падымалі мяцеж супраць бальшавікоў. Іначай і быць не магло, бо род Караткевічаў быў даўні і непакорны. Найяскравей свой вольны нораў паказалі папярэднікі Уладзіміра ў паўстанні Кастуся Каліноўскага, асабліва любімага нацыянальнага героя нашчадкаў радавітых падданцаў волі.

У рэанімацыі трылузілася Караткевічу атамная вайна. І казаў мне Уладзімір: «Бачыў, як цябе, Рыгор, усяго расплюскала, толькі цень твой на зямлі ледзь акрэсліўся...» Гэта прывід чарнобыльскай катастрофы прадбачыў самы чулы, самы чуткі, самы шчыры сын Беларусі Уладзімір Караткевіч. І апошняя ягоная вандроўка была на Палессе, на Прыпяць. Каб развітацца. Харон чакаў. Воды Леты без радыяцыі.

Гэта на шасцідзесяцігоддзі Васіля Быкава ўжо падупалы здароўем Уладзімір пасля тоста перадаў юбіляру невялічкі гарэльеф з выявай ільва і голасам, што пачынаў слабець, амаль пракрычаў:

— Рыкай, акі леў!

Як наказ. Бо ведаў, што толькі мужнасць і сіла волі Васіля Быкава дужыя процістаяць сілам цемры і зла. Бо сам Уладзімір Караткевіч, далікатны інтэлектуал, быў нясхібным і нязломным. «І коскі з месца не зрушу!» — гэта не фраза, не афарызм на публіку. Гэта штрышок да вобліка вялікага творцы, хто здоўжыў і доўжыць вякі беларускай думкі, беларускага слова, беларускага роду.

### АКАФІСТ УЛАДЗІМІРУ

Ён нарадзіўся —
І зрабілася болей на адну зорку
У сузор'і славутых імёнаў Беларушчыны.

Уладзімір Караткевіч прыйшоў,
Каб сцвердзіць жывучасць
І трываласць духу беларускага,
Усёабдымнасць крывіцкага розуму.
Ён быў дойлідам,
Які ўзводзіў светлы гмах,
Цвярды мур для беларускай душы,
Выгнанай з дому свайго чужынцамі.
Ён быў майстрам цяжкой
І няўдзячнай справы —
Лучыў ланцуг часін парваных.
Шчырэў адзін за ўсіх.
Ён быў майстрам
І чаляднікам у сябе ж самога,
Бо памагатых не меў.
Небяспечнай была справа,
Якой аддаў гады свае
Беларускі геній.
Ён быў аратаем,
Які араў дзірваны
Бяспамяцця й знявагі,
Крыўды й абразы.
Ён быў сейбітам,
Які сеяў зерне любові
Да ўсяго роднага, наскага,
Крывіцкага.
Ён сеяў зерне думкі,
А такое зерне дае
Рунь надзеі.
Звышнім пасланы быў нам
Уладзімір, сын Сямёнаў,
Каб не забыліся,
Што мы беларусы,
Што мы народ,
Варты ўвагі сусветнага людства.
Гісторыю твораць асобы.
Уладзімір Караткевіч
Тварыў нашую гісторыю.
Ён зрабіў свой вольны пераказ
Аповесці старавеччыны.
І пераказ гэты быў дакладны,
Бо пераказаны сэрцам,

Закаханым у беларускасць,
Сэрцам аднаго
З найлюбімейшых сыноў Беларусі.
Зямны й даступны ў штодзённым бытаванні,
Уладзімір Караткевіч быў недаступны
Пад час размоваў сваіх з вечнасцю,
Калі адкрываліся яму
Вяршыні горнія Ісціны й сэнсу.
Ён падставіў сваё інтэлігенцкае плячо
Пад непамерную ношку,
Якую неслі Кастусь Каліноўскі
І Янка Купала.
Ён нёс і не гнуўся.
Ён нёс свой крыж,
Ён нёс крыж і за нас.
Будзьма любіць Беларусь
І быць ёй адданымі,
Як Уладзімір Караткевіч,
Каб вярнулася святло
У душы нашыя,
Каб цемра ад нас адвярнулася.
На развітанне нястомны працаўнік
Як трохзор'е,
Як трохзярняцце,
Абраніў трохслоўе:
Быў. Ёсць. Буду.
Гукнем жа ўслед глыбіннадумцу,
Гукнем яму ў вячніну:
Быў! Ёсць! Будзеш!
Будзеш!
Будзеш!

*1995, 2001*

## КОНЬ ГУЛЯЎ НА ВОЛІ…

У музычным свеце, у музыказнаўстве ёсць паняцце «абсалютны слых». Паняцце гэтае можна прымяніць і да літаратуры, хутчэй за ўсё да вылучнага пісьменніка, хіба што з невялічкім удакладненнем — абсалютны слых і абсалютнае адчуванне слова, ягоных магчымасцяў, ягонай незаменнасці і дакладнасці ўжывання. Гэта, відаць, болей, чым у музыцы, у літаратуры талент надзвычай рэдкі.

Вырай беларускіх паэтаў і празаікаў пачатку 60-х гадоў шчаслівы быў тым, што ў ім з першага прылёту быў Міхась Стральцоў, які меў прыроджаны абсалютны літаратурны густ. Сказаць пра яго — талент — будзе правільна, асоба — таксама. Але, бадай, слова «з’ява» больш акрэсліць маштабы Міхася Стральцова. У свой час сярод іншых сяброўскіх эпіграм пісаў я свайму сапраўды сябру і такую:

За Гамера спрачалася сем гарадоў,
Тры секцыі —
За Міхася Стральцова:
Празаік Стральцоў,
Лірык Стральцоў,
Крытык Стральцоў, —
За вечнасцю слова!

Вечнасць скажа сваё слова пра ўсіх. Але на тое яна і вечнасць, што не звыкла спяшацца, бо часу, калі можна так сказаць, у яе нямерана, няважана, нялічана. Міхась Стральцоў ведаў пра характар вечнасці, таму і не мітусіўся, не мітаўся, як адначаснікі ягоныя, каб хоць у імгненні затрымацца, каб палюбавацца на сябе ў люстэрку бяглівых дзён. Ён проста працаваў і думаў, шмат думаў. Не адна змена ў беларускай літаратуры вырасла пад апекаю ягоных слованастаўленняў, пад апекаю ягонай падтрымкі і ўвагі, пад апекаю ягонае творчасці.

Міхась Стральцоў даў інтэлектуальны пачатак сучаснай яму прозе, пачуццёвую глыбіню эсэістыцы, шырыню і гарызонтнасць крытыцы, акварэльнасць і адухоўленасць паэзіі ад класічнага радка да верлібра. Да стральцоўскіх ацэнак прыслухваліся ад самакаранаваных убурэлых класікаў да самых утрапёных нізрынальнікаў усяго ў прозе і ў паэзіі. Дзе б ні працаваў Міхась Стральцоў, да яго хвасцілася чарга, як пасля вайны на млын. Так было ў рэдакцыях «Маладосці», «Літаратуры і мастацтва», «Полымя», «Немана». Які б аддзел ні ўзначальваў Міхась, у ім засяроджваліся ўсе аддзелы — і прозы, і паэзіі, і крытыкі, і публіцыстыкі.

Міхася, крытыка і даследчыка, бядзіла загадка Максіма Багдановіча. Думаю, што нашых літаратуразнаўцаў мусіць зацікавіць загадка Міхася Стральцова. Адкуль гэтакія веды, гэтакая празарлівасць, гэтакая нястомнасць? Асабліва нястомнасць. Бо фармальна спадчына Міхася Стральцова не дужа ўжо і шматтомная (помніцца, як прыжмурыста ўсміхаўся патрабавальны да сябе майстра з аднагодка, што налічыў сваёй прадукцыі на

Збор твораў у шасці тамах), яна пераважыць тысячу і адну ноч адначаснікаў-эпапеістаў. А варта ўлічыць толькі адну акалічнасць — колькі раманаў, аповесцяў, кніг крытыкі і саветызаваных нарысаў ён перапісаў. Якраз перапісаў, — пра праўкі, заўвагі, пра перапісаныя падборкі вершаў і не кажу. Стральцова расцягвалі, разбіралі, як той Акропаль турысты, сябры, знаёмыя, проста выпадкоўцы, каму хацелася быць сваім чалавекам у літпрацэсе. Праўда, адзіныя, хто, пэўна, даваў знаўцу ўсяго вытанчанага і ўзнёслага сілу і натхненне, былі дамы як з адвечным, так і з літаратурным клопатам. Цяпер, калі не стала Міхася, ці Мішы (як каму пяшчотней было называць), некаторыя калегі, каб хоць як узвысіцца ў сваіх жа вачах, пачынаюць крычаць пра сваё ледзь не мецэнацтва, падкрэсліваць любоў Стральцова і да чаркі. Гэтак жа плявузгалі і пра Караткевіча. У так званыя застойныя часіны ў застолле ішлі, як у партызаны, уцякалі ад хлусні, ад маны, ад абавязку славіць догмы, уцякалі, душу ратуючы. Было, што Стральцоў браў і лішнюю чарку, але ж ён не дапіўся ні да пасады рэдактара часопіса, сакратара Саюза пісьменнікаў, да члена ЦК КПБ — не выслужыў сабе тытулаў. Кіраўнікі Саюза пісьменнікаў, сакратары пісьменніцкай партарганізацыі абавязкова са згоды ЦК складалі спісы на выбраныя шматтомнікі і аднатомнікі, спісы, часткова прывязаныя да юбілеяў творцаў. Усім было адшчодрана па два і болей тамоў, акрамя Міхася Стральцова да ягонага пяцідзесяцігоддзя. Фармальна ўсё зацвярджалася ў Маскве, вядома, з падачы рэспублік. Не ў заслугу сабе стаўлю, але не забыўся, як давялося ехаць у СП СССР да Юрыя Верчанкі хадайнічаць за сябра. Добры па натуры чалавек, майстра кабінетна-апаратных гульняў Верчанка званіў у Камітэт па друку свайму сябру, прасіў, каб дадаткова ўключылі ў план аднатомнік Міхася Стральцова. Пачынаў з уступу, з успаміну, як ён, Верчанка, разам адпачываў з камітэцкім чыноўнікам на поўдні. Пад дазвол Стральцову ў нашым Камітэце па друку старшыня дадаў другі том Гаўрылкіну[1] па-зямляцку, па-палеску. Толькі карэктуру паспеў вычытаць Міхась свайго першага аднатомніка.

Засяроджаную роздумнасць характару Стральцова ведалі ўсе. Пад час і выкарыстоўвалі немітуслівасць і нетаропкасць задуменца ягоныя ж сябры. Ляжаў у Бараўлянах. У Маскве, здаецца, літаратурныя шанавальніцы стральцоўскага таленту парупіліся падтрымаць — прапанавалі выдаць кнігу прозы і эсэістыкі. Сябры прыходзілі наведваць. Падзяліўся Міхась прыемнай весткай. І кінуліся сябры навыперадкі заняць гэтую пазіцыю ў маскоўскім выдавецкім плане, як на вайне. Пера-

мог спрытнейшы і рухавісцейшы, бо хутка зрабіў расклейку. А Стральцоў да апошняга працаваў думкаю, багацеў душою: цікавіўся філасофскімі развагамі Розанава, перачытваў новае, паслязабароннае выданне «Столбцов» Мікалая Забалоцкага. Яму дачка прынесла паасобнік, папрасіў, каб і мне купіла, падарыў праз колькі дзён.

Сябры праяўляліся і пры апошнім развітанні. Можа, зашмат кажу пра сяброў. Але ж Міхась, думаю, і жыў сябрамі, і жыў для сяброў. Хвароба, як і смерць, былі раптоўныя. Жонка Алена Дзмітрыеўна з дачушкай Алесяй, пястункай Міхасёвай, засталіся без капейкі. І калі пачаў я збіраць нейкія грошы, адчуў цану сяброў нябожчыка. Пра актыўнага ўспаміншчыка не хачу казаць, а вось крытык і аж празаік, які прасіў Стральцова ўладзіць ягоныя «нетленки» абавязкова ў маскоўскіх выданнях, артыстычна-нарцысіста сказаў, што пры сабе мае нейкіх паўтара рубля. Прапанову прынесці грошы заўтра не пачуў. Адгукнуліся на гора Быкаў, Брыль, Адамовіч, і на радасць (хоць па смерці слова гэтае гучыць не зусім дарэчы), шмат сяброў і проста знаёмых. Гэта да памянёнага вышэй аднатомніка Алесь Адамовіч уночы пісаў прадмову, бо раніцай ляцеў у Амерыку са сваім фільмам «Ідзі і глядзі». Пахаваны Міхась Стральцоў на Чыжоўскіх могілках, тамсама, дзе ляжыць дужа малады сябра нашых маладых гадоў Сымон Блатун. І ніколі не бачыў я такіх выплаканых, да паветра, вачэй, як у жонкі Міхася Алены. І зноў непрыемна чытаць некаторыя ўспаміны, дзе кідаюцца камяні ў яе. Калі ўжо змінае чалавек, дык і жонка ягоная не такая. Народжаныя ў балоце без бузы не могуць.

Пішу пра сумнае, нават пра недарэчна-брыдкае, а пад руку штурхаюць успаміны пра вясёлыя гады, пра сумесныя падарожжы, вандроўкі. Ездзілі ў Маскву на Усесаюзную нараду маладых, на Гомельшчыну, з рэдакцыяй «Маладосці» ў шмат якія раёны Беларусі. Была і апошняя нашая паездка ў веснавую, яшчэ з плямкамі снегу, Вушачу.

А першае нашае падарожжа было ў 1957 годзе. Пра яго нагадаў мне Міхась у лісце з Палесся ад 15 лютага 1982 года, дзе, у прыватнасці, пісаў: «Чулае слова ад цябе было мне асабліва дарагім, бо нібы другі раз пасля мышанскай эпапеі (памятаеш тое лета вайсковых збораў на Мазыршчыне?) злучыла нас — праз добрае слова і шчырае сяброўскае пачуццё, — і вось я прыгадваю і патаемны наш начны паход у паляшуцкую вёску, і начоўку ў палатцы, і начную ці перадранішнюю трывогу з выпадку гэтага, і тваё дзяжурства на «Насцінай кухні», і тое, як чыталі

мы з табою Фета, абмяркоўваючы прыроду ягонага вобраза, і, і... як падумаеш, чаго толькі не пракацілася па «палянах» нашых вачэй...» Трывога тады была сапраўды вялікая, бо я вырашыў пераначаваць у палатцы, дзе халадней і паветра досыць, а не ў душнай двух’яруснай казарме, таго не ведаючы, што гэта ледзь не ўцёкі.

У Стральцова быў своеасаблівы, чыста беларускі, магілёўскі нават гумар, пераплецены з лірычнасцю, як суровая нітка з ваўнянаю. На дне вачэй ягоных сонечна пераліваліся хітрынкі, прабіваючыся праз смугу смутку і душэўнага клопату. У тым жа лісце напрыканцы далікатна-годная просьба, сяброўская просьба з лёгкім пакепліваннем з мяне і з сябе: «Да цябе просьба: памажы давесці да ладу маю кніжку ў вас і, можа, возьмешся, калі захочаш, яе рэдагаваць. Там трэба дадаць друкаваных вершаў (у мяне нічога няма пад рукой): з «ЛіМа», здаецца, можна, можна з апошняй «палымянскай» падборкі, з вершаў, якія я пераслаў на перадрук Але Іванаўне[2]. Дома ў мяне недзе ёсць недрукаваныя вершы, але дзе цяпер яны — эх, лепш не гаварыць. Але зразумей: я хачу, каб быў, аж і на мой ніякі-сякі ўзровень, больш-менш прыстойны зборнічак, — тут ужо табе як рэдактару поўная воля, бо густу твайму я давяраю цалкам. Кажу гэта таму, што мы з табой часта яшчэ гаварылі пра вершы і адзін другога разумелі. Выбірай на чатыры аркушы (не, 4,4 — для саліднасці): я не Цютчаў, а ты не празаік, як Тургенеў, хоць і ён забаўляўся ў маладосці вершыкамі, — можа, я і не акалечуся. Праўда. Памажы...» Зборнік Міхася Стральцова «Яшчэ і заўтра» выйшаў у «Бібліятэцы беларускай паэзіі».

Калі Міхась вярнуўся з Палесся, задумаў напісаць новую рэч. У часопісах анансавалася: «Конь гуляў на волі». Радок з вясёлай бяседнай песні. Бо Міхась Стральцоў любіў волю, не цярпеў ні хамута, ні цугляў, якімі яго хацеў ацішыць рэжым. У працу ўваходзіў цяжка. Ненавязліва стараўся я ўцягнуць сябра ў рабочы стан, просячы перакладаць што цікавага было ў «Братэрства». Пішу, што расцягвалі, расхаплівалі час Стральцова, а сам першы з тых злодзеяў. Колькі я натлуміў яму галаву сваімі вершамі, перакладамі, артыкуламі, просьбамі прадмоў да іншых і да сябе таксама. Наіўна лічыў, што абуджаю смак да пісання, ды цяпер здаецца, што, можа, усё наадварот выходзіла. Дый адчуваў Міхась сваё расстанне. Ездзіў дадому выбіраць бульбу, а хутчэй за ўсё паспець развітацца з бацькам.

Перад самым днём свайго пяцідзесяцігоддзя (нарадзіўся Міхась Стральцоў на Грамніцы — 14 лютага 1937 года) паехалі з тэлебачаннем у роднае гняздо. Па выгаленым лесе ехалі, як па

Марсе. І лютаўскі Сычын сустрэў Міхася неяк маўкліва. Каля хаты радні адламаў сталічны госць галоднаму сабаку кавалак хлеба, кавалачак каўбасы, напханай невядома чым, але таўстой. Гэта з сабой прывёз зямляк закусь і колькі пляшак куплёнай. Пры слабым святле сельскай электралучыны вячэралі. Былі маці, сястра, дачушка Алеся — прыехала з бацькам.

Нетутэйшы быў позірк у Міхася ў пакінутай ужо бацькавай хаце, расхрыстанай, расцягнутай, яшчэ з цэлымі шыбамі. Не нахінуўся, не ўзяў ніякай драбязінкі. Ведаў, што ўжо ніколі не адчыніць гэтыя дзверы, у якіх ужо няма замка, не сядзе за стол, што рабрыўся крыгаю ў крыгаходзе агульнага бязладдзя, безгаспадароўства. І маўклівы выйшаў з бацькоўскай хаты. Рыжая шапка. Да каўняра караткаватай паддзёўкі прышыта таксама рыжая аўчына, каб зімовай апранаха здавалася. На галаве і на плячах агонь нябыту загараўся, каб спаліць. І прысак снегу засыпаў усё, што было.

І самая апошняя сустрэча з Міхасём Лявонавічам была самай кароткай. У Бараўлянах. Цяжка было гаварыць яму, стамляўся, дагасаў. Але, самому сабе хлусячы, казаў, што з'ездзім яшчэ ў Вушачу, у «Каралішчавічы» і адразу ж паправіўся — у «Іслач». А мне і дагэтуль у натоўпе ўзнікае сябар. Забудуся. Узрушуся. Прыгледжуся — нечым падобны. Няйначай, Тварэц Усявышні ўпадабаў такі вобраз як самы дасканалы.

І раптам хлопец малады
З аблічам Міхася Стральцова,
Расчырванелы ад хады,
Узнікне,
Быццам выпадкова.

І пацяплеюць халады.
Замлеюць каташкі марцова.
Дамы́ заселяць гарады,
Як да́мы Міхася Стральцова.

Праступяць праз траву сляды.
Ад снегу абтрасецца слова.
Пайду да Міхася Стральцова
На шклянку думкі.
Як тады...

***1995***

## ЯК У П'ЯНКУ, УЦЯГВАЕШСЯ Ў ПАРЫЖ…

Парыж, як неба. Яго хапае на ўсіх. І ў кожнага яно сваё.

Парыж, як лёс. Сустрэчы з ім чакаеш усё жыццё. І тым шчаслівейшым пачуваеш сябе, калі — нарэшце! — сустрэнешся.

Парыж, як мантач. Гэтак шчодра траціць сябе, гэтак раскрадацца паломнікамі па вечную загадкавасць можа толькі ён. Сталіца летуценнікаў — тая сонечная грубка, ля якое ў суровыя зімы самоты грэецца зажураная душа ўспамінамі.

У пасляваенным маленстве грэўся я ў зімовыя вечары ля вогненнае ўсмешкі маленькай грубкі, якую з цаглін, сыраватых ад снегу і марозу, склаў ушацкі мурнік з прозвішчам Цагельнік.

Цяпер буду да схілу дзён маіх грэцца прыпамінамі ля грубкі велічынёю ў паўнеба (асабліва ў светлыя вечары), імя якой — Парыж...

У кастрычніку 1987 года ў недарагім гатэлі ў Лацінскім квартале Парыжа зазваніў тэлефон. Пачуў я голас і разгубіўся. Няўжо гэта я перамясціўся ў часе, вярнуўся ў Мінск мае маладосці? Голас той жа, крыху прыглушаны, з ледзьве ўлоўнай хрыпоткай, з мяккай картавінкай, з беларускім выгаварам, дакладней, з мінска-рускім. Гэта званіў сябра маладых гадоў, з кім было і шмат пражыта, і шмат выпіта да ўсіх потымтэйшых загадаў, з кім было лёгка пазнаваць свет, што не замінала грунтоўнасці пазнання, вандраваць, проста хадзіць, проста бачыцца. Гэта да мяне асязальна і канкрэтна зноў вяртаўся Барыс Забораў, мастак, які зрабіў цэлую рэвалюцыю ў кніжнай графіцы Беларусі ў 60-х гадах, пад час так званай хрушчоўскае адлігі, майстра, змушаны ў глухую пару брэжнеўскае палярнай начы пакінуць радзіму, бо занадта незалежны быў як асоба. Не буду пералічваць, колькі класікі беларускае, рускае, сусветнае па-новаму, часцяком нечакана «прачытаў» у графіцы і ў фарбах гэты самабытны мастак. Скажу толькі адно: узнікалі канфлікты, былыя сябры варагавалі — кожнаму літаратару хацелася-не цярпелася, каб ягоную кнігу афармляў менавіта Барыс Забораў. Нават тыя, каго ўпотайкі карабаціла імя па-бацьку — Абрамавіч. Прыклад сам напрошваецца. Быў гэтакі паэт-пафаснік, што крычаў: «Калі мяне мой вораг ненавідзіць, дык, значыць, я — сапраўдны камуніст»[1]. Гэтаму паэту, лепей бы сказаць — члену Саюза пісьменнікаў, ЦК дало дзіцячы часопіс, так бы мовіць, «вёсачку», за выжлятнасць. Барыс Забораў тады, што называецца, уваходзіў у моду. Дык пафаснік і захацеў, каб аформіў ягоны зборнік мастак з імем.

Аформіў. Спадабалася. Памкнуўся было ў рэдкалегію ўвесці, але калі даведаўся, што Барыс Забораў — Абрамавіч, тут жа змяніў свой намер. Але пра агіднае досыць прыгадваць.

Усе дыпломы, усе ўзнагароды выдавецтву за лепшыя кнігі ішлі тады, калі кніга выходзіла з рук Барыса Заборава. Стварылася ў нас нават школа пераймальнікаў, «забораўцаў». А ў шмат якіх кватэрах мінскіх сяброў і шанавальнікаў мастака і сёння вісяць карціны забораўскага пэндзля, быццам бы чакаючы вяртання дадому майстра ці хоць бы прыезду ў родны горад.

Гады маюць адну асаблівасць: яны па-свойму прыпыняюць бег часу, ствараюць уяўнасць, што нічога за доўгую ростань не змянілася. Гэтак здарылася і са мною ў тую парыжскую восень.

Перада мною стаяў Барыс, той жа, з кім расстаўся я ў Мінску. І калі сябра маладых гадоў пачаў распытваць, зноў здалося, што ён ненадоўга пакідаў свой горад. Мне асабліва прыемна было пачуць пра жаданне Барыса пахадзіць па беларускіх лясах, якія сняцца яму ў Парыжы, пра хлапечае жаданне пабыць на маёй роднай Вушаччыне. Мама мая любіла частаваць Барыса павушацку і чаркай, і скваркай, і гарэзлівым вушацкім слоўкам, свежым, што той гурочак з ляхі. Мастак сябраваў, хаўрусіў са знанымі людзьмі Вушаччыны — Петрусём Броўкам, які і паважаў майстра, і бараніў ад антысемітаў з ЦК і з іншых савецкіх установ, дапамагаў з выездамі за мяжу і ад’ездам назусім, з Васілём Быкавым. Дарэчы, калі адразу ж зайшла гаворка пра Васіля Уладзіміравіча, жонка Заборава Ірына (дачка рускага паэта Барыса Карнілава[2]) расказала, што Віктар Някрасаў[3] незадоўга да смерці выказваў сваё захапленне Васілём Быкавым і сваю радасць, што ўражанні ад прозы беларускага класіка і ад самой асобы сусветам прызнанага пісьменніка супалі. І зноў хочацца адхіліцца ад тэмы і нагадаць, як цэкоўскія цэрберы распіналі Васіля Быкава за тое, што ў сваім выступленні на канферэнцыі «Подзвіг народа неўміручы», арганізаванай самім першым сакратаром ЦК на пачатку 70-х гадоў, назваў у шэрагу выдатных летапісцаў вайны Віктара Някрасава ў ліку першых. А Віктар Някрасаў ужо быў за мяжой.

Мне здалося, што ў Парыжы Барыс пачаў болей і глыбей цікавіцца літаратурным жыццём Беларусі, праблемамі беларушчыны. Зноў рупіць адхіліцца. У 1984 годзе ў Нью-Ёрку ў беларускай прэсе было добра прачытаць успаміны Барыса Заборава, як ён афармляў творы Янкі Купалы. Пад час нашае парыжскае сустрэчы Барыс расказваў і пра тое, што сябруе з ай-

цом Надсанам. У Парыжы Барыс у курсе ўсіх навінак, выпісвае «Літаратуру і мастацтва», бо газета стала і вострай, і цікавай. І, як гэта ні дзіўна, пачаў лепей гаварыць па-беларуску. Гэта невынішчальная асаблівасць беларусаў і выхадцаў з Беларусі — за межамі краю, на чужыне, пачынаюць любіць, паважаць, помніць усё беларускае.

Прыгадалі мы з Барысам і паездку ў Піцер у канцы 60-х. Гэта было маё знаёмства з багемай, калі можна гэтак яе назваць, горада, у нядаўнім мінулым заканадаўцы мод у мастацтве, які паступова, але запланавана няўхільна падпадаў пад жорсткую руку афіцыйнай сталіцы савецкай імперыі, якая да хваравітасці раўніва ставілася да славы Пецярбурга. Чамусьці запомніліся з тае паездкі забораўскія ірховыя чаравікі, якім ён даў добрага чосу, намоклыя ў разводдзе. На «пирушке холостой» у аднаго мастака на парцаляне XVII стагоддзя аднекуль са Скандынавіі ляжаў селядзец і некалькі бульбін «у панчошках». Начавалі ў інтэрнаце Акадэміі мастацтва. З Піцера паехалі ў Маскву да Ігара Бліёха, мастака, сябра Заборава, які разам з Барысам аб’ехаў амаль усю Беларусь. Асабліва помніў Ігар міцкевічаўскую Свіцязь. Гэта нас з Ігарам тады паслалі па віно на апошнія грошы, якія яшчэ знайшліся ў мастака Юзафа Пучынскага. Гэтак нам зрабілася вясёла па дарозе з сельскай крамы, што дзве бутэлькі паўнюткія кінулі мы ў славутае возера, каб некалі нашчадкі знайшлі. Вядома, адзінадушнай ухвалы, як на партыйным сходзе, мы не атрымалі. Суровую вымову атрымалі ад сяброў, у якіх галовы гулі, як надтрэснутыя званы. З вакзала ў Маскве да Бліёха трэба было ехаць у метро. У нас з Барысам засталося грошай, лепей бы сказаць па-ўшацку — пабразгачаў на адзін уваход у падземку. Тады і напісаў я экспромт:

Он устал от женщин и соборов,
Петербург растаял в синеве.
Без гроша сидит Борис Заборов
С маленьким Шагалом в голове.

Нагадаў Барысу гэтыя радкі. Пасмяяліся, пасумавалі. Дакляраваў я Барысу, калі здарыцца яму быць на Беларусі, звазіць на Вушаччыну, каб зноў пачуў ён голас нашых лясоў, якія яшчэ дзе-нідзе ацалелі ад прагрэсу, зноў убачыў азёры мае радзімы, а іх у нас — усе 250 і яшчэ адно.

Там, у роднай хаце, мама мая некалі сустракала Васіля Быкава, ён з родных Бычкоў прыехаў у Вушачу. А мы з Барысам Заборавым, з балгарскім пісьменнікам Георгіем Вылчавым і

перакладчыкам балгарскай літаратуры Ванкарэмам Нікіфаравічам ехалі ў Полацк. Зноў адхілюся. Гэта Ванкарэм недзе ў 50-х гадах завёў маленькага Бору Заборава (сам фактычна аднагодак) у Мінскі палац піянераў да педагога і мастака Сергея Каткова[4]. Там жа займаліся і пазнейшыя сябры Барыса Анатоль Анікейчык, Май Данцыг[5]. Гэта Анікейчык паехаў на вакзал праводзіць у эміграцыю мастака Барыса Заборава як сябар. Хоць партыйная арганізацыя падобныя дзеянні не ўхваляла.

А тады ў мамінай хаце, як французскае сухое віно, была добра вытрыманая да прыезду гасцей маміна бражка. І гэта прыгадаў Барыс, паказваючы мне Парыж, што са звечарэлага пераходзіў у начны. Як сапраўдны аўтаас кіраваў мінскі парыжанін Барыс Забораў сваёй яшчэ навюткай «Volvo».

І цяжка было прыпаркаваць машыну на манмартраўскіх схілах. Барыс заказаў у мастака (іх тут было як грыбоў) маіх два выразаныя чорныя профілі. Нібыта з цемрыва багемна-паломніцкае начы выразаныя.

І па-велікоднаму ўзрушана было ў праваслаўным храме. Адсюль, з Манмартра, Парыж зіхацеў агнямі, нібыта ювелір-злотнік з далані на даланю перасыпаў халоднае полымя дыяментаў.

І ў Лацінскім квартале хадою грыбніка, што шукае неруш, ішоў Барыс прысмеркавы, як сам Парыж. Падтаквалі далёкім думкам нашым абцасікі Ірыны...

...Ішоў час. Парыж, абжыты сябрам маладых гадоў, не забываўся, як першая радасць, як першая зайздрасць, як першы смутак. У мяне выйшаў зборнік «Самота паломніцтва», дзе па-хатняму, як здавалася мне, адчувала сябе і парыжская нізка. Вядома ж, прысвяціў я верш Барысу Забораву. І калі летам 1990 года мастак Алег Сурскі[6] ехаў у Парыж і да Заборава, і з нейкім творчым клопатам, я перадаў свой зборнік, падпісаўшы яго па даўняе традыцыі экспромтам:

Барыс, бяры ж
Парыж
Смялей
У дужыя абдоймы.
П'ючы барыш,
І сам хмялей,
А парыжанак плоймы
Няхай плывуць у нераты,
Якія ўмееш ставіц
Ты!

І ў адказ з Парыжа атрымаў я ад Барыса шыкоўна і з густам выдадзеныя альбомы. Самы паважны з уступнымі артыкуламі вядомых мастацтвазнаўцаў, са словам самога Барыса Заборава па-англійску, па-нямецку, па-японску. Гэта азначае, што выстава майстра была і ў Японіі.

Альбом адкрываецца фотапартрэтам Барыса Заборава. У майстэрні. Перад сваёй чарговай працай. На імгненне задумаўся. Нешта ўзважвае. А можа, успамінае Беларусь? І спеўны почырк мастака: «Дорогой Гриша, есть в этом альбоме (для меня, безусловно) и то, что навеяно далекими запахами твоей Ушацкой «матчынай хаты». Дружески твой Борис Заборов. Париж, 20.10.90 г.».

Яшчэ ў адным альбоме Барыс зноў падкрэслівае: «...все картинки в этом альбоме «продукт» моего смутного воображения и далекой памяти, в которых ты и твоя матчына хата имеют особое место...»

Чытаю дарагія сэрцу словы, а сам прыгадваю фотаздымак, зроблены Ванкарэмам Нікіфаровічам у Вушачы. Бацькаў вяз ужо тады паважны ўзростам, а пад ім мая мама трымае на руках маленькую ўнучку Ілонку, і з ёй усе госці жаданыя — Васіль Быкаў, Барыс Забораў, Георгій Вылчаў. Барыс мне неяк казаў, што ў яго ёсць фотаздымак гэты ў Парыжы.

Цытую надпісы, прыгадваю паасобныя эпізоды не на тое, каб пагрэцца ў прамянях еўрапейскае, а фактычна сусветнае славы мастака. Хачу яшчэ і яшчэ раз падкрэсліць, што вытокі збораўскае творчасці ў першую чаргу ў Беларусі.

Вачыма ўраджэнца Беларусі бачыць мастак свет. Да беларускіх тэм і сюжэтаў зноў і зноў вяртаецца Забораў. Бо сапраўды «вялікае здалёк выяўней стане». Француза і немца, амерыканца і японца нязмушана і пашанліва прымушае мастак угледзецца ў беларускі краявід, у беларускі антураж, у душу беларускую. Ажываюць, праяўляючыся праз туман часу, абліччы, нагадваюць пра сябе, адыходзячы ў нябыт забыцця, хаціны і маёнткі, у парыжскіх салонах упэўнена пачуваюцца і сялянскія хлапчукі, і скасабочаныя ёўні, і цяжкі на азадак яўна не калгасны конь. Ідэальнае з рэалістычным, фатаграфічна-дакладнае з выдумкай, уявай — усё пераблыталася, перамежавалася на палотнах мастака, зрабілася ягонаю манерай, ягоным почыркам, стала майстэрствам Барыса Заборава.

У сапраўднага мастака неспатолены голад на маленства, як звычайна. Забораў сам пацвярджае гэта: «Мяне не паспела

стаміць маленства. Яно абарвалася хутка, раптам. Мне было 6 гадоў, калі пачалася вайна».

Маленства, няхай абарванае, няхай абрабаванае, няхай забранае, вызначае ў бальшыні сваёй і манеру, і кола тэм, неба вобразаў мастака. Вучоба, нейкім чынам перайманне, нават светапогляд — гэта толькі ўдасканаленне ці магчымае забыццё ўражанняў маленства. У пацверджанне думкі дамо слова Барысу Забораву: «У першы ж год пасля заканчэння вайны нашая сям'я вярнулася ў Мінск. Горада практычна не існавала. Уся прастрань, якую ахопліваў позірк, уяўляла сабою ірэальную карціну. Руіны, гарэлішчы і самотныя фігуры, што блукаюць па іх. У прысмерках горад рабіўся трывожным і загадкавым. Мроіўся дагістарычны краявід, дзе сілуэты развалін на фоне вечаровага неба набывалі малюнак фантастычных жывёлін...»

Мастака робіць маленства. А можа, няхватка, недастача, незавершанасць маленства. Заўчаснае сталенне, ранняя дарослясць.

Трывога рухае чалавекам. Трывога прыспешвае думку мастака, робіць позірк відушчым. Асабліва калі трывога гэтая ідзе з прапамяці народа, якога трывога і бараніла, і трымала, ратавала і захоўвала. Пацверджаннем дазволю сабе яшчэ цытату: «Колькі мусіла адбыцца падчас дзіўных і нечаканых, ды ўрэшце шчаслівых — жыццёвых перакрыжаванняў, каб выжыць. Загінуць было лягчэй. Гэта магло здарыцца ў нацысцкім канцлагеры, дзе загінула ўся сям'я маёй маці. Гэта магло здарыцца пад кулямі нямецкага «месершміта», які на брыючым палёце расстрэльваў адкрытую платформу таварнага цягніка, перапоўненую бежанцамі. Гэта здавалася непазбежным, калі ціхаходны газік, у якім былі мама з сястрой, мой малодшы брат, я і архіў якогасьці абласнога ваенкамата, сустрэўся на прасёлачнай дарозе з нямецкім танкам. І пазней — яшчэ шмат разоў, ад хвароб, голаду... Гэты час зафіксаваўся ў маёй памяці трывогай, чаканнем небяспекі і ўвесьчаснай дзейнасцю. Відаць, гэта так глыбока ўкаранілася ў свядомасці, што стала маім бесперапынным адчуваннем жыцця».

Альбомы з рэпрадукцыямі карцін мастака — гэта тыя ж пераклады вершаў. Хіба што бліжэй трымаюцца да арыгінала. Безумоўна, арыгінал заўсёды мае болей паветра, болей пачуцця, болей непасрэднасці. У мастацтве шмат значыць сам творца. І хочацца, калі гэта магчыма, бачыць яго, чуць, разумець. З сумам думаў, што толькі альбомы будуць мне нагадваць мастака, гаварыць за яго.

Але самы геніяльны акцёр — гэта лёс. Ён хутчэй за ўсё — мім. І асабліва ўсцешна ўбачыць ягоную ўсмешку. І ўсміхнуўся мне лёс зноў у Парыжы ў канцы красавіка 1991 года.

На вуліцах па-веснавому свежа-маразяна і смагавіта. Смог і смага ад хвалявання і ўзрушэння змяшаліся разам. Адкрытыя вулічныя латкі ломяцца ад самай экзатычнай і мясцовай садавіны і гародніны, быццам у спелую восень на карцінах старых мастакоў. У абавязкова доўгіх, шыкоўна-пазорыстых шаліках паджарыя французы і ветраногія, маладзічкова каленькавыя француажанкі прагульваюць сваіх чацвераногіх пестуноў, а заадно і сябе. Халаднавата, бо ранні, цьмянавата, бо гарадскі ў нейкім сотым калене, цвіце бэз. У асабняках у самым цэнтры горада, як у вушацкім алешніку, па-французску грасіруе салавей. У вечаровых прысмерках зіхціць сваёй бальнай сукняй Манпарнаская вежа. Парыж — гэта тая залатая кропка, якую паставіў Усявышні, завяршыўшы свой клопат зямны.

Са свайго сціплага гатэля на Распай званю Барысу... І зноў пачуў голас з маладосці, і зноў не паверыў, што час бяжыць, не чакаючы нас.

Ростань і замяжа маюць нейкую невытлумачальную сілу, нейкую асаблівую асаблівасць. Нейкую абавязковую таямнічасць, таемнасць, патайнасць. Сябры, якіх ты дома ўспрымаў як звычайнасць, тут, за мяжою ростані, за мяжою незаўважна калі мінулага часу, нібыта ўсплываюць з туману, са сну, з ірэальнасці. Яны як бы за вітрынай, што аддзяляе іх ад мінулага.

Прыехаў Барыс. Павёў мяне ў рэстаран «Гіпапатам». Падалі натуральнае мяса, сакавітае, як рускі мат (па словах аднаго польскага драматурга). У мясе тырчыць пластмасавая фігурка гіпапатама. Сядзім як белыя людзі. Нават на момант забыўся, адкуль я, забыўся, што на мне невыводнае кляймо: «Зроблены ў СССР — рамонту не падлягае». Барыс клапатлівы, уважлівы, але ўвесь час, гэта адчуваецца, напружана-засяроджаны, заняты і творчымі думкамі, і жыццёвымі праблемамі. Расказвае, як адзін з пабornікаў усяго беларускага ў Беларусі пасля колькіх фраз перайшоў на рускую мову. Барыс карэктна заўважыў, што ён з маленства ведае і не забыўся мову беларускага народа. У «Гіпапатаме» Барыс, між іншым, успомніў нашыя мінскія застоллі і чамусьці, як прыйшоў я аднойчы з паўнюткай авоськай паўлітровак, вядома ж, паўнюткіх.

Ідзём у Люксембургскі сад. Цвіце гліцынія, каштаны цвітуць. Аж не верыцца, што людзі могуць спакойна адпачываць, а не душыцца ў чэргах. Бо ў нас і нарадзіцца, і ад'ехаць на могільнік

займаюць чаргу. Барыс апрануты не пулята, з вялікім густам, элегантна і ў той жа час у меру неахайна. Як мастак, каго меней за ўсё хвалюе вонкавы антураж. Ён мае радасць, што можа працаваць на сябе, пісаць, што хоча. А ў нас яму давялося б толькі тое і рабіць, што змагацца з ветракамі дзяржаўна-партыйных установ ды рознымі акадэмікамі ад мастацтва, якія ў юбілеі першасакратароў ЦК падносілі ім іхнія партрэты ў стылі «Утро нашей родины» ды выдумлялі сабе геаічна-пакутніцкія біяграфіі.

У эсэ Забораў пісаў: «У канцы 1961 года [пасля вучобы ў Санкт-Пецярбургу і Маскве.— *Р. Б.]* я вярнуўся ў свой горад Мінск і адразу атрымаў некалькі прапаноў ад выдавецтваў праілюстраваць, не памятаю ўжо якую, літаратуру. Я не мог тады падазраваць, што гэта пачатак шляху, які пад канец 70-х гадоў прывядзе мяне да рашэння пакінуць сваю краіну.

Я жыў у краіне ўзорнага таталітарнага рэжыму, для якога ягоная заганная ідэалогія была ўмоваю існавання. Яна пранізвала ўсё жыццё, і мастацтва — у першую чаргу. Кніжная графіка заставалася адносна «бяспечнаю зонай», якая хавалася ў цені літаратурнага тэксту. Мая жыццёвая стратэгія была яснаю — стаць мастаком, пісаць карціны. Жывапіс даваў задавальненне, але не прыносіў грошай. Кніжная графіка карміла, ды па часе рабілася ўсё болей ненавіснай. Усе мае спробы раздвоіць сябе былі марныя. Нарастаў адчай, узлаванасць і, нарэшце, трывога беззваротна згубіць самога сябе. Усведамленне таго, што кожныя пражытыя ў гэтым стане гадзіна, дзень, год безнадзейна змяншаюць шанец свайго адраджэння, было пакутлівае. Як рассекчы гэты гордзіеў вузел? Гэтак у маі 1981 года апынуўся я на пероне Паўночнага вакзала ў Парыжы...»

А тады, калі шырока прызнаны мастак Барыс Забораў быў у зеніце славы, калі ягоны дотык даваў кнізе зялёную вуліцу да самага прыдзірлівага кнігара, здавалася, што лепшага і жадаць яму не трэба. Неспазнаны ён, космас душы мастака.

І мастак — самотнік. Бо ён асоба. Бо ён сабою не множыць натоўп, не дапаўняе безаблічнасць масы. Чытаю эсэ, адначасна чуючы голас Барыса: «Я прыехаў з лютасным жаданнем пачаць сваё жыццё занава, з нуля. Гэты горад рамантычных мрояў фактычна быў для мяне пустэльняю. Узіраючыся ў мірыяды святланосных вокнаў вечаровага Парыжа, я перажываў пачуцці мазахісцкай уласцівасці. Ні ў водным з іх ніхто пра мяне не думаў і нават не ўяўляў пра маё існаванне. Я быў па-сапраўднаму самотны. З гэтым, новым для мяне, светам не было ў мяне

ніводнае ніці сувязі. Апроч тае таямнічай, якою кожны чалавек прымацоўваецца да ўсяго чалавецтва».

І таямнічая ніць, якая ў большыні выпадкаў не дае загінуць таленту, вывела мастака на спачуванне і падтрымку. Чытаю далей: «Сямю месяцамі пазней адбылося маё знаёмства з галерэяй Клода Бернара, якое і вызначыла маю парыжскую біяграфію. У 1983-м у гэтай галерэі адбылася мая першая персанальная выстава, і я атрымаў прыз горада Дармштата ў Германіі. Потым музей гэтага горада арганізаваў выставу практычна ўсіх маіх прац за гэтыя пяць гадоў у Парыжы...»

Цяпер мастак сам сабе пан, сам сабе гаспадар. Кантракта з Бернарам болей не існуе. Японскі галерэйшчык заключыў з Заборавым пагадненне на права першага прагляду і выбару, што ён хоча купіць. У маі 1993 г. мусяць адбыцца адразу дзве выставы побач. Прычым адна з чырвонымі паметкамі пад карцінамі, што азначае — карціны прададзеныя. Гэтага гонару ўдастойваецца не кожны даўно заўважаны славай парыжскі мастак. Гэта падымае вагу імя, прыкоўвае ўвагу. (У Маскве мастакі-прыкрамлёўнікі прыкоўвалі ўвагу да сваіх высокапафасных прасцірадлаў тым, што дабіваліся, каб іхнюю выставу асвятліў сваім наведваннем Генеральны сакратар.)

Барыс добра інфармаваны пра ўсе падзеі ў былым Саюзе і ў Беларусі, хоць і падкрэслівае, што палітыка яго не цікавіць.

Дарэчы, пра камуністаў. Барыс глядзеў фільм, дзе паказана, як рэптыліі ў чалавечым абліччы беспамылкова пазнаюць адна адную на любой адлегласці. Гэтак і камуністы. На мой наіўны намёк, што французскія камуністы, напэўна, лепшыя за нашых, бо свой жа народ не вынішчалі, Барыс толькі сумна ўсміхнуўся. У французскіх, удакладніў ён, адно правоў ды магчымасцяў меней. У іх у чарговы раз упаў аўтарытэт у народзе з прычыны іхняе пазіцыі пад час вайны ў Персідскім заліве.

Дома Забораў любіў рыбачыць з Ігарам Шклярэўскім на Поўначы. Тут збіраецца на рыбу на Аляску з праўнукам Міхаіла Чэхава[7], таксама Антонам Чэхавым, які ведае толькі некалькі слоў па-руску і саромеецца гэтага. Ірына Заборава давала праўнуку Чэхава ўрокі рускае мовы. Калі-небудзь і дзецям шмат якіх беларускіх пісьменнікаў таксама, можа здарыцца, будуць даваць урокі беларускае мовы. А некалі жонка кіраўніка рэспублікі[8] давала ўрокі беларускае мовы расійскаму паэту Уладзіміру Маякоўскаму. Ірына неяк распавядала, што на першых часінах арыентавалася ў Парыжы па вершах Маякоўскага. Па вершах нашых паэтаў у Мінску не зарыентуешся, хіба заблудзіш.

Развіталіся з умоваю яшчэ сустрэцца. І раптам у гатэль званок. Барыс не мог супакоіцца, паглядзеўшы японскі фільм пра чарнобыльскую трагедыю ў Беларусі.

...Барталамееўка. Жыта сцяною. Жанчыны пяюць жніўныя песні. А жыта нельга жаць, нельга сеяць ні ў налецце, ні праз век.

Японцы маюць неабходнасць і жаданне праўдзіва паказаць бяду беларускую, а ва ўладатрымцаў у Беларусі такога жадання пакуль не прадбачыцца. Японцы і фільм пра Шагала, пра Віцебск зрабілі, а нашыя драмгурткоўскія драматургі, племянныя камсамольцы, кіруючы культурай цэкоўскімі лейцамі, толькі тое і рабілі, што нават у Беларускай энцыклапедыі падганялі творчасць вялікага майстра пад камуністычны шаблон, вылівалі цэбры памыяў на панавітую сівізну самага дзівоснага па здольнасці здзіўляцца мастака.

Мастаком трэба нарадзіцца. Нельга навучыцца на мастака, можна навучыцца на рамесніка ад мастацтва. Якраз мастаком і нарадзіўся Забораў, пра гэта і сам кажа: «Праблема выбару прафесіі мне не была знаёмая. З тых часін, як памятаю сябе, — малюю... Нішто не арыентуе мяне гэтак дакладна ў часе і адчуваннях, як пахі: пах алейнае фарбы ды льнянога палатна — гэта мой бацька. Гэты пах хвалюе і трывожыць мяне ўсё жыццё, выклікаючы выраі ўспамінаў. Бацьку абавязаны я ўсім, што маю ў сабе добрага, і тым, што стаў мастаком».

І вось я ў скініі ў дарагога маім успамінам мастака, у填 забораўскай майстэрні. (Тут майстэрню завуць атэлье.) У самім Парыжы маленькая, так бы мовіць, сенажатка, міні-лугавінка. Барыс корміць вераб’я. У яго іх цэлая чародка. Паехаць у Парыж, каб спакойна карміць вераб’я і стаць прызнаным майстрам, бадай што варта!

Сустракае гаспадыня. Гэта пра яе пісаў Барыс: «Па даўняе традыцыі Акадэміі мастацтваў пасля сканчэння другога года навучання студэнты праводзяць летнюю практыку ў Крыме. Лічылася, што пасля паўночнага цяжкога і нізкага неба над Васільеўскім востравам будучым мастакам карысна падсвяжыць палітру пад паўднёвым сонцам. Меней за ўсё гэтыя крымскія канікулы мелі адносіны да маёй палітры, але жыццё маё перамянілі фатальна. Аднойчы раніцай на сцяжынцы, што вяла да мора, я сустрэў дзяўчыну — прыгожую, тонкую, бронзавую. З тае пары і да сёння разам. Калі б у тыя часіны які-небудзь прарок сказаў, што я пакіну па сваёй волі Пецярбург, акадэмію, — я

палічыў бы яго за вар'ята. Ды адбылося якраз так. Дзяўчына вучылася ў Маскве. Восенню таго ж года стаў я студэнтам Маскоўскага мастацкага інстытута імя Сурыкава, які і скончыў у 1961 годзе».

Дык гаспадыняю сустракала дзяўчына са сцяжынкі да мора, як ужо казалася, дачка апантанага рускага паэта Барыса Карнілава. Гэта карнілаўскія радкі любілі мы, маладыя паэты, паўтараць:

Айда, голубарь, пошевеливай, трогай,
Бродяга — мой конь вороной!
Все люди — как люди, поедут дорогой,
А мы пронесём стороной.

Малады Пятрусь Броўка добра памятаў Барыса Карнілава, разам былі ў творчае камандзіроўцы ў Гомелі. І, калі Ірына звярталася да Броўкі з якім-небудзь пытаннем, ахвотна дапамагаў дачцэ паэта.

Дзесьці ў сярэдзіне 60-х гадоў купіў я паэму Карнілава «Моя Африка», партрэт паэта працяў мяне сваім падабенствам з дачкой. Ірына, як, бывала, казалі вушацкія, і падабенькі падабрала. Пад добрай чаркай прыйшоў я да Заборавых на іхнюю кааператыўную кватэру непадалёк ад кінастудыі «Беларусьфільм» і, звяраючы партрэт з жывым паўторам, яшчэ мацней п'янеў. Дасюль, калі ўспамінаю Ірыну, успамінаю малады мароз і малады хмель. І той і другі былі неслабыя!

Гляджу на Ірыну, і здаецца, што мінула некалькі дзён. Яна ўсё тая ж. Ці, можа, гэта асаблівасць зроку з гадамі крышачку вечарэць, каб у прысмерках усё паўставала ў ранейшых фарбах і абрысах.

Хоць гэта можа здацца не зусім сціплым выказам сваіх эмоцый, але хачу даць слова свайму вершу, прысвечанаму «скініі» Барыса.

### У МАЙСТЭРНІ Ў БАРЫСА ЗАБОРАВА

Слівіна з выбалелымі бакамі
Адцвіла. Зацвітае каштан.
Пранырлівы, як сам шайтан,
Верабей у мураве зялёнае
Нешта шукае.

Маэстра з чорнай яшчэ барадою
Вераб'я па-гаспадарску пасе,
Як пад Мінскам бычка-трацячка па расе
Разам з бадліваю чарадою.

Пыл вясковых дарог
Успамінае мінчук карэнны.
Ірына ў гарачую бульбу
Кладзе па-ўшацку кроп.
Мастака з Амерык, Азій, Еўроп
У Беларусь скіроўваюць гены.

Забыўся мой гатэль на Распаі.
Як некалі ў мамы маёй, гасцюем, сябры.
Дыміцца бульба ў парыжскім двары.
Быкава адно не хапае.

Барыс у марах не ў ба́рах —
У барах зялёных,
Якія забрала чарнобыльская чума.
Карцін у майстэрні амаль няма —
Яны ў дарозе, яны ў салонах.

Забораўскі конь не чуе сутрыму...
Дзядзінцы крывіцкія праступаюць з імжы...
Мастак у Парыжы,
І з-за мяжы
Слава вяртаецца на радзіму.

Ірына казала, што і лёс наш, і ўсе звычкі нашыя носім мы з сабою, а таму, дзе б мы ні былі, мы гэтакія, як ёсць. Яшчэ падкрэслівала (Ірына Заборава член рэдкалегіі «Русской мысли», яе штатны супрацоўнік), што ў Еўропе гады, узрост не маюць вялікага значэння.

Сядзелі з Барысам і ў самае прэстыжнае кавярні, куды ў начны час цяжка трапіць, як у нас ва ўсе кавярні і рэстараны, калі ты не кааператар, рэкецір ці дама начное прафесіі. Усе столікі ў памятных таблічках, якія пацвярджаюць даставернасць таго, што тут сядзелі знакамітыя людзі. Сярод іх і Ленін, што ў Парыжы думаў, як давесці да ручкі адну шасціну зямнога шара, і любімы павальна ўсімі ў 60-я гады Хемінгуэй.

Барыс казаў, што Парыж — самы бязлітасны горад, які прызнае толькі натуральны адбор, у тым ліку і талентаў.

І быў наш апошні парыжскі вечар. Барыс заехаўся па мяне з Ірынай і сынам Кірылам. Кірыл, як малады Забораў Барыс, толькі болей рослы і мацнейшы целаскладам. 21 год. Хочацца быць дарослым. Дужа. Адсюль вуглаватасць. 10 гадоў, як у Парыжы. Зусім француз. Крывіцца, калі маці не зусім правільна чытае па-французску меню ў кітайскім рэстаране. Захапляецца джазам, хоча быць прафесійным джазістам, піша музыку. Раней маляваў, кінуў. Кірылу рупіць у Мінск да аднагодкаў. Як Ірына казала пра сына, ён характарам увесь у бацьку — быць толькі самым, толькі першым. Гэтыя рысы характару мусяць дапамагчы яму выжыць у свеце, дзе не водзяць за ручку.

Барыс неяк прызнаваўся, што пабойваецца ехаць у Беларусь: тое, што жыве ў душы, што жывіць памяць, можа імгненна памерці (эфект ускрытай муміі), яго можа ўжо не быць, не існаваць, таго паветра, тых пахаў. А мастака праследуе пах цёплага пылу на летніх вясковых вуліцах. Між іншым, прыйшло мне на памяць, як баяўся Шагал сустрэчы з родным Віцебскам, бо ён жа пранёс свой Віцебск праз усё жыццё. Ягоны, шагалаўскі, Віцебск застаўся жыць на палотнах.

У Заборава свая Беларусь. Ён баіцца яе страціць, убачыўшы не такой, якая жыве ў ім. Можа, яшчэ прымешваецца боязь выйсці з паўсядзённага творчага рэжыму, бо на першых паравінах мастак працаваў да дваццаці гадзін у суткі.

І ў дзень нашае апошняе сустрэчы пахла маладою парыжскай вясной. Паўсюль прадавалі канваліі. Каштанавыя скроні Люксембургскага саду пабялелі ці, можа, цёпла пасняжэлі. У магазінах, як у нас бульба, толькі ў каляровых капронавых сетках, ляжаць дровы. Настолькі ашчадна акуратныя, ажно і паліць іх шкада. Адчуваю, што рука б не паднялася кідаць у агонь. Дарагая такі вячэра ў камінаў.

На тратуарах упокат ляжаць клашары ў вяльможных позах. Цягнуць проста з горла сапраўднае французскае віно. (Гэта ў нас пра гегемонаў хадзіў жарт: «Бач, Вася, за рубель дзве, а п’ецца, як за рубель сем».) На адным занадта ж дарагая па нашых мерках дублёнка. Клашары — гэта людзі, якія пакінулі фамільныя замкі і вілы і абралі вольны чын жыцця. Яны пачцівыя, ненахабныя. Калі іншы раз і папросяць, дык з пачуццём уласнае годнасці, з панавітымі манерамі. Гэтак мне патлумачыў Барыс.

На рагу вуліцы катрынка. Здаецца, што і не скранулася з месца з мінулых стагоддзяў. Кот і сабака на роўных — на павадках. Катрыншчык круціць катрынку, ці ручны млынок, каб змалоць зярняты кавы на кубачак вясёлага настрою. Мім, нібы акцёр,

што ажыў з нямога кіно. Катрынка пастаўлена на дзіцячую калясачку, на вазок з гумовымі коламі. У нас у раёнах бабулі і дзядулі, выгадаваўшы гарадскіх унукаў, на такіх вазках возяць на імправізаваны, звычайна каля аўтобуснае ці чыгуначнае станцыі, базар яблыкі, моркву, агуркі, вішні.

І сёння мне гучыць катрынка. Вярэдзіць сум і леціць радасць.

Барыса (часцяком казаў мастак пра гэта) разам з пахам пылу на летніх беларускіх вясковых вуліцах хвалюе і паўночны беларускі пейзаж. (Мне па-асабліваму чулася прызнанне сябра, бо радзіма мая — якраз паўночная Беларусь.) І калі ў Англіі нешта падобнае (без сілуэтаў прамысловасці і горада) убачыць, зашчыміць сэрца. Нават рускі лясны пейзаж не дзейнічае на мастака так, як родны, беларускі.

Слухаў я Барыса Заборава і міжволі думаў, колькі паразгублялі мы талентаў, аддалі іншым народам, іншым культурам. Ці гэта чэрствасць, ці няўменне ацаніць дадзеную нам Богам набыць? Шчодрасцю гэта ніяк нельга назваць. Няўжо Беларусь толькі і будзе рабіць, што раскідваць скарбы свае і карміць выхадцаў сваіх настальгіяй?

Чытаю заключныя словы эсэ Барыса Заборава, а мне гучыць ягоны голас: «Ужо даўно Парыж перастаў быць для мяне пустэльняю. Кожны дзень набліжаў мяне да тых рамантычных карцін, якія маляваў я ў маладосці...»

Дзве сустрэчы ў Парыжы. Хай Бог дасць, каб трэцяя была ў Вушачы. Пыл на летніх вясковых вуліцах там пакуль яшчэ не радыеактыўны...

*1995*

## ІСНАСЦЬ

*Да абрысаў беларускай душы*

Існасць, менталітэт, душа народа. Паняцці, адцягненыя сваім сэнсам высока і далёка, як зоркі ў нябёсах, і доле, і пад рукою, як апалы яблык, што ў сузор'і да сябе ж падобных на яблыні паўтараў асязальныя зоры.

Душа сама па сабе — касмічная цыганка, вандроўніца, яна вечная, яна — нязменная. Яна селіцца, тайбуецца ў целе людскім часова, так бы мовіць, кватаранткаю. Але і кватарант пераймае нешта ад гаспадара, вандроўнік ад мясціны перадыху, цыганка ад тых, каму яна варожыць.

Душа народа, нацыі гэтаксама, як і душа кожнае паасобіны, звыкае да месцейка свайго, кіруючы думкамі і подумкамі народа, сама робіцца ў нечым падобнаю да яго, у нейкае ступені паддаецца наваколлю, асяродку, калі хочаце, нават паветру. Падпадае пад уплыў.

Біяграфічныя звесткі душы народнае ў казках і ў песнях, у прыказках і прымаўках, у абрадах, у календары народным, у захаваным паганстве, дакладней, у жывучых рэштках ягоных. І чым болей захавалася ў побыце і ў поглядзе на свет паганства, тым болей першародная душа народа, тым болей бліжэйшая яна да першакрыніц міфатворства.

Душа — валадарка над чалавекам. І чалавек, ведаючы гэта, спрабуе ўсё ж слаба пярэчыць ёй, нечым неяк стрымаць душу, бо нездарма кажацца: «Дай душы волю — завядзе ў няволю». І разам з тым: «Мая душка — не перабірушка», «Душа меру ведае». Пра лядашчага чалавека, у якім ледзь ліпіць душа ў целе, нязлосна пакепліваюць: «Толькі дух ды пятух». Бо дух, дыхаць, тхнуць, тхло, натхненне, задуха, задушыць, душа — словы аднаго кораня.

Беларус імкнуўся адухавіць наваколле нерукатворнае і рукатворнае, прыпадобніць нават побытавасць да сябе. У сваёй карміцельцы печы бачыць ён і чалеснік (сваё чало), і паднябенне (тут і паднебнае, паднябеснае ўяўленне, і паднябенне ў роце). У хаты таксама свой лоб — залобак (пазней ён аб’еўрапеіўся на франтон).

Душа мае часовую апратку. У беларуса, у прыватнасці, як носьбіта душы, апратка свая. Яна яшчэ з часін Бібліі — лён ды кужаль. (І, як выявіла чарнобыльская катастрофа, лён найлепей бароніць ад радыяцыі, бо з даўніны ад празмернае ласкі космасу, ад прамянёў ягоных засланяў.) І невыпадкова на льняной кашулі расцвіў васілёк — сіняя зорка, сястра нябесных зорак. Беларус душой праз вякі адчувае сваю еднасць з космасам.

Адна з легендаў — адкуль пайшлі беларусы — па-свойму перагукваецца з Бібліяй, усё ж натурай сваёй паганская. Я дазволіў сабе вольнасць крыху падрыфмаваць, падрытмізаваць легенду.

Калісьці, яшчэ на пачатку свету, нічога нідзе
не было і следу. Панавала жуда.
Усюды стаяла мёртвая вада.
А пасярод вады тырчэў нібыта камень, ні шэры
і ні руды.

Разыграўся неяк пярун угары, і пасыпаліся
ў камень стрэлы буйносці ягонае.
Ад стрэлаў выскачылі яскаркі тры: белая,
жоўтая і чырвоная.
Упалі яскаркі на ваду, і скаламуцілася вада
ва ўсім абшары, і свет, здавалася,
на бяду памуціўся, што тыя хмары.
А як усё высветлілася, дык і адзначылася пасля —
дзе вада, дзе зямля.
А яшчэ на нейкім часе ўсё ўляглося, і жыццё
ўсякае засмяялася і заплакала —
і ў вадзе, і на зямлі завялося.
І лясы, і травы, і звяры, і рыбы,
а пасля і чалавек завёўся score няхібы:
ці ён прыйшоў адкуль, ці вырас тут, —
Не адказвае цуд.
Па нейкім часе гэты жыхар, на выдумкі падкі,
стаў заводзіць людскія парадкі.
Ці доўга ён гэтак жыў, а ці мала,
але ў ягонай сялібе ўсяго хапала.
Пушчу жонак меў і дзяцей цэлы гай.
А было яму прозвішча Бай.
А як прыйшла па яго з іржавай касой на плячы ягомасць,
ён склікаў усіх сыноў уначы і ўсю сваю
падзяліў маёмасць.
Толькі сына аднаго забыўся, мажа, ад хвалявання,
сын з бацькавымі любімымі сабакамі быў
на паляванні.
Стаўры і Гаўры сабакі зваліся, як трэба
ўзвіваліся пад нябесную столь.
Прозвішча гэтаму сыну было Белаполь.
Калі Белаполь з палявання вярнуўся, яму
і кажуць браты:
— Бацька ўсю нам маёмасць сваю падзяліў,
пакуль за ветрам у полі ганяўся ты.
Вось так.
А табе адказаў ён сваіх сабак.
З цябе і таго даволі. Ды бацька яшчэ казаў,
каб ты іх пусціў па волі:
аднаго — у правы бок, другога — у левы.
Колькі яны за дзень аббягуць валок, гэта й будзе
твая зямля, і на ёй і цені,

і дрэвы, і птушыныя спевы.
Не чакаў Белаполь, пакуль распагоднее,
пакуль браты не ўлюцелі, дзвюх птушак злавіў,
што прыляцелі, — адну з паўднёвага мора,
другую з заходняга.
Пусціў адну птушку на поўдзень, стоячы ўжо
не ў сваім двары, і кажа сабаку:
— Бяры!
Пусціў другую на захад і, у сэрцы глушачы грай,
кажа другому сабаку:
— Хапай!
Як паляцелі птушкі, вырваўшыся з няволі, з тугі,
адна ў адзін бок, другая ў другі...
Як сабакі ўляглі за птушкамі,
ажно зямля закурылася, ажно загушкалася...
Як пайшлі тыя сабакі, дык, небаракі, дасюль
не вярнуліся,
а па іх слядах дзве рэчкі,
спяваючы, стогнучы, крэкчучы,
працягнуліся.
У адзін бок, сведкай Бог, прайшла Дзвіна,
светлая да дна,
а ў другі бок радасна пацёк сам Дняпро,
сцюдзёнае нутро.
Вось у гэтых абшарах,
дзе начуюць маланкі ў хмарах,
Белаполь і пачаў сяліцца каля вады,
капаць крыніцы, заводзіць свае лады...
У гэтага Белаполя ад розных жонак, бо тады
дазвалялі законы, і развяліся розныя плямёны.
Маладзіцы,
са стога ўцёкшы, папраўляюць спадніцы,
мужчыны, адным духам
асушыўшы коўш медавухі, выціраюць вусы.
Плямёны гэтыя маюць прозвішча Беларусы.
Яны і да гэтага часу там ходзяць,
зямельку скародзяць ды сеюць жыта.
Жывуць і ўлежна, і ўежна, і самавіта!

У легендзе пазначаны і каардынаты памкнення беларускае душы — да паўднёвага і заходняга мораў, абазначаны абсяг бытавання крывічоў.

У іншых легендах і паданнях Бай завецца Боем. Зноў жа ягоныя любімыя сабакі ўпамінаюцца — Стаўры і Гаўры. На Віцебшчыне перад Сёмухай спраўлялі стаўраўскія даты. У паданні пра Боя апавядаецца, як людзі збіраліся на тое месца, дзе Бой закапаў калісьці любімых сабак, якія скончылі сваё жыццё ад старасці, бо Бой назначыў памінальныя дні. Да позняе начы трывала баляванне. Рэшткі яды і косці кідалі ў агонь, паўтараючы імёны сабак Стаўры і Гаўры, і клікалі іхнія сцені з тога свету...

— Стаўры, Гаўры, гам, прыхадзіце к нам!

Беларуская душа адчувае сваю лучнасць з небам. Па-паганску, з паганскіх часін. Таму і бусел — Перуновы служка — самы любімы птах. Любімы спаконна, не эмблемна.

Хто ў нас не ведае легенду, як Бог даверыў чалавеку гаршчэчак з гадзюкамі, жабамі, з розным плюгаўствам аднесці і ўкінуць у мора. Папярэдзіў не развязваць і не глядзець. Як заўсёды жонка перахітрыла мужыка, і праз яе цікаўнасць усё гадства распоўзлася па зямлі. Легенда тлумачыць далей:

«Але ось прыходзіць Бог і кажа тым людзям:

— Вы выпусцілі гадаў, вы і збірайце іх.

І абярнуў Бог тых людзей у буськоў. Ходзяць з тае пары па балоце босыя, з чырвонымі нагамі, у белых сарочках і чорных світах буські ды і збіраюць усякую нечысь. Яны і стараюцца жыць бліжа к сваім братам — людзям, што іх, як братоў, людзі не будуць біць. От адкуль узяліся буслы».

Успрыняцце бусла як брата. Бо ў хату, на страсе якое пасяліўся бацян, ніколі не ўдарыць пярун. А калі разбурыць бусловае гняздо, ён можа, пакрыўджаны, прынесці ў дзюбе галавешку і падпаліць страху. Звычайна стрэхі былі саламяныя.

Яшчэ ў калысцы малому Беларусянятку (як любіла называць і пісаць слова з вялікае літары паэтка-змагарка Ларыса Геніюш) баяць (згадайце Бая, ад якога пайшоў наш род) пра святога птаха:

Жыў-быў буцян
На шырокіх лугах,
На высокіх нагах,
Ставіў пунькі-прыпунькі,
Накошваў сена-сянца.
Будзем пачынаць зноўку з канца?

Вырасце малое і ў позняй бяседзе пачуе такую беларускую, такую крывіцкую песню, што сам у душу бусел заляціць:

І дождж ідзець,
І снег падзець
На куміну хату.
— Ідзі, кумок,
Касі мяту,
Накрый куме хату.
Ідзі, кумок,
Касі сена,
Накрый куме сені...

Дагэтуль душа мая хмялее ад мяты і млее ад сена з бяседнае вушацкае песні, бо спявала яе ўпершыню мама...

І ў бусла, і ў Сцяга нашага, і на кашулі-вышыванцы любімыя колеры беларускае душы — белы і чырвоны. Чысціня і рашучасць да апошняе кроплі крыві адстойваць сваю волю, сваю незалежнасць, сваю роўнасць у людстве і ў космасе. Беленыя палотны, чыстыя снягі і чырвань гронак і агню, паўнамоцнага гарачага пасланца неба на зямлі, на зямлі беларускай.

А на просьбу парадзіхі з хрэсьбіннае песні муж, які чакае аратага і касца сабе на падмогу, адказвае так не з-за грубасці.

— Ой, пазавіце Іванечку з току,
Хай прынясець ён вішнёвага соку.
— Калі сыночак, за морам здабуду,
Калі дачушка, дык так абыдзецца...

Мужчын, не чакаючы, калі нарастуць, нішчылі войны. І на Беларусі асабліва, бо ў свае мулкія абдоймы хацелі беларусаў узяць і з усходу, і з захаду.

Клопат за беларускай душой, за чалавекам-працаўніком ідзе ад калыскі да дамавіны. Смаленскія беларусы казалі: «Свадзьба слаўна песнямі, хаўтуры — вытніцамі».

А мой татулечка... хто нас паіць-карміць будзець?
Ды кароўкі мычаць, ды авечкі бляюць,
чаму не накорміш, чаму не напоіш?

Мая ж ты матулечка! Ды мы ўжо з табою
апошні разік бачымся, ды прыйдзі ж к нам
хоць разочак у госці, ды раскажы ж нам,
як у вас тамацькі жывуць, ды навучы ж нас,
як тут жыць, а не прыйдзеш, хоць сасніся нам.

Гэта не вытніца, гэта клопат галосіць па бацьку, па матцы. Гэта галашэнне па родных. Дый па няродных галашэнне тое ж:

Я думаў, што пойдзеш з намі араці,
а ты, бачу, ох як падхарашыўся ды вылізаўся,
нянача на вяселле.
От які гультай, не ідзе рабіці, а расцягнуўся на лаве;
можа, табакі занюхаць хочаш?
Хутка я да цябе пайду.

Гэта суровае галашэнне мужчыны. Зноў жа клопат галосіць.

Ва ўсё, што ні робіць, беларус укладвае сваю душу. З гліны лепіць і гаршчок, і пеўніка, з лазы пляце і кошык, і плот, з ігрушыны выразае і лыжку, і вераценца, з лясіны гне і абруч, і полаз, з воўны валіць і магерку, і валёнкі, з жалеза куе і нарог, і падкову.

Толькі беларускай душы родныя ўзоры ткуць кросны. Ліштвы на вокнах зразумелыя душы беларускай.

Нават дровы на зіму складаюцца па-беларуску, адметна.

Беларуская душа відушчая. Бачыць яна, што жаўранак прылятае на прагаліну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, ластаўка з лістом. Ведае: адзін з’еш і вала — адна хвала. За колькі стагоддзяў да сённяшніх прэзідыумаў, парламентаў ведала: дзе многа на куце сядзіць, там мусіць мыш галодна быць.

Бадай жа беларуская душа будзе здаровай і вясёлай. Душа няўлоўная і нечаканая, душа бунтоўная і рахманая. Пачаткова ж слова «бадай» гучала як Бог дай. На Вушаччыне захавалася яшчэ форма багдай. «А багдай ты быў здароў!»

Дай жа Божа! Бог дай!

*1995*

## ЖЫЦЦЁ ЦІ ПАЭЗІЯ

Часцяком само жыццё ставіць гэтае пытанне. Яно гучыць дваяка. Паэзія альбо жыццё? А ці паэзія жыццё?

Чытаема ў Евангеллі подле святога Яна:

«1. На пачатку было Слова, і Слова было з Богам, і Слова было Бог. 2. Яно было на пачатку з Богам. 3. Усё праз Яго сталася, і без Яго нічога не было стаўшыся, што сталася. 4. У Ім было жыццё, і жыццё было святлынёю людзёў. 5. І святлыня свеце ў цямноце, і цямнота яе не агарнула».

Значыцца, на пачатку ўсяго была паэзія, бо паэзія — гэта перш за ўсё слова, а слова мысліць вобразамі. Усявышні тварыў свет па законах паэзіі. Усявышні і благаславіў чалавека на творчасць, даверыўшы яму слова. (Невыпадкова яўрэйская мудрасць кажа, што слова трэба не мераць, а важыць.) А чалавека Гасподзь тварыў па сваім вобразе і падабенстве.

Чалавек нараджаецца паэтам. Ці не таму ўсе ў маленстве пішуць вершы, бачаць свет па-свойму, твораць свой свет.

Сябры маленства Уладзіміра Караткевіча ўспаміналі. Фарбавалі яны штыкет. Валодзя расфарбаваў кожную штыкеціну ў розны колер. Калі сяброўка сказала, што трэба, каб усе штыкеціны былі аднаго колеру, Валодзя запярэчыў: як усе будуць аднолькавыя, гэта дужа сумна.

А калі ўсе дзеці глядзелі на ваду з кладкі, на пытанне, што хто бачыць, Валодзя адказваў: бачу вершы...

Няшмат хто можа процістаяць прозе жыцця, захаваць ранішні позірк, каб застацца паэтам.

У грэцкай мове слова «паэт» першае значэнне мае як вынаходца, майстра, і ўжо другое — вершатворца, вяршар.

Лаціна кажа: poema loguens picture est (паэзія — жывапіс, які гаворыць).

У індыйскае міфалогіі паэт — бацька словаў.

У скандынаўскае міфалогіі мёд паэзіі здабыў Одын — бог мудрасці і апякун паэтаў.

Міфалогія (сама па сабе вяршыня паэзіі) надзяляе паэтаў звышзрокам, робіць іх усёвідушчымі. Адсюль і слепата фізічная. Сляпы Гамер, сляпцы-лернікі з відушчай душою. Бо паэт — пасярэднік спаміж часовым і вечным светам.

У італьянскім жывапісе паэзія ўвабліўваецца ў вобразе жанчыны ў нябесна-блакітным убранні, аздобленым зорамі; галава ейная крылатая. Крылатая думкаю.

Па законах паэзіі трываліцца ўсё, што акаляе чалавека, — усе з'явішчы ў прыродзе, усе рэчы, найменні ўсяго бачнага і нябачнага.

Чалавек нічога новага не выдумляе, ён толькі стараецца зрабіць нешта адэкватнае створанаму Усявышнім. І ў гэтым як бы суперніцтве таксама жыве паэзія.

Халодны розумам камп'ютэр падспудна імкнецца быць паэтам, бо праграмы яму закладзены зноў жа такі праз слова.

Праца — гэта творчасць, а значыцца, паэзія, а кожны ўмец — паэт, і пра яго след казаць: паэт свае справы.

Галава паэта ў аблоках, ступакі — доле, на зямлі і святой і грэшнай, як і само жыццё.

Хемінгуэй казаў: «Нельга пісаць пра тое, чаго не ведаеш. Чыстае ўяўленне — гэта паэзія».

Гэта і так, і не зусім так.

Дазволю сабе прывесці дужа зямны прыклад таго, што паэт мусіць ведаць, пра што ён піша.

Малады і закаханы, ішоў я ў Гародні берагам Нёмана. І дужа хацелася напісаць верш пра гіцля з такой захмялелай канцоўкай:

Вясёлы, як гіцаль, што грошы прапіў
За злоўленага сабаку.

Слова «гіцаль» запала мне з Коласавай «Дрыгвы». Верш я так і не напісаў. І праз шмат гадоў у горадзе Чарджоў, што ў Туркменіі, убачыў я жывых гіцляў за іх працай. Кіямі перабівалі сабакам лапы, лавілі сабак, як шчупакоў якіх, на кручкі ды грузілі здабычу ў адкрытую машыну. Прытым рабілася ўсё з азіяцкім запалам. Мне было балюча, як і ахвярам гіцляў, было сорамна за свае радкі.

Усё ў прыродзе мае карані, як і само дрэва жыцця. Карані ёсць у краскі і ў аблачынкі. Карані ёсць у вобраза і ў думкі. Перакаці-поле коціцца, аблачынка плыве, думка сягае да недасяжнага. А ва ўсіх корань адзін — паэзія.

Жыццё пражыць — не вяроўку звіць, каб на ёй гора сваё павесіць. Хутчэй гора цябе засіліць.

Пражыўшы большыню наканаванага табе, азірнешся апазадзь — пустэча, наперад глянеш — тое самае. І ты ў пустэчы гэтай толькі гук, які на імгненне нейкае пацвяліў вечную цішыню. І тут жа змоўк.

Ручка, пісадла — занадта кволы лом, каб ім разбіць лёд абыякавасці і змоўкласці, лёд роспачы і зняver'я.

Адна настаўніца душы — паэзія. Але яна няўлоўная, як вецер.

Хто дагнаў вецер? Хто яму нешта сказаў, пачуў ад яго штосьці канчатковае?

Чалавек, які набраўся нахабнасці назваць сябе паэтам, — вятрак, што думае, нібыта ён вецер трымае за бараду. Тым і жыве.

А бальшыня думае, што якраз у галаве ў паэта вецер. А паколькі вецер вечны, вечныя і лаўцы ветру — паэты. (Гэта ў Бібліі: усё — марнасць марнаты і лоўля ветру.)

Можна зачыніць дзверы і вокны, каб не чуць вецер. Ды ён усё роўна жыве, хвалюецца і хвалюе іншых, гоніць хвалі ды бушлаваціць дрэвы ў гэтым ветраным і праветраным свеце.

Чалавек — паэт у большай ці меншай ступені, лавец ветру, лавец марнаты, лавец жыцця ўвогуле. Смяяцца з паэта — смяяцца з сябе.

Побыт раўнуе чалавека да паэзіі і тужыцца знішчыць у ім паэта. І ўсё марна. І побыт падлягае пад уплыў паэзіі.

Без паэзіі няма жыцця, як і паэзіі няма без жыцця. Яны двухадзіныя.

Некалі вядомы ў свеце перуанскі паэт Сэсар Вальеха[1] пытаўся:

А калі пасля гэтулькіх словаў
Не выжыве слова?

Гэты вечны страх паэтаў за слова і трымае слова й неўміручасць яго, а тым самым робіць вечнай паэзію.

А славуты чыліец Пабла Нэруда[2] зазначыў: «Жыццё — гэта пространь у руху».

Мяноўна паэзія і рухае гэтую пространь.

*2000*

## САМ СЯБЕ НЕ ВЫДУМЛЯЎ...

Ні маразы, ні ільды не змусяць застыць і замаўчаць вір. Пакуль вір вірыць, пакуль пратэстуе, датуль і рака жыве.

З вірам у нашай пасляваеннай літаратуры можна параўнаць неўтаймаванага, апантанага Пімена Панчанку. Гэта ён вірыў і пратэставаў, прабіваўся жывым словам, не даючы ільдам цэнзуры, ільдам ідэалагічнага савецкага дыктату закаваць раку нашай літаратуры, выпрастаць яе ў ціхую канаву.

Літсябры з асцярогаю хадзілі каля паэта, так і чакаючы з'едлівай эпіграмы, калючага досціпу, непрыхарошанага слова. Маладзейшыя бралі за прыклад і майстэрства, і манеру трымацца, чакаючы бескампраміснай ацэнкі. Партыйнае чынавенства непрыхавана не любіла і лірыка, і сатырыка, і публіцыста Пімена Панчанку.

Беларусь была эксперыментальнай пляцоўкай у савецкай імперыі. На беларусах апрабоўвалі дубінкі, на беларусах правяралі выніковасць русіфікацыі, беларусаў першых гартавала і радыяцыя. І ў літаратуры кадравыя эксперыменты правяраліся на беларусах.

Пімен Панчанка як галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» быў для ЦК косткай у горле. Гэта ён друкаваў крамольныя рэчы Васіля Быкава, гэта ён даваў ход як не самвыдату. Як жа пазбавіцца ад няўгоднага рэдактара? Проста звольніць — неяк не зусім дэмакратычна. Бо камуністы дбалі пра шыльдавасць, пра бачнасць. І тады некаму прыйшла шчаслівая думка зрабіць Пімена Панчанку адным з сакратароў Саюза пісьменнікаў, тым самым нейтралізаваць астатнімі сакратарамі. Так і здзеілі.

Не буду болей на тым спыняцца, адно толькі заўважу, што потым гэтым жа метадам змясцілі з рэдактарства «Новым миром» Аляксандра Твардоўскага. Метад гэны называўся беларускім у маскоўскіх кіруючых колах. Аўтарам яго, здаецца, быў Шаура[1], што ў той жа Маскве атрымаў пасаду. Праўда, аўтара беларускага метаду масквічы называлі «вялікі нямы». Хадзіла нават легенда, як пасля размовы з Твардоўскім павышэнец замаўчаў.

Незвычайны талент Пімена Панчанкі немагчыма было замаўчаць, не заўважыць. Дый афіцыйна адзначаны, аблаўрэачаны паэт не даваў спакойна драмаць ідэалагічным заганялам. Збіраліся пленумы ЦК, на якіх кляймілі ломшчыка генеральнай лініі, патрабавалі за адзін толькі верш «Прыстасаванцы» прымяніць найвышэйшую меру. Цэнзура, якая з публічнай цнатлівасцю называлася Галоўлітам, вычытвала кожную літару, кожную коску. Назбіраўся быў цэлы том вершаў, знятых цэнзурай.

Нават у зборніку, адзначаным Дзяржаўнай прэміяй СССР (былая Сталінская), калі ён выдаваўся ў Мінску па-беларуску, здымаліся паасобныя строфы. Для маладзейшага пакалення чытачоў патлумачу. На Дзяржаўную прэмію СССР падаваліся кнігі, перакладзеныя на расійскую мову. І калі кніга атрымлівала памянёную прэмію, яна перавыдавалася і на мове арыгінала. Кніга-лаўрэатка, як звычайна, выдавалася і ў перакладах на мовах народаў, якія ўваходзілі ў склад савецкай імперыі.

Пімен Панчанка быў сынам свайго часу, палымяным (любіла савецкая літаратурная крытыка гэты эпітэт) паэтам. Але сынам, які адбіваўся ад рук, але паэтам, які не толькі славіў, а часцей крычаў, што кароль голы.

Даводзілася і гнаць вецер на вятрак афіцыёзу. Прызнаваўся ж:

Я пагарджаў агульшчынай, а сам
Бяздумных вершаў многа напісаў...
Не вартых праслаўлення праслаўляў...
Вось толькі сам сябе не выдумляў.

Так, Пімен Панчанка быў самым арганічным, самым натуральным паэтам свайго часу. Пісаў, як жыў, і жыў, як пісаў.

Новыя дэгустатары віна паэзіі па-новаму ўбачаць панчанкаўскія вобразы, па-новаму пачуюць панчанкаўскія рыфмы, па-новаму адчуюць панчанкаўскую трывогу за Беларушчыну, за волю думкі, за права слова.

Мне ж лёс шчодра дазволіў даволі доўга сустракацца з паэтам, слухаць яго заўвагі, яго крытыку і нават пахвалу, быць амаль сябрам, сябрам, вядома, маладзейшым. Лічу, што старэйшы сябра давяраў мне, што я не падвёў яго.

Цяпер ужо не магу і прыгадаць, калі і дзе ўбачыў я паэта, знаёмага і любімага са школы, калі пачуў голас ягоны. Кадрамі кінахронікі, урыўкамі з цікавай кнігі наплываюць, усплываюць, узнікаюць паасобныя эпізоды, стасункі, прыгоды.

Мікола Аўрамчык, загадчык аддзела паэзіі «Маладосці», кажа, што галоўны забракаваў два мае вершы. Пасылае да галоўнага рэдактара, да Пімена Панчанкі. Адзін верш пра старога лесніка, якому пакажа неруш апошні ў бары лясун. Пімен Панчанка кажа, што няма нечаканага павароту (дужа ў тыя часы любілі павароты, ды яшчэ нечаканыя). Калі б, да прыкладу, падказвае наўгад, у кішэні ў лесуна была б газета, «Праўда», да прыкладу. Другі верш мне самому здаваўся рэвалюцыйным, да дыбару валасоў смелым. Пратэставаў я супроць таго, што праезд па цэнтральнай вуліцы грузавікам забаронены. Пімен Панчанка доўга не тлумачыў, але сказаў, што і правільная забарона. А мне за грузавікамі ўяўляліся былыя партызаны, вяскоўцы ды шмат яшчэ хто пакрыўджаны, абдзелены ўвагаю.

Не ведаў я і тае акалічнасці, што ў доме супроць цырка (яшчэ адно яскравае самадурства чарговага прысланага з Масквы сакратара ЦК — цырк у самым цэнтры горада) разам з Панчанкам жыў і начальнік ДАІ. І даішнікі як не з досвітку, калі начальнік быў дома, і позняй ноччу дэманстравалі сваё стаfiranne, паўтаралі завучаныя фразы пра бяспеку вулічнага руху. І маё змаганне за правы грузавікоў выклікала, відаць, у паэта іншую асацыяцыю.

Перыяд, калі Пімен Панчанка ўзначальваў «Маладосць», высакапарна выказваючыся, быў залатым у гісторыі часопіса і нашай літаратуры. Гэта пры Панчанку працаваў у рэдакцыі Міхась Стральцоў.

Пісаў я тады модна дзвюхмоўную лозунгавую дрындушку:

Калонамі зялёнымі
Пад сцягамі чырвонымі

Па вуліцах праходзіць «Маладосць»:
И, чтобы не запачкаться,
Посторонился Панченко —
Колонны этой гвоздь.

У асобе Пімена Панчанкі было няцесна і сельскаму настаўніку, і сталічнаму багемшчыку, рупліўцу, які ашчаджаў час, і неагляднiку, які шчодра марнаваў час у вясёлых сябрынах, аратаю і рафінаванаму інтэлігенту.

Гэта асобны мацярык у акіяне беларускага духу.

Гаварыў паэт, можна сказаць, камлюкавата, бо думка абганяла словы, вобразы наплывалі падспудна. Калі ўспамінаў, дык болей вясёлае са свайго несалодкага жыцця праўдалюба.

У Беластоку напярэдадні вайны малады вайсковец убачыў даволі доўгую чаргу. Стаў. Калі стаяў, не заўважыў, як усмешліва пазіралі на ружовашчокага, мажнога юнака стараватыя чаргоўцы. Выстаяў чаргу, узяў квіток і рушыў з усімі ў незразумелую залу, дзе ўсе глядзелі ў вочка. Зірнуў і збаўца ад панскага прыгнёту — і выскачыў ужо пад смелы смех астатніх гледачоў. Гэта старыя глядзелі, як займалася каханнем парачка на чырвонай сцэне (чырвонай не ў гонар саветаў). Некаторыя ўспаміналі, як гэта робіцца, некаторыя ўдасканальваліся хоць візуальна.

У Беластоку адбывалі рату прапаганды і беларускія пісьменнікі з кубарамі ў пятліцах. Камандзіровачныя былі небагатыя. Прыглядзелі майстры слова невялікі гатэльчык, які трымаў былы капітан царскай арміі. Хутка грошы пайшлі да раскошы ва ўтульнай рэстарацыі гатэльчыка. А выпіць хочацца і, вядома, закусіць. Хаім Мальцінскі знайшоў выйсце ледзь не Саламонава. Пастаяльцы цёпла павячэралі, і гаспадар падае рахунак. Тады Мальцінскі піша на паперыне, што «гэта сапраўды сто рублёў». Распісваецца і ставіць пячатку (відаць, Саюза беларускіх савецкіх пісьменнікаў). Гаспадар акуратна наколваў гэтыя «купюры», рос папяровы шашлык. А паны-саветы не баяліся дэвальвацыі, бо ведалі: рана ці позна капітана на сваё ўтрыманне возьмуць энкавэдзісты. Пра гэта некалі казаў мне сам Хаім Мальцінскі, выдатны яўрэйскі паэт. Пімен Панчанка ў сваіх братоў па пяру быў дужа рэдкім госцем. Не дазваляла званне. Дый браты былі занятыя сабой і сваёй пачэснай місіяй.

Пры нагодзе ўспамінаў Панчанка, як на пачатку вайны выдавалі ў франтавых умовах газету. Рэдактарам быў Ільля Гурскі[2]. У зацішныя гадзіны любіў рэдактар задрамаць недзе на дзесятай старонцы зборніка «Пословицы и поговорки русского народа».

Плён з чытання адчуваўся. У артыкулах рэдактара часцяком прысутнічала выслоўе: «Згубіўшы галаву, па валасах не плачуць». І ўсе перадавіцы ў газеце пачыналіся: «Ужо Гітлер круціцца, як уюн на гарачай патэльні». Калі супрацоўнікі рабілі заўвагу, што гэтым выразам пачыналіся папярэднія перадоўкі, Гурскі непахісна адказваў: «Гэта народная мудрасць, і мудрэйшага за народ нічога не выдумаеш». Тады нехта ў рэдакцыі ціхенька выкрэсліваў фразу ў гранках. Усе, павячэраўшы нават з добрай чаркай, клаліся спаць. Гурскі ўставаў, ішоў у паходную друкарню, і раніцай выходзіла газета, дзе перадавы артыкул зноў пачынаўся: «Ужо Гітлер круціцца, як уюн на гарачай патэльні».

Старэйшыя, абойменныя пісьменнікі ў асноўным ваявалі ў гатэлях Масквы. Панчанку дарогі вайны закінулі аж у Іран. (Па шчымлівасці, па глыбіні пачуццяў, па вышыні думкі «Іранскі дзённік» не меў сабе роўных у пасляваеннай паэзіі.) Паэт не пісаў вершаў па-руску ў вайсковую газету. І выйшаў неяк насценны лісток у рэдакцыі, дзе быў шаржыравана намаляваны Пімен Панчанка. Паэт ляжыць на канапе, адвярнуўшыся да сцяны, а ўнізе подпіс:

Дайте водки и закуски,
Напишу стихи по-русски.

Як і бальшыня нашых класікаў, паэт не цураўся чаркі. Не было абачлівасці ні ў паводзінах, ні ў вершах Пімена Панчанкі. І няўтульна жылося шчыраму, адкрытаму паэту ў пасляваенным Мінску, які быў пад прыцэльным наглядам Цанавы. І нярэдка папярэджваў яго, просячы з'ехаць на час, каб уляглося чарговае бурнае выступленне неўтаймаванца, адзін са світы начальніка КДБ. Дзяцей гэтага заслужанага кадэбіста перад вайной вучыў Панчанка, калі служка органаў ваяваў у Іспаніі, каб «землю в Гренаде крестьянам отдать».

Сусед па кватэры, паэт і празаік, па дакументах рэпрасаваны, па начах займаўся гандлем з афіцэрамі, якія ехалі з Нямеччыны. Усім было пра што распавесці. І сусед гэны, узяўшы добрую чарку, любіў пахваліцца перад Панчанкам, як ён, працуючы ў Маскоўскай камендатуры, абыходзіўся з затрыманымі афіцэрамі:

— Забярэш у загуляўшага ўсё з кішэняў...

Ды тут жонка аклікала мужа яго літаратурным імем. І, пацверазеўшы, былы камендатуравец абныла скончваў:

— А назаўтра ўраніцы ўсё аддаеш назад...

І ўжо напрыканцы сямідзесятых гадоў, калі адпаведная ўстанова з Масквы насядала, каб аднаму старэйшаму паэту далі

званне народнага, раз'юшаны і пад моцным градусам Панчанка пайшоў да Броўкі і заявіў:

— Калі дасцё яму званне, я здымаю з сябе, і ты здымеш, калі ты чалавек...

Класічна памяркоўны Броўка (калі, вядома, справа дужа ягоных інтарэсаў не тычылася) улагоджваў абуранага:

— Пімен, ідзі і спакойна спі, пішы вершы. Я наверсе дамоўлюся, хоць жа і на іх ціснуць...

Дарэчы, Броўка з добрай зайздрасцю глядзеў на панчанкаўскіх унукаў. Хацелася стаць дзедам. Тут ужо Панчанка быў багацеем, а Броўка бедняком. Хоць так жыццё кампенсавала вечную нястачу апантанага паэта.

Неаднойчы пад добры настрой узгадваў Панчанка адны пагасціны. Прыехаў з фронту ў гасцініцу, дзе жыла бальшына нашых старэйшых пісьменнікаў. Да Петруся Броўкі завітаў да першага. Зразумела, прывёз з сабой тое, што падымала маральны дух і на перадавой, і ў глыбокім тыле. Гаспадыня парупілася смажыць яечню, але так заспяшалася, што выпусціла з рук кулёк з дзесяткам яек. І, каб пачаставаць дарагога госця, мусіла пазычаць па яйку ў жонак міністраў, суседак па гасцініцы.

І калі ехаў я на Вушаччыну з Броўкам і распавёў пра гэта, Броўка прамаўчаў. А Алена Міхайлаўна ўсхапілася: «Гэта Пімену так хацелася. Не стала б я для пітакоў на яечню пазычаць яйкі ў міністэршаў. Я лепей бы яечню Юрку спякла...» Ці то час прайшоў і шмат што забылася, ці проста ў Алены Міхайлаўны быў кепскі настрой. А можа, і сапраўды Пімену Панчанку хацелася, каб яго так сустрэў даўні сябра.

Пра аднаго афіцыйнага драматурга ў свой час казалі, што ён пацее грашыма. Не так і адставаў ад сябра і папулярны празаік. І неаднойчы ўсміхаўся Панчанка, распавядаючы.

Стаяць у касе па грошы. Папулярны празаік атрымаў сваё і, супакоены, затрымаўся каля чаргі.

Панчанка ўголас і просіць:

— Іван, пазыч сто рублёў.

— Ведаеш, цяжка жыць, сям'я, выдаткі, — пачаў крактаць забяспечаны празаік.

— Тады аддай 200 рублёў доўгу, — зноў папрасіў Панчанка.

Нямая сцэна на імгненне. Аддае доўг і хутчэй кіруецца да выхаду, няшчасны.

Калі заходзіла размова пра рыфмы, паэт прыводзіў кеплівы прыклад. Міхась Лынькоў (ён крыху шапялявіў) хваліў Максіма Танка:

— Максіме, якая ў цябе цудоўная рыфма: бярожа і прыгожа.

Яшчэ пра рыфмы.

Заходжу да Пімена Панчанкі з нейкім выдавецкім клопатам. Усё вырашылі. Тады гаспадар адвёў унучку Аксінку ў іншы пакой, зачыніў дзверы і надумана грозна пытае:

— Ці ёсць дзве капейкі? Гэта ты ў мяне без выкупу ўзяў рыфму акупацыя — акапацца.

Давялося даказваць, што і сам магу рыфму амаль дакладную знайсці да прозвішча майстра:

Хай кленчыць нейкі пан чынку,
Як маразам азіміна,
Піў некалі за Панчанку,
Цяпер, цвярозы, Пімена
Набожліва шаную,
Як скібу аржаную.

Панчанка быў нечаканы і ў паэзіі, і ў жыцці, нечаканы ў сваіх выказваннях.

Паэту, які па-выжлятніцку трымаў стойку перад ЦК, на юбілеі раіў: «Не абрастай сябрамі — прададуць».

Абурала Панчанку неахайнае стаўленне да мовы, да вобраза. Можна, казаў віртуоз паэтычнага слова, параўнаць: памідор, як сонца, а нельга: сонца, як памідор.

У оперы «Міхась Падгорны» ў Броўкавым тэксце рэзаў паэту слых радок: «Тупым калом, тупым калом». Таму і казаў: «Слухай, Пятрусь, кол не можа быць тупы, ён жа зачасаны...»

Панчанку турбаваў лёс беларускай мовы. Наракаў, бывала: «Не вучаць мову, не вучаць мінулае, таму ім ужо незразумелы ні Чорны, ні Колас... Асець, дзе снапы сушаць, яшчэ еўня. Запытаўся ў дзяцей, што гэта, не ведаюць...»

Толькі цяпер пачынаю разумець, якія ж нервы трэба было мець, каб па начах выслухоўваць мяне п’янага і, зразумела, пакрыўджанага ўсімі. І было неяк, што, не даўшы мне распаліцца ў скаргах і крыўдах, ацверазіў ураз: «Калі не станеш геніем, усім кагалам адлупцуем. Я не стаў, дык то ж ты павінен стаць!»

Досціпы, жарты Панчанка прамаўляў ціхім голасам, і таму яны мацней гучалі.

Ідзе грунтоўнае, а значыць, нуднае пасяджэнне прэзідыума Саюза пісьменнікаў. Усе як не спяць. І тут прапанова Пімена Панчанкі:

— Наступны прэзідыум зробім пад Вялікдзень, каб Усяночная настала...

Выступае маладая і напорыстая крытыкеса, сама гаворыць, сама сябе слухае. А Панчанка шэптам:

— Яна моцная ва ўсіх шрыфтах — у корпусе і ў цыцэрах.

На нарадзе маладых у Каралішчавічах дасведчаны ў гісторыі Кастусь Тарасаў[3], як з чароўнай скарбонкі, выцягвае факты, эпізоды, даты, імёны. Напрыканцы выступу празаіка Панчанка ці то здзіўляецца, ці то пытаецца:

— А як ён усё помніць?

Цяпер зразумеў я ўвесь няўмольны сэнс панчанкаўскай фразы: «Вы ўсе маладыя, а вось памрэм мы, і вы адразу старымі станеце».

Любіў Панчанка даваць ацэнкі навырост, тым самым падбадзёрыць і заахвоціць пісаць.

У 1966 годзе выйшла іскрамётная кніга паэзіі «Пры святле маланак». Мне падпісаў: «Дарагому і няўрымсліваму Рыгору Барадуліну, паэзію якога я люблю, бо яна заўсёды нагадвае мне родныя лясы і яшчэ нешта, што я не здзейсніў. *Пімен Панчанка. 10.05.66 г.»*.

Няўседлівы вандроўнік кожны раз шчыра блаславуляў у дарогу. Калі ляцеў я на Кубу, напомніў, каб асцерагаўся акул, дадаючы, што пра гэта яшчэ Хемінгуэй папярэджваў. І перадаваў прывітанне Атлантычнаму акіяну. У Парыжы прасіў перадаць паклон Эйфелевай вежы і Нотр-Даму. У рэстаран «Максім» хадзіць не раіў, бо не па кішэні будзе. Дасціпна тлумачыў, у якой краіне лепшы каньяк, у якой віно, у якой кава. І ў мяне пісаліся радкі:

Пімен Панчанка ў пітве не прафан,
Адагнаўшы хваробу ад ложка,
Успамінае весела
Гарбату ў Персіі,
Каву ў Францыі ды ў ААН.
А не толькі балець павінны,
Мусяць грэць і гарэць успаміны...

Вясёла ўзгадваў ваколсветны круіз на параходзе. Грошай далі, як звычайна, мала. А сервіс міжнародны высокі. Міністр замежных справаў Украіны ўбачыў у пераліку паслуг і такую. Проста з каюты можна звязацца па тэлефоне з любой кропкай зямнога шара. І тут жа пазваніў дадому. Як міністр пачаў гаварыць

грунтоўна, пытацца, якое надвор'е ў Кіеве, ці сумуюць па ім падначаленыя і гэтак далей. Жонцы паведаміў, што пачуваецца добра, што наўкола вада. Калі прынеслі потым рахунак, усіх, так бы мовіць, кішэньковых грошай толькі і хапіла на аплату за цёплую гутарку. (За мяжой і настальгія дарагая.) І давялося міністру пазычаць шэлегі на ваду, каб ўратавацца ад смагі. А астатнія падарожнікі, ці мараплаўцы, пацягвалі віскі з лёдам.

Спадарожнікі паэта потым на памяць чыталі ягоныя экспромты, складзеныя на афрыканскіх берагах: «Баабаб, баабаб, я ахвоч да чорных баб».

Я ўжо чуў гэта як фальклор. Пры жыцці так і не знайшоў прычыны запытацца ў Пімена Емяльянавіча наконт аўтарства. І, вядома, свядома парушаю аўтарскае права.

Недзе ў васьмідзесятым годзе здымаем пытанні па чарговым томе Збору твораў.

Панчанка між іншым заўважае, што ў кожнага паэта павінен быць свой фокус. Узгадвае, як на пахаванні мужа галасіла кабета: «А хто ж мяне паб'е цяпер?»

У паэта ўчэпістая памяць дэталяў. У Юрася Свіркі ў нейкім вершы арэхі звоняць у дно вядра. Майстра коратка каментуе: фальш! Я стараюся ўторкнуць свае тры грошы, кажу, што з вёдрамі хадзілі толькі ў журавіны. Пімен Емяльянавіч папраўляе: з рэшатамі, пачэпленымі, як сявалкі, на шыю.

Панчанка быў перакананы, што ў прынцыпе ўсё ў вершах паэта ад уражанняў, ад назіранняў паэта. Паэт глядзіць на рэчы, на свет вачыма сваёй малой радзімы, свайго маленства. Выключэнне — запас уражанняў ад далёкіх паездак, і то яны таксама пад вуглом тым жа...

У 1986-м годзе на Каляды зайшоў да Пімена Емяльянавіча (па-вушацку трэба было б Амяллянавіча). Узгадвалі калядаванні — кожны свае. А гаспадар усё пераводзіў міжволі размову на падарожжы, вандраванні. Невыпадкова адна з сакавітых кнігаў паэзіі Пімена Панчанкі была імянёна як «Кніга вандравання і любові».

І ніякавата было чуць: «Калі не баляць ногі, хоць у Батанічны сад схаджу. Не забывайся, што ў бацькі быў абход Бегамальскі, лясныя звычкі ў мяне з маленства...»

Але думка паэтава, неабыякавае да ўсяго слова былі заўсягды ў дарозе, заўсягды ў руху. І пісаў я параду маладому:

Каб было імгненне спынена,  
Каб раднела рыфма-падчарка,

Пачынай спачатку з Пімена,
Бо старэць не ўмее Панчанка.

Апошнія гады, як і раней, часта гаварылі па тэлефоне. Тэлефануеш Панчанку, а ён адразу заўважыць: «Твой голас падыходзіць да сённяшняга надвор’я...»

Любіў паэт народную песню, як і народнае слова, любіў і класіку. Асабліва шанаваў Равеля.

Пімен Панчанка, Генадзь Бураўкін і я паехалі на Полаччыну, на радзіму Генадзя. Па дарозе вітальна сігналілі панчанкаўскаму Бягомлю, у Вушачы на Бутаўскім могільніку ўзялі сумную чарку ля магілы маёй мамы. І нарэшце — Полацак. Пад Полацкам — родная хата Генадзя. Застолле. Генадзева маці на раўніне стала ўзвяла горы закусі. Генадзь, які тады ўзначальваў тэлерадыё, пачаў горача даказваць бацьку, як цяжка яму змагацца з бюракратамі, з сакратарамі абкамаў. І гэтак завёўся, што забыўся на госця. І тут пачуўся ціхі голас Панчанкі: «Люблю, калі збяруцца бацька з сынам і цёпла пагутараць». Гэтая рэпліка вярнула старшыню Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні да актыўнай працы ў застоллі.

Кватэра ў доме насупраць цырка была без балкона. А Панчанку дужа хацелася балкона. І калі ён атрымаў кватэру па вуліцы Пуліхава ў так празваным «пыжыкавым» раёне (цэкоўцы і саўмінаўцы зімой насілі пыжыкавыя шапкі як познаткі прыналежнасці да кіраўнічага саслоўя), любіў я крыху пацвяліць свайго дарагога старэйшага сябра і настаўніка: маўляў, Пімена Панчанку, як дзядулю Крылова, пасялілі са сваімі героямі. Паэт усё жыццё змагаўся з бюракратамі, чыноўнікамі. А тут увесь дом з адных ягоных герояў, ці, лепей сказаць, антыгерояў

Апошнія гады Панчанка зусім, як гэта казалі ў нас дома, абязножаў. Вакно кабінета выходзіла ў двор, дзе было завозна ад машын, якія падвозілі слугам народа падмацаванне. А ў паэта не хапала жабрачай пенсіі на лекі дый на хлеб надзённы.

Прыязджалі наведаць і падбадзёрыць партыйна-ўрадавым словам і прэм’ер-міністр, і міністр замежных справаў. Далей словаў падтрымка не йшла. І тады пісаўся такі ліст:

«Дарагі Рыгор! Прабач за апошнія турботы! Пасылаю яшчэ тры вершы. Апошнія. На гэтым сваю дзейнасць у беларускім вершаскладанні я закончыў... Надзея на прэм’ера малая. Больш на сяброў. У Юрыя Трыфанава[4] ёсць «Опрокинутый дом». Там ёсць цудоўныя старонкі «В гостях у Шагала» — «Красивая... Это

ваша жена или просто так?» Прывітанне і ўсяго найлепшага! *Пімен Панчанка. 16.06-92.* Дзякуй Валі. *П.*»

У апошнім рабочым кабінеце бачыў я і шчаслівага, і яшчэ няхворага паэта. Тут ён ажно заплакаў ад радасці, калі прачытаў яму прадмову Васіля Быкава да Збору твораў, які выходзіў у Пімена Панчанкі ў «Мастацкай літаратуры».

На пачатку васьмідзесятых гадоў пагодлівым сакавіком наведаў я Панчанку. Адразу ж зрабіў мне вясёлую заўвагу: «Ты ўсё заўважаеш, а вясну не заўважыў». Паказвае на бэз і пралескі на стале. Сумна тлумачыць мне, што быў сад у вакне, а зараз высеклі і дзіцячы сад будуюць. «Высеклі сад. Некалькі яблынь зацвілі. Адбіваюцца ў шыбінах. Як у чыстай вадзе вымыўся... Трава, вада, лісце зялёнае, што Бог прыдумаў, тое і ёсць. А што тыя ракеты ды самалёты...» Як бы мімаходзь заўважае, што пра дрэвы лепей сказалі горцы, у якіх лес знік.

Клопат пра паэзію не пакідаў яго ніколі. І ён разважаў: «Адкрыты славянскі верш выклікае адкрытыя пачуцці, а асацыятыўны — алгебраічныя задачы... Паэзію мала хто разумее, нават любіць. Чыноўнікі не любяць. З-за неразумення паэзіі быў пры жыцці не ацэнены Пысін...»

І як бы сам сабе наказвае: «Трэба ўзлавацца і сесці за вершы, год прайшоў...»

Не скардзіцца, не просіць спачування, а проста кажа: «Вока адно ў мяне пагасла, вечарам не магу хадзіць».

Пімен Панчанка быў заўсягды за еўрапейскасць, за далучанасць беларускай культуры і літаратуры да сусветнай. І не па сабе патрабавальнаму майстру было: «Чытаеш «Майстра і Маргарыту», а пасля наша такое: «Ён засупоніў хамут, упёрся нагой, а тады...» Гэта цытуе з чарговага тома сучаснага пісьменніка.

Як рэдка хто з нашых паэтаў, Панчанка чытаў шмат прозы, навуковай літаратуры. «Класікі пішуць лёгка, надумана, толькі Дастаеўскага і Талстога яшчэ берагу. Як да размовы з людзьмі, надумана, нічога жывога няма...»

Пімен Панчанка любіў і цаніў фальклор, але напамінаў: «Па адносінах да фальклору вызначаецца паэт, што ён бярэ з фальклору».

Любіў прапахлае вятрамі дарог свежае слова. Перадаваў інтанацыі цыганкі, якая на чысцюткай беларускай мове сцэнічна лямантавала: «А мой жа ты прыгожанькі, чаго ж рукі сашчапіў? Яшчэ наляжышся...» Весялеў, калі ўзгадваў цыганскія пяцімінуткі ў Купалаўскім скверы.

Тым веснавым днём шмат пра што гаварыў паэт, шмат успамінаў, разважаў. І асабліва журботна было пачуць ад Панчанкі, якога са школьных падручнікаў уяўлялі ўсе неўтаймаваным, маладым, радасным: «Мне здаецца, не ў сваім часе жыву, пераўжыў сябе. Ні траў маіх, ні лясоў. Грыбы гляджу ў даведніках «Грыбы нашых лясоў...»

На людзях Панчанка быў апрануты акуратна, не дорага, але з нязменным густам. У сваім кабінеце добра пачуваўся ў клетчатай каўбойцы і недарагіх джынсах.

Заходжу неяк да жывога класіка, а ён у добрым настроі паказвае свае набыткі. Купіў лёгкае скуранае паліто і жоўтыя туфлі на натуральнай падэшве. Усё прыдатнае для падарожжаў. Скуранае паліто на зменлівае надвор'е, туфлі на скураной падэшве для спякотных краёў. Шчыра раіць і мне купіць таксама. Паліто не набыў, а туфлі, як у Пімена, купіў. Праўда, насіць не змог, як у тым анекдоце пра калектывізацыю, — ціснуць. І цяпер стаяць як успамін. Хоць ім хадзіць трэба.

Панчанка быў клапатлівым гаспадаром у літаратуры і ў сябе дома. Засмучаўся, бывала, калі ягоныя маладзёны не маглі зразумець, што лепей купіць дарагой кілбасы меней, чым таннай многа.

Атрымаў за адну з апошніх кніжак нейкія капейкі. Паклаў усім унукам на кніжкі сімвалічныя ўжо тады сумы. Не паслухаў парады свайго сябра Міхаіла Святлова, які неяк сказаў, што ён у задорыстыя гульні з дзяржавай не гуляе.

У апошнія гады толькі і было пенсіі на хлеб надзённы. Не раз казаў: «Мінск раней славіўся хлебам, а цяпер рэдка калі. На другі дзень засыхае і крышыцца».

Хлеб духоўны быў у паэта непераводны. Званю, віншую Пімена Емяльянавіча з днём нараджэння, кажу, што сам зрабіў ён падарунак да свайго свята, — выйшла кніга паэзіі «Лясныя воблакі». Імяніннік ласкава тлумачыць:

— Яны, лясныя воблакі, асаблівыя. Куды б ты ні ішоў, куды б ні ехаў, яны за табой, дзе б ты ні быў — яны з табой!

Сумнейшай была размова ў 1991 годзе. Па традыцыі званю, віншую нараджэнца. Да тэлефона падыходзіць Зоя Кірылаўна, ластаўка паэтава, кажа, што пакліча да тэлефона Пімена. І чую стомлены голас:

— Я прыехаў на сваім фаэтоне, у мяне крэсла на калёсіках. Мне дапамагае мой міністр замежных спраў (мае на ўвазе жонку). Не шанцуе нам на правадыроў... Я яшчэ, калі да 75-годдзя дажыву, вып'ю каньяку. Гарэлка ёсць. Не п'ю 7 гадоў, курыць

не куру 6 гадоў. Колькі навалілася на Максіма[5], і Максім ужо ў стане абмірання, як і я. У мяне ёсць 5–6 вершаў. Нягледзячы на ўсе наменклатурныя гульні, ігрышча вакол цябе, пішы, не губляй часу...

Заўсягды падкрэсліваў Панчанка, што трэба пісаць, пакуль пішацца, піць, пакуль п'ецца, кахаць, пакуль кахаецца.

Кожная сустрэча, кожная гутарка з паэтам была адкрыццём няўлоўнага і непаўторнага ў жыцці. Ненавязліва падкрэсліваў прызнаны майстра: «Трэба, каб была душэўная далікатнасць...»

Мяноўна душэўная далікатнасць вылучала Пімена Панчанку сярод іншых творцаў. Душэўная далікатнасць супрацьстаяла нахабству і злосці, яна абараняла паэта як самая надзейная браня.

І ў сваіх лістах Панчанка быў шчыры і спаважлівы, сур'ёзны і ўсмешлівы. Дазволю сабе прывесці прыклады.

«Дарагі Рыгор! Не магу да цябе дазваніцца, а сам не вельмі здаровы. Пасылаю апошнія вершы і адну папраўку. «Всо!» — як казала Фані Яфімаўна. Здавай, калі ты ёсць у Мінску, кнігу ў друк. Больш дадаваць не буду. Пазвані як-небудзь. Салют! *Пімен Панчанка. 29 жніўня 1978 г.».*

«Дарагі Рыгор! Маю гонар сардэчна павіншаваць цябе і тваю сям'ю з Новым годам! Зычу здароўя, шчасця, радасці, ношкі новых вершаў, цікавых дарог, сумленных сяброў, сустрэчы з ушацкімі лясамі і са мной часамі. Абдымаю — *Пімен Панчанка».*

«Дарагі Рыгор! Разжыўся (дзякуючы табе) грашыма, я пачынаю філасофстваваць. Празаік (...) выдаў дзесяткі мільёнаў сваіх раманаў і аповесцяў у «Раман-газеце», нажыў сотні тысяч плюс вялікія аклады за нікчэмную працу (па кіраванні) плюс акадэмічныя сотні, плюс прывілегіраваныя магазіны... А ўсё г…, як і яго проза...

А вось на фронце: засланіў сваімі грудзьмі друга, выратаваў з полымя малых дзяцей, пайшоў у смяртэльную разведку, вынес з бою параненага аднапалчаніна...

Тое ж і цяпер: выратаваў дзяўчыну, якую бандыты хацелі згвалціць; выручыў з бяды сябра... Гэта і пра цябе. Дзякую.

Мяне замучылі жанчыны (няхай яны спрахнуць!), журналісты з газеты «Культура» («Я была маладзенькай, брала ў Вас інтэрв'ю»), «Звязды» (прыйшла сёння даволі прывабная...). Устаў у 5 гадзін раніцы і напісаў верш «Горкія думкі». Нарэшце Зоя сёння заявіла, што нікога болей не дапусціць, няма чаго ірваць да другога інсульту, да інфаркту...

Пасылаю табе апошні верш... Ад «Пісем беларускага народа да вялікага Сталіна» да «Горкіх думак». Усё адносна!

Жадаю табе, каб быў ты здаровы і твая Валя, дачка і ўнучка!

Прывітанне табе ад майго праўнука Алеся (абаронцы людзей, мужнага чалавека).

Паклон «царственнаму» Васілю Быкаву!

Слава «бодрствуюшему» Рыгору!

Нечуваная гарачыня давяла мяне да таго, што я наляпаў гэтулькі вершаў.

Усё! Эндэ! Фініта!

Прабач за турботы!

Абдымаю — *Пімен Панчанка.*

*6 жніўня 1992 г.*».

На фотаальбоме, выдадзеным да 70-годдзя паэта, Панчанка мне напісаў:

Юбілейнае

Кветкі — найярчэйшыя, пахвала — найбольшая:
Як жа цябе любяць, як жа цябе цэняць!
Сяджу паміж кветак з пачуццём нябожчыка,
Ці то балерыны, якую зжываюць са сцэны...
Сэрца зноў атручана горкім пачуццём:
Ногі бюракратаў ніколі не будуць папутаны.
За праўду і смеласць на фронце плацілі жыццём,
А сёння — інфарктам, беднасцю, пакутамі.

*Пімен Панчанка,*
*24 жніўня 1987 г.*

А мне гучыць як наказ: «Грышка, усё гэта глупства. Пішы пра каханне, пакуль можаш...» Гэта мне пажадаў Пімен Панчанка на маё пяцідзесяцігоддзе.

Сябе паэт не выдумляў. Не клапаціўся пра славу. Слава сама шукала ягонае ўвагі. Спакойна казаў:

А там, успомняць ці не ўспомняць —
Я не турбуюся зусім.

Пімена Панчанку помняць і помніць будуць усе, каму дорага шчырасць і адкрытасць, пяшчота і гнеў, каму дорага ўсё наскае.

Пры жыцці прысвяціў я Пімену Панчанку багата вершаў, рыфмаваных пасланняў. Ганаруся, што і майстар прысвяціў мне некалькі. Скончыць свае раскідзістыя прыпаміны хачу вершам, які Пімен Емяльянавіч ужо не чуў.

### РАЗВІТАННЕ З ПІМЕНАМ ПАНЧАНКАМ

Сваёй эпохі пасынак і сын,
Яе любіў і ненавідзеў шчыра.
Бывала й лераю жабрачай ліра,
І весялухай зманлівых часін.

З самім сабой няшчадна вёў двубой
Не правадыр,
А павадыр сумневу,
Больш давяраў
Свайму глухому гневу,
Які з дзвярэй лагоды рваў прабой.

Ён д’яблу не заклаў сваю душу,
І грэшнік, і пакутнік утрапёны.
Пегас прыстаў,
Як шыбельні, страмёны.
І правіць мова родная імшу...

*2000*

# ПЕСНЯ НАД ПЕСНЯМІ САЛАМОНАВА

## Песня першая

Хай мяне абцалуе ён
Цалаваннем вуснаў сваіх!
Бо пешчы твае хмялейшыя за віно.
Ад пахучасці масцяў тваіх
Твайго ймя дасконны палон.
Як міра, разлітае
Нябёсам на дно яно.
За нявытхнутае, аблачыністае
І кахаюць цябе дзяўчыністыя.
Памкні мяне, пабежымо за табой.
Кароль павёў мяне да сваіх харомаў.
Будзьма радавацца і цешыцца
Сэрцаў нашых салодкаму грому,
Небаўзносячыся хвалой.
Бо за віно, якое забыць сябе не дае,
Мацнейшыя пешчы твае.
Годныя цябе кахаюць,
Аж у журбе засыхаюць.
Дочкі Ерусалімскія[1], я чарнявая,
Але прыгожая, гожая,
Як кідарскія буданы[2],
Як заслоны Саламонавы[3].
Я ж не з чужой стараны,
Жарсць мяне запалоніла
У спякотлівыя палоны.
Не дзівіцеся, што чарнявая,
Гэта сонца мяне асмуглявіла.

Угневаліся на мяне матулі маёй сыны
І паставілі мяне, беспрытульную, яны
І ўдзень і ўначы
Вінаграднікі сцерагчы.
Пільнавала ад святла й да святла,
Свайго ж вінаградніка не ўсцерагла.
Скажы мне, душы маёй паняты,
Дзе пасвіш ты,
Дзе ў паўдзён твой спачывае ўздых?
Чаго мне быць валачомнай датклівіцай
Каля статкаў аднаклапатліўцаў тваіх?
Як не ведаеш гэтага, найпаглядзістая з жанок,
Дык ідзі сабе па слядах авец наўдагад
І ля пастухоўскіх стомленых буданоў
Пасві сваіх казлянят.
Жарабіцы сваёй у фараонавай калясніцы
Спадобіў цябе я, мая каханая,
Аздобіў шанаю.
Шчокі твае ў падвешках
Раскашуюцца ў кунежлівай харашбе,
Шыя твая ў каралях, зашаптаных хвалебнамі.
Залатыя падвешкі мы знядзелім табе
З зіхацінкамі срэбнымі.
Покуль цар за сталом сваім цараваў,
Нард мой свой пах выдаваў.
Міровы пучок — каханы мой — у мяне
Хай ля грудзей маіх супачне.
Як гронка кіпера, каханы мой у мяне
У Енгедскіх вінаградніках,
Дзе заплаканай лазе балазе ў гамане.
О ты чароўная,
З зоркай раніцы роўная,
Мая каханая,
Ты шчыміш на сэрцы маім жаданай ранаю.
Ты адзіная,
Як рэчка ў радасці ціхаплынная.
Глядзяць у маю душу вочы твае галубіныя.
О ты чароўны, каханы мой, і адзіны.
І ўзложжа нашае — зялёная зяляніна.
Стрэхі нашых дамоў —
Кедраў кроністыя абрысы.
Столі нашыя — станістыя кіпарысы.

## Песня другая

Я ружа шаронская[4], лілея далінаў.
Як лілея між церняў,
Між дзяўчыністымі мая адзіная.
Як яблыня спаміж лясінаў,
Спаміж маладзёнаў і мой адзіны.
Люблю сядзець пад аслонаю ейнага ценю.
І ейная садавіна салодкая майму паднябенню.
Ён прывёў мяне ў дом застолля,
Дзе, нямоцячы наваколле,
Балявала сама ягамосць весялосць.
І сцяг ягоны нада мною — мілосць.
Пасіліце мяне вінам, яблыкамі падкрамяніце.
Доля мая такая,
Ад мілосці я знемагаю.
На лявіцы ягонае галава мая,
А правіца бяссонная мяне абдымае.
Заклінаю вас, дочкі Ерусалімскія,
Сарнамі й палявымі ланямі,
Не будзіце маю каханую,
Не трывожце адхлання.
Голас каханага! Вось ён ідзе мой самы.
Скача па горах, па ўзгорках гайсае.
Мой сябра падобны да сарны
Ці да маладога аленя.
Ён — маё трапяткое ўтрапенне.
Вось ён стаіць у нас за сцяною хаты,
Зазірае ў акно,
Ценіцца мільгатліва праз краты.
Каханы пачаў казаць мне:
Устань, каханая,
Жарсцю маёй пагуканая, выйдзі!
Пабач сама: вось мінула зіма,
Дождж прайшоў, перастаў, прыстаў.
Краскі вытачыліся з зямлі паказацца вясне,
Час спеву прыспеў, і голас горліцы
Чуецца ў наскае старане.
Разняволілі смоквы пупышкі свае.
І лаза вінаградная квеціцца
І пахучасцю сябе выдае.

Устань, каханая,
Жарсцю маёй пагуканая, выйдзі!
Галубка мая,
У растрэшчыне скалы пад дахам аброву!
Пакажы воблік свой,
Дай мне ўчуць голас твой несуровы.
Бо голас салодкі твой
Западае ў душу глыбока,
І воблік паглядны твой прынадны для вока.
Лавеце лісіц, лісянятак лавеце,
Што хочуць вынішчыць вінаграднікі,
А вінаграднікі нашыя ў квеце.
Як званіцы звон,
Каханы мой мне належыць,
Пасвіць спаміж лілеяў ён
І там жа начлежыць.
Покуль дзень ахалодаю дыхае
І цені ўцякаюць ціхія,
Вярніся, будзь як сарна
Ці як алень малады
На растрэшчынах горнай грады.

## Песня трэцяя

На ложку сваім я ўначы шукала
Таго, каго мая душа пакахала,
Павяснелая ад святла.
Але яго не знайшла.
Устану ж я ды пакружляю
Па месце, па вуліцах, па таргох,
Пашукаю таго, каго мая душа пакахала,
Павяснелая ад святла,
Блукала, гукала, шукала,
Але яго не знайшла.
Пераўстрэлі мяне вартаўнікі,
Што места абходзілі нацямкі,
Я запытала: ці не бачылі вы яго,
Каго мая душа пакахала,
Павяснелая ад святла?
Адно ад іх адышла, як адразу знайшла

Таго, каго мая душа пакахала,
Павяснелая ад святла.
Ухапілася за яго й не адпускала,
Покуль у хаціну маці сваёй не прывяла,
Да пакою тае, што мяне зачала.
Заклінаю вас, дочкі Ерусалімскія,
Сарнамі й палявымі ланямі,
Не будзіце маю каханую,
Не трывожце адхлання.
Хто гэтая, што ўзыходзіць з пустэльні,
Як слупамі дыму, ахмараная
Мірам а фіміямам,
А ўсялякімі зеллямі міраварніка?
Вось узложжа ягонае — Саламонава:
Шэсцьдзесят дужасілаў наўкол
Самых дужых Ізраелевых —
Аж ад іх угінаецца дол.
Усе трымаюць па мечу,
А ў бітвах дасведчаныя.
У кожнага з іх
Меч ля сцягна дзеля жахаў начных.
Ношавае ўзложжа
Зрабіў сабе цар Саламон
З дрэваў лібанскіх гожа.
Стоўбчыкі ягоных гонкіх рэбраў са срэбра,
З золата зрабіў узлакоцце,
Седзішча з пурпуру зыркага,
Як сонейка на закоце.
Вонутры яго прыбралі няўрымсліва
Дочкі Ерусалімскія.
Выйдзіце й гляньце, дочкі Сіёнскія,
На цара Саламона,
Як небатварыць яго карона.
Укаранавала яго каронаю
Маці ягоная
У дзень вяселля ягонага
І ў дзень радасці сэрца ягонага.

## Песня чацвёртая

О ты, чароўная, каханая, мая адзіная,
Вочы твае галубіныя зоркамі
Пад хмурыністымі тваімі кудзёркамі.
Валасы твае — як козаў чародка,
Што з гары Галаадскае[5] скоўзваюцца таропка.
Зубы твае, як авец астрыжаных статак,
Што выходзіць з купельні,
А ў кожнай авечкі двойца ягнятак,
А бясплоднай між іх няма такі.
Вусны твае, як стужка пунсовая,
Зразумелая сэрцу мова твая.
Як палавінкі яблыка гранатавага,
Шчокі твае пад кудзёркамі.
А яны не горкія.
Шыя твая, як стоўп Давідаў,
Збудаваны пад зброю,
Тысяча шчытоў вісіць на ім,
Як на апірышчы небасхілаў.
А ўсе шчыты дужасілаў.
Два саскі твае, сойчыкі, —
Як двайняткі сарначкі маладое,
Што пасвяцца спаміж лілеяў спакою.
Покуль дзень ахалодаю дыхае
І цені ўцякаюць ціхія,
Пайду я на гору тую,
Дзе шчырае міра душу ратуе,
І на ўзгорак, дзе раскошыста фіміяму.
Каханая мая, ты чароўная самая,
І няма на табе ні адзінюткага пляма.
Са мною з Лібану, маладая княгіня,
Са мною рушайся з Лібану,
Спяшайся з вяршыні Аманы[6],
З вярхоўя Сэніру й Гэрмону[7],
З лагвоў ільвіных, з гораў леапардавых,
Са мною, сонца й поўнаты вартая!
А паланіла ты сэрца маё,
Без цябе яно гіне,
Сястра мая, маладая княгіня,
Адным узбліскам вачэй сваіх,

Адным узбліскам караляў,
Што шыю тваю абралі.
О, як люба мне кунега твая,
Сястра мая, маладая княгіня.
Як багаталепшая яна за віно
І пахучасць масцяў у ранняй расе,
За водары ўсе ў веснавым нахлыне.
Мёд пяшчотаў, як з сотаў,
Капае з вуснаў тваіх і не стыне,
Маладая княгіня.
Мёд з малаком пад тваім языком,
І пахучасць шатаў тваіх расхваляваных,
Як пахучасць з Лібану!
Замкнёны сад, дзе важка кожнай галіне,
Сястра мая, маладая княгіня,
На ключ узятая студня, запячатаваная крыніца,
Смага прагне з яе напіцца.
Твае расаднікі — гранатавы сад,
Што песціць пагляд
Садавінаю, пахвалы найвышэйшай вартаю,
Дзе суседзяцца кіпры з нардамі,
Дзе не выстудзілі свой давер
Нард і шапран, цынамон і аер
З усялякімі пахучымі дрэвамі,
Дзе міра й алой п’яняць
Духмяністымі павевамі.
Крыніца садовая — студня водаў жывых,
Дзе не гасне променя ўспых
І вадабег несціханы з Лібану.
З поўначы, ветру, займіся
Ды з поўдня натніся,
На сад мой павей —
І духмені ягоныя разгавей.
Хай у свой сад прыйдзе мой каханы
І есць садавіну салодкую рассмакавана.

## Песня пятая

Прыйшоў я ў сад мой у задуменні,
Як ва ўспаміне,
Сястра мая, маладая княгіня,
Набраў міра свайго з сваімі духменямі.
Наеўся з сотаў сваіх мёду, а ў насалоду
Напіўся з сваім малаком віна, а дап'яна.
Бярэце дары, сябры пагуканыя,
Піце й сыццеся, укаханыя.
Я сплю, а сэрца маё чуняе, гоніць сон;
Во, голас майго каханага, гукае ён:
«Адчыні мне, сястра мая, мая каханая,
Мая галубка, мая беззаганная,
Бо галава мая ўся ў расе,
У начное валозе сукры усе».
Скінула я хітон з плячэй сваіх,
Як жа маю ізноў надзець?
Ногі вымыла на паглядзь,
Як жа мне пэцкаць іх?
Каханы руку сваю працягнуў праз шчалугу́
І ў нутры маім развярэдзіў тугу.
І ўстала рахмана я, каб адамкнуць каханаму.
І з рук маіх міра краплiста спадала,
І з кстоў маіх міра на клямку замка сцякала.
Адамкнула каханаму, а мой каханы
Павярнуўся й счэз нечакана.
Душа мая сябе не пазнала,
Калі казаў ён. Яго я шукала,
Ішла за голасам наўздагон
І не знаходзіла, яго гукала,
Ды не адгукаўся ён.
Пераўстрэлі мяне вартаўнікі,
Што места абходзілі нацямкі,
Збілі, зранілі, кіямі пеставалі,
Не маючы жалю,
Ахінала з мяне знялі
Тыя, што сцены меставыя вартавалі,
І пакінулі на зямлі.
Заклінаю вас, дочкі Ерусалімскія,
Калі далёка ці блізка
Сустрэнеце майго каханага,

Што яму скажаце па весялосці?
Што я знемаглася з мілосці.
«Твой каханы за іншых ляпейшы чым,
Найпраўкраснейшая з жанчын?
Чым каханы за іншых ляпейшы якраз,
Што ты так заклінаеш нас?»
Мой каханы белы й румяны,
Ад дзесяцёх тысячаў іншых
Ляпейшы ён, бо чаканы.
Галава ягоная — шчырае золата,
Што сонцам мілуецца ўсё лета.
Хвалююцца ягоныя сукры няўзнач,
Чорныя, як крумкач.
Вочы ягоныя — як галубы
Пры загонах водаў,
Што купаюцца ў малацэ, ацененыя лагодай.
Шчокі ягоныя — духмяны кветнік уцехі,
Пахучых раслінаў лехі.
Ягоныя вусны — лілеі,
На якіх разліваецца міра й само хмялее.
Рукі ягоныя — круглякі залатыя,
Не абшурпачаныя ганьбамі ды абразамі,
Круглякі з усаджанымі тапазамі.
Жывот ягоны — як выдаўбень
са слановае косці,
Абкладзены сапфірамі млосці.
Галёнкі ягоныя — слупы мармуровыя,
Пастаўленыя на залатых подах,
Не зрушыць іх і ўраганны подых.
Выгляд ягоны падабраў падабенькі ў Лібана.
Вусны ягоныя — соладзь,
І ўвесь ён поўніцца любатой.
Гэта й ёсць сябра мой, дочкі Ерусалімскія!

## Песня шостая

Куды пайшоў твой каханы,
Найпраўкраснейшая з жанчын?
Куды ён падаўся, ахінуты журбою,
Мы пашукаем яго з табою.
У сад свой пайшоў мой каханы,

У кветнікі духмяныя,
Каб пасвіць у садох і лілеі збіраць,
Покуль ліст не засох, не спазніцца.
Я належу каханаму, як званіца звону,
А каханы — мне, як званіцы звон,
Бо смутак знадзеяў,
Пасвіць ён спаміж лілеяў.
Чароўная ты, як Фірца[8], мая каханая,
Любая, як Ерусалім, грозная сваімі чарамі,
Як паводка палкоў са штандарамі.
Ухілі ад мяне вочы свае —
Пестуны вясны,
Бо хвалююць мяне яны.
Валасы твае — як козаў чародка,
Што з Галаада скоўзваюцца таропка.
Зубы твае — як авец астрыжаных статак,
Што выходзіць з купельні,
А ў кожнай авечкі двойца ягнятак,
А бясплоднай між іх няма такі.
Як палавінкі яблыка гранатавага —
Шчокі твае пад кудзёркамі,
А яны нягоркія.
Ёсць шэсцьдзесят царыцаў
І восемдзесят належных наложніцаў,
І дзяўчынная безліч множыцца.
Ды адзіная яна, галубка мая беззаганная,
Адзіная ў матулі яна адна,
Адрозная ў нарадзівіцы сваёй яна.
Пабачылі яе дзяўчыністыя —
І ўзвысілі аблачыніста.
Царыцы й наложніцы ўбачылі
І, услаўляючы яе, сябе зыначылі.
Хто гэта зіхоткая, як дзянніца,
Праўкрасная, як поўната,
Што ў нябёсы пяшчотай патонута,
Светлая, як сонца,
Што грэе жыццёвае ўлонца,
Грозная сваімі чарамі,
Як паводка палкоў са штандарамі.
Я спусцілася ў сад, дзе лушчэлі ляшчыны,
Падзівіцца з зяляніны даліны,
Паглядзець, ці распусцілася лаза вінаградная,

Ці ўзрадавана
Гранатовыя яблыні расцвілі і калі?
Не ведаю, як дамкнула мяне
Душа мая, цуду ў дагоду,
Да калясніцаў славутых майго народу.

## Песня сёмая

Азірніся, азірніся ты, Суламіта[9],
Азірніся — дай успомніць прыгажосць
забытую.
Што ваш позірк гэтак пасвіць Суламіту,
Манаімскі карагод[10] яна нібыта?
Ногі гожыя тvae абутыя ў сандалы,
Панавітая дачка пяшчоты й шалу.
Сцёгнаў тваіх круглавітасць —
Гэта цупкія каралі,
Якія рукі кудзейніка ўмелага выкруглялі.
Жывот твой — круглая чара,
У якой не пакажа ніколі дно
Пахучае ды п'янкое віно.
Чарэва тваё — спякотны сумёт пшаніцы,
Аздоблены лілеямі ніцымі.
Два саскі тваe, два сойчыкі, як казляняткі,
Пудлівай сарны блізняткі.
Шыя твая — як слуп са слановае косці,
Велічны ў сваёй высакосці.
Вочы тваe — азерцы Гэшбонскія[11],
У якіх глыбініцца брама рашучая Батрабіму[12],
Смуткам захмарыць яе немагчыма.
Нос твой — вежа Лібанская,
Што павярнулася, каб паказацца Дамаску.
Галава твая на табе, як Карміл[13],
Валасы на тваёй галаве —
Пурпур, дзе полымя агніста жыве,
Каб світаў небасхіл.
І цар на троне —
У сукраў тваіх у палоне.
Якая зграбная ты, якая прывабная,
Якая ты гожая сваёй ахарошаю.
Падобны да пальмы стан гэты гонкі,

І грудзі твае — як вінаградныя гронкі.
Падумаў: я ўзлезці на пальму павінны,
І ўчупіцца ёй у лісціны.
І грудзі твае будуць гронкамі вінаграду,
І пах ад ноздраў тваіх,
Як ад яблыкаў, на прынаду.
Вусны твае —
Як адменнейшае віно,
І цячэ яно да сябра майго спакусна,
Стомленыя салодзячы вусны.
Як звону званіца,
Належу я сябру вернаму,
І да мяне жаданне ягонае звернута.
Хадзі, мой каханы, пойдзем у поле,
Абначуем на волі ў сёлах вясёлых.
Раннім раннем пойдзем у вінаграднікі, глянем,
Ці распусцілася лаза вінаградная,
Ці лопнулі пупышкі палахлівыя,
Ці цветам радуюць яблыні гранатовыя, —
Там кунежыць цябе гатова я.
Мандрагоры ўжо не ўтрымалі свой
пах малады,
І ля кожнае брамы ўсялякія харашэюць плады,
Новыя а старыя, а іх нямала,
Гэта я табе, каханы мой, захавала.

## Песня восьмая

О, калі б ты быў мне за брата,
Якога маці мая сваімі грудзьмі сасіла,
Я б, сустрэўшы цябе на вуліцы, невінавата
Цалавала б і да сэрца туліла,
І мяне не папракалі б зацята.
Павяла б я цябе,
Прывяла б да матулі маёй у дом,
Я паіла б цябе пахучым віном,
Яблыкаў маіх гранатовым сокам,
Каб п’янеў няўрокам.
На лявіцы ягонае галава мая,
А правіца бяссоная мяне абдымае.
Заклінаю вас, дочкі Ерусалімскія,

Не будзіце, не турбуйце каханую,
Самой лагодай прыспаную.
Хто гэта ад пустэльні ўзыходзіць,
З небам высока раячыся,
На свайго каханага ўзіраючыся?
Пад яблыняй я цябе разбудзіла:
Там цябе маці твая нарадзіла,
Там цябе нарадзіўца твая нарадзіла надзіва.
Пакладзі мяне на сэрца сваё, як пячаць,
На руку сваю пакладзі — прыручаць:
Бо моцная, як смерць, мілосць,
Лютая, як апрамецце, зайздросць.
Стрэлы ў мілосці — агнявітыя стрэлы,
Яна — тое полымя,
Што перашкоды нідзе не сустрэла.
Вялікія воды загасіць не могуць
Мілосці тае,
І рэкі не заліюць яе.
Калі б хто даваў за мілосць
Усё багацце, што ў доме ягоным ёсць,
З рашучасцю ўпартаю
Ён адрынуты быў бы з пагардаю.
Сястра ў нас малая,
Яна яшчэ саскоў не мае,
Што рабіцімем з нашай сястрою,
Калі будуць сватацца да яе не пароюю?
Калі б яна была сцяна,
Дык, не шкадуючы ні дзён, ні працы,
Пабудавалі б мы на ёй
Са срэбра палацы.
Калі б яна была дзверы, —
Кедровымі дошкамі абшалявалі б яе да меры.
Я — сцяна, і ў мяне саскі, як вежы,
Таму ў вачох ягоных буду поўнатаю хацежы.
Вінаграднік меў Саламон у Ваал-Гамоне[14],
Ён здаваў вінаграднік гэты вартаўнікам.
І кожны з вартаўнікоў тады
Меў даваць тысячу срэбнікаў за плады.
А мой вінаграднік у мяне пры сабе.
Тысяча хай табе, Саламоне,
А дзвесце — ім, што праз гады
І ў яснадзень і ў сутонне сцерагуць плады.

Жыхарка садоў!
Сябры цешацца з голасу твайго,
Дай і мне паслухаць яго.
Барздзі, мой каханы, мой сон бясхмарны,
Будзь падобны да сарны
Ці да маладога аленя,
Бяжы наперадзе свайго ценю
Па горах самых бальзамавых.

## *З Уільяма Шэкспіра*

### САНЕТ 66

Зняможаны, малю ратунку ў смерці,
Бо ходзіць варты долі ў жабраках,
І ўсё як ёсць нікчэмнасць прагне смерці,
І вера ўся ў зняверaных руках.

І ганьбу прыкрывае пазалота,
І цноту грубасць на таргі вядзе,
І слаўная знясла́ўлена істота,
І сілу немач ссільвае ў бядзе.

І затыкае рот мастацтву ўлада,
І цёмны вучыць, як знябыць імглу,
І праўда быць прасцячкай шчыра рада,
І годнае дабро слугуе злу.

Зняможаны, зірнуў бы ў вочы смерці,
Ды як любоў самотна жыцьме ў свеце?

### САНЕТ 130

У любай вочы — не як сонцы з неба,
Карал за чырвань вуснаў чырваней,
І грудзі — не як снег, яны — як глеба,
І валасы за чорны дрот чарней.

Бель і пунцовасць руж дамаскіх бачыў,
На шчоках гэткіх руж няма ў яе.
Ёсць лепшы пах, чым з роту дых гарачы,
Я слухаю яе, ды не стае

Мне музыкі, якая ўсё адрыне.
Сцвярджаю, не пашчасціла нідзе
Убачыць, як сябе нясе багіня,
Мая зямная па зямлі ідзе.

Ды небам сведчу, што маё каханне
Абразіла б любое параўнанне.

*З Джорджа Гордана Байрана*

## ЯК АД ПАКУТ АСТЫНЕ ПРАХ...

I

Як ад пакут астыне прах,
Душа нятленна-маладая,
Пра іншы марачы абсяг,
Свой склеп пануры пакідае.
Ад цела вольны дух пасля
Сягне высока і, магчыма,
З нябесных сфер глядзіць здаля
На ўсё разумнымі вачыма.

II

Ва ўсёй бязмежнасці адна
Світае думка, як святая,
Сама нябачная, яна
Ўсё бачыць і назад вяртае.
І незаўважны след на дне
Трымае памяць днём мінулым.

Шырокім позіркам зірне
Душа і ўсё напоўніць гулам.

III

Глядзела вока праз хаос,
Калі людзей зямля прызнала,
Дзе вырашаўся лёс нябёс,
Дзе дух шукаў шляхі трывала.
Дзе творыцца свет новы наш,
Дух над усім лунае нема,
Пакуль не згасне сонца аж
Ці не зламаецца сістэма.

IV

Над палам, навіссю маны
Жыве душа ў святым памкненні.
Век праплыве, як год зямны,
Гады мільгнуць, нібы імгненні.
А над усім — далей — і прэч
Цераз усё ляціць бяскрыла
Адвечнасцю бясконцай рэч, —
Што значыць смерць, яна забыла.

## ДУША МАЯ ЎНАЧЭЛА

Душа мая ўначэла, — ўдар,
Пясняр, па чуйных струнах лютні,
Няхай, настрою валадар,
Мне голас твой гучыць магутней!
Як ёсць надзея — балючэй
Ёй будзе кожны гук пачуты,
Як слёзы ёсць — яны з вачэй
Званчэй пральюцца на пакуты.

Прашу, хай дзікі будзе спеў,
Хай змоўкне радасць маладая,
Каб слёзы выплакаць паспеў,

Бо сэрца болей не ўтрывае.
Цярпела сэрца боль і гнеў,
Маўчала доўгімі начамі,
Цяпер яно ці прыме спеў,
Ці разарвецца ад адчаю.

*З Персі Бішы Шэлі*

## ОДА ЗАХОДНЯМУ ВЕТРУ

### I

Заходні вецер, восені ўладанні
Твае, дыхнеш — і мёртвыя лісты
Знікаюць, як ад злога духу здані.

У ліхаманцы колер залаты
Згарае, чорным робіцца чырвоны.
Лісты на цёмны сон адвозіш ты,

Былых істот крылатых бачыш сконы, —
Цяпер ляжаць, як мерцвякі, яны,
Пакуль сястры вясны ражок натхнёны

Не верне да жыцця абсяг зямны,
Пупышкі поўнячы салодкай скрухай, —
Іх пасвяцца ў паветры табуны.

Дух дзікі, што заручаны з разрухай
І захаванасцю, о, слухай, слухай!

### II

Ты на нябесны вэрхал зверху глянуў,
Аблокі, як збуцвелы ліст, далоў
Атрос з галін нябёс і акіянаў,

Анёлы бліскавіц і ўсіх дажджоў
Усталі, азарыўшы хваляў звады,
Як пасмы вогнедыхіх валасоў

На галаве раз’юшанай менады,
Наблізіўшыся, засланіць паспеў
Шторм галавой кудлатай далягляды.

Канае год, і ты хаўтурны спеў
Пяеш, бо стане ноч не павітухай —
Грабніцаю ў раскрыжаванні дрэў,

Дзе пераблытаны, як завірухай,
Агонь, і град, і чорны дождж, о, слухай!

III

Ты, хто збудзіў ад летніх летуценняў
І мора Сяродземнае, яно,
Закалыханае святлом струменяў,

У снах салодкіх бачыла адно:
Ў заліве Байі вежы і палацы,
А хвалі дня хавалі іх на дно,

Каб кветкамі, імхамі любавацца
Няўлоўнымі. Гатова для цябе
Атлантыка на прорвы разарвацца.

Ніцеюць кветкі морскія ў журбе
З лістотай — акіянавай пястухай,
Што просіць соку жыўнага ў мальбе.

Шарэе голас твой, і глухавухай
Жудой расліны нішчацца, о, слухай!

IV

Калі б я быў лістком, які нясеш ты,
Хмурынкай, што смяецца ўслед наўсхліп,
Ці хваляй, скоранай табой дарэшты,

Непадуладна-ўладна, і калі б,
Як у маленстве, змог бы я на волі
З табой ляцець да воблачных сяліб,

Шукаць на небе долі і спатолі,
Цябе адчуць як прывід, як жуду, —
Дык не памкнуўся б да цябе ніколі

Малітвай вымаліць сваю бяду,
О, падымі мяне, як ліст, як хмару,
Сысці крывёй на церні я ўпаду.

Прыгнуты долу ланцугом цяжару,
Я, горды, як і ты, высока мару.

V

Зрабі мяне на лес падобнай лірай,
Каб я дарыў зямлі свае лісты,
Збянтэжанасць гармоній верай шчырай

Здабудзе з нас сугучча нематы
Салодкае, як восені суквецце.
Будзь мною ты, шаленства дух круты.

І думкі мёртвыя мае ў сусвеце,
Як той збуцвелы ліст, нясі далей,
Каб новы плён хутчэй дало налецце.

Пачуўшы верш мой, словы ўсе развей,
Як іскры з камінка, дзе згасла спёка,
Стань вуснамі маімі для людзей,

Стань, вецер, бубнам, голасам прарока.
Прыйшла зіма — вясна не так далёка.

# *З Джона Кітса*

## КОНІК І ЦВЫРКУН

Мацней за смерць паэзія зямлі:
Прывянуць птушкі ў засені ад спёкі,
Прачнецца голас радасці далёкі
З пакошы, як з зялёнай араллі, —
Траскоча конік, будзячы палі.
Плывуць стагоў мурожныя аблокі,
Яго тырады слухаюць валокі,
Пакуль не сціхне велічна ў быллі.

Паэзія зямлі не замаўкае,
Зімовым прысмеркам, як цішыню
Куе мароз, з-за печы трапяткая
З цяпла ўзнікае песня цвыркуна.
Здаецца нам, што прыпарнаму дню
У травах скарга коніка чутна.

## У ГОНАР ВОСЕНІ

### I

Час туманоў і плёну сакаўнога!
У змове з сонцам бласлаўляеш ты
Лазу ля стрэх, каб грон трымала многа,
Сад сціхлы, каб яму да ламаты
Ў суках ставала клопату старога;
Мяздру салодзіш пахкай садавіны,
Арэхі спеліш, гарбузу жывот
Выкругліваеш, сочыш штохвіліны,
Каб кветак позніх ліўся смех вясёлы,
Каб як пазней адчулі холад пчолы,
Бо лету душна ў клейкіх келлях сот.

II

Хто ўвагу на заможную не зверне?
Сядзіш ты бестурботна на таку,
Вятрэц, які нядаўна веяў зерне,
Твае кудлаціць пасмы неўзнаку,
Ці спіш на недакошаным пракосе,
Ад маку ахмялелай лета сніцца,
У кветках паласу шкадуе серп,
А часам, як збіральшчыца калосся,
Гнеш галаву цяжкую да крыніцы.
Цурку з давільні віцца, не спыніцца,
Табе глядзець гадзінамі няўсцерп.

III

Дзе веснавыя спевы, пералівы?
Не дбай пра іх — ёсць музыка ў цябе,
Пакуль, аценіўшы іржышча нівы,
Ласкава дзень канае ў харашбе,
І камарыны хор нуду гайдае
У лазняках на выпасах лагоды,
Цвыркун не пакідае жываплот,
Бляюць ягняты, і ручай рыдае,
Малінаўка зайшлася ў садзе згоды,
І ластаўкі, сабраўшыся ў чароды,
Шчабечуць у нябёсах на адлёт.

## *З Адама Міцкевіча*

### ГЛОТКІ, ЯКІЯ КРЫЧАЦЬ ЗА НАРОД

Глоткі, якія крычаць за народ, збрыдзяць нарэшце народу,
Твары, якія цешаць народ, палічыць народ за шкоду.
Рукі, што цягнуцца за народ, народ адсячэ па локаць.
Імёнамі, што палюбіў народ, будуць народ палохаць.
Стоміцца тлум, і ацішыцца шум, скогат сваё адбудзе,
Спадчыну ціха возьмуць сабе цёмныя людзі.

### ДУМКІ І ЗАЎВАГІ

#### Ступені праўдаў

Праўды гэткія ёсць, што мудрэц кажа людзям усім,
Ёсць такія, што шэпча толькі людзям сваім,
Ёсць такія, якія давярае прыяцелям дому,
Ёсць такія, якія адкрыць ён не можа нікому.

#### Veni creator spiritus

Хай душа твая ляжа, быццам сцішаны луг,
І па ім, як рака, паплыве Божы дух.

#### Сярэдзіна

Бог не над галавой, а ўнутры ў чалавеку жыве.
Ад Бога ўцякае той, у каго не ўсе ў галаве.

#### Накірунак

Дзе хто пасля смерці будзе, загадваюць кагадзе.
Дзе пры жыцці хто хіліўся, там пасля смерці ўпадзе.

## Рыштаванне

Дух — галоўны будынак, цела — як рыштаванне.
Мусяць зняць рыштаванне, як будынак паўстане.

## Багацце святога

Святы чалавек, як і Творца, багаты,
Бо Творца з ім дзеліць усе свае святы.

## Проба

Тады, чалавек, паверыш, што ты паратунку варты,
Як здатны спусціцца ў пекла, прыняўшы агонь за жарты.

## Умова недатыкальнасці

У друзе свету ацалець ты хочаш, дабрадзей?
Будзь чалавекам для звяроў і духам для людзей.

*З Арцюра Рэмбо*

### П’ЯНЫ КАРАБЕЛЬ

Калі па рэках плыў, далёкіх ад разладу,
Больш не адчуў натугі цягуноў сваіх,
Чырванаскурыя, прыняўшы за прынаду,
Да распярэшчаных слупоў прыбілі іх.

Бавоўна з Англіі, фламандская пшаніца
Ляжалі важка ў каравана на плячах.
Калі ўдалося ўрэшце валтузні спыніцца,
Дазвол ад рэк я атрымаў на вольны шлях.

У злосным плёскаце прыліваў і адліваў
Я ўцёк, як думка сонная, зімой.
І прэч зрываліся паўастравы пудліва,
Бязладдзе не цярпець вучыў іх нораў мой.

Шторм бласлаўляў маё прадбачанне марское,
Па хвалях я скакаў ад корака лягчэй.
Вязніцы вечныя ахвяр і неспакою
Сачылі ліхтарамі дзесяці начэй.

Як з горкіх яблыкаў мяздрыстыя прысмакі,
Вада сачылася праз піхтавае дно.
Каб плямы сіняга віна і варацакі
Абмыць з мяне, забраць мой якар і стырно.

І я ў настоенай на млечнасці цяпелец
Марской паэме з тых купаюся часін,
Куды са мной плыве задумлівы тапелец,
Дзе ў сінізне зялёнай цьмее напамін.

Дзе ўспыхне сіняй сінню колер захаплення,
Надаўшы рытм няспешліваму ззянню дня.
Мацней за алкаголь, за вашых муз даткненне
Брадзіцьме горкага кахання глыбіня.

Я ведаю нябёсы ў пісягах маланак,
Прыбоі, смерчы, плыні, вечары трывог,
Як подых галубіны, ведаю світанак,
Я бачу, што і ўбачыць чалавек не мог.

Я бачыў сонца жах, што ў плямаках містычных
Жывіла вобразы юлёвае смугі,
І хвалі, быццам бы артысты драм антычных,
Юлёвым рабаціннем білі ў берагі.

Зялёнай ноччу марыў я пра снег сляпучы,
Пра пацалункі ў млявых мораў на вачах,
Пра рух нячутай сілы, што зрывае кручы,
Пра фасфарычнае святло ў напеўных снах.

Сачыў штомесяца, як, подлы недавярак,
На рыфах біўся шторм істэрыкай жуды,
І марыў, каб скруцілі акіяну карак
Святой Марыі ціхасветлыя сляды.

Знайшоў Фларыды прывідаў, дзе колер плоці
Змяшаўся з колерам вачэй пантэр,
Вясёлак морамі напятыя аброці
І табуны сіне-зялёныя хімер...

А ўбачыш, як балот багністых пасткі
Расставіў на тухляціну Левіяфан[1],
Адчуеш, як марскі спакой ірве на часткі
Абвал вады, што льецца прорве ў збан.

Ледавікі, нябёс распаленае цела,
Стаянкі гнюсныя, глухая бронза вод,
Дзе змеі ўсё зжаруць, што прасмярдзела,
Абраўшы дрэвы, ад якіх ідзе смурод.

Я паказаць хацеў бы дзецям, як дарады,
Пазалаціўшы пену ў колеры зары,
Зіхценнем благаславіць былі мой вырак рады,
Як швыргалі мяне шалёныя вятры.

І палюсы, і паясы мяне тапілі,
Гайданкай чулай плакала марская даль,
Дарыла мора кветкі прывідныя з цвілі,
Мяне трымала, як жанчыну, ўлонне хваль.

На берагах сваіх загойдваючы зваду
І птушак тых памёт, чый папялеў пагляд,
Я плыў, пакуль маім канатам даўшы раду,
Тапельцы ў сне па мне вярталіся назад...

У кудлах бухтаў згубленае судна,
З птушынага палёту зрынуты, завяз
Я — карабель, з якога час падспудна
Здабыць не зможа п’яны, вадзяны каркас.

Праз чырвань неба прабіваўся, як праз сцены,
Дымлівы, вольны, ў тумане я слаб і сіп,
Паэтам добрым нёс я канфітур адменны,
Лішайнік сонечны і прамяністы ўсхліп.

Заплямлены дрыглівымі маладзікамі,
Бег я — ўшалелы брус — пад ноч марскіх канькоў,
Калі крышылі ліпені, апёкшыся глыткамі,
Ультрамарын нябёс з усіх сваіх кійкоў.

Дрыжэў, адчуўшы кожнай дошкай, як лускою,
Страшыдлаў стогн, якіх раз’юшваў шлюбны шал,
І згадваў, вечны ткач блакітнага спакою,
Еўропы мілай кожны ўтравянелы вал.

Я бачыў зоры астравоў, архіпелагаў,
Чые нябёсы запрашалі плысці ўсіх:
О ты, Наступнасць, ці не ў ноч заснулых вагаў
Цябе прагоніць вырай птахаў залатых?

Ды сапраўды, я шмат рыдаў. Нудзеў світаннем.
Лютуе поўня, сонца гаркатой пратне.
Я ўвесь здранцвеў, да дна запоўнены каханнем.
Хай кіль трашчыць! Няхай куляцца ў моры мне!

Калі вада Еўропы сніцца — толькі тая,
Дзе ў змроку хлапчука самотная рука
На плынь халодную на волю выпускае
Караблік хліпкі, нібы ў траўні матылька.

Купацца, хвалі, ў вас не маю больш адвагі!
Больш не магу цягнуць бавоўну на плячах,
Ні сустракаць пагардай вымпелы і сцягі,
Ні плыць з баркасамі, якія поўніць жах.

## *З Яніса Райніса*

### СЛОВА, ШТО ХОЧА СКАЗАЦЬ ЭМІГРАНТ

«Ubi patria, ibi bene»[1] —
Той шчаслівы, хто кажа, той,
Дзе свае, дзе чужыя сцены,
Не адчуе душой пустой.
Ды бяда нагадае ўпартая:
«Necubi bene, nec patria[2]».

## ЧОРТ І ГОДНЫ ЧАЛАВЕК
*Арабская казка*

Прыйшоў да чалавека чорт-ганец
І кажа: «Надышоў ён, твой канец!» —

«Што ж, — мовіў чалавек, — раз лёс круты».
Чорт кажа: «Сам сябе ўратуеш ты —

Калі ў ахвяру бацьку прынясеш!» —
«Я лепш памру, — надзей сваіх не цеш!

Мне бацька даў жыццё, любоў сваю,
Не буду жыць, як кроў сваю заб’ю!» —

«Не хочаш, — кажа чорт, — такой бяды, —
Калі шкада, пабі сястру тады». —

«З любімаю сястрой я разам рос,
За што ж мне лупцаваць яе ўсур’ёз?»

Чорт кажа і патыліцу скрабе:
«Як бачу я, грахоў няма ў цябе!

Як мне аддзячыць, ты падумай сам,
Нявінны я табе занятак дам». —

«Які ж ён?» Чорт рагоча: «Піць віно!» —
«Віно — крыніца радасці яно.

І моц дае, салодкае на смак,
А добра чорт параіў, як сваяк!»

Мужчына больш хмурэў, чым болей піў,
Сястру лупіў і бацьку ён забіў.

*З Марка Шагала*

## ДА ВЫСОКАЙ БРАМЫ

Толькі тая краіна мая,
што жыць у душы маёй не перастае,
як свой, без віз адпаведных,
я ўваходжу ў яе.

Яна бачыць мяне ў бядзе,
у адчаі, ў галечы,
яна мяне спаць кладзе
і духмяным каменем
мае акрывае плечы.

Ува мне зялёныя цвітуць сады.
Кветкі выдуманыя, ўбачаныя ў сне.
Ува мне
мае вуліцы, цягнучыся, крывуляцца,
толькі дамоў не ўбачыш на іх,
яны руінамі сталі
гадоў малечых маіх.

Жыхары ў паветры блукаюць,
як прыбышы,
яны жытла шукаюць,
яны жывуць у маёй душы.
Вось чаму, калі сонца ледзь усміхнецца,
зрэдчас усмешкай мае засвецяцца вочы,
альбо я плачу,
як лёгкі дождждык уночы.

Я помню час,
калі меў я дзве галавы...
Гэта было якраз,
калі абедзве галовы
ахіналіся ў вэлюм кахання,
і зніклі галовы, як хмель вясновы,
як водар ружы, дазвання.

Цяпер мне здаецца,
калі я назад скірую хаду,
я ўсё роўна ўперад пайду,

у напрамку высокай брамы,
пад якой за разбуранымі сценамі храмы,
дзе начуюць адны
зламаныя бліскавіцы
і адгрымелыя перуны.

*З Габрыэлы Містраль*

## ПАКУТА

Ужо дваццаць год, як працяў маё цела
кінжалам жахліва
вялікі верш і сядзіць у ім, востры,
з грабянямі прыліву.

Яго вялікасць цела ад стомы ные,
бо прыняло з пакорай.
Як спяваць вусны гэтыя могуць, што часта
ашуквала гора?

Аслаблыя словы людскія не грэюць
крананнем патайным
яго языкатага полымя,
ціхім яго трапятаннем.

Крыві маёй згусткамі корміцца верш мой,
як сын адзіны,
дзе сын яшчэ ёсць, каб крыві столькі выпіў
з грудзей жанчыны.

Жахлівы дар! Мой апёк незагойны,
мой лямант няўчуты!
Хай той, хто працяў маё цела кінжалам,
адпусціць пакуты!

## ЛІСТ З НАГОДЫ НАРАДЖЭННЯ Ў ЧЫЛІ

Сябра піша: «Нарадзілася ў нас дзяўчынка».
Ліст прыйшоў, набрынялы тым немаўлячым
крыкам, ліст я разрываю і, як мару,
цёплы крык прыкладаю да твару.

Дзяўчынка нарадзілася з іх вачыма,
прыгожымі, калі ў іх шчасця поўна,
і, пэўна, ў дзяўчынкі маміна шыя,
падобная да шыі ламы.

Нарадзілася ўначы нечакана,
як раскрываецца ліст платана.
Гатовых пялёнак маці не мела
і разрэзала крыкам тканіну.

І маленькая адпачыла гадзіну,
цела яе, як дыханне, крохкае,
адпачывала, як уначы маленькі Езус,
яе цалавалі Блізняты, і Леў, і Рак,
яе ўкрываў студзеньскі Задыяк.

Паднеслі яе да грудзей матчыных,
і маці ўбачыла сябе галапупенькай,
з адной гадзінай жыцця і з вачыма прылепленымі...

І казала яна таму камячку тыя ж слоўцы,
што і Марыя-кароўніца і Марыя-казадойніца:
«Беглы мой заінька», «бессаромніца»...
А дзяўчынка крычала, прасіла яе адпусціць
туды, дзе была без усіх чатырох часін года...

Калі расплюшчыла вочы,
яе цалавалі падаспелыя монстры:
цётка Роза, служанка Хуана,
што над ёй нагнуліся, як кільяі[1] вялікія
над курапатчыным птушаняткам.

І зноў заплакала, суседзяў будзячы,
вяшчаючы вестку ўсяму кварталу,
важнейшую, чым прыбыццё ангельскага флоту,
і покуль усе не выйшлі, зганяла ахвоту...

Імем маім назвалі яе,
каб садавіну ела, нібы дзікунка,
каб расступаліся травы, дзе адпачыць прыляжа,
і каб глядзела на свет па-свойску,
быццам стварыла яго яна, і дзякуй за ласку...

Яшчэ дадалі заклён, каб ніколі
не прыняла маёй неразумнасці вольнай,
каб мядзведзям не ставіла соты
і не бралася вецер хвастаць...

Думаю пра мінулае цяпер я,
пра тую ноч, калі нарадзілася яна
там, у даліне сярод Кардыл’ераў.

Мне прыснілася фігавае дрэва Элькі,
што ліло сваё малако мне на твар.
Краявід быў сухі, камяні —
вялікай смагай, а с’еста — гневам.
Я прачнулася, і сон сказаў мне:
«Вясціна добрая ў тваю хаціну прыйшла».

Цяпер пішу вам просьбы мае:
не заціскайце ёй грудзі пялёнкамі.
Аднясіце яе ў даліну зялёную пад Аканкагуу,
хачу знайсці яе пад акацыямі,
як найдунку, ў пялёнках.
Шчадзіце яе валасы,
я мушу першая яе прычасаць старанна
і аблізаць, як ваўчыца старая.
Без спеваў яе калышыце ў рытме чыстым
зораў старых.

Хай загаворыць позна і расце памалу:
найлепш бы, каб як мансанілья[2].
Каб маці яе гадавала
пад спагадаю Марты альбо Тэрэсы.
Марта хлеб пякла годна,
каб накарміць Хрыста галоднага,
а Тэрэса манашкамі кіравала на славу,
як Фабр[3] стары — дзікімі асламі.

Вярнуцца думаю на Вялікадне,
калі інжыр паспявае

і гарацць яшчаркі ў вітражах восені.
Мне ў Ліёне холадна невыносна,
хутаюся цяплей, называючы сонца Вікун'і[4].

Вы на колькі начэй дзяўчынку
пакіньце, каб спала са мной малая.
Кашмары ад мяне адступіліся,
і, ўкрыўшыся, тры месяцы спаць бы магла я.

Спаць мушу, дакранаючыся тварам
да яе маленькага вушка,
дыхаць тады змагу над ёй сібілаю.
(Кіплінг расказваў пра пантэру сквапную,
што спала, нюхаючы мачынку
міры, прыліплую да яе лапы...)

З маленькім вушкам ля твару майго,
каб, як сканаю, яна адчула,
бо я ў гэтым свеце ў такой самоце,
аж дзівіцца неба, пакепліваючы няспынна,
што ёсць у такой самоце жанчына,

і Задыяк спыняецца чарадою
ў журботе,
глядзіць, ці праўда, ці байкі,
што жанчына спіць у самоце!

## БЯССОННАЯ

Ноч ідзе, здымае стому,
сонцам спалены астыне;
ён па лесвіцы ступае —
чую ў радасным нахлыне.
Хай ніхто яго не чуе —
у маім ідзе ўспаміне.
Бо нашто чужую бессань
слухаць сцішанай рабыні?

Па маім ступае ўздыху.
Так чакае плуга поле.
То ўгары, то раптам доле —
вадаспад ягонай долі,

ля маіх дзвярэй крушына
скрушная дрыжыць ад золі.

Сілуэт ягоны бачу
я ў дакор вачам хлуслівым.
Ноч, як грэшнікам, на момант
нам нясе спакой, шчаслівым;
чую, зноў ён адыходзіць
мора вечнага адлівам.

Адыходзіць і прыходзіць
ноч усю, як дар у змане,
як мядуза, што ўздымае
хвалі ў хліпкім калыханні.
Лежачы, дапамагаю
рэшткамі свайго дыхання,
каб навобмацак не йшоў ён
і не выцяўся ў тумане.

З дрэва зглухлага прыступкі
мне звіняць крыштальным звонам.
З тымі, дзе адпачывае,
я вітаюся з паклонам.
Як душа, прыступкі стогнуць,
крокам скардзяцца ягоным,
пазнаю і крок апошні —
абрываецца адхонам...

Дом баліць ягоным целам,
полымя ўвесь дом акрыла,
адчуваю твар ягоны —
паліць жарам неастыла.
Ад чакання паміраю,
адчуваю шчасця крылы,
і ў агоніі з ягонай
і мая знікае сіла!

Языком, шчакой назаўтра
марна хоць смугу шукаю
на люстэрку немых сходцаў,
стома ўслед за мной ступае.
І ў душу спакой находзіць,
покуль прыйдзе ноч сляпая.

Па люстэрку зданем казкі
валацуга цень праходзіць.
Ледзьве-ледзь ідзе бясплотна,
хоць раней быў з кімсьці ў згодзе,
і пагляд вачэй ягоных
апякае і халодзіць.

Той, хто ўбачыць, не пытайце,
загадайце не вяртацца,
хай засне і хай не зможа
ў памяць да мяне ўздымацца.
Хай заб'юць імя, каб біўся
безымянным ветрам пляца,
хай не зможа ўгледзець дзверы
да майго — ў агні — палаца!

## АДСУТНАСЦЬ

І цела знікае маё па кроплі,
і твар мой знікае ў карціну паныла;
і рукі знікаюць вольнай іртуццю,
і ногі — двума імгненнямі пылу.

Ад нас, ад цябе ўсё знікае штосілы!

Знікае мой голас, цябе шукаў ён,
ды змоўк, бо мы ўжо не мы, хоць і разам.
Знікаюць рухі мае, што снавалі
усмешкі вачэй тваіх раз за разам.
Знікае пагляд ад цябе, што свяціўся
ў маім паглядзе ядлоўцам і вязам.

Дыханнем тваім ад цябе знікаю:
бы вільгаць цела твайго забіраю.
Іду ад цябе бяссоннем і снамі,
ўспаміну мяне ўспамінаць не раю.
І памяці даўняй тваёй раблюся
нічым і нікім у ніякім краі.

Далоняў тваіх быць крывёй хацела,
крывёй тваіх вуснаў у злой пяшчоце.

Нутром тваім быць і згарэць хацела
у кроках тваіх, што не ўчуць мне у цноце,
і палам тваім, што стагнаў уночы
шаленствам мораў усіх у самоце!

Усё ў адыходзе, ў расстанні, ў адлёце!

*З Сэсара Вальехі*

## АЛЕБАСТР

Наўкола цішыня. Тут уначэла,
спакойна села сонца за кладамі,
і ўжо расце тут плач тысячавокі:
ты не вяртайся, сэрца знікла снамі.
Апранутае ўсё тут у жалобу
і ледзь гарыць, ледзь хліпае глыткамі,
як газ благі, як пал, што тушым самі.

Вясна надыдзе. Заспяваем «Еву»
з пляскатай хвілі, з печы, дзе нявінна
згараць і нарды Эраса, тваё там
загартавацца пакаянне вінна
перад паэтам, каб зрабіцца болем,
як цвік, што зачыняе дамавіну!

Ды... ў ноч лірычную твае аднойчы
і мора ўсё чырвонае, і грудзі
трымценне пройме хваляў-пятнастовак,
калі пабачым, як у перапудзе,
пірацкі карабель маёй няўдзякі.

А потым — яблыневы сад твой будзе
і вусны, дзе апошні раз упіўся,
мілосцю скрывянеюцца ў аблудзе,
Хрыста пакуты ўспомняць па-паганску.

І затрымціць жаноцкасцю, як скруха,
каханая ў душы маёй світальнай,
нібы у саборы кафедральным, глуха.

## ПАГАНСКАЕ

І спяваць перад сконам. І жагнаць цень жадана
вавілонскай крывёю з гладыятарскіх жылаў,
клінапіс падпісаўшы залатога дывана
тым пяром салаўіным, сінім болем чарніла.

А жыццё? Здрада самкі. Напалоханым крокам
уцякае, спусціўшы вэлюм ілжэ-Юдзіфі,
убачыць здраду праз рану й схапіць яе зрокам
і васковым капрызам на рубінавым міфе.

Алафэрнам[1] без войска і віном Вавілона
я гняздо звіў на дрэве хрысціянскім нясмела,
ды лаза ратавання адвярнулася сонна,
і Юдзіф сцяла жорстка небалюбае цела.

Як на свеце паганскім, смерць жыццё пакахала,
засяваючы жылы чырванню зла і жалю,
пылам стаць гэтак, быццам заваёўнік няўдалы,
пакідаючы вочы на крывавым кінжале.

## ДАВЕДКА

Нарадзіўся я ў гуморы,
Бог якраз тады быў хворы.

Лёс мяне не выцяў пасам.
Ды тады скрануўся лежань —
перайшоў у студзень снежань.
Нарадзіўся самапасам,
Бог якраз хварэў тым часам.

У метафізічным штосьці
подыху маім пустое,
аніхто не ўчуе тое,
гэта келля немай госці,
што агонь узнесла ў тосце.

Слухай жа, паслухай, браце...

Не паддамся на ўгаворы,
снежні не знясу з сабою,

ўбраўшы студзені журбою.
Нарадзіўся ж я ў гуморы,
Бог якраз тады быў хворы.

Ведаюць, што я не ў горы,
ўсе... Ды мой не чуюць смутак,
у радках рыпяць чаму так
горкім змрокам дамавіны,
пругкія вятры з даліны,
што чамукала пустэльні
развінае Сфінкс пякельны.

І не ведаюць ляныя,
што святло сухоты ўела,
а Цямрэча растаўсцела,
што Містэрыя не ные,
што яна — той горб, якому
ад мяжы да Межаў стому
крокі аддаюць зямныя.
Нарадзіўся ўдзень без зморы,
Бог якраз тады быў хворы,
і цяжка.

## ЧОРНЫ КУБАК

Ноч, быццам кубак злосці. І аглушальны посвіст
гвардзейца працінае яе, як шпілька злая.
Як гэта, чуеш, краля, хоць ты даўно ўжо знікла,
яшчэ чарнее хваля і ў ёй яшчэ згараю?

Зямля з краямі ў цемры, як тая дамавіна.
Ты гэта чуеш, краля, вяртацца не павінна.

А плоць мая лунае, лунае ў кубку змроку,
у кубку, ад якога мацнее боль няспынны;
і плоць у ім лунае, нібы яе глынае
балоцістае сэрца жанчыны.

Вуголле зорнае... І я адчуў знянацку
засмяглы дотык гліны,
што ўпасці пажадала на мой празрысты лотас.

Ён з-за цябе трывае глухі інстынкт зачыну,
інстынкт з абліччам плоці. О жанчына!

Таму, о чорны кубак, як знік ты без прычыны,
я патанаю ў пыле і плоць мая вар’яткай
б’е капытамі люта ад смагі і правіны!

## БЕЛАЯ РУЖА

Я адчуваю сябе нязмушана,
таму што
ўва мне стаічны лёд няроўна
паблісквае і смеху вартая вяроўка
рубінавая вельмі
рыпіць мне ў целе.

Вяроўка канца не мае
накшталт завітушкі, якая
нат не нагадвае штосьці,
што сыходзіць ад злосці...

Вяроўка, ляўшунка крывая,
якая трывае
тысячу джалаў
кінжалаў.
Хай гэтак ступае слепа,
матаючы маткі крэпу,
хай звяжа з размаху кошку жаху,
што трасецца ўпершыню
да ледзяного гнязда
да апошняга агню.

Гэтак ніколі не было
добра мне —
святло ўва мне.
У маім Ціхім акіяне яўкае
дамавіна,
што пацярпела крушэнне яўнае.

*З Федэрыка Гарсія Лоркі*

## ПОЎНЯ ЎЗЫХОДЗІЦЬ

Як узыходзіць поўня,
трацяць званы развагу,
сцелюцца патаемна
сцежкі без выйсця з размаху.

Як узыходзіць поўня,
мора зямлю бянтэжыць,
і адчуваецца сэрца
востравам у бязмежжы.

Браць апельсіны нельга
ноччу круглявай поўні,
есці зялёныя можна
толькі плады лядоўні.

Калі ў сто аблiччаў поўня
ціха ўзыходзіць над светам,
звонка ў кішэні рыдаюць
сярэбраныя манеты.

## ГАРЭЗЛІВАЯ ПЕСНЯ

Мама,
хачу быць са срэбра.

Сыне,
срэбра стыне.

Мама,
хачу быць з вады.

Сыне,
вадзе сцюдзёна ў даліне.

Мама,
на падушцы тваёй вышый мяне.

Зараз.
Чаму ж не.

## ПРЭЛЮДЫЯ

Таполі ў блакіт ідуць,
ды шлях свой сабою свецяць.

Таполі ў блакіт ідуць,
ды нам пакідаюць вецер.

У саване вецер ляжыць
і марыць аб небе і леце.

Ды вецер нам рэха аддаў,
што будзіць раку на дасвецці.

І памяць ма́е мая
святло светлячкоў на прыкмеце.

І, кволае, на далані
ўзыходзіць сэрца ў суквецці.

## НЯВЕРНАЯ ЖОНКА

*Лідзіі Кабрэра*
*і яе негрыцяначцы*

Паціху ішлі да рэчкі.
Здзівіўся, але не дужа:
думаў, вяду дзяўчыну,
а звёў я жонку ад мужа.

Было гэта ноччу Сант’яга.
Сваё загадалі далі —
ураз ліхтары пагаслі
і светлякі замільгалі.
На ўскраіне, быццам міжволі,
я грудзі крануў нявінна, —
яны расцвілі спрасонку,
як белы букет язміну.

Крухмал яе звонкай спаднічкі
мне вушы глушыў без жалю,
нібы небасхіл шаўковы
у сто нажоў разразалі.
А неба забралі дрэвы —
нідзе не відно прагалін.
І далягляду сабакі
далёка за рэчкай брахалі.

Калі размінуўся з чаротам,
з кустоўем, з калючай ажынай —
даверыў шаптацца косам
з мокрым пяском за сцяжынай.
Я гальштук распетліў нервова —
зняла яна ўборы памалу.
Рамень з рэвальверам адкінуў —
чатыры карсажы здымала...
Нарцыс ці жамчуг параўнацца
з целам яе не можа.
І шыбы пад промнямі поўні
так не блішчаць прыгожа.
Біліся ногі, як рыбіны,
што трапілі ў сеткі густыя, —
то спёкай блакітна гарэлі,
то месяцам белым стылі...
На самай гарачай кабыле
той ноччу я ехаў конна.
На самай лепшай дарозе
навошта аброць і страмёны?

Не выдам, бо я мужчына,
таго, што яна сказала,
розум мяне прымушае
паводзіць і сціпла, і стала.
На золку ў пяску, ў пацалунках
ад рэчкі адвёў яе я.
З паветрам на ўпартай дуэлі
скрыжоўвалі шпагі лілеі.

Я мужна, цыган фартовы,
трымаўся і чуўся, вядома,
калі падарыў ёй для швіва
кошык ярчэй ад саломы.

І не схацеў закахацца,
на гэта свая прычына:
ад мужа ўцякла да рэчкі,
а мне сказала: дзяўчына...

## ГАЗЕЛА ПРА ЧАРАДЗЕЙНАЕ КАХАННЕ

Сярод алебастру
лугоў змяіных
ты была асакой кахання, вільготным язмінам.

Сярод ветру паўднёвага і агню
нябёсаў заклятых
у грудзях маіх шэптам снегу была ты.

Нябёсы й лугі
закавалі рукі мае ў ланцугі.

Нябёсы, нябёсы,
паранілі цела маё
Вашага гневу восы.

## КАЛІ Б ВАРАЖЫЦЬ МОГ...

Імя тваё
ў цёмныя ночы гукаю,
калі зоры ідуць
з поўнай поўні напіцца,
спіць лістота густая,
у лістоце галінам спіцца.
І адчуваю — я ўвесь з пустэчы,
а не з музыкі й страсці,
і, быццам
звар’яцелы гадзіннік шчасця,
буджу мінуўшчыну недарэчы.

Гукаю імя тваё
ў гэтую цемнач —
дарэмна!
Далёка гучыць

імя тваё як ніколі,
далей за ўсе зоры
ў касмічнай золі,
шчымлівей за ціхі лівень.

Ці калі-небудзь змагу,
як тады, пакахаць цябе і тваю тугу?
Якой віной
наклікала сэрца бяду?
Калі туман развіднее,
ці страсць другую знайду?
Можа, чыстую, без трывог,
што мяне ўсяго перапоўніць?
Калі б варажыць мог
на пялёстках поўні...

## ГІТАРА

Пачынае плакаць гітара —
гарлачом свішча ранак гартанны.
Пачынае плакаць гітара:
супыніць яе — марная мара.
Хто яе замаўчаць прымусіць?
Плача ў стоме,
ў роспачнай скрусе.
Як вада, задуменна плача,
як вятрыска над снегам гарачы.
Ці ж маўчаць яе змусіць няўдача?
Так пясок у пустэльні плача,
смягла трызніць камеліяй белай.
Без пагоні так плачуць стрэлы,
вечар плача, без рання патухшы,
плача дрэва па мёртвай птушцы.
О гітара! Сэрца, адвага!
Ныеш ранаю пяцішпагай!..

## ЛЯМАНТ

На вежы
жоўтай
канае звон.

На ветры
жоўтым
водзван чуцён.

У вянку
звялі краскі,
сцежкай чорнай
ступае
смерць,
на ласкі
скупая.
Песню
пяе і пяе
гітара беларэбрая
у яе,
пяе, і пяе, і пяе.

Вецер страсае срэбра
з кожнай пылінкі тае.

# *З Нікаласа Гільена*

## МАДРЫГАЛ

З рук тваіх ка́паюць
ногці дзесяццю цёмна-ліловымі вінаградзінамі.

Скура твая, —
плоць дрэва, агнём украдзенага, —
церпіць крушэнне ў затоках люстэрка,
і смуглеюць у ягоных глыбінях
водарасці даверлівыя.

## СЕНСЕМАЙЯ
*Песня-заклён гадзюкі*

Майо́мбэ — бо́мбэ — майомбэ́![1]
Майомбэ — бомбэ — майомбэ!
Майомбэ — бомбэ — майомбэ!

Гадзюка мае вочы шкляныя;
гадзюка сук абаўе і абные;
вочы шкляныя, сук абаўе і абные,
злюка мае вочы шкляныя.

Гадзюка ходзіць без ног рухава;
гадзюка хаваецца ў травы;
вывіваецца, шыецца ў травы,
ходзіць без ног рухава.

Майомбэ — бомбэ — майомбэ!
Майомбэ — бомбэ — майомбэ!
Майомбэ — бомбэ — майомбэ!

Сякерай бі — і сканае! Без жалю
бі яшчэ!
Але нагою не бі, бо ўджаліць,
але нагою не бі — ўцячэ!

Сенсемайя, гадзюка,
сенсемайя.
Сенсемайя, з вачыма,
сенсемайя.

Сенсемайя, з языком,
сенсемайя.
Сенсемайя, з зубамі,
сенсемайя.

Гадзюка мёртвая не можа жэрці,
гадзюка не можа сіпець пасля смерці,
не можа ўцякаць,
не можа кусаць.
Гадзюка мёртвая бачыць не можа,
гадзюка мёртвая піць не можа,
не можа дыхаць,
не можа джаліць.

Майомбэ — бомбэ — майомбэ!
Сенсемайя, гадзюка...
Майомбэ — бомбэ — майомбэ!
Сенсемайя, не варухнецца...
Майомбэ — бомбэ — майомбэ!
Сенсемайя, гадзюка...
Майомбэ — бомбэ — майомбэ!
Сенсемайя, сканала!

## *З Оярса Ваціецiса*

* * *

Ідзі, сляпы,
я перавяду цябе цераз вуліцу.

Машыны, пэўна, разбегаліся.
Дворнікі, пэўна, разленаваліся.
Асфальт да д’яблікаў слізкі.

Ах, як хлушу я!

Гэта ж мне неабходна
тая малая ўцеха —
сляпога перавёў цераз вуліцу.

Ах, як хлушу я!

Я ж і сам
за гэтым сляпым наважыўся,
я ж і сам і не цямлю,
куды падамся.

Мне павадыр патрэбен.
Найлепей за ўсё сляпы.
Сляпыя ніколі не выйдуць
швэндацца проста так.

## *З Імантса Зіеданіса*

* * *

Як вялізныя падсвечнікі, дубы
У згалелыя і восені, і вёсны,
Як латгальскія падсвечнікі, дубы.
Поўня лье спаўна ў галлё агонь дзівосны.
Поўня зябкая, далёкі зорны жар,
Вам падсвечнікаў ані вядомы мукі,
Як апоўначы ў счарнелай цішыні
Просяць свечак здзервянелыя іх рукі.
А над імі вечнасць белая цячэ,
Ручаі раку шукаюць Шляхам Млечным.
Як вялізныя падсвечнікі, дубы
Ціха сталі і сваіх чакаюць свечак.

### ПЕРАЛЁТНЫ КАМЕНЬ

Мы выдзерам гэты склеп з зямлі
і ў паветра ўздымем хаткай для птушак.
Ці возьмем гэты нябесна-блакітны дым
і ператворым у торф зямліста-руды
ці ў журавіны? Хто будзе супраць?

Не вечны камень і не заўсёдны.
Сам бачыў, што камень на вежу ўздзіраецца,
і ўе гняздо паміж чорных галак,
і выседжвае каменьчыкі шэранькія.
Пасля яны вучацца лётаць. Што тут дзіўнага,
калі бачым на небе пералётныя камяні?

О вясна зялёная, як зялёная мірта,
і, прыйшоўшы толькі што з выраю,
ля шпакоўні, што на бярозе,
пералётны камень пяе.

Пра крылы свае, пра шчаслівыя крылы.

## *З Івана Драча*

### БАЛАДА ЗАЛАТОЙ ЦЫБУЛІ

Звычайная цыбуліна — світанне галодных.
*Пабла Нэруда*

Яна — багіня залаташчокая рынкаў прадажных —
Маятнікам пагойдваецца ў гроне вянка,
Абняўшы за шыю гарбатую цётку Гарпіну.
Яна — німфа, ўплеценая ў звялыя косы сяброўак.
Мільёнамі ласых вачэй абмацаная,
Прагне пазбыцца сваёй залацістай цноты!
Яна — маленькая макаўка падземных цэркавак —
Дрыжыць за сваю залатую душу набожную
Перад паганскай прагнасцю тупога нажа!
Пачырваней, працягваючы за яе золата смецце сваіх медзякоў!
Яна ўжо чуе, як млеюць яе залатыя грудзі
У прадчуванні абдымкаў газавых жыгуна Агню.
Яна — каралева красы сельскіх світальных базараў —
Прыціхла сядзіць на гаўптвахце салдацкай кішэні,
Нявінная залатая фея жорсткага Апетыту.
Яна — родная сястра чэрствага жытняга Хлеба
І сястрычка-блізнючка белажупаннага Часныку.
Яна — залатая граната ў ляпе студэнцкага голаду,
Суперніца лютая разваранай рохлі Бульбы,
Сяброўка верная кухоннай сарамяжніцы Солі,
Малая Жанна д'Арк на ўсіх англасаксаў-мікробаў.
Яна — Лаура пяшчотная нейкага кірпатага Пятра Петраркі
З кіеўскага тэхнічнага вучылішча на Падоле,
Захаваная ў цяпліцы ягонага самаробнага чамадана,
Ці яна — забытая, занядбаная Цыбуліна Папялушка,
Што безыменна сатлее ў страўніку нейкага бонзы,
Яна, залацюсенька-залатая, не ведае, як ёй наканавана
памерці.
Ці пашчасціць ёй легчы святымі белымі німбамі
На неразгаданую таямніцу пшанічнай скібкі,
Ці яна мусіць круціць хула-хуп перад крывавым Шашлыком
Пяшчотна-шызымі сакаўнымі колцамі-абручамі
На срэбным целе грузінскага князя Шампура...

Пачынаецца залатая агонія стрыптызу перадсмяротнага:
Яна скідае сваё залацістае футрачка,
Яна скідае свой залацісты ільсняны свэдар,
Яна скідае сваю залацістную далікатную сукню,
Яна скідае сваю залацістую кашульку-лушпінку
І, галютка-белая, плача над згвалтаванай цнотай.
Яна — залатая Цыбулінка з мамінага гарода,
Яна — залатая Вясталка з хорама Таямніцы Быцця,
Сціснутая ў залаты кулачок з перапуду...

## *З Зелімхі Яндарбі*

* * *

Арлу, што крылом варухнуць не можа,
Ніхто, апроч смерці, не дапаможа.
Як голас згубіцца ў пеюна,
Апошняя лопне ў пандура струна.
Ты было б міласэрнае самае,
Каб хоць не падавала яму хлеба кусанік
У забыццё,
О, жыццё...

* * *

Вечаровае сонца ў крыві валяецца на небакраі,
Ветрык восеньскі холадам душу ахінае,

І зоркі, што загараюцца, каб пагрэць наваколле,
Дрыжаць, да касцей працятыя золлю.

Ноч кладзецца ў расу настылую без вагання,
Каб падрамаць сном трывожным хоць да світання.

І лямпы ў вокнах азяблых гараць сцюдзёна,
І поўня губляе святло настылае сонна.

Зябка думкам, холад на сэрцы такі, што здаецца,
І спаліўшы ўвесь гэты свет, нікому ўжо не сагрэцца.

* * *

— Камень ляжыць!
— Ат, ніжэй не ўпадзе.
— Чалавек ляжыць!
— Ат, ніхто не ўкрадзе.
— Сэрца ляжыць!!!
— Ат, хай не спачувае бядзе.
— Рубель ляжыць.
— Дзе?!!

* * *

На тое Звышнім даецца Радзіма,
Каб ведала сэрца,
Дзе біцца павінна.
Радзіму забыць
Ці набыць немагчыма.
Радзіма —
Дрэва Сусвету галіна,
На якой сваю песню гушкае
Любоў небакрылай птушкаю.

# КАМЕНТАР

У аднатомавік народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна ўвайшлі творы, напісаныя на працягу пяцідзесяці пяці гадоў — з 1952 па 2007 год: вершы, паэмы, літаратурныя артыкулы і эсэ, мемуарная проза і пераклады. Асноўнымі тэксталагічнымі крыніцамі пры яго складанні паслужылі Выбраныя творы ў 2 тамах (1984), Збор твораў у 4 тамах (1996–2002), а таксама кніга «Трэба дома бываць часцей…» (1993). Вершы, не названыя ў каментары, таксама друкуюцца паводле гэтых выданняў. Другія крыніцы пазначаюцца ў кожным выпадку асобна.

Змест і кампазіцыя кнігі ўзгодненыя з аўтарам.

## ВЕРШЫ

*Першы снег («У абшары навакольным...») (с. 11)*

Друкуецца паводле час. «Дзеяслоў», 2005, № 14, с. 5, дзе апублікаваны ўпершыню.

*Пастух (с. 12)*

Упершыню — газ. «Чырвоная змена», 17 сакавіка 1954 г.

*«Як захлынуўся ад радасці жаўранак...» (с. 14)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1958, № 3, с. 7.

*Бацьку (с. 15)*

Упершыню — газ. «Віцебскі рабочы», 26 красавіка 1958 г.

*«У верасня — свой, асаблівы пах...» (с. 17)*

Упершыню — час. «Полымя», 1959, № 7, с. 42.

*Трэба дома бываць часцей (с. 18)*

Упершыню — час. «Полымя», 1961, № 4, с. 41.

*Паляць бульбоўнік (с. 21)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1961, № 10, с. 17.

*Памытая падлога (с. 22)*

Упершыню — час. «Полымя», 1961, № 10, с. 102.

*«Драч крычыць у сырым тумане...» (с. 22)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1962, № 10, с. 17.

*«На Беларусі пчолы, як гусі...» (с. 24)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1963, № 12, с. 7.

*Прашковіч* Мікола (1932–1983) — літаратуразнавец, даследчык старажытнай літаратуры; аўтар кнігі «Францішак Скарына — беларускі першадрукар» (1970).

*Лодкі (с. 25)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1963, № 6, с. 3.

*Мая мова (с. 26)*

Упершыню — газ. «Чырвоная змена», 13 студзеня 1963 г.

*«Яшчэ гетэры старажытнай Грэцыі...» (с. 27)*

Упершыню — час. «Полымя», 1963, № 1, с. 9.

*Дзятлінка (с. 28)*

Упершыню — час. «Полымя», 1964, № 8, с. 99.

*Ішла над ціхім лесам поўня... (с. 29)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1966, № 5, с. 12.

*Кашуля Паўлюка Труса (с. 29)*

Упершыню — час. «Полымя», 1964, № 8, с. 99.
*Трус* Паўлюк (1904–1929) — беларускі паэт.

*Адам і Ева (с. 30)*

Упершыню — час. «Полымя», 1966, № 8, с. 3.

*«Ад «не трэба, не трэба»...» (с. 34)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1966, № 5, с. 12.

*«Калі б усе вятры Беларусі...» (с. 35)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 6 студзеня 1967 г.

*Вушацкі прызімак (с. 35)*

Упершыню — час. «Полымя», 1966, № 8, с. 3.

*«Чаканы міг спакою...» (с. 36)*

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 3, с. 74.

*«Ад сівых гадоў, ад дзядоў...» (с. 38)*

Упершыню — газ. «Знамя юности», 3 студзеня 1969 г.

*«Аплакалі вырай совы...» (с. 39)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 3 красавіка 1970 г.

*«Радзіма, цябе не зламалі навалы...» (с. 39)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1970, № 1, с. 4.

*«Я загнаў цягнікі...» (с. 41)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1971, № 1, с. 9.

*Лета (с. 43)*

Упершыню — газ. «Знамя юности», 8 траўня 1974 г.

*Адаму Міцкевічу (с. 44)*

Упершыню — час. «Полымя», 1973, № 12, с. 61.

*«У зажураным садзе п'юць сінічкі гарбату...» (с. 44)*

Упершыню — час. «Полымя», 1974, № 11, с. 67.

*«Тут яўна быў бы трэці лішні...» (с. 45)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Свята пчалы, с. 332.

У кнізе «Трэба дома бываць часцей» (с. 107) верш апублікаваны без першых двух радкоў.

*«Нам перадаць імкнецца час...» (с. 45)*

Упершыню — час. «Полымя», 1976, № 12, с. 38.

*«Няма народаў малых...» (с. 46)*

Упершыню — час. «Полымя», 1974, № 11, с. 67.

*Куліеў* Кайсын Шуваевіч (1917–1985) — балкарскі паэт.

*«Я некалі свет з прысветкам...» (с. 47)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1977, № 7, с. 8.

*«Ластаўка — хата матчына...» (с. 47)*

Упершыню — газ. «Знамя юности», 24 сакавіка 1976 г.

*Папрасіліся ліўні ў верш (с. 48)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 3 чэрвеня 1977 г.

*«Што параю-выраю?..» (с. 49)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 28 лістапада 1975 г.

*«Я стану, як стэп, салёны...» (с. 49)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1976, № 10, с. 132.

*«Мы на агонь глядзім...» (с. 50)*

Упершыню — «Дзень паэзіі-78», Мн., Мастацкая літаратура», 1978, с. 17.

*Быкаў* Васіль (1924–2003) — беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1980).

*Белая яблыня грому (с. 50)*

Упершыню — час. «Полымя», 1977, № 11, с. 7.

*«Быў год, яшчэ з вайны галодны...» (с. 51)*

Упершыню — «Дзень паэзіі-79», Мн., Мастацкая літаратура, 1979, с. 19.

*Някляеў* Уладзімір (нар. 1946) — беларускі паэт, празаік і грамадскі дзеяч.

*Святло (с. 52)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Белая яблыня грому. Мн., Мастацкая літаратура, 1979, с. 166.

У кнізе выбраных твораў «Трэба дома бываць часцей» (1993) у дадзеным вершы адсутнічаюць 6 і 7 радкі.

*Туман ярам... (с. 52)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1978, № 8, с. 124.

*«Пад высветленымі дубамі...» (с. 53)*

Упершыню — «Дзень паэзіі-79». Мн., Мастацкая літаратура, 1979, с. 20.

*Яшчэ адно прызнанне Палессю (с. 54)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1978, № 8, с. 129.

[1] *Янішчыц* Яўгенія (1948–1988) — беларуская паэтка.

*«Матчына песня, ты ў полі гарбела...» (с. 55)*

Упершыню — час. «Полымя», 1980, № 12, с. 9.

*Міколу Гусоўскаму (с. 58)*

Упершыню — газ. «Голас Радзімы», 26 снежня 1980 г.

*Гусоўскі* Мікола (70–80-я гады XV ст. — пасля 1533) — паэт навалацінскай школы, аўтар паэмы «Песня пра зубра».

*Вогнепаклонніца (с. 58)*

Упершыню — час. «Полымя», 1980, № 12, с. 9.

*«Мне дома цяжка заснуць...» (с. 59)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1982, № 2, с. 4.

### *Трыпціх («Трохкутнік выраю высока...») (с. 60)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 30 ліпеня 1982 г.

### *Пах забытай раніцы (с. 61)*

Упершыню — «Дзень паэзіі-82», с. 14.

### *Баравіна (с. 61)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Амплітуда смеласці. Мн., Мастацкая літаратура, 1983, с. 75.

*Свірка* Юрась (1933–2004) — беларускі паэт.

### *«Не ведаючы тэорыі вольных вершаў...» (с. 63)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1983, № 1, с. 76.

### *З вайны (с. 63)*

Упершыню — час. «Полымя», 1985, № 1, с. 3.

### *Толькі адно (с. 64)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 10 снежня 1982 г.

У «ЛіМе» і зборніку «Амплітуда смеласці» (1983) верш друкаваўся пад загалоўкам «Чэхаславакія, 1939» з эпіграфам з М. Цвятаевай: «Но покамест во рту слюна — вся страна вооружена!»

### *Цень Катула (с. 64)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Выбраныя творы: У 2 т. Мн., Мастацкая літаратура, 1984, т. 2, с. 324.

*Катул* Гай Валерый (каля 87 — каля 54 да Н. Х.) — рымскі паэт.

[1] *Сірміён* — паўвыспа на Бенакскім возеры (сучасная назва — возера Гарда), дзе знаходзіўся дом Катула.

### *Ліст у Зялёную Дуброву (с. 67)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1985, № 1, с. 27.

*Цвірка* Кастусь (нар. 1934) — беларускі паэт, перакладчык, выдавец, даследчык польскамоўнай літаратуры Беларусі XIX ст.

### *Партрэт Уладзіміра Караткевіча ў унтах з двума сабакамі (с. 68)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1984, № 2, с. 5.

[1] *Сняжко* Муза (нар. 1931) — аднакурсніца У. Караткевіча па Кіеўскім універсітэце. Працавала бібліятэкарам Нацыянальнай парламенцкай бібліятэкі Украіны.

### *Веды (с. 69)*

Упершыню — час. «Полымя», 1985, № 1, с. 9.

*Маўчанне перуна (с. 72)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1985, № 7, с. 4.

*Панчанка* Пімен (1917–1995) — беларускі паэт і грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі (1973).

*«А самых самотных на свеце двое...» (с. 73)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 3 студзеня 1986 г.

*Адвечная тэма (с. 74)*

Упершыню — час. «Полымя», 1987, № 2, с. 13.

*Лёс (с. 75)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1989, № 4, с. 6.

*Першы снег («Першы снег дырэктару школы...») (с. 76)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Самота паломніцтва. Мн., Мастацкая літаратура, 1990, с. 122.

*Верамейчык* Уладзімір (1937–1999) — беларускі паэт; працаваў дырэктарам Ведрыцкай СШ Рэчыцкага р-на.

*Марк Шагал (с. 77)*

Упершыню — час. «Полымя», 1988, № 3, с. 16.

*Шагал* Марк (1887–1985) — беларускі і французскі мастак; нарадзіўся ў Віцебску.

*«Я выцісну цябе з сябе...» (с. 81)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1989, № 4, с. 6.

*Што ёсць каханне? (с. 81)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1988, № 1, с. 3.

*Чаму? (с. 82)*

Упершыню — час. «Полымя», 1988, № 3, с. 16.

[1] *Warum* — чаму (*ням.*).

*Уцякач (с. 83)*

Упершыню — час. «Полымя», 1990, № 1, с. 3.

*Вяртанне «Пана Тадэвуша» (с. 84)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Самота паломніцтва, с. 32.

[1] *Тарашкевіч* Браніслаў (1892–1938) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец і перакладчык.

[2] *Бітэль* Пятро (1912–1991) — беларускі паэт, перакладчык, праваслаўны святар. У 1950 г. быў беспадстаўна арыштаваны і асуджаны да 10 гадоў няволі. Знаходзячыся ў лагеры (1950–1956), пераклаў паэму А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

### *Малітва наступнасці (с. 86)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1989, № 4, с. 6.

### *«Лёс да кожнага прыходзіць босы...» (с. 87)*

Упершыню — час. «Полымя», 1991, № 8, с. 3.

### *«Певень першы раз прапяяў...» (с. 88)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2 сакавіка 1990 г.

### *Брытва (с. 90)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2 сакавіка 1990 г.

### *Бульбяная балада (с. 91)*

Упершыню — час. «Полымя», 1990, № 1, с. 3.

*Шклярэўскі* Ігар (нар. 1938) — расійскі паэт; нарадзіўся ў мястэчку Бялынічы на Магілёўшчыне.

### *Беларусь на крыжы (с. 93)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2 сакавіка 1990 г.

### *А што я пажадаць маю? (с. 95)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Міласэрнасць плахі. Мн, Мастацкая літаратура, 1992, с. 204.

### *Лявон Баразна (с. 97)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1991, № 1, с. 36.

*Баразна* Лявон (1929–1972) — беларускі мастак, даследчык народных строяў.

### *Яблыня (с. 98)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1991, № 1, с. 36.

*Навумчык* Сяргей (нар. 1961) — журналіст, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі (1990–1995), намеснік старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (з 1997 г.).

### *Mea culpa (с. 99)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Міласэрнасць плахі, с. 64.

[1] *Mea culpa, mea culpa, mea maxima culpa* — Мая віна, мая віна, мая вялікая віна (лац.).

### *Варажу на Вялікай кітайскай сцяне (с. 99)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Міласэрнасць плахі, с. 200.

### *«Сухотныя крыгі...» (с. 100)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 30 жніўня 1991 г.

*Дваццаць пятага Сакавіка (с. 101)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 22 сакавіка 1991 г.

*Як трываеш? (с. 101)*

Упершыню — час. «Полымя», 1994, № 1, с. 114.

*«Мамы не стала — не стала радзімы...» (с. 102)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1992, № 2, с. 4.

*Слухаючы мора (с. 103)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1992, № 2, с. 4.

*Дранько-Майсюк* Леанід (нар. 1957) — беларускі паэт, празаік і перакладчык.

*Здаецца... (с. 105)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Міласэрнасць плахі, с. 33.

*«Чалавек, як і дрэва...» (с. 106)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 3 красавіка 1992 г.

*Парыжскае пахмелле (с. 106)*

Упершыню — час. «Полымя», 1993, № 1, с. 86.

[1] *Апалінэр* Гіём (1880–1918) — французскі паэт; паходзіў з беларускага роду Кастравіцкіх.

*Дык як? (с. 107)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 31 ліпеня 1992 г.

*Я — арыец (с. 107)*

Упершыню — час. «Полымя», 1992, № 7, с. 93.

*«Як матылёк свой кокан цёмны...» (с. 108)*

Упершыню — час. «Полымя», 1993, № 1, с. 86.

*Рыгор Бярозкін (с. 109)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 3 красавіка 1992 г.

*Бярозкін* Рыгор (1918–1981) — беларускі крытык.

*Да беларусаў свету (с. 110)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 18 снежня 1992 г.

*«Язэп Драздовіч — павятовы Мікеланджэла...» (с. 111)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 13 жніўня 1993 г.

[1] *Драздовіч* Язэп (1888–1954) — беларускі мастак і пісьменнік.

### *Серп і кій (с. 112)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1994, № 2, с. 3.

### *Над возерам ля Глыбачкі (с. 112)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Евангелле ад Мамы. Мн, Мастацкая літаратура, 1995, с. 237.

*Законнікаў* Сяргей (нар. 1946) — беларускі паэт, перакладчык і публіцыст.

### *«А свечкі ўсе васковаабавязаныя...» (с. 113)*

Упершыню — час. «Полымя», 1994, № 1, с. 43.

### *Хадакі (с. 114)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 10–16 ліпеня 1993 г.

### *Дарожная граматыка (с. 114)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Евангелле ад Мамы, с. 103.

[1] *Kalt* — холадна (*ням.*).

[2] *Was ist das?* — Што гэта? (*Ням.*)

[3] *Co to est?* — Што гэта? (*Пол.*)

[4] *В чём дело?* — У чым справа? (*Рус.*)

### *«Каля Госпадняй Дамавіны...» (с. 115)*

Упершыню — час. «Полымя», 1994, № 1, с. 43.

### *Ерусалім (с. 116)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Ксты. Мн., Рымска-каталіцкая парафія Святога Сымона і Святой Алены, 2006 (2-е выд.), с. 73.

*Фарфель* Міхаіл — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1990–1994), першы дыпламатычны прадстаўнік нашай краіны ў Ізраілі.

### *Адгалоссе (с. 119)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Евангелле ад Мамы, с. 6.

### *Следам Эклезіяста (с. 120)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Ксты, с. 30.

### *Следам прыпавесцяў Саламонавых (с. 123)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Ксты, с. 44.

### *Следам апостала Паўла (с. 127)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Ксты, с. 56.

### *«Што валун?» (с. 132)*

Упершыню — час. «Полымя», 1995, № 1, с. 22.

### *Bono sensu (с. 132)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Евангелле ад Мамы, с. 328.
*Bono sensu* — У добрым сэнсе (*лац.*).

### *Паштоўка («Праз вякі будзе заўтрам...») (с. 133)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 12 жніўня 1994 г.

### *Скіба волі аржаная (с. 133)*

Упершыню — газ. «Наша слова», 25 траўня 1994 г.

### *Слуцкім паўстанцам (с. 134)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 12 жніўня 1994 г.

[1] *Семежава, Вызна* — паселішчы на Случчыне, дзе адбываліся ўзброеныя сутычкі слуцкіх паўстанцаў з бальшавіцкімі вайсковымі фармаваннямі.

[2] *«Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»* — радок з песні У. Тэраўскага на словы М. Краўцова.

### *Беларусам у выраі (с. 135)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1994, № 412, красавік.

### *Няма кладачкі... (с. 135)*

Упершыню — час. «Полымя», 1995, № 1, с. 22.

### *Каліновец (с. 136)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 12 жніўня 1994 г.

### *На двойчы сёмым небе ў Алега Мацієвіча (с. 137)*

Упершыню — час. «Полымя», 1995, № 1, с. 22.
*Мацієвіч* Алег (нар. 1949) — беларускі мастак.

### *Траецкія Дзяды (с. 137)*

Упершыню — час. «Полымя», 1994, № 7, с. 114.
*Андруковіч* Марыя — журналістка і рэжысёр дакументальнага кіно. Па сцэнарах Р. Барадуліна зняла фільмы «Дзіваносная Дзвіна», «Беларускі менталітэт», «Вушацкае вяселле».

### *«Дзякуй Госпаду за дазвол...» (с. 138)*

Упершыню — час. «Полымя», 1995, № 1, с. 22.

### *Мусіць! (с. 140)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 12 жніўня 1994 г.

### *Хаценне (с. 140)*

Упершыню — час. «Полымя», 1995, № 1, с. 22.

### *Што? (с. 141)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 24 лютага 1995 г.

*Барадуліна* Ілона — дачка паэта. Нарадзілася 18 ліпеня 1962 г. у Горадні. Закончыла беларускае аддзяленне філфака БДУ. Мастачка-авангардыстка.

### *Ярмо (с. 141)*

Упершыню — час. «Полымя», 1996, № 1, с. 3.

### *Рабінавая ноч (с. 142)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1996, № 1, с. 81.

### *Repetitio est mater studiorum (с. 142)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1996, № 1, с. 81.

*Repetitio est mater studiorum* — Паўтарэнне — маці навучання (*лац.*)

### *Белыя слёзы (с. 142)*

Упершыню — час. «Полымя», 1996, № 1, с. 3.

### *Штрыхі да партрэта года (с. 143)*

Упершыню — час. «Роднае слова», 1996, № 1, с. 65.

### *Пачуе самоту... (с. 144)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1997, № 4, с. 47.

*Скобла* Міхась (нар. 1966) — беларускі паэт і даследчык літаратуры.

### *Капліца (с. 144)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1997, № 4, с. 47.

### *Прадай! (с. 145)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Ксты, с. 293.

### *Вылучна беларускі (с. 146)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1996, № 10, с. 5.

*Сітніца* Рыгор (нар. 1958) — беларускі мастак і паэт.

### *Юнак і... (с. 147)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 3 студзеня 1997 г.

### *Пра што думае камень (с. 148)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2 студзеня 1998 г.

### *«Плыве сукрыста дым-пілігрым...» (с. 148)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 18 ліпеня 1997 г.

*Варава (с. 149)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2 студзеня 1989 г.

*Ружанец (с. 149)*

Упершыню — час. «Полымя», 1997, № 11, с. 3.

*«Спіць Даменіка...» (с. 150)*

Упершыню — час. «Полымя», 1997, № 3, с. 3.

*Кліміна-Барадуліна* Даменіка — унучка паэта. Нарадзілася 5 ліпеня 1989 г. у Мінску. Закончыла гуманітарную гімназію з французскім ухілам.

*Хаця б... (с. 150)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2 студзеня 1998 г.

*Каб толькі (с. 151)*

Упершыню — час. «Першацвет», 2000, № 2–3, с. 73.

*Шапран* Сяргей (нар. 1967) — журналіст, даследчык жыцця і творчасці В. Быкава.

*Сальеры (с. 154)*

Упершыню — час. «Полымя», 1998, № 3, с. 16.

*«Усіх пакаранняў не злічаць вякі...» (с. 155)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Лісты ў Хельсінкі. Мн., Беларускі кнігазбор, 2000, с. 30.

*Балада жвіру (с. 156)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1998, № 9, с. 163.

*Будзьма! (с. 157)*

Упершыню — газ. «Звязда», 18 жніўня 1998 г.

*Жаданне (с. 157)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Босая зорка. Мн., Кніга, 2001, с. 60.

*Местачковы эцюд (с. 158)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1998, № 9, с. 163.

*Ісціме... (с. 158)*

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Босая зорка, с. 21.

*Надсан* Аляксандр (нар. 1926) — рэлігійны дзеяч, кіраўнік Беларускай бібліятэкі і музея імя Ф. Скарыны ў Лондане.

